# Гульня шкляных перлаў

Спроба жыццёпісу
Магістра Гульні Ёзэфа Кнэхта
з дадаткам ягоных твораў

Выдадзена
Германам Гесэ

Пераклаў з нямецкай
Васіль Сёмуха

Мінск, «Мастацкая літаратура» 1992

ББК 84.4Ге
Г 43

Пераклад зроблены з выдання:

Das Glasperlenspiel; Versuch einer Lebensbeschreibung des Magister Ludi Josef Knecht samt Knechts hinterlassenen Schriften / Herausgegeben von Hermann Hesse. — Berlin und Weimar: Aufbau-Verlag, 1977. — 614 S.

Лауреат Нобелевской премии Герман Гессе (1877—1962) в романе «Игра в бисер» пытается решить проблему, которая его всегда волновала, — как совместить существование искусства с существованием бесчеловечной цивилизации, как спасти от пагубного влияния так называемой массовой культуры высокий свет художественного творчества.

Г $\frac{4703010100-070}{M\ 302(03)-92}$ 163—91

ISBN 5-340-00754—5 (беларус.)

# ГУЛЬНЯ ШКЛЯНЫХ ПЕРЛАЎ

**Спроба ўсім даступных уводзін у яе гісторыю**



...non entia enim licet quodammodo levibusque hominibus facilius atque incuriosius verbis reddere quam entia, verumtamen pio diligentique rerum scriptori plane aliter res se habet: nihil tantum repuqnat ne verbis illustretur, at nihil adeo necesse est ante hominum oculos proponere ut certas quasdam res, quas esse neque demonstrari neque probari potest, quae contra eo ipso, quod pii diligentesque viri illas quasi ut entia tractant, enti nascendique facultati paululum appropinquant.

*Albertus Secundus*
*tract. de cristall. spirit. ed.*
*Clangor et Collof.*
*lib. I, cap. 28**.

---

*У рукапісным перакладзе Еэфа Кнэхта: ...бо хай і легкадумныя людзі лічаць, быццам няіснае ў пэўным сэнсе лягчэй і безадказней выявіць праз словы, чым існае, аднак для богабаязнага і сумленнага гісторыка ўсё якраз наадварот: нішто так не ўнікае выяўлення праз слова і нішто з такой мусовасцю не вымагае суду людскога, як некаторыя рэчы, існаванне якіх гэтак жа нельга даказаць, як і прыняць за пэўнасць, але якія менавіта таму, што богабаязныя і сумленныя людзі бачаць іх у пэўным сэнсе як бы існымі, хоць на крок набліжаюцца да свайго быцця і да самой магчымасці свайго нараджэння.

*Альберт Другі.*
*Тракт. пра крыштал. дух.*
*Выд. Клангор і Колаф. I,*
*раздз. 28 (лац.)*

Мы маем намер адкрыць людзям у гэтай кнізе тое нямногае, што нам удалося сабраць пра жыццё Ёзэфа Кнэхта, які ў архівах Гульні шкляных перлаў іменаваны як Ludi Magister Josephus III [1]. Мы не можам абысці ўвагай таго факту, што такая наша спроба пэўным чынам супярэчыць альбо здаецца супярэчнай законам і звычаям духоўнага жыцця. Менавіта бо адмаўленне індывідуальнага і па магчымасці больш поўнае залучэнне асобы ў іерархію Выхаваўчай калегіі і навуковага свету — гэта адзін з найвышэйшых прынцыпаў нашай духоўнасці. Прынцып гэты ўгрунтаваўся і зрабіўся сталай традыцыяй так даўно, што сёння ўжо нялёгка, а часам нават зусім немагчыма высветліць біяграфічныя і псіхалагічныя падрабязнасці з жыцця пэўных асоб, якія выключна плённа паслужыліся гэтай іерархіі, — у многіх выпадках не ўдаецца нават выявіць імёны! Але такая ўжо вызначальная рыса духоўнага жыцця нашай Правінцыі, што яе іерархічная арганізацыя вызнае ідэал ананімнасці і даволі блізка падышла да здзяйснення гэтага ідэалу.

Калі ж мы ўсё-такі ўпарта дамагаемся публікацыі сякіх-такіх асобных момантаў з жыцця Магістра Гульні Ёзэфа III, каб хоць збольшага ўзнавіць яго вобраз, рысы яго асобы, дык мы робім гэта зусім не ад непаддатнасці сіле звычаяў, як можа здацца, а наадварот, мы перакананыя, што гэтым самым сябрымся шчырай праўдзе і навуцы. Даўняе правіла вучыць: чым больш дакладна і зацята мы дакляруем тэзіс, тым больш ён вымагае антытэзісу. Мы ўхваляем і шануем ідэю, пакладзеную ў грунт безназоўнасці нашых устаноў і нашага духоўнага жыцця. Але варта толькі краем вока зірнуць на яго папярэднюю гісторыю, асабліва на развіццё Гульні шкляных перлаў, як мы ўвачавідкі пераконваемся, што кожная фаза гэтага развіцця, кожнае адгалінаванне, кожная змена ў Гульні, кожнае істотнае ўварванне ў яе сутнасць — хай прагрэсіўнага, хай кансерватыўнага характару, — хоць і не паказвае нам яўна свайго адзінага і галоўнага натхняльніка, усё ж ярка паўстае перад намі менавіта ў асобе таго, каму выпала быць толькі інструментам зменаў, перабудоў і ўдасканалення.

Праўда, само тое, што мы сёння называем асобай, далёка адышлося ад сэнсу, які ў яго ўкладвалі біёграфы

---

[1] Магістр Гульні Ёзэф III (*лац.*).

і гісторыкі былых часоў. Ім, асабліва аўтарам з тых эпох, калі панавала цікавасць да біяграфій, істотным здаваліся адхіленне асобы ад нормы, анамаліі, непаўторнасць, часта нават паталогія, тым часам як сёння мы ўважаем чалавека за выбітнасць толькі ў тым разе, калі ён здолеў найбольш дасканала выявіць сябе ў агульнасці, найбольш аддана паслужыць звышасабістаму і пры гэтым пазбег усякіх вычудаў арыгінальнічання — што-та я! Калі мы пільней прыгледзімся, убачым, што і старажытнасць ведала такі ідэал: возьмем, напрыклад, хоць бы вобраз «Мудраца» або «Дасканальца» ў старажытным Кітаі або ідэал Сакратавага вучэння пра дабрачыннасць — гэта ж амаль нельга адрозніць ад нашага сённяшняга ідэалу; зрэшты, не адна вялікая духоўная арганізацыя, як, скажам, Рымская царква, у часы свайго росквіту, усталёўвала тыя самыя прынцыпы, і не адзін вялікі персанаж яе гісторыі, як, скажам, святы Фама Аквінскі, паўстае перад намі скульптурай грэчаскай антыкі, бадай, больш класічным прадстаўніком пэўнага тыпу, чым індывідуальнасцю. І ўсё-такі ў часы да рэфармацыі духоўнага жыцця, якая пачалася ў дваццатым стагоддзі і спадкаемцамі якое сталі мы, гэты чысты старажытны ідэал быў амаль зусім страчаны. Мы шчыра здзіўляемся, калі знаходзім у той ці іншай біяграфіі таго часу грунтоўны аповяд пра братоў і сёстраў героя, пра тое, якія душэўныя шнары і насечкі пакінулі ў ім развітанне з дзяцінствам, пераходны ўзрост, барацьба за прызнанне, любоўныя прыгоды. Нас, сённяшніх, цікавіць не паталогія, не сямейныя лініі, не юнацкія гоны, не страваванне або сон героя; нават гісторыя яго духоўнага сталення, яго выхаванне пад уплывам любімых заняткаў і любімых кніг не здаюцца нам такімі ўжо важнымі. Нам толькі той і герой, толькі той нам цікавы, хто праз свае задаткі і выхаванне здольны амаль да канца падначаліць сваю індывідуальнасць іерархічнай функцыі і пры гэтым не страціць сілы, свежасці, дзівоснага імпэту і гарту, якія складаюць дух і сутнасць індывідуума. Калі ж асоба заканфліктуе з іерархіяй, мы разглядаем менавіта гэтыя канфлікты як нейкі пробны камень, на якім правяраецца веліч асобы. Як мала мы ўхваляем мяцежніка, які, падупаўшы афектам і капрызам, парывае з парадкам, так глыбока шануем памяць па ахвярах, па сапраўды трагічным.

Зрэшты, калі ў нас заходзіцца пра сапраўднага героя, з якога варта браць прыклад, дык цікавасць да індывідуальнасці, да імя, да выгляду і руху нам здаецца натуральнай і апраўданай, бо ў самай беспахібнай іерархіі, у самай спраўнай арганізацыі мы бачым не машыну, складзеную з мёртвых і халодных частак, а жывое цела, дзе кожны член, кожны жывы орган сваім існаваннем і сваёй свабодай удзельнічае ў таемнасці жыцця.

Гэтым мы якраз і кіраваліся, калі шукалі звестак пра жыццё Майстра Гульні Ёзэфа Кнэхта, калі дужа дбалі, каб выявіць усё, што ён сам напісаў, і нарэшце нам пашчасціла знайсці некалькі манускрыптаў, якія, як мы сабе думаем, зацікавяць чытачоў.

Члены Ордэна і найперш майстры Гульні, відаць, знаюць усё альбо частку таго, што мы маем паведаміць пра жыццё і асобу Кнэхта, і ўжо нават з гэтай прычыны наша кніга адрасуецца не толькі гэтаму колу, мы ж спадзяёмся знайсці ўдумлівага чытача і па-за яго межамі.

На першае, вузейшае кола кнізе не спатрэбіліся б ні ўводзіны, ні каментарыі. Але як што мы ўзялі на сябе клопат зацікавіць жыццём і працамі нашага героя чытачоў па-за Ордэнам, дык мы маем даволі цяжкую задачу дадаць да кнігі невялікі ўступ, які папулярна ўвядзе тых нямногіх падрыхтаваных чытачоў як у сэнс, так і ў гісторыюГульні шкляных перлаў. Мы падкрэсліваем, што ўступ гэты папулярны, бо ён ні ў якім разе не замахваецца на разгляд тых пытанняў і праблем Гульні і яе гісторыі, спрэчкі вакол якіх не аціхаюць у самім Ордэне. На аб'ектыўнае асвятленне гэтай тэмы яшчэ час не прыспеў.

Дамовімся: дарэмна было б вымагаць ад нас поўнага выкладу ўсёй гісторыі і тэорыі Гульні; такая задача не па сіле нават больш спрактыкаваным і вартым за нас. Рашыць яе дазволім будучым пакаленням, калі толькі да іх часу захаваюцца крыніцы і духоўныя патрэбы. Яшчэ менш наша праца можа служыць падручнікам Гульні — ён увогуле ніколі не будзе напісаны. Правілы гэтай выключнай Гульні засвойваюцца толькі звычайным, статутным спосабам, на што ідуць гады і гады, і нікому з выбраных і дапушчаных не прыйдзе ў галаву спрашчаць або палягчаць працэс іх засваення.

Гэтыя правілы, мова знакаў і граматыка Гульні — не што іншае, як дасканала развіты тайнапіс, укладаюць яго розныя навукі і мастацтва, асабліва матэматыка і музыка (адпаведна і музыказнаўства), гэты тайнапіс можа выявіць і ўзаемна ўвязаць сэнс і вопыт амаль усіх навуковых дысцыплін. Такім чынам, наша Гульня шкляных перлаў — гэта гульня з усімі сэнсамі і каштоўнасцямі нашай культуры, майстар гуляе з імі, пацельваецца, як у эпоху росквіту жывапісу мастак гуляў фарбамі сваёй палітры. Усім, што ў свае творчыя эпохі чалавецтва стварыла ў сферы пазнання, высокіх намыслаў, мастацтва, усім, што стагоддзямі замацоўвалася ў навуковых формулах і стала агульным інтэлектуальным здабыткам, — усім гэтым неверагодна багатым духоўным скарбам майстар Гульні валодае, як арганіст сваім арганам, і арган гэты такі неверагодна дасканалы, што і ўявіць сабе цяжка, яго клавіятура і педалі ўзнаўляюць увесь духоўны космас, яго рэгістры амаль незлічоныя, тэарэтычна на такім інструменце можна рэпрадукаваць усё духоўнае змесціва сусвету. Клавіятура, педалі і рэгістры строга зафіксаваныя, толькі тэарэтычна, бадай што, можна ўдасканаліць іх колькасць і парадак: узбагаціць мову самой Гульні, уносячы ў яе новыя сэнсы, можна толькі пад найстражэйшым кантролем вярхоўнага кіраўніцтва Гульні. У той самы час у рамках гэтага каркасу ці, каб не выйсці з нашага вобраза, у рамках складанай механікі велізарнага аргана майстру адкрываюцца бясконцыя магчымасці і камбінацыі: з тысяч сыграных дакладна па правілах партый нельга вылучыць дзве хоць бы вонкава падобныя. Дапусцім нават, што два майстры выпадкова выбралі зместам сваіх партый адну вузкую тэму, але і тады абедзве будуць рэзка адрозніваца адна ад адной ходам думкі, характарам, настраёвасцю, віртуознасцю выканаўцаў, а ў адпаведнасці з гэтым па-рознаму афарбуецца і сам працэс Гульні.

Зрэшты ж, кожны гісторык можа па сваёй волі адносіць пачатак і папярэднюю гісторыю Гульні ў той час, у які яму хочацца. Як і ва ўсіх вялікіх ідэях, у Гульні па сутнасці няма пачатку, яе ідэя вечная. Як ідэю, як нейкае прадчуванне альбо жаданы ідэал мы знаходзім правобраз Гульні яшчэ ў старажытнасці, напрыклад, у Піфагора, пасля на спадзе антычнай культуры — у гнастычных колах элінізму, не радзей у кітайцаў, пазней —

у перыяды найвышэйшых узлётаў духоўнага жыцця арабска-маўрытанскага свету, а тады ўжо сляды яе передгісторыі вядуць праз схаластыку і гуманізм да матэматычных акадэмій семнаццатага і васемнаццатага стагоддзяў, аж да філосафаў рамантызму і рунаў з магічных крозаў Навaліса. У аснове руху духу да запаветнай мэты — universitas litterarum[1]. У аснове ўсякай платонаўскай акадэміі, усякіх зносін інтэлектуальнай эліты, усякай спробы зблізіць дакладныя і гуманітарныя навукі, замірыць навуку з мастацтвам або навуку з рэлігіяй мы бачым адну і тую самую ідэю, якая набыла канкрэтныя рысы ў Гульні шкляных перлаў. Такія слупы духабачання, як Абеляр, Лейбніц, Гегель, яўна выношвалі мару — увесці духоўны універсум у канцэнтрычныя сістэмы, злучыць жывое хараство духоўнасці і мастацтва з магіяй формул, з лаканізмам дакладных дысцыплін. Калі музыка і матэматыка амаль адначасова перажывалі сваю класічнасць, часта можна было бачыць, як па-сяброўску, зблiжаліся і ўзаемна апладняліся абедзве сферы. А за два стагоддзі да таго ў Мікалая Кузанскага мы знаходзім думкі, народжаныя ў такой самай атмасферы: «Дух засвойвае форму патэнцыяльнасці, каб усё вымераць у статусе патэнцыяльнасці, і форму абсалютнай неабходнасці, каб усё вымераць у статусе адзінства і прастаты, як гэта робіць бог; і форму неабходнай узаемасувязі, каб усё вымераць у духавай самабытнасці, і нарэшце засвойвае форму дэтэрмінаванай патэнцыяльнасці, каб усё вымераць у адносінах да яго, духавага, існавання. Апроч таго, дух вымярае і сімвалічна, праз параўнанне: карыстаючыся лікам, геаметрычнымі фігурамі і спасылаючыся на іх як на падабенствы». Мы перакананыя, што не адна гэтая думка Мікалая Кузанскага перагукаецца з нашай Гульнёй, інакш кажучы, адпавядае блізкаму кірунку фантазіі і вынікае з яго гульнёю думкі; у Кузанскага можна знайсці багата такіх сугуччаў. Яго любоў да матэматыкі, яго ўмеласць, нават парыўчасць, пры вызначэнні багаслоўска-філасофскіх дэфініцый карыстацца фігурамі і аксіёмамі з Эўклідавай геаметрыі як тлумачальнымі падабенствамі, здаюцца нам даволі блізкімі да ментальнага ладу нашай Гульні; часам і яго адмысловая лаціна (вакабулы яе часта ім жа адвольна выдуманыя, і тым

[1] супольнасць, сукупнасць навук (*лац.*).

не меней ніводзін лацініст не мае клопату з разуменнем іх сэнсу) нагадвае вольную пластыку гульнёвай мовы.

З не меншай падставай прабацькам Гульні трэба лічыць Альбертуса Секундуса, пра што сведчыць ужо хоць бы наш эпіграф. Мы лічым таксама, хоць і не можам падмацаваць гэтага цытатамі, што ідэяй Гульні былі апанаваны і тыя вучоныя музыкі шаснаццатага, семнаццатага і васемнаццатага стагоддзяў, якія клалі ў аснову сваіх кампазіцый матэматычныя абстракцыі. У літаратурах мінуўшчыны сюд-туд натыкаешся на легенды пра мудрыя і чарадзейныя гульні, якія ўзнікалі і жылі сярод вучоных манахаў альбо пры двары якога-небудзь духаводнага князя, напрыклад, у форме адмысловых варцабаў — шахматаў, у якіх фігуры і палі мелі апроч звычайных значэнняў яшчэ і іншы, патайны сэнс. Шырокавядомыя і тыя паведамленні, паданні і сагі з дзяцінства ўсіх культур, у якіх музыцы прыпісваюць апрача яе мастацкага ўздзеяння магічную ўладу над душамі людзей і народаў і ператвараюць яе ў тайную законаўклададальніцу або рэгентку людзей і іх дзяржаў. Думка пра ідэальнае, нябеснае жыццё людзей пад гегемоніяй музыкі іграла сваю ролю ад старажытнага Кітая да міфаў грэкаў. З такім культам музыкі («і ў вечных пераўтварэннях вітае нас існа напеву таемная ўлада» — Наваліс) самым цесным чынам звязана і Гульня шкляных перлаў.

Аднак, хоць мы і прызнаём ідэю Гульні вечнай, а гэта азначае, што яна жыла і заявіла пра сябе задоўга да свайго рэальнага здзяйснення, усё ж у вядомай нам форме яна мае сваю пэўную гісторыю, пра самыя важныя этапы якой мы паспрабуем цяпер збольшага расказаць.

Духоўны рух, вынікам якога былі заснаванне Ордэна і Гульня шкляных перлаў, пачаўся ў той гістарычны перыяд, які з часоў фундаментальных прац гісторыка славеснасці Плінія Цыгенхальса носіць уведзенае памянёным славеснікам найменне «фельетаністычная эпоха». Такія назвы вельмі прыгожыя, але і небяспечныя; яны спакушаюць на несправядлівыя ацэнкі мінулых эпох чалавецтва і прымушаюць нас удакладняць: «фельетаністычная эпоха» зусім не была эпохай бездухоўшчыны альбо хоць бы духоўна беднай. І ўсё ж, зноў паводле

Цыгенхальса, эпоха гэтая не ведала, што рабіць са сваёй духоўнасцю, ці, правільней, не ведала, як вызначыць духу вартае месца ў структуры жыцця дзяржавы. Шчыра кажучы, мы кепска ведаем гэтую эпоху, хоць менавіта на яе глебе вырасла ўсё тое, што сёння характарызуе наша духоўнае жыццё. Паводле Цыгенхальса, эпоха гэтая была ў высокай меры «бюргерская», яна заплаціла багатую даніну разгалістаму індывідуалізму, і калі мы прагнем перадаць яе атмасферу і бяром на сябе рызыку, спасылаючыся на Цыгенхальса, прыкінуць некаторыя яе рысы, дык робім гэта з поўнай пэўнасцю, што яны не выдуманыя, не перабольшаныя і не зняважаныя, бо вялікі даследчык пацвярджае іх аўтэнтычнасць мноствам літаратурных і іншых дакументаў. У ацэнцы гэтай эпохі мы сыходзімся з гэтым вучоным, які, дарэчы, быў адзіны, хто сур'ёзна вывучаў фельетаністычную эпоху; пры гэтым мы рупімся не забывацца, што даволі лёгка, але, бадай што, недарэчы і зусім ужо неразумна крывіць губы з памылак і замарачэнняў колішніх часоў.

Пачынаючы ад схілу сярэднявечча, духоўнае жыццё Еўропы выявілася ў дзвюх асноўных тэндэнцыях: вызваленне думкі і веры з-пад уплыву любых аўтарытэтаў, інакш кажучы, барацьба розуму супроць панавання Рымскай царквы, розуму, які ўсвядоміў сябе паўнапраўным і суверэнным, і, з другога боку, патаемная, але тым больш пільная патрэба розуму ва ўзаконенні гэтай яго свабоды, у новым аўтарытэце, які б зыходзіў з яго самога і быў яму адэкватны. Падсумоўваючы, можна смела сказаць: у цэлым дух узяў верх у гэтай часам надзіва супярэчлівай барацьбе ў імя дзвюх прынцыпова палярных мэт. Ці акупіла гэта перамога процьму ахвяр, прынесеных у імя яе, ці дастаткова дасканалы сённяшні парадак духоўнага жыцця, ці доўга ён пратрымаецца, каб апраўдаць усе цярпенні, сутаргі і анамаліі — ад працэсаў супраць ерэтыкоў і публічных аўтадафэ да здзяцінелых, звар'яцелых альбо «руканаложаных геніяў», — займацца такім пытаннем нам не дазволена. Мінулае мінулася: было яно ўдалае ці лепш яго і зусім не было б, прызна́ем мы за ім які-колечы «сэнс» ці не прызнаем, — усё гэта не мае аніякага значэння. Адгрукталі і памянёныя вышэй баталіі за «свабоду» духу; дух цалкам скінуў з сябе апеку царквы, а часткова і дзяржавы і ў канцы «фельетаністычнай эпохі» здабыў

нечуваную і для яго самога нясцерпную свабоду, аднак ён так і не знайшоў сфармуляванага ім самім і паважанага закону, новага аўтарытэту, праўдзівай легітымнасці так і не здабыў. Далібог, дзіву даешся з прыведзеных Цыгенхальсам прыкладаў прадажнасці і самапаганьбення духу ў тыя далёкія часы.

Шчыра кажучы, не можам мы даць адназначнай дэфініцыі таго прадукту, па якім мы называем усю эпоху эпохай «фельетона». Складваецца ўражанне, што «фельетоны» як асабліва папулярныя публікацыі ў штодзённых газетах прадукаваліся мільёнамі і былі галоўнай духоўнай спажывай прагнай да адукацыі публікі, што яны трактавалі ці, правільней кажучы, «абсмоктвалі» ўсялякія прадметы ведаў і, як нам здаецца, самыя разумныя фельетаністы самі пакепвалі са сваёй працы. Цыгенхальс, прынамсі, прызнаецца, што ў сваіх даследаваннях сустракае такія працы, якія трэба разглядаць як здзек аўтара з сябе, інакш бо яны ўвогуле не паддаюцца тлумачэнню. Мы сапраўды можам дапусціць, што ва ўсю гэту масавую прадукцыю замешана вялікая доза іроніі і самаіроніі і што яшчэ трэба падабраць ключ да яе ўразумення. Вытворцы гэтых тандэтаў або сядзелі ў рэдакцыях газет, або былі «вольныя» мастакі, часам іх нават называлі паэтамі: здаецца, многія з іх былі з вучонага саслоўя, скажам, высокага рангу прафесары з вышэйшых установаў. Найбольш папулярны матэрыял такіх артыкулаў — анекдоты з жыцця і перапіскі славутых людзей, мужчын і жанчын, мільгалі прыкладна такія загалоўкі: «Фрыдрых Ніцшэ і дамскія моды ў сямідзесятыя гады дзевятнаццатага стагоддзя», «Любімыя стравы кампазітара Расіні» або «Роля пакаёвых сабачак у жыцці славутых куртызанак» і г. д. Вялікая любоў прыпала таксама на долю псеўдагістарычных опусаў на тэмы салонных гутарак, напрыклад: «Векавечныя мары пра штучны выраб золата і відазмяненні іх на працягу стагоддзяў» альбо «Спробы хіміка-фізічнага ўздзеяння на надвор'е» і г. д. Перакладаючы прыведзеныя Цыгенхальсам загалоўкі такіх мудраванняў, мы дзіву даёмся не так таму, што знаходзіліся людзі, якія дзень у дзень глыталі такую бурду, як таму, што аўтары з імем, уплывам і не абы-якой адукацыяй пасаблялі, як гэта тады называлася, «абслугоўваць» неверагодны попыт на займальную лухту; тэрмін гэты азначаў, між іншым, і колішнія адносіны чалавека да

машыны. Часам фельетаністы захапляліся ўсялякімі інтэрв'ю са слыннымі людзьмі на надзённыя тэмы, пад што Цыгенхальс адводзіць цэлы раздзел. У славутага хіміка або піяніста пыталіся, напрыклад, якое ён думкі пра тыя або іншыя палітычныя падзеі; папулярным акторам, балерынам, спартсменам, лётчыкам, а то і паэтам задавалі пытанне пра перавагі і недахопы халасцякоўства, прычыны фінансавых крызісаў і г. д. Адзіна важным пры гэтым лічылася спалучэнне гучнага імя з актуальнай тэмай; у Цыгенхальса мы знаходзім забойчыя прыклады гэтага, ён прыводзіць іх сотнямі. Як мы ўжо казалі, да такой рупнасці, мусіць, дамешвалася і добрая шчэпця іроніі, гэта была дэманічная іронія, іронія роспачы, нам цяжка асэнсаваць усё гэта; што ж да процьмы недасведчаных, якія ў тыя часы проста-такі прападалі за чытаннем, дык усе тыя гратэскі яны прымалі на чыстую веру. Калі якая-небудзь славутая карціна пераходзіла да іншага ўладальніка, калі з малатка прадавалі каштоўны манускрыпт, калі згараў стары замак альбо атожылак знакамітага роду ўблытваўся ў скандальныя авантуры, у тысячах фельетонаў чытачу не толькі падавалі гэтыя факты, але таго ж дня або назаўтра яго частавалі процьмай анекдатычных, гістарычных, псіхалагічных, эратычных і ўсякіх іншых падрабязнасцяў на гэтую тэму, кожнае надзённае здарэнне выклікала лавіну пісаніны, прычым сама манера падачы гэтых матэрыялаў была пазначана пячаткай «шырспажыўнага» тавару, выробленага ў спеху і пры поўнай безадказнасці. Далей, да сферы фельетанізму, як нам здаецца, трэба залічыць і некаторыя гульні, на якія запрашаліся і без таго перакормленыя пазнавальным матэрыялам чытачы, пра што сведчыць шырачэзны экскурс Цыгенхальса ў дзівосны феномен — «красворды». Тысячы спрацаваных і змораных цяжкім жыццём людзей у хвіліны адпачынку, каб вы ведалі, сядзелі над квадратамі і крыжамі і ўпісвалі ў іх, як таго вымагалі правілы гульні, розныя літары. Не будзем, аднак, спяшацца разглядаць гэта як смяхотную і дзівацкую вычуду, устрымаемся ад кепікаў. Людзей, якія гулялі ў гэтыя дзіцячыя гульні-загадкі, чыталі гэтыя фельетоны, ані ў якім разе нельга назваць наіўнымі дзецьмі альбо ахвочымі да ўсякіх забаў феакійцамі, божа барані, яны жылі ў вечным страху сярод палітычных, эканамічных і маральных узрушэнняў, вакол іх усё віравала, яны пера-

жылі некалькі жудасных войнаў, у тым ліку і грамадзянскіх, і таму іхнія забавы для розуму зусім не былі вясёлым, бесталковым блазнаваннем, а вымагаліся глыбокай патрэбай: заплюшчыць вочы, уцячы ад нявырашаных праблем і жахлівых прадчуванняў пагібелі ў як мага больш бяскрыўдны свет уяўнасці. Яны старанна вучыліся кіраваць аўтамабілем, гуляць у мудрагелістыя картачныя гульні і замроена аддаваліся разгадцы красвордаў, бо перад абліччам смерці, страху, болю, голаду яны былі амаль зусім бязрадныя, царква не давала ім суцяшэння, а дух — добрых парадаў. Людзі, якія чыталі столькі фельетонаў, слухалі столькі дакладаў, не знаходзілі часу і сілы, каб адолець страх, перамагчы боязь смерці, яны жылі сутаргава, яны не верылі ў заўтрашні дзень.

Чыталі тады і публічныя лекцыі, і мы абавязаны хоць эскізна абмаляваць і гэтую крыху больш высакародную варыяцыю фельетанізму. І спецыялісты, і духоўныя прайдзісветы выдавалі абывацелям таго часу, што па-ранейшаму хіліліся да паняцця «адукацыя», паняцця, якое ўжо страціла свой былы сэнс, апрача артыкулаў яшчэ і незлічоныя публічныя лекцыі: не толькі ў выглядзе асобных прамоў з нагоды той ці іншай урачыстасці, а масавым валам, канкурыруючы адзін з адным. У сярэднім па велічыні горадзе кожны абываталь або яго жонка мелі магчымасць раз на тыдзень паслухаць які-небудзь даклад, а ў буйных гарадах такая магчымасць выпадала ледзь не кожны дзень; дакладчыкі дакладалі слухачам пра якую-небудзь тэорыю, балбаталі пра мастацкія творы, паэтаў, вучоных, даследчыкаў, падарожжы вакол зямлі, і слухачы пры гэтым былі абсалютна пасіўныя, тым часам як лічылася, што яны маюць нейкае дачыненне да сутнасці даложанага ім або, прынамсі, знаёмыя з тэмай, гатовыя ўспрымаць яе, хоць у большасці выпадкаў гэта было зусім не так. Чыталі тады цікавыя, тэмпераментныя або дасціпныя лекцыі, напрыклад, пра Гётэ, — як ён у блакітным фраку выскокваў з экіпажа і пад'юрваў страсбургскіх або веймарскіх маладзічак; або лекцыі пра арабскую культуру, у якіх модныя інтэлектуальныя слоўцы перамешваліся, як косці для гульні, і кожны слухач быў без памяці рады, калі пазнаваў хоць адно з іх. Людзі хадзілі на лекцыі пра паэтаў, чыіх твораў ніколі не чыталі і не збіраліся чытаць, глядзелі пры гэтым дыяпазітывы і

гэтаксама, як і чытаючы фельетоны, прадзіраліся праз развальіны разрабаваных ведаў і навуковых каштоўнасцяў. Карацей, чалавецтва тады стаяла на парозе той жахлівай дэвальвацыі слова, якая спачатку ў вельмі вузкім коле і ў поўнай тайне, спарадзіла супраціўную — героіка-аскетычную — плынь, што неўзабаве магутна праявілася пачаткам новай самадысцыпліны і духоўнай годнасці.

Хісткасць і фальшывасць тагачаснага духоўнага жыцця, у пэўным сэнсе нават велічнага і імпэтнага, мы, цяперашнія, разглядаем як сімптомы жаху, што ахапіў дух, які пры сконе эпохі ўяўнага працвітання і ўяўных перамог раптам апынуўся перад пустэчай, перад цяжкай матэрыяльнай галечай, перад паласою палітычных і ваенных бур, перад імкліва выраслым недаверам да сябе, да сваёй моцы і годнасці, да свайго, калі хочаце, існавання. Але ў гэты час роспачы і жаху мы бачым і даволі імпазантныя ўзлёты духу, напрыклад, нараджэнне навукі пра музыку, удзячнымі спадкаемцамі якое мы з'яўляемся. Аднак, хоць яно і лёгка раскласці па парадачку любыя адрэзкі мінулага, сённяшняе не ўмее вызначыць месца сабе, і таму менавіта тады сярод інтэлектуалаў пачалі пашырацца жахлівая няўпэўненасць і абыякавасць, рэзка ўпалі да даволі сціплага ўзроўню духоўныя запатрабаванні і дасягненні. Людзі, бачыце, зрабілі адкрыццё (яшчэ з часоў Ніцшэ сёй-той здагадваўся пра гэта), што маладосць і творчы акрэс нашай культуры засталіся далёка, што прыйшла старасць, што ўжо змяркаецца; гэта адчулі ўсе, і многія нават даволі рэзка сфармулявалі, а потым гэтым самым пачалі тлумачыць шматлікія застрашлівыя азнакі часу: спусташальніцкую механізацыю жыцця, глыбокі заняпад маралі, бязвер'е народаў, штучнасць і няшчырасць мастацтва. Як у адной дзівоснай кітайскай казцы, усюды гучала «музыка пагібелі», быццам басовы рэгістр аргана; яна лілася і замірала многія дзесяцігоддзі, прасочвалася карупцыяй у школы, часопісы, у знянацку заспетыя распадам акадэміі, выклікала ў больш-менш сур'ёзных мастакоў, крытыкаў свайго часу меланхолію або душэўныя хваробы, а часам і захліствала ўсё навакол шалёнай і дылетанцкай перавытворчасцю ва ўсіх мастацтвах. Да нянадзжанага ворага, якога ўжо нельга было адпрэчыць ніякім шаманствам, людзі ставіліся парознаму. Некаторыя геніі моўчкі прымянавалі горкую

праўду і стаічна трывалі. Сёй-той спрабаваў адцурацца ад яе праз ілжу, тым болей што літаратурныя вешчуны вучэння пра заняпад культуры давалі апанентам шмат спрыяльных зачэпак на крытыку. Той, хто паўставаў супроць гэтых грозных прарокаў, знаходзіў слухачоў і ўплыў сярод абываталяў, бо той пастулат, быццам культура, якую яшчэ ўчора залічвалі ў свой здабытак і якою так ганарыліся, раптам перастала існаваць, быццам такія любасныя абывательскаму сэрцу адукацыя і мастацтва ператварыліся ў падробную адукацыю і падробнае мастацтва, здаваўся не менш нахабным і невыносным, чым хвалі інфляцыі або пагроза капіталам ад рэвалюцый. У прадчуванні заняпаду была магчымая і цынічная пазіцыя: людзі ішлі танцаваць і абвяшчалі ўсякі клопат пра будучыню старамоднай дурнотай; у прачулых фельетонах журналісты прадказвалі блізкі канец мастацтва, навукі, мовы, з пажадлівасцю самазабойцаў дэкляравалі інфляцыю паняццяў і поўную дэградацыю духу ў імі ж сфабрыкаваным папяровым свеце фельетона і з цынічнай раўнадушнасцю або ў вакханальным экстазе сузіралі, як не толькі мастацтва, дух, этыка, сумленнасць, але і Еўропа, і «ўвесь свет» ідуць да заняпаду. Самых лепшых людзей апантаў маўкліва-змрочны, сярод горшых — з'едлівы песімізм, і перш чым культура зноў здабыла здольнасць да рэальнай самаацэнкі, перш чым яна знайшла сваё сапраўднае месца, павінна было быць знесена ўсё аджылае, усталявана новая мараль, перакроены ўвесь свет, але да гэтага прыйшлі толькі пасля доўгай палітычнай барацьбы і войнаў.

Трэба сказаць, што сама культура ў гэтыя пераходныя дзесяцігоддзі не была ў летаргіі: у перыяд свайго заняпаду і ўяўнага самаадмаўлення, што ёй прыпісвалася мастакамі, прафесарамі, фельетаністамі, яна прышчапіла ў сэрцы асобных людзей асаблівую пільнасць і паддалася пільнаму самакантролю. Нават у пару росквіту фельетанізму сям-там пракідаліся паасобныя групы, поўныя рашучасці захаваць вернасць духу і зрабіць усё, што ад іх залежала, каб пранесці праз гэта ліхалецце зерне добрай традыцыі, дысцыпліны, методыкі, інтэлектуальнай сумленнасці. Спрабуючы зразумець гэтыя працэсы ўжо ў наш час, мы прыходзім да высновы, што працэс самавыпрабавання, самаспазнання і свядомага супраціўлення заняпаду ішоў у асноўным у

дзвюх групах. Сумленне вучоных вяло іх да даследаванняў і да метадаў навучання, якія былі вядомыя і ўжываліся ў гісторыі музыкі, бо менавіта гэтая навука сама-сама расцвітала тады, і два асабліва праслаўленыя ў час росквіту фельетанізму семінары распрацавалі адмысловы і ва ўсіх адносінах бездакорны рабочы метад. І, быццам лёс хацеў узнагародзіць намаганні невялікай, але мужнай кагорты, сярод бясчасся адбылося ўсім вядомае радаснае дзіва, можна сказаць — выпадковасць, але яно было падобнае на божую азнаку; былі знойдзены адзінаццаць рукапісаў Ёгана Себасцьяна Баха, якія калісь належалі яго сыну Фрыдэману! Другім цэнтрам супраціўлення заняпаду было Брацтва пілігрымаў у краіну Усходу, члены якога дбалі пра культываванне не так інтэлекту, як душы, пра выхаванне пашаннасці і дабрамыснасці — адгэтуль і наша сучасная форма духоўнасці і Гульня шкляных перлаў прынялі важныя імпульсы, асабліва гэта характэрна для прыёмаў кантэмпляцыі — сузірання. У развіццё і станаўленне новых поглядаў на сутнасць нашай культуры і магчымасці яе выжывання пілігрымы ў краіну Усходу таксама ўтачылі сваю долю, зрэшты, не так сваімі поспехамі ў апалітычнай навуцы, як здольнасцю, развітай старымі тайнымі прыёмамі, магічна ўваходзіць у мінулыя эпохі і станы духу. Траплялiся сярод іх, напрыклад, музыканты і спевакі, якія, паводле сведчання крыніц, мелі дар выконваць музычныя творы ранніх эпох, напрыклад, творы кампазітараў 1600 або 1650 гадоў, гэтак, быццам яны зусім не ведалі вытанчаных і віртуозных прыёмаў, што ўвайшлі ў моду пазней. А гэта ж было нешта нечуванае на тую пару, калі сярод музыкантаў панавала манія дынамікі і экспрэсіі і калі дырыжорская тэхніка і «канцэпцыя» ледзь не засланяла сам твор; расказвалі, што, калі аркестр пілігрымаў у краіну Усходу ўпершыню выканаў публічна сюіту дагендэлеўскіх часоў без характэрнага крэшчэнда і дэкрэшчэнда, наіўна і цнатліва, як гэта ўласцівілася іншаму часу і іншаму свету, — слухачы або ўвогуле нічога не зразумелі, або насцярожыліся і вырашылі, што першы раз у сваім жыцці пачулі музыку. А адзін брат паставіў у славутай зале пасяджэнняў пілігрымаў — паміж Брэмгартэнам і Морбіё — бахаўскі арган, такі самы, які стварыў бы сабе сам Ёган Себасцьян Бах, калі б меў на тое сродкі і магчымасць. Адпаведна

са звычаямі, якія былі заведзены ў Брацтве, гэты штукар утоіў сваё імя і назваўся Зільберманам, імем свайго папярэдніка з васемнаццатага стагоддзя.

Мы падышлі да вытокаў, з якіх нарадзілася наша цяперашняе разуменне культуры. Адзін з іх, прычым вельмі важны, — гэта самыя маладыя навукі — гісторыя музыкі і музычная эстэтыка, другі — узлёт матэматыкі, да ўсяго гэтага дадалася кропля свяшчэннага алею з пілігрымскіх паданняў і потым, у суладдзі з новым разуменнем і асэнсаваннем музыкі, нейкая мужнасць у падыходзе да пытання пра злядашчанне культуры, такая ж бадзёрая, як і намечаная рэзіньяцыяй. Няма патрэбы шмат разводзіць пра гэта, памянёныя матэрыі вядомыя кожнаму. Галоўным вынікам новай пазіцыі ці, слушней сказаўшы, новага падпарадкавання культурнаму працэсу было адмаўленне, з дужа вялікімі наступствамі, жрацоў культуры ад стварэння новых шэдэўраў мастацтва, паступовы адыход інтэлектуалаў ад свецкай прадпрымальнасці і, што не меней важна і як бы ўвенчвае ўсё, — нараджэнне Гульні шкляных перлаў.

На само ўзнікненне Гульні моцна паўплывалі поспехі навукі пра музыку, дасягнутыя ёю неўзабаве пасля 1900 года, гэта значыцца, яшчэ ў самы росквіт фельетона. Мы, пераемцы гэтай навукі, лічым сябе найлепшымі знаўцамі вялікіх творчых эпох, асабліва музыкі семнаццатага і васемнаццатага стагоддзяў, у пэўным сэнсе мы нават лепш яе разумеем, чым разумелі яе ва ўсе ранейшыя часы, уключаючы і эпоху самой класічнай музыкі. Вядома, у нас, наступнікаў, склаліся зусім інакшыя адносіны да класічнай музыкі, чым у прадстаўнікоў творчых эпох; наша адухоўленае і не заўсёды дастаткова свабоднае ад меланхалічнай рэзіньяцыі шанаванне сапраўднай музыкі, бадай, зусім іншае, чым наіўна-замілаванае музыкаванне тых вякоў, якое часам мы схільныя зайздросліва лічыць шчаслівейшым, забываючыся пра ўмовы і лёс, пад знакам якіх яно ўзнікла. Бо ўжо праз каторае пакаленне мы бачым вялікае і неўміручае дасягненне той эпохі, якая ляжыць паміж канцом сярэднявечча і нашымі днямі, не ў філасофіі або ў паэзіі, як гэта рабіла амаль усё дваццатае стагоддзе, а ў матэматыцы і ў музыцы. З таго часу, як мы ў асноўным адмовіліся на ніве творчасці ад выпярэдніцтва з майстрамі ранейшых эпох, з таго часу, як мы адмовіліся

ад культу і прыярытэту гармоніі і пачуццёвай дынамікі ў музыкаванні, якія панавалі сярод музыкантаў-выканаўцаў прыкладна два стагоддзі, пачынаючы ад Бетховена і першых спробаў рамантыкі, — з таго часу мы пераканаными, што чысцей і высакародней — зразумела, па-свойму, у нашым нятворчым, эпігонскім, але пашанавальным духу! — разумеем і тлумачым тую культуру, спадчыннікамі якое з'яўляемся. Нам, у каго не захавалася марнатраўчай творчай энергіі тагачасся, амаль неспасцігальна, якім такім чынам у пятнаццатым і шаснаццатым стагоддзях так доўга захоўваліся ў непасуднай чысціні музычныя стылі, чаму ў велізарным патоку тагачаснай музыкі, як нам здаецца, наогул нельга знайсці нічога пахібнага і чаму нават васемнаццатае стагоддзе, калі пачалася дэградацыя, спарадзіла яшчэ цэлы феерверк стыляў і школ, хай сабе і хуткаплынных у сваім ззянні, хай сабе і самаўпэўненых, — а мы верым, што ў музыцы, якая сёння называецца класічнай, мы ўлавілі таямніцу, духапашаннасць і дабрамыснасць тых генерацый і ўзялі іх за прыклад і ўзор. Так, мы невысокай думкі пра багаслоўе і царкоўную культуру васемнаццатага стагоддзя, ці пра філасофію Асветніцтва, але адчуваем у Бахавых кантатах, «Цярпеннях» і прэлюдыях гранічную сублімацыю хрысцыянскай культуры.

Зрэшты, каб схарактарызаваць стаўленне нашай культуры да музыкі, мы маглі б спаслацца на даволі даўні і сівабароды прыклад: Гульня перлаў аддае яму долю пашаны. Мы прыгадваем, што ў кітайцаў, у казачнай краіне «старажытных імператараў», у дзяржаве і пры двары музыцы была адведзена вядучая роля, дабрашчаснасць музыкі раўнялася дабрашчаснасці ўсёй культуры і этыкі, нават усяго царства, і строгім абавязкам капельмайстраў было сачыць за непарушнасцю і чысцінёй «старадаўніх танальнасцяў». Заняпад музыкі разглядаўся як самы пэўны знак заняпаду ўлады і ўсёй дзяржавы. Паэты расказвалі страшныя казкі пра сатанінскія, адкінутыя небам, неспасцігальныя танальнасці, напрыклад, пра танальнасці Цінь Шаня і Цінь Цзы, пра музыку пагібелі, бо як толькі яна, грахоўная, пачынала гучаць, над імператарскім палацам збіраліся хмары, дрыжалі і рассыпаліся муры, дзяржаўца і ўся імперыя гінулі. Не будзем тлуміць чытачову галаву пералікам выказванняў старажытных аўтараў, прывядзем толькі

некалькі ўрыўкаў з раздзела пра музыку з кнігі Лі Бувэя «Вясна і восень»:

«Вытокі музыкі далёка. Яна нараджаецца з меры, і карані яе ў вялікім Адзіным. Вялікае Адзінае спараджае два полюсы; яны спараджаюць сілу цёмнага і сілу светлага.

Калі на зямлі мір, калі ўсе рэчы ў стане спакою і ўсё ў сваіх пераўтварэннях ідзе паводле свайго Найвышэйшага пачатку, музыка можа быць завершанай. Калі пачуцці не штурхаюць на няправільны шлях, яна дасягае дасканаласці. Дасканалая музыка мае свае вытокі. Яна ўзнікае з раўнавагі. Раўнавага нараджаецца з справядлівасці, а справядлівасць з сэнсу свету. Таму пра музыку можна гаварыць толькі з чалавекам, які спасціг сэнс свету.

Музыка сталюецца на гармоніі неба і зямлі, на суладдзі цёмнага і светлага.

Дзяржавы, якія перажываюць заняпад, і людзі, якія выспелі на пагібель, таксама маюць сваю музыку, але іх музыка не бывае светлаю. Таму: чым шумлівейшая музыка, тым больш меланхалічныя людзі, тым большая небяспека навісае над дзяржавай, тым ніжэй апускаецца правіцель. Так чэзне сутнасць музыкі.

Усе свяшчэнныя правіцелі цанілі ў музыцы яе прасветленасць. Тыраны Гіэ і Чжоў Сін захапляліся шумнай музыкай. Моцныя гукі лашчылі ім слых, а ўздзеянне гэтых гукаў на масы яны лічылі «цікавым». Яны імкнуліся да новых, дзіўных сугуччаў, да гукаў, якіх яшчэ ніколі ніхто не чуў; яны спрабавалі пераўзысці адзін аднаго і страцілі меру і мэту.

Прычынай заняпаду дзяржавы Чжоў было вынаходства чарадзейнай музыкі. Такая музыка, праўда, ап'яняе, а на самай справе адыходзіць ад самой сутнасці музыкі. А як што яна адыходзіць ад самой сутнасці менавіта музыкі, дык гэтая музыка не светлая. Калі музыка не светлая, народ наракае, і жыццю ўчыняецца шкода. Усё гэта ўзнікае таму, што няправільна тлумачыцца сама сутнасць музыкі і найвышэйшым лічыцца шумная гукаспалучанасць.

Таму музыка добраўпарадкаванай эпохі спакойная і светлая, а праўленне — ураўнаважанае. Музыка трывожнага часу неспакойная, змрочная, праўленне — бударажлівае. Музыка заняпалай дзяржавы сентыментальная і скрушлівая, праўленне — пад пагрозай».

Словы гэтага кітайца, такім чынам, даволі ясна акрэсліваюць амаль забыты сэнс усякай музыкі. Як танец, як усякае іншае мастацтва, музыка ў дагістарычныя часы была чарадзейным сродкам, адным з старых і характэрных атрыбутаў магіі. Пачынаючы з рытму (плясканне ў далоні, тупанне, стук дзеравянкамі, першабытнае мастацтва барабаннага бою), яна была магутным і выпрабаваным сродкам «настройваць» многіх на адзіны лад, перадавала сэрцу і дыханню адзіны рытм, абуджала ў людзях гатоўнасць заклікаць і заклінаць вечныя сілы, клікаць на танец, на спаборніцтва, у паход, да свяшчэннага дзейства. І гэту пачатковую, чыстую і першатворную прыроду, прыроду чарадзейства музыка захавала намнога даўжэй за ўсе іншыя мастацтвы, варта толькі згадаць шматлікія выказванні гісторыкаў і паэтаў пра музыку, пачынаючы з грэкаў і канчаючы Гётэ ў ягонай «Навеле». Практычна ні маршы, ні танец ніколі не трацілі свайго значэння... Аднак пара вярнуцца да нашай асноўнай тэмы.

Пра пачаткі Гульні перлаў мы раскажам толькі збольшага і толькі самае вартае ўвагі. Як нам здаецца, яна ўзнікла адначасова ў Германіі і ў Англіі і ў абедзвюх краінах як шэраг практыкаванняў для членаў вузкага кола музыказнаўцаў і музыкантаў, якія займаліся ў новых семінарах па тэорыі музыкі. Параўноўваць пачатковы стан Гульні з пазнейшым і цяперашнім — усё адно што нотны рукапіс 1500 года з яго прымітыўнымі значкамі, дзе нават няма рысак, якія аддзяляюць такт ад такта, параўноўваць з партытурай васемнаццатага і тым болей дзевятнаццатага стагоддзяў з мноствам складаных абазначэнняў дынамікі, тэмпу, фразіроўкі і гэтак далей, так што друкаванне такіх партытур часта ператваралася ў складаную тэхнічную праблему.

На першым часе Гульня была хіба што дасціпным трэнінгам памяці і камбінацыйных здольнасцяў, модным сярод студэнтаў і музыкантаў; гулялі ў яе, як ужо сказана, у Германіі і ў Англіі, яшчэ да таго, як у Кёльнскай вышэйшай музычнай школе яна была «вынайдзена» і атрымала імя, якім завецца і сёння, хоць даўно ўжо не мае нічога агульнага са шклянымі перламі — з пацерынкамі. Шкляныя пацеркі скарыстаў вынаходца гульні Бастыян Перо з Кальва, крыху дзівакаваты, але разумны, таварыскі і прыязны да людзей музыказнаўца, які замяніў літары, лічбы, ноты і іншыя графічныя зна-

кі шклянымі шарыкамі-пацерынкамі. Перо, які, дарэчы, напісаў трактат «Росквіт і заняпад кантрапункта», заставаў у кёльнскім семінары даволі дэталёва распрацаваны метад Гульні: адзін удзельнік яе абвяшчаў скарочанымі формуламі свайго прадмета любую тэму ці пачатак матыву класічнай кампазіцыі, а партнёр ці той, да каго звярталіся, павінен быў або прадоўжыць п'есу, або, што лічылася яшчэ лепшым, адказаць у вышэйшай ці ніжэйшай танальнасці, а то і кантрастнай тэмай. Такія або падобныя практыкаванні для памяці і імправізацыйнай здольнасці (хай і не замацаваныя ў формулах, але ўжытковыя на практыцы: пры ігры на чэмбала, лютні, флейце і нават у вакале), магчыма, былі папулярныя сярод тых, хто ўдумліва вывучаў музыку і кантрапункт у часы Шутца, Пахельбеля і Баха. Бастыян Перо, вялікі знаўца розных рамёстваў, які сваімі рукамі зрабіў некалькі раяляў і клавікордаў па ўзорах старых майстроў, бадай што, таксама быў пілігрымам у краіну Усходу, пра яго павядаюць, быццам ён умеў іграць на скрыпцы сагнутым смыком з ручной рэгуляцыяй напругі валасоў у даўняй, забытай пасля 1800 года, манеры. Перо ўзяў за ўзор наіўны дзіцячы лічыльнік, зрабіў раму, напяў на яе некалькі тузінаў драцінак, а на іх нанізаў шкляныя пацеркі рознай велічыні, формы і колеру. Драцінкі адпавядалі нотным лінейкам, пацеркі — значэнням нот, і Перо так складваў са шкляных шарыкаў цэлыя музычныя фразы, развіваў прыдуманыя самім тэмы, змяняў, транспанаваў іх, пераўтвараў і супрацьпастаўляў ім іншыя. У такой тэхніцы спачатку бачылі толькі забаву, але вучням яна прыпала даспадобы, неўзабаве яе пачалі пераймаць, яна ўвайшла ў моду, перабралася ў Англію, і пэўны час гэтая музычная гульня практыкавалася ў такім мілым, пацешным выглядзе. Пазней, як яно часта бывае, прыдумка, якой наканавана было пражыць доўгі век і адыграць даволі значную ролю, атрымала сваю назву па даўно ўжо забытай дробязі. І сёння тое, у што ператварылася забаўка семінарыстаў, і нанізаныя на драцінкі пацеркі Перо носіць назву, што стала ўжо народнай і вядомай усім — Гульня ў пацеркі, альбо Гульня шкляных перлаў.

Не прайшло і двух-трох дзесяткаў гадоў, і Гульня прызабылася сярод студэнтаў, якія вывучалі музыку, але тым ярчэй асталявалася сярод матэматыкаў; доўгі

час характэрнай рысай гісторыі Гульні было якраз тое, што яе пераймалі і развівалі пераважна тыя навукі або навука, якія перажывалі росквіт ці адраджэнне. Матэматыкі надалі Гульні незвычайную пругкасць і вытанчанасць і нават нейкае падабенства ўсведамлення самой сябе і сваіх магчымасцяў, — гэта быў працэс, які ішоў упоравень з агульным развіццём культурнага самаўсведамлення, якое на той час пераадолела вялікі крызіс і, як піша Пліній Цыгенхальс, «са сціплай чтою прыняло сваю долю — належаць да позняй культуры, як, напрыклад, прынята казаць пра познюю антычнасць, пра эпоху александрыйскага элінізму».

Гэта — паводле Цыгенхальса. Мы ж паспрабуем цяпер сваімі словамі закончыць беглы агляд гісторыі Гульні. Калі Гульня перабралася з музычных семінараў у матэматычныя (сталася гэта ў Францыі і Англіі, бадай што, нават раней, чым у Германіі), яна была ўжо настолькі развітая, што праз пэўныя знакі і абрэвіятуры магла выяўляць матэматычныя працэсы; майстры развівалі гэтыя знакі, перадавалі адзін аднаму абстрактныя формулы, эвалюцыйныя рады і варыянты развіцця сваіх дысцыплін. Гэтая матэматычна-астранамічная гульня ў формулы вымагала пільнай увагі і засяроджанасці; сярод тагачасных матэматыкаў рэпутацыя добрага майстра Гульні ставілася даволі высока і была роўная рэпутацыі выдатнага матэматыка.

Амаль усе навукі ў розны час прымалі Гульню, прыстасоўвалі яе да сябе, што засведчана ў класічнай філалогіі і логіцы. Аналітычны разбор музычных значэнняў прывёў да таго, што музычныя фразы ўдалося перадаць у фізічных і матэматычных формулах. Крыху пазней і філалогія пачала карыстацца падобным метадам, фіксаваць моўныя ўтварэнні сваімі формуламі, як фізіка фіксуе прыродныя працэсы; потым гэты самы метад падхапіла эстэтыка выяўленчых мастацтваў, дзе архітэктуру і матэматыку даўно ўжо лучылі такія повязі. Атрыманыя такім чынам абстрактныя выразы дазвалялі знаходзіць усё новыя і новыя ўзаемасувязі, аналогіі і адпаведнасці. Кожная навука прымервала на сябе Гульню ў пацеркі і стварала сваю мову Гульні з формулаў, абрэвіятур і самых розных камбінацый таго з другім. Эліта інтэлектуальнай моладзі раскашавала ў Гульнях з радамі і дыялогамі формулаў. Гульня была не толькі адпачынкам і трэніроўкай — яна давала кан-

тэматыкі вызначаліся аскетычнай і спартыўнай віртуознасцю і фармальнай строгасцю ў Гульні, знаходзілі ў ёй сапраўдную асалоду, што таксама дапамагала ім ужо тады паслядоўна адмаўляцца ад зямных радасцяў і парыванняў. Такім чынам, Гульня ў пацеркі моцна паспрыяла поўнаму і канчатковаму пераадоленню фельетанізму, а таксама росту новай радасці ад выяўных і віртуозных вымудраў інтэлекту, якой мы заўдзячаем узнікненне новай дысцыпліны духу ледзь не манаскай строгасці. Свет як перарадзіўся. Духоўнае жыццё эпохі фельетона можна параўнаць з раслінай, якая цалкам вырадзілася, заўжыла свае жывасныя сокі на пачварныя наросціны, а пазнейшыя спробы выправіць становішча — з высяканнем расліны пад самы корань. Маладыя людзі, якія мерыліся прысвяціць сябе інтэлектуальным заняткам, разумелі цяпер гэта не як імкненне як мага хутчэй нахапацца сякіх-такіх ведаў у вышэйшай школе, дзе слынныя і словамудрыя, хоць ужо мала аўтарытэтныя прафесары падносілі ім мізэрныя недаедкі таго, што колісь называлася вышэйшай адукацыяй; цяпер вучыцца даводзілася гэтак жа ўпарта, можа, нават больш упарта і метадычна, чым калісьці інжынерам-палітэхнікам. Цяпер ім выпала падымацца па крутой сцежцы ведаў, яны павінны былі ачысціць і намянціць свае разумовыя здольнасці з дапамогай матэматыкі і схаластычных выцвічак па Арыстоцелі, павінны былі навучыцца, як цалкам адмовіцца ад усіх даброцяў, такіх панадных цэламу шэрагу пакаленняў вучоных, а менавіта ж бо: ад хуткага і лёгкага здабывання грошай, ад славы і грамадскага ўшанавання, ад газетных пахвал, ад шлюбаў з банкірскімі і фабрыканцкімі дочкамі, ад матэрыяльных выгодаў, распешчанасці і раскошы. Паэты з велізарнымі тыражамі, Нобелеўскімі прэміямі і загараднымі віламі, славутыя ўрачы, увешаныя ордэнамі, акружаныя ліўрэйнымі лёкаямі, акадэмікі з багатымі жонкамі і бліскучымі салонамі, хімікі з назіральных радаў на прамысловых прадпрыемствах, філосафы — уладальнікі фельетонных фабрык, якія чыталі палымяныя казані ў перапоўненых аўдыторыях, зрывалі авацыі і прымалі букеты, — усе гэтыя фігуры зніклі і пакуль што не вярнуліся. Трэба прызнаць, што і сёння шмат уталентаваных маладых людзей, якія зайздросцяць памянёным вышэй, аднак дарога да гра-

мадскага прызнання, пашаны, славы і камфорту цяпер вядзе не праз аўдыторыі, семінары і доктарскія дысертацыі: інтэлектуальныя прафесіі ўпалі нізка і збанкрутавалі тады ў вачах ва ўсяго свету, але затое зноў здабылі несумненна эскетычную адданасць духу. Тым талентам, якія парываліся да бляску і паклянення, давялося адвярнуцца ад абрыдлай і няўдзячнай духоўнасці і аддацца іншай дзейнасці, дзе іх доляй стала здабыванне дабрабыту і дастатку.

Падрабязны расказ пра тое, як дух пасля ачышчэння ўсталяваўся ў дзяржаве, завёў бы нас занадта далёка. Вопыт паказаў, што дастаткова было, каб некалькі пакаленняў праявілі беспрынцыпнасць і расхлябанасць у духоўнай сферы, як гэта адразу зрабіла вялікую шкоду практыцы, усё радзей і радзей сярод інтэлектуальных прафесій, у тым ліку і тэхнічных, пачалі сустракацца сапраўднае майстэрства і ўсведамленне адказнасці, так што выпешчванне духу ў дзяржаве і ў народзе, і найперш усю сістэму адукацыі, давялося спакваля манапалізаваць інтэлектуальнай эліце, як, прыкладам, і сёння ва ўсіх краінах Еўропы адукацыя, калі толькі яна не засталася пад апекай Рымскай царквы, перайшла ў рукі тых ананімных ордэнаў, члены якіх рэкрутуюцца з гэтай эліты. І як бы часам ні набрыдалі грамадскай думцы строгасць і славутая фанабэрыя гэтай касты, як бы некаторыя асобы ні тапырыліся супроць яе, — кіраўніцтва яе непахіснае, і трымаецца яно не толькі сваёй цэласнасцю, адмовай ад усіх даброт і прэрагатываў, акрамя духоўных, але і дзякуючы агульнаму разуменню: такая строгая школа непазбежная і неабходная для самога выжывання цывілізацыі. Цяпер ужо ўсе ведаюць альбо здагадваюцца, што калі думка страціла чысціню і нядрэмнасць, калі духу не аддаецца тое, што ён заслужыў, дык неўзабаве і аўтамабіль не зрушыць з месца, і карабель саб'ецца з курсу, страцяць свой аўтарытэт як інжынерская лінейка, так і банкі або біржы, пачнецца хаос. Аднак прайшло багата часу, перш чым прабіла сабе дарогу ўпэўненасць у неабходнасці і для знешняга боку цывілізацыі — для тэхнікі, прамысловасці, гандлю — адзінай асновы ў форме інтэлектуальнай маралі і сумлення.

У той час Гульні ў пацеркі не ставала аднаго: універсальнасці, здольнасці лунаць над факультэтамі. Астраномы, эліністы, лацiністы, схаласты, кансерватор-

цы гулялі ў свае духоўна ўпарадкаваныя гульні, але кожны факультэт, кожная дысцыпліна і яе адгалінаванні мелі сваю мову Гульні і свой кодэкс правілаў. Спатрэбілася не менш як паўстагоддзя, перш чым быў зроблены крок, каб пераступіць гэтую мяжу. Прычыны марудлівасці былі, бадай што, больш маральныя, чым фармальныя і тэхнічныя: сродкі на пераадоленне такіх бар'ераў знайшліся б, але строгая этыка новай інтэлектуальнасці спараджала пурытанскі страх перад allotrie [1], перад змешваннем дысцыплін і катэгорый, глыбокі і зусім апраўданы страх перад тым, што можа вярнуцца грэх верхаглядства і фельетанізму.

Гэта быў сапраўды подзвіг, подзвіг аднаго чалавека, подзвіг, які ледзь не адразу прывёў Гульню ў пацеркі да ўсведамлення магчымасцяў, а разам з гэтым і на парог універсальнай здольнасці адукавання, і гэтым разам Гульня заўдзячалася сваім поспехам сувязі з музыкай. Адзін швейцарскі музыковец і пры тым заяты заўзятар матэматыкі даў Гульні зусім нечаканы паварот, бо адкрыў ёй магчымасць найвышэйшага росквіту. Грамадзянскае імя гэтага вялікага чалавека ўжо немагчыма ўстанавіць — у яго час культ вялікіх людзей у сферы духу ўжо быў пераадолены, а ў гісторыю швейцарац увайшоў пад імем Lusor (або Joculator) Basiliensis[2]. Вынаходства яго, як і ўсякае вынаходства, вядома ж, было яго асабістым дасягненнем і даброццю, аднак узнікла яно зусім не з прыватных патрэбаў і рахубаў, яно нарадзілася, падштурхнутае больш моцным рухавіком. У яго часы сярод людзей духу ўсюды жыла пільная патрэба ў сродках выявіць новыя сэнсы мыслення: сумавалі па філасофіі, па сінтэзе, поўная засяроджанасць на сваёй дысцыпліне, якая дагэтуль лічылася шчасцем, перастала задавальняць, то адзін, то другі вучоны прарываўся з цэхавых рамак і спрабаваў выйсці да агульназначнага, марылі пра новы алфавіт, пра новую знакавую мову, якою далося б замацаваць і перадаць другім новы інтэлектуальны вопыт. Асабліва ярка засведчыла гэта, як нам здаецца, праца аднаго парыжскага навукоўца, якая выйшла пад назвай «Кітайская перасцярога». Аўтар гэтага твора, якога пры жыцці многія дражнілі Дон Кіхотам, зрэшты, слынны

[1] дробязі, якія не датычацца справы (*грэч.*).
[2] Майстар Гульні (або Жанглёр) з Базеля (*лац.*).

вучоны ў сваёй галіне — кітайскай філалогіі, паказвае, якую небяспеку наклікаюць на сябе навука і духоўная культура пры ўсёй іх стойкасці, калі адмаўляюцца ад распрацоўкі міжнароднай мовы знакаў, — мовы, якая, падобна кітайскім іерогліфам, дазваліла б, не ганьбуючы асабістай фантазіі і вынаходлівасці, графічна выяўляць самы складаны змест і разам з тым была б зразумелая вучоным усяго свету. Самы важны крок да спаўнення гэтай умовы зрабіў якраз Joculator Basiliensis. Ён распрацаваў для Гульні асновы новай мовы знакаў і формулаў, у якой у роўнай меры браліся пад увагу і матэматыка і музыка і якая дазваляла спалучаць астранамічныя і музычныя сімвалы, падводзячы матэматыку і музыку да аднаго паказальніка. І хоць працэс развіцця на гэтым зусім не закончыўся, аднак падмурак пад усё тое, што адбылося пазней у гісторыі дарагой нашаму сэрцу Гульні, падклаў ужо тады базельскі ананім.

З таго часу Гульня, якая калісь служыла спецыфічнай распацехай то матэматыкам, то філолагам, то музыкантам, пачала падграбаць пад сваю ўладу ўсіх сапраўдных жрацоў духу. Менавіта тады шмат старых акадэмій, ложаў і асабліва старадаўняе Брацтва пілігрымаў у краіну Усходу навярнуліся да Гульні. Некалькі каталіцкіх ордэнаў угледзелі ў ёй новы духоўны павеў і замілаваліся ёю; тут перш-наперш след прыгадаць некаторыя бенедыктынскія абацтвы, так званых банэдыкаў, якія аддавалі Гульні ў пацеркі столькі ўвагі, што ўжо тады, як часта і пазней, усплыло пытанне: што павінны рабіць Царква і Курыя — цярпець, заахвочваць ці забараніць Гульню.

Пасля подзвігу базельца Гульня неўзабаве ўвабралася ў поўную сілу і зрабілася тым, што яна ёсць сёння: увасабленнем духоўнага і мусічнага, высокім культам, містычным супольствам (Unia mystica) усіх раз'яднаных членаў universitas litterarum. У нашы дні яна пераняла часткова ролю мастацтва, часткова ролю спекулятыўнай філасофіі, і паказальна, што ў часы Плінія Цыгенхальса яе часта абазначалі дэфініцыяй, якая паходзіць яшчэ са славеснасці фельетаністычнай эпохі і якая акрэсліла гэтай эпосе запаветную мэту не аднаго інтэлектуала, а менавіта — «магічны тэатр».

Хоць Гульня ў пацеркі тэхнічна і тэматычна бясконца раздалася ўшыркі і з пункту гледжання патрабаван-

няў да гульцоў ператварылася ў высокае мастацтва і строгую навуку, пры жыцці вялікага базельца ёй усё-такі не ставала даволі істотнага. Кожная партыя была тады нейкім нашморгваннем, супрацьпастаўленнем і групаваннем сканцэнтраваных уяўленняў з розных галін інтэлектуальнага і эстэтычнага, шпаркім выхопліваннем з засекаў памяці надчасовых каштоўнасцяў і формаў, віртуозным і імклівым палётам праз царства духу. Толькі намнога пазней з духоўных прычындалаў выхаваўчай традыцыі, і асабліва з завядзёнак і паданняў пілігрымаў у краіну Усходу, у Гульню было занесена паняцце кантэмпляцыі. Усе прызналі за непажаданы пастулат, пры якім фокуснікі-мнематэхнікі, у якіх не было за душой ніякіх іншых талентаў, віртуозна скідаліся на бліскучыя партыі, ашаламлялі і збівалі з панталыку іншых удзельнікаў борздкасцю бясконцых пералічэнняў. З часам такая віртуознасць была строга забаронена, а сузіранне зрабілася адной з самых важных умоў Гульні; больш таго, для слухачоў і гледачоў сузіранне ператварылася ў нешта асноўнае. Гэта быў паварот супроць рэлігійнага. Цяпер задачай было не тое, каб чыста інтэлектуальна сачыць за паслядоўнасцю ідэй і ўсёй духоўнай мазаікай Гульні з порсткай уважлівасцю і натрэніраванай учэпістасцю памяці, але ўзнікла патрэба ў больш глыбокай і больш душэўнай самааддачы. Змест, паходжанне, сэнс кожнага знака, абвешчанага кіраўніком Гульні, павінны былі доўга і строга асэнсоўвацца, што прымушала кожнага гульца інтэнсіўна і арганічна яго ўспрымаць. Тэхнічных прызвычаек да працэсу сузірання члены ордэнаў і гульнёвых брацтваў набіраліся ў элітарных школах, дзе артыстызму ў кантэмпляцыі і медытацыі вучылі з вялікім дбаннем. Гэта, пэўна, і ўратавала іерогліфы Гульні ад небяспекі выраджэнца ў звычайныя літары.

Дарэчы, да таго часу Гульня ў пацеркі, нягледзячы на сваю пашыранасць, заставалася для вучоных прыватным высцігам. Гулялі сам-насам з сабою, удвух, суполкамі, хоць асабліва глыбакамысныя, удала скампанаваныя Гульні фіксаваліся, рабіліся потым вядомымі ў другіх гарадах і нават краінах, дзе імі часам захапляліся, а часам і абураліся. І толькі цяпер, прычым даволі марудна, Гульня ўзмажнела нават функцыяй — яна стала грамадскім святам. Але тым часам і сёння кожны можа гуляць у яе прыватна, чым асабліва заха-

пляецца моладзь. Аднак усе, чуючы словы «Гульня ў пацеркі», перад усім уяўляюць сабе ўрачыстыя публічныя Гульні. На ўсім свеце яны праводзяцца пад эгідай самых дасведчаных і мудрых майстроў, якіх у кожнай краіне ўзначальвае Магістр Гульні, пры свяшчэнным маўчанні запрошаных і напружанай увазе слухачоў; некаторыя Гульні доўжацца па некалькі дзён, а то і тыдняў, і ўвесь час, пакуль трываюць урачыстасці, гульцы і слухачы жывуць паводле строгіх прадпісанняў, якія рэгламентуюць нават працягласць іх сну, жывуць аскетычным і асамотненым жыццём абсалютнага самазаглыблення, падобным на тое строга ўнармаванае падзвіжніцкае жыццё, якое вызнаюць выхаванцы духоўных заўжыванняў святога Ігнація.

Што тут яшчэ дадаць? Пад пераменлівай гегемоніяй розных навук і мастацтваў Гульня выкшталцілася ў нейкую універсальную мову, якою можна выяўляць каштоўнасці духу ў асэнсаваных знаках і падпрагаць іх разам. Ва ўсе поры Гульня была цесна звязана з музыкай і часцей за ўсё вялася па музычных і матэматычных правілах. Пры гэтым называліся адна, дзве, тры тэмы, пасля іх разыгрывалі, вар'іравалі, развівалі як фугу ці музычную фразу канцэрта. Гульня магла, напрыклад, зыходзіць з пэўнай астранамічнай канфігурацыі або з тэмы Бахавай фугі, з фразы Лейбніца ці Упанішад, далей жа, у залежнасці ад задумы і здольнасцяў гульца, дакляраваная галоўная думка магла развівацца і шырыцца або ўзбагачацца ў сваёй выяўленчасці праз водгаласы роднасных ёй уяўленняў. Калі таму, хто пачынаў, удавалася, напрыклад, у знаках Гульні ўстанавіць паралелі паміж класічнай музыкай і формулай фізічнага закона, дык у спрактыкаванага майстра Гульня, пачынаючы з выходнай тэмы, развівалася свабодна ў бязмежных камбінацыях. У адной школе доўга любілі супастаўленні, супрацьпастаўленні і, нарэшце, гарманічныя спалучэнні ўзаемна варожых тэм і ідэй, напрыклад, закона і свабоды, індывідуума і супольнасці, прычым асаблівая ўвага аддавалася таму, каб абедзве тэмы або абодва тэзісы развіваліся на абсалютна парытэтных правах, без ніякіх дыскрымінацый, і каб з тэзіса і антытэзіса ў як мага чысцейшым выглядзе быў высналены сінтэз. Увогуле, калі не лічыць геніяльных выключэнняў, Гульні, якія заканчваліся негатыўным або песімістычным, дысгарманічным акор-

дам, любові не здабывалі; часам іх нават забаранялі, што дыктавалася сэнсам, які набыла Гульня на вяршыні славы для сваіх прыхільнікаў. Яна азначала выштукаваную, сімвалічна шматзначную форму пошукаў дасканаласці, высокую алхімію, набліжэнне да адзінства ў сабе і вышэй за ўсе вобразы і мноствы духу, гэта значыцца — да бога. Як дабрамысныя філосафы ранейшых эпох уяўлялі сабе жыццё створаным сусветам у памкненні да бога і бачылі мноства з'яў свету завершаным і да канца прадуманым толькі ўнутры боскага адзінства, так складваліся, музыцыравалі і мудравалі фігуры і формулы Гульні ў пацеркі на сусветнай мове, выкармленай усімі навукамі і мастацтвамі, у танцы імкнучыся да Дасканаласці, да чыстага Быцця, да глыбокай, поўнай Існасці. Сярод майстроў хадзіла слоўца «рэалізаваць», і свае дзеянні яны лічылі шляхам ад станаўлення да быцця, ад магчымага да існага. Дазволім сабе ў гэтым месцы яшчэ раз прыгадаць памянёнае вышэй выказванне Мікалая Кузанскага.

Дарэчы, паняцці хрысціянскага багаслоўя, як што яны былі класічна сфармуляваныя і тым самым, здавалася, зрабіліся агульным культурным здабыткам, вельмі натуральна ўпісаліся ў мову Гульні; у яе аднолькава лёгка ўключаліся як асноўныя паняцці веры, біблейскае маўленне, выказванне святога або лацінская цытата з месы, так і геаметрычная аксіёма або мелодыя Моцарта. Мы не перабяром лішняга, калі скажам, што для вузкага кола сапраўдных майстроў Гульня была ўсё роўна што набажэнства, хоць ад стварэння сваёй тэалогіі яна ўстрымалася.

У барацьбе за сваё існаванне сярод варожых зямных сіл Гульня шкляных перлаў і Рымская царква надта відавочна аказваліся саюзнікамі, каб можна было дапусціць да іх сутыкнення, хоць прычын на тое было болей чым дастаткова, бо і там і тут інтэлектуальная сумленнасць і шчырае імкненне да яснай адназначнай фармулёўкі якраз і штурхалі да разладу. Але да разладу яшчэ не дайшло. Рым то спрыяў Гульні, то асуджаў яе і гэтым удастаткоўваўся; у кангрэгацыях і сярод вышэйшага кліру самыя светлыя галовы не цураліся Гульні. Ды і сама Гульня, з таго часу як Гульні сталі адкрытыя і быў назначаны Magister Ludi, была пад аслонай і апекай Ордэна і Выхаваўчай калегіі, а той і тая ў адносінах да Рыма заўсёды былі — сама ры-

царскасць. Папа Пій XV, які, яшчэ ў сваім кардынальстве, праславіўся як вопытны і руплівы майстар Гульні, а як стаў папам, дык не толькі, як і папярэднікі, назаўсёды развітаўся з Гульнёй, але і спрабаваў з ёю змагацца, — ледзь не дайшло да забароны католікам удзельнічаць у Гульнях. Але папа памёр раней, чым рашэнне было прынята канчаткова, і толькі адна вядомая біяграфія гэтага няпростага чалавека малюе яго адносіны да Гульні як глыбокую заўзятасць, якую ён, ужо папам, спадзяваўся прытушыць у сабе, зрабіўшыся яе ворагам.

Гульня, у якую раней свабодна гулялі адзіночкі або суполкі і якая задоўга да таго была аблашчана Выхаваўчай калегіяй, — набыла характар грамадскай арганізацыі спачатку ў Францыі і Англіі, а потым даволі хутка і ў іншых краінах. Якраз тады ў кожнай краіне былі створаны Камісіі Гульні шкляных перлаў і пастаўлены вярхоўныя кіраўнікі са званнем Магістра, а афіцыйныя гульні, якія праходзілі пад асабістым кіраўніцтвам Магістра, былі ўзведзены ў ранг духоўнага свята. Вядома, Магістр, як і ўсе высокія і вышэйшыя дзеячы інтэлектуальных сфераў, быў ананімны; за выключэннем некалькіх набліжаных асоб ніхто не ведаў яго грамадзянскага імя. Радыё і іншыя міжнародныя сродкі сувязі выкарыстоўваліся толькі ў час афіцыйных буйных Гульняў, за якія адказваў сам Magister Ludi. Апрача кіраўніцтва публічнымі гульнямі ў абавязкі Магістра ўваходзіла дбанне пра майстроў і школы Гульні і, галоўнае, найстражэйшы прагляд за развіццём самой Гульні. Толькі сусветная Камісія Магістраў вырашала пытанне (сёння гэта вялікая рэдкасць), прыняць ці не прыняць новыя знакі або формулы ў мову Гульні, пашырыць ці не спіс правілаў, пажадана ці непажадана ўключыць у яе новыя галіны ведаў. Калі разглядаць Гульню як нейкую сусветную мову інтэлектуалаў, дык гульнёвыя камісіі асобных краін пад кіраўніцтвам сваіх Магістраў — гэта нібы нешта накшталт акадэміі, якая наглядае за складам, развіццём і чысцінёй гэтай міжнароднай мовы. У кожнай краіне ёсць Архіў Гульні, інакш кажучы, спісы ўсіх папярэдне выверaных і дапушчаных сімвалаў і кодаў, лік якіх даўно ўжо пераваліў за лік старадаўніх кітайскіх іерогліфаў. Як правіла, дастатковай падрыхтоўкай для майстра Гульні лічыцца выпускны экзамен вышэйшай школы,

асабліва элітарнай школы, аднак — так яно было раней, так маўкліва дапускаецца і цяпер — патрэбны таксама і больш-менш сярэднія поспехі ў адной з вядучых галін навукі або ў музыцы.

Ледзь не кожны з пятнаццацігадовых вучняў школы эліты марыць стаць калі-небудзь членам Камісіі Гульні або нават Магістрам Гульні. Але ўжо сярод дактарантаў толькі мізэрная частка цешыць сябе марнымі мроямі актыўна паслужыцца Гульні і яе далейшаму развіццю. Затое ўсе гэтыя прыхільнікі Гульні старанна практыкуюцца ў тэорыі, у медытацыі, а ў час вялікіх Гульняў складаюць тое вузкае кола глыбокашанаваных і адданых Гульням удзельнікаў, якія і надаюць публічным гульням урачысты характар і ахоўваюць іх ад ператварэння ў нейкае дэкаратыўнае гульбішча. Для гэтых самых заўзятых знаўцаў Гульні Magister Ludi — нейкі цар ці першасвятар, ледзь не божышча.

Але для кожнага самастойнага майстра і тым болей для Магістра Гульня шкляных перлаў ёсць найперш музыкаванне, прыкладна ў духу тых слоў, якія сказаў аднойчы Ёзэф Кнэхт наконт сутнасці класічнай музыкі:

«Мы лічым класічную музыку нейкім экстрактам і сэрцам нашай культуры, бо яна ёсць найбольш выразны і характэрны жэст яе. У гэтай музыцы мы бачым спадчыну антычнасці і хрысціянства, дух светлага і мужнага дабралюбства, непераўзыдзеную рыцарскую этыку. Бо ўрэшце ўсякае класічнае самавыяўленне культуры — гэта сведчанне пэўнай этыкі, гэта даведзены да пластычнай выявы праваобраз чалавечых паводзін. Паміж 1500 і 1800 гадамі стваралася ўсякая музыка, стылі і сродкі яе былі самыя розныя, аднак дух ці, правільней, этычны змест яе быў адзін. Пазіцыя чалавека, якая выявілася ў класічнай музыцы, усюды тая самая, яна ўгрунтаваная на адным і тым самым спосабе пазнання жыцця, імкнецца да аднаго спосабу пераважыць выпадковае і ўзвысіцца над ім. Асноўныя рысы класічнай музыкі: веданне пра трагізм чалавечага жыцця, прыняцце чалавечага лёсу, мужнасць і яснасць! Хай гэта грацыя менуэта Гендэля ці Куперэна, або сублімiраваная да далікатнага руху пачуццёвасць, як шмат у якіх італьянцаў ці ў Моцарта, або ціхая, засяроджаная гатоўнасць да смерці, як у Баха, — гэта заўсёды нейкі супор, нейкая незастрашальнасць, нейкае рыцарства, і ва ўсім

гэтым водгук звышчалавечага смеху, неўміручай яснасці. Хай прагучыць гэта і ў нашых гульнях, ва ўсім нашым жыцці, ва ўсім тым, што мы ствараем і перажываем».

Словы гэтыя былі запісаны адным Кнэхтавым вучнем. Імі мы і завяршаем нашу нататку пра Гульню шкляных перлаў.

# ЖЫЦЦЁПІС ЁЗЭФА КНЭХТА, МАГІСТРА ГУЛЬНІ



## ПАКЛІКАННЕ

Пра паходжанне Ёзэфа Кнэхта мы нічога не даведаліся. Як і многія іншыя вучні з элітарных школ, ён альбо рана асірацеў, альбо быў узяты з неспрыяльнага асяроддзя і ўсыноўлены Выхаваўчай калегіяй. Як бы там яно ні было, лёс ухіліў Кнэхта ад канфлікту паміж сям'ёй і школай, які цяжка клаўся на плечы многіх таленавітых юнакоў і ўскладняў ім уступленне ў Ордэн, а часам надзяляў упарцістым і наравістым характарам. Кнэхт быў з тых шчаслівых, якія былі народжаныя і наперад вызначаныя для Касталіі і Ордэна, для службы ў Выхаваўчай калегіі, і, хоць ён і дачыняўся да складаных праблем духоўнага жыцця, трагедыю, якую наканавана перажыць усім прысвечаным, ён адбыў без горычы. Зрэшты, не сама трагедыя навяла нас на думку прысвяціць асобе Ёзэфа Кнэхта такія грунтоўныя даследаванні, а, бадай, тая ціхая, прасветленая, прамяністая яснасць, з якою ён ствараў свой лёс, выяўляў талент, сваю долю. Як і ў кожнага выдатнага чалавека, быў і ў яго свой daimonion[1], свой amor fati[2], але ягоны amor fati свабодны ад змрочнасці і фанатызму. Вядома, нам не дадзена зазірнуць у запаветнае, і мы не павінны забывацца, што нават самы староннi і аб'ектыўны летапісец — заўсёды паэт, а гісторыя, напісаная на паперы, — заўсёды паэзія, а яе трэцяе вымярэнне — выдумка. Мы ж зусім не ведаем, ці радасна жылі, ці пакутліва, калі ўзяць самыя яркія прыклады, скажам, Ёган Себасцьян Бах або Вольфганг Амадэй Моцарт. Моцарт дае нам прыкладам незвычайна кранальную, душэўна дакліву́ю прывабнасць рана ўсталенага генія;

[1] дэман, геній-ахоўнік (*грэч.*).
[2] любоў да (свайго) лёсу (*лац.*).

Бах — выхаваўча суцяшальнае прынящце цярпенняў і смерці як бацькоўскай волі бога. Але ж усё гэта мы бачым не з іх біяграфій або перададзеных нам сучаснікамі фактаў з іх прыватнага жыцця, а, бадай што, толькі з іх твораў, з іх музыкі. Апрача ўсяго, да таго Баха, чыя біяграфія нам вядомая і чый вобраз мы склалі сабе з яго музыкі, мы міжволі дакладаем і яго пасмяротны лёс: мы ўяўляем, быццам ён, яшчэ жывучы, ведаў і маўкліва пасмейваўся з таго, што адразу пасля смерці ўсе яго творы будуць забытыя, рукапісы загінуць як макулатура, што замест яго адзін ягоны сын зробіцца «вялікім Бахам» і пажне славу, што пасля свайго адраджэння яго музыка стане аб'ектам варварскіх непаразуменняў фельетаністычнай эпохі і гэтак далей. Гэтаксама мы схільныя прыпісваць або прыдумляць Моцарту яшчэ пры жыцці і ў сарцавіне яго такой шчодрай і здаровай творчасці пэўнае веданне пра сваю схаванасць у далонях смерці, нейкую запабеглівасць свае асуджанасці. Там, дзе гісторык разглядае творы мастацтва і навуковыя працы, ён інакш не можа, — ён разглядае іх супольна з жыццём іх творцы, як нераздымныя часткі нейкай жывой суцэльнасці. Так мы робім з Моцартам альбо Бахам, так мы робім і з Кнэхтам, хоць ён належыць да нашай, па сутнасці, нятворчай эпохі і не пакінуў пасля сябе «твораў», дасяглых да твораў тых вялікіх майстроў.

Калі мы паспрабуем апісаць жыццё Ёзэфа Кнэхта, мы непазбежна зачэпім і вопыт яго тлумачэння, і калі мы, летапісцы, вельмі шкадуем, што не маем ніякіх пацверджаных звестак пра яго апошнія гады, дык менавіта легендарнасць апошняга перыяду яго жыцця і дадала нам адвагі на даследаванне. Мы пераймаем гэту легенду і ўнутрана з ёю згаджаемся, хай яна будзе сумленная выдумка ці не будзе. Гэтак як мы нічога не ведаем пра нараджэнне і генеалогію Кнэхта, так нічога не ведалі і пра яго канец. Але ў нас няма аніякіх падстаў думаць, што канец гэты быў выпадковы. Жыццё Ёзэфа Кнэхта ў той меры, у якой яно нам вядомае, выразна бачыцца збудаванай паслядоўнасцю прыступак угору, і калі ў нашых додумках пра яго канец мы з добрай волі далучаемся да легенды і трапятліва яе прымаем, дык робім гэта таму, што распавяданае ў легендзе якраз і ёсць самая апошняя прыступка яго жыцця ў строгай адпаведнасці з папярэднімі. Мы прызнаём

таксама, што сыход гэтага жыцця ў легенду здаецца нам арганічным і заканамерным, як не выклікае сумнення існаванне свяціла, якое вечарам зайшло за небакрай, знікла з нашых вачэй. У тым свеце, у якім мы, аўтар і чытач, жывём, Ёзэф Кнэхт дасягнуў верху і здзейсніў найвышэйшае: як Magister Ludi, ён быў правадыр і прыклад для адэптаў і прыхільнікаў духоўнай культуры, ён узорна ахоўваў і памнажаў прынятую духоўную спадчыну як першасвятар таго храма, што кожнаму з нас святы. Але ён не толькі ўзвысіўся да ўзроўню Магістра, падняўся да прасторавых неабсягаў на вяршыні нашай іерархіі, — ён іх перасягнуў і перарос у тым вымярэнні, пра якое мы можам толькі пашанліва здагадвацца, і якраз з гэтай прычыны нам здаецца, што выхад яго біяграфіі за рамкі звычайных вымярэнняў і ўрэшце ператварэнне яе ў легенду цалкам адпавядае ўсяму яго жыццю. Мы схіляем галаву перад дзівам гэтага факта, радуемся з яго і не збіраемся заглыбляцца ў яго тлумачэнне. Але ў той меры, у якой Кнэхтава жыццё ёсць гісторыя, а яно сапраўды гісторыя да пэўнага дня, мы яе і будзем разглядаць як гісторыю, стараючыся перадаць паданне такім, якім яно адкрылася нам у час нашых даследаванняў.

З дзяцінства Ёзэфа Кнэхта, гэта значыць з гадоў да паступлення ў элітарную школу, нам вядома толькі адна падзея, затое важкая, яна мае сімвалічнае значэнне, бо сведчыць пра першую позву духу, пра першы акт яго паклікання, і вельмі характэрна, што першая яго паклікала не навука, а музыка. Як амаль усімі ўспамінамі пра асабістае жыццё Кнэхта, мы заўдзячаем і гэтым аднаму яго вучню па класе Гульні шкляных перлаў, які запісаў і перадаў нашчадкам шмат выслоўяў і расказаў свайго вялікага настаўніка.

У той час Кнэхту было гадоў дванаццаць-трынаццаць, і ён быў вучнем класічнай гімназіі ў гарадку Беральфінген, паблізу нагор'я Цабэрвальд, дзе ён, мусібыць, і нарадзіўся. Хоць хлопчык ужо даўно лічыўся стыпендыятам і настаўніцкая калегія, асабліва настаўнік у музыцы, разы два-тры нараівалі яго вышэйшай інстанцыі для пераводу ў школу эліты, сам ён пра гэта нічога не ведаў і ні з кім з эліты, ужо на кажучы пра Магістраў Выхаваўчай калегіі, не сустракаўся. І раптам настаўнік у музыцы (Ёзэф браў тады ўрокі на скрыпцы і лютні) паведамляе яму, што незабаўным ча-

сам, днямі, у Беральфінген на інспекцыю музычных музычных заняткаў у гімназіі прыязджае Магістр музыкі, і хай ён, Ёзэф, старанна практыкуецца, каб не ўвесці сябе і свайго настаўніка ў няёмкасць. Навіна моцна ўзрушыла хлопчыка, бо ён, вядома, добра ведаў, хто такі Магістр музыкі, ведаў, што той не так сабе з высокіх сфераў Выхаваўчай калегіі, як інспектары, якія два разы на год наведваюць гімназію, не, Магістр адзін з дванаццаці кіраўнікоў гэтай самай пашаноўнай Калегіі і самая высокая інстанцыя ва ўсіх музычных пытаннях для ўсёй краіны. І вось, Magister musicae асабіста наведае Беральфінген! На ўсім свеце для Ёзэфа існаваў толькі адзін чалавек, можа, нават больш таямнічы і неспасцігальны, — Магістр Гульні. Перад Магістрам музыкі Ёзэф загадзя трымцеў ад неверагоднай шанобы, ён уяўляў яго сабе то нейкім каралём, то чарадзеем, то як бы адным з дванаццаці апосталаў або вялікіх майстроў класічных часоў, як бы Міхаэлем Прэторыусам, Клаўдзіо Монтэвердзі, І. І. Фробергерам або Ёганам Себасцьянам Бахам, і ён гэтак жа глыбока радаваўся, як і баяўся той хвіліны, калі нарэшце вочы ягоныя ўгледзяць тое свяціла. Што адзін з паўбагоў і архангелаў, адзін з таямнічых і ўсемагутных кіраўнікоў духоўнага свету ў плоці явіцца ім тут у гарадку і ў школе, што ён, Ёзэф, убачыць яго, што Магістр, магчыма, загаворыць з ім, паэкзаменуе, паўшчувае або пахваліць — усё гэта было нешта велічнае і важнае, падобнае на цуд і незвычайнае нябеснае явіска, ды і настаўнікі казалі, што ўпершыню за колькі дзесяцігоддзяў Magister musicae наведвае Беральфінген і яго гімназію. Хлопчык маляваў сабе самыя дзівосныя карціны і найперш пышную ўрачыстасць, сустрэчу, якую ён аднойчы ўжо бачыў, калі заступаў на пасаду новы бургамістр: з духавым аркестрам і сцягамі, можа, нават з феерверкам. Кнэхтавы таварышы ўяўлялі сабе Магістраў прыезд гэтаксама. Праўда, радасць Ёзэфа крыху азмрочылася, калі ён думаў, каб самому не апынуцца небяспечна блізка да гэтага вялікага чалавека і не зганьбіцца перад такім знаўцам сваімі адказамі і граннем. Але гэты страх быў не толькі пакутлівы, ён быў і салодкі, бо ў глыбіні душы, нават самому сабе не прызнаючыся, ён лічыў блізкае свята з усімі сцягамі і феерверкамі зусім не такім цудоўным, хвалюючым, важным і насуперак усяму не такім дзівосна радасным, як тую акалічнасць,

што ён, маленькі Ёзэф Кнэхт, убачыць гэтага чалавека зусім зблізку, так што Магістр прыедзе ў Беральфінген трошкі і дзеля яго, Ёзэфа. Бо ён жа прыедзе правяраць выкладанне музыкі, а настаўнік музыкі лічыў магчымым, што экзаменаваць будуць і Кнэхта.

Але хутчэй за ўсё... ах, не! напэўна ж да гэтага не дойдзе, ды і як яно можа дайсці, — у Магістра ёсць клопат важнейшы, чым слухаць хлопчыкавы цілілікі на скрыпцы, ён пойдзе ў старэйшыя класы, там вучні іграюць лепш. З такімі думкамі Кнэхт чакаў запаветнага дня, і дзень гэты нарэшце-такі настаў і адразу расчараваў: на вуліцах не ігралі аркестры, на дамах не было ні сцягоў, ні гірляндаў, трэба было, як і штодзень, збіраць падручнікі і сшыткі і ісці на звычайны ўрок, нават у класе ён не ўбачыў ніякіх святочных знакаў. Усё было як напярэдадні. Урок пачаўся, на настаўніку быў будны каптан, і ён ні словам не згадаў пра прыезд ганаровага госця.

Але на другім ці то трэцім уроку ўсё ж яно здарылася: у дзверы пастукалі, увайшоў слуга, павітаўся з настаўнікам і паведаміў, што вучню Ёзэфу Кнэхту трэба, перш вымыўшы рукі і пачысціўшы пазногці, праз чвэрць гадзіны з'явіцца да выкладчыка музыкі. Збялеўшы ад хвалявання, Кнэхт няпэўнай ступою выйшаў з класа, убег у інтэрнат, склаў падручнікі, умыўся, прычасаўся, дрыготкімі рукамі схапіў футарал з скрыпкай і сшытак з нотамі і, не могучы праглынуць камяк у горле, патупаў да флігеля, дзе былі музычныя класы. На лесвіцы да яго падбег нехта з таварышаў і ўсхвалявана сказаў: «Вось тут табе сказалі чакаць, пакуль не паклічуць», — і паказаў на музычны клас.

Нядоўга забавілася, але Ёзэфу гэта была вечнасць, пакуль не прыйшло збавенне. Ніхто яго не клікаў, проста ў клас увайшоў чалавек, зусім ужо стары, як яму спярша здалося, невысокі, сівы, з прыгожым прасветленым тварам і празорлівымі блакітнымі вачыма, позірку якіх можна было спалохацца, аднак ён быў не толькі празорлівы, але і ясны, вясёлы — не смяяўся, не ўсміхаўся, а так вось проста прамяніўся радасцю. Стары падаў хлопчыку руку, кіўнуў, задуменна прысеў на зэдлік перад старым школьным клавірам і сказаў:

— Цябе завуць Ёзэф Кнэхт? Настаўнік, па-мойму, задаволены табою, я думаю, ён любіць цябе. Сядай, давай крыху памузыцыруем разам.

Кнэхт яшчэ да гэтага выняў скрыпку з футарала, стары ўзяў ноту «ля», хлопчык наладзіў інструмент, потым нясмела і благальна глянуў на Майстра.

— Што б табе хацелася зайграць? — спытаўся той. Але вучань нічога не адказаў, яго перапаўняла любоў да старога, ніколі яшчэ не бачыў ён такога чалавека. Ён нясмела ўзяўся за ноты, падаў іх Майстру.

— Не, — сказаў Майстар, — мне б хацелася, каб ты пайграў мне што-небудзь з памяці, не практыкаванне, а што-небудзь вельмі просценькае, што ты ведаеш, можа, песню, якая табе падабаецца.

Ёзэф сумеўся, гэты твар, гэтыя вочы зачаравалі яго, ён не мог гаварыць, ён вельмі саромеўся свайго няўцямму, ён не мог вымавіць ні слова. Майстар не падспешваў. Адным пальцам ён найграў пачатак нейкай мелодыі і зірнуў на вучня, той кіўнуў і тут жа радасна зайграў гэтую мелодыю — старадаўнюю песню, якую яны часта спявалі ў школе.

— Яшчэ раз! — сказаў Майстар.

Кнэхт паўтарыў мелодыю, а стары падыграў на фартэпіяна другі голас. На два галасы гучала цяпер у пустым класе старая песня.

— Яшчэ раз!

Кнэхт паўтарыў першы голас, а Майстар сыграў разам другі і трэці. На тры галасы гучала ў класе прыгожая даўняя песня.

— Яшчэ раз! — Майстар сыграў адразу тры галасы. — Цудоўная песня, — ціха сказаў ён. — А цяпер зайграй яшчэ раз у альце.

Кнэхт паслухмяна зайграў, Майстар задаў яму першы тон і цяпер іграў усе тры галасы разам. Зноў і зноў паўтараў: «Яшчэ раз!», і з кожным разам словы гэтыя гучалі весялей. Кнэхт іграў мелодыю ў тэнары, пад акампанемент двух ці трох супрацьпастаўленых галасоў. Так яны некалькі разоў прайгралі старадаўнюю песню; іншага паразумення цяпер і не трэба было, з кожным новым паўторам песня як бы сама сябе ўзбагачала колерамі, расцвітала. Маленькі пусты пакой, асветлены ранішнім сонцам, святочна гучаў у адказ.

Праз якую хвіліну стары раптам спыніўся.

— Можа, годзе? — спытаўся ён.

Кнэхт патрос галавой і адразу зноў зайграў, да яго тут жа далучыліся светлыя гукі трох галасоў, і чатыры галасы павялі свае тонкія, ясныя лініі, перагукаліся,

падтрымлівалі адзін аднаго, перасякаліся і ахіналі адзін аднаго дугамі і фігурамі, якія ўзнікалі з перапляценняў, аддаваліся ў палон гэтым нябачным мярэжам, музыкавалі, ціха пагойдваліся, быццам па волі нябачнага капельмайстра. Так было, пакуль Майстар, закончыўшы мелодыю, не павярнуў галавы:

— Табе спадабалася, Ёзэф?

Хлопчыкавы вочы свяціліся ўдзячнасцю, — ды і не толькі вочы, ён сам свяціўся, але не мог вымавіць ні слова.

Майстар спытаўся:

— Можа, ты ўжо ведаеш, што такое фуга?

У Кнэхта на твары адбілася сумненне. Ён няраз чуў фугі, але на ўроках іх яшчэ не разбіралі.

— Добра, — сказаў Майстар. — Тады я пакажу табе. Лепш за ўсё ты зразумееш, што гэта такое, калі мы самі створым фугу. Значыцца, так: для фугі найперш патрэбна тэма, але тэму выдумляць мы не будзем, возьмем яе з нашай песні.

Ён прайграў некалькі нот, урывачак мелодыі, які прагучаў вельмі дзіўна, нейкі абрубак без галавы і хваста. Потым сыграў тэму яшчэ раз і далей, вось пайшоў ужо першы ўступ, другі перайшоў з квінты ў кварту, трэці паўтарыў першы на актаву вышэй, чацвёрты паўтарыў другі і вырашыўся ў танальнасці дамінанты. Другая распрацоўка свабодна мадулявала ў іншыя танальнасці, трэцяя, з ухілам у субдамінанту, завяршылася пераходам у асноўны тон. Хлопчык глядзеў на разумныя белыя пальцы, бачыў, як на засяроджаным твары ціха адбівалася плынь музыкі, пакуль вочы спачывалі пад павекамі. Хлопчыкава сэрца аж калацілася ад захаплення, ад любові да Майстра, яго слых убіраў фугу, і яму здавалася, што ён упершыню слухае музыку, ён адгадваў за спалучэннямі гукаў шчасцедайную гармонію закона і свабоды, служэння і ўлады, ён аддаваў сябе і прысягаў у вернасці гэтаму Майстру, ён бачыў у тыя хвіліны, як ён сам і яго жыццё, як увесь свет упарадкаваны, асэнсаваны і вядзецца духам музыкі, і калі ігра скончылася, ён бачыў, як яго кумір, яго чарадзей і кароль яшчэ некалькі імгненняў схіляўся над клавішамі, прыплюшчыўшы вочы, з тварам, які ціха праменіўся з сябе, і хлопчык не ведаў, ці бурна радавацца ад шчасця гэтых імгненняў, ці горка плакаць па тым, што яны вось ужо і адышлі. Потым стары павольна ўстаў з

зэдліка, пранікнёна і ў той самы час невымоўна пяшчотна глянуў на яго вясёлымі блакітнымі вачыма і сказаў:

— Ніколі людзі так лёгка і хутка не сябруюцца, як калі музыцыруюць. Гэта цудоўна. Думаю, мы застанемся сябрамі, ты і я. Можа так стацца, што ты і сам навучышся складаць фугі, Ёзэф.

Сказаўшы гэта, старац падаў яму руку і пайшоў да дзвярэй, пасля павярнуўся, прывітаў яго на развітанне позіркам і лёгка кіўнуў галавой.

Праз многа гадоў Кнэхт расказваў аднаму свайму вучню: калі ён выйшаў з флігеля, дык убачыў горад і свет яшчэ больш новымі і чароўнымі, чым калі б іх упрыгожылі сцягі, вянкі, гірлянды і феерверк. Кнэхт толькі што перажыў акт свайго паклікання, якое можна было назваць таемнасцю; ён зазірнуў у свет духоўнасці, вядомы яму дагэтуль толькі з чужых слоў ды з палкіх мрояў.

Гэты свет не толькі існаваў дзесьці далёка-далёка, у мінулым ці ў прыйшласці, не, ён быў побач і ўздзейнічаў, выпраменьваў святло, пасылаў сваіх вестуноў, апосталаў, ганцоў, такіх, як гэты стары Майстар, які, зрэшты, цяпер ужо і не здаваўся Кнэхту старым. І менавіта гэты свет прыслаў аднаго з сваіх самых паважаных вестуноў, каб паклікаць яго, маленькага гімназіста! Такое было значэнне гэтай сустрэчы, прайшлі тыдні, перш чым Ёзэф усвядоміў і пераканаўся, што магічнай падзеі, якая адбылася ў тую свяшчэнную гадзіну яго паклікання, адпавядала пэўная падзея і ў рэальным свеце, што пакліканне яго было не адно даброццю і позвай душы і сумлення, але таксама дарункам і заклікам да яго зямных сіл. Бо не магло ж доўга заставацца тайнай, што візіт Майстра музыкі быў не выпадковасцю і не звычайнай інспекцыяй. Ужо некалькі гадоў Кнэхтава імя, на падставе дакладаў настаўнікаў, значылася ў спісах вучняў, прызнаных вартымі ўключэння ў эліту альбо, у кожным разе, рэкамендаваных Вярхоўнай калегіяй. А як што Кнэхта хвалілі не толькі за поспехі ў латыні і добры нораў, але асабліва яго рэкамендаваў і хваліў настаўнік музыкі, Майстар скарыстаўся службовай паездкай і на некалькі гадзін завітаў у Беральфінген, каб самому глянуць на рэкамендаванага вучня. Пры гэтым яму не так важніліся поспехі ў латыні альбо спрыт пальцаў (тут ён цалкам давяраўся на-

стаўнікам, на ўроках у якіх ён паспеў пабыць), як перакананне, што хлопчык сапраўды таленавіты музыкант у найвышэйшым сэнсе гэтага слова, надзелены дарам натхнення, дарам падпарадкавання вышэйшаму, дарам пакоры і служэння культу. Шчыра кажучы, настаўнікі, а поўнай на тое падставай, увогуле былі шчодрыя на рэкамендацыі вучняў у эліту, але ўсё-такі здаралася, што яны вылучалі якога-небудзь гімназіста па далёка не сумленных прычынах. Часам хто-небудзь з выкладчыкаў ад недахопу празорлівасці ўпарта рэкамендаваў свайго ўлюбёнца, у якога, акрамя стараннасці, славалюбства і ўмення прыстасоўвацца, нічога за душой не было. Такіх Майстар не трываў і вельмі хутка, нейкім адмысловым спосабам, угадваў, ці ўсведамляе той вучань, што цяпер вырашаецца яго лёс і будучыня; і гора таму кандыдату, які выступаў занадта спакойна, самаўпэўнена і разумна або, што яшчэ горш, пачынаў ліслівіць — такіх Майстар адпраўляў яшчэ да экзамена.

Вучань Кнэхт спадабаўся старому Майстру, нават дужа спадабаўся, ён з прыемнасцю ўспамінаў пра яго і тады, калі даўно пакінуў Беральфінген; за́пісаў і нататкаў у сваім сшытку ён не зрабіў, але запомніў шчырага і сціплага хлопчыка і адразу, як вярнуўся, сваёй рукой упісаў яго ў спіс самых здольных вучняў, праэкзаменаваных адным з членаў Вярхоўнай калегіі і прызнаных вартымі.

Пра гэты спіс — гімназісты называлі яго «Залатой кнігай», але часам і пагардліва «Каталогам выскачак» — Ёзэфу выпадала чуць у гімназіі і кожны раз на новы лад. Калі пра спіс згадваў настаўнік, хоць бы дзеля таго, каб упікнуць вучня: такому, казаў, няма чаго і думаць, каб трапіць у «Залатую кнігу», тады ў голасе яго чуліся ўрачыстыя ноткі, штосьці вельмі шанобнае, але была ў гэтым і нейкая пыха. А як здаралася, што самі вучні загаворвалі пра «Каталог выскачак», дык рабілі яны гэта расхамутана, з перабольшанай абыякавасцю. А неяк Ёзэф ад аднаго маладзёна пачуў і такое: «А што там, пляваў я на гэты ідыёцкі спіс! Спраўнаму хлопцу туды не ўшыцца, гэта ўжо я добра ведаю. Настаўнікі ўпісваюць у яго толькі зубрылаў ды падхалімаў».

Дзіўны час настаў у Ёзэфа Кнэхта пасля шчаслівай сустрэчы з Майстрам. Спачатку ён не ведаў, што з гэтай

гары залічаны да electi [1], да flos Juventutis [2], як у Ордэне называлі вучняў элітарных школ. Ён і думаць не думаў ні пра якія практычныя вынікі і адчувальныя наступствы той сустрэчы, якія паўплывалі б на яго лёс, на яго буднае жыццё, і тым часам як у настаўнікаў ён ужо быў выбранцам, як бы ўжо не іхнім, сам ён паставіўся да падзеі як да нечага, што адбылося ўсярэдзіне яго душы. Але і так гэта быў вялікі пералом у яго жыцці. Калі ў гадзіну, праведзеную з чарадзеем, і адбылося або наблізілася нешта, што ягонае сэрца прадчувала, дык усё-такі менавіта гэтая гадзіна аддзяляла ўчарашняе ад сённяшняга, мінулае ад цяперашняга і будучага. І гэта дужа нагадвала тое, як абуджаны, нават калі ён прачнуўся сярод сненых падзей, усё ж засумняваецца, што цяпер ён ужо не спіць, а яўніць. Ёсць многа розных формаў, у якіх нам расхінаецца паклікание, але сэрца і сэнс гэтай падзеі заўсёды тыя самыя: гэта абуджэнне душы, пераўтварэнне або ўзвышэнне яе; замест слоў і прадчуванняў, якія ідуць з сярэдзіны, раптам узнікае і ўрываецца заклік звонку, часцінка рэальнай існасці. Перад Ёзэфам гэтая існасць паўстала ў вобразе Майстра. Дагэтуль вядомы яму толькі як далёкае і абажальнае паўбожышча, як архангел з найвышэйшых эмпірэяў, ён паўстаў раптам у плоці, глядзеў на яго ўсёведнымі блакітнымі вачыма, сядзеў на зэдліку перад школьным піянінам, музыкаваў з ім, дзівосна музыкаваў, амаль без слоў паказаў, што такое, зрэшты, ёсць музыка, багаславіў яго і знік. Але як яно будзе далей, пра тое Кнэхт і думаць не думаў, ён усё яшчэ быў пад уладай непасрэднага ўнутранага водгуку на гэту падзею, якая ўзяла яго ўсяго цалкам. Як каліўца расліны, якая развіваецца моўчкі і непрыкметна, але раптам пачынае дыхаць на поўніцу, расці і буяць, быццам у момант дзіва яму адкрыўся закон свайго ж вобраза і з гэтай хвіліны яно імкне ўсю сваю сілу ў гэты закон, — вось так і Ёзэф, як толькі рука чарадзея кранула яго, шпарка і імкліва пачаў убірацца ў сілу, напружыў яе і адразу адчуў, як сам змяніўся, як буйна пайшоў у рост, убіраючы ў сябе новую гармонію і новыя дысанансы з навакольным светам. Бывала, на ўроках музыкі, лацыні, матэматыкі ён мог рашаць задачы, да якіх ягоным

---

[1] выбраныя (*лац.*).
[2] цвет юнацтва (*лац.*).

равеснікам было яшчэ далёка, лічыў сябе здольным да незвычайнага, а тым часам, здаралася, забываўся пра ўсё на свеце, з нейкай раней не знанай пяшчотай і самааддanасцю занурваўся ў летуценні, слухаў дождж і вецер, заваражана глядзеў на пералівы рачной вады або разглядаў кветку, нічога не разумеючы, а толькі адгадваючы, захоплены цікаўнасцю, воляй да разумення, панаджаны ад свайго «я» да блізкага, да свету, да тайны і патаемнасці, да пакутліва цудоўнай гульні выяваў.

Так, нарадзіўшыся ўсярэдзіне і разрастаючыся да сустрэчы і ўзаемнага пацвярджэння ўнутранага і знешняга, адбылося Кнэхтава пакліканне ў крыштальна чыстым выяўленні. Ён прайшоў усе яго ступені, паспытаў усё яго шчасце, зведаў усе яго страхі. Высакародны працэс не быў парушаны нясціплымі ўварваннямі, заўчаснымі адкрыццямі, — то была перадгісторыя, маладосць усякага сапраўды высакароднага розуму; у гарманічнай згодзе працавалі і раслі насустрач адно аднаму — тое, што было ўсярэдзіне, і тое, што павінна было прыйсці звонку. Калі ж у канцы гэтага працэсу Кнэхт усвядоміў сваё становішча і свой «знешні» лёс, калі настаўнікі пачалі быць з ім, як з раўнёй, нават як з ганаровым госцем, які вось-вось павінен пайсці, а аднагодкі пачалі глядзець на яго ці то з подзівам, ці то з зайздрасцю, калі сёй-той пачаў ужо назаляць яму, у нечым падазраваць яго, а некаторыя нават здзекаваліся, нават ненавідзелі, калі сябры пачалі аддаляцца і пакідаць яго, — тады ў душы ў яго такі самы працэс адрыву і адасаблення даўно ўжо закончыўся. Цяпер настаўнікі ўсё больш і больш рабіліся таварышамі, ранейшыя сябры — спадарожнікамі, якія адсталі ў дарозе, цяпер ужо ён ні ў школе, ні ў гарадку не знаходзіў сабе роўных, адчуваў сябе не на месцы, бо ўсё было прасякнута нейкім прыхаваным паміраннем, флюідам ужо мінулага, нерэальнага. Усё стала нейкім часовым, падобным на вопратку, з якой ён даўно вырас. І гэта вырастанне з гарманічнай і любімай радзімы, адыход ад счужэлай і несугучнай яму формы жыцця, гэтае чалавечае жыццё, якое перапыняецца гадзінамі самага высокага шчасця і зіхатлівым пачуццём сваёй годнасці, гэтае жыццё чалавека, што ўжо развітваецца, што ўжо адкліканы, урэшце ператварылася яму ў пакуту, у невыноснае цярпенне, бо ўжо ўсё яго пакінула. А раптам гэта ён сам пакінуў усё? Раптам ён сам вінаваты ў адчужанасці, у

паміранні такога звыклага і мілага яго сэрцу свету, вінаватыя ягоная пыха, фэнабэрыя, ягоная здрада, малая любоў ягоная. Бо сярод пакутаў, што прыносіць з сабой сапраўднае пакліканне, — гэта самая горшая. Той, хто прымае яго, прымае не толькі дар, не толькі загад, але і нейкую долю віны, як гэта бывае з салдатам, якога вывелі з строю, дзе ён стаяў поплеч з другімі, і прызначылі афіцэрам, і такое прызначэнне тым больш справядлівае, чым большым адчуваннем віны, нават нячыстага сумлення ён расплачваецца за яго перад таварышамі.

Тым часам на Кнэхтаву долю выпала шчасце перажыць гэты працэс без лішніх завад пры поўным няведанні: калі педагагічная рада паведаміла яму пра тое, што яго неўзабаве перавядуць у школу эліты, дык у першы момант ён сумеўся, але ўжо адразу гэтая навіна, якая звалілася на яго так неспадзявана, здалася яму нібы нечым даўно вядомым і чаканым. Толькі тады ён успомніў, што ўжо каторы тыдзень яму ўслед кідалі смешку: «electus», то бо «элітны». Ён, праўда, чуў гэта слова, але больш краем вуха, і прымаў яго толькі за жарт. Не «выбранцам» яго хацелі назваць, а як бы крычалі: «Эй, ты, не думай, што ты electus!» Часам ён цяжка перажываў ад такіх выбухаў адчужанасці паміж сабою і таварышамі, сам жа на сябе ніколі не глядзеў, як на «выбранца», у сваім пакліканні ён не бачыў ніякага павышэння ў рангу, яму яно прагучала як унутраны заклік і падбадзёрка. І ўсё ж, нягледзячы ні на што, ці ж не ведаў ён гэтага раней, ці не прадчуваў, ці не адчуваў тысячу разоў? І вось яно выспела, ягоныя захапленні пацверджаныя і ўзаконеныя, пакуты не пайшлі намарна, да нясцерпу цесную вопратку можна нарэшце здзець, бо вось ужо гатова новая.

З пераходам у эліту Кнэхтава жыццё як бы перасадзілі ў іншую глебу, першы вырашальны крок у яго развіцці быў зроблены. Зусім не ва ўсіх вучняў эліты афіцыйны перавод супадае з унутраным адчуваннем прызвання. Такое супадзенне — гэта міласць, або, кажучы банальна, шчаслівы выпадак. Жыццё таго, каму гэта прыпадае, мае пэўныя перавагі, як жыццё тых людзей, якія праз шчаслівы выпадак надзелены адметнымі цялеснымі або духоўнымі якасцямі. Большасць вучняў

эліты, нават амаль ці не ўсе, прымаюць сваё выбранне як вялікае шчасце, як нейкае вылучэнне, якім яны ганарацца; многія задоўга да гэтага палка прагнуць яго. I ўсё ж пераход са звычайнай, роднай школы ў школу Касталіі большасць выбранцаў перажывае цяжэй, чым яны самі гэтага чакалі, пераход гэты нясе з сабою не адно расчараванне. Тым вучням, дзяцінства якіх праходзіла шчасліва і якія ў сям'і былі аблашчаны любоўю і мілатою, пераход падобны на цяжкую ростань, як на адцураннe, адпрэчку, што вядзе, асабліва ў першыя два гады, да вяртання многіх у звычайную школу. I бывае гэта не таму, што не хапае таленту ці руплівасці, ■ ад немагчымасці змірыцца з жыццём у інтэрнаце, а галоўнае, з думкай, што ў будучым трэба будзе рваць повязі адну за адной: з радзімай, з сям'ёй, і што ўрэшце ён не будзе ведаць ужо ніякіх повязяў, акрамя повязяў Ордэна. Ёсць і іншы тып вучняў — яны, наадварот, не маючы бацькоўскага дома і вырваўшыся з абрыдлай школы, разглядаюць гэта як галоўную мэту пераходу: вырваўшыся з-пад цівунства строгага бацькі і нянáвіднага настаўніка, яны ўздыхаюць вольна, але чакаюць такіх вялікіх і неверагодных перамен ва ўсім сваім жыцці, што неўзабаве настае расчараванне. Зноў жа сапраўдныя ганарліўцы і першыя вучні-педанты не часта заседжваюцца ў Касталіі; не тое каб яны не даціралі ў навуках, але ў школах эліты надаюць значэнне не толькі адзнакам і ўрокам, — тут дамагаюцца выхаваўчых і мусічных мэтаў, перад якімі многія складваюць зброю. Зрэшты, у чатырох вялікіх школах эліты з іх шматлікімі аддзяленнямі і адгалінаваннямі дастаткова прасторы самым розным талентам, і стараннаму матэматыку або філолагу, калі ў яго сапраўды ёсць задаткі вучонага, няма чаго баяцца, што ў яго няма музычных або філасофскіх здольнасцяў. Апрача таго, гісторыя Касталіі ведала часіны, калі пераважалі даволі моцныя схільнасці да чыстай, цвярозай цэхавай навукі, і паборцы гэтых тэндэнцый не толькі былі крытычна і пакепліва настаўлены да «фантастаў», гэта значыць да сяброў музыкі і муз, але часам у сваім коле цураліся ўсяго, што ад муз, і асабліва Гульні шкляных перлаў.

А як што Кнэхтава жыццё, наколькі яно вядомае нам, усё цякло ў Касталіі, у самым ціхім і прыветлівым куточку нашай горнай краіны, які раней пазначалі таксама выразам, узятым у паэта Гётэ, — «Педагагічная

правінцыя», дык, расказваючы даўно вядомае і рызыкуючы надакучыць чытачу, усё ж збольшага акінем гэту славаслаўную Касталію і структуру яе школ. Школы гэтыя, званыя дзеля прастаты элітарнымі, даюць нам узор мудрай і гнуткай сістэмы адбору, дзякуючы якой кіраўніцтва (так званая Вучоная рада з дваццаці радцаў, дзесяці ад Выхаваўчай калегіі і дзесяці ад Ордэна) выбірае ва ўсіх канцах і школах краіны найбольш здольных вучняў для Ордэна і на самыя важныя пасады выхаваўчай і навуковай арганізацыі. Раскіданыя па краіне звычайныя школы, гімназіі і г. д., хай гуманітарнага, хай прыродазнаўча-тэхнічнага кірунку, для больш чым дзевяці дзесятых нашай навучэнцкай моладзі не што іншае, як падрыхтоўка да так званых свабодных прафесій. Навучанне ў іх завяршаецца выпускным экзаменам, які дае права паступіць у вышэйшую школу, дзе студэнты праходзяць курс адпаведнай спецыяльнасці. Такі традыцыйны, усім вядомы працэс навучання, і школы, як звычайная, так і вышэйшая, ставяць перад вучнямі патрабаванні строгасці, калі магчыма адсейваючы зусім няздольных. Але побач з гэтымі школамі або пад імі існуе і сістэма элітарных школ, у якія прымаюцца, абавязкова з выпрабавальным тэрмінам, толькі вучні выключных здольнасцяў і характару. Доступ у гэтыя школы рэгламентуецца не экзаменамі: вучняў у эліту выбіраюць настаўнікі і рэкамендуюць Калегіям Касталіі. Калі хлопчыку спаўняецца адзінаццаць-дванаццаць гадоў, яму аб'яўляюць, што ў наступнае паўгоддзе ён можа перайсці ў кастальскую школу і павінен сур'ёзна падумаць, ці адчувае ён сябе да гэтага пакліканым і гатовым. Калі ў канцы тэрміну вучань згаджаецца, прычым патрабуецца і згода бацькоў, дык яго пераводзяць на праверку ў элітарную школу. Кіраўнікі і старэйшыя педагогі гэтых школ (ні ў якім разе не універсітэцкія прафесары) утвараюць так званую Выхаваўчую калегію, якая кіруе ўсімі педагагічнымі і інтэлектуальнымі арганізацыямі ў краіне. Хто раз увайшоў у эліту, дык у тым выпадку, калі ён ні на адным курсе не выявіць сваёй нямздатнасці і не будзе вернуты ў звычайную школу, хай і думаць не думае пра спецыяльнасць і заробак. З вучняў эліты рэкрутуецца Ордэн і іерархія вучоных Калегій — ад школьнага настаўніка да самых высокіх пасад: дванаццаці дырэктараў, або Майстроў, і кіраўніка Гульні шкляных перлаў — Ма-

гістра Гульні. Звычайна да дваццаці двух — дваццаці пяці гадоў курс навучання ў элітарнай школе завяршаецца прыёмам у Ордэн. З гэтага дня перад былымі вучнямі эліты адчынены дзверы ва ўсе навучальныя ўстановы і даследчыя інстытуты Ордэна і Выхаваўчай калегіі: у іх руках вышэйшыя элітарныя школы, бібліятэкі, архівы, лабараторыі і ўсякае такое іншае разам з цэлым штабам настаўнікаў, а таксама ўсе органы Гульні. Калі падлетак выяўляе адмысловую адоранасць у якой-небудзь спецыяльнай галіне — у лінгвістыцы, філасофіі, матэматыцы або ў чым-небудзь іншым, дык яго на адной з вышэйшых ступеняў элітарнай школы пераводзяць на той курс, дзе ён можа найбольш поўна развіць свае здольнасці; большасць такіх вучняў робяцца пазней выкладчыкамі спецыяльных дысцыплін у агульнадаступных школах і вышэйшых навучальных установах і, нават калі пакідаюць Касталію, пажыццёва застаюцца членамі Ордэна. Гэта азначае, што яны мусяць захоўваць строгую дыстанцыю паміж сабой і «звычайнымі» (гэта хто не вучыўся ў элітарнай школе) і ніколі не могуць — хіба што выйдуць з Ордэна — стаць прадстаўнікамі «свабодных прафесій»: урачамі, адвакатамі, інжынерамі і гэтак далей. Усё жыццё яны падпарадкоўваюцца правілам Ордэна, да якіх найперш адносяцца бясшлюб'е і адмаўленне ад уласнасці; з доляй пагарды і павагі народ празваў іх «мандарынамі». Менавіта такім чынам большасць былых вучняў эліты знаходзіць сваё канчатковае прызванне. Аднак самая малая іх частка, выбраныя сярод выбраных з кастальскіх школ, прысвячаюць сябе без абмежавання тэрміну свабодным навуковым заняткам, сузіральніцкаму духоўнаму жыццю. Некаторыя адораныя маладыя людзі, якія ад неўраўнаважанасці характару або ад фізічных недахопаў не пасуюць на ролю настаўніка, на адказныя пасады ў ніжэйшых або вышэйшых установах Выхаваўчай калегіі, вядуць далей сваё навучанне, даследаванні і збор матэрыялаў і з'яўляюцца пенсіянерамі Калегіі; карысць грамадству ад іх — у іх навуковых працах. Некаторыя пры гэтым кансультуюць у слоўнікавых камісіях, у архівах, бібліятэках і гэтак далей, іншыя аддаюцца заняткам пад дэвізам «l'art pour l'art» [1], і ўжо ці адзін касталец прысвяціў сваё жыццё даволі абстрактнай і часам

[1] мастацтва дзеля мастацтва (*франц.*).

дзіўнай працы, як скажам: вядомы Lodovicus Crudelis[1], які пераклаў за трыццаць гадоў старажытнаегіпецкія тэксты на грэцкую мову і зноў жа на санскрыт, або дзівакаваты Chattus Calvensis [2], які пакінуў пасля сябе чатыры ёмістыя рукапісныя фаліянты пад назвай «Вымаўленне лаціны ў вышэйшых школах паўднёвай Італіі ў канцы XII стагоддзя». Праца гэтая была задумана як першая частка «Гісторыі вымаўлення лаціны ад XII да XVI стагоддзяў, аднак, нягледзячы на аб'ём у тысячу рукапісных старонак, засталася фрагментам і нікім не была прадоўжана. Зразумела, што наконт вучоных заняткаў такога роду хадзіла шмат вострых досціпаў, аднак сапраўдная каштоўнасць такіх заняткаў для будучыні навукі і для ўсяго народа не паддаецца ўліку. Бо сама ж навука, гэтаксама як у былыя часы мастацтва, мае патрэбу, так сказаць, у прасторных пашах, і бывае, напрыклад, што даследчык якой-небудзь тэмы, якою ніхто, акрамя яго, не цікавіцца, назапашвае веды, якія могуць паслужыць яго калегам-сучаснікам як слоўнік ці архіў. У той меры, у якой гэта было магчыма, такія працы нават друкаваліся. Вучоным давалася ледзь не поўная свабода як на занятк, так і на гульню, і нікому не здавалася заганаю, напрыклад, што некаторыя працы яўна не выцягвалі ні на якую непасрэдную карысць народу і грамадству, нават больш, павінны былі здавацца прафанам марнатраўствам і пустой забавай. Адзін такі вучоны характарам сваіх заняткаў выклікаў усмешкі, але ніхто ніколі не гудзіў гэтых людзей і не пазбаўляў прывілеяў. Тое, што народ паважаў, а не толькі трываў гэта вучонае Брацтва, хоць і пацяшаўся з яго ўдосыць, было звязана з тымі ахвярамі, на якія ён ішоў у імя сваёй духоўнай свабоды. У такім жыцці было шмат прыемнага: вучоныя заўсёды мелі кавалак хлеба, вопратку, дах над галавою; у іх былі выдатныя бібліятэкі, самыя розныя калекцыі і лабараторыі, затое яны назаўсёды адмовіліся ад заможнасці, ад шлюбу і сям'і і, нібы манаскае брацтва, цалкам выключыліся з агульнай канкурэнцыі, якою жыў свет. Яны не мелі ўласнасці, тытулаў і ўзнагарод, а што да матэрыяльных даброт — мусілі здавальняцца вельмі простым і сціплым жыццём. Калі б хто захацеў прысвяціць сябе

[1] Людовік Жорсткі *(лац.)*.
[2] Хат II з Кальва (лац.).

расшыфроўцы хоць аднаго старадаўняга надпісу — яго ніхто не стрымліваў бы, наадварот, яму як маглі б дапамагалі; але калі б ён раптам пачаў прэтэндаваць на тое, каб яшчэ і жыць на ўсю сцежу, на шыкоўную вопратку, багацце і ўшаноўлю, ён адразу натыкнуўся б на самыя моцныя засаўкі. Той, хто не мог падціснуць пояс, звычайна яшчэ зводмаладзь вяртаўся ў «свет», рабіўся настаўнікам на пенсіёне або даваў прыватныя ўрокі, аддаваўся журналістыцы або браў шлюб і ўвогуле ўладжваў сваё жыццё на свой густ.

Калі Ёзэфу Кнэхту прыйшла пара расставацца з Беральфінгенам, на вакзал правёў яго толькі настаўнік музыкі. Развітанне з ім дадало крыху жалю, а калі ўдалечыні знік пабелены зашчытак старадаўняга замка з прыступчатым дахам, сэрца ў Ёзэфа сціснулася ад адзіноты і няпэўнасці. Іншыя вучні выпраўляюцца ў такое падарожжа з куды мацнейшымі пачуццямі, у страху і з слязьмі. Але Ёзэф усёй душой ужо быў там, і таму пераезд перанёс даволі лёгка. Ды і само падарожжа не задоўжылася.

Яго накіравалі ў школу ў Эшгольц. Здымкі гэтай школы ён няраз бачыў у кабінеце ў рэктара. Эшгольц быў самы вялікі і самы малады школьны гарадок у Касталіі, будынкі сучасныя, паблізу ніякіх гарадоў, толькі невялікае сяльцо ў зелянніне, за ім шырока, роўна і прыязна раскінуўся прамавугольнік вучэбных і жылых карпусоў, пасярэдзіне якога раслі пяць мамантавых дрэў, пасаджаных як пяцёрка на косці даміно, і высока ў неба ўспіналі свае цёмна-зялёныя шаты. На шырокім пляцы былі газоны, паміж імі — дарожкі, пасыпаныя пяском; тамсама — два басейны з працечнай вадой, да якіх вялі шырокія, нізкія сходкі. Каля ўвахода на гэтую залітую сонцам плошчу стаяў вучэбны корпус — адзіны высокі будынак з двума флігелямі, у кожным з іх быў порцік з пяццю калонамі. Усе астатнія будынкі, якія з трох бакоў суцэльна абступалі пляц, былі падобныя адзін на адзін — нізкія, пляскатыя, без ніякіх аздоб. Каля кожнага корпуса віднеліся ганачкі, альтанкі з некалькімі прыступкамі, і амаль ува ўсіх альтанках стаялі вазоны.

Па кастальскім звычаі, прыезджага не сустрэў школьны службіт, і ніхто не павёў яго да рэктара або ў на-

стаўніцкую: яго сустрэў шкаляр, рослы, прыгожы хлопец у гарнітуры з блакітнага палатна, на некалькі гадоў старэйшы за Ёзэфа, ён падаў руку і сказаў:

—Я Оскар, старэйшы ў корпусе «Элада», дзе ты будзеш жыць, мне даручана вітаць цябе і пазнаёміць з нашымі парадкамі. У школе цябе чакаюць толькі заўтра, ёсць час разгледзецца, ты хутка прывыкнеш. Але прашу цябе, на першым часе, пакуль абвыкнешся, лічы мяне сваім сябрам і настаўнікам, калі хочаш, нават абаронцам, на той выпадак, калі хто-небудзь з таварышаў намерыцца пакрыўдзіць цябе. Бо некаторыя лічаць патрэбным крыху памучыць новенькага. Нічога страшнага, гэта я табе абяцаю. А цяпер я цябе напачатку завяду ў «Эладу», адразу і пабачыш, дзе табе жыць.

У такой традыцыйнай манеры Оскар, назначаны радай корпуса ў настаўнікі Ёзэфу, прывітаў новага, старагочыся выдатна выканаць даручэнне. Звычайна такая роля падабаецца старшакласнікам, а ўжо калі пятнаццацігадовы хлопец хоча заваяваць сімпатыі ў трынаццацігадовага давяральнасцю і апякунскім тонам, дык гэта яму, часцей, удаецца. З Ёзэфам у першыя дні настаўнік абыходзіўся як з дарагім госцем, які, калі б ужо заўтра яму давялося з'ехаць, павінен быў павезці з сабой найлепшае ўражанне пра дом, дзе ён гасціў, і пра яго гаспадара.

Найперш Ёзэфу паказалі спальню, дзе апрача яго спалі яшчэ два хлопчыкі, пачаставалі сухарамі і шклянкай фруктовіку, правялі па ўсёй «Эладзе» — жылым корпусе вялікага прамавугольніка. Паказалі, дзе ў душы павінен вісець ягоны ручнік, у якім кутку ставіць вазоны, калі ён захоча іх разводзіць; потым, яшчэ да змяркання, завялі ў пральню да кашталяна, дзе памералі і выбралі яму гарнітур з блакітнага палатна. Ёзэф і праўда адчуў сябе добра ў Эшгольцы і ахвярна прыняў Оскараў тон; у яго паводзінах амаль не відно было нясмеласці, хоць ён і глядзеў на свайго юнага настаўніка, які даўно ўжо прыжыўся ў Касталіі, як на паўбога. Яму падабалася і пэўная выхвалка і поза ў Оскары, калі, напрыклад, той уплятаў у гаворку якую-небудзь рафінаваную грэцкую цытату і тут жа перапрошваў: новенькі, бач, яшчэ не ўсё яму да цяму, вой, ды і ці разумна патрабаваць ад яго гэтага!

Зрэшты, у інтэрнацкім жыцці Кнэхту не было нічога новага, і ён спакойна ў яго ўключыўся. Відавочна, да

нас не дайшлі шмат якія важныя падзеі з эшгольцкіх гадоў Кнэхта; праўда, страшны пажар у школьным корпусе ўспыхнуў ужо, бадай што, пасля яго. Адзнакі, а іх удалося знайсці, сведчаць пра выдатныя поспехі ў музыцы і лаціне; у матэматыцы і грэчаскай поспехі крыху вышэй за сярэднія. У дзённіку «Элады» нам удалося знайсці некалькі запісаў пра Кнэхта, прыкладна такіх: «ingenium valde capax, studia non angusta, mores probantur»[1] або «ingenium felix et profectuum avidissimum moribus placet officios»[2]. Якімі карамі яго каралі, высветліць ужо нельга — кніга запісаў згарэла з многімі іншымі ў пажары. Адзін яго аднакласнік ужо многа пазней казаў, быццам за ўсе чатыры гады Кнэхта каралі ўсяго раз (яго пазбавілі права на суботні шпацыр) за тое, што ён упарта адмаўляўся назваць імя таварыша, які нешта там натварыў. Расказ гэты здаецца нам падобным на праўду: несумненна, Кнэхт заўсёды быў таварышаваты, ніколі не добрыўся перад вышэйшым, але што гэтае пакаранне было адзінае за ўсе чатыры гады, нешта не верыцца.

Як у нас амаль няма дакументаў пра першыя гады Кнэхтавага жыцця ў школе эліты, то мы працытуем запіс адной ягонай лекцыі пра Гульню шкляных перлаў, прачытанай, вядома ж, пазней. На жаль, запісаў самога Кнэхта да гэтых лекцый, прачытаных аматарам-пачаткоўцам Гульні, няма; іх застэнаграфаваў адзін вучань Майстра паводле яго вольнай імправізацыі. Кнэхт расказвае ў гэтым месцы пра аналогіі і асацыяцыі ў Гульні і вылучае «ўзаконеныя», гэта значыць, агульназразумелыя, і «прыватныя», ці суб'ектыўныя, асацыяцыі. «Каб прывесці вам прыклад гэтых прыватных асацыяцый, — гаварыў ён, — якія зусім не трацяць свайго значэння для прыватнай асобы таму, што яны катэгарычна забароненыя ў Гульні, я раскажу вам пра адну такую асацыяцыю, якая ўзнікла ў мяне самога, калі я хадзіў яшчэ ў школу. Мне было тады гадоў чатырнаццаць, і сталася гэта рана ўвесну, у лютым ці то сакавіку. Аднойчы папаўдні таварыш клікнуў мяне пайсці з ім нарэзаць галінак конскага бэзу — ён хацеў нарабіць з іх трубак на маленькі вадзяны млын. І вось мы

[1] «розум даволі ўспрымальны, заняткі не благія, паводзіны вартыя ўхвалы» (*лац.*).

[2] «розум адораны і надзвычай прагны да новых поспехаў, здабывае прыхільнасць сваёй абавязковасцю» (*лац.*).

пайшлі, і, відаць, выдаўся дужа пагодны дзень альбо, можа, у мяне на душы неяк распагодзілася, бо дзень гэты асеў у маёй памяці з невялікай, але важнай падзеяй. Снег ужо растаў, палеткі ляжалі сырыя, уздоўж ручаёў і равоў сям-там ужо празяленьвала, папоканыя пупышкі і першыя коцікі на голых кустах ахінулі ўсё ў зеленаватае мроіва, паветра было напоена самымі рознымі пахамі, пахам самога жыцця, поўным супярэчнасцяў: пахла сырою зямлёй, прэлым лісцем і маладымі росцікамі, здавалася, вось-вось пачуеш і пах фіялак, хоць фіялкам было яшчэ ранавата. Мы падышлі да кустоў конскага бэзу, абсыпаных малюпасенькімі пупышкамі, лісцікі яшчэ не прарэзаліся, а калі я сцяў галінку, мне ў нос хукнуў гаркава-саладжавы рэзкі пах. Здавалася, ён увабраў у сябе, зліў і ў шмат разоў памацніў усе іншыя пахі вясны. Я быў ашаломлены, я нюхаў нож, руку, галінку... Гэта быў бэзавы сок, ён самахоць разліваўся пахам. Мы не сказалі ні слова, але мой таварыш доўга і задуменна глядзеў на галінку і некалькі разоў падымаў яе да носа: значыць, і яму нешта гаварыў гэты пах. У кожнай сапраўднай падзеі, якая спараджае нашы перажыванні, ёсць сваё чарадзейства, а ў гэтым выпадку маё перажыванне было ў тым, што, калі мы ішлі і пад нагамі хлюпала твань, калі я ўдыхаў пахі сырой зямлі і ліпкіх пупышак, вясна абрынулася на мяне і напоўніла шчасцем, а цяпер гэта сканцэнтравалася, набыло сілу чарадзейства ў фартысіма паху конскага бэзу, зрабілася пачуццёвым сімвалам. Нават калі б мая тагачасная маленькая прыгода, мае перажыванні на гэтым і закончыліся, бэзавага паху ніколі я не забыўся б; хутчэй за ўсё, кожная новая сустрэча з ім да апошніх дзён маіх будзіла б ува мне ўспаміны пра тую першую сустрэчу, калі я ўпершыню свядома перажыў гэты пах. Але тут дадалося і нешта яшчэ. Прыкладна ў той самы час я ўбачыў у свайго настаўніка музыкі стары нотны сшытак з песнямі Франца Шуберта, які вельмі мяне зацікавіў. Аднаго разу, чакаючы, калі пачнецца ўрок, я перагортваў яго, і на маю просьбу настаўнік дазволіў мне ўзяць на некалькі дзён ноты. У вольны час я адчуваў шчасце адкрыцця, бо да таго я яшчэ ніколі не чуў Шуберта, і цяпер быў цалкам зачараваны ім. І вось, ці то ў дзень, калі мы пайшлі па конскі бэз, ці то на другі, я раптам натыкнуўся на Шубертаву песню «Пяшчотны ветрык зноў

прачнуўся». Першыя акорды акампанементу ашаламілі мяне радасцю пазнавання: яны быццам пахлі, як зрэзаная галінка конскага бэзу, гэтаксама гаркава-саладжава, гэтаксама і пераможна, як сама ранняя вясна. З гэтай хвіліны для мяне асацыяцыя — ранняя вясна — пах конскага бэзу — шубертаўскі акорд — ёсць велічыня пастаянная і абсалютна дзейсная, варта мне ўзяць акорд, як я абавязкова і адразу чую церпкі пах конскага бэзу, а тое і другое ў мяне азначае раннюю вясну. У гэтай прыватнай асацыяцыі я здабыў нешта цудоўнае, чаго ні за якія даброці не аддам. Аднак сама асацыяцыя, абавязковая ўспышка двух пачуццёвых перажыванняў пры думцы «ранняя вясна» — гэта мая прыватная справа. Вядома, я магу расказаць пра гэта іншым, як толькі што расказаў вам. Але перадаць яе вам я не магу. Я магу растлумачыць вам, расталкаваць, якая ўзнікае ў мяне асацыяцыя, але я не магу зрабіць так, каб мая прыватная асацыяцыя выклікала хоць у каго-небудзь з вас такую самую, стала своеасаблівым механізмам, які б рэагаваў на ваш выклік абсалютна так і заўсёды аднолькава».

Другі Кнэхтаў аднадумнік, які пазней даслужыўся да першага Архівіста Гульні шкляных перлаў, расказваў, што Ёзэф Кнэхт быў хлопчык, схільны да ціхай радасці, у час музыцыравання на твар яго находзіў выраз дзіўнай самазабыццёвасці, рэзкім або парывістым яго бачылі вельмі рэдка, хіба што ў рытмічнай гульні ў мяч, якую ён вельмі любіў. Але некалькі разоў гэты прыветлівы і здаровы хлопчык усё ж звяртаў на сябе ўвагу, выклікаў насмешкі або трывогу. Здаралася гэта звычайна пасля таго, як якога-небудзь вучня пераводзілі з элітарнай школы ў звычайную, што часта вымагалася неабходнасцю, асабліва на пачатковым этапе. Калі першы раз здарылася, што адзін таварыш не прыйшоў на заняткі, не было яго і на гульнях, а на другі дзень пайшлі чуткі, што ён зусім не хворы, а выключаны, ужо з'ехаў і ніколі не вернецца, Кнэхт не проста засмуціўся, а цэлы дзень хадзіў сам не ў сабе. Праз шмат гадоў ён растлумачыў гэта так: «Калі з Эшгольца выключалі равеснікаў, я кожны раз успрымаў гэта як смерць чалавека. Калі б у мяне папыталіся прычыну майго гора, я адказаў бы, што глыбока спагадаю няшчасным, якія з легкадумства ці ляноты загубілі сваю будучыню. Да гэтага майго пачуцця, бадай што,

дамешваўся і страх, каб і са мной не зрабілася нешта такое. Толькі пераЖЫЎШЫ гэта некалькі разоў і, па сутнасці, ужо не верыў, што такі ўдар лёсу можа спасцігнуць і мяне, я пачаў глядзець крыху глыбей. Я пачаў успрымаць выключэнне таварыша не толькі як няшчасце і кару: я ж ужо ведаў, што выключаныя часам і самі ахвотна вярталіся дамоў. Цяпер я адчуваў, што ўсё тут не толькі ў судзе і пакаранні легкадумства, а што свет недзе за межамі Касталіі, з якога мы, electi, калісьці прыйшлі сюды, зусім не перастаў існаваць, як мне здавалася, і што некаторым ён быў сапраўднай і вялікай рэальнасцю, якая надзіць іх да сябе і нарэшце-такі зусім забірае. І магчыма, гэты «свет» існаваў зусім не адзінкам, а ўсім, і не ўстаноўлена, што далёкі гэты свет вабіць толькі слабых і няздатных. Можа быць, гэта ўяўнае падзенне зусім і не падзенне, а скачок, адважны ўчынак: магчыма, менавіта мы, хто дабрамысна застаецца ў Эшгольцы, і ёсць слабыя, і труслівыя». Ніжэй мы ўбачым, што такія думкі не пакідалі яго і пазней.

Вельмі радавалі Кнэхта сустрэчы з Майстрам музыкі. Раз у два-тры месяцы той наязджаў у Эшгольц, бываў на ўроках музыкі, часам гасцяваў па некалькі дзён у аднаго тамтэйшага педагога, з якім яго звязвала дружба. А аднаго разу ён нават сам кіраваў апошнімі рэпетыцыямі вячэрні Монтэвердзі. Аднак асноўную ўвагу ён аддаваў адораным вучням, і Кнэхт быў той, каму ён удзяліў сваёй бацькоўскай дружбы. У кожны прыезд ён гадзінамі праседжваў з Ёзэфам за інструментам, разам з ім вывучаў творы сваіх любімых кампазітараў або разбіраў з старых падручнікаў кампазіцыі. «Разам з Майстрам музыкі пабудаваць канон або слухаць, як ён прыводзіць ad absurdum[1] дрэнны, таіла ў сабе нейкую ні з чым не параўнаную ўрачыстасць або нават вясёласць, часам я ледзьве стрымліваў слёзы, часам не мог суняць смеху. Пасля прыватнага музыцыравання з ім у мяне бывала адчуванне, быццам я вяртаўся з купання ці масажу».

Напрыканцы вучобы ў Эшгольцы — Кнэхт і прыкладна дзесятак іншых вучняў пераходзілі ў школу наступнай ступені — рэктар сказаў перад кандыдатамі традыцыйную прамову, у якой яшчэ раз растлумачыў сэнс і законы кастальскіх школ, і ад імя Ордэна

[1] да абсурду (*лац.*).

паказаў вучням далейшую дарогу, у канцы якой яны здабудуць права ўступіць у Ордэн. Гэта ўрачыстая казань была як бы часткай свята, якое школа зладзіла ў гонар сваіх выпускнікоў і на якім настаўнікі і аднакласнікі абыходзіліся з імі як з дарагімі гасцямі. У такі дзень выконваюцца старанна падрыхтаваныя канцэрты — гэтым разам спявалі вялікую кантату семнаццатага стагоддзя, і сам Майстар музыкі прыйшоў паслухаць яе. Пасля рэктаравай прамовы, калі ўсе пераходзілі ў святочна ўбраную сталовую, Кнэхт падышоў да Майстра з пытаннем:

— Рэктар расказваў нам, як жывуць і вучацца ў звычайных школах па-за Касталіяй. Ён кажа, што выпускнікі там, калі паступаюць ва універсітэт, выбіраюць сабе «свабодную» прафесію. Як я зразумеў, гэта, галоўным чынам, такія прафесіі, якіх мы ў Касталіі зусім не ведаем. Як гэта разумець? І чаму яны называюцца «свабоднымі»? Чаму мы, кастальцы, не маем права выбіраць іх сабе?

Magister musicae ўзяў хлопца пад руку і спыніўся пад мамантавым дрэвам. Хітраватая ўсмешка сабрала каля вачэй сетку маршчынак, калі ён адказаў:

— Цябе завуць «Кнэхтам», дарагі мой, «слугою», можа, якраз слова «свабодны» такое табе панаднае. Не бяры гэтага надта да душы! Калі кастальцы кажуць пра свабодныя прафесіі, словы гэтыя, магчыма, і гучаць сур'ёзна, нават узнёсла. Але мы іх вымаўляем іранічна. Свабода гэтых прафесій толькі ў тым, што вучань сам іх сабе выбірае. Гэта і стварае свабоду на блізір, хоць у большасці выпадкаў не так вучань, як яго бацькі робяць за яго выбар, і ёсць шмат бацькоў, якія гатовыя хутчэй адкусіць сабе язык, чым даць сыну сапраўды свабодна выбіраць. Але ўсё гэта, можа, і няпраўда, і таму адкінем гэты аргумент! Дапусцім, свабода гэтая існуе, але ў такім разе яна абмежаваная адно актам выбару прафесіі. На гэтым яна і канчаецца. У вышэйшай школе будучы ўрач, юрыст, інжынер вучыцца па строгай і даволі вузкай праграме, якая завяршаецца некалькімі экзаменамі. Здаўшы іх, студэнт атрымлівае дыплом і тады ўжо нібыта свабодна прысвячае сябе выбранай прафесіі. На самай справе ён ператвараецца ў раба нізкіх сіл: ён залежыць ад поспеху, грошай, ад свайго гонару, прагі славы, ад таго, падабаецца ён людзям ці не. Ён павінен падпарадкоўвацца цырымоніі

выбараў, зарабляць грошы, ён удзельнічае ў барацьбе розных кастаў, сем'яў, партый, газет, у бязлітаснай барацьбе. Але затое ён вольны заваяваць сабе поспех, дабрабыт і здабыць нянавісць тых, хто гэтага поспеху не займеў, і наадварот. З вучнем элітарнай школы, які робіцца членам Ордэна, нічога такога не здараецца. Ён не «выбірае» сабе спецыяльнасць. Ён не лічыць сябе здольным лепш разабрацца ў сваіх талентах, чым яго настаўнікі. У іерархіі яго ставяць на тое месца, якое яму выбіраюць вышэйпастаўленыя, яны ж вызначаюць і яго функцыі, калі, вядома, гэта не адбываецца наадварот, гэта значыць, што здольнасці і памылкі вучня самі не прымушаюць настаўнікаў ставіць яго на той ці іншы пост. Але пры гэтай уяўнай несвабодзе кожны electus, прайшоўшы першы курс, мае поўную свабоду, тым часам як чалавек «свабодна» выбранай прафесіі вымушаны праходзіць даволі няпругкі курс навук з няпругкай сістэмай экзаменаў, для яго, як толькі ён пачынае вучыцца самастойна, свабода прасціраецца даволі далёка. Ёсць шмат студэнтаў, што па сваёй волі ўсё жыццё якімі толькі вар'яцкімі справамі не займаюцца, і ніхто ім не перашкаджае, калі яны не пераступаюць межаў маралі.

Той, хто выявіў педагагічны дар, карыстаецца свабодай як педагог, выхаваўца з прызвання; перакладчык — як перакладчык, кожны знаходзіць сабе месца, дзе ён можа служыць і ў сваім служэнні адчуваць сябе свабодным. Да таго ж ён на ўсё жыццё вызвалены ад той «свабоды», якая азначае страшнае рабства. Ён нічога не ведае пра пагоню за грашыма, пра барацьбу за славу, за ўладу, ён не ведае ні партый, ні раздвоенасці паміж асобай і пасадай, паміж прыватным і грамадскім, не ведае залежнасці ад поспеху. Вось так, сыне, цяпер ты бачыш: калі кажуць пра свабодныя прафесіі, дык слова «свабода» гучыць вельмі пацешна.

Развітанне з Эшгольцам было цяжкае. Калі Кнэхт пражыў тут, можна сказаць, шчаслівае дзяцінства, радаснае і гарманічнае падпарадкаванне, амаль без сумненняў, дык цяпер прыспела пара барацьбы, развіцця і сумненняў. Кнэхту было каля семнаццаці гадоў, калі яму сказалі, што неўзабаве яго разам з некалькімі іншымі хлопцамі перавядуць у школу наступнай ступені, і, вядома ж, пачынаючы з гэтай хвіліны для выбранцаў не было больш важнага пытання, якое вельмі ж часта

абмяркоўвалася, чым пытанне, куды кожнага з іх пераведуць. У адпаведнасці з традыцыяй ім паведамілі пра перавод толькі за некалькі дзён да ад'езду, а прамежак паміж выпускным святам і ад'ездам лічыўся вакацыямі. Менавіта ў гэтыя вакацыі з Кнэхтам было прыгожае і важнае здарэнне: Майстар музыкі запрасіў Ёзэфа да сябе ў госці і папрасіў зрабіць гэтую невялічкую вандроўку пеша. Гэта быў рэдкі і вялікі гонар. Разам з другім выпускніком — бо Кнэхт яшчэ лічыўся за Эшгольцам, а вучням гэтай ступені не дазвалялася падарожнічаць адным — ён аднойчы гожым ранкам вырушыў насустрач лясам і горам, і калі нарэшце пасля трох гадзін пад'ёму па лясной сцежцы яны дабраліся да адкрытага плато на вяршыні, дык убачылі перад сабою далёка ўнізе маленькі Эшгольц, які можна было лёгка пазнаць па цёмнай купіне велізарных дрэў і прамавугольніку газонаў з люстэркамі сажалак, па высокім будынку школы, падсобных карпусах, па вёсачцы і славутым ясеневым гайку. Хлопцы доўга глядзелі ўніз; многія з нас памятаюць гэту чароўную карціну, бо тагачасная не вельмі адрознівалася ад сённяшняй, будынкі ж былі адноўлены пасля вялікага пажару амаль без змен, а з пяці дрэў тры не пацярпелі ад агню. Юныя вандроўнікі бачылі пад сабой родную школу, з якою ім трэба было развітацца назаўсёды, і ў абодвух зашчымела ў сэрцы.

— Мне здаецца, я яшчэ ніколі як след не бачыў, як гэта прыгожа, — сказаў нарэшце Ёзэфаў спадарожнік. — А можа, гэта проста таму, што я ўпершыню бачу нешта, з чым трэба будзе развітацца, што пакінуць?

— Твая праўда, — адказаў Кнэхт, — тое самае і ўва мне. Але, па-мойму, калі мы нават і паедзем адгэтуль, гэта не азначае, што мы сапраўды пакінем Эшгольц. Па-сапраўднаму яго пакінулі толькі тыя, што пайшлі ад нас назаўсёды, як той Ота, які пісаў такія смешныя лацінскія вершы, альбо наш Шарлемань, які ўмеў доўга плысці пад вадой, і ўсе астатнія. Вось яны сапраўды пайшлі, пайшлі назаўсёды. Я ўжо даўно не ўспамінаў пра іх, а цяпер вось успомніў. Воля твая смяяцца, але ў гэтых, што адпалі ад нас, ёсць нешта прывабнае, як у мяцежным анёле Люцыферы, нешта велічнае. Можа, яны зрабілі няправільна, не, бадай, іх учынак несумненна няправільны, і ўсё ж яны нешта зрабілі, здзейснілі, адважыліся на скачок, а гэта ўжо —

мужнасць. А мы, усе астатнія, — мы былі цярплівыя, руплівыя, разумныя, але мы нічога не здзейснілі, ні на што не адважыліся.

— Не ведаю, — сказаў другі, — некаторыя ні на што не адважыліся і нічога не зрабілі, а проста лынды білі, пакуль іх не выключылі. Але, можа, я не так цябе зразумеў? Што ты, зрэшты, меў на ўвазе, калі казаў пра «скачок»?

— Я меў на ўвазе здольнасць адарвацца па-сапраўднаму, наважыцца на што-небудзь сур'ёзна, ну, разумееш, узяць ды скокнуць! Я зусім не мару скокнуць назад, у маю ранейшую радзіму, у маё ранейшае жыццё, яно мяне ўжо не вабіць, ды я яго і забыўся зусім. А вось чаго я сапраўды хацеў бы — гэта, калі прыйдзе пара адарвацца і скокнуць, скокнуць не назад, не ўніз, а наперад, у больш высокае.

— Вось туды мы якраз і ідзём. Эшгольц — гэта першая прыступка, наступная будзе вышэйшая, і нарэшце нас чакае Ордэн.

— Яно так, але я пра іншае. Нам пара далей, amice [1], ісці так прыемна, настрой мой палепшае. Мы з табой нешта раскіслі.

Гэтымі словамі і гэтакімі настроямі, пра якія нам расказаў Кнэхтаў таварыш, заявіла пра сябе бурлівая Ёзэфава маладосць.

Два дні ішлі юныя вандроўнікі, перш чым дабраліся да месца, дзе жыў Майстар музыкі, да горнага Манпора, дзе Майстар якраз вёў у былым кляштары курс для капельмайстраў. Ёзэфавага спадарожцу размясцілі ў гасцёвым пакоі, а Кнэхту адвялі маленькую келлю ў жытле Майстра. Не паспеў Кнэхт зняць кайстру і ўмыцца з дарогі, як гаспадар ужо ўвайшоў да яго. Шаноўны старац падаў яму руку і, лёгка ўздыхнуўшы, сеў на крэсла, некалькі імгненняў сядзеў з заплюшчанымі вачыма, як заўсёды, калі стамляўся, а пасля пяшчотна паглядзеў на Ёзэфа і сказаў:

— Прабач, я дрэнны гаспадар. Ты, пэўна, здарожыўся. Шчыра кажучы, я таксама, дзень у мяне сёння цяжкі, але, калі ты яшчэ не хочаш спаць, мне б хацелася забраць цябе на гадзінку ў свой пакой. Табе дазволена прабыць тут два дні, а заўтра ты можаш запрасіць паабедаць з намі свайго таварыша, але, на жаль, шмат

[1] сябар (*лац.*).

часу я не змагу ўдзяліць табе, трэба пастарацца выкраіць хоць некалькі гадзін. Ну як, адразу і пачнем.

Ён павёў Кнэхта ў прасторную скляпеністую келлю, дзе не было нічога, акрамя старога фартэпіяна і двух крэслаў. На іх яны і селі.

— Хутка цябе перавядуць у школу наступнай ступені, — пачаў Майстар, — там ты ўведаеш многа новага і цікавага, там ты пачнеш патрошку каштаваць і з Гульні шкляных перлаў. Усё гэта вельмі хараша і важна, але адно найважней: ты навучышся медытацыі. Часам здаецца, што ўсе гэта ўмеюць, але ж не заўсёды ўдаецца праверыць. Я хацеў бы, каб ты гэтаму навучыўся асабліва добра, гэтак жа добра, як музыцы, усё астатняе прыйдзе само. Таму я хачу першых некалькі ўрокаў даць табе сам, на тое цябе і запрасілі. Сёння, заўтра і паслязаўтра мы з табой па гадзіне прысвецім медытацыі і пры гэтым будзем гаварыць пра музыку. Зараз табе пададуць кубак малака, каб голад і смага цябе не адхілялі, а павячэраем мы з табой пазней.

У дзверы пастукалі, у келлю прынеслі кубак малака.

— Пі павольна, глыток па глытку, — папярэдзіў стары, — не спяшайся і нічога не кажы.

І Кнэхт вельмі павольна, па глытку піў халоднае малако, а насупраць сядзеў глыбока шанаваны ім старац. Ён зноў прыплюшчыў вочы, твар яго здаваўся зусім старым, але прыязным: на ім была заспакоенасць, ён свяціўся ўнутранай усмешкай, настаўнік засяродзіўся на сваіх думках, як засяроджваецца стомлены падарожнік, апусціўшы ногі ў ваду. Ад яго прамяніўся спакой. Кнэхт адчуваў гэта, і сам спакваля супакойваўся.

Але вось Майстар павярнуўся да інструмента і апусціў рукі на клавішы. Прайграўшы тэму, ён пачаў вар'іраваць і развіваць яе; здаецца, гэта была п'еса кагосьці з італьянскіх майстроў. Юнаму госцю Майстар сказаў уявіць сабе гэтую музыку танцам, няспынным ланцугом практыкаванняў на раўнавагу, паслядоўнасцю меншых альбо большых крокаў ад цэнтра нейкай восі сіметрыі і ўсю сваю ўвагу засяродзіць на тым, якімі фігурамі ўтвараюцца гэтыя крокі. Ён яшчэ раз сыграў тэму, пасля перастаў, быццам задумаўшыся над ёю, прайграў яе зноў і замёр, прыплюшчыўшы вочы, апусціўшы рукі на калені, як бы ў думках паўтараючы мелодыю і ўслухоўваючыся ў яе. Вучань таксама пры-

слухоўваўся да мелодыі ў сваёй душы, бачыў перад сабой абрыўкі нотных ліній, бачыў, як нешта рухаецца, мерна крочыць, круціцца ў танцы і зыбіцца. Ён стараўся пазнаць гэтыя рухі і прачытаць іх, як чытаюць мудрагелістыя кругі птушкі ў лёце. Але фігуры блыталіся, губіліся, ён пачынаў зноў, на імгненне яго пакінула засяроджанасць, і ён адразу абрынуўся ў пустату, збянтэжана разгледзеўся, убачыў ціхі, самапаглыблены настаўнікаў твар, які бязважка свяціўся ў змроку, адчуў сябе вернутым у тыя духоўныя прасторы, з якіх ён быў выпаў. І зноў палілася музыка, ён адмерваў яе крокі, бачыў лініі яе руху, глядзеў і ў думках ішоў па следзе ног нябачаных танцораў...

Ёзэфу здалося, што прайшлі гадзіны, перш чым ён зноў выпаў з гэтай прасторы і адчуў, што зноў сядзіць на крэсле, убачыў на каменнай падлозе посцілку, апошні пробліск у сутонні за акном. Раптам ён адчуў на сабе нечы позірк, падняў галаву і сустрэўся вачыма з Майстрам, які пільна ўглядаўся ў яго. Майстар ледзь прыкметна кіўнуў яму, прайграў адным пальцам піяніссіма апошнюю варыяцыю з італьянскай п'есы і ўстаў.

— Заставайся тут, — сказаў ён, — я зараз вярнуся. Знайдзі гэтую тэму ў сабе і ўважліва сачы за фігурамі. Але не прымушай сябе, гэта толькі гульня. Калі ты пры гэтым заснеш, не бяда.

І ён выйшаў, яму трэба было яшчэ нешта зрабіць, што заставалася з дзённай праграмы, працу не лёгкую і не надта прыемную, не такую, якой бы ён хацеў. Сярод слухачоў курса аказаўся адзін таленавіты, але ганарлівы і фанабэрысты чалавек, з ім якраз і трэба было пагутарыць, прымусіць яго адмовіцца ад благіх замашак, даказаць яму яго няпраўду, выказаць яму свой клопат, але і сваю перавагу, любоў, але і аўтарытэт. Майстар уздыхнуў. Чаму гэта немагчыма — раз і назаўсёды навесці парадак у гэтым свеце, чаму ніхто не можа ўнікнуць даўно вядомых заблуд! І чаму, зрэшты, зноў і зноў трэба змагацца з тымі самымі памылкамі, выполваць тое самае пустазелле! Талент без маральнай асновы, віртуознасць без іерархіі, тое, што калісьці ў фельетаністычную эпоху панавала над музычным жыццём, тое, што было выдрылявана і пераадолена рухам музычнага рэнесансу, — усё гэта зноў зелянела і бутоніла.

Калі Майстар вярнуўся, каб разам з Ёзэфам павя-

чэраць, той сядзеў ціхі, але зусім не стомлены і вельмі задаволены.

— Як было добра! — усклікнуў Ёзэф замроена. — Сама музыка неяк адышла ад мяне, яна ператварылася.

— Дай ёй растаць у табе, — сказаў Майстар і павёў яго ў невялікі пакой, дзе на стале ўжо былі садавіна і хлеб. Разам яны наталілі свой голад, і Майстар запрасіў Ёзэфа далучыцца заўтра да слухачоў курсаў капельмайстраў. Перш чым пайсці, ён правёў госця ў ягоную келлю і сказаў:

— У час медытацыі ты нешта ўбачыў, музыка явілася табе ў форме нейкай фігуры. Калі маеш ахвоту, паспрабуй намаляваць яе.

У келлі Кнэхт знайшоў на стале аркуш паперы і аловак і адразу пачаў маляваць фігуру, у якую ператварылася музыка. Правёўшы роўную лінію, ён праз пэўныя рытмічныя прамежкі правёў да яе касякі, атрымалася нешта падобнае на парадак размяшчэння лістоў на галінцы. Гэта не задаволіла Ёзэфа, яму захацелася паспрабаваць яшчэ і яшчэ, і пад самы канец ён, ужо захапіўшыся, нарысаваў круг, ад якога прамянямі разыходзіліся косыя лініі, як у вянку кветкі. Потым ён лёг у пасцель і заснуў. Ён сасніў сябе на вяршыні гары, дзе яны з таварышам рабілі прывал, і зноў унізе быў родны Эшгольц, і пакуль Ёзэф глядзеў на далёкі прамавугольнік, утвораны школьнымі карпусамі, той спакваля выцягнуўся ў эліпс, эліпс ператварыўся ў круг, у вянок, і вянок гэты павольна пачаў паварочвацца, усё хутчэй і хутчэй, пад канец шалёна закруціўся, разарваўся і разляцеўся бліскучымі зоркамі.

Прачнуўшыся, Ёзэф нічога не памятаў, але калі на ранішнім шпацыры Майстар спытаўся, ці бачыў ён што-небудзь у сне, у Ёзэфа ўзнікла такое адчуванне, быццам яму прыснілася нешта благое і трывожнае, ён намагаўся ўспомніць — і ўспомніў свой сон, расказаў яго і здзівіўся яго бяскрыўднасці. Майстар слухаў уважліва.

— Ці варта зважаць на сны? — спытаўся Ёзэф. — Ці можна іх тлумачыць?

— Трэба зважаць на ўсё, бо ўсё можна тлумачыць, — коратка адказаў Майстар, паглядзеўшы яму ў вочы. Але праз некалькі крокаў ён па-бацькоўску спытаўся:

— У якую школу табе найбольш хацелася б?

Ёзэф пачырванеў.

— Мне здаецца, у Вальдцэль.

Майстар кіўнуў.

— Я так і думаў. Ты, мусіць, ведаеш старое выслоўе: gignit autem artificiosam...

— Gignit autem artificiosam lusorum gentem Cella Silvestris, — дадаў, усё яшчэ чырванеючы, Кнэхт добра вядомыя кожнаму вучню словы. У перакладзе яны азначаюць: «Вальдцэль спараджае выдатнае племя гульцоў».

Стары цёпла зірнуў на яго.

— Хутчэй за ўсё гэта і ёсць твая дарога, Ёзэф. Ты павінен ведаць, што не ўсе прымаюць Гульню. Кажуць, быццам яна ёсць сурагат мастацтва, а майстры Гульні — белетрысты, іх нельга разглядаць як службітоў духу ў свойскім сэнсе слова, але даводзіцца ў іх бачыць менавіта мастакоў, дылетантаў і фантастаў. Табе выпадае доля даведацца, ці слушна гэта. Магчыма, ты і сам ужо думаў пра Гульню і чакаеш ад яе больш, чым яна можа даць, а можа, і наадварот. Што праўда, то праўда, у гэтай Гульні, ці адна крыецца небяспека. Але за гэта мы яе і любім, на роўную дарогу пасылаюць толькі слабых. Ніколі не забывайся, што я табе так часта казаў: наш абавязак — правільна распазнаваць супярэчнасці, па-першае, як супярэчнасці, а па-другое, як полюсы нейкага адзінства. Так яно і з нашай Гульнёй. Артыстычныя натуры ўлюбёныя ў яе, бо яна дае прастору летуценням; строгія вучоныя-спецыялісты, ды і некаторыя музыканты пагарджаюць ёю — ім бракуе ў ёй якраз той меры строгасці, якой яны здольныя дасягнуць у асобных галінах навукі. Ты сам спазнаеш гэтыя супярэчнасці, а з часам табе адкрыецца: супярэчнасці не ў аб'екце, а ў суб'екце, бо мастак, які аддаецца лёту фантазіі, не таму пазбягае чыстай матэматыкі або логікі, што ён у іх нешта спасціг і мог бы выказаць, а таму, што інстынктыўна хіліцца ў другі бок. Па такіх парывістых сімпатыях і антыпатыях ты беспахібна пазнаеш менш узвышаную душу. На самой справе, гэта значыць, у вялікіх душах і ў мудрых галовах, такой палкасці няма. Кожны з нас — толькі чалавек, толькі спроба, толькі пераход. А пераходзіць трэба туды, дзе ёсць дасканаласць, трэба імкнуцца да цэнтра, а не да перыферыі. Запомні: можна быць строгім логікам або граматыкам і пры гэтым быць поўным фантазіі і музыкі.

Можна быць музыкантам або Майстрам Гульні і пры гэтым цалкам аддавацца служэнню закону і ўпарадкаванасці. Чалавек, як мы яго разумеем, да якога мы імкнемся, якім хочам каб ён стаў, павінен быць гатовы ў любы дзень памяняць сваю навуку або мастацтва на любую другую навуку і мастацтва, ён павінен выяўляць у Гульні крыштальную логіку, а ў граматыцы лёт фантазіі. Такімі мы павінны зрабіцца, каб у любы момант нас можна было без супраціўлення і замарачэння перавесці на другі пост.

— Здаецца, я разумею вас, — сказаў Кнэхт. — Але хіба той, хто так моцна ненавідзіць альбо ставіць адно вышэй за другое, не проста больш палкі натурою чалавек, а другі — спакайнейшы і рахманейшы?

— Нам здаецца, што менавіта так, і ўсё ж не так, — засмяяўшыся, усклікнуў Майстар. — Калі хочаш заўсёды быць на вышыні, ува ўсім адпавядаць найвышэйшым крытэрыям, патрэбен, вядома, не недахоп душэўнай сілы, размаху, цяпла, а іх лішак. Тое, што ты называеш палкасцю, ёсць не душэўная энергія, а трэнне паміж душою і вонкавым светам. Дзе пануе палкасць, там не шукай сілы волі і памкнёнасці, там усё скіравана на дасягненне прыватнай і фальшывай мэты, адсюль напружанасць і душнасць атмасферы. Той, хто скіроўвае ўсю сілу да цэнтра, насустрач сапраўднай існасці і дасканаласці, той, магчыма, уяўляецца нам спакайнейшым за палкую натуру, бо не заўсёды відзён яго ўнутраны агонь, бо, скажам, на дыспуце ён не размахвае рукамі, не лямантуе. Але я кажу табе: ён павінен гарэць, павінен палаць!

— Ах, каб стаць усёведным! — усклікнуў Кнэхт. — Калі б існавала нейкае вучэнне, нешта, у што можна было б верыць! Навокал адны толькі супярэчнасці, усё разбягаецца ў розныя бакі, нідзе няма нічога пэўнага. Усё можна растлумачыць так, а можна і наадварот. Можна тлумачыць сусветную гісторыю як развіццё і прагрэс, а можна бачыць у ёй толькі заняпад і бязглуздзіцу. Няўжо няма ісціны? Няўжо няма праўдзівага і неабвержнага вучэння?

Ніколі Майстар не чуў ад Ёзэфа такіх палымяных слоў. Ён моўчкі прайшоўся ўзад-уперад, потым сказаў:

— Ісціна ёсць, дарагі мой! А «вучэння», якога ты прагнеш, абсалютнага, дасканалага, адзіна мудрага вучэння няма. Ды і не след табе трызніць дасканалым ву-

чэннем, дружа мой, імкніся да ўдасканальвання самога сябе. Боскае ў табе, а не ў паняццях і кнігах. Ісціна павінна быць перажыта, а не паднесена. Рыхтуйся да бітваў, Ёзэф Кнэхт, бачу, яны ўжо пачаліся!

У тыя дні Ёзэф упершыню ўбачыў любімага Майстра ў будным жыцці і за працаю і дзіву даўся, хоць бачыў толькі невялікую частку яго штодзённай працы. Але больш за ўсё Майстар скарыў яго тым, што быў з ім такі ўважлівы, запабеглівы, што запрасіў яго да сябе, што чалавек, часам такі стомлены, нягледзячы на цяжар абавязкаў, выкройваў на яго гадзіны свайго дарагога часу, ды і каб жа толькі гадзіны! І калі яго ўводзіны ў медытацыю зрабілі на Кнэхта такое глыбокае і трывалае ўражанне, дык як ён зразумеў пазней, не праз асаблівв тонкую і своеасаблівую тэхніку, а толькі дзякуючы самой асобе Майстра, яго прыкладу. Настаўнікі, з якімі Кнэхт сутыкаўся пазней і якія вучылі яго медытацыі ўсе наступныя гады, больш упіралі на ўказанні, бясконца тлумачылі, кантралявалі стражэй, больш апытвалі, часцей накіроўвалі. Майстар музыкі, упэўнены ў сваёй уладзе над юнаком, амаль зусім не гаварыў, не павучаў, зрэшты, ён толькі задаваў тэмы і сам падаваў прыклад. Кнэхт бачыў, што Майстар, прыйшоўшы ўнураны, змучаны, садзіцца і, прыплюшчыўшы вочы, уваходзіць у самога сябе і раптам позірк яго робіцца спакойны, радасны, зычлівы, выпраменьвае сілу; нішто не магло так глыбока пераканаць у правільнасці дарогі да вытокаў, дарогі ад марнасці да спакою, як гэты яго позірк. А тое, што Майстар хацеў перадаць яму словамі, — ён перадаваў быццам мімаходзь, пад час нядоўгіх шпацыровак альбо за вячэрай.

Да нас дайшло таксама, што Кнэхт тады атрымаў ад Майстра першыя ўказанні да Гульні шкляных перлаў, аднак ніякіх запісаў не захавалася. Ёзэфа таксама ўразіла відавочнае жаданне гаспадара прывеціць і яго юнага спадарожніка, каб у таго не ўзнікла адчування, быццам ён усяго толькі нейкая дамешка. Як відаць, ні пра што не забываўся гэты чалавек!

Нядоўгая гасціна ў Манпоры, тры ўрокі медытацыі, прысутнасць на курсе для капельмайстраў, некалькі гутарак з Майстрам — усё гэта багата дало Ёзэфу. Майстар вельмі ўмела выбраў момант для свайго кароткага, але дзейснага ўмяшання. Мэта яго запрашэння ў асноўным была ў тым, каб прыахвоціць юнака да медытацыі,

але не меней важнае запрашэнне было і само па сабе, як узнагарода, як знак адмысловай увагі і веры ў яго. Гэта была другая ступень прызнання. Кнэхту як бы далі зірнуць ва ўнутраныя сферы; калі хто-небудзь з дванаццаці Майстроў так блізка падпускаў да сябе вучня гэтай ступені, гэта азначала не толькі асабістую прыхільнасць. Тое, што робіць Майстар, заўсёды мае не толькі прыватнае значэнне.

На развітанне абодва хлопцы атрымалі невялікія падарункі. Ёзэфу дастаўся нотны сшытак з дзвюма харальнымі прэлюдыямі Баха, а яго спадарожніку — прыгожае кішэннае выданне Гарацыя. Развітваючыся з Кнэхтам, Майстар сказаў:

— Праз некалькі дзён ты даведаешся, у якую школу цябе перавядуць. Туды я не змагу так часта наведвацца, як у Эшгольц, але і там мы, бадай што, пабачымся, калі мне хопіць здароўя. Як хочаш, можаш пісаць мне адно пісьмо ў год, асабліва мяне цікавяць твае поспехі ў музыцы. Не забаронена табе таксама крытыкаваць сваіх настаўнікаў, аднак не захапляйся дужа. Цябе чакае многае: я ўпэўнены, што ты апраўдаеш надзеі на цябе. Наша Касталія — гэта ж толькі адбор, гэта найперш іерархія, нейкі будынак, кожны камень у якім мае свой сэнс і прызначанасць ад цэлага. З гэтага будынка няма выйсця, і той, хто падымаецца вышэй, каму даручаць цяжэйшую місію, той не здабудзе большай свабоды, на яго толькі ляжа большая адказнасць. Да пабачэння, дружа мой, рады быў цябе пабачыць.

Абодва вучні рушылі ў дарогу назад, абодва ў дарозе былі весялейшыя і больш гаваркія, чым па дарозе ў Манпор, некалькі дзён, праведзеных у іншым атачэнні, сярод іншых вобразаў, знаёмства з зусім інакшым жыццём падбадзёрылі іх, быццам вызвалілі ад эшгольцкіх развітальных настрояў, падвоіўшы цікавасць да неўзабаўных перамен, да будучыні. На прывалах у лесе або дзе-небудзь над прорвай у гарах пад Манпорам яны даставалі з кайстраў свае флейты і гралі песні на два галасы. А калі зноў дабраліся да вышыні, з якой так хораша глядзеўся Эшгольц з яго карпусамі і дрэвамі, дык гутарка, якая адбылася не так даўно на гэтым самым месцы, здалася ім абодвум чымсьці вельмі далёкім, даўно мінулым. Усё набыло нейкую іншую барвянасць, ні той, ні другі не акінуўся ні словам, і ў маўчанні гэтым было нешта ад сораму за тадышнія пачуцці і за сказа-

ныя тады словы, якія так хутка страцілі сваю вагу і сэнс.

Ужо на другі дзень пасля вяртання ў Эшгольц абодва даведаліся, куды іх пераводзяць. Кнэхту трэба было выпраўляцца ў Вальдцэль.

## ВАЛЬДЦЭЛЬ

«А Вальдцэль прадукуе майстроў гульні ў перлы», — гаворыць старое выслоўе пра гэту славутую школу. Сярод кастальскіх школ такой самай ступені тут найбольш панавалі музы, і калі ў іншых школах найчасцей пераважала якая-небудзь навука, напрыклад, у Койпергайме — класічная філалогія, у Порце — арыстоцелеўская логіка і схаластыка, у Планвастэ — матэматыка, дык у Вальдцэлі, наадварот, традыцыйна дамінавала тэндэнцыя да універсалізму, да спалукі братэрскімі повязямі навукі і мастацтва, і самым высокім увасабленнем гэтага была Гульня шкляных перлаў. Праўда, і тут, як і ва ўсіх астатніх школах, яе не выкладалі афіцыйна, нідзе Гульня не была прадметам абавязковым, затое амаль усе вучні Вальдцэля аддавалі ёй увесь свой вольны час, да таго ж гарадок быў, можна сказаць, афіцыйнай сталіцай Гульні і ўсіх яе ўстановаў: тут была славутая зала, дзе праводзіліся ўрачыстыя Гульні, тут размяшчаўся і велізарны Архіў Гульні, тут была і рэзідэнцыя Magister Ludi. І хоць усе гэтыя інстытуцыі былі самастойныя і вальдцэльская школа нічым не была з імі звязана, дух Гульні адчуваўся ва ўсёй атмасферы гарадка, у ім заўсёды лунала нешта ад свяшчэннасці публічных Гульняў. Гарадок ганарыўся не толькі школай, але і Гульнёй. Вучняў жыхары называлі «студэнтамі», а тых, што вучыліся ў школе Гульні і іх гасцей — «лузерамі», перакручанае «lusores»[1]. Дарэчы, вальдцэльская школа была самая малая з усіх кастальскіх школ, мала калі ў ёй адначасова вучылася больш за шэсцьдзесят вучняў, і, вядома ж, менавіта гэтая акалічнасць надавала ёй характар нечага выключнага, вышляхетненага. Складвалася ўражанне, быццам школа гэтая адрозніваецца ад іншых, як бы эліта сярод эліты; яно і не дзіва, за апошнія дзесяцігоддзі са сцен гэтай вы-

[1] гульцы (*лац.*).

датнай школы выйшлі многія Майстры Гульні. Але трэба, аднак, зазначыць, што слава гэта была бясспрэчная далёка не ўсім, сям-там пракідаліся чуткі пра вальдцэльцаў як пра фанабэрыстых эстэтаў, распешчаных прынцаў, няздатных ні на што людскае, акрамя як на Гульню, наставалі часы, калі ў іншых школах загаварылі пра Вальдцэль даволі сурова і горка, але ж менавіта вастрыня і рэзкасць ацэнак сведчаць пра тое, што ёсць прычыны зайздрасці. Як бы там яно ні было, а перавод у Вальдцэль — гэта ўжо пэўная ўзнагарода; Ёзэф Кнэхт ведаў гэта і, хоць і не быў вульгарны пыхлівец, прыняў вылучэнне з радасцю і нават ганарыўся ім.

Разам з некалькімі таварышамі ён прыйшоў у Вальдцэль пеша. Поўны высокіх парыванняў, ён мінуў паўднёвую браму і адразу быў зачараваны старадаўнім гарадком і шырокай разбудовай цыстэрцыянскага кляштара, у якім цяпер размяшчалася школа. Нават не спрануўшы дарожнай адзежы, збольшага перакусіўшы ў брамнікавым пакоі, Ёзэф адзін пайшоў на шпацыр адкрываць сваю новую радзіму, хутка знайшоў сцежку ўздоўж берага па руінах старога гарадскога мура, трохі пастаяў на скляпеністым мосце, паслухаў шум плаціны з таго боку, дзе быў млын, спусціўся па ліпавых прысадах міма цвінтара і за высокай агароджай убачыў і адразу пазнаў маленькае, наводшыбе сяльцо тых, што прысвяцілі сябе Гульні: урачыстую залу, Архіў, лекцыйныя і гасцёвыя памяшканні, а таксама настаўніцкія дамкі. З дзвярэй аднаго дамка выйшаў чалавек у вопратцы майстра Гульні, і Ёзэф падумаў, што гэта, мабыць, і ёсць які-небудзь легендарны lusor, а можа, нават сам Magister Ludi. Ён адразу адчуў чарадзейнасць атмасферы, усё тут было нейкае старавечнае, поўнае годнасці й учты, на ўсім ляжала пячатка даўніх традыцый, усё было святое, тут ты быў бліжэй да цэнтра, чым у Эшгольцы. Вяртаючыся са сферы Гульні, Ёзэф адчуў яшчэ і іншыя чары, магчыма, не такія ўзнёслыя, але ж і яны моцна хвалявалі. Гэта быў маленькі гарадок, часцінка нізкага свету з усім яго будным жыццём: сабачкамі і дзіцячымі каляскамі, пахамі крам і рамёстваў, барадатымі мяшчанамі і тоўстымі гандляркамі за прылаўкамі, свавольнымі і заплаканымі дзецьмі і пакеплівымі дзяўчатамі. Многае тут нагадвала пра дагістарычныя часы, Беральфінген, а ён, бач, думаў, што ўжо даўным-даўно ўсё забыўся. Цяпер нейкія глыбінныя тайнікі душы

адгукаліся на ўсё гэта — на карціны, на пахі, на гукі. Тут яму наканавана зведаць свет не такі ціхі, але багацейшы, больш разнастайны, чым той, у якім ён жыў у Эшгольцы.

Заняткі спачатку як бы працягвалі эшгольцкія, толькі што дадалося некалькі новых прадметаў. Сапраўды новыя былі толькі практыкаванні ў медытацыі, праўда, і да іх Ёзэф пасля першых урокаў у Майстра музыкі таксама ў пэўнай меры ўжо далучыўся. Ён ахвотна хадзіў на гэтыя ўрокі, бо бачыў у іх найперш прыемную гульню, якая здымала напружанасць. І толькі крыху пазней — мы яшчэ згадаем пра гэта — ён на самім сабе зведаў сапраўднае і высокае значэнне медытацыі. Дырэктарам школы ў Вальдцэлі быў нейкі арыгінал, нехта Ота Цбіндэн, якому ўжо тады было за шэсцьдзесят і які даставаў студэнтаў нейкім страхам; дарэчы, яго тэмпераментным і вельмі прыгожым почыркам зроблена некалькі ўцалелых да нашых дзён запісаў пра вучня Ёзэфа Кнэхта. Шчыра кажучы, на першым часе не так настаўнікі, як вучні цікавілі навенькага. Асабліва часта ён бываў разам з двума, прычым вадзіўся з імі даволі жвава, пра што ёсць многія сведчанні. Той, з якім ён сябраваў у самыя першыя месяцы (яго звалі Карла Фэрамонтэ, потым ён як намеснік Майстра музыкі заняў другую па важнасці пасаду ў Калегіі), быў Кнэхтаў аднагодак. Яму мы, дарэчы, заўдзячаем стварэнне гісторыі стыляў ігры на лютні ў шаснаццатым стагоддзі. У школе яго празвалі «рысаедам», цанілі ў ім прыемнага таварыша па гульнях. Яго дружба з Ёзэфам, пачаўшыся з гутаркі пра музыку, трывала доўгія гады. Разам яны вучылі п'есы, разам ігралі практыкаванні, пра што мы даведаліся з вельмі змястоўных, хоць і нячастых Кнэхтавых пісьмаў да Майстра музыкі. У адным з першых пісьмаў Кнэхт піша пра Фэрамонтэ як пра «фахоўца і знаўцу музыкі багатага арнаменту, украс, пераліваў і г. д.»; ён іграў з ім Куперэна, Пёрселя і іншых кампазітараў семнаццатага і васемнаццатага стагоддзяў. У другім пісьме мы знаходзім ацэнку гэтых практыкаванняў і гэтай музыкі, «дзе ў некаторых п'есах амаль кожная нота мае знак упрыгожання». Кнэхт піша далей: «Пасля таго, як ты некалькі гадзін запар нічога іншага не рабіў, а толькі развучваў двайныя, кароткія трэлі і мардэнты, у цябе пальцы як усё роўна наэлектрызаваныя».

У музыцы Ёзэф Кнэхт рабіў сапраўды вялікія поспехі. На другі і трэці год у Вальдцэлі ён даволі бегла іграў і чытаў з ліста ноты, ключы, скароты, басавыя знакі ўсіх стагоддзяў і стыляў і абжыўся ў царстве заходнееўрапейскай музыкі ў той меры, у якой яна захавалася да нашых дзён, з яе законамі рамяства, шанаваннем і пеставаннем як пачуццёвага, так і тэхнічнага, каб можна было авалодаць самім яе духам. Менавіта ягонае імкненне ўхапіць пачуццёвы момант, яго прага праз пачуццёвае, праз гук, праз нязвыклае слыху ў розных музычных стылях пранікнуць у дух музыкі даволі доўга не давалі яму пачаць папярэдняе вывучэнне Гульні. У сваіх лекцыях, прачытаных, зразумела, пазней, Кнэхт наступным чынам сфармуляваў гэта: «Хто ведае музыку толькі па экстрактах, здабытых з яе Гульнёй шкляных перлаў, той, магчыма, і неблагі майстар Гульні, але зусім яшчэ не музыкант і, мабыць, яшчэ не гісторык. Музыкант складаецца не толькі з тых чыста духоўных лунанняў і фігурацый, якія мы з яе здабылі, — стагоддзямі яна была перш за ўсё эмацыянальнай радасцю, радасцю выдыху, адбівання такту, радасцю, якая нараджаецца пры зліцці галасоў, трэнняў і раздражненняў. Бясспрэчна, дух — гэта галоўнае, і не менш бясспрэчна, што вынаходства новых інструментаў, змена старых, увядзенне новых танальнасцяў і новых кампазіцыйных і гарманічных правілаў, а таксама забароны — усяго толькі знешняя праява, накшталт таго, як строі і моды народаў з'яўляюцца нечым вонкавым. Аднак трэба эмацыянальна ахапіць і скаштаваць гэтыя вонкавыя і пачуццёвыя прыкметы, каб, зыходзячы з іх, спасцігнуць эпохі і іх стылі. Музыка ствараецца не адным мозгам, а рукамі і пальцамі, горлам і лёгкімі, і той, хто ўмее чытаць ноты, але не валодае дасканала якім-небудзь інструментам, хай лепш не разважае пра музыку. Значыцца, і гісторыю музыкі нельга зразумець толькі з абстрактнай гісторыі стыляў; напрыклад, перыяды ўпадку музыкі наогул застануцца неспасцігальнымі, калі мы не распазнаем у іх кожны раз перавагі пачуццёвага і колькаснага над духоўным».

Адзін час здавалася, што Кнэхт вырашыў стаць музыкантам. Усімі факультатыўнымі занясткамі, у тым ліку і ўводзінамі ў Гульню, ён так манкіраваў дзеля музыкі, што дырэктару ў канцы першага семестра давялося выклікаць яго на гутарку. Але вучань Кнэхт не

даў сябе запалохаць, ён упарта спасылаўся на свае вучнёўскія правы. Кажуць, быццам ён заявіў дырэктару: «Калі я адстану ў якім-небудзь прадмеце, вы можаце ўшчуваць мяне; але на гэта я не даваў ніякай падставы. Наадварот, я маю права рабіць, што хачу, са сваім вольным часам і аддаваць тры чвэрці яго і нават усе чатыры — музыцы. Мне даволі спаслацца на статут». Дырэктару хапіла розуму не настойваць, а, зразумела, ён узяў на вока наравістага вучня і доўгі час быў з ім халодны і строгі.

Больш як год, можа, нават паўтара, цягнуўся гэты крыху дзіўны перыяд Кнэхтавага вучнёўства: звычайныя, зусім не бліскучыя адзнакі, ціхае і, як нам здаецца, пасля яго гутаркі з дырэктарам крыху ўпарцістае адасабленне, ніякіх прыкметных сяброўскіх сувязяў, затое незвычайная і палкая рупнасць у музыцы, занядбанне дзеля яе амаль усіх неабавязковых дысцыплін, нават Гульні. Некаторыя рысы гэтага юнацкага партрэта — несумненна рысы пераходнага ўзросту. З другім полам ён у гэты час сутыкаўся толькі выпадкова, адчуваючы вялікі недавер; мы думаем, што ў ім была (гэта ўласціва многім выпускнікам Эшгольца, калі ў іх не было сясцёр) нават вялікая доля нясмеласці. Чытаў ён шмат, асабліва захапляўся нямецкімі філосафамі: Лейбніцам, Кантам, рамантыкамі, з іх найбольшы ўплыў зрабіў на яго Гегель.

Тут трэба крыху падрабязней расказаць пра таго Кнэхтавага таварыша, які адыграў вырашальную ролю ў яго вальдцэльскім жыцці, — пра вольнага слухача Плініё Дэсіньёры. Як ужо сказана, ён быў вольны слухач, гэта значыцца, вучыўся ў школах эліты як нейкі госць, без намеру пазней уступіць у Ордэн і назаўсёды застацца ў Педагагічнай правінцыі. Такіх вольных слухачоў час ад часу можна было сустрэць у элітарных школах не тое каб часта, бо Выхаваўчая калегія не даражыла падрыхтоўкай вучняў, якія пасля школы вярталіся дамоў і тым часам у «свет». Але ў краіне было некалькі старых патрыцыянскіх каранёў, якія ў гады заснавання Касталіі нямала ёй паслужылі; звычайна яны пасылалі аднаго свайго сына, калі ён быў дастаткова ўталентаваны і калі яму няблага таланіла, у Касталію на выхаванне ў элітарнай школе, права гэта за імі замацавала традыцыя. Хоць вольныя слухачы ва ўсіх адносінах падпарадкоўваліся тым самым правілам, што і ўсе

астатнія вучні, яны ўсё ж былі сярод аднагодкаў выключэннем хоць бы ўжо таму, што з кожным годам не аддаляліся ўсё больш і больш ад дому і сям'і, ды і свае вакацыі праводзілі дома. Аднакласнікі ж лічылі іх гасцямі і чужынцамі, бо норавы і мысленне ў іх вызначаліся сям'ёй, домам. Іх чакаў бацькоўскі дах, наперадзе былі свецкая кар'ера, пэўная прафесія, шлюб і толькі вельмі рэдка здаралася, што такі госць, захоплены духам Правінцыі і ў згодзе з сваёй сям'ёй, заставаўся ў Касталіі і ўступаў у Ордэн. Затое мы ведаем у гісторыі нашай краіны некалькі дзяржаўных дзеячаў, якія, колішнія вольныя слухачы, рашуча абаранялі элітарную школу і Ордэн, калі з якіх-небудзь прычын грамадская апінія была супроць іх.

Якраз такім слухачом быў Плініё Дэсіньёры, і яго Ёзэф Кнэхт — крыху маладзейшы гадамі — напаткаў у Вальдцэлі. Той быў высокаадораны юнак, ён быў красамоўны і ўмеў весці спрэчку, тэмпераментны і крыху парывісты, у немалы клопат увёў ён дырэктара Цбіндэна. Бо хоць Плініё вучыўся добра і ў гэтым сэнсе яму нічога нельга было закінуць, ён не даваў сабе клопату забыцца пра сваё выключнае становішча, не лезці на вочы і ціхмяна слухацца, а, наадварот, адкрыта і імпэтна абвяшчаў свае антыкастальскія, свецкія погляды. Гэтыя два хлопцы непазбежна павінны былі сутыкнуцца: абодва былі таленавітыя, абодва пакліканыя, гэта рабіла іх братамі, тым часам як ва ўсім астатнім яны былі цалкам процілеглыя адзін аднаму. Толькі зразумеўшы самую сутнасць такой супярэчлівасці і зняўшы яе па ўсіх правілах дыялектыкі, настаўнік мог бы вырашыць задачу, якая тут паўстае, і дамагчыся неабходнага сінтэзу. На гэта патрабавалася нямала празорлівасці і высокае педагагічнае майстэрства. Але хоць фактаў і жадання ў дырэктара мелася задосыць (ён не быў з тых настаўнікаў, якія не пераносяць вучняў, пазначаных геніем), у яго ўсё ж не было самай важнай умовы: даверу абодвух вучняў. Плініё, які ўжо ўвайшоў у ролю адзіночкі-бунтара, трымаўся з дырэктарам насцярожана; а з Ёзэфам у Ота Цбіндэна адносіны разладзіліся праз факультатыўныя заняткі, так што на раду да яго Ёзэф не пайшоў бы. Але, на Кнэхтава шчасце, быў яшчэ Майстар музыкі. У яго Кнэхт і папрасіў падтрымкі, а мудры старац паставіўся да ўсяго вельмі сур'ёзна, памайстэрску правёў гэтую гульню, як мы ўбачым ніжэй.

У ягоных руках найбольшая спакуса ў жыцці юнака Кнэхта, небяспека, якая яму пагражала, абярнулася займальнай задачай, а сам ён паказаў сябе вартым яе. Канва гэтай дружбы-варожасці паміж Ёзэфам і Плініё, або кампазіцыя на дзве тэмы, або дыялектычная гульня паміж розумам двух людзей выглядала прыкладна так.

Як яно і павінна было быць, Ёзэф першы заўважыў Дэсіньёры, і нават з сімпатыяй. І не толькі таму, што Плініё быў старэйшы, што ён быў прыгожы, тэмпераментны і красамоўны хлопец, але перш за ўсё таму, што быў «адтуль», са знешняга свету, што ён быў некасталец, чалавек, у якога былі маці, бацька, дзядзькі, сёстры і браты, чалавек, якому Касталія з усімі яе законамі, традыцыямі і ідэаламі была толькі этапам, адрэзкам шляху, часовым прыстанішчам. Гэтай белай вароне Касталія зусім не азначала ўсяго свету. Вальдцэль для Плініё быў школай, як многія іншыя, а вяртанне ў «свет» не несла з сабою ганьбы і пакарання. Яго не чакала ўступленне ў Ордэн, наперадзе ў яго былі кар'ера, шлюб, палітычная барацьба, карацей — тое «рэальнае жыццё», пра якое кожны касталец хацеў бы даведацца болей, бо «свет» уяўляецца кастальцу, як ён калісьці ўяўляўся пакайнаму грэшніку або манаху, чымсьці непаўнацэнным і забароненым, аднак праз гэта не менш таямнічым, спакуслівым і прывабным. А Плініё зусім не саромеўся таго, што належаў да гэтага свету, наадварот, — ганарыўся. З хлапечым як бы ўдаваным стараннем і палам ён свядома падкрэсліваў сваю адасобленасць, з любой нагоды выстаўляў свае свецкія погляды і крытэрыі — усуперак кастальскім, выдаваў свае за лепшыя, больш слушныя, натуральныя і чалавечыя. Пры гэтым часта спасылаўся на «прыроду» і «здаровы сэнс», супрацьпастаўляў іх скажонаму і адчужанаму ад жыцця «духу школы», не шкадаваў гучных слоў і ярлыкоў, але яму хапіла густу і глузду не хапацца за дурныя правакацыі і ў меру сілы не пераступаць звычных Вальдцэлю правілаў дыспутавання. Абараняючы «свет» і наіўнае жыццё ад кастальскай «фанабэрыстай схаластычнай духоўнасці», ён сіліўся даказаць, што здольны дабіцца поспехаў зброяй самога праціўніка, ён зусім не хацеў весці ролю дзікуна, які сляпа топча кветнікі інтэлектуальнай адукацыі.

У тую пару часта можна было бачыць, як Ёзэф Кнэхт з задніх радоў уважліва слухаў прамовы Дэ-

сіньёры. Цікаўнасць, здзіўленне і страх агарталі Ёзэфа, калі Плініё нішчыў і драсаваў усе кастальскія святыні, усё ставіў пад сумненне, высмейваў тое, у што ён, Кнэхт, верыў. Але Ёзэф прыкмячаў таксама, што далёка не ўсе слухачы ставіліся да тых казаняў сур'ёзна, многія слухалі Плініё толькі з пацехі, як слухаюць кірмашовага блазна. Няраз пры ім і пярэчылі Плініё, то іранізуючы з яго нападаў, то абвяргаючы іх. Аднак вечна каля гэтага вольнага слухача хто-небудзь ды ашываўся, вечна ён здабываў увагу, і быў у яго пад рукой праціўнік ці не, заўсёды яго нешта прыцягвала да Дэсіньёры, заўсёды ён спакушаў. Ёзэф, мусіць, адчуваў тое самае, што і астатнія вучні, якія тлуміліся каля прамоўцы, прымаючы яго піруэты то кепікамі, то подзівам, але, нягледзячы на нясмеласць, нават страх, што нападаў на яго, калі ён чуў такія прамовы, Ёзэф адначасова адчуваў і іх пачварна панадную сілу, і не толькі таму, што яны забаўлялі яго, — не, яны забіралі яго глыбей. Зразумела, унутрана ён не згаджаўся з думкамі адважнага прамоўцы, не, але былі і пэўныя сумненні, і нават не толькі тое, што яны былі, а што ўвогуле маглі быць, уражвала да болю. Спачатку боль гэты не вельмі хваляваў: нешта кранала яго, будзіла няпэўныя пачуцці, — нешта сярэдняе паміж бурлівым парываннем кудысьці і нячыстым сумленнем.

Вось чаму мусова павінен быў прыйсці час, і ён прыйшоў, калі Дэсіньёры заўважыў, што сярод слухачоў ёсць адзін, для якога ягоныя прамовы нешта большае, чым пацешная або агудная забавіна або проста наталенне прагі да спрэчак. Гэта быў маўклівы светлавалосы хлопец з тонкімі рысамі, крыху нясмелы з выгляду, ён чырванеў і бянтэжыўся, скупа адказваў на яго, Плініё, роспыты. «Мабыць, хлапчо даўно ўжо цікуе за мною», — падумаў Плініё і вырашыў як-небудзь яго прывеціць, а тады ўжо цалкам заваяваць; ён запрасіў Кнэхта па палудні да сябе ў пакой у госці. Аднак да гэтага сарамяжлівага і сухаватага юнака падступіцца было зусім няпроста! На сваё здзіўленне, Плініё заўважыў, што хлопец унікае яго, не ўступае ў спрэчку, а запрашэння на госці нават не прыняў. Гэта ў сваю чаргу разабрала старэйшага, і ён адразу пачаў улётваць каля Ёзэфа, спачатку толькі з сябелюбства, а потым і на сур'ёзе, бо адчуў у ім вартага праціўніка, магчыма, будучага сябра альбо, наадварот, ворага. Няраз ён ба-

чыў Ёэзфа непадалёк ад сябе, той напружана слухаў, але адразу адступаў, як толькі Плініё хацеў падысці да яго.

У такіх Ёэзфавых паводзінах была свая рацыя. Даўно ўжо Ёэзф зразумеў, што ў асобе гэтага вольнага слухача і чужынца яго чакае нешта важнае, магчыма, цудоўнае, нейкае расшырэнне даляглядаў, адкрыццё, пазнанне новага, але, можа быць, і небяспечная спакуса, прынамсі, нешта такое, перад чым яму трэба будзе выстаяць. Сваімі першымі сумненнямі ён падзяліўся з Фэрамонтэ, але Карла не звярнуў на іх ніякай увагі, бо лічыў Плініё самаўпэўненым не́дамыслем, які пра сябе няма ладу што сабе думае, якога і слухаць няма чаго, — і адразу зноў аддаўся сваім музычным практыкаванням. Нешта падказвала Ёэзфу: ідзі да дырэктара, падзяліся з ім сваёй трывогай, сваімі сумненнямі, але пасля той незабыўнай гутаркі ў Ёэзфа не засталося і завязі прыязнасці да Цбіндэна. Ён не мог пайсці да яго і ўсё расказаць, ён баяўся, што яго не зразумеюць альбо, што яшчэ горш, гаворку пра бунтара дырэктар прыме як нейкі данос. І вось, збянтэжаны спробамі Плініё па-сяброўску зблізіцца з ім, ён звяртаецца да свайго зычліўца і добрага генія, Майстра музыкі, і пасылае яму падрабязны ліст, які, на шчасце, захаваўся да нашых дзён. «Я яшчэ не высветліў сабе, ці разлічвае Плініё знайсці ўва мне аднадумца, ці яму патрэбен субяседнік. Спадзяюся на другое. Бо імкненне навярнуць мяне ў сваю веру азначала б штурхнуць мяне на здраду, спробу разбурыць маё жыццё, напэўна звязанае цяпер з Касталіяй. За яе межамі ў мяне цяпер няма ні бацькоў, ні сяброў, да якіх я мог бы вярнуцца, калі б у мяне калі-небудзь узнікла такая ахвота. Але калі дзёрзкія прамовы Плініё не маюць мэты навярнуць мяне або зрабіць на мяне пэўны ўплыў, яны ўсё ж бянтэжаць мяне. Хачу быць з вамі, шаноўны Майстар, шчырым да канца: лад думак у Плініё нясе ў сабе нешта такое, што я не магу адкінуць простым «не»; ён звяртаецца да нейкага голасу ўва мне, які часам нават хіліцца да згоды з ім. Хутчэй за ўсё гэта голас самой прыроды, які ўступае ў супярэчнасць з маім выхаваннем і ўласцівымі нам поглядамі. Калі Плініё называе нашых настаўнікаў і Магістраў кастай жрацоў, а нас, вучняў, паслухмяным статкам ва́лухаў, дык гэта, ясна, грубыя, ад сумыслі, словы, але ж нейкая доля праўды, пэўна, у іх усё-такі ёсць,

інакш яны мяне не трывожылі б. Плініё ўмее выказваць дзівосныя і проста неверагодныя рэчы. Напрыклад, так: Гульня, на яго думку, — рэцыдыў фельетаністычнай эпохі, пустая бразготка з літарамі, у якой мы распусцілі мову розных мастацтваў і навук; уся яна з адных асацыяцый, гуляе з аднымі аналогіямі. Або вось яшчэ прыклад: доказам бяссэнсіцы ўсёй нашай духоўнай адукацыі і стаўлення да жыцця з'яўляецца наша свядомая бясплоднасць. Напрыклад, вы аналізуеце, кажа ён, законы, стылі і тэхніку ўсіх музычных эпох, а самі не ствараеце ніякай новай музыкі. Вы чытаеце і тлумачыце Піндара і Гётэ, кажа ён, і саромеецеся самі пісаць вершы. Усё гэта такія папрокі, якія я не магу адкінуць кепікамі. І яны яшчэ не самыя страшныя, не тыя, што найбольш мяне раняць. Горш, калі ён, напрыклад, сцвярджае, быццам мы, кастальцы, жывём як штучна выведзеныя пеўчыя птушкі, не зарабляючы сабе на хлеб, не знаючы нягод і барацьбы за існаванне, не ведаючы і не хочучы ведаць пра тую частку чалавецтва, на працы і галечы якой трымаецца наша камфартабельнае жыццё». Пісьмо канчаецца словамі: «Глыбокашаноўны Майстар, магчыма, я ўжыў на благое Вашу дабрыню і ўвагу, — я гатовы пачуць дакор з вуснаў Вашых Ушчуйце мяне, накладзіце на мяне епітым'ю, буду вам толькі ўдзячны. Але паверце, мне патрэбна Вашая рада. Нейкі час я яшчэ вытрымаю гэты стан, але павярнуць усё ў патрэбны бок — на гэта я занадта слабы і нявопытны, і самае горшае, што я не магу даверыцца нашаму дырэктару, хіба што Вы мне гэта строга загадаеце. Вось чаму я дакучаю Вам тым, што спакваля робіцца для мяне ўсё большым і большым цяжарам».

Ах, якой неацэннай паслугай быў бы нам Майстраў адказ, чорным па белым, калі б мы яго мелі ў руках! Але адказ быў дадзены вусна. Неўзабаве пасля таго, як Ёзэф паслаў пісьмо, Майстар музыкі наведаў школу, каб прыняць экзамен, і ў першы ж дзень парупіўся пра свайго юнага сябра. Мы ведаем пра гэта з расказаў самога Кнэхта. Майстар зусім не палегчыў яму задачы. Ён пачаў з уважлівай праверкі школьных адзнак у Кнэхта і асабліва яго прыватных заняткаў, якія Майстар палічыў залішне аднабаковымі. У гэтым ён згадзіўся з дырэктарам і настояў, каб Ёзэф сам ва ўсім прызнаўся дырэктару. Што да таго, як Ёзэфу трымацца з Дэсіньёры, ён пакінуў вельмі ясныя ўказанні і паехаў

толькі тады, калі ўсё абгаварыў з Цбіндэнам. Вынікам былі не толькі незабыўны кожнаму, хто стаў сведкам, паядынак паміж Дэсіньёры і Кнэхтам, але таксама і зусім новыя адносіны паміж Кнэхтам і дырэктарам. Праўда, яны і цяпер не былі задушэўныя і таямнічыя, як з Майстрам музыкі, але яны прасвятліліся, і напружанасць прапала.

Новая роля, якая выпала на долю Ёзэфа Кнэхта, надоўга акрэсліла яго далейшае жыццё. Яму было дазволена прыняць прапанаваную Плініё дружбу і, так сказаць, адкрыта сустрэць ягоныя атакі, прычым настаўнікі не павінны былі ўмешвацца або кантраляваць іх. Галоўная задача, пастаўленая Майстрам, была такая: Кнэхт павінен быў абараняць Касталію ад крытыкаў, а ўвесь дыспут весці на самым высокім узроўні; гэта пацягнула за сабой, між іншым, неабходнасць актыўнага засваення ўсіх законаў Ордэна і Касталіі, яснага іх усведамлення. Прайшло няшмат часу, і дыспуты паміж прыязнымі праціўнікамі набылі вядомасць, вучні баяліся прапусціць хоць адзін. Агрэсіўны, іранічны тон Дэсіньёры страціў сваю былую грубасць, фармулёўкі ў яго сталі больш асцярожныя і адказныя, крытыка больш канкрэтная. Да таго на баку Плініё былі амаль усе перавагі: ён прыйшоў з «свету» з яго вопытам, яго метадамі і сродкамі нападзення, і ў ім самім было нешта ад бяздушнасці гэтага свету; з гутарак дарослых у доме Дэсіньёры яму было вядома прыкладна ўсё, што гэты свет мог закінуць Касталіі. Але Кнэхтавыя пярэчанні прымусілі яго цяпер зразумець: хоць ён няблага ведаў свой свет, лепш за любога кастальца, затое Касталію, дух яе ён ведаў горш за тых, каму яна была родным домам, радзімай і лёсам. Ён пачаў разумець і паступова нават прызнаваць, што ён тут госць, а не абарыген і што не толькі там, у ягоным свеце, але і тут, у Педагагічнай правінцыі, ёсць векавы вопыт і сякія-такія дасягненні, і тут ёсць традыцыі, нават свая «прырода», якую ён ведаў толькі часткова і якая цяпер, праз свайго вестуна Ёзэфа Кнэхта, патрабавала павагі. А Кнэхт, каб лепей справіцца з роляй апалагета, вымушаны быў праз заняткі, медытацыю і самавыхаванне ясней, глыбей засвойваць тое, што меў потым абараняць. У рыторыцы заўсёды браў верх Дэсіньёры, тут апрача прыроджанага тэмпераменту і славалюбнасці яму дапамагалі пэўны свецкі вопыт і жыццёвыя спанатры; нават

на краі паражэння ён не забываўся пра слухачоў і забяспечваў сабе годнае або, прынамсі, дасціпнае адступленне, тым часам як Кнэхт, прыпёрты праціўнікам да сцяны, мог, напрыклад, сказаць: «Пра гэта мне яшчэ трэба падумаць. Пачакай колькі дзён, Плініё, я тады табе нагадаю».

Калі адносіны двух хлопцаў цяпер насілі прыстойную форму, а дыспут зрабіўся абавязковым атрыбутам тагачаснага вальдцэльскага жыцця, дык Кнэхту ні сама ягоная бяда, ні ўвесь канфлікт зусім не сталі лягчэйшымі. Дзякуючы высокаму даверу і ўскладзенай на яго высокай адказнасці ён справіўся з задачай, доказам сілы і здароўя яго натуры можа паслужыцца ўжо само тое, што ён гэтага дамогся, не нарабіўшы сабе шкоды. Але ў душы ён моцна пакутаваў. Бо яго прыязнасць да Плініё была не толькі прыязнасцю да абаяльнага і дасціпнага, свецкага і трапнага на язык таварыша, але не ў меншай меры і да таго чужога свету, які яго сябар і апанент тут прадстаўляў, які Кнэхт прыкмячаў і пазнаваў у вобразе Дэсіньёры, у яго словах і рухах; да таго так званага «рэальнага свету», дзе жылі пяшчотныя мацеркі і дзеці, галодныя людзі і прытулкі бедным, газеты, выбарчая барацьба; да таго прымітыўнага і разам з тым рафінаванага свету, куды Плініё ездзіў на вакацыі, каб пабачыцца з бацькамі, братамі і сёстрамі, пазаляцацца да дзяўчат, пабываць на рабочых сходках і пазабаўляцца ў раскошным клубе, тым часам як ён, Ёзэф Кнэхт, заставаўся ў Касталіі, хадзіў у паходы, купаўся, разбіраў рычаркары Фробергера або чытаў Гегеля.

Кнэхт ні хвіліны не сумняваўся, што сам ён цалкам належыць Касталіі і павінен жыць кастальскім жыццём, жыццём без газет, без сям'і, без сякіх-такіх легендарных забаў, але і без галечы і голаду, — дарэчы, Плініё, які так апантана абзываў вучняў эліты трутнямі, таксама ніколі не галадаў і ні разу не зарабіў сабе на кавалак хлеба. Не, свет Плініё зусім не быў найлепшым светам, не быў ён і разумней зладжаны. Але ён існаваў, ён быў тут, і, як было вядома з сусветнай гісторыі, існаваў заўсёды і заўсёды быў прыкладна такі, як і цяпер. Многія народы ніякага іншага свету не ведалі, яны нават не здагадваліся пра існаванне элітарных школ і Педагагічнай правінцыі, Ордэна, Магістраў і Гульні. Мноства людзей на зямлі жыло іншым жыц-

цём, чым у Касталіі, прасцей, больш прымітыўна, небяспечна, безабаронна, бязладна. І гэты прымітыўны свет быў людзям родны, і Кнэхт сам адчуваў нейкі след у сваім сэрцы, нешта накшталт цікаўнасці, тугі па ім і нават жалю да яго. Аддаць яму, што належыць, выдзеліць яму месца ў сэрцы, але не паддацца — вось задача. Бо побач з ім і вышэй існаваў іншы свет, свет Касталіі, свет духу, штучна створаны, уладкаваны і пад аховай, аднак ён патрабаваў сталага прygляду і ўзнаўлення, свет іерархіі. Служыць Касталіі, не пакідаючы таго іншага свету і не пагарджаючы ім, не падцікоўваючы яго спадціху, з няяснымі жаданнямі, з тугой па радзіме — о, гэта было б самае пэўнае! Бо маленькая Касталія служыць вялікаму свету, яна дае яму настаўнікаў, кнігі, распрацоўвае навуковыя метады, клапоціцца пра чысціню духоўных функцый і маралі і заўсёды, як нейкая школа і прыпорыска, адчынена нямногім людзям, якія абраныя прысвяціць сваё жыццё духу і ісціне. Але чаму абодва светы не жывуць у поўнай гармоніі і братэрстве побач адзін з адным, пранікаючы адзін у аднаго? Чаму нельга аб'яднаць абодва светы ў сваім сэрцы і песціць іх?

Сталася так, што адзін прыезд Майстра музыкі супаў з перыядам, калі Ёзэф, стомлены і змардаваны ўскладзенай на яго задачай, ледзьве стрымліваў душэўную раўнавагу. Майстар зразумеў гэта па некаторых намёках юнака, але найлепш гэта даводзіла ягоная змора, неспакойны позірк, нейкая расслабленасць. Майстар задаў некалькі дапаможных пытанняў, натыкнуўся на ўпартую неахвоту адказваць, перастаў распытваць і, заклапочаны станам Ёзэфа, павёў яго ў клас фартэпіяна, быццам хочучы паведаміць яму пра нейкае адкрыццё музычна-гістарычнага характару. Ён папрасіў Кнэхта прынесці клавікорд, наладзіць яго і спакваля ўцягнуў яго ў спрэчку пра паходжанне санаты, пакуль вучань патроху не забыўся на свае трывогі, не захапіўся і ўжо без натугі ўдзячна слухаў словы і ігру Майстра. А той яго не праспешваў, спакойна чакаў, калі Кнэхт будзе гатовы да ўспрымання, чаго пакуль што Ёзэфу так не хапала. І калі нарэшце прыйшоў гэты момант, Майстар закончыў сваё паведамленне, прайграў санату Габрыэлі, устаў і, павольна пахаджаючы па класе, пачаў расказваць.

Шмат гадоў таму назад саната гэтая мяне вельмі

займала. Было тое ў гады майго студэнцтва, яшчэ да таго, як мяне назначылі настаўнікам, а потым Майстрам музыкі. У той час маім гонарам была ідэя напісаць гісторыю санаты з новых пазіцый, і тут у мяне настаў такі перыяд, калі мне не толькі не ўдавалася пасунуцца наперад, наадварот, прыйшло сумненне, а ці маюць увогуле які-небудзь сэнс усе гэтыя музыказнаўчыя і гістарычныя даследаванні і вышукі, ці праўда, што яны — нешта большае, чым проста забава разгультаеных людзей, мішурны духоўны эрзац сапраўднага дзейнага жыцця. Карацей, перада мной стаяў крызіс, калі ўсякая навука, усякае духоўнае намаганне, усякая ідэя наогул здаюцца нам сумніўнымі, бязвартаснымі, калі мы можам зайздросціць селяніну за плугам, закаханай пары, што гуляе вечарам, птушцы, што спявае ў лістоце, і кожнаму коніку, што летам цвіркоча на лузе, бо іх жыццё здаецца нам напоўненым па берагі і такім натуральным, такім шчасцедайным — бо пра іх патрэбы, пра іх гароты, беды і пакуты мы нічога не ведаем! Адным словам, я страціў раўнавагу і мушу прызнацца, што прыемным такі стан не назавеш, мне, далібог жа, было вельмі нялёгка. Я прыдумваў сабе самыя неверагодныя варыянты ўцёкаў і вызвалення, мерыўся нават у вандроўныя музыканты, каб хадзіць з вяселля на вяселле, і калі б, як гэта апісваецца ў старых раманах, мне ў тую часіну напаткаўся замежны вярбоўшчык і прапанаваў надзець мундзір, уступіць у любое войска, ваяваць за каго б там, за што б там ні было, я б не адмовіўся. Зрэшты, як яно і бывае ў такіх аказіях, я так разгубіўся, што ўжо сам нічога не разумеў, і мне дазарэзу была патрэбная дапамога збоку.

На імгненне Майстар прымоўк, усміхнуўся сабе. І сказаў далей:

— Вядома, як яно і мусіла быць, у мяне быў чалавек, які кіраваў маімі вучонымі заняткамі і, вядома, самым разумным і слушным, нават абавязковым было б звярнуцца менавіта да яго. Але ж так яно, Ёзэф, ужо ў нас павялося, што менавіта калі ты зблудзіш з дарогі і ўлезеш у нейкую багну і табе найпільней патрэбна падтрымка, у цябе ўзнікае неадольная агіда да самага простага і нармальнага выйсця, да просьбы памагчы. Майму кіроўцу не спадабалася мая квартальная справаздача, і ён зрабіў мне некалькі істотных заўваг, а я ж думаў, што на ўвесь дух лячу да новых адкрыццяў, но-

вых канцэпцый, і таму крыху пакрыўдзіўся на яго за гэтыя папрокі. Карацей, мне зусім не хацелася звяртацца да яго; мне не дужа рупела ісці з пакаяннем да споведзі і прызнаваць, што ён меў рацыю. Сваім таварышам я таксама не мог даверыцца, але жыў там у нас адзін сусед-дзівак, пра якога я ведаў толькі па чутках, спецыяліст у санскрыце, празваны «Ёгам». І вось калі я ўжо зусім не мог трываць, я пайшоў да гэтага чалавека, чыя высокая і дзіўная постаць выклікала ў мяне ўсмешку, але і патайнае захапленне. Я ўвайшоў у келлю і ўжо быў хацеў звярнуцца да яго, але застаў яго ў стане самазаглыбленасці, у індускай рытуальнай позе — даклікацца яго было немагчыма: з ціхай усмешкай на вуснах ён лунаў недзе ў нетутэйшым свеце. Мне заставалася толькі пачакаць каля дзвярэй, пакуль ён ачуецца. Чакаў я доўга, можа, гадзіну, можа, дзве і нарэшце так стаміўся, што міжволі асунуўся на падлогу ды так і сядзеў, прыхіліўшыся да сцяны. Але вось мой дзівачына пачаў спакваля абуджацца, крыху павярнуў галаву, расправіў плечы, павольна выцягнуў ногі і, ужо збіраючыся ўстаць, убачыў мяне. «Чаго табе?» — спытаўся ён. Я падняўся і, не разважаючы, нават як след не ўсведамляючы, што кажу, бухнуў: «Гэта ўсё санаты Андрэа Габрыэлі». Тут ён выпрастаўся, пасадзіў мяне на адзінае, якое ў яго было, крэсла, сам прысеў на ражок стала і спытаўся: «Габрыэлі? Што ж ён табе зрабіў сваімі санатамі?» Тады я пачаў расказваць яму пра сябе і пра свой стан, і атрымалася ў мяне нешта накшталт споведзі. А ён давай распытваць, і ўсё пра такія падрабязнасці, што аж мне гэта здалося педантызмам: пра ўсё маё жыццё, пра заняткі, пра Габрыэлі і яго санаты, яму мусова карцела ведаць, калі я ўстаю, як доўга чытаю, колькі часу музыцырую, калі саджуся вячэраць, калі кладуся спаць. А я ж ужо яму даверыўся, нават неяк навязаўся яму, і цяпер мусіў цярпліва пераносіць ягоныя роспыты, адказваць; мне зрабілася сорамна, а ён распытваў бязлітасна, здавалася, разбіраў усё маё духоўнае і маральнае жыццё. І раптам змоўк, гэты ёг, а калі і пасля гэтага я нічога не зразумеў, ён перасмыкнуў плячыма і сказаў: «Хіба ты не бачыш сам, у чым твая памылка?» «Не, я не бачыў». Тады ён надзіва дакладна ўзнавіў усё, пра што дагэтуль распытваў, аж да першых знакаў стомы, агіды і разумовага застою і даказаў мне, што ўсё гэта магло

здарыцца толькі ад лішне вольнага і бяздумнага захаплення занятками і мне даўно пара з чужой дапамогай аднавіць страчаную сілу і кантроль над сабою. Калі ўжо я рызыкнуў адмовіцца ад рэгулярных занняткаў медытацыяй, мне след было, прынамсі, пры першых жа неспрыяльных сімптомах, кампенсаваць упушчанае. І ён меў рацыю. Я ж і праўда ўжо каторы час не займаўся медытацыяй, бо не знаходзіў на тое вольнага часу, быў нейкі раскіданы, рассеяны і раздражнёны або занадта захоплены і ўзбуджаны занняткамі; і каб жа ж толькі — праз нейкі час я нават перастаў усведамляць свой грэх, і трэба ж было, каб цяпер, на парозе поўнага краху і роспачы, мне раптам пра гэта нагадаў другі чалавек! І далібожачкі, мне тады выпала цяжкай мукай набрацца духу, перамагчы ў сабе сваю распусту і вярнуцца да пачатковых школьных практыкаванняў у медытацыі, каб паступова зноў здабыць здольнасць да канцэнтрацыі і самазаглыблення.

Майстар уздыхнуў і закончыў шпацыр па пакоі такімі словамі:

— Вось чым яно ў мяне тады абярнулася, аж дагэтуль мне крыху сорамна ўспамінаць пра гэта. Але так яно бывае заўсёды, Ёзэф, чым большага мы патрабуем ад сябе і чым большага вымагаюць ад нас пастаўленыя задачы, тым больш мы залежым ад крыніцы сілы — медытацыі, якая зноў і зноў дорыць нам прымірэнне розуму і сэрца. Я мог бы прывесці шмат прыкладаў: чым можна вабіць нас наша задача, то ўзбуджаючы і ўзвышаючы, то стамляючы і падаўляючы, тым лягчэй мы забываемся пра гэтую крыніцу, як пры разумовай рабоце часта забываемся на сваё цела і на тое, што пра яго трэба дбаць. Сапраўды вялікія людзі ўсіх часоў і народаў самі практыкавалі медытацыю або, сама мала, падсвядома намацвалі тую дарогу, куды яна вядзе. Астатнія ж, нават самыя таленавітыя і моцныя, урэшце цярпелі паражэнне, бо іх задача або іх славалюбная мара брала над імі верх, ператвараючы ў апантанцаў, і яны ўжо не маглі адарвацца ад сённяшняга дня, утрымаць дыстанцыю. Ну, ты гэта ведаеш яшчэ з першых урокаў. Гэта ісціна з ісцін. Але ў гэтым пераконваешся толькі тады, калі сам зблудзіш з дарогі.

Майстраў расказ так глыбока зайшоў Ёзэфу ў сэрца, што ён нарэшце адчуў пагрозу сабе і з падвоенай энергіяй, аддаўся медытацыі. Яго моцна ўразіла і тое, што

Майстар упершыню як бы прачыніў перад ім сваё асабістае жыццё, расказаў пра сваё юнацтва, пра студэнцтва; упершыню Ёзэф усвядоміў, што і паўбог, Майстар, калісьці таксама быў малады хлопец і таксама памыляўся. Кнэхт удзячна думаў пра той вялікі давер, якім яго адарыў сваім прызнаннем Шаноўны. Значыцца, можна было памыляцца, аддавацца расчараванню, парушаць правілы і інструкцыі, ісці па крывой дарозе і ўсё ж, адолеўшы свае памылкі і сабраўшы сілу, зноў вярнуцца на троп і нават зрабіцца Майстрам! Ёзэф адолеў крызіс.

Два-тры вальдцэльскія гады, пакуль трывала дружба паміж Плініё і Ёзэфам, уся школа пільна сачыла, як разгортвалася драма, — дружба-варожасць Плініё і Ёзэфа. У гэтай драме ў пэўнай меры бралі ўдзел усе — ад дырэктара да самага маладога вучня. Два светы, два прынцыпы ўвасобіліся ў Дэсіньёры і Кнэхце, кожны нібы ўзвышаў другога, ператвараючы любую спрэчку ва ўрачысты і прадстаўнічы двабой, які хваляваў усіх. І калі Плініё пасля кожных канікулаў вяртаўся, нібы дакрануўшыся да маці-зямлі, поўны свежай сілы, дык Ёзэф чэрпаў свежую сілу ў кожным роздуме, у кожнай уважліва прачытанай кнізе, у кожнай медытацыі, у кожнай сустрэчы з Майстрам музыкі і рабіўся ўсё лепшым і лепшым адвакатам і прадстаўніком Касталіі. Калісьці даўно, амаль яшчэ дзіцём, ён перажыў сваё першае пакліканне. Цяпер ён зведаў і другое, і менавіта гэтыя гады выкавалі з яго сапраўднага кастальца. Ён ужо даўно прайшоў першы курс Гульні ў перлы, і цяпер, у канікулы, пад наглядам вопытнага кіраўніка пачаў эскізаваць свае першыя самастойныя партыі. Тут яму адкрылася адна з самых шчодрых крыніц радасці і ўнутранага супакаення; з часу яго неспатольных практыкаванняў на клавесіне і клавікордах з Карла Фэрамонтэ нішто так не свяжыла яго, так дабратворна не дзейнічала на яго, ні ў чым ён не знаходзіў такога самаўсталявання, такога шчасця, як у гэтых першых зазірках у зорны свет Гульні. На тыя гады прыпадаюць і вершы Ёзэфа Кнэхта, якія дайшлі да нас у копіях Фэрамонтэ; можна дапусціць, што іх было больш, магчыма таксама, што якраз гэтыя вершы, самыя раннія з якіх нарадзіліся яшчэ да таго, як Ёзэф далучыўся да Гульні, моцна паспрыялі выкананню даручанай яму ролі і пераадоленню крызісу тых незабыўных гадоў. Кожны, хто

прачытае гэтыя строфы, знойдзе ў іх сляды ўзрушэння, якое перажыў Кнэхт пад уплывам Плініё. Некаторыя радкі, несумненна, выяўляюць глыбокую трывогу, прынцыповыя сумненні ў самім сабе і ў сэнсе жыцця, пакуль мы нарэшце ў вершы «Гульня шкляных перлаў» не знаходзім, на думку нашу, удалае і дабрамыснае іх выражэнне. Між іншым, у самім факце напісання гэтых вершаў і ў тым, што некаторыя з іх ён паказваў сябрам, мы бачым пэўную ўступку свету Плініё, пэўны элемент бунтарства супраць законаў Касталіі. Бо калі Касталія ўвогуле адмовілася ад пісання мастацкіх твораў (у тым ліку і музычных — там прымаюць творы толькі вельмі строгіх у стылі і форме практыкаванняў), дык стварэнне вершаў лічылася ўвогуле немагчымым і нават ганебным. Такім чынам, забаўкай, пустой бразготкай гэтыя вершы не назавеш, спатрэбіўся высокі ціск, каб пацяклі тыя радкі, даволі вялікая доля ўпартай мужнасці, каб такое выказаць.

Нельга змоўчаць і пра тое, што і ў Плініё Дэсіньёры пад уплывам апанента адбыліся істотныя перамены, і не толькі ў сэнсе фармавання ў ім вартасных і сумленных метадаў барацьбы. Ішлі школьныя гады, абодва змагаліся і сябравалі. Дэсіньёры бачыў, як яго партнёр спакваля вырастаў у прыкладнага кастальца, у вобразе сябра ўсё відавочней і жывей паўставаў перад ім сам дух Педагагічнай правінцыі. І падобна на тое, як ён, Плініё, спрычыніў у Ёзэфе пэўную турбацыю, ушчапіўшы яму нешта ад атмасферы свайго свету, ён і сам удыхаў кастальскае паветра, падупадаючы яго ўплывам і чарам. Настаў апошні год яго вучобы ў Вальдцэлі, і вось аднаго разу пасля дзвюхгадзіннага дыспуту пра ідэалы манаства і яго небяспекі, які яны правялі пры старэйшыне курса аддзялення Гульні, Дэсіньёры ўзяў Ёзэфа з сабой на шпацыр, каб зрабіць яму прызнанне, якое мы цытуем паводле пісьма Фэрамонтэ.

«Я, зразумела, даўно ўжо ведаю, Ёзэф, што ты далёка не той артадаксальны Майстар Гульні і святы касталец, ролю якога ты так бліскуча выконваеш. Кожны з нас абодвух змагаецца на тым месцы, на якое пастаўлены, і кожны з нас выдатна ведае, што тое, супроць чаго ён ваюе, мае права на існаванне і бясспрэчную вартасць. Ты стаіш на баку вышэйшай культуры духу, я адстойваю натуральнае жыццё. Пакуль мы змагаліся, ты навучыўся высочваць і браць на вока небяспекі таго

натуральнага жыцця; твой абавязак указваць на тое, як натуральнае, наіўнае жыццё, калі яно без духоўнай аброці, заводзіць нас у багну і абавязкова саштурхоўвае да жывёльнага існавання і яшчэ ніжэй. А мой абавязак — не стамляючыся, паўтараць, якое праблематычнае, небяспечнае і, нарэшце, бясплённае жыццё, калі яно грунтуецца толькі на адным духу. Ну, добра, хай кожны бароніць тое, у прымат чаго ён верыць: ты — дух, я — прыроду. Аднак не крыўдуй на мяне, часам мне здаецца, быццам ты і напраўду ў сваёй наіўнасці маеш мяне за ворага вашага кастальскага духу, за чалавека, якому ўсе вашыя заняткі, практыкоўкі і гульні — чыстая мішура, хоць сам ён па тых ці іншых прычынах нейкі час бярэ ў іх удзел. Што ж, дарагі мой, ты грунтоўна памыляешся, калі сапраўды думаеш так! Павінен табе прызнацца таксама, што некалькі месяцаў таму назад, дома, я ў гутарцы з бацькам дамогся ў яго дазволу застацца ў Касталіі і ўступіць у Ордэн, калі ў канцы вучобы ў мяне не прападзе такая мая ахвота; і я быў шчыра шчаслівы, калі атрымаў нарэшце ягоную згоду. Ад нядаўняга я ведаю пэўна: я ёю не скарыстаюся. І не таму, што ахвота адышла! Не, што новы дзень, то ясней бачу: застацца ў вас было б для мяне ўцёкамі, дастаткова прыстойнымі, але ўсё ж уцёкамі. Таму я наважыў вярнуцца ў свет. Але я назаўсёды застануся ўдзячны вашай Касталіі і далей буду трымацца некаторых вашых практыкаванняў, а кожны год абавязкова браць удзел у вялікай урачыстай Гульні».

З глыбокім пачуццём Ёзэф перадаў гэта прызнанне Плініё свайму сябру Фэрамонтэ. А той у пісьме дадае: «Мне, чалавеку музыкі, гэта прызнанне Плініё, з якім я не заўсёды быў справядлівы, было нібы музычным перажываннем. З супярэчнасці «свет — дух» або «Плініё — Ёзэф», з сутыкнення двух непрымірымых прынцыпаў у мяне на вачах вырас сінтэз — канцэрт».

Пасля заканчэння чатырохгадовага курса ў Вальдцэлі, калі Плініё ўжо меўся вярнуцца ў бацькоўскі дом, ён перадаў дырэктару школы бацькава пісьмо, у якім было запрашэнне Ёзэфу Кнэхту правесці ў іх вакацыі. Гэта быў беспрэцэдэнтны выпадак. Хоць школа і адпускала вучняў у падарожжы за межы Педагагічнай правінцыі, галоўным чынам з пазнаваўчымі мэтамі, і нават не так ужо і рэдка, аднак кожнага разу гэта было выключэнне, а не правіла, і такую магчымасць давалі

толькі студэнтам, а не вучням. Усё ж дырэктар Цбіндэн палічыў запрашэнне ад галавы такога высокашаноўнага дома досыць важным і не адважыўся адхіліць яго сам, а перадаў на разгляд камісіі Выхаваўчай калегіі, якая вельмі хутка адказала на яго лаканічным адмаўленнем.

Прыйшоў час сябрам развітацца.

— Пачакаем крыху і паспрабуем ім зноў перадаць запрашэнне, — сказаў Плініё, — калі-небудзь наша возьме. Ты абавязкова павінен пазнаёміцца з маімі бацькамі, усімі нашымі, убачыць і зразумець, што ўсе мы жывыя людзі, а не проста зброд свецкіх гультаёў і дзялкоў. Мне цябе будзе вельмі не хапаць. А ты, Ёзэф, паклапаціся, каб апынуцца на вяршынях тваёй хітрамудрай Касталіі. Далібог, табе адмыслова пасуе роля члена іерархіі, але, здаецца, роля бонзы большая за ролю фамулуса [1] наперакор твайму імю. Я вяшчую табе вялікую будучыню, прыйдзе такі дзень, і ты зробішся Магістрам, і цябе залічаць у найсвятлейшыя.

Ёзэф журботна паглядзеў на яго.

— Можаш сабе кпіць, — сказаў ён з жэстам, як бы развітваючыся і не хочучы гэтага. — Я вось і напалавіну не такі славалюбны, як ты, і калі я нават займу важную пасаду, ты на той час ужо будзеш прэзідэнтам альбо бургамістрам, федэральным радцам альбо універсітэцкім прафесарам. Думай добра пра нас, Плініё, і не забывай Касталіі, не цурайся нас. Бо, думаю, і ў вас у свеце павінны быць людзі, якія ведаюць пра Касталію нешта большае, чым анекдоты, што там у вас ходзяць пра нас.

Яны пацiснулі рукі, і Плініё паехаў. Апошні вальдцэльскі год прайшоў у Ёзэфа неяк вельмі вяла, яго такі цяжкі і напружлівы абавязак, можна сказаць, роля грамадскай асобы, нечакана адпаў, Касталіі больш не патрэбен быў абаронца. Свой вольны час у той год ён аддаў Гульні, якая ўсё больш захапляла яго. Запісная кніжка, якая бог ведае якім дзівам дайшла да нас і ў якую ён заносіў свае думкі пра тэорыю і значэнне Гульні, пачынаецца фразай: «Усё наша жыццё, фізічнае і духоўнае, — гэта нейкі дынамічны феномен, з паўнаты якога Гульня ўхоплівае толькі эстэтычны бок і пры гэтым пераважна ў выглядзе рытмічных працэсаў».

---

[1] слуга (*лац.*). Кнэхт — слуга (*ням.*).

## СТУДЭНЦКІЯ ГАДЫ

Ёзэфу Кнэхту было цяпер каля дваццаці чатырох гадоў. Вальдцэлем закончылася яго вучнёўская пара і настала вольнае студэнцтва; калі не лічыць дзіцячай бестурбоціцы ў Эшгольцы, дык студэнцтва сталася самай светлай і шчаслівай часінай у ягоным жыцці. Яно і праўда, у свабодных хлапцоўскіх пошуках без школьных цугляў, у празе адкрываць і заваёўваць усё, у яго імклівым руху да бясконцых даляглядаў духоўнага свету ёсць нешта кранальнае, дзівоснае, нешта ад сапраўднага цуду, бо яшчэ не развеяў вецер ніводнай ілюзіі, не ўзнікла сумненняў ні ў сваёй здольнасці да бязмежнай самааддачы, ні ў бясконцасці духоўнага свету. Менавіта ў такіх талентаў, як Ёзэф Кнэхт, у людзей, якія ўжо з натуры сваёй імкнуцца да цэльнасці, да сінтэзу і да універсальнасці, якія не цягнуцца адмысловай яркай здольнасцю да ранняй канцэнтрацыі на чым-небудзь адным, — у такіх натур вясна студэнцкай вольнасці бывае часам глыбокага хмельнага шчасця; аднак без дысцыпліны, вынесенай з школы эліты, без душэўнай гігіены медытатыўных практыкаванняў, без тактоўнага кантролю Выхаваўчай калегіі такая свабода была б памянёным талентам вельмі небяспечнай і шмат у каго адыграла б фатальную ролю, як яно і сталася з безліччу таленавітых людзей да ўстанаўлення нашых парадкаў у дакастальскія часы. У тыя сівыя часы вышэйшыя школы ў розныя поры кішэлі юнымі натурамі фаўстаўскага тыпу, якія на ўсіх ветразях ляцелі ў адкрытае мора навукі і акадэмічнай свабоды, непазбежна перажываючы ўсе караблекрушэнні неакілзанага дылетантызму; сам жа Фаўст — гэта правобраз геніяльнага дылетанта з усім уласцівым яму трагізмам. У Касталіі ж духоўная свабода студэнта бясконца шырэйшая, чым ва універсітэтах ранейшых эпох, і магчымасці даследаваць багацейшыя, да таго ж Касталія не ведае ніякага націску матэрыяльных умоў, тут не маюць ніякага значэння славалюбнасць, страх, беднасць бацькоў, клопат пра заробак і кар'еру і ўсякае такое. У акадэміях, семінарах, бібліятэках, архівах, лабараторыях Педагагічнай правінцыі ўсе студэнты, любога паходжання, маюць роўныя магчымасці; іх прызначэнні на розныя ступені іерархіі бываюць толькі адпаведна інтэлекту і характару. І наадварот, большыні вольна-

сцяў, спакус і небяспек, якія цікуюць маладых людзей у свецкіх універсітэтах — як у сферы духу, так і ў матэрыяльнай, — у Касталіі няма зусім. Зразумела, ёсць тут свае небяспекі, свае вар'яцтва і замарачэнне, ды, зрэшты, дзе чалавецтва клопату з гэтым не мае? І ўсё ж не адна магчымасць крушэння, расчаравання і пагібелі закрытая кастальскаму студэнту. Не можа ён, напрыклад, аддацца п'янству, не спартачыць ён сваю маладосць у гаманлівых змоўніцкіх суполках, такіх характэрных для многіх пакаленняў студэнтаў мінулых часоў, не можа ён раптам ці знянацку расшалопаць, што яго студэнцкі дыплом — гэта відавочная памылка, што ў яго школьнай падрыхтоўцы зеўраюць страшэнныя прагалы; ад усяго гэтага яго ахоўваюць кастальскія завядзёнкі. Небяспека прамантачыць сваю сілу на спорт або дзяўчат таксама не збыт вялікая. Што да дзяўчат, дык кастальскі студэнт не ведае ні небяспек і спакусаў шлюбу, ні дэвоцтва ранейшых эпох, што штурхалі студэнта да аскетызму або ў абдымкі да жанчын больш ці менш прадажных і проста шлюх. Як што ў кастальскіх студэнтаў няма шлюбу, дык няма ў іх і любоўнай маралі, звязанай з інстытутам шлюбу. А як у кастальцаў няма грошай і, шчыра кажучы, ніякай уласнасці, дык не існуе і прадажнага кахання. У Педагагічнай правінцыі пашыраны звычай не выдаваць бюргерскіх дачок надта рана замуж, і таму да вяселля студэнт або вучоны для іх сама-сама здатны палюбоўнік: гэты ўжо ніколі не папытаецца пра паходжанне і прыбыткі бацькоў, ён даўно прывык, прынамсі, прыроўніваць духоўныя здольнасці да матэрыяльных, часцей за ўсё мае не абы-якое ўяўленне і добрую долю гумару, а як грошай у яго ўсё адно няма, дык і расплачвацца ён павінен асабістым малайцоўствам. Сяброўка кастальскага студэнта не задае сабе пытання: ажэніцца ён са мною ці не. Не, не ажэніцца. Праўда, бывалі і такія выпадкі: сёй-той з студэнтаў эліты жаніўся, вяртаўся ў свет і адмаўляўся ад Касталіі і Ордэна. Аднак гэтыя нешматлікія выпадкі адступніцтва ў гісторыі школ і Ордэна такія рэдкія, што звычайна разглядаюцца як кур'ёз.

Ступень свабоды і самавызначэння для вучняў элітарных школ пасля выпуску ва ўсіх галінах ведаў была даволі вялікая. Абмяжоўваюцца яны, калі толькі талент і інтэрас не звужаюць іх з самага пачатку, абавязкам

кожнага падаваць план сваіх заняткаў на семестр; яго выкананне Калегія кантралюе даволі мякка. Вельмі адораныя студэнты з шырокімі інтарэсамі — сярод іх і Кнэхт — дзякуючы гэтай сваёй шырокай свабодзе прымаюць першыя студэнцкія гады як нешта дзівосна вабнае і радаснае. І менавіта такім студэнтам, калі яны не цалкам гультаі, Калегія дае амаль райскую свабоду. Як таго студэнт захоча, ён можа заглядваць у любыя навукі, мяшаць любыя галіны, адначасова захапляцца шасцю ці васьмю прадметамі або з самага пачатку абмежавацца вузейшай спецыяльнасцю. Апрача выканання агульных для ўсёй Правінцыі і Ордэна правілаў паводзін, ад яго нічога не патрабуецца, толькі адзін раз на год ён мусіць паказваць картачкі, дзе памечаны наведванне лекцый і прачытаныя студэнтам кнігі, а таксама праходжанне практыкі ў розных інстытутах. Больш дэталёвая праверка поспехаў пачынаецца з наведвання спецыяльных курсаў і семінараў, да якіх належаць курсы Гульні і кансерваторыя; у гэтых выпадках — і гэта разумеецца само сабою — студэнты абавязаны здаваць спецыяльныя экзамены і выконваць усе заданні кіраўніка семінара. Але ніхто іх не прымушае наведваць гэтыя курсы; студэнт можа, калі хоча, сядзець гадамі ў бібліятэках або толькі слухаць лекцыі. Тым студэнтам, якія не спяшаюцца выбраць адну нейкую навуку, адцягваючы ўступленне ў Ордэн, ніхто не заважае падоўгу вандраваць па самых розных ведах, наадварот, іх усяляк падтрымліваюць. Апрача маральнай чысціні ад іх патрабуюць адзін раз у год падаваць выдуманы «жыццёпіс». Гэтай старой і шмат разоў асмеянай традыцыі мы і заўдзячваем трыма «жыццёпісамі», напісанымі Кнэхтам у студэнцкія гады. Гаворка тут ідзе не пра добраахвотную і неафіцыйную літаратурную працу, у пэўнай меры тайную, нават недазволеную, вынікам якой былі напісаныя ў Вальдцэлі вершы, а пра звычайную і афіцыйную працу. Яшчэ на золку Касталіі нарадзіўся звычай абавязваць малодшых студэнтаў (яшчэ не прынятых у Ордэн) пісаць своеасаблівыя навелы або стылістычныя практыкаванні — так званыя «жыццёпісы», інакш кажучы, выдуманыя, уяўныя біяграфіі, аднесеныя да любой з мінулых эпох. Перад студэнтам ставілася задача ў думках перанесціся ў атачэнне і культуру, духоўную атмасферу якой-небудзь гістарычнай эпохі і прыдумаць сабе адпаведнае таму

асяроддзю жыццё. У залежнасці ад часу і моды гэта былі: імператарскі Рым, Францыя семнаццатага або Італія шаснаццатага стагоддзяў, Афіны эпохі Перыкла або Аўстрыя часоў Моцарта, а ў філолагаў да таго ж склалася правіла пісаць раманы пра сваё жыццё на мове і ў стылі адпаведнай краіны і эпохі. Захаваліся надзіва віртуозна напісаныя біяграфіі ў курыяльным стылі папскага Рыма 1200 года, аўтабіяграфіі, напісаныя на манаскай латыні, аўтабіяграфіі на італьянскай мове «Ста навел», на французскай Мантэня, на нямецкай у стылі барока Швана фон Боберфельда. У гэтым вольным і гульнёвым жанры захаваўся водгалас старажытнаазіяцкай веры ў адраджэнне і перасяленне душ; сярод педагогаў і вучняў было пашырана ўяўленне пра тое, што цяперашняму жыццю, магчыма, папярэднічала другое, у іншым абліччы, у іншыя часы, у іншым асяроддзі. Вядома, гэта нельга было назваць верай у строгім сэнсе слова, яшчэ менш гэта было вучэннем; найлепш было б назваць гэта гульнёй, практыкаваннем, палётам фантазіі, спробай уявіць сваё «я» ў іншым атачэнні, у іншых абставінах. Гэтаксама як у стылістычных семінарах, а часта і ў Гульні, студэнты тут вучыліся асцярожна ўздымаць заслону над мінулымі эпохамі культуры, часам і краінамі, прывыклі разглядаць сябе як нейкую маску, часовае аблічча энтэлехіі. У такой традыцыі ёсць свой шарм, ёсць і свае перавагі, інакш яна не жыла б так доўга. Дарэчы, было даволі многа студэнтаў, якія хто больш, хто менш верылі не толькі ў ідэю адраджэння душ у іншым вобразе і ў верагоднасць імі самімі створаных аўтабіяграфій. Вядома, большасць гэтых уяўных аўтабіяграфій не была проста стылістычным практыкаваннем або гістарычным экскурсам, — не, гэта была ў пэўным сэнсе мара, так сказаць, ідэальны або ідэалізаваны аўтапартрэт: студэнты апісвалі сябе, як правіла, у тым адзенні, давалі сабе такія характары, у якіх ім хацелася б фарсіць і якія яны хацелі б мець у ідэале. Дадамо, што гэтыя жыццеапісанні былі някепскім педагагічным прыёмам, нейкай афіцыйнай адтулінай для патрэбы ў паэзіі, такой уласцівай юнацкаму ўзросту. Прайшло ўжо шмат пакаленняў з таго часу, як сапраўднае і сур'ёзнае вершаскладанне было асуджана і збэшчана: недзе яго замянілі навукамі, а недзе Гульнёй шкляных перлаў. Аднак прага мастацкай творчасці, прага, такая ўласцівая маладосці, цалкам не была спа-

толена. У стварэнні хімерных біяграфій, якія часам разрасталіся да цэлых аповесцяў, маладым людзям давалі дазволенае і шырокае поле чыннасці. Магчыма, пры гэтым сёй-той і рабіў свае першыя крокі па дарозе да самапазнання. Здаралася, між іншым, — і настаўнікі глядзелі на гэта прыхільна, — што студэнты ў такіх «жыццёпісах» нападалі на цяперашні стан рэчаў у свеце і на Касталію з крытыкай і выказвалі бунтарскія ідэі. Апрача ўсяго там усякага, творы гэтыя шмат чаго гаварылі настаўнікам пра маральны і духоўны стан аўтараў якраз у той час, калі студэнты карысталіся найбольшай свабодай і не былі пад пільным прыглядам.

Да нас дайшлі тры такія «жыццёпісы», напісаныя Ёзэфам Кнэхтам, і ўсе тры мы падаём чытачам слова ў слова, маючы іх за найбольш каштоўную частку нашай кнігі. Ці Кнэхт напісаў толькі гэтыя тры выдумкі, ці якая-небудзь яшчэ дзе згубілася — пра тое можна толькі гуляць у здогадкі. Пэўна мы ведаем толькі, што пасля таго, як Кнэхт здаў трэцюю, «індыйскую», біяграфію, канцылярыя Выхаваўчай калегіі параіла яму для наступнай выбраць больш блізкую гістарычную эпоху, пра якую ашчадзілася больш дакументальных звестак, і даць добрай увагі гістарычным дэталям. З распавесцяў і пісьмаў мы ведаем: Кнэхт сапраўды заняўся зборам матэрыялаў на новую біяграфію, дзе ён хацеў паказаць сябе ў васемнаццатым стагоддзі; ён збіраўся выступіць у ролі швабскага багаслова, які пакідае царкоўную пасаду, каб цалкам аддацца музыцы; дарэчы, гэты багаслоў — вучань Ёгана Альбрэхта Бэнгеля, сябар Этынгера і нейкі час гасцюе ў абшчыне Цынцэндорфа. Нам вядома таксама, што ў той час Кнэхт прачытаў і заканспектаваў шмат прац, нават вельмі рэдкіх, пра царкоўныя статуты, піетызм і пра Цынцэндорф, пра літургіку і старадаўнюю царкоўную музыку. Дайшло да нас і тое, што Кнэхт быў улюбёны ў вобраз прэлата — чарадзея Этынгера, ды і да магістра Бэнгеля меў сапраўдную любоў і глыбокае пачуццё мілажалю, ён нават перазняў яго партрэт, які доўгі час можна было бачыць у яго на пісьмовым стале. Кнэхт рабіў сур'ёзныя спробы і захады, каб аб'ектыўна ацаніць Цынцэндорф, які аднолькава і прыцягваў і адштурхоўваў яго. Урэшце, так і не закончыўшы, Ёзэф адклаў гэтую працу, задаволіўшыся тым, што паспеў уведаць. Адначасова ён

заявіў, што не патрапіць стварыць на гэтым матэрыяле біяграфію, бо залішне разагнаўся на дэталі. Менавіта гэтая заява дае нам канчатковае права бачыць у трох «жыццёпісах» — зусім не думаючы прынізіць іх — хутчэй працу паэтычнай і высакароднай натуры, чым працы навукоўца.

Здабытая свабода была Кнэхту не толькі свабодай навуковага пазнання, — яна азначала таксама моцную разрадку. Ён жа быў не проста выхаванцам, як усе астатнія, яго нэндзілі не толькі строгія школьныя правілы, дакладны парадак дня, пільны кантроль і настаўніцкі прыгляд — усё гэта зусім не малы цяжар на плечы элітарніка. Адносіны з Плініё Дэсіньёры ўсклалі на Ёзэфа яшчэ большы цяжар, што патрабавала крайняга напружання разумовых і душэўных сіл: гэта ж была даволі актыўная і прадстаўнічая роля, і адказнасць, калі па праўдзе, пераважала ягоную сілу, была яўна яму не па гадах. Усё гэта ён адужаў толькі дзякуючы сіле волі і таленту, і ўсё ж без падтрымкі здалёку, падтрымкі майстра музыкі, ён, зразумела, не здолеў бы давесці справу да канца. Дваццацічатырохгадовага Кнэхта мы бачым пры канцы вальдцэльскага вучнёўства, хоць і не па гадах высталенага і крыху ўжо стомленага, але, як гэта ні дзіўна, без вонкавых знакаў прычыненай яму шкоды. Але як глыбока была ўражана ўся яго істота гэтай роляй і гэтым цяжарам, як блізка быў ён да поўнага вычэрпання сілы, — хай і няма на тое непасрэдных сведчанняў — мы можам вывесці з таго, як скарыстаўся малады чалавек так горача спрагненай свабодай. Кнэхт, які ў апошнія школьныя гады стаяў навідавоку і пэўным чынам ужо належаў грамадскасці, адразу і рашуча ад усяго дыстансаваўся. І не толькі, бо калі прасачыць усё яго тагачаснае жыццё, дык складваецца ўражанне, што найбольш яму хацелася, каб яго ніхто не бачыў: ніякая атачэнне, ніякая кампанія не здаваліся яму дастаткова ціхімі, ніякае жыццё дастаткова самотным. На першыя, даволі доўгія і бурныя лісты Дэсіньёры ён адказваў вельмі каротка і неахвотна, а потым і ўвогуле перастаў пісаць. Знакаміты вучань Кнэхт як у ваду ўпаў; толькі ў Вальдцэлі слава яго не праходзіла і з бегам часу зрабілася легендарнай.

Якраз таму ён у першыя гады студэнцтва пазбягаў Вальдцэля, што нават спавадавала на першым часе

тое, што ён адмовіўся наведваць старэйшыя і вышэйшыя курсы Гульні. Нягледзячы на гэта — хай нават верхагляду якому і павінна была кінуцца ў вочы дзіўная пагарда да Гульні, — мы ведаем: уся плынь яго вольных заняткаў, калі і здавалася бязладнай, бессістэмнай, прынамсі, незвычайнай, — цалкам падупадала Гульні, вяртала яго да Гульні і да служэння ёй. Мы расказваем пра гэта крыху падрабязней, бо рыса гэтая — характэрная. Ёзэф Кнэхт скарыстаўся свабодай сваіх навуковых заняткаў вельмі дзівосна, нават, здавалася б, па-вар'яцку, па-маладому геніяльна. У Вальдцэлі, як і ўсе, ён паслухаў уводзіны ў Гульню і адпаведны паўторны курс. Захоплены моцнай сілай Гульні, ён, каго ў апошні год вучобы сярод сяброў ужо называлі добрым гульцом, закончыў яшчэ адзін курс і, хоць лічыўся толькі вучнем эліты, быў прыняты ў другую ступень адэптаў Гульні, а гэта ўважалася за высокую адзнаку.

Аднаму таварышу з гэтага курса, свайму сябру і пазней памочніку Фрыцу Тэгулярыусу ён праз некалькі гадоў расказаў пра выпадак, які не толькі вызначыў яго рашэнне стаць адэптам Гульні, але і зрабіў вялікі ўплыў на яго навуковыя даследаванні ў студэнцкія гады.

Пісьмо гэта захавалася.

Кнэхт піша:

«Я хачу згадаць табе адзін пэўны дзень і адну даволі пэўную Гульню таго часу, калі мы абодва, назначаныя ў адну групу, так старанна працавалі над дэбютамі нашых першых партый. Кіраўнік падаў нам некалькі ідэй, даў на выбар розныя тэмы, мы якраз дайшлі да пераходу ад астраноміі, матэматыкі і фізікі да філалогіі і гісторыі, а кіраўнік наш быў вялікі майстар ставіць нам, нецярплівым навічкам, самыя хітрыя пасткі, заваблівадь нас на коўзкую глебу недапушчальных абстракцый і аналогій. Ён падсоўваў нам панадныя гульні-цацкі з параўнальнага мовазнаўства і этымалогіі і пацяшаў звыш усякай меры, калі каторы з нас заблытваўся ў хітра пастаўленых сетках. Мы без памяці падлічвалі даўжыню грэцкіх складоў, і раптам, збіўшы нас з панталыку, замест метрычнага, нам прапанoўвалі заняцца націскным скандзіраваннем. Фармальна ён выкладаў бліскуча і досыць карэктна, хоць мяне і гідзіла такое выкладанне: ён паказваў нам памылко-

вые ходы, спакушаў падманнымі высновамі, каб з самым пахвальным намерам звярнуць нашу ўвагу на небяспеку, якая нас падпільноўвае, але пэўнай мерай і дзеля таго, каб пасмяяцца з зялёных хлапчукоў, а найбольш захопленым прышчапіць болей скепсісу. Але менавіта на яго ўроках, у час яго эксперыментаў з пасткамі і падстаўкамі, калі мы нясмела, навобмацак спрабавалі прыкінуць больш-менш прымальную партыю, мяне раптам ахапіла і ўскалыхнула ўсю маю душу ўсведамленне сэнсу і велічы нашай Гульні. Мы ў той час якраз латашылі нейкую мовазнаўчую праблему і як бы зблізку разглядалі трыумфальныя ўзлёты мовы, пераходзілі з ёю за некалькі мінут дарогу, на якую мове спатрэбіліся стагоддзі. Пры гэтым мяне вельмі ўразіла карціна прахласці ўсяго існага: на нашых вачах такі складаны, старадаўні, многімі пакаленнямі крок па кроку створаны арганізм спачатку расквітнеў, ужо несучы ў сабе зародак пагібелі, а потым гэты мудра ўзведзены будынак пастунова старэў і ішоў да заняпаду — адзін за адным у ім паяўляліся знакі выраджэння, вось-вось зусім абваліцца. Але тут мне прыйшла радасная, пераможная думка: падзенне і смерць гэтай мовы не завялі ў пустэчу, у нішто, бо маладосць яе, росквіт і нават заняпад захаваліся ў нашай памяці, у нашых ведах пра яе і яе гісторыю, яна жыве ў знаках і формулах навукі, у тайнапісе Гульні шкляных перлаў, а таму ў любы час можа быць адноўлена. Нечакана [redacted] зразумеў, што ў мове нашай Гульні (прынамсі, па ідэі) кожны знак сапраўды ўсеахопны, кожны сімвал і кожная камбінацыя сімвалаў вядзе не куды-небудзь, не да асобнага прыкладу, эксперыменту або доказу, а да цэнтра, да тайны тайнаў свету, да асновы ўсіх ведаў. У святле той мінуты мне адкрылася, што кожная мадуляцыя з мажору ў мінор у санаце, кожнаеператварэнне міфа або культу, кожная класічная фармулёўка або выказванне мастака — пры ўмове сапраўднага медытатыўнага разгляду — гэта не што якое, як найпрасцейшая дарога да таемнасцяў свету, дзе паміж удыхам і выдыхам, паміж небам і зямлёй, паміж Інь і Ян вечна здзяйсняецца святое. Хоць я ўжо тады прысутнічаў слухачом на некалькіх добра праведзеных гульнях і пры гэтым перажыў некалькі ўзнёслых хвілін і зрабіў не адно шчаслівае адкрыццё, я ўсё ж датуль схіляўся да сумненняў наконт сапраўднай каштоўнасці і знач-

насці нашай Гульні. Урэшце, кожная ўдала рэшаная матэматычная задача можа прынесці духоўную асалоду, усякая добрая музычная п'еса, калі яе слухаеш, і яшчэ больш, калі яе іграеш, здольная ўзвысіць душу, далучыць да вялікага, а кожная пранікнёная медытацыя супакоіць тваё сэрца, наладзіць яго ў унісон з сусветам. Якраз таму, нашэптвала мне сумненне, Гульня — толькі фармальнае мастацтва, спрыт розуму, уменне дасціпна камбінаваць, а таму ці не лепш перастаць гуляць, а заняцца чыстай матэматыкай або добрай музыкай? Але якраз тады, упершыню для мяне, прагучаў унутраны голас самой Гульні, мяне наскрозь пранізаў яе запаветны сэнс, і з таго часу я паверыў: наша царсцвенная Гульня — сапраўды lingua sacra, свяшчэнная і боская мова. Табе няцяжка ўспомніць гэтае імгненне, ты ж тады сам заўважыў, як я ўнутрана перамяніўся: я пачуў покліч. Параўнаць яго я магу толькі з тым незабыўным поклічам, які пераўтварыў і ўзвысіў маю душу і жыццё, калі яшчэ хлапчуком я сустрэўся з Magister musicae і ён паклікаў мяне ў Касталію. Ты ўсё заўважыў, і я гэта адчуў, хоць ты не сказаў ні слова; мы і цяпер не будзем пра гэта гаварыць. Ну, дык вось, у мяне да цябе просьба, і каб было ясней, я павінен табе расказаць нешта, чаго яшчэ ніхто не ведае і не павінен ведаць. Мае цяперашнія заняткі — не капрыз, яны не ад выпадковага настрою, у аснове іх прадуманы план. Ты, пэўна, хоць і ў агульных рысах, яшчэ памятаеш тую партыю, якую мы на трэцім курсе склалі з нашым настаўнікам, — яшчэ акурат тады я пачуў той самы голас і пережыў сваё прызванне. Тую партыю (яна пачыналася з рытмічнага аналізу тэмы для фугі, пасярэдзіне ў ёй было выслоўе, якое прыпісваецца Канфуцыю) я вывучаю і сёння, інакш кажучы, прыдумваю кожную фразу і перакладаю яе з мовы Гульні на пачатковую мову — матэматычную, арнаментальную кітайскую, грэцкую і г. д. Я хачу хоць раз у жыцці па-сапраўднаму прасачыць і сам пабудаваць увесь змест адной партыі. Першую частку я ўжо адолеў, гэта забрала ў мяне два гады, відаць, прыйдзецца аддаць яшчэ некалькі гадоў. Але калі ўжо ў Касталіі ў нас ёсць свабода занятку, я вырашыў скарыстацца ёю менавіта так. Усе пярэчанні мне вядомыя. Большасць нашых настаўнікаў сказалі б: спатрэбіліся стагоддзі на вынаходства і ўдасканаленне Гульні як нейкай уні-

версальнай мовы; спатрэбіліся стагоддзі, каб з дапамогай знакаў гэтай мовы выявіць усе духоўныя каштоўнасці і паняцці. І вось прыходзіш ты і хочаш праверыць, ці правільна гэта! На гэта ў цябе пойдзе ўсё жыццё, і ты пашкадуеш. Не, няпраўда, цэлае жыццё не спатрэбіцца, і я не пашкадую. Цяпер пра маю просьбу: ты ж працуеш у Архіве Гульні, а я, з прычын вельмі грунтоўных, нейкі час не хацеў бы паказвацца ў Вальдцэлі. Таму прашу цябе адказаць на некаторыя пытанні, паведаміць мне, але не скарочана, афіцыйныя коды і знакі розных тэм, якія захоўваюцца ў Архіве. Я разлічваю на цябе, а таксама на тое, што, калі я табе спатрэблюся, ты таксама зможаш абаперціся на мяне».

Магчыма, тут якраз будзе дарэчы прывесці яшчэ адзін фрагмент з пісьмаў Кнэхта пра Гульню, гэтым разам — з пісьма Майстру музыкі, хоць яно і напісана на год ці на два пазней за тое, якое я цытаваў.

«Я думаю, — піша Кнэхт свайму патрону, — што можна быць прыстойным, віртуозным майстрам Гульні, нават здольным Магістрам, і не здагадвацца пра сапраўдную таямніцу Гульні, пра яе запаветны сэнс. Акрамя таго, чалавек, які здагадваецца пра яго або яго спазнаў, зрабіўшыся віртуозам Гульні або нават яе ўзначаліўшы, здольны прычыніць ёй куды большую шкоду, чым той, хто пра яе нічога не ведае. Бо ўнутраны эзатэрычны бок Гульні, як і ўсякая эзатэрыка, накіраваны ў суцэльнае адзінства, у глыбіні, туды, дзе ў вечным удыху і выдыху толькі вечнае дыханне кіруе сабою. Таго, хто да канца пранік у запаветны сэнс Гульні, ужо не назавеш проста гульцом, яму ўжо не ўласцівая множнасць, ён не здольны на радасць вынаходніцтва, складання і камбінавання, бо ён зведаў іншыя жаданні і радасці. Паколькі я лічу сябе блізкім да самога сэнсу Гульні, дык і мне і іншым будзе лепш, калі я не зраблю Гульню сваёй прафесіяй, а аддамся музыцы».

Мабыць, Майстра музыкі, увогуле не шчодрага на пісьмы, устрывожыла гэта прызнанне, і ён паспяшаўся ў сваёй звычайнай прыязнай манеры асцерагчы свайго гадаванца: «Добра, што ты не патрабуеш ад свайго кіраўніка Гульні «эзатэрычнасці» ў тваім разуменні гэтага слова, бо я спадзяюся, што ў тваіх словах не было іроніі. Кіраўнік Гульні або настаўнік, найбольш занепакоены тым, ці дастаткова ён наблізіўся да «запавет-

нага сэнсу», быў бы кепскім педагогам. Шчыра прызнаюся, на ўсім сваім доўгім веку я ніколі не казаў сваім вучням пра «сэнс» музыкі; калі ён і ёсць, дык не мае патрэбы ўва мне. І наадварот, я заўсёды надаваў вялікае значэнне таму, каб мае вучні ўмелі добра адлічваць восьмыя і шаснаццатыя. Ці ты будзеш настаўнікам, ці навукоўцам, ці музыкантам — схіляйся нізка перад «сэнсам», але не думай сабе, быццам яго можна выкласці. Апантаныя жаданнем выкласці «сэнс», філосафы гісторыі калісьці сапсавалі пачатак фельетаністычнай эпохі і нямала вінаватыя ў рэках пралітай крыві. Гэтак жа сама, калі б я меўся пазнаёміць вучняў з Гамерам або грэцкімі трагікамі, я б не спрабавау ўкласці ў іх разуменне паэзіі як формы боскасці, а ўсю сваю сілу скіраваў бы на раскрыццё ім паэзіі праз яснае веданне яе моўных і метрычных сродкаў. Настаўнік і вучоны павінны вывучаць гэтыя сродкі, захоўваць традыцыі і чысціню метадаў, а не ўзбуджаць і прыспешваць тыя перажыванні, якія ўжо не могуць быць выяўлены і якія даступныя толькі выбраным або, што вельмі часта тое самае, пакутнікам і ахвярам».

Кнэхтава перапіска тых гадоў не багатая, хоць, магчыма, многія пісьмы згубіліся; прынамсі, пра Гульню і яе «эзатэрычнае» тлумачэнне больш нідзе ніякіх упамінкаў няма; найбольш захавалася пісьмаў з перапіскі з Фэрамонтэ, амаль усе яны прысвечаныя музычным праблемам і аналізу музычных стыляў.

Такім чынам, у шматгадовых звівах, якія мы бачым у Кнэхтавым студэнцтве, ёсць дакладнае ўзнаўленне схемы адной-адзінай партыі, гэта значыць, — даволі пэўная задума, а таксама жаданне стаяць на сваім. Каб засвоіць змест толькі адной партыі, якую яны калісь, яшчэ вучнямі, дзеля практыкавання прыдумалі за некалькі дзён і якую на мове Гульні можна было прачытаць за чвэрць гадзіны, ён год у год праседжваў у аўдыторыях і бібліятэках, вывучаў Фробергера і Алесандра Скарлаці, пабудову санаты і фугі, матэматыку і кітайскую мову, вывучыў сістэму гукавых фігур і тэорыю Фойстэля пра адпаведнасць шкалы колераў пэўным музычным танальнасцям. Мы задаём сабе пытанне, навошта ён ступіў на гэтую цяжкую і такую самотную дарогу, калі канчатковая мэта яе (па-за Касталіяй сказалі б: выбар прафесіі) была несумненна Гульня шкляных перлаў. Калі б ён, ні да чога сябе не

абавязваючы, паступіў вольным слухачом у адзін з інстытутаў Vicus lusorum — вальдцэльскае Селішча Гульні, — дык вывучаць усе спецыяльныя прадметы, звязаныя з Гульнёй, было б куды лягчэй. У любы час ён мог бы разлічваць на падтрымку, на параду, і, акрамя таго, ён мог бы аддавацца сваім заняткам разам з сябрамі і аднадумцамі, а не мучыцца сам з сабою, часам нават у добраахвотным выгнанні. Што ж, ён ішоў сваёй дарогай. Як мы думаем, ён пазбягаў Вальдцэля не толькі каб вытруціць з памяці — са сваёй і з памяці іншых, — якую ролю ён там іграў, але і каб у абшчыне адэптаў Гульні не апынуцца зноў у такім самым становішчы. Бо, мабыць, ужо тады ён адчуў у сабе прадвызначанасць да кіраўніцтва і прадстаўнічасці і рабіў, што толькі мог, каб адмовіцца ад навязанай яму ролі. Ён загадзя ведаў цяжар адказнасці, ужо тады адчуваў яе перад вучнямі Вальдцэля, якія захапляліся ім і якіх ён так старанна пазбягаў. Асабліва востра адчуваў ён яе перад Тэгулярыусам, інстынктыўна здагадваўся, што той за яго гатовы ў агонь і ў ваду. Якраз у той час Кнэхт і пачаў шукаць самоты, сузіральніцтва, а лёс выштурхоўваў яго наперад, на людзі. Такім прыкладна мы ўяўляем сабе яго тагачасны стан. Але была яшчэ адна важная прычына, якая адцурала яго ад выбару нармальнага курсу навучання ў вышэйшай школе Гульні і штурхала да адзіноты, а менавіта: неадольнае даследчыцкае парыванне, схаванай спружынай якога былі ўсё тыя самыя сумненні ў самой Гульні. Вядома, ён зведаў і адчуў, што Гульні можна надаваць высокі і свяшчэнны сэнс, але ён бачыў таксама, што большасць гульцоў і вучняў, нават частку кіраўнікоў і настаўнікаў, нельга было назваць адэптамі Гульні ў тым, найвышэйшым сэнсе; яны ўспрымалі яе мову не як lingua sacra, а толькі як дасціпны від стэнаграфіі, а ў самой Гульні бачылі цікавую і пацешную спецыяльнасць, нейкі інтэлектуальны спорт або арэну барацьбы людской пыхі. Як мы бачым з пісьма да Майстра музыкі, ён ужо меў пэўнае ўяўленне пра тое, што, магчыма, вартасці гульца не заўсёды вызначаюцца пошукам запаветнага сэнсу, што Гульні таксама патрэбна эзатэрычнасць і яна адначасова ёсць і тэхніка, і навука, і грамадская інстытуцыя. Карацей кажучы, усё яшчэ былі сумненні і разлад. Праблема Гульні зрабілася праблемай яго жыцця, і ён зусім не хацеў, каб яго барацьба аблегчы-

лася праз умяшанне спагадлівых пастыраў альбо была зведзена да дробязі прыязна-паблажлівымі ўсмешкамі настаўнікаў.

Сярод дзесяткаў тысяч ужо згуляных партый альбо сярод мільёнаў магчымых ён, вядома, мог выбраць любую для сваіх даследаванняў. Ён добра ўсведамляў гэта і спыніўся на той выпадковай, складзенай яго таварышамі і ім самім схеме. Гэта была гульня, у час якой яго ўпершыню захапіў сэнс усіх гульняў, і ён зразумеў, што яму наканавана быць адэптам Гульні шкляных перлаў. У тыя гады ён ні на хвіліну не расставаўся са скарочаным запісам схемы гэтай партыі. У ёй былі: формула астранамічнай матэматыкі, прынцып пабудовы старадаўняй санаты, выслоўе Канфуцыя і да таго падобнае — усё на мове Гульні, у знаках, шыфрах, абрэвіятурах і сігнатурах. Чытачу, які, магчыма, не знаёмы з нашай Гульнёй, мы раім уявіць сабе такую схему прыкладна як схему партыі ў шахматы, але толькі і самыя значэнні фігур, і варыянты іх узаемаадносін, а таксама магчымасці іх уздзеяння адной на адну трэба ў думках памножыць у шмат разоў і кожнай фігуры, кожнай пазіцыі, кожнаму ходу дапісаць пэўны сімвалічны змест, выяўлены менавіта гэтым ходам, гэтай пазіцыяй, гэтай фігурай і так далей. Ну, дык вось свае студэнцкія гады Кнэхт не толькі прысвяціў дэталёваму вывучэнню прыведзеных у схеме зместаў, прынцыпаў, твораў і сістэм, але і ў працэсе гэтага вывучэння вырашыў сам прайсці праз усе гэтыя культурныя эпохі, навукі, мовы, віды мастацтва, стагоддзі. Не менш важнай задачай, невядомай нікому з настаўнікаў, ён лічыў дасканалую праверку сістэм і сродкаў мастацтва Гульні на гэтых аб'ектах.

Забягаючы наперад, мы скажам пра вынікі ягоных намаганняў: сям-там ён выявіў прагалы, асобныя недахопы, але ў цэлым наша Гульня, відаць, вытрымала яго строгі экзамен, інакш ён ніколі да яе не вярнуўся б.

Калі б мы пісалі культурна-гістарычны нарыс, дык шмат якія сцэны з Кнэхтавага студэнцтва, мясціны, якія ён у тыя гады наведваў, былі б вартыя больш падрабязнага разгляду. Ён любіў, напрыклад, калі, вядома, выпадала нагода, такія мясціны, дзе мог працаваць у адзіноце альбо з нямногімі калегамі; да некаторых такіх мясцін ён захаваў удзячную прывязанасць. Некалькі

разоў ён бываў у Манпоры, часам госцем старога Магістра, часам як удзельнік семінара па гісторыі музыкі. Двойчы мы застаём яго ў Хірсландзе, рэзідэнцыі Ордэна, на «вялікіх чуваннях» — дванаццацідзённым посце і медытацыі. З асаблівай радасцю і нават пяшчотна расказваў ён пазней сябрам пра дзівосны Бамбукавы гай, зацішны куточак, дзе ён вывучаў «І-цзін». Тут, ці то ў прадчуванні, ці то інстынктыўна, ён не толькі перажыў і зведаў нешта вырашальнае, але і знайшоў у сабе адзінае ў сваім родзе асяроддзе і незвычайнага чалавека, так званага «Старэйшага Брата», стваральніка і жыхара кітайскага эрмітажа — Бамбукавага гаю. Нам здаецца, што будзе дарэчы крыху больш дэталёва апісаць гэты незабыўны эпізод з студэнцкіх гадоў Кнэхта.

Да вывучэння кітайскай мовы і класікаў Кнэхт падступіўся ў славутым Усходнеазіяцкім інстытуце, які спрадвеку быў у селішчы класічнай філалогіі Сан-Урбане. Там ён хутка ўздольніўся ў чытанні і пісьме, пазнаёміўся з некалькімі кітайцамі і ўжо вывучыў на памяць некалькі песень з «Шы-цзін», калі на другі год ён зацікавіўся «І-цзін», «Кнігай перамен». Адказваючы на яго просьбы, кітайцы, праўда, давалі яму розныя даведкі, але ніхто не браўся прачытаць яму ўводны курс, бо такога выкладчыка ва Усходнеазіяцкім інстытуце не было. Толькі пасля таго, як Кнэхт ужо каторы раз папрасіў назначыць яму выкладчыка для грунтоўных заняткаў «Кнігай перамен», яму расказалі пра Старэйшага Брата і ягоную адлюдненасць. Кнэхт ужо даўно звярнуў увагу на тое, што, зацікавіўшыся гэтай кнігай, ён натыкнуўся на сферу, ад якой ва Усходнеазіяцкім інстытуце як маглі адхрышчваліся. Тады ён паасцеражнеў у сваіх роспытах і, спрабуючы болей разведаць пра Старэйшага Брата, высветліў, што гэты адлюднік хоць і карыстаецца пэўнай павагай і нават славай, аднак гэта хутчэй слава адзінокага дзівака, чым вучонага. Нарэшце ён вырашыў, што яму няма на каго разлічваць, як толькі на сябе самога, спешна закончыў чарговую семінарскую працу і пехатой выправіўся ў тую мясціну, дзе таямнічы Старэйшы Брат калісь пасадзіў свой Бамбукавы гай, праславіўшыся праз гэта не то мудрацом і настаўнікам, не то блазнам.

Даведаўся пра яго Кнэхт прыкладна наступнае: дваццаць пяць гадоў таму назад гэта быў студэнт кі-

тайскага аддзялення, які падаваў самыя вялікія надзеі. Здавалася, сама прырода вызначыла яго на гэты факультэт, неўзабаве ён пераўзышоў сваіх найлепшых настаўнікаў, нават кітайцаў, як у тэхніцы пісьма пэндзлікам, так і ў расшыфроўцы старадаўніх звіткаў. Аднак ён крыху бянтэжыў усіх тым, што ўсімі спосабамі стараўся і вонкава прыпадобніцца да кітайцаў. Напрыклад, да ўсіх настаўнікаў, ад кіраўніка семінара да Магістра, ён упарта звяртаўся не так, як гэта рабілі студэнты — па тытуле і на «вы», а называў кожнага «мой старэйшы брат» (гэта мянушка так і прыліпла да яго назаўсёды).

Асаблівую ўвагу Старэйшы Брат аддаваў аракульскай гульні «І-цзін», у якую па-майстэрску гуляў з дапамогай традыцыйных сцяблін крываўніку. Побач з старадаўнімі каментарыямі да кнігі аракулаў ён найбольш любіў чытаць кнігу Чжуан Цзы. Відаць, строга рацыяналістычны канфуцыянскі дух, які панаваў на кітайскім аддзяленні Усходнеазіяцкага інстытута (з гэтым пазней сутыкнуўся і Кнэхт), адчуваўся і тады, бо Старэйшы Брат нечакана пакінуў інстытут, які вельмі ахвотна карыстаўся б ягонымі паслугамі як выкладчыка спецыяльнага прадмета, і выправіўся ў падарожжа, узяўшы з сабой толькі пэндзлік, пляшачку тушы і дзве-тры кнігі. Ён пабываў на поўдні краіны, наведаў братоў з Ордэна, мабыць, усё-такі нечага шукаў, і ўрэшце знайшоў месца свайму схімніцтву; з вялікай настойлівасцю пісьмова і вусна ён дамагаўся і дамогся ад свецкіх уладаў і Ордэна дазволу пасяліцца тут і засадзіць тут зямлю. З таго часу ён жыў ідылічна ў старакітайскім стылі, у міры з сабою і асяроддзем, то пад насмешкі і кпіны, як дзівак, то з павагай і пашанай, як свайго роду жрэц, і як што было калі даглядаць бамбукавы гай, які засланяў сабою акуратненькі кітайскі садок ад паўночных вятроў, праводзіў дні ў медытацыі і ў перапісванні старых звіткаў.

У тыя мясціны і выправіўся Ёзэф Кнэхт. Ён часта адпачываў і любаваўся краявідамі, якія за пераваламі адкрываліся яму з блакітнага марыва ў водары залітых сонцам тэрасных вінаграднікаў, рудымі скаламі з увішнымі яшчаркамі, навіссю магутных каштанаў, пахучай вабнасцю паўднёвых гор. Ужо вечарэла, калі Кнэхт дабраўся да Бамбукавага гаю; ён увайшоў і, ашаломлены, убачыў сярод дзівоснага саду кітайскую фанзу;

крынічка сцякала з драўлянай рыны па выбрукаваным раўчуку да басейна, з шчылін якога прабівалася зеляніна; у ціхай празрыстай вадзе плавалі залатыя рыбкі. Над моцнымі камлямі спакойна шалясцелі мяцёлкі бамбуку, газон сям-там пераходзіў у каменныя пліты, на якіх чыталіся надпісы ў класічным стылі. Над кветнікам схіляўся худы чалавек у жоўта-шэрым палатняным адзенні, у акулярах, праз якія глядзелі, нібы нечага чакаючы, блакітныя вочы. Чалавек расправіўся і павольна пайшоў насустрач госцю, без ніякай непрыязнасці, але з нейкай няёмкасцю, як гэта бывае ў людзей, што жывуць адзінока. Ён запытальна паглядзеў на Кнэхта і пачаў чакаць, што яму той скажа. Кнэхт вымавіў кітайскія словы, падрыхтаваныя на такі выпадак.

— Юны вучань асмельваецца засведчыць сваю пашану Старэйшаму Брату.

— Добра выхаванага госця — сардэчна запрашаю, — адказаў Старэйшы Брат, — маладога калегу рады бачыць за чаем і прыязнай гутаркай, а калі ён таго захоча, яму знойдзецца і начлег.

Кнэхт зрабіў «котао» і падзякаваў. Пасля яго ўвялі ў кітайскі дамок, пачаставалі чаем, паказалі садок, каменныя пліты з надпісамі, басейн з залатымі рыбкамі, назвалі іх узрост. Да вячэрняга сталоўя гаспадар і госць сядзелі пад шэлестам бамбукавага лісця, абменьваліся мілымі кампліментамі, вершамі і выслоўямі з класічных тэкстаў, любаваліся кветкамі і цешылі сябе ружовым россвітам вечара, што адцвітаў над ланцугом гор. Пасля зноў вярнуліся ў дамок. Старэйшы Брат падаў хлеба і садавіны, спёк на малюсенькай пліце вельмі смачныя праснакі сабе і госцю, а калі вячэра закончылася, студэнту было зададзена пытанне пра мэту яго прыезду, і прытым па-нямецку, і той адказаў, як дабраўся сюды, з чым прыйшоў, інакш кажучы, з жаданнем застацца столькі, колькі Старэйшы Брат дазволіць быць яго вучнем.

— Пра гэта заўтра, — сказаў пустэльнік і прапанаваў госцю ложак на начлег.

Раніцай, устаўшы, Кнэхт выйшаў у садок, прысеў на краі вадаёма, залюбаваўся залатымі рыбкамі. Доўга глядзеў ён у гэты маленькі, вільготны свет цемры, святла і чароўных пераліваў фарбаў, дзе ў блакітна-зялёным, а то і ў чарнільным змроку калыхаліся залатыя целы, і якраз тады, калі ўвесь свет здаваўся зача-

раваным, заснулым навек, каб ніколі не ўстаць з летуценняў, яны плаўна, эластычна і ўсё ж застрашлівым рухам распырсквалі крышталёвыя і залатыя блікі па ўсім сонным царстве. А Кнэхт усё глядзеў, задумваўся ўсё болей і болей, бадай, мроячы, чым сузіраючы, і нават не заўважыў, як з кітайскага доміка лёгкім крокам выйшаў Старэйшы Брат, спыніўся і доўга дзівіўся на свайго задуманага госця. Калі Кнэхт схамянуўся ад здранцвення і нарэшце ўстаў, Старэйшы Брат ужо знік, але неўзабаве Кнэхт пачуў з доміка ягоны голас, што клікаў да чаю. Яны коратка павіталіся, выпілі кожны чашку і доўга сядзелі ў ранішняй цішыні, слухаючы звонкі плёскат крынічкі, мелодыю вечнасці. Пустэльнік устаў і пачаў упраўляцца па гаспадарцы ў сваім несіметрычным памяшканні, часам пазіраючы прымружанымі вачыма на Кнэхта, і нечакана спытаўся:

— Ці гатовы ты абуць сандалі і пайсці адгэтуль?

Кнэхт, памаўчаўшы, адказаў:

— Калі трэба, я гатовы.

— А калі здарыцца так, што ты пабудзеш тут, ці гатовы ты быць паслухмяным, ціхім і нямым, як залатая рыбка?

І зноў студэнт сказаў, што гатовы.

Пакуль Кнэхт цікаўна і пачціва глядзеў на Старэйшага Брата, «ціхі і нямы, як залатая рыбка», той дастаў з драўлянага сасуда, падобнага на калчан, палачкі — высушаныя сцяблінкі крываўніку. Уважліва палічыўшы іх, ён некалькі паклаў назад у калчан, адну адклаў убок, а рэшту раздзяліў на дзве роўныя часткі; трымаючы палавіну ў левай руцэ, ён даставаў тонкімі пальцамі правай некалькі палачак з другой палавіны, лічыў іх і адкладваў, пакуль палачак не засталося зусім мала, іх ён заціснуў паміж двума пальцамі ў левай руцэ. Пасля гэтага рытуальнага пераліку, калі ад палавіны засталося ўсяго дзве-тры палачкі, ён паўтарыў працэдуру з другой палавінай. Адлічаныя палачкі ён адклаў, перабраў зноў абедзве палавіны, адну за адной пералічыў, зноў узяў астатак паміж пальцаў, і рабіў гэта з нейкай ашчаднай ціхай хуткасцю, што выглядала як нейкая тайная, тысячу разоў гуляная і даведзеная да віртуознасці гульня. Так ён згуляў некалькі разоў, і нарэшце засталіся тры невялікія купкі палачак, па колькасці іх ён выявіў знак і напісаў яго тонкім пэндзлікам на лісток паперы. Пасля ўвесь складаны рытуал

паўтарыўся, палачкі дзяліліся на дзве купкі, іх пералічвалі, некалькі адкладвалі, заціскалі паміж пальцаў, пакуль нарэшце зноў не засталіся тры купкі і не быў запісаны другі знак. У нейкім таямнічым, ні разу не парушаным рытме палачкі, пастукваючы адна аб адну, рухаліся, падскоквалі; мяняліся месцамі, складваліся ў купкі, іх дзялілі і зноў пералічвалі. У канцы кожнага тура пальцы запісвалі чарговы знак, так што ў выніку ўсе дадатныя і адмоўныя знакі пасталі ў шэсць радкоў адзін пад адным. Пасля гэтага палачкі былі акуратна сабраныя і зноў складзеныя ў калчан. Сам кудзеснік сядзеў на трысняговай цыноўцы і доўга моўчкі ўглядаўся ў вынікі запытання аракула на сваім лістку.

— Гэта знак Мон, — сказаў ён нарэшце. — Знак называецца: безразважнасць маладосці. Наверсе гара, унізе вада, наверсе Інь, унізе Кань. Каля ўзножжа гары струменіць крыніца, сімвал маладосці. Тлумачэнне вяшчае:

Безразважнасць юнацтва ўдачлівая.
Не я шукаю юнага неразважліўца.
Юны неразважлівец шукае мяне.
На першае пытанне аракул адкажа.
Дакучаць роспытамі — гэта настырнасць.
Настырнаму я нічога не скажу.
Настойлівасць — дабратворная.

Ад напружанасці Кнэхт затоіў дыханне. У цішыні пачуўся яго ўздых. Ён не адважваўся распытваць. Але яму здавалася, што ён зразумеў: юны неразважлівец прыйшоў, яму дазволена застацца. Яшчэ ў той час, калі пальцы і палачкі рухаліся, як марыянеткі, яны зачаравалі яго нейкай асэнсаванасцю, і хоць сэнс гэты немагчыма было ўлавіць, вынік быў ясны. Аракул даў свой вырак, ён вырашыў на ягоную карысць.

Мы не апісвалі б так падрабязна гэты эпізод, калі б Кнэхт не расказваў яго так часта сябрам і вучням, прытым з відавочнай асалодай. А зараз вернемся да свайго расказу.

Шмат месяцаў правёў Кнэхт у Бамбукавым гаі і авалодаў дзействам з палачкамі крываўніку і рабіў усе цырымоніі амаль гэтаксама спрытна, як і яго настаўнік. Той штодня практыкаваўся з ім у лічэнні палачак, адкрыў яму таямніцу граматыкі і сімволіку мовы аракулаў, прымусіў вывучыць на памяць і запісаць шэсць-

дзесят чатыры знакі, а асабліва ўдалымі днямі расказваў адну з гісторый Чжуан-Цзы.

У вольны час вучань даглядаў сад, мыў пэндзлікі, расціраў туш, навучыўся гатаваць і суп, і чай, збіраць хмыз, сачыць за надвор'ем, чытаць кітайскі каляндар. Але некалькі яго спроб у час нешматслоўных гутарак загаварыць пра Гульню, пра музыку не мелі поспеху. Здавалася, перад ім глухі. Часам такія пытанні Старэйшы Брат адхіляў паблажлівай усмешкай, часам адказваў якім-небудзь выслоўем накшталт: «Густыя хмары — няма дажджу», «Высакародны — беспахібны». Але калі Кнэхт выпісаў з Манпора невялікія клавікорды і штодня па гадзіне іграў на іх, гаспадар не перашкаджаў яму. Аднаго разу Кнэхт прызнаўся свайму настаўніку, што вельмі б хацеў уключыць сістэму «І-цзін» у Гульню. Старэйшы Брат засмяяўся.

— Паспрабуй, сам пабачыш, да чаго гэта давядзе. Пасадзіць і выгадаваць у гэтым свеце чароўны бамбукавы гаёк яшчэ можна. Але ці ўдасца садоўніку ўмясціць увесь свет у гэты свой гай, здаецца мне неверагодным.

Аднак годзе пра гэта. Згадаем толькі, што Кнэхт шмат гадоў пазней, ужо калі быў паважанай асобай у Вальдцэлі, прапанаваў Старэйшаму Брату ўзяць на сябе выкладанне спецыяльнага прадмета, але той яму так і не адказаў.

Не адзін раз Ёзэф Кнэхт гаварыў пра месяцы, праведзеныя ў Бамбукавым гаі, як пра асабліва шчаслівы час свайго жыцця, часта называў яго «пачаткам абуджэння», і наогул слова «абуджэнне» часта сустракаецца ў яго выказваннях. Крыху падобны, хоць і не зусім аднолькавы сэнс ён да гэтага надаваў слову «пакліканне». Варта дапусціць, што «абуджацца» азначала ў яго імгненна ўсведамляць самога сябе, сваё месца ў кастальскім і агульначалавечым свеце. Аднак нам здаецца, што спакваля акцэнт перасоўваецца да самапазнання, бо Кнэхт усё глыбей і глыбей прасякаўся адчуваннем свайго адмысловага, адметнага і непаўторнага становішча і прызначэння, тым часам як паняцці і катэгорыі ўстойлівай агульнай і спецыфічна кастальскай іерархіі рабіліся для яго адноснымі.

Пакінуўшы Бамбукавы гай, Кнэхт не перастаў вывучаць Кітай, ён з асаблівай увагай даследаваў старадаўнюю кітайскую музыку. Амаль ва ўсіх старых кітай-

скіх аўтараў Кнэхт натыкаўся на ўсхваленне музыкі як адной з крыніц усякага парадку, маралі, прыгажосці і здароўя. Такое шырокае і маральнае ўспрыняцце музыкі даўно ўжо было блізкае яму дзякуючы Магістру музыкі, які з поўным правам мог бы лічыцца яе ўвасабленнем. Ніколі не адступаючы ад асноўнага плана сваіх заняткаў, вядомага нам з пісьма да Тэгулярыуса, Кнэхт, як толькі намацваў нешта істотнае, як толькі паспяваў адчуць, куды вядзе «абуджэнне», смела і настойліва ішоў наперад. Станоўчым вынікам яго вучобы ў Старэйшага Брата было пераадоленне страху перад Вальдцэлем; цяпер ён кожны год наведваў якія-небудзь вышэйшыя курсы Гульні і нават, не разумеючы, зрэшты, як гэта здарылася, неўзабаве стаў у Vicus lusorum чалавекам, на якога глядзелі з цікаўнасцю і прызнаннем. Ён увайшоў у самы вузкі і далікатны орган усёй Гульні — у ананімную групу вопытных майстроў, у чыіх руках, па сутнасці, быў яе лёс або, прынамсі, лёс таго ці іншага кірунку, таго ці іншага стылю Гульні. Членаў гэтай групы — у яе ўваходзілі, хоць і не ў большасці, таксама жрацы асобных інстытуцый Гульні — часцей за ўсё можна было застаць у зацішных памяшканнях Архіва за крытычным разборам асобных партый, за ўцягваннем у Гульню новых тэматычных сфераў і адхіленнем якіх-небудзь тэм. Яны ўвесь час вялі спрэчкі «за» і «супраць» зменлівых густаў і кірункаў Гульні — гэта датычылася і яе формы, і знешніх прыёмаў, і нават спартыўнага элемента. Кожны, хто ўвайшоў у гэтае кола, віртуозна валодаў Гульнёй, кожны бачыў кожнага наскрозь, ведаў яго здольнасці, характар, як гэта бывае ў калегіях якога-небудзь міністэрства альбо ў вузкім коле арыстакратычнага клуба, дзе сустракаюцца і знаёмяцца заўтрашнія і паслязаўтрашнія лідэры і кіраўнікі. Тут заўсёды панаваў прыглушаны, вытанчаны тон; усе, хто сюды прыходзіў, любілі славу, не выстаўляючы гэтага напаказ, былі пераважна ўважлівыя і крытычныя. У гэтай эліце маладога пакалення з Vicus lusorum многія кастальцы, ды і сёй-той за межамі Правінцыі, бачылі апошні росквіт кастальскіх традыцый, вяршкі арыстакратычнай духоўнасці, і не адзін юнак гадамі марыў калі-небудзь увайсці ў гэты клан. Другім, наадварот, гэта рафінаванае кола прэтэндэнтаў на высокія пасады ў іерархіі Гульні было чымсьці ненавісным і ўпадніцкім, клікай раздураных гультаёў, раз-

гуляных геніяў, што ўжо страцілі смак жыцця і адчуванне рэальнасці, фанабэрыстым і па сутнасці паразіцкім гуртам франтаў і славалюбцаў, чыёй прафесіяй, чым зместам усяго жыцця была забава, было бясплённае падсалоджванне духу.

Кнэхт не прымаў ні першага, ні другога погляду; яму было ўсё адно, ці хваліла яго студэнцкая пагалоска як небывалае дзіва, ці высмейвала як выскачку і гардзея. Важныя былі толькі ягоныя заняткі, якія цяпер усе круціліся ў сферы Гульні. І яшчэ яму было важнае, бадай што, адно толькі пытанне: ці праўда, што гэтая Гульня ёсць найвышэйшае дасягненне Касталіі і ці вартая яна таго, каб аддаць ёй жыццё? Бо паглыбленне ў Гульню і ў запаветныя таямніцы яе законаў і магчымасцяў, вывучэнне пакручастых лабірынтаў яе Архіва і заблытанага ўнутранага свету гульнёвай сімволікі — усё гэта зусім не вызваляла ад паняверкі; з вопыту ён ведаў, што вера і сумненні непадзельныя; што яны ўзаемна абумоўленыя, як удых і выдых, і таму з кожным крокам ва ўсе галіны мікракосму Гульні расла і яго празорлівасць, яго ўспрымальнасць да ўсяго сумнеўнага ў самой Гульні. Нядоўга ідылія ў Бамбукавым гаі супакойвала яго альбо, калі хочаце, збівала з панталыку; прыклад Старэйшага Брата паказаў яму, што з усіх гэтых праблем былі розныя выхады. Можна было, напрыклад, ператварыцца ў кітайца, замкнуцца за сваім садовым плотам і жыць так далей у адмысловай, але абмежаванай дасканаласці. Можна было, бадай што, стаць і піфагарэйцам альбо манахам і схаластам, але ж усё гэта было б уцёкамі, выйсцем магчымым і дазволеным толькі няшмат каму, адмаўленнем ад універсальнасці, ад сённяшняга і заўтрашняга дня дзеля нечага дасканалага, але мінулага. Гэта было б узвышаным відам дэзерцірства, і Кнэхт своечасова адчуў, што гэта не яго дарога. Але ж якая ў яго дарога? Ён ведаў, што апрача вялікіх музычных здольнасцяў і расхіленасці да Гульні ў ім драмала яшчэ некранутая сіла, нейкая ўнутраная незалежнасць, упарцістасць у высокім сэнсе гэтага слова, што зусім не перашкаджала і не забараняла яму служыць і падпарадкоўвацца, але патрабавала ад яго служыць толькі найвышэйшаму. І гэта ягоная сіла, гэтая незалежнасць, гэтая ўпарцістасць не былі толькі пэўнай рысай яго ўнутранага «я», — яны былі скіраваныя вонкі і ўздзейнічалі на людзей вакол яго. Яшчэ ў

школьныя гады, асабліва з часу яго суперніцтва з Плініё Дэсіньёры, ён часта заўважаў, што многім аднагодкам і маладзейшым, ён не толькі падабаўся, але яны шукалі яго дружбы, хацелі стаць пад яго ўладу, слухаліся ягоных парад, ахвотна прымалі ягоны ўплыў, і гэтае назіранне пазней даволі часта пацвярджалася. Было нешта вельмі прыемнае, радаснае ў гэтым назіранні, яно цешыла гонар, мацавала яго самапэўнасць. Але быў і другі, зусім другі бок, змрочны і страшны. Бо было нешта недазволенае і агіднае ўжо ў гэтай схільнасці звысоку глядзець на сваіх таварышаў, слабых і прагных да чужых парад, кіраўніцтва і прыкладу, няўпэўненых у сабе, з падточаным пачуццём сваёй годнасці, а тым больш у прытоеным жаданні зрабіць з іх паслужных рабоў. Да таго ж, з часу дыскусій з Плініё ён добра ведаў, якім напружаннем, якой адказнасцю, нават душэўным цяжарам даводзіцца расплачвацца за кожную высокую і бліскучую пасаду. Ведаў і тое, як цяжка было часам Магістру музыкі пераносіць сваё становішча. Прыемна і нават змусліва было мець уладу над людзьмі, красавацца перад іншымі, але быў у гэтым і нейкі дэманізм, была небяспека, нездарма ж сусветная гісторыя стракаціць імёнамі валадароў, правадыроў, палкаводцаў, авантурыстаў, якія ўсе, з малымі выключэннямі, выдатна пачыналі і вельмі дрэнна канчалі, якія ўсе, хай сабе на словах, цярабіліся да ўлады дзеля дабра, а ўжо потым, апантаныя і ап'янелыя ад улады, палюбілі ўладу дзеля яе самой. Трэба было асвянцаць і ўжыць дзеля дабра дадзеную яму ад прыроды ўладу, паставіць яе на службу іерархіі, і гэта заўсёды ў яго само з сябе вынікала. Але дзе, у якім месцы прытачыць сваю сілу, каб яна служыла як мага лепш, каб плёніла? Здольнасць вабіць, больш або менш уплываць на людзей, асабліва на маладых, мела б каштоўнасць у афіцэра або палітыка; тут, у Касталіі, яна не патрэбная, тут такія здольнасці, шчыра кажучы, былі не лішнія, бадай што, толькі настаўніку або выхавацелю, а такая дзейнасць зусім не падабалася Кнэхту.

Калі б яно залежала толькі ад яго, ён лепей жыў бы вольным вучоным або адэптам Гульні. І вось перад ім усё тое самае пакутлівае пытанне: ці ёсць гэтая Гульня найвышэйшае, ці царыца яна ў духоўным царстве? Ці не ёсць яна, насуперак усяму, зрэшты, толькі забава? Ці вартая яна поўнага самаахвяравання, таго, каб слу-

жыць ёй усё жыццё? Пачатак гэтай славутай Гульні быў пакладзены шмат пакаленняў таму назад, як нейкай замене мастацтва, а цяпер, у кожным разе, шмат каму, яна паступова ператваралася ў свайго роду рэлігію, у магчымасць многім інтэлектуалам засяродзіцца і самазабыўна маліцца. Такім чынам, у грудзях у Кнэхта разгаралася старая спрэчка паміж этычным і эстэтычным. Ніколі да канца не выказанае, але ніколі і не замоўчанае пытанне, яно глуха і грозна прагучала ў яго вучнёўскіх вершах у Вальдцэлі, яно і цяпер было тое самае: гаворка ішла не толькі пра Гульню, але і пра ўсю Касталію.

Аднаго разу, яшчэ ў той час, калі гэтыя праблемы асабліва моцна даціналі яму і калі часта сніліся дыспуты з Дэсіньёры, Кнэхт, праходзячы па прасторным двары вальдцэльскага Селішча Гульні, раптам пачуў, як нехта яго паклікаў, прычым голас, хоць і здаўся яму знаёмым, ён пазнаў не адразу. Кнэхт павярнуўся і ўбачыў высокага маладога чалавека з невялікай бародкай, які горача вітаў яго. Гэта быў Плініё. Пад наплывам неспадзяваных успамінаў і пяшчоты Кнэхт радасна адказаў на прывітанне. Яны тут жа дамовіліся сустрэцца вечарам. Плініё даўно ўжо закончыў вучобу ў свецкіх універсітэтах, быў ужо чыноўнікам і скарыстаўся адпачынкам, каб паўдзельнічаць у курсах Гульні, такіх самых, у якіх удзельнічаў некалькі гадоў да гэтага. Але вячэрняя сустрэча вельмі хутка збянтэжыла абодвух сяброў. Плініё быў тут у гасцях, яго трывалі як дылетанта з другога свету, і хоць ён даволі рупліва праходзіў адпаведны курс, але ж гэта быў усё-такі курс для вольных слухачоў і аматараў, так што дыстанцыя аказалася занадта вялікая. Насупраць яго сядзеў знаўца сваёй справы, дасведчаны, які аднымі сваімі ўважлівымі адносінамі і ветлівай увагай да чужой зацікаўленасці ў Гульні, па сутнасці, намякаў яму на тое, што перад ім не раўня, не калега, а чыстае дзіця, якое бавіцца недзе на перыферыі навукі, якая іншым, выбраным, знаёмая да самых-найсамых глыбіняў. Кнэхт паспрабаваў звесці гутарку ўбок ад Гульні, папрасіў Плініё расказаць пра ягоную працу і жыццё там, за Касталіяй. Тут ужо Ёзэф быў адсталы, дзіця, якое задавала наіўныя пытанні, а Дэсіньёры асцярожна павучаў яго. Плініё стаў юрыстам, хацеў набыць палітычны ўплыў, вось-вось павінны былі адбыцца яго заручыны з дачкою

аднаго партыйнага лідэра, ён гаварыў на мове, ужо амаль не зразумелай кастальцу; шмат якія выразы Плініё ўжо нічога Ёзэфу не гаварылі, здаваліся пустой бяссэнсіцай. Але ўсё ж ён зразумеў, што там, па-за Касталіяй, Плініё ўжо нешта важыў, няблага разбіраўся ў справах, выношваў смелыя задумы. Аднак абодва гэтыя светы, якія ў асобе двух хлопцаў дзесяць гадоў таму назад сутыкнуліся з узаемнай сімпатыяй, цяпер ужо былі чужыя і несумяшчальныя, паміж імі пралегла прорва. Праўда, адразу кідалася ў вочы, што гэты свецкі чалавек і палітык меў нейкую прыхільнасць да Касталіі, ён ужо другі раз ахвяраваў сваім адпачынкам дзеля Гульні; але ж, зрэшты, думаў сабе Ёзэф, гэта тое самае, калі б раптам я сам явіўся ў свет Плініё цікаўным госцем і папрасіў дазволу наведаць судовае пасяджэнне, фабрыку альбо філантрапічную ўстанову. Абодва былі расчараваныя. Кнэхту былы сябар здаўся крыху грубейшым, у ім выявілася нешта ад эфектацыі, а Дэсіньёры адкрыў у вучнёўскім таварышы фанабэрыю, якая выяўлялася ў яго выключнай інтэлектуальнасці і эзатэрычнасці: сапраўды зачараваны самім сабой і сваім спортам «чысты дух». Але абодва вельмі стараліся адолець перашкоды, да таго ж у Дэсіньёры было што расказаць пра свае студэнцкія гады, экзамены, паездкі ў Англію і на поўдзень, пра палітычныя сходы, пра парламент. А адзін раз у яго праскочыла фраза, якая прагучала ці то пагрозай, ці то асцярогай. «Вось пабачыш, — сказаў ён, — скора настане трывожны час, магчыма, выбухне вайна, можа нават стацца так, што само існаванне Касталіі будзе пастаўлена пад пытанне».

Аднак Ёзэф не вельмі сур'ёзна прыняў гэта, ён толькі спытаўся:

— А ты, Плініё, будзеш «за» ці «супраць» Касталіі?

— Што там я, — адказаў Плініё з нацягненай усмешкай, — каго можа зацікавіць мая думка. Ну, вядома, я — за Касталію, за Касталію без якога б там ні было ўмяшання звонку, інакш я сюды не прыехаў бы. Але ўсё ж, якія ні сціплыя вашы патрэбы ў сэнсе матэрыяльным, Касталія абыходзіцца краіне ў год у немалыя грошы.

— Ужо ж такі, — засмяяўся Ёзэф, — сума гэтая, як мне казалі, складае прыкладна адну дзесятую той,

якую наша краіна ў часы ваяўнічага стагоддзя пускала на зброю і салдат.

Яны сустрэліся яшчэ некалькі разоў, і чым бліжэй было да ад'езду Плініё, тым уважлівей яны абыходзіліся адзін з адным. І ўсё ж абодва адчулі палёгку, калі праз тры тыдні Плініё пакінуў Педагагічную правінцыю.

Магістрам Гульні ў той час быў Томас фон дэр Травэ, чалавек вядомы ўсім і ўсюды, ён шмат падарожнічаў, ведаў свет, чалавек станоўчы і поўны самага тонкага далікацтва да ўсяго, да ўсіх, але што да Гульні, тут ён быў няўмольны і аскетычна строгі. Прытым ён быў вялікі працаўнік, пра што і не падазравалі тыя, хто ведаў яго толькі збоку, напрыклад, ва ўрачыстых шатах вярхоўнага кіраўніка публічных Гульняў або на прыёмах дэлегацый. Хадзілі чуткі, быццам ён быў чалавек развагі, занадта спакойны, нават халодны і падтрымліваў з музамі толькі адносіны ветлівасці. Сярод маладых энтузіястаў Гульні можна было пачуць нават адмоўныя меркаванні пра яго — памылковыя меркаванні, бо, калі ён і не быў энтузіястам і пад час вялікіх публічных Гульняў пазбягаў ставіць вялікія і хвалюючыя тэмы, дык усё ж згуляныя ім, бліскуча пабудаваныя і фармальна неператўзыдзеныя партыі гавораць пра яго вялікую блізкасць да запаветных праблем Гульні.

Аднаго разу Магістр выклікаў Кнэхта: ён прыняў яго на прыватнай кватэры, у хатняй вопратцы і спытаўся, ці не зможа Кнэхт зрабіць яму ласку ў бліжэйшыя дні пабыць у яго тут па паўгадзіны, прыкладна ў гэты самы час дня. Кнэхт, які ні разу яшчэ не бачыў Магістра сам-насам, здзівіўся, але паслухаўся загаду. На першы раз Магістр даў яму пазнаёміцца з ёмістым рукапісам, у якім была адна з безлічы прапаноў (яна была ад вальдцэльскага арганіста), якія звычайна разглядаліся вярхоўнай інстанцыяй Гульні. Часцей за ўсё гэта былі хадайніцтвы ўключыць у Архіў Гульні новы матэрыял. Напрыклад, вывучыў нехта дасканала гісторыю мадрыгала і выявіў у яго развіцці адмысловую крывую — і вось ён ужо спяшаецца паказаць яе з дапамогай геаметрычных і музычных знакаў, каб яна магла заняць месца ў лексіконе Гульні. Другі даследаваў латынь Юлія Цэзара ў яе рытмічных аспектах і знайшоў у ёй дзівоснае падабенства з вынікамі добра

вядомых даследаванняў інтэрвалаў у візантыйскіх царкоўных харалах. Альбо нейкі летуценнік вынайшаў ужо не першы раз кабалу для нотнага пісьма пятнаццатага стагоддзя. Мы ўжо не згадваем пра палымяныя пісанні дзівакаватых эксперыментатараў, якія ўмудраліся з супастаўленняў гараскопаў Гётэ і Спінозы рабіць самыя дзівосныя высновы, прычым да пісанняў яны прыкладвалі прыгожа зробленыя ў розных колерах геаметрычныя чарцяжы, я б сказаў нават, даволі пераканаўчыя.

Кнэхт даволі рупліва ўзяўся вывучаць гэтую прапанову, у яго самога ў галаве заводзілася не адна такая, але яму ніколі не прыходзіла думка пасылаць іх Магістру. Кожны заўзяты адэпт марыць пра пастаяннае пашырэнне сферы Гульні, пакуль яна не ахопіць усяго свету, ці, правільней сказаўшы, пакуль ён сам у сваёй галаве не зробіць такое пашырэнне праз свае прыватныя партыі і праз тыя, якія яму здаюцца ўдалымі, ён спадзяецца ўбачыць іх не толькі ў сваім прыватным, але і ў афіцыйным Архіве. Якраз у тым і ёсць сапраўднае далікацтва гульні вопытных майстроў, што яны настолькі авалодалі магчымасцямі гульнёвых правіл, намінальнымі і формаўтваральнымі, што здольныя любой гульні з аб'ектыўнымі і гістарычнымі каштоўнасцямі надаць індывідуальныя і адзінкавыя ў сваім родзе рысы. Адзін знакаміты батанік аднаго разу дзеля жарту сказаў пра гэта: «У Гульні ўсё павінна быць магчымае, нават тое, што нейкая расліна пачне гутарыць з панам Лінеем па латыні».

Кнэхт дапамагаў Магістру аналізаваць прапанаваную арганістам схему; паўгадзіны праляцелі як гук. На другі дзень ён прыйшоў дакладна ў прызначаны час і пасля прыходзіў яшчэ два тыдні і працаваў сам-насам з Магістрам. Пасля першых сустрэч ён звярнуў увагу на тое, што Магістр прымушаў яго ўважліва правяраць нават самыя недарэчныя прапановы, нікчэмнасць якіх адразу кідалася ў вочы. «Хапае ж Магістру часу на такія дробязі!» — думаў ён, але ўрэшце ўсё-такі скеміў: завялося тут зусім не пра паслугу Магістру, не пра дапамогу яму, а пра тое, што гэтыя заняткі — перш за ўсё зачэпка, каб ветліва, але вельмі дасканала праверыць самога маладога чалавека. З Кнэхтам паўтаралася прыкладна тое самае, што адбылося з ім калісьці, калі яшчэ быў хлапчуком, пасля сустрэчы з Магістрам музыкі: ён

раптам заўважыў гэта па адносінах таварышаў, у іх паявілася нейкая нясмеласць, яны пачалі трымацца, так сказаць, дыстанцыі, часам звярталіся да яго з іранічнай павагай. Ён зразумеў: мае стацца перамена, але ўжо не мог быць такі шчаслівы, як тады, раней.

Калі закончыліся апошнія заняткі, Магістр Гульні сказаў крыху высокім ветлівым голасам, з уласцівай яму выразнасцю інтанацыі і без ніякай урачыстасці:

— Добра, заўтра можаш не прыходзіць, усё мы з табою ўжо зрабілі, але праз нейкі час я буду мусіць прасіць цябе зноў папрацаваць са мною. Дзякую за дапамогу, яна была вельмі дарэчы. Думаю, між іншым, што табе пара падаваць заяву на прыём у Ордэн; не думаю, што там узнікнуць якія-небудзь перашкоды, я ўжо гаварыў там пра цябе. Спадзяюся, ты не пярэчыш? — Устаўшы, ён дадаў: — Яшчэ два словы: хутчэй за ўсё і ты, як большасць добрых адэптаў Гульні ў свае маладыя гады, схільны разглядаць нашу Гульню як нейкі інструмент для філасафавання. Адны мае перасцярогі не адцураюць цябе ад гэтага, але ўсё ж я выкажу іх. Філасафуючы, трэба карыстацца тымі сродкамі, якія прыдатныя на гэта, менавіта сродкамі філасофіі. Наша Гульня — не філасофія і не рэлігія, яна самастойная дысцыпліна і па характары сваім бліжэй за ўсё да мастацтва, яна ёсць мастацтва sui generis [1]. Ты даможашся большага, калі адразу пачнеш трымацца гэтага, а не прыйдзеш да такой высновы пасля сотні няўдач. Філосаф Кант — яго цяпер мала ведаюць, але гэта вялікі розум — гаварыў пра тэалагічнае філасафаванне як «пра чароўны ліхтар прывідаў розуму». Мы не маем права ператвараць нашу Гульню ў нешта падобнае.

Ёзэфу ўсё гэта было так нечакана, ён так стараўся стрымаць хваляванне, што ледзь не прапусціў міма вушэй апошнюю перасцярогу. Яго імгненна ўразіла думка: канец тваёй свабодзе, канец студэнцтву, цябе прымуць у Ордэн, і неўзабаве ты зоймеш месца ў Кастальскай іерархіі. Ён нізка пакланіўся, падзякаваў Магістру і неўзабаве пасля гэтага зайшоў у вальдцэльскую канцылярыю, дзе і праўда ўбачыў сябе ў спісе кандыдатаў на залічэнне ў Ордэн. Як і ўсе студэнты яго ступені, ён ужо добра ведаў статут і адразу ўспомніў пункт,

---

[1] у сваім родзе (*лац.*).

паводле якога кожны член Ордэна, які займае высокую пасаду, меў права чыніць абрад прыёму. Ён папрасіў, каб цырымонію яго прыёму правёў Магістр музыкі, атрымаў пропуск і кароткі адпачынак і на другі дзень выправіўся да свайго заступніка і друга ў Манпор. Шаноўнага старога пана ён застаў не зусім у здароўі, але быў радасна ім прыняты.

— Ты прыехаў якраз у самы акурат, — сказаў Магістр. — Яшчэ крыху — і я страціў бы права прыняць цябе як юнага брата ў Ордэн. Я маюся пакінуць сваю пасаду, мая адстаўка ўжо ўхвалена.

Сама цырымонія была вельмі простая. На другі дзень Магістр музыкі, як таго патрабаваў статут, запрасіў двух сведкаў з ліку братоў Ордэна і прапанаваў Ёзэфу артыкул з Статута як заданне для медытацыі. У артыкуле было: «Калі Калегія заклікае цябе заняць пэўную пасаду, дык ведай: кожная наступная ступень — гэта не крок да свабоды, а новы абавязак. Чым вышэйшая пасада, тым большы абавязак. Чым большая ўлада, тым стражэйшае служэнне. Чым мацнейшая асоба, тым больш асуджаецца сваволя».

Яны сабраліся ў музычнай келлі ў Магістра, у той самай, дзе Кнэхт быў упершыню ўведзены ў медытацыю; у гонар урачыстай падзеі Магістр сказаў выканаць прэлюдыю да харала Баха, пасля адзін сведка зачытаў кароткі тэкст статута, а Магістр сам задаў усе звязаныя з рытуалам пытанні і прыняў ад свайго юнага друга прысягу. Пасля цырымоніі яны яшчэ каля гадзіны правялі разам у садзе, і Магістр наставіў Кнэхта сяброўскімі парадамі, як найлепей засвоіць правілы Ордэна і як жыць паводле іх.

— Добра, што ты ўступаеш якраз цяпер, — сказаў ён, — ты запоўніш прагал, калі я пайду, як калі б раптам у мяне з'явіўся сын, які замест мяне павёў бы справу далей. — Заўважыўшы смутак на твары ў Ёзэфа, стары дадаў: — Не журыся, калі ласка, бачыш, — я не журуся. Я даволі-такі стаміўся і рады вольнаму часу, які мне цяпер дадзена будзе нацешыцца і які мы няраз цяпер будзем бавіць з табою разам. Пры наступнай сустрэчы звяртайся да мяне на «ты». Я не меў права прапанаваць табе гэтага раней, пакуль быў звязаны з пасадай. — Ён адпусціў Ёзэфа з той душэўнай і такой прывабнай усмешкай, якую Ёзэф ведаў вось ужо дваццаць гадоў.

Кнэхт неўзабаве вярнуўся ў Вальдцэль — адпачынак яму далі толькі на тры дні. Не наспеў ён зняць з сябе дарожнае адзенне, як яго ўжо выклікаў Магістр Гульні, прыняў яго ветліва, як калегу, і павіншаваў з уступленнем у Ордэн.

— Каб нам стаць калегамі і таварышамі па занятках, — сказаў ён далей, — нам не хапае толькі твайго ўключэння ў структуру нашай іерархіі.

Ёзэф уздрыгнуў: канец свабодзе!

— Я спадзяюся, — сказаў ён нясмела, — што мяне прызначаць на якое-небудзь сціплае месца. Павінен вам прызнацца, што я марыў яшчэ нейкі час аддаваць сябе свабодным даследаванням.

Магістр пільна паглядзеў на яго сваімі разумнымі вачыма, і крыху іранічная ўсмешка кранула яго вусны.

— Ты сказаў «нейкі час», а колькі гэта?

— Нават і не ведаю, — адказаў Кнэхт збянтэжана.

— Так я і думаў, — згадзіўся з ім Магістр. — Словы твае — словы студэнта, а разуменне тваё — разуменне студэнта, Ёзэф Кнэхт. Так яно і павінна быць, але вельмі хутка яно ўжо не будзе так, бо ты нам патрэбен. Табе, мусіць, вядома, што і пазней, калі ўжо ты будзеш займаць высокую пасаду ў нашай іерархіі, ты зможаш атрымаць водпуск на даследчыцкую працу, калі табе ўдасца перакананць Калегію ў каштоўнасці тваіх заняткаў. Мой папярэднік і настаўнік, напрыклад, ужо як быў Магістрам Гульні і сівым старцам, прасіў і атрымаў год водпуску на працу ў лонданскіх архівах. Але ён атрымаў яго не «на нейкі час», а на даволі пэўную колькасць месяцаў, тыдняў і дзён. Вось з гэтым і табе давядзецца змірыцца. А цяпер я хачу зрабіць табе прапанову. На выкананне асаблівай місіі нам патрэбен чалавек, які добра ведае, што такое адказнасць, але мала вядомы за межамі нашага кола.

Даручэнне было наступнае: бенедыктынскі кляштар Марыяфельс, адзін з самых старадаўніх цэнтраў асветы ў краіне, які меў вельмі сяброўскія адносіны з Касталіяй і вельмі прыхільна ставіўся да Гульні, прасіў прыслаць маладога настаўніка прачытаць уводны курс у Гульню, а таксама для заняткаў з некалькімі здольнымі вучнямі. Выбар Магістра прыпаў на Ёзэфа Кнэхта. Таму і была тая ўважлівая праверка, таму і прынялі яго так спешна ў Ордэн.

У пэўным сэнсе Ёзэфу Кнэхту было ў той час прыкладна так, як некалі ў гімназіі пасля прыезду Магістра музыкі. Наўрад ці задумваўся ён над тым, што яго прызначэнне ў Марыяфельс — гэта вялікае вылучэнне і першы шырокі крок па ступенях іерархіі; але, набыўшы пэўны вопыт, ён цяпер гэта бачыў ужо з адносін да яго commilitones[1]. Хоць з пэўнага часу ён і без таго належаў унутры эліты да самага вузкага кола выбранцаў, усё ж незвычайнае даручэнне нібы наклала на яго свой адбітак: начальства ўпадабала яго і мае намер выкарыстаць яго, як лічыць патрэбным. Не тое, каб учарашнія сябры адвярнуліся ад яго або перасталі прыязніцца, — на гэта ў такім высокім арыстакратычным коле ўсе былі занадта добра выкаваныя, — але ўзнікла нейкая дыстанцыя; учарашні таварыш паслязаўтра мог лёгка стаць начальнікам, а на такія адценні і тонкасці іерархічных адносін гэтае кола рэагавала вельмі чуйна і знаходзіла спосабы, як гэта выявіць.

Выключэннем быў Фрыц Тэгулярыус, якога мы можам назваць, разам з Фэрамонтэ, самым верным сябрам Ёзэфа Кнэхта. Гэтаму чалавеку, які сваімі здольнасцямі быў варты, бадай, самага высокага, але моцна пакутаваў ад нездароўя, нераўнавагі і нявер'я ў сябе, было столькі гадоў, як і Кнэхту, і, значыцца, у тую пару, калі яго прымалі ў Ордэн, — трыццаць чатыры. Упершыню яны сустрэліся на курсах Гульні, і Кнэхт адразу адчуў, як моцна цягнецца да яго гэты ціхі і крыху меланхалічны хлопец. Маючы добры нюх на людзей, што падсвядома выяўлялася ўжо тады, Кнэхт зразумеў і характар гэтай прывязанасці: гэта было пачуццё дружбы, гатовай да безаглядней адданасці, да паслушэнства, было гэта і пакланенне, прасякнутае агнём амаль рэлігійнай экзальтацыі, але яно стрымлівалася і азмрочвалася ўнутранай высакароднасцю і прадчуваннем душэўнай трагедыі. Толькі што перажыўшы ўзрушэнне, звязанае з Дэсіньёры, і стаўшы праз гэта асабліва датклівым і лёгкараненым, Кнэхт не дапускаў да сябе Тэгулярыуса, хоць яго самога вельмі цягнула да гэтага цікавага і незвычайнага студэнта. Для характарыстыкі яго прывядзём старонку з сакрэтнага запісу Кнэхта, які

[1] таварышы (*лац.*).

ён зрабіў шмат гадоў пазней для інфармацыі Вярхоўнай калегіі. У запісе гаварылася:

«Тэгулярыус. У асабістай спрыязненасці з аўтарам гэтых радкоў. Няраз вызначаўся ў Койпергеймскай школе, выдатны знаўца класічнай філалогіі, выяўляе сур'ёзную філасофскую цікаўнасць, займаўся Лейбніцам, Бальцыяна, пазней Платонам. Самы таленавіты і бліскучы знаўца Гульні, якога я ведаю. Гэта быў бы лёсам абраны Magister Ludi; калі б яго характар у спалучэнні з кволым здароўем не быў рашуча на тое непрыдатны. Т. нельга дапускаць ні да якай кіруючай, прадстаўніцкай або арганізатарскай пасады, гэта было б бядой і яму самому, і справе. Хваравітасць яго выяўляецца ў прыпадках дэпрэсіі, перыядах бяссонніцы і нервічных болях, частай меланхоліі, вострых жаданнях застацца сам-насам, у страху перад абавязкам і адказнасцю. Магчыма, і ў думках пра самазабойства. З дапамогай медытацыі і дзівоснай самадысцыпліны гэты аж настолькі абцяжараны немачамі чалавек трымаецца так выдатна, што большасць людзей вакол яго нават не здагадваюцца пра цяжар яго пакутаў. У лепшым выпадку заўважаюць толькі незвычайную нясмеласць і замкнёнасць. Калі, такім чынам, Т., на вялікі жаль, непрыдатны на высокія пасады, дык для Vicus lusorum ён — чыстая жамчужына, скарб, які ніякім іншым замяніць нельга. Тэхнікай нашай Гульні ён валодае, як вялікі музыкант валодае сваім інструментам, з першага позірку ён адгадвае самыя тонкія нюансы і як педагог заслугоўвае найвышэйшай пахвалы. Я не ўяўляю сабе, як бы я мог абысціся без яго на старэйшых і вышэйшых паўторных курсах — на малодшыя мне шкада траціць яго сілу; тое, як ён аналізуе вучэбныя партыі пачаткоўцаў, не бянтэжачы іх, як ён раскрывае іхнія хітрыкі, з першага позірку беспахібна распазнае і раскрывае ўсякія пераймальніцкія ці дэкаратыўныя рашэнні, якім чынам у выдатна абгрунтаванай, але няўпэўнена і збіўліва пабудаванай партыі выяўляе вытокі памылак і адразу дэманструе іх, быццам гаворка ідзе пра самыя выдатныя анатамічныя прэпарацыі, — усё гэта нешта ўнікальнае ў сваім родзе! Яго непадкупная празорлівасць пры разборы і выпраўленні чужых прац, шчыра кажучы, здабыла яму павагу вучняў і калег, якая магла б трапіць пад сумненне за яго няўпэўненую і нервовую сарамяжліва-баязлі-

вую манеру трымацца. Сказанае мною пра непаўторную геніяльнасць Т. як майстра Гульні я хацеў бы праілюстраваць прыкладам. На самым пачатку нашага з ім знаёмства, калі ў сэнсе ведання тэхнікі нам абодвум курсы ўжо мала чаго маглі даць, ён у хвіліну нейкага асаблівага даверу дазволіў мне заглянуць у некаторыя складзеныя ім тады гульні. З першага беглага позірку я пераканаўся, наколькі бліскучыя яны па ідэі, наколькі новыя і арыгінальныя па стылі, і тут жа выпрасіў у яго некалькі схемаў на ўважлівае вывучэнне, а неўзабаве выявіў, што і сама кампазіцыя гэтых партый — чыстая паэма, нешта настолькі дзівоснае і своеасаблівае, пра што я не магу змоўчаць у гэтым сваім запісе. Яны былі падобныя на маленькія драмы, складаліся з аднаго маналога і выяўлялі індывідуальнае, хваравітае і разам з тым геніяльнае духоўнае жыццё іх аўтара, як выяўляе іх па-майстэрску намаляваны аўтапартрэт. У іх не толькі спрачаліся адно з адным і дыялектычна перагукаліся розныя тэмы і групы тэм, на якіх грунтавалася партыя і паслядоўнасць і супрацьпастаўленне якіх былі даволі дасціпныя, але і сінтэз і гарманізацыя супрацьлеглых галасоў былі вырашаны не ў звычайнай класічнай манеры. Гарманізацыя гэта праходзіла праз некалькі пераломаў, кожны раз знямажана і роспачна як усё роўна затрымлівалася перад самай сваёй развязкай і нарэшце канчалася, замірала ў сумненнях і ў невырашальных пытаннях. Дзякуючы гэтаму партыі Т. набывалі не толькі нейкі хвалюючы і, як мне здаецца, нікім не дасягнуты храматызм, але і рабіліся ўвасабленнем трагічных сумненняў і адрачэння, вобразнай канстатацыяй таго, наколькі запаняверана ўсякае духоўнае намаганне. Пры гэтым па адухоўленасці, па дасканаласці тэхнічнай каліграфіі яны былі настолькі незвычайна прыгожыя, што над імі можна было заплакаць. Кожная яго гульня так шчыра і глыбока ішла да свайго вырашэння і ўрэшце з такой высакароднай рэзіньяцыяй адмаўлялася ад яго, што гэта рабілася нібы дасканала складзенай элегіяй на марнасць, уласцівую ўсяму прыгожаму, і на праблематычнасць, якая, зрэшты, памячае сабою ўсе высокія парыванні чалавечага духу.

Item[1] рэкамендую Тэгулярыуса, у тым выпадку, калі яму наканавана перажыць мяне або маё справаванне

---

[1] Таксама (*лац.*).

пасады, як незвычайна далікатную і каштоўную і ў той самы час крохкую перад пагрозамі жамчужыну. Яму трэба даваць як мага болей свабоды, да яго парад трэба прыслухоўвацца ва ўсіх сур'ёзных пытаннях Гульні. Аднак яму ніколі не трэба перадаваяраць самастойнага выхавання вучняў».

Гэты своеасаблівы чалавек з часам сапраўды стаў сябрам Ёзэфа Кнэхта. Да Кнэхта, у якім ён апрача яго духоўнасці захапляўся нечым падобным на ўладнасць, ён ставіўся з кранальнай адданасцю, і многае з таго, што мы ведаем пра Кнэхта, перададзена ім. У вузкім коле маладых адэптаў Гульні ён быў, бадай што, адзіны, хто не зайздросціў даручанай яго сябру місіі, і адзіны, каму Кнэхтаў ад'езд на такі няпэўны час азначаў глыбокі, амаль невыцерпны боль і страту.

Сам Ёзэф, адолеўшы першы страх перад нечаканай стратай любімай свабоды, радасна прыняў сваё новае прызначэнне, яму захацелася пападарожнічаць, яго разабрала прага да дзейнасці і цікаўнасць да чужога свету, куды яго пасылалі. Зрэшты, новага члена Ордэна так адразу не пусцілі ў Марыяфельс; папярэдне яго на тры тыдні запраторылі ў «паліцыю». Так студэнты называлі адзін невялікі аддзел Выхаваўчай калегіі, які можна было б назваць палітычным аддзяленнем альбо міністэрствам знешніх зносін, калі б гэта не гучала занадта гучна для справы такога малога маштабу. Тут Кнэхту выклалі правілы паводзін члена Ордэна ў «свеце», і ледзь не кожны дзень пан Дзюбуа, начальнік гэтага аддзела, цэлую гадзіну асабіста ўдзяляў Ёзэфу. Гэтаму сумленнаму чалавеку здалося сумніцельным выбранне такога нявопытнага і зусім далёкага ад свету юнака на такое даручэнне; ён не ўтойваў, што скептычна ставіцца да рашэння Магістра Гульні, і таму з падвоенай рупнасцю і самым ветлівым чынам указваў маладому члену Ордэна на небяспекі знешняга свету і на спосабы іх пераадолення. Бацькоўскі клопат пана Дзюбуа, чысціня яго намераў так шчасліва спалучаліся з жаданнем маладога чалавека пачэрпнуць у яго як мага болей, што нарэшце настаўнік, уводзячы вучня ў правілы зносін з чужым яму светам, палюбіў яго, прыхінуўся да яго з даверам і, супакоіўшыся, адпусціў выконваць адказную місію. Хутчэй з дабрамысных адносін, чым з палітычнага разліку, ён вырашыў даверыць яму, ужо ад свайго імя, яшчэ адно даручэнне. Пан Дзю-

буа, адзін з нямногіх «палітыкаў» Касталіі, уваходзіў у тую невялічкую групу чыноўнікаў, думкі і працы якіх былі ў асноўным прысвечаны дзяржаўна-прававому і эканамічнаму становішчу Касталіі, яе адносінам са знешнім светам і яе залежнасці ад яго. Большасць кастальцаў, чыноўнікі не ў меншай меры, чым вучоныя і студэнты, успрымалі сваю Педагагічную правінцыю як нейкі вечны і стабільны свет, пра які яны, зразумела, ведалі, што ён не заўсёды існаваў, што і ён калісьці нарадзіўся, нарадзіўся ў эпоху цяжкай нястачы, што за яго зацята ваявалі, што ён узнік у канцы ваяўнічай эпохі гэтаксама з героіка-аскетычнай самасвядомасці і самавызначэння людзей духу, як і з глыбокай патрэбы спакутаваных, змардаваных людзей ва ўладкаванасці, у нормах, у розуме, законе і меры. Гэта яны разумелі, разумелі яны таксама функцыю і прызначэнне такіх Ордэнаў і Правінцый на зямлі: адмаўленне ад улады, ад пагоні за ёю, але затое захаванне і забяспячэнне пастаяннасці і даўгавечнасці духоўных асноў усіх мераў і законаў. І ўсё-такі кастальцы не ведалі, што такі парадак зусім не ўзяўся сам з сябе, што спрычыніла яго пэўная гармонія паміж светам і духам, парушыць якую вельмі лёгка і можна; што сусветная гісторыя зусім не імкнецца да пажаданага разумнага і прыгожага, не падбухторвае іх, а ў лепшым разе часам трывае іх як нейкае выключэнне. Глыбінная, схаваная праблематычнасць самога іх кастальскага існавання не ўсведамлялася амаль нікім з кастальцаў, гэтым былі занятыя названыя вышэй нямногія палітычныя галовы, адной з якіх і быў пан Дзюбуа. Менавіта ў яго Кнэхт, заваяваўшы давер, здабыў першыя агульныя звесткі пра палітычныя асновы Касталіі, якія спачатку здаліся яму хутчэй агіднымі і нецікавымі, як і большасць яго братоў з Ордэна, але потым раптам яны прымусілі яго прыгадаць колішнюю заўвагу Дэсіньёры пра небяспеку, якая навісла над Правінцыяй, а разам з гэтым і, здавалася б, даўно і зусім забыты і пераадолены горкі смак юнацкіх спрэчак з Плініё, пасля чаго ўсё неспадзявана набыло незвычайную важкасць і ператварылася ў чарговую ступень на яго шляху да абуджэння.

У канцы апошняй сустрэчы Дзюбуа сказаў:

— Думаю, што цяпер я магу адпусціць цябе. Строга трымайся даручанага табе нашым шаноўным Магістрам Гульні і не менш строга тых правілаў паводзін,

якія мы тут табе акрэслілі. Мне было пэўным чынам прыемна дапамагчы табе; ты сам пераканаешся, што тры тыдні, якія мы трымалі цябе тут, не прапалі марна. І калі табе раптам захочацца выказаць сваё задавальненне нашай інфармацыяй і нашым знаёмствам, я пакажу табе да гэтага дарогу. Ты выпраўляешся ў бенедыктынскі кляштар і, магчыма, праз нейкі час заслужыш давер святых айцоў. Хутчэй за ўсё табе ў коле гэтых паважаных людзей і іх гасцей давядзецца пачуць палітычныя размовы, і ты лёгка зразумееш, якія ў іх палітычныя настроі. Калі пры выпадку ты паведаміш пра іх мне, я буду табе ўдзячны. Зразумей мяне правільна: ты ні ў якім разе не павінен глядзець на сябе як на нейкага віжа альбо злоўжываць даверам patres[1]. Ты не павінен пасылаць мне ніякіх паведамленняў, якія ўшчамлялі б тваё сумленне. А што такую інфармацыю мы прымаем да ведама і выкарыстоўваем толькі ў інтарэсах Ордэна і Касталіі, за гэта я табе ручаюся. Бо сапраўднымі палітыкамі нас не назавеш, у нас няма ніякай улады, але ж і мы павінны лічыцца з светам, які ў нас мае патрэбу і які нас трывае. Пры пэўных умовах нам было б, напрыклад, цікавае паведамленне пра тое, што той ці іншы дзяржаўны дзеяч наведаў кляштар, што гавораць пра хваробу папы, што ў спіс будучых кардыналаў уключаны новыя імёны. Мы не залежым ад тваёй інфармацыі, у нас ёсць і іншыя крыніцы, але набыць яшчэ адну, хоць невялікую, нам не пашкодзіць. А цяпер ідзі, я не патрабую ад цябе сёння канчатковага адказу на маю прапанову. Пакуль ні пра што іншае не думай, як толькі пра ўскладзеную на цябе місію, і не зганьбі нас перад святымі айцамі. Ну, шчасця табе ў дарогу!

У «Кнізе перамен», якую Кнэхт папрасіў перад ад'ездам, папярэдне правёўшы ўсю цырымонію з сцяблінкамі крываўніку, ён натыкнуўся на іерогліф «Лю», які азначаў «Дарожнік», і на выслоўе «Ад малога да ўдачы. Дарожніку дабрадзейнічае настойлівасць». Ён знайшоў шасцёрку на другім месцы, разгарнуў тлумачальнік і прачытаў:

Дарожнік прыходзіць у прытулак.
Уся яго маёмасць пры ім.
Малады служка дамагаецца яго ўвагі.

[1] айцы (*лац.*).

Развітанне не было нічым азмрочана, толькі апошняя размова з Тэгулярыусам была цяжкім выпрабаваннем абодвум. Фрыц сілай перабароў сябе і быццам застыў у ледзяным панцыры: з ад'ездам сябра ён траціў самае лепшае, што ў яго было. Кнэхтаў характар не дапускаў такой палкай і выключнай прывязанасці да аднаго сябра, на горшы канец ён мог абысціся і зусім без сябра, не баючыся перанесці цяпло сваіх пачуццяў на новыя аб'екты і новых людзей. Кнэхту гэтае развітанне не было асабліва пакутлівае, ён ужо тады добра ведаў сябра і разумеў, якім прыніжэннем, якім выпрабаваннем яно было для таго, і таму быў заклапочаны. Няраз Кнэхт задумваўся над іх сяброўствам, аднаго разу нават загаварыў пра яго з Магістрам музыкі і ў пэўнай меры спасціг мудрасць аб'ектыўна, крытычна глядзець на свае перажыванні і пачуцці. Пры гэтым ён усвядоміў, што, па сутнасці, не толькі і не столькі вялікі талент Тэгулярыуса вабіў яго і абуджаў у ім нейкую любоў, а якраз спалучэнне таленту з такімі вялікімі недахопамі, з такой немагатою, усвядоміў таксама, што аднабокасць і выключнасць любові, якою адарыў яго Тэгулярыус, мела не толькі добрую, але і небяспечную адметнасць, бо ў ёй таілася спакуса: даць адчуць слабейшаму сілай, а не любоўю сваю ўладу. У гэтай дружбе Ёзэф лічыў сябе абавязаным да канца выяўляць пэўную самадысцыпліну і стрыманасць. Як ні любіў Кнэхт Тэгулярыуса, але той не адыграў бы ў яго жыцці значнай ролі, калі б дружба з гэтым пяшчотным юнаком, зачараваным сваім больш дужым і самаўпэўненым сябрам, не адкрыла Ёзэфу, што ён надзелены панаднай сілай і ўладай над людзьмі. Ён ведаў: гэтая ўлада, гэты дар вабіць іншых і ўплываць на іх, бадай што, ёсць дар настаўніка і выхавальніка, але ў ім затоена не адна небяспека, ён накладвае пэўную адказнасць. Бо Тэгулярыус не быў выключэннем. Кнэхт бачыў, што на яго накіраваны многія позіркі. Адначасова ён усё больш выразна адчуваў напружанасць, якая склалася вакол яго ў апошні год у Селішчы Гульні. Ён уваходзіў там у строга абмежаванае кола, якое афіцыйна нічога не значыла, аднак гэта было саслоўе выбраных кандыдатаў і рэпетытараў Гульні, гэта было кола, з якога час ад часу таго ці іншага выбіралі на розныя даручэнні Магістра, Архіварыуса або на вядзенне курсаў Гульні, але з якога ўжо не выбіралі ніжэй-

шых і сярэдніх чыноўнікаў або настаўнікаў. Гэта быў як бы рэзерв кіраўнічых пасад. Тут усе адзін аднаго добра ведалі, нават завельмі добра, тут ніколі не памыляліся ў здольнасцях, характары і дасягненнях адзін аднаго. І менавіта таму, што тут, сярод гэтых рэпетытараў Гульні і кандыдатаў на вышэйшыя пасады кожны меў талент вышэйшы за сярэдні, кожны ў меру сваіх поспехаў, ведаў быў самы лепшы, менавіта таму ўсякая рыса і адценне характару, якія наперад вызначалі кіраўніка, чалавека, якому спадарожнічае поспех, мелі асабліва вялікае значэнне і за імі неадступна і пільна сачылі. Лішак або недахоп славалюбства, невялікія плюсы або мінусы — у манерах, росце, знешнасці, асабістая прывабнасць або непрывабнасць, перавагі ўплываў на моладзь і на Калегію або нават проста шчырая ласкавасць і далікатнасць — усё мела тут вагу і магло ўсё рашыць у барацьбе канкурэнтаў. І калі Тэгулярыус уваходзіў у гэтае кола толькі як аўтсайдэр, нейкі госць, якога трывалі, не падпускаючы бліжэй, бо ў яго не было ніякіх задаткаў на правадыра і кіраўніка, дык Ёзэф Кнэхт быў паўнапраўны член самага вузкага кола. Мабыць, нейкая асаблівая свежасць і хлапечая прывабнасць, знешняя недаступнасць страсцям, бескарыслівасць і ў той самы час нешта ад падлеткавага шалапуцтва, нейкая цнота надзілі ў ім моладзь, заваёўвалі прыхільнікаў. А тых, што стаялі вышэй, да яго прыцягваў другі бок гэтай цноты: амаль поўная адсутнасць славалюбства і кар'ерызму.

У самы апошні час уздзеянне яго асобы спярша спадзістай, а потым павольна, але пэўна, узыходнай лініі, было ўсвядомлена і самім маладым чалавекам, і калі ён з гэтай пазіцыі абуджанага азіраўся назад, ён бачыў абедзве лініі нібы праз усё сваё жыццё, як бы менавіта яны і вызначалі яго жыццё з самага дзяцінства: з аднаго боку, гэта была як бы ліслівая дружба, якою яго адорвалі таварышы і малодшыя школьнікі, з другога — прыхільная ўвага начальства. Былі, праўда, і выключэнні, як, напрыклад, у выпадку з дырэктарам Цбіндэнам, але затое і такія вызначэнні, як зычлівасць Магістра музыкі, а цяпер, зусім нядаўна, пана Дзюбуа і нават самога Магістра Гульні. Гэта кідалася ў вочы, і ўсё ж раней Кнэхт нічога не заўважаў, не хацеў заўважаць. Хутчэй за ўсё гэта і была вызначаная яму дарога: быццам без нічога ніякага, без ніякіх яго намаганняў

усюды трапляць у кола выбраных, у эліту, акружаць сябе ўлюбёнымі сябрамі і высокапастаўленымі патронамі, але гэта была дарога, якая не дазваляла спыняцца каля ўзножжа іерархіі, яна змушала нястомна падымацца да вяршыні, да святла. Не, яму не наканавана заставацца ні субалтэрнам, ні вольным навукоўцам, ён закліканы загадваць і кіраваць. І якраз тое, што заўважыў ён гэта пазней, чым іншыя, тыя, што былі на адным з ім узроўні, надавала яму той ледзь-ледзь улоўны шарм, тую цноту. Але чаму ён заўважыў гэта так позна, чаму пры гэтым быў так непрыемна ўражаны? А таму, што загадванне не было яго патрэбай, не давала яму ніякага задавальнення, таму што ён сам прагнуў сузіральніцкага жыцця, а не актыўнага, і быў бы рады, калі б яму ўдалося яшчэ колькі там гадоў быць непрыкметным студэнтам, цікаўным і пачцівым паломнікам, які наведвае святыні мінулага, саборы музыкі, сады і лясы міфалогіі, моваў і ідэй. Цяпер жа ён убачыў, што яго няўмольна штурхаюць да vita activa[1], і вастрэй, чым перш, адчуў усю напружанасць канкурэнтнай барацьбы славалюбства ў сваім коле, адчуў, што яго цноце пагражае небяспека, што яму больш не ўдасца яе асланіць. І тады ён зразумеў, што наканаванае і ўказанае, хай сабе і непажаданае, ён павінен цяпер жадаць і прызнаваць, інакш яму не пазбыцца адчування запалоненасці і тугі па страчанай свабодзе апошніх дзесяці гадоў, а як ён унутрана яшчэ не быў гатовы да гэтага, дык успрыняў своечасовае развітанне з Вальдцэлем, з Правінцыяй і падарожжа ў «свет» як нейкі ратунак.

Кляштар Марыяфельс за многія стагоддзі стаў неаддзельны ад гісторыі Заходняй Еўропы, разам з ёю перажыў і выпакутаваў яе; бачыў ён перыяды росквіту і заняпаду, новага ўздыму і новага змізарнення, былі часы, калі ён славіўся ў самых розных сферах. Колішні аплот схаластычнай мудрасці і майстэрства дыспутавання, маючы яшчэ і сёння сярод сваіх багаццяў велізарную бібліятэку па сярэдневяковай тэалогіі, ён пасля цэлай паласы гібення і інертнасці зноў заззяў ранейшым бляскам, гэтым разам дзякуючы сваёй увазе да музыкі, дзякуючы свайму славутаму хору і складзеным святымі айцамі і выкананымі імі ж месам і araторыям; з таго часу ў Марыяфельсе захоўвалі выдатныя музычныя

[1] актыўнае жыццё (*лац.*).

9. Зак. 1151.

традыцыі, а таксама і паўтузіна пудэлкаў з арэхавага дрэва з рукапіснымі нотамі, і найлепшы ў краіне арган. Пасля настаў палітычны акрэс, ад яго таксама захаваліся некаторыя традыцыі і звычаі. У часы жорсткага эдзічэння, спароджанага войнамі, Марыяфельс нягаз быў як бы выспачкай розуму і супакаення, дзе самыя разумныя галовы абодвух варожых бакоў асцярожна абмацвалі адзін аднаго, шукаючы замір'я, а аднойчы — гэта быў апошні ўзлёт у яго гісторыі — Марыяфельс стаў месцам, дзе быў заключаны мір, што на колькі там часу спатоліў тугу спакутаваных народаў. Калі потым настаді новыя часы і была заснавана Касталія, кляштар заняў пазіцыю чакання і нават адмаўлення, відаць, папярэдне пракансультаваўшыся з Рымам. Хадайніцтва Выхаваўчай калегіі на дазвол аднаму вучонаму вывучаць схаластычную літаратуру ў кляштарнай бібліятэцы было ветліва адхілена, як і запрашэнне прысдаць прадстаўніка на з'езд гісторыкаў музыкі. Толькі ў праўленне абата Пія, які, праўда, ужо ў сталым веку, зацікавіўся Гульнёй, быў пакладзены пачатак нейкіх зносін і абмену, і з таго часу ўсталяваліся калі не вельмі жывыя, дык, у кожным разе, прыязныя адносіны. Адбываўся абмен кнігамі, прадстаўнікоў абодвух бакоў прымалі як жаданых гасцей. Прыхільнік Кнэхта, Магістр музыкі, у свае маладыя гады некалькі гадоў прабыў у Марыяфельсе, перапісваў там рэдкія ноты, іграў на славутым аргане. Ёзэф ведаў пра гэта і загадзя радаваўся магчымасці пабыць у такім месцы, пра якое Вялебны расказваў яму з яўным задавальненнем.

Неспадзявана для Кнэхта яго прынялі даволі ветліва, нават з пашанай, што не магло не збянтэжыць яго. Усё-такі Касталія ўпершыню прыслала ў кляштар, прычым без абмежавання тэрміну, настаўніка Гульні, ды таго ж чалавека з эліты. Пан Дзюбуа настаўляў яго, каб ён, асабліва на першым часе, паводзіў сябе як не Ёзэф Кнэхт, а толькі як прадстаўнік Касталіі, і на ўсякія далікатнасці альбо пэўны халадок рэагаваў не больш як пасланец. Гэта і дапамагло Кнэхту пераадолець першую скаванасць. Ён справіўся і з пачуццём адчужанасці, нясмеласці і лёгкага хвалявання, што наплыло на яго ў першыя ночы на новым месцы, калі ніяк не прыходзіў сон. Паколькі ж абат Гервасій прыняў яго з дабрадушнай і цёплай зычлівасцю, Кнэхт хутка асвоіўся з новай абстаноўкай. Тут яго радавалі навізна суро-

вага ландшафту, магутныя горы, спадзістыя скалы і зеляніна лугоў паміж імі, на якіх пасвілася быдла. Ён быў шчаслівы бачыць магутнасць і веліч старадаўніх будынкаў кляштара, на якія шматвяковая яго гісторыя наклала сваю пячатку, спадабаліся яму і ўтульныя, сціплыя пакоі, адведзеныя яму на верхнім паверсе гасцявога флігеля; ён адразу заўчашчаў на доўгія шпацыры па дагледжаным кляштарным двары з дзвюма цэрквамі, галерэямі, архівам, бібліятэкай, пакоямі абата, некалькімі дворыкамі, ёмістымі гаспадарчымі будынкамі, дзе было шмат напасенага быдла, цуркатлівымі фантанчыкамі, велізарнымі сутарэннямі на віно і садавіну, дзвюма трапезнямі, славутай залай пасяджэнняў капітула, дагледжанымі садамі — усё ў найлепшым парадку, а таксама майстэрнямі: бачарняй, шавецкай, кравецкай, кузняй і да таго падобнымі, што ўтваралі як бы асобнае паселішча вакол самага вялікага двара. Неўзабаве Кнэхта дапусцілі ў бібліятэку, а арганіст паказаў яму цудоўны арган, нават дазволіў пайграць на ім; не меней вабілі яго і запаветныя скрыні, дзе, як ён ведаў загадзя, яго чакала мноства неапублікаваных, а часткова нават зусім нікому не вядомых музычных рукапісаў мінулых эпох.

Здавалася, што ў кляштары ніхто нецярпліва не чакае пачатку афіцыйнай дзейнасці Кнэхта. Прайшлі дні і тыдні, перш чым кляштарнае начальства як бы ўспомніла пра сапраўдную прычыну прыезду Кнэхта. Праўда, з першых дзён некаторыя святыя айцы, і асабліва сам абат, ахвотна гутарылі з ім пра Гульню, аднак пра лекцыі і наогул пра сістэматычныя заняткі гаворка так і не заходзіла. Кнэхт звярнуў увагу на незнаёмы яму да гэтага часу тэмп жыцця, які тут выяўляўся ва ўсім: ва ўзаемаадносінах, у манерах, — на нейкую годнасную запаволенасць, невычэрпную і звычлівую цярплівасць, уласцівую ўсім тутэйшым святым айцам, у тым ліку і тым, якія зусім не вылучаліся флегматычнасцю. Такі быў дух самога іх Ордэна, тысячагадовага, упешчанага, сотні разоў выпрабаванага і ў шчасці, і ў нягодах парадку і абшчыны, членамі якой усе яны тут былі і долю якой падзялялі, як гэта бывае ў вулеі, дзе кожная пчала жыве лёсам вулея, жыве яго жыццём, спіць яго сном, пакутуе яго пакутамі, дрыжыць яго дрыжыкамі. Проці кастальскага гэты бенедыктынскі жыццёвы стыль на першы погляд здаваўся менш адухоўленым, менш ру-

хомым і мэтанакіраваным, менш актыўным, затое больш непарушным, не паддатным староннім уплывам, нечым старэйшым, больш грунтоўным, быццам тут панавалі ў плоці і ў крыві дух і сэнс. Поўны цікаўнасці і вялікай цікавасці, а таксама даволі здзіўлены, Кнэхт акунуўся ў гэта кляштарнае жыццё, якое амаль у такім самым выглядзе, як і сёння, існавала ўжо тады, калі кастальцаў і на свеце не было, — яму было ўжо больш за паўтара тысячагоддзя — і якое выдатна адпавядала сузіральніцкаму характару яго натуры. Ён быў тут госцем, яго ўшаноўвалі, ушаноўвалі нават больш, чым яму выпадала і чым ён мог спадзявацца, але ён добра разумеў: такі парадак, такія тут звычаі і завядзёнка, усё гэта не мае ніякага дачынення ні да яго асабіста, ні да духу Касталіі, ні да Гульні — проста гэта выяўленне царскай ветлівасці старажытнай і магутнай дзяржавы да маладзейшай. Да такога прыёму ён быў не зусім падрыхтаваны і праз нейкі час, нягледзячы на дабротнасць яго жыцця ў манастыры, адчуў сябе так няўпэўнена, што запрасіў у Вярхоўнай калегіі больш падрабязных інструкцый пра тое, як сябе далей паводзіць. Магістр Гульні асабіста прыслаў яму кароценькі ліст, у якім гаварылася: «Не шкадуй часу не вывучэнне жыцця бенедыктынцаў. Бяры кожны дзень, вучыся, старайся спадабацца, будзь карысны, наколькі гэта магчыма, але не назаляйся, ніколі не выяўляй большай нецярплівасці, большай паспешлівасці, чым твае гаспадары. Нават калі яны цэлы год не пераменяць сваіх адносін і будуць паводзіць сябе так, быццам ты першы дзень гасцюеш у іх, прымай гэта як належнае, быццам табе ўсё роўна, чакаць яшчэ год ці дзесяць. Пастаўся да гэтага як да выпрабавання ў вытрымцы і цярплівасці. Не забывайся пра медытацыю! Калі вольны пусты час пачне ўгрызаць цябе, займайся некалькі гадзін у дзень, гадзіны чатыры, якой-небудзь працай, напрыклад, вывучай рукапісы, перапісвай іх. Але старайся не рабіць уражання, быццам цябе адрываюць ад працы, хай у цябе заўсёды будзе ўдосталь часу на кожнага, хто захоча з табой пагутарыць».

Кнэхт паслухаўся парады і неўзабаве адчуў сябе намнога вальней. Да таго яго грызла турбота за даручанае яму заданне, за курс лекцый тым, хто цікавіўся Гульнёй, і аматарам яе, што, зрэшты, і было мэтай яго паездкі ў Марыяфельс. Святыя ж айцы глядзелі на яго

больш як на пасланца прыязнай дзяржавы, якому трэба дагаджаць. І калі абат Гервасій нарэшце ўспомніў пра мэту прыезду Кнэхта і звёў яго з некалькімі братамі, ужо знаёмымі з асновамі Гульні, з якімі Кнэхту цяпер трэба было прадоўжыць заняткі, дык тут яго напачатку спасцігла цяжкае расчараванне, бо высветлілася, што культура высакароднай Гульні ў гэтым такім гасцінным кляштары мела вельмі павярхоўны і дылетанцкі характар і што, мабыць, тут задавальняліся даволі сціплымі пра яе звесткамі. Але ў выніку такой высновы ён прыйшоў да наступнага: не мастацтва Гульні, не навучанне ёй святых айцоў спрычынілі ягоную адпраўку ў Марыяфельс. Лёгкая, занадта ж бо лёгкая была задача крыху падвучыць элементарным правілам Гульні сімпатыкаў святых айцоў, каб даць ім уцеху ад сціплага спартыўнага поспеху; з гэтым управіўся б любы іншы адэпт Гульні, нават далёкі ад эліты. Значыцца, гэтыя ўрокі не маглі быць мэтай яго місіі ў Марыяфельсе. І тут Кнэхт пачаў разумець, што паслалі яго сюды зусім не дзеля таго, каб вучыць, а дзеля таго, каб вучыцца.

Зрэшты, якраз тады, калі яму здалося, што ён разгадаў намыслы Калегіі, яго аўтарытэт нечакана падрос, а тым самым і яго ўпэўненасць у сабе, бо часам, нягледзячы на ўсю прыемнасць ад гэтай гастролі, ён пачаў глядзець на сваё адбыванне ў кляштары як на пэўнага роду ссылку. І вось аднаго разу ў гутарцы з абатам ён выпадкова кінуў заўвагу пра «І-цзін». Абат насцярожыўся, задаў некалькі пытанняў і, убачыўшы, што госць, нават больш, чым чакалася, петрыць у кітайскай мове і ў «Кнізе перамен», не мог прыхаваць сваёй радасці. Гервасій палка любіў «І-цзін», і хоць і не ведаў кітайскай мовы і знаёмства яго з кнігай аракулаў і іншымі кітайскімі тайнотамі мела павярхоўны і бесклапотны характар, якім, бадай што, наогул задавальняліся тагачасныя жыхары кляштара, амаль у кожнай навуцы, усё ж няцяжка было заўважыць, што разумны і, у параўнанні з сваім госцем, такі спрактыкаваны ў жыцці чалавек сапраўды мае пэўныя адносіны да самога духу старажытнакітайскай дзяржаўнай і побытавай мудрасці. Паміж госцем і гаспадаром адбылася незвычайная гутарка, яна ўпершыню парушыла строга афіцыйныя адносіны паміж імі і прывяла да таго, што Кнэхта папрасілі двойчы на тыдзень чытаць шаноўнаму абату лекцыі пра «І-цзін».

Тым часам як адносіны Кнэхта з абатам падняліся на новую прыступку, ажывіліся, як расла і мацавалася дружба з арганістам і Кнэхт усё бліжэй спазнаваў маленькую рэлігійную дзяржаўку, дзе цяпер жыў, пачалі паступова спраўджвацца і прадказанні аракула, запытанага ім перад ад'ездам з Касталіі. Яму, дарожніку, у якога ўся яго маёмасць была пры сабе, абяцалі не толькі прыстанішча, але і «ўвагу маладога служкі». Сапраўды, тое, што прароцтва гэта збывалася, дарожнік мог прыняць за добры знак, за знак таго, што ён носіць «увесь маетак пры сабе», што і далёка ад школы, настаўнікаў, таварышаў, заступнікаў і памочнікаў, па-за роднай атмасферай Касталіі, яго ніколі не пакідаюць сіла і дух, ускрылены якім ён ідзе насустрач дзейснаму і карыснаму жыццю.

Абяцаны служка з'явіўся яму ў вобліку послуха Антона, і хоць гэты малады чалавек сам не іграў ніякай ролі ў Кнэхтавым жыцці, дзівосна дваістыя настроі, якія збегліся на першым часе Ёзэфавага кляштаравання, надавалі яго з'яўленню характар нейкага ўказання. Кнэхт прыняў яго як вестуна новага і больш вялікага, як вешчуна будучых падзей. Антон, які чакаў пастрыгу, маўклівы, але ўвішны хлопец, у чым можна было пераканацца з першага позірку, даволі часта нахапляўся на вочы майстру Гульні, само з'яўленне і майстэрства якога здаваліся яму гэтакімі ж таямнічымі. Невялікая група астатніх мнішкаў, якія жылі ў недаступным госцю флігелі, была Кнэхту амаль незнаёмая, іх яўна не дапускалі да яго, вывучаць Гульню ім не дазвалялі. Антон некалькі разоў на тыдзень дапамагаў у бібліятэцы падносіць кнігі; тут Кнэхт і сустрэў яго, неяк загаварыў і неўзабаве пачаў заўважаць, што малады чалавек з чорнымі палымянымі вачыма пад густымі цёмнымі брывамі яўна загарэўся да яго той летуценнай і самааддданай, юнацкай, вучнёўскай любоўю, з якой яму даводзілася сутыкацца ўжо няраз; у ёй ён даўно распазнаў важны і жыццядайны элемент усякага ордэна, хоць кожны раз адчуваў вялікае жаданне ўхіліцца ад яе.

Тут, у кляштары, ён прыняў цвёрдае рашэнне быць удвая стрыманым: уплываць на хлопца, які яшчэ толькі праходзіць рэлігійную навуку, азначала б злоўжываць гасціннасцю; да таго ж Кнэхт добра ведаў, наколькі строгі запавет цноты, які тут даюць усе, праз гэта хлапечая ўлюбёнасць магла зрабіцца яшчэ больш небяспеч-

най. У кожным разе, ён павінен пазбягаць самай найменшай магчымасці спакусіцца, у адпаведнасці з гэтым ён і трымаўся.

У бібліятэцы, адзіным месцы, дзе ён часта сустракаў гэтага Антона, Кнэхт пазнаёміўся з чалавекам, якога ён сам спачатку за яго някідкую знешнасць ледзь быў не прагледзеў, але спакваля зблізіўся з ім і палюбіў усёй душой, усё жыццё глыбока шанаваў яго, як шанаваў, бадай што, толькі Магістра музыкі. Гэта быў айцец Якаў, бадай, самы знакаміты з гісторыкаў-бенедыктынцаў, на той час гадоў пад шэсцьдзесят, сухарлявы дзядок з ястрабінай галавой на доўгай жылістай шыі і тварам, калі глядзець на яго проста, нібы крыху безжыццёвым, патухлым, асабліва таму, што ён рэдка калі каго адараў адкрытым паглядам. Затое профіль яго з смелай лініяй лоба, глыбокай упадзінай над рэзкім гарбатым носам і крыху караткаватым, але чыстым і прыемным падбародкам, сведчыў пра яркую і самабытную асобу. Пажылы, ціхі чалавек, які, між іншым, пры бліжэйшым знаёмстве мог выявіць і не абы-які імпэт, сядзеў у невялікім унутраным памяшканні бібліятэкі за сталом, вечна заваленым кнігамі, рукапісамі і геаграфічнымі картамі. У гэтым кляштары з яго неацэннымі кніжнымі скарбамі айцец Якаў быў, відаць, адзіны сур'ёзна заняты вучоны. Дарэчы, менавіта послух Антон без ніякага пэўнага намеру скіраваў на яго Кнэхтаву ўвагу. Ёзэф даўно ўжо змеціў, што пакоік у глыбіні бібліятэкі, дзе стаяў стол вучонага, быў нібы прыватны кабінет, і доступ у яго мелі толькі вельмі нямногія наведнікі чытальні, уступалі туды на пальчыках і толькі калі ўжо патрэба была самая пільная, хоць чалавек, які там працаваў, зусім не рабіў уражання, быццам яму можна перашкодзіць. Зразумела, што Кнэхт адразу і самым строгім чынам пачаў трымацца гэтых няпісаных правілаў, і таму працавіты старац доўгі час быў па-за яго ўвагай. Але вось аднаго разу вучоны загадаў Антону прынесці яму нейкія кнігі, і калі хлопец выйшаў з кабінета, Кнэхт заўважыў, што той спыніўся ў парозе і доўга глядзеў на заглыбленага ў працу манаха, з выразам летуценнага шанавання і захаплення, змяшаным з той амаль пяшчотнай увагай і гатоўнасцю дапамагчы, якімі часта зычлівыя юнакі хочуць ахінуць хваробы і слабасці старых. Спачатку Кнэхт узрадаваўся гэтай карціне, дарэчы, карціне выдатнай, і гэта было лішнім

доказам, што Антон увогуле абагаўляе старых, не ўлюбляючыся ў іх. А потым яму ў галаву прыйшла іранічная думка, але ён пасаромеўся прызнацца ў гэтым нават самому сабе: як жа бедна ў гэтых сценах прадстаўлена сапраўдная навука, калі на адзінага вучонага, які працуе сур'ёзна, моладзь глядзіць з подзівам, як на нейкае дзіва і казачную істоту! І ўсё-такі гэты пяшчотны пагляд захопленай шаноўлі, якім Антон глядзеў на старога, у пэўнай меры прымусіў Кнэхта ўважлівей зірнуць на вучонага, з таго дня ён пачаў часцей прыглядацца да яго і неўзабаве адкрыў сабе яго рымскі профіль, а спакваля знайшоў тыя ці іншыя рысы, якія сведчылі пра незвычайны розум і характар айца Якава. А што ён быў гісторык і адзін з самых глыбокіх знаўцаў мінуўшчыны Ордэна бенедыктынцаў, Кнэхт ведаў і да таго.

Аднаго разу айцец Якаў сам загаварыў да Ёзэфа; у яго паводзінах не было нічога ад шырокай, падкрэсленазычлівай манеры добрага дзядзькі, ад паказнога выдатнага настрою, што, бадай, наогул было стылем абыходжання з людзьмі ў Марыяфельсе. Ён папрасіў Ёзэфа пасля нешпара наведаць яго.

— У маёй асобе, — сказаў ён ціхім, амаль нясмелым голасам, але надзіва ясна выгаворваючы словы, — вы зусім не знойдзеце знаўцу гісторыі Касталіі і яшчэ менш аматара Гульні, але як што нашы два такія розныя Ордэны, як я думаю, сыходзяцца ўсё бліжэй, мне не хацелася б быць збоку, і таму я таксама хацеў бы мець сваю долю карысці з вашага побыту тут.

Ён гаварыў сур'ёзна, але гэты ціхі голас і стары, такі разумны твар надавалі яго ветлівым словам тую дзівосную шматзначнасць, у якой зліваліся сур'ёзнасць і іронія, шанаванне і ціхая насмешка, пафас і гульня, як гэта можна было адчуць пры сустрэчы двух святых або князёў царквы, назіраючы за іх бясконцымі паклонамі, цырыманіялам ветлівага доўгацярпення. Такое заўважанае ім у кітайцаў спалучэнне перавагі і насмешкі, мудрасці і велягурыстай цырымоннасці падзейнічала на Кнэхта даволі добра; ён падумаў, што такой манеры (Магістр Томас валодаў ёю дасканала) ён даўно ўжо не назіраў, і з радаснай удзячнасцю прыняў запрашэнне. Калі тым самым вечарам ён пайшоў шукаць далёкія пакоі айца Якава ў канцы ціхага флігеля і нерашуча спыніўся, не ведаючы, у якія дзверы пастукацца,

пачуліся раптам гукі раяля. Ён прыслухаўся і пазнаў: гэта была саната Пёрселя, выконвалі яе без ніякіх прэтэнзій і без віртуознасці, але чыста і строга; цёпла і прыветліва гучала прасветленая музыка з далікатнымі трохгуччамі, напамінаючы яму пра вальдцэльскія часіны, калі ён такія п'есы іграў з сваім сябрам Фэрамонтэ. Слухаючы з асалодай, ён стаяў і чакаў, пакуль не закончылася саната, якая гучала ў ціхім прызмерклым калідоры так адзінока і самотна, так дзёрзка і цнатліва, так па-дзіцячы і разам з такой невыказнай перавагай, як гучыць усякая добрая музыка сярод нематы гэтага свету. Ён пастукаўся. Пачулася: «Зайдзіце!», і айцец Якаў сустрэў яго са сціплай годнасцю; на невялікім раялі яшчэ гарэлі дзве свечкі. На пытанне Кнэхта айцец Якаў адказаў, што кожнага вечара ён іграе па паўгадзіны, а то і па гадзіне, працу сваю канчае, калі зусім цямнее, і перад сном ніколі не піша і не чытае. Яны загаварылі пра музыку, пра Пёрселя, Гендэля, пра даўгія музычныя традыцыі бенедыктынцаў, пра гэты Ордэн, які зусім не цураецца музаў, з гісторыяй якога Кнэхт хацеў пазнаёміцца бліжэй. Гутарка ажывілася, гаварылі па тысячы пытанняў, веды старога ў гісторыі былі проста фенаменальныя, аднак ён не адмаўляў, што гісторыя Касталіі, самой кастальскай думкі і кастальскага Ордэна яго цікавіла мала; не змоўчаў ён і пра свае даволі крытычныя адносіны да гэтай самай Касталіі, Ордэн якой ён схільны разглядаць як перайманне хрысціянскіх кангрэгацый, блюзнерчае перайманне, бо кастальскі Ордэн не абапіраецца ні на рэлігію, ні на бога, ні на царкву. Кнэхт з пашаноўчай увагай выслухаў гэтыя крытычныя заўвагі, але адзначыў сабе: што да рэлігіі, бога і царквы, дык апрача рымска-каталіцкага і бенедыктынскага тлумачэння магчымыя і іншыя, ды яны і існавалі, і ніхто не будзе адмаўляць чысціню іх намераў і глыбокі след, які яны пакінулі ў духоўным жыцці.

— Несумненна, — згадзіўся айцец Якаў. — Вы, мусіць, маеце на ўвазе пратэстантаў. Але яны не здолелі захаваць ні рэлігіі, ні царквы, хоць у свой час выявілі не абы-якую мужнасць і далі з свайго асяроддзя даволі гожых людзей. У маім жыцці былі гады, калі я шмат увагі аддаваў вывучэнню ўсялякіх спробаў прымірыць узаемна варожыя хрысціянскія выравызнанні і цэрквы, асабліва мяне цікавіў час каля тысяча сямісотага года,

калі жылі такія людзі, як філосаф і матэматык Лейбніц і гэты дзівосны фантастычны граф Цынцэндорф, якія не шкадавалі сілы, каб зноў звесці ў брацтве варагуючых братоў. І наогул, васемнаццатае стагоддзе, як бы нам часам ні здавалася, што тады панаваў дух павярхоўны і дылетанцкі, у сэнсе гісторыі духоўнай культуры незвычайна цікавы і шматгранны, і менавіта пратэстанты гэтага стагоддзя няраз займалі мае думкі. Аднойчы я знайшоў сярод іх філолага, педагога і выхаваўцу буйнога даравання, між іншым, швабскага піетыста, чалавека, чый маральны ўплыў можна прасачыць на працягу двух наступных стагоддзяў, — аднак мы ўхіліліся, вернемся лепей да пытання пра заканамернасць і пра гістарычную місію ордэнскіх арганізацый.

— Не, дазвольце, — усклікнуў Кнэхт, — прашу вас хоць яшчэ крыху расказаць мне пра гэтага педагога, пра якога вы толькі што згадалі. Мне здаецца, я здагадваюся, пра каго гаворка.

— Пра каго ж?

— Спачатку я падумаў, што пра Франка з Гале, але ж вы сказалі, што ён шваб, і тут ужо мова магла быць толькі пра Ёгана Альбрэхта Бенгеле.

Смех, і твар вучонага заззяў радасцю.

— Вы здзіўляеце мяне, дарагі! — усклікнуў ён жыва. — І праўда, ■ меў на ўвазе Бенгеле. Але адкуль вы пра яго ведаеце? Няўжо ў вашай дзівоснай Правінцыі лічыцца за правіла ведаць такія даўнія падзеі і забытыя імёны? Магу вас запэўніць, апытайце ўсіх святых айцоў, настаўнікаў і послухаў нашага кляштара, дадайце да іх яшчэ два пакаленні, і ніхто не назаве вам гэтага імя.

— У Касталіі яго таксама мала хто ведае, мабыць, ніхто, апрача мяне і двух маіх сяброў. Нейкі час сам сабе ■ займаўся вывучэннем васемнаццатага стагоддзя і піетызму, якраз тады і натыкнуўся на двух швабскіх тэолагаў, якія вельмі мяне здзівілі і спрычынілі маё пакланенне ім, з іх менавіта Бенгеле здаўся мне тады ідэалам педагога і настаўніка моладзі. Я так захапіўся гэтым чалавекам, што нават папрасіў пераняць мне з старадаўняй кнігі ягоны партрэт, і ён доўга ўпрыгожваў мой пісьмовы стол.

Айцец Якаў усё яшчэ ўсміхаўся.

— У такім разе наша сустрэча адбылася пад незвычайным знакам, — сказаў ён. — Уражвае ўсё адно тое,

што абодва мы натыкнуліся на гэтага ўсімі забытага чалавека. Аднак, бадай што, яшчэ больш здзіўляе, якім чынам гэтаму швабскаму пратэстанту ўдалося амаль адначасова паўплываць на бенедыктынскага манаха і майстра Гульні з Касталіі. Між іншым, я ўяўляю сабе вашу Гульню як нейкае мастацтва, на якое патрэбна багатая фантазія, і таму вельмі здзіўлены, што такі чалавек, які мысліць вельмі цвяроза, як Бенгеле, мог прыцягнуць вашу ўвагу.

Цяпер і Кнэхт засмяяўся.

— Ну што ж, варта вам толькі ўспомніць шматгадовае вывучэнне Бенгелем Адкрыцця Іаана Багаслова і яго сістэму тлумачэння прароцтваў з гэтай кнігі, як вы згодзіцеся, што наш сябар не цураўся і таго, што супярэчыць цвярозасці.

— Згодзен, — весела сказаў айцец Якаў. — А як жа вы растлумачыце такую супярэчнасць?

— Калі вы дазволіце мне адказаць вам жартам, дык я сказаў бы: Бенгеле, сам таго не ўсведамляючы, палка шукаў і прагнуў здабыць адно — Гульню шкляных перлаў. Я залічваю яго да тайных папярэднікаў і прабацькоў нашай Гульні.

Айцец Якаў зноў стаў сур'ёзны і асцярожна сказаў:

— Вельмі смела ўключаць менавіта Бенгеле ў радавод вашай Гульні. Чым вы дакажаце вашу думку?

— Я, вядома, пажартаваў, але жарт гэты такі, што можна і настойваць на ім. Яшчэ ў маладыя гады, яшчэ да таго, як ён заняўся Бібліяй, Бенгеле расказаў аднаму свайму сябру пра нейкі план энцыклапедычнай працы, дзе ўсе галіны ведаў, вядомыя ў яго час, былі б суразмерна зведзены ў адным ракурсе ў пэўны парадак. А гэта і ёсць якраз тое, што робіць наша Гульня.

— Але ж гэта тая самая ідэя энцыклапедыі, з якою насілася ўсё васемнаццатае стагоддзе! — усклікнуў айцец Якаў.

— Менавіта яна, — адказаў Кнэхт. — Але Бенгеле імкнуўся не толькі, так сказаць, да сінаптычнай радапаложанасці ўсіх галін ведаў і даследаванняў, але і да супраждэння іх унутранай сутнасці, да нейкага арганічнага парадку. Ён быў на дарозе да пошукаў агульнага паказальніка, а гэта адна з асноўных ідэй Гульні. Скажу больш: калі б у Бенгеле было пад рукой нешта падобнае на сістэму нашай Гульні, ён, магчыма, пазбег бы

сваёй самай вялікай памылкі з пералікам прарочных лічбаў і абвяшчэннем антыхрыставага прышэсця і тысячагадовага царства. Бенгеле так і не здолеў знайсці жаданы агульны кірунак да прыкладання сваіх шматлікіх талентаў. Вось чаму яго матэматычны талент у спалучэнні з яго празорлівасцю як філолага і нарадзіў тую мешаніну дакладнасці і фантастыкі, якім з'яўляецца яго «Сістэма часоў», якой ён аддаў не адзін год свайго жыцця.

— Добра, што вы не гісторык, — сказаў Якаў, — у вас сапраўды вялікая схільнасць да фантазій. Аднак я зразумеў, што вы маеце на ўвазе; педант я толькі ў сваёй вузкай спецыяльнасці.

Гутарка выдалася плённай, стала як бы пазнаваннем аднаго адным, нараджэннем нечага падобнага на дружбу. Вучонаму-бенедыктынцу здавалася не выпадковым або, прынамсі, выключным выпадкам тая акалічнасць, што абодва яны — ён у сваім бенедыктынскім свеце, а малады чалавек у кастальскім — зрабілі гэтую знаходку, адкрылі беднага кляштарнага настаўніка з Вюртэмберга, адначасова далікатнага сэрцам і незвычайна стойкага, летуценнага і цвярозай думкі чалавека; нешта, мусіць, звязвала іх абодвух, калі на іх падзейнічаў адзін і той непрыкметны магніт. І сапраўды, з таго вечара, які пачаўся санатай Пёрселя, гэтае «нешта», гэтая сувязь зрабілася існай. Айцец Якаў цешыўся кампаніяй з такім развітым і ў той самы час такім адкрытым для ўсяго новага юным розумам, такая радасць не часта выпадала на яго долю; а Кнэхт глядзеў на гутаркі з гісторыкам, на вучэнне, што ўжо ў яго пачалося, як на новую прыступку да «абуджэння», якім ён лічыў усё сваё жыццё. Адным словам, дзякуючы айцу Якаву ён далучыўся да гістарычнай навукі, зведаў заканамернасці і супярэчнасці вывучэння гісторыі і гістарычных прац, а ў пазнейшыя гады, звыш таго, навучыўся глядзець на сучаснасць і на сваё жыццё як на гістарычную рэальнасць.

Гутаркі іх часам разрасталіся да сапраўдных диспутаў, атак і самаапраўданняў; прытым нападаў часцей за ўсё айцец Якаў. Чым больш яму раскрываліся настроі розуму маладога чалавека, тым больш ён шкадаваў, што малады чалавек з такімі задаткамі не прайшоў школы рэлігійнага выхавання, а атрымаў толькі ўяўнае выхаванне ў атмасферы інтэлектуальна-эстэ-

тычнай духоўнасці. Усё, што ён асуджаў у сістэме мыслення Кнэхта, ён прыпісваў менавіта гэтым «навінам» кастальскага духу, яго поўнаму адрыву ад рэчаіснасці, яго схільнасці да гульні ў абстракцыю. А ў тых выпадках, калі ён знаходзіў у Кнэхта погляды і меркаванні, блізкія да сваіх, ён святкаваў перамогу здаровага пачатку ў душы юнага сябра над кастальскім выхаваннем. Ёзэф даволі спакойна прымаў крытыку кастальскіх парадкаў, а тады, калі айцец Якаў, захоплены сваім тэмпераментам, заходзіў занадта далёка, ён цвяроза адбіваў яго нападкі. Дарэчы, сярод прыніжальных выпадаў старога вучонага супроць Касталіі бывалі і такія, з якімі Ёзэфу даводзілася часткова згаджацца, і ў адным выпадку за ўвесь час ягонага жыцця ў Марыяфельсе цалкам памяняў сваю думку. Гаворка ідзе пра адносіны кастальскай думкі да сусветнай гісторыі, пра тое, што айцец Якаў называў «поўнай адсутнасцю гістарычнага адчування». Звычайна ён казаў: «Вы, матэматыкі і lusores, выдумалі сабе на патрэбу нейкую дыстыляваную гісторыю, якая складаецца толькі з гісторыі мастацтва; ваша гісторыя не мае ў сабе крыві, яна без рэальнасці: вы выдатна разбіраецеся ў этапах заняпаду лацінскага сінтаксісу ў другім або ў трэцім стагоддзі нашай эры і не маеце ніякага ўяўлення пра Аляксандра, Цэзара або Ісуса Хрыста. Вы абыходзіцеся з сусветнай гісторыяй, як матэматыкі з матэматыкай, у якой ёсць толькі тэарэмы і формулы, але няма ніякай рэальнай рэчаіснасці, няма дабра і зла, няма часу, няма ні мінулага, ні будучыні, а ёсць толькі вечная, плясклатая матэматычная цяперашчына».

— Але скажыце, як жа займацца гістарычнай навукай і не імкнуцца ўнесці ў гісторыю нейкі парадак, сістэму? — спытаўся Кнэхт.

— Зразумела, у гісторыю трэба ўносіць парадак, — раздражняўся ў адказ айцец Якаў, — усякая навука — гэта перш за ўсё сістэматызацыя, упарадкаванне і ў той самы час спрашчэнне, нейкае страўліванне для духу таго, што стравіць немагчыма. Мы думаем, што нам удалося адкрыць у гісторыі пэўныя заканамернасці, і мы спрабуем пры раскопках гістарычнай праўды абапірацца на іх. Анатам, які ўскрывае цела, не знаходзіць у ім нічога нечаканага, а бачыць пад эпідэрмай органы, мышцы, звязкі, косці, якія цалкам пацвярджаюць тую схему, якая яму загадзя вядомая. Але калі анатам ба-

чыць ужо толькі сваю схему і праз гэта не дбае пра адзіную ў сваім родзе рэальнасць індывідуальнасці, тады ён касталец, lusor, ён прымервае матэматычныя меркі да аб'екта, якія менш за ўсё на гэта прыдатны. Хай той, хто займаецца гісторыяй, надзелены самай кранальнай дзіцячай верай у сістэматызаваную сілу нашага розуму і нашых метадаў, але, апрача гэтага і насуперак гэтаму, яго абавязак — паважаць неспасцігальную праўду, рэальнасць, непаўторнасць таго, што адбываецца. Не, дарагі мой, гістарычная навука — гэта не забаўка і не безадказная гульня. Гістарычнае даследаванне вымагае ад нас разумення таго, што мы імкнёмся да чагосьці немагчымага і ўсё ж неабходнага і вельмі важнага. Гістарычнае даследаванне азначае: апусціцца ў хаос і захаваць у сабе веру ў парадак і сэнс. Гэта вельмі сур'ёзная задача, малады чалавек, магчыма, нават трагічная.

З выказванняў айца Якава, пра якія Кнэхт паведаміў тады ў пісьмах сваім сябрам, прывядзём яшчэ адну характэрную заўвагу.

— Для моладзі вялікія людзі, бадай, тое самае, што і ягадкі ў пірагу сусветнай гісторыі. Канечне, яны ўваходзяць у яе субстанцыю, але зусім не лёгка і не проста, як гэта здаецца, аддзяліць сапраўды вялікіх ад уяўна вялікіх. Уяўна вялікім надае велічы сам гістарычны момант, яго ўгадванне і выкарыстанне. Гісторыкаў і біёграфаў, ужо не кажучы пра журналістаў, якім такое ўгадванне і выкарыстанне гістарычнага моманту, інакш кажучы, сам імалётны поспех ужо здаецца знакам велічы, — навалам. Любімыя фігуры такіх гісторыкаў: капрал, які за дзень стаў дыктатарам, альбо куртызанка, якой на нейкі час удалося зрабіцца ўладарніцай настрояў імператара. Юнакі, якія мысляць узнёсла, наадварот, пакланяюцца трагічным няўдальцам, пакутнікам, тым, хто спазніўся ўсяго на некалькі хвілін або занадта паспяшаўся. Што да мяне, перш-наперш гісторыка нашага Ордэна бенедыктынаў, дык у сусветнай гісторыі я ніколі не лічыў самымі прывабнымі, дзівоснымі і вартымі вывучэння асобныя асобы і перавароты, паспяховыя або няўдалыя; не, мая любоў і ненасытная цікаўнасць скіраваныя на з'явы, аналагічныя нашай кангрэгацыі, на тыя вельмі даўгавечныя арганізацыі, якія спрабуюць выбіраць людзей з душой і розумам, выхоўваць іх і ператвараць не з дапамогай яўгенікі,

а з дапамогай выхавання, ствараць з іх арыстакратаў па духу, а не па крыві, якія аднолькава здольныя і служыць і загадваць. У гісторыі Грэцыі, напрыклад, мяне зачаравалі не сузор'і герояў і не назойлівыя крыкі на агоры, а доследы піфагарэйцаў і платонавай акадэміі. У кітайцаў мяне найперш зацікавіла працягласць існавання сістэмы Канфуцыя, у гісторыі Еўропы — хрысціянская царква і падданыя ёй ордэнскія арганізацыі, менавіта яны здаюцца мне гістарычнымі аб'ектамі першай велічыні. Тое, што авантурысту можа ўсміхнуцца шчасце і ён заваюе або створыць цэлую імперыю, якая будзе існаваць дваццаць, пяцьдзесят, а то і сто гадоў; тое, што зычлівы летуценнік з каронай на галаве паспрабуе праводзіць сумленную палітыку або зробіць спробу ажыццявіць якую-небудзь культуртрэгерскую мару; тое, што ў выключных умовах народ (або іншая супольнасць людзей) здольны ствараць і перацерпець датуль нечуванае, — усё гэта мне не так цікава, як усё новыя і новыя спробы стварэння інстытутаў, падобных на наш Ордэн, з якіх некаторыя пратрымаліся тысячу і нават дзве тысячы гадоў. Пра святую царкву я не кажу, для нас, веруючых, яна па-за дыскусіямі. Але тое, што кангрэгацыі бенедыктынаў, дамініканаў, а пазней і езуітаў існуюць некалькі стагоддзяў і пасля такой даўжэзнай сваёй гісторыі, насуперак усяму, што адбываецца навакол — усім скажэнням, прыстасаванням і гвалту, які ўчыняецца над імі, — захавалі сваё аблічча і голас, сваю непаўторную душу, — вось у чым для мяне самы дзівосны і варты пакланення гістарычны феномен.

Нават калі ў гневе сваім айцец Якаў бываў несправядлівы, Ёзэф не мог не здзіўляцца з яго. Пры ўсім гэтым ён і не падазраваў, хто такі на самай справе айцец Якаў, ён бачыў у ім толькі саліднага, нават геніяльнага вучонага, а не гістарычную асобу, якая сама свядома тварыла гісторыю, вядучага палітыка сваёй кангрэгацыі, знаўцу палітычнай гісторыі і палітычных пытанняў сучаснасці, — нездарма ж да яго з усіх бакоў спяшаліся па парады, тлумачэнні, з просьбамі быць пасрэднікам. Каля двух гадоў, да свайго першага водпуску, Кнэхт размаўляў з святым айцом толькі як з вучоным, ведаючы толькі адзін павернуты да яго бок ягонага жыцця, працы, славы і ўплыву. Гэты чалавек умеў маўчаць, маўчаць нават з сябрамі, а яго браты-манахі таксама гэта ўмелі, і нават лепш, чым Кнэхт мог уявіць.

Праз два гады Кнэхт настолькі абвыкся з жыццём у кляштары, наколькі гэта было даступна госцю і наогул чужому чалавеку. Час ад часу ён памагаў арганісту кіраваць матэтным хорам — гэтай танюсенькай нітачкай старадаўняй традыцыі. Ён зрабіў некалькі знаходак у нотным архіве кляштара, выслаў копіі старых п'ес у Вальдцэль і з асаблівай прыемнасцю ў Манпор. Ён сабраў невялікі гурток пачаткоўцаў-аматараў Гульні, у якую як адзін з самых заўзятых вучняў увайшоў і памянёны Антон. Зрэшты, абата Гервасія ён так і не навучыў кітайскай мове, аднак напрактыкаваў яго на сцяблінках крываўніку і паказаў яму найлепшы метад медытацыі над выслоўямі з кнігі аракулаў. Абат спакваля прывык да Ёзэфа і даўно кінуў свае спробы прыахвоціць госця да віна. Паведамленні, якія ён пасылаў у Вальдцэль у адказ на паўгадавыя афіцыйныя запытанні Магістра Гульні (ці задаволены ў Марыяфельсе Кнэхтам), складаліся толькі з пахвал. У Касталіі ж, намнога ўважлівей, чым гэтыя справаздачы, вывучалі тэмы лекцый і спісы балаў, пастаўленых Кнэхтам удзельнікам курсаў Гульні. А вывучыўшы, знаходзілі, што агульны ўзровень даволі сціплы, але былі радыя ўжо з таго, як малады настаўнік прыстасаваўся да такога ўзроўню, да нораваў і духу кляштара. Але найбольшае і даволі нечаканае задавальненне кастальскае кіраўніцтва атрымала і нават ні словам пра гэта не заікнулася свайму прадстаўніку, калі даведалася пра давяральныя і амаль сяброўскія гутаркі Кнэхта са славутым айцом Якавам.

Гутаркі гэтыя далі багаты плён, пра які, крыху забягаючы наперад, дазволю сабе расказаць ужо цяпер, у кожным разе, пра адзін такі, што найбольш прыпаў Кнэхту да душы. Плод выспяваў паступова, вельмі марудна, прарастаў гэтак жа насцярожана і недаверліва, як прарастае насенне горных дрэў, пасаджанае на ўрадлівы палетак у даліне: яно ўзяло ў спадчыну насцярожанасць і недавер сваіх продкаў, і павольны рост — адна з іх спадчынных якасцяў. Так і мудры стары, які прывык недаверліва кантраляваць самую малую магчымасць уплыву на сябе, дазваляў толькі вельмі паступова і ў малых дозах укараняцца ў сабе таму, што юны сябар і калега з другога полюса падносіў яму ад кастальскага духу. І ўсё ж памалу пасеянае зерне прарасло, і з усяго добрага, што Кнэхт паражыў у кляштары, найлепшым і самым дарагім яму быў гэты скупы,

нясмела праклюнуты з безнадзейных парасткаў давер і самараскрыццё шмат абазнанага старца, яго паступова спеленая і яшчэ павальней усвядомленая павага не толькі да асобы свайго маладзейшага ўвяльбіцельніка, але і да таго, што было ў ім тыпова кастальскай закваскі. Крок па кроку малодшы, здавалася, толькі вучань і слухач, жадны навучыцца, падводзіў айца Якава, які раней вымаўляў словы «кастальскі» або «lusor» не іначай як з іроніяй, а то і як лаянку, — спярша да трывальнасці, а потым і да прызнання, павагі і гэтага спосабу мыслення, і гэтага кастальскага Ордэна, і гэтай спробы стварыць арыстакратыю духу. Урэшце айцец Якаў перастаў скардзіцца на маладосць кастальцаў, якія з іх няпоўнымі двума стагоддзямі, зразумела, адставалі ў гэтым сэнсе ад бенедыктынаў з іх паўтаратысячагадовай гісторыяй; перастаў ён і глядзець на Гульню як на нейкі эстэтычны дэндзізм, перастаў лічыць немагчымай у будучым дружбу і заключэнне нейкага падабенства саюзу паміж няроўнымі і па ўзросце Ордэнамі. Сам Кнэхт яшчэ доўга нават не падазраваў, што Калегія бачыла ў гэтым частковым навароце айца Якава, на які Ёзэф глядзеў як на асабістую ўдачу, найвышэйшае дасягненне яго марыяфельскай місіі. Час ад часу ён марна круціў сабе галаву — чаго ён, шчыра кажучы, дасягнуў у кляштары, ці выканаў ён сваё даручэнне, ці дае ён карысць і ці не ёсць ягоны прыезд сюды, які спачатку здаваўся яму нейкім вылучэннем і ўзвышэннем, зайздросным для аднагодкаў, нейкай бясслаўнай адстаўкай, нейкім адгонам у тупік. Ну што ж, думаў ён, навучыцца нечаму можна ўсюды, чаму ж не павучыцца і тут? Хоць, з кастальскага пункту погляду, гэты кляштар, за выключэннем, бадай што, толькі айца Якава, быў не бог ведае які вертаград і ўзор вучонай мудрасці; і ці не закаснеў ён, Кнэхт, жывучы ў такой ізаляцыі сярод самазадаволеных дылетантаў, ці не пачаў ён ужо адставаць у Гульні? Перабароць такія настроі дапамагла яму поўная адсутнасць у ім усякага кар'ерызму і на тую пару ўжо даволі глыбока ўкарэнены ў ім amor fati. Увогуле ж ягонае жыццё тут, у гэтым старавечным кляштары, жыццё госця і сціплага выкладчыка спецыяльнай дысцыпліны, было, бадай што, больш прыемнае, чым апошні час у Вальдцэлі, сярод тамтэйшых гардуноў, і калі доля назаўсёды закіне яго на гэты маленькі каланіяльны пост, ён, магчыма, і паспрабуе ў

сім-тым змяніць сваё тутэйшае жыццё, напрыклад, паспрабуе перацягнуць сюды аднаго з сваіх сяброў або, прынамсі, выпрасіць сабе прыстойны штогадовы адпачынак у Касталію, а ў астатнім будзе дастаткавацца тым, што ёсць.

Чытач гэтых біяграфічных запісак хутчэй за ўсё чакае справаздачы пра яшчэ адзін бок кляштарнага жыцця Кнэхта — пра рэлігійны. Але тут мы асмелімся толькі на досыць асцярожныя дапушчэнні. Мяркуючы па яго больш позніх выказваннях і па ўсіх ягоных паводзінах, Кнэхт, сутыкнуўшыся з руціннай практыкай хрысціянства, магчыма, і можа нават напэўна, увайшоў у Марыяфельсе ў больш блізкія зносіны з рэлігіяй. Аднак пытанне, ці стаў ён там хрысціянінам — гэтая сфера недаступная нашым даследаванням. Апрача звычайнай у кастальца павагі да любой рэлігіі, у ім самім жыло нейкае шанаванне, якое мы назвалі б богаспадобным; яшчэ ў школах, асабліва на занятках царкоўнай музыкай, ён пачэрпнуў глыбокія веды пра хрысціянскае вучэнне і яго класічныя формы, таемнасць імшы і абрад літургіі ён ведаў выдатна. Не без пачцівага здзіўлення пазнаёміўся ён у бенедыктынаў з жывой рэлігіяй, вядомай яму да гэтага толькі тэарэтычна і гістарычна; ён не адзін раз прысутнічаў на набажэнствах, а калі вывучыў некалькі трактатаў айца Якава і адчуў уздзеянне яго гутарак, перад ім у поўнай выяве паўстаў феномен гэтага хрысціянства, якое за стагоддзі каторы ўжо раз абвяшчалася несучасным і пераўзыдзеным, састарэлым, нерухомым, і ўсё ж, зноў прыпаўшы да вытокаў, абнаўлялася, пакідаючы за сабою далёка ўсё тое, што яшчэ ўчора лічыла сябе перадавым і пераможным. Ён не пярэчыў і шматразовым выказванням пра тое, што сама кастальская культура — толькі пераходная, секулярызаваная галіна еўрапейскай хрысціянскай культуры, і ў свой час яна зноў растворыцца ў гэтай культуры і перастане існаваць. Хай будзе ўсё, як кажа айцец Якаў, заявіў яму неяк Кнэхт, але ж ягонае, Кнэхтава месца, яго служэнне — у кастальскай іерархіі, а не бенедыктынскай, там ён і павінен паказаць сябе, прыкласці сваю сілу і не клапаціцца пра тое, ці мае іерархія, членам якое ён з'яўляецца, права на вечнае або часовае існаванне; пераход у іншую веру ён можа разглядаць толькі як ганебныя ўцёкі. Так калісьці і пачцівы Еган Альбрэхт Бенгеле служыў толькі

малой і часовай царкве, не адступаючыся пры гэтым ад свайго служэння вечнаму. Пабожнасць, інакш кажучы, акрыленне верай, служэнне і вернасць аж да ахвяравання сваім жыццём магчымая ў кожным веравызнанні і на кожнай ступені, і адзінай мерай шчырасці і каштоўнасці ўсякай асабістай пабожнасці можна прызнаць толькі гэтае служэнне і гэтую вернасць.

Аднойчы, гэта было пасля таго, як Кнэхт пражыў сярод patres каля двух гадоў, у кляштары з'явіўся нейкі госць, якога старанна трымалі на адлегласці ад яго, не дапусціўшы нават беглага знаёмства. Ад такой таямнічасці ў Кнэхта разгарэлася цікаўнасць і прымусіла яго ўважліва сачыць за прыезджым (які, зрэшты, праз колькі дзён з'ехаў) і надумваць розныя здогадкі. Духоўніцкія строі госця здаліся Кнэхту маскарадам. З абатам і айцом Якавам невядомы меў некалькі працяглых гутарак за зачыненымі дзвярыма; за час яго гасцявання ў кляштары да яго з'яўляліся экстранныя кур'еры, і ён тут жа адпраўляў іх назад. Кнэхт, ведаючы пра палітычныя сувязі і традыцыі кляштара, дапусціў, што невядомы быў высокай асобай з тайнай місіяй або манархам, які вандраваў інкогніта. Падсумоўваючы свае назіранні, ён успомніў, што і да гэтага ў кляштар прыбывалі наведнікі, якія цяпер, калі ён пачаў іх згадваць, таксама здаліся яму таямнічымі альбо значнымі асобамі. Пры гэтым ён раптам падумаў пра начальніка «паліцыі», прыветлівага пана Дзюбуа, і яго просьбу — заўсёды, і асабліва пры выпадку, уважліва пільнаваць у кляштары менавіта такія візіты. І хоць Кнэхт і цяпер не адчуваў ні ахвоты, ні прызвання да такога роду справаздач, сумленне ўсё ж нагадвала яму, што ён даўно ўжо не пісаў гэтаму такому зычліваму чалавеку і, мусіць, моцна яго расчараваў. Ён паслаў пану Дзюбуа доўгі ліст, паспрабаваў у ім растлумачыць сваё маўчанне і, каб пісьмо не прагучала занадта галаслоўна, расказаў сёе-тое пра свае адносіны з айцом Якавам. Ён і не здагадваўся, як пільна і кім толькі не вывучалася гэта ягонае пасланне.

## МІСІЯ

Першы раз Кнэхт жыў у кляштары каля двух гадоў; у той час, пра які ў нас ідзе гаворка, яму было трыццаць сем гадоў. У канцы свайго жыцця ў Марыя-

фельсе, месяцы праз два пасля таго, як ён напісаў падрабязны ліст пану Дзюбуа, яго аднойчы раніцай паклікалі ў прыёмную абата. Падумаўшы, што жыццярадасны Гервасій хоча пагутарыць з ім пра кітайскія мудрагошчы, Кнэхт адразу пайшоў засведчыць яму сваю пашану. Гервасій сустрэў яго з нейкім пісьмом у руцэ.

— Я маю гонар, глыбокашаноўны сябар, звярнуцца да вас з даручэннем, — усклікнуў ён, увесь ззяючы, у сваёй па-бацькоўску зычлівай форме і адразу перайшоў на іранічны, падцвельны тон, які склаўся ў яго як вынік яшчэ не зусім сяброўскіх адносін паміж бенедыктынскім і кастальскім Ордэнамі і быў уведзены ў іх адносіны, зрэшты, самім айцом Якавам. — Аднак жа ваш Magister Ludi варты подзіву. Пісьмы пісаць ён майстар! Мне ён, бог яго ведае чаму, напісаў па-латыні; у вас, кастальцаў, ніколі не разбярэш, дзе вы далікатна ветлівыя, а дзе пакепваеце, дзе шануеце, а дзе павучаеце. Дык вось да мяне гэты паважаны dominus[1] звярнуўся на латыні, і я павінен прызнацца — на такой латыні, якою ніхто не валодае ў нашым Ордэне, за выключэннем, бадай што, айца Якава. Яна нібыта выйшла з школы самога Цыцэрона, але самую крышачку закрашана старанна адмераным каліўцам нашай царкоўнай латыні, прычым зноў жа невядома, ці задумана гэта закраса шчыра, як прынада нашай папоўскай брацііі, ці ў іранічным сэнсе, ці проста нарадзілася з нястрымнай патрэбы гуляць, стылізаваць і дэкараваць. Ну дык вось, Вялебны піша мне: у тамтэйшых краях лічаць пажаданым пабачыцца з вамі і абняць вас, а магчыма, у пэўнай меры і праверыць, ці не падтачыла такое доўгае знаходжанне сярод нас, варвараў, вашу мараль і ваш стыль. Карацей, калі я правільна зразумеў і вытлумачыў гэты даўжманы літаратурны шэдэўр, вам дадзены адпачынак, а мяне просяць адпусціць вас на неабмежаваны тэрмін, у родны вам Вальдцэль, але не назусім, ваша неўзабаўнае вяртанне, паколькі мы не без прыемнасці глядзім на яго, цалкам адпавядае і намерам вашага начальства. Прашу прабачыць мне, я бяссільны адпаведным чынам перадаць усе тонкасці яго пісьма, ды Магістр Томас наўрад ці гэтага і чакае ад мяне. Вось гэта пісьмо мне даручана перадаць вам, а цяпер я

[1] пан (*лац.*).

больш не затрымліваю вас і прашу рашыць, ці едзеце вы, і калі менавіта. Нам будзе бракаваць вас, мой дарагі; калі вы занадта затрымаецеся, мы абавязкова заявім нашы прэтэнзіі да Вярхоўнай калегіі.

У пісьме, перададзеным абатам Кнэхту, Калегія каратка паведамляла, што на адпачынак і перагаворы з кіраўніцтвам яму дадзены водпуск і што яго ў бліжэйшы час чакаюць у Вальдцэлі. З тым, што курс не завершаны, ён можа не лічыцца, хіба што абат настоіць на гэтым. Былы Магістр музыкі перадае яму прывітанне.

Прачытаўшы гэтыя апошнія словы, Ёзэф насцярожыўся: чаго гэта раптам Магістру Гульні даручылі перадаць гэта прывітанне, не вельмі дарэчнае ў такім афіцыйным пасланні. Мабыць, адбылася канферэнцыя ўсіх Калегій з удзелам усіх Магістраў, нават тых, якія пайшлі на спакой. Ну што ж, урэшце, што яму да розных канферэнцый? Аднак дзіўнае пачуццё абудзіла ў ім гэтая вестка, і нейк незвычайна прыязна прагучала гэта прывітанне. Пра што б ні гаварылася на гэтай канферэнцыі, прывітанне, перададзенае ў пісьме, даказвала, што вярхоўнае кіраўніцтва пры гэтым гаварыла пра яго, Ёзэфа Кнэхта. Няўжо яго чакае нейкае новае прызначэнне і яго адклічуць з Марыяфельса? Будзе гэта павышэнне ці наадварот? Але ў пісьме гаварылася толькі пра водпуск. Праўда, водпуску ён шчыра рады і ахвотна паехаў бы з кляштара хоць заўтра раніцай. Але трэба было хоць развітацца з вучнямі, даць ім заданне на час сваёй адсутнасці. Мабыць, Антон будзе засмучаны. Ды і з некаторымі святамі айцамі ён абавязаны развітацца асабіста. Тут ён падумаў пра айца Якава і, на сваё здзіўленне, адчуў лёгкі боль у душы — гэта гаварыла пра тое, што да Марыяфельса ён прывязаўся больш, чым думаў. Шмат чаго, да чаго ён прывык, што любіў, не хапала яму тут, і калі ён глядзеў адсюль, з чужыны, Касталія здавалася яму яшчэ больш цудоўнай. Але ў гэтую хвіліну ён зразумеў: у айцу Якаве ён траціць нешта, чаго нельга замяніць, яго яму будзе не хапаць нават у Касталіі. Гэтым самым ён як бы лепш усвядоміў, што менавіта ён пачэрпнуў, чаму навучыўся ў Марыяфельсе, і толькі цяпер, думаючы пра паездку ў Вальдцэль, пра сустрэчу з сябрамі, пра Гульню, пра канікулы, ён не мог цалкам аддацца пачуццю радасці і надзеі. Аднак радасць гэтая была б куды меншая,

калі б ён не быў упэўнены, што вернецца ў кляштар.

Ён раптам рашыўся і пайшоў да айца Якава; расказаў яму пра пісьмо, пра водпуск і пра сваё здзіўленне з прычыны таго, што радасць яго ў сувязі з паездкай на радзіму і скорымі сустрэчамі была б няпоўная, калі б ён ужо загадзя не радаваўся свайму вяртанню сюды і асабліва новай сустрэчы з глыбокапаважаным вучоным, да якога ён прыкіпеў усім сэрцам і цяпер, асмялеўшы, мае намер звярнуцца з просьбай: ён хацеў бы, вярнуўшыся ў Марыяфельс, паступіць да святога айца ў навуку і прасіць удзяліць яму хоць бы гадзіну-другую на тыдзень. Айцер Якаў засмяяўся, замахаў рукамі і адразу пачаў адпускаць самыя цудоўныя іранічныя камплІменты з прычыны такой шматграннай, неперераўзыдзенай сістэмы кастальскай адукацыі, якой ён, сціплы чарнарызнік, можа толькі здзіўляцца і ў подзіве сваім круціць галавой. Але Ёзэф ужо заўважыў, што адмоўлена яму не сур'ёзна, і калі ён, развітваючыся, падаў айцу Якаву руку, той сказаў яму прыязна, што наконт сваёй просьбы хай не турбуецца, што ахвотна зробіць усё, што ад яго залежыць, і потым душэўна развітаўся з ім.

З лёгкім радасным пачуццём выправіўся Кнэхт у родныя краі, на канікулы, цяпер ужо ўпэўнены ў карыснасці свайго жыцця ў кляштары. Ад'язджаючы, ён успомніў свае хлапечыя гады, але тут жа зразумеў, што ён ужо не хлопчык і не хлопец: гэта паказала яму адчуванне сораму і нейкага ўнутранага супраціўлення, што з'яўлялася ў яго кожны раз, як толькі ён якім-небудзь рухам, словам, якой-небудзь іншай блазнотай спрабаваў даць выйсце пачуццю вольнасці, шкалярскаму вакацыйнаму шчасцю. Не, тое, што калісь разумелася само сабою, радасцю вызвалення — пераможны кліч насустрач птушкам у голлі, гучная маршавая мелодыя, лёгкая ўпадскок паходка — усё гэта ўнемажлівілася ды і выйшла б наўмысным, надуманым, нейкім дурным блазнаваннем. Ён адчуў, што ён ужо выраслы чалавек, з маладымі пачуццямі і маладою сілай, але ўжо адвык аддавацца хвіліннаму настрою, ужо несвабодны, змушаны да пастаяннай бадзёрасці, павязаны абавязкам, — але якім, зрэшты, каб папытацца? Сваёю службаю тут? Абавязкам прадстаўляць у кляштары сваю краіну і свой Ордэн? Не, гэта быў сам Ордэн, гэта была іерархія, з якою ён у гэтую хвіліну імгненнага самааналізу адчуў

сябе незразумела дарослым, гэта была адказнасць, уключэнне ў нешта агульнае і надасабістае, ад чаго маладыя часта робяцца старымі, а старыя — маладымі, нешта такое, што моцна ахоплівае, падтрымлівае цябе і разам з тым адбірае свабоду, быццам повязі, якімі прывязваюць маладое дрэўца да тычкі, — нешта, што забірае тваю шчаслівую цнатлівасць і адначасова патрабуе ад цябе большай яснасці і чысціні.

У Манпоры ён наведаў старога Магістра музыкі, які сам у маладыя гады, гасцяваў у Марыяфельсе, вывучаў там музыку бенедыктынаў, цяпер ён пачаў падрабязна распытваць пра многае. Стары настаўнік, на думку Кнэхта, хоць крыху і прыціх і адасобіўся, але, мусіць, паздаравеў і ўзбадзёрыўся ў параўнанні з тым, які ён быў пры іх апошняй сустрэчы, стомленасць знікла з яго твару; на спакоі ён не памаладзеў, але стаў больш прывабны і танчэйшы. Кнэхту кінулася ў вочы, што ён пытаўся пра славуты арган, пра скрынкі з нотамі, пра марыяфельскі хор, нават пра дрэўца ў галерэі, ці стаіць яно яшчэ, аднак да тамтэйшай Кнэхтавай дзейнасці, да курсу Гульні, да мэты яго водпуску ён не выказаў аніякай цікавасці і цікаўнасці. І ўсё ж на развітанне стары даў яму вельмі каштоўную параду.

— Нядаўна я даведаўся, — сказаў ён нібы жартам, — што ты зрабіўся як бы дыпламатам. Шчыра кажучы, прыемным гэта прыпорыска не назавеш, але кажуць, табою задаволеныя. Што ж, справа, зразумела, твая. Але калі ты не думаеш пра тое, каб назаўсёды абраць сабе гэтую дарогу, дык будзь напагатове, Ёзэф, здаецца, цябе хочуць злавіць у пастку. Але ты супраціўляйся, гэта тваё права. Не, не, не распытвай мяне, я не скажу больш ні слова. Сам усё ўбачыш.

Нягледзячы на гэтую перасцярогу, што, як стрэмка, засела ў яго грудзях, Кнэхт, вярнуўшыся ў Вальдцэль, адчуваў такую самую радасць ад сустрэчы з радзімай, як і раней. Яму здавалася, што Вальдцэль — не толькі яго радзіма і самы прыгожы куточак у свеце, але што гэты куточак за час, пакуль яго тут не было, зрабіўся яшчэ больш мілы і прывабны. А можа, ён і сам паглядзеў на яго новымі вачыма і набыў абвостраную здольнасць бачыць? І гэта адносілася не толькі да брамы, вежаў, дрэў і здаўна знаёмых твараў, але і да ўсёй вальдцэльскай духоўнасці, да Ордэна і Гульні ў яго нарадзілася пачуццё павышанай успрымальнасці, пра-

зорлівасці і ўдзячнасці, як гэта бывае ўласціва хадыку, які вярнуўся на радзіму і які ў сваіх вандроўках паразумнеў і пасталеў.

— У мяне такое адчуванне, — сказаў ён свайму сябру Тэгулярыусу ў канцы свайго палкага пахвальнага слова Вальдцэлю і Касталіі, — у мяне такое адчуванне, быццам я ўсе пражытыя тут гады жыў у сне, шчасліва, але не ўсведамляючы гэтага, і быццам я толькі што прачнуўся і бачу ўсё востра, выразна, пераконваюся ў рэальнасці свайго шчасця. Гэта ж трэба так, два гады чужыны могуць так абвастрыць зрок!

Водпуск выліўся для яго ў свята, асабліва гульні і дыскусіі з таварышамі ў коле эліты Vicus lusorum, сустрэча з сябрамі, вальдцэльскі genius loci[1]. Але толькі пасля першага прыёму ў Магістра Гульні гэта высокае наталенне змагло здзейсніцца поўна, а да таго часу да радасці Кнэхта дамешвалася доля боязі. Magister Ludi задаў яму менш пытанняў, чым Кнэхт чакаў; ледзь згадаў пра пачатковы курс Гульні і пра работу Ёзэфа ў музычным архіве, і толькі пра айца Якава, здавалася, мог слухаць бясконца, зноў і зноў распытваючы вельмі падрабязна. Ім і яго місіяй у бенедыктынаў задаволеныя, нават вельмі задаволеныя — Кнэхт вызначыў гэта не толькі па незвычайнай ласкавасці Магістра, але, бадай што, яшчэ больш па сустрэчы з панам Дзюбуа, да якога Магістр паслаў яго адразу пасля прыёму.

— Справу ты сваю зрабіў выдатна, — заявіў той і, усміхнуўшыся, дадаў: — Сапраўды, я не меў тады рацыі, калі раіў не пасылаць цябе ў кляштар. Тым, што ты акрамя абата залучыў на наш бок вялікага айца Якава і схіліў яго змяніць у лепшы бок сваю думку пра Касталію, ты дасягнуў многага, вельмі многага, больш, чым хто-небудзь мог спадзявацца.

Праз два дні Магістр Гульні запрасіў Кнэхта разам з панам Дзюбуа і тагачасным дырэктарам вальдцэльскай элітарнай школы, пераемнікам Цбіндэна, на абед, а ў час гутаркі пасля трапезы неяк непрыкметна з'явіўся і новы Магістр музыкі, потым Архіварыус Ордэна, яшчэ два члены Вярхоўнай калегіі, адзін з якіх пасля таго, як усе разышліся, запрасіў Ёзэфа зайсці ў гасцёвы дом і доўга гутарыў з ім. Менавіта гэта запрашэнне ўпершыню ўвачавідкі ўсім вылучыла Кнэхта ў са-

[1] добры геній (*лац.*).

мае вузкае кола прэтэндэнтаў на вышэйшыя пасады і стварыла паміж ім і сярэднім пластом эліты бар'ер, які ён, Кнэхт, унутрана абуджаны, пачаў вельмі ясна адчуваць. Пакуль што, зрэшты, яму далі чатыры тыдні адпачынку і афіцыйны дазвол спыняцца ва ўсіх гасцініцах Правінцыі — дазвол звычайна выдаецца толькі кастальскім чынам. Хоць ніякіх даручэнняў на яго не ўсклалі, не абавязалі нават адзначацца, ён усё ж заўважыў, што нехта за ім сочаць, бо, калі ён сапраўды зрабіў некалькі паездак і невялікіх падарожжаў, у тым ліку ў Койпергейм, Хірсланд і Усходнеазіяцкі інстытут, яго ўсюды і неадкладна запрашалі да вышэйшага начальства. Ён і на самай справе за гэтыя некалькі тыдняў пазнаёміўся з усімі членамі кіраўніцтва Ордэна, большасцю Магістраў і выкладчыкаў курсаў. Без гэтых даволі афіцыйных прыёмаў і знаёмстваў Кнэхтавыя паездкі азначалі б толькі вяртанне ў свет студэнцкай вольнасці. Але ён абмежаваў сябе, перш за ўсё дзеля Тэгулярыуса, які цяжка перажываў кожную адабраную ў яго гадзіну, а таксама і дзеля Гульні, бо яму было вельмі важна прыняць удзел у самых новых практыкаваннях і пазнаёміцца з новымі праблемамі, у чым Тэгулярыус рабіў яму неацэнныя паслугі. Другі яго блізкі сябар, Фэрамонтэ, належаў цяпер да атачэння новага Магістра музыкі, і з ім Кнэхту за ўсе вакацыі ўдалося пабачыцца ўсяго два разы; ён застаў яго за работай, у рашэнні важнай музыказнаўчай задачы з сфераў грэцкай музыкі і яе новага жыцця ў танцах і песнях балканскіх народаў. Фэрамонтэ ахвотна расказаў сябру пра свае апошнія адкрыцці і знаходкі з эпохі паступовага заняпаду барочнай музыкі, прыкладна з канца васемнаццатага стагоддзя, і да пранікнення новага музычнага матэрыялу з славянскіх народных матываў.

Аднак большую частку святочнага вакацыйнага часу Кнэхт аддаў Вальдцэлю і Гульні; з Фрыцам Тэгулярыусам ён праштудзіраваў яго запісы семінарскіх заняткаў у Магістра на двух апошніх семінарах для асабліва адораных студэнтаў, і зноў, пасля двухгадовага перапынку, ужываўся ў высакародны свет Гульні, чарадзейства якой уяўлялася яму гэтаксама неад'емным ад яго жыцця, як і чарадзейства музыкі.

Толькі ў самыя апошнія дні водпуску Магістр Гульні зноў загаварыў пра місію Ёзэфа ў Марыяфельсе, пра тое, што чакае яго ў недалёкім будучым, пра яго зада-

чы. Спачатку ў тоне нязмушанай гутаркі, потым усё больш сур'ёзна і настойліва расказваў яму Магістр пра план Калегіі, якому большасць Магістраў і пан Дзюбуа надаюць асаблівае значэнне, менавіта: пра заснаванне ў будучым пастаяннага прадстаўніцтва Касталіі пры Апостальскім Прастоле ў Рыме.

— Сёння настаў, — так пачаў Магістр Томас, будуючы адну за другой свае пераканаўчыя і закругленыя фразы, — альбо, у кожным разе, наблізіўся гістарычны момант, калі трэба перакінуць мост праз прорву, якая спрадвеку раздзяляе Рым і Ордэн, бо, няма ніякага сумнення, вораг у іх агульны, ім выпадзе разам сустрэць будучыя небяспекі, лёс у іх непадзельны, яны саюзнікі па прыродзе сваёй, а становішча, якое існавала да гэтага часу, непамыснае, нават нягоднаснае. Дзве сусветныя дзяржавы, гістарычная задача якіх захоўваць і песціць духоўнасць і сусветны парадак, жывуць пакром, амаль адчужана. Рымская царква, насуперак узрушэнням і крызісам апошняга ваеннага перыяду і цяжкім стратам, выстаяла, ачысцілася і абнавілася, тым часам як многія свецкія інстытуты ранейшага часу, якія павінны былі клапаціцца пра развіццё адукацыі і навук, згінулі ў крутаверці крушэння культуры; на іх развалінах узніклі Ордэн і Касталія. Ужо адно гэта, а таксама шаноўны ўзрост Рымскай царквы даюць ёй права на перавагі: яна старэйшая гадамі, больш пашанная, больш выпрабаваная ў бурах сіла. Цяпер перш за ўсё гаворка пра тое, каб у Рыме абудзіць і падтрымаць усведамленне роднаснасці абедзвюх сіл іх узаемазалежнасці ва ўсіх будучых крызісах.

«Вось яно што такое, — падумаў Кнэхт, — яны хочуць мяне паслаць у Рым, магчыма, назаўсёды!» — і, памятаючы перасцярогу старога Магістра музыкі, унутрана падрыхтаваўся да адпору.

Магістр Томас гаварыў далей.

Важным крокам у гэтай ужо даўно жаданай кастальскаму боку хадзе падзей была місія Кнэхта ў Марыяфельсе. Місія гэтая — сама па сабе ўсяго толькі спроба, жэст ветлівасці — без ніякіх падыспадаў была задумана ў адказ на запрашэнне партнёра, у іншым выпадку на яе не выбралі б недасведчанага ў палітыцы адэпта Гульні, а хутчэй скарысталіся б паслугамі каго-небудзь з маладых людзей, падпарадкаваных пану Дзюбуа. Але гэты вопыт, гэта нязначнае даручэнне дало нечаканы

вынік: дзякуючы яму адзін з відных інтэлектуалаў сённяшняга каталіцызму, айцец Якаў, бліжэй пазнаёміўся з самым духам Касталіі і атрымаў пра яго больш спрыяльнае ўяўленне, хоць да гэтага часу ставіўся да Касталіі рэзка адмоўна. Ордэн дзякуе Ёзэфу Кнэхту за ролю, якую ён у гэтым адыграў. Такі, шчыра кажучы, быў сапраўдны сэнс яго місіі, у гэтым яе поспех, выкарыстоўваючы яго, трэба весці далей збліжэнне, у гэтакім самым аспекце трэба разглядаць усю далейшую дзейнасць і місію Кнэхта. Яму дадзены водпуск, які, магчыма, будзе крыху падоўжаны, калі Кнэхт таго захоча, з ім тут даволі падрабязна гутарылі, яго пазнаёмілі з большасцю членаў Калегіі, усе яны выказалі давер Кнэхту, а цяпер даручылі яму, Магістру, зноў адправіць Кнэхта з асобым даручэннем і шырокімі паўнамоцтвамі ў Марыяфельс, дзе, на шчасце, яго чакае гасцінны прыём.

Магістр спыніўся, нібы прапануючы субяседніку задаць пытанне, але той абышоўся ветлівым жэстам прызнання, які павінен быў даць знак, што ён слухае і гатовы выканаць даручанае яму заданне. Магістр сказаў:

— Такім чынам, даручэнне, якое мне трэба табе перадаць, наступнае: мы маем намер рана ці позна заснаваць пастаяннае прадстаўніцтва нашага Ордэна пры Ватыкане па магчымасці на ўзаемных асновах. Як малодшыя, мы гатовы выказаць Рыму хоць і не рабалепныя, але даволі шаноблівыя адносіны, мы ахвотна задаволімся другім месцам і аддадзім яму першае. Магчыма, — мне гэта вядома гэтаксама мала, як і пану Дзюбуа, — папа ўжо цяпер прыме нашу прапанову; чаго нам трэба пазбегнуць любой цаной, дык гэта адмовы. Ну, дык вось, ёсць чалавек, чый голас мае велізарную вагу ў Рыме, і да яго нам нядаўна адкрыўся доступ: гэта айцец Якаў. Такім чынам табе даручаецца, вярнуўшыся ў бенедыктынскі кляштар, жыць там, як ты сам да гэтага часу жыў, і далей аддаючы шмат сваёй увагі даследаванням, курсу Гульні, але ўвесь свой клопат, прычым самым пільным чынам, ты павінен скіраваць на айца Якава, каб залучыць яго на наш бок і заручыцца яго падтрымкай у нашых планах адносна Рыма. Такім чынам, на гэты раз мэта твайго даручэння дакладна акрэсленая. Колькі табе спатрэбіцца часу на дасягненне яе — не важна, мы лічым, што год або два,

а можа, нават і болей. Ты добра ведаеш рытм кляштарнага жыцця, ты навучыўся прыстасоўвацца да яго. Ні ў якім разе нельга ўдаваць, быццам мы прыспешваем, справа гэтая павінна выспеліцца сама, тады толькі і след гаварыць пра яе, праўда ж? Спадзяюся, што ты згодзішся з такой прапановай, і прашу цябе сказаць усе свае сумненні, калі яны ў цябе ёсць. Калі ты хочаш, магу даць табе некалькі дзён на роздум.

Кнэхт сказаў, што адтэрміноўка яму не патрэбная, некаторыя папярэднія гутаркі ўжо падрыхтавалі яго да такой прапановы, і ён гатовы выканаць даверану͡ю яму місію, аднак тут жа дадаў:

— Вам павінна быць вядома, што такога роду даручэнні ўдаюцца лепш за ўсё тады, калі іх выканаўца не вымушаны заглушаць унутранае супраціўленне. Супраць самой місіі [redacted] не маю нічога, я цалкам усведамляю яе важнасць і спадзяюся справіцца. Але пэўная трывога ў мяне ўзнікае ў сувязі з маёй будучыняй. Прашу вас, Magister, выслухаць маё досыць эгаістычнае прызнанне і просьбу. Як вы ведаеце, [redacted] адэпт Гульні і, гасцюючы ў святых айцоў, прапусціў два гады, нічога новага ў Гульні не навучыўшыся і часткова страціўшы сваё ўменне, [redacted] цяпер да гэтых двух гадоў дадасца сама мала яшчэ адзін, а магчыма, два. А мне не хацелася б адставаць. Таму я прашу вас даваць мне кароткатэрміновыя водпускі на паездкі ў Вальдцэль і на ўстанаўленне рэгулярнай радыёсувязі, каб слухаць даклады і заняткі вашага семінара адэптаў Гульні.

— Ахвотна даю сваю згоду, — усклікнуў Магістр, і ў тоне яго адчувалася, што ён лічыць размову скончанай. Але Кнэхт выказаў і другі клопат, менавіта: каб у выпадку, калі даручэнне ў Марыяфельсе будзе выканана, яго не адправілі ў Рым на дыпламатычную службу.

— А такая перспектыва, — закончыў ён, — вельмі прыгнятала б мяне і перашкодзіла б паспяховаму выкананню вашага даручэння. Цягнуць дыпламатычную лямку — не, гэта не па мне.

Магістр ссунуў бровы і асуджальна падняў палец:

— Ты кажаш пра «дыпламатычную лямку» — няўдалыя ты выбраў словы. Далібог, ніхто і не думаў прымушаць цябе цягнуць нейкую «лямку», гаворка ідзе хутчэй пра павышэнне, вылучэнне. Я не ўпаўнаважаны даваць тлумачэнні альбо абяцанні наконт таго, якія

будуць намеры на выкарыстанне цябе ў будучым. Аднак у пэўнай меры я магу зразумець тваю заклапочанасць і спадзяюся, што змагу дапамагчы табе, калі твае трывогі спраўдзяцца. А цяпер паслухай мяне: ты маеш пэўны дар заваёўваць сімпатыі і любоў, незычлівец мог бы назваць цябе charmeur [1]. Магчыма, гэта твой дар і заахвоціў Касталію двойчы пасылаць цябе ў Марыяфельс. Аднак не злоўжывай ім, Ёзэф, не старайся набіваць сабе цану. Калі табе сапраўды ўдасца заваяваць айца Якава, тады і настане зручны момант абвясціць пра тваю просьбу ў Калегіі. Цяпер не час на гэта. Паведамі мне, калі ты выберашся ў дарогу.

Моўчкі прыняў Ёзэф Магістравы словы, больш прыслухоўваючыся да прыхаванай за імі зычлівасці, чым да вымовы, якая ў іх прагучала, і неўзабаве пасля гэтай гутаркі паехаў у Марыяфельс.

Там упэўненасць, якую спараджае ясна пастаўленая задача, выявіла сябе вельмі добра. Да таго ж важная і ганаровая задача гэта ў адных адносінах супала з патаемным жаданнем самога выканаўцы: як мага бліжэй сысціся з айцом Якавам і заваяваць яго дружбу. Тое, што да місіі яго ставяцца сур'ёзна, што і сам ён як бы павышаны ў рангу, даказвалі яму і змененыя адносіны кляштарнага начальства, асабліва абата; адносіны былі вельмі мілыя, як і датуль, і ўсё ж на нейкую ледзь прыкметную долю больш паважлівыя. Цяпер ён ужо быў не проста госцем без тытулу і рангу, якога прывячаюць дзеля месца, адкуль ён прыехаў, і з прыхільнага стаўлення да яго асабіста, цяпер яго прымалі як высокую асобу Касталіі, прыкладна як паўнамоцнага пасла. Кнэхт ужо не быў сляпы на такія рэчы і рабіў свае высновы.

Аднак у манерах айца Якава ён не знайшоў перамены: Ёзэфа глыбока кранулі прыветлівасць і прыязнасць, з якімі сустрэў яго вучоны, без ніякіх напамінаў ён загаварыў пра заняткі. Адпаведна гэтаму расклад дня ў Кнэхта выглядаў крыху інакш, чым раней. Цяпер у яго планах курс Гульні займаў далёка не першае месца, а пра яго заняткі ў музычным Архіве, а таксама пра яго таварыскае супрацоўніцтва з арганістам увогуле больш не заходзілася. Вышэй за ўсё цяпер ставіліся ўрокі айца Якава, прысвечаныя адначасова некалькім

[1] чараўнік (*фр.*).

дысцыплінам гістарычнай навукі, бо патэр уводзіў свайго ўлюбёнца не толькі ў пачатковую гісторыю ордэна бенедыктынаў, але і ў крыніцазнаўства ранняга сярэдневечча, апрача таго, аддаваў не менш як гадзіну чытанню старадаўніх храністаў у арыгінале. Мабыць, яму прыпала да душы Кнэхтава просьба дазволіць юнаму Антону ўдзельнічаць у гэтых супольных занятках, але ён даволі лёгка пераканаў Ёзэфа, што нават самая зычлівая трэцяя асоба абцяжарыць такія прыватныя ўрокі, і Антон, які нічога не падазраваў пра заступніцтва Кнэхта, быў запрошаны толькі на чытанне храністаў, што напоўніла яго шчасцем і ўдзячнасцю. Несумненна, гэтыя заняткі далі маладому послуху, пра далейшы лёс якога нам нічога не вядома, сапраўдную асалоду і былі высокім вырозніваннем і стымулам: два самыя светлыя і арыгінальныя інтэлекты свайго часу зрабілі яму гонар запрасіць на ўдзел у іх працы, прысутнічаць пры іх гутарках. У адказ на ўрокі святога айца Кнэхт, адразу пасля заняткаў крыніцазнаўствам і эпіграфікай, уводзіў яго ў гісторыю і структуру Касталіі і знаёміў з асноўнымі ідэямі Гульні, пры гэтым вучань ператвараўся ў настаўніка, а паважаны педагог ва ўважлівага слухача, чые пытанні і суровая крытыка маглі каго хоч паставіць у тупік. Недавер айца Якава да ўсяго кастальскага ніколі не затухаў. Не бачачы ў аснове кастальскага духу сапраўднай рэлігійнасці, ён наогул сумняваўся ў здольнасці Касталіі стварыць тып чалавека, які можна было б прыняць усур'ёз, хоць у асобе Кнэхта перад ім быў высакародны ўзор менавіта такога выхавання. Пасля таго як дзякуючы іх агульным заняткам з айцом Якавам адбылося нешта падобнае да навароту (калі наогул пра такое можна казаць) і ён даўно ўжо выразна рашыў садзейнічаць збліжэнню Касталіі з Рымам, недавер яго ўсё яшчэ не знік цалкам: Кнэхтавы нататкі, зробленыя адразу пасля гутарак, поўныя дзівосных прыкладаў гэтага. Прывядзём адзін такі:

Айцец Якаў: Вы, кастальцы, вялікія віртуозы ў вучонасці і эстэтыцы, вы вымяраеце важкасць галосных у старадаўнім вершы і суадносіце яе формулу з арбітай якой-небудзь планеты. Гэта цудоўна, але гэта — гульня. Не што іншае, як гульня ёсць і ваша тайна тайнаў, і ваш сімвал — Гульня перлаў. Гатовы прызнаць, што вы спрабуеце ператварыць гэту мілую Гульню ў нешта падобнае на таемнасць і хоць у сродак духоўнага ўзвы-

шэння. Аднак жа таемнасці не ўзнікаюць з такіх намогаў, і Гульня застаецца гульнёй.

Езэф: Вы лічыце, святы айцец, што нам не хапае тэалагічнай асновы?

Айцец Якаў: Ды што там, пра тэалогію мы лепей памаўчым, вы далёкія ад яе. Няблага было б вам закласці падмурак больш просты, антрапалагічны, напрыклад, — жыццёвае ўменне і жыццёвыя веды пра чалавека. Не, не ведаеце вы чалавека, не ведаеце ні ў ягонай жывёльнасці, ні ў ягоным богападабенстве. Вы ведаеце толькі кастальца, адмысловы від, штучна выведзены доследны экземпляр.

Кнэхту гэта быў, зразумела, шчаслівы выпадак: супольныя заняткі давалі яму самыя шырокія магчымасці перацягнуць айца Якава на бок Касталіі і пераканаць яго ў каштоўнасці саюзніцтва. Нават больш, стваралася становішча, якое настолькі адпавядала яго самым запаветным жаданням, што вельмі хутка ў ім загаварыла сумленне. Яму пачало здавацца сорамам, што гэты такі паважаны чалавек сядзіць, даверыўшыся яму, тут побач, прагульваецца па галерэі і не здагадваецца пра тое, што зрабіўся аб'ектам і мэтай тайных палітычных планаў і дзеянняў. Кнэхт ужо не мог больш мірыцца з такім становішчам і толькі пачаў быў прыдумваць форму, у якой ён выкажа сваё прызнанне, як стары, на яго вялікае здзіўленне, сам апярэдзіў яго.

— Дарагі дружа, — сказаў ён аднойчы, нібы знячаўку, — мы проста дзівосным чынам прыдумалі сабе ў найвышэйшай ступені прыемны і, спадзяюся, плённы спосаб зносін. Абодва роды дзейнасці, якія ва ўсім маім жыцці былі ў мяне самымі любімымі — вучыць і вучыцца — выдатна сумяшчаюцца ў нашых агульных занятках, і мне яны прыдаліся вельмі дарэчы, бо я пачынаю старэць і не мог бы прыдумаць сабе больш гойнай тэрапіі, чым нашы заняткі. Дык вось, што да мяне, дык я пры гэтым абмене, ва ўсякім разе, застаюся ў выйгрышы. Але я зусім не ўпэўнены, што і вы, мой дружа, слушней, тыя, хто паслаў вас сюды і на службе ў каго вы стаіце, выдабудуць з усяго, што тут адбываецца, выгоды, якія яны, магчыма, спадзяюцца здабыць. Мне хацелася б папярэдзіць магчымае расчараванне, да таго ж я не хачу, каб паміж намі ўзніклі якія-небудзь няяснасці, а таму дазвольце мне, старому практыку, задаць адно пытанне: як мяне ні радуюць вашы пагасціны ў

нашым мілым кляштары, яны, вядома, не раз здзіўлялі мяне. Да нядаўняга часу, карацей, да вашага водпуску, я лічыў, што мэта і сэнс вашага жыцця тут вам самім па меншай меры не зусім ясныя. Ці правільныя мае назіранні?

Кнэхт пацвердзіў, і айцец Якаў гаварыў далей:

— Выдатна. Але пасля вашага вяртання з водпуску адбыліся перамены. Вас больш не мучаць ні думкі, ні клопаты пра мэту вашага прыезду сюды, вы іх ужо ведаеце. Так гэта? Выдатна. Значыцца, я на правільнай дарозе. Верагодна, і мае здагадкі пра мэту вашага прыезду сюды таксама правільныя. Вы выконваеце дыпламатычнае даручэнне, і датычыцца яно не кляштара і не нашага абата, яно датычыцца мяне... Цяпер вы бачыце, што ад вашай тайны ўжо мала чаго засталося. Каб цалкам прасвятліць сітуацыю, я раю вам паведаміць мне да канца ўсё астатняе. Дык якое ж у вас даручэнне?

Кнэхт падхапіўся, разгублены, амаль у роспачы стаяў ён перад старым. Потым усклікнуў:

— Вы маеце рацыю! Зрэшты, палегчыўшы маё становішча, вы ў той самы час і прысаромілі мяне, запабегшы маім намерам. З нейкага часу я кручу сабе галаву, якім чынам надаць нашым адносінам тую яснасць, якой вы толькі што так проста дасягнулі. На шчасце, мая просьба аб дапамозе і ваша згода ўвесці мяне ў вашу навуку адбыліся да майго водпуску, а то і праўда магло здацца, што гэта толькі дыпламатычныя хітрыкі з майго боку і нашы заняткі — толькі зачэпка.

Стары па-сяброўску супакоіў яго:

— Маёй адзінай мэтай было памагчы нам абодвум выйсці з цяжкага становішча. Чысціня вашых намераў не патрабуе доказаў. Калі я апярэдзіў вас і не зрабіў нічога такога, што не было б пажаданым для вас, дык, значыцца, усё ў парадку.

Пра характар дадзенага Кнэхту даручэння, якое цяпер ужо было выкрыта, айцец Якаў сказаў:

— Вашы кастальскія паны хоць і не занадта геніяльныя, але даволі-такі прыстойныя дыпламаты, і прытым удача на іх баку. Пра ваша даручэнне я павінен без спеху падумаць, і мой выбар будзе часткова залежаць ад таго, у якой меры вам удасца ўвесці мяне ў свет кастальскіх устанаўленняў і ідэй, ды яшчэ і зрабіць іх прымальнымі мне. Спяшацца мы не будзем.

Бачачы, што Кнэхт яшчэ не зусім апамятаўся, ён з рэзкім кпінам дадаў:

— Калі хочаце, можаце ўбачыць у маіх паводзінах і своеасаблівы ўрок. Мы з вамі два дыпламаты, і кожная сустрэча такіх людзей ёсць барацьба, хай сабе і ў якіх хочаце сяброўска-прыязных формах. І ў гэтай нашай барацьбе я часам быў слабейшы, ініцыятыва ўцякала з маіх рук, вы ведалі болей, чым я. Цяпер становішча выраўнялася. Мой шахматны ход быў удалы, а значыцца, правільны.

Калі Кнэхту здавалася важным і каштоўным заваяваць айца Якава для мэт кастальскай Калегіі, дык усё ж істотна важнейшым было магчыма больш навучыцца ў патэра і, са свайго боку, стаць гэтаму вучонаму і ўплывоваму чалавеку ўмелым правадніком у кастальскі свет. Кнэхт быў у многіх адносінах прадметам зайздрасці многім сваім сябрам і вучням, як заўсёды разумныя людзі выклікаюць зайздрасць не толькі сваёй унутранай веліччу, але і сваёй уяўнай удачлівасцю, сваім, на першы погляд, шчаслівым лёсам. Меншы бачыць у большым тое, што ён здольны бачыць, а ўжо Кнэхтава дарога да вяршынь кожнаму назіральніку на самай справе здаецца незвычайна бліскучай, імклівай і як быццам бесперашкоднай; пра той час у яго жыцці так і хочацца сказаць: праўда, шчасце ўсміхалася яму! Не будзем спрабаваць вытлумачыць гэтае «шчасце» ў аспекце рацыі і маралі, як каўзальны вынік вонкавых акалічнасцяў або як нейкую ўзнагароду за адмысловыя дабрачыннасці. Шчасце не мае нічога агульнага ні з розумам, ні з этыкай, яно ў самой сутнасці сваёй — нешта магічнае, яно належыць архаічным, юнацкім ступеням чалавецтва. Наіўны шчаснік, адораны феямі, пястун багоў — не прадмет рацыянальнага разгляду, у тым ліку і біяграфічнага, ён — свайго роду сімвал і знаходзіцца за межамі асабістага і гістарычнага. І ўсё ж сустракаюцца выбітныя людзі, з жыцця якіх ніяк не выкрасліш «шчасця», хай усё яно толькі ў тым, што яны і пасільная ім задача сустракаюцца гістарычна і біяграфічна, што яны нарадзіліся не надта рана і не надта позна; менавіта да такіх, бадай што, і трэба залічыць Ёзэфа Кнэхта. Жыццё яго, ва ўсякім разе, на пэўным адрэзку, робіць уражанне, быццам усё ім жаданае сышло на яго як манна нябесная. Не будзем адмаўляць і замоўчваць гэты аспект, хоць мы маглі б рацыянальна растлума-

чыць яго толькі праз такі біяграфічны метад, які чужы нам і наогул непажаданы і недазволены ў Касталіі, гэта значыцца, дазваляючы сабе бясконцыя экскурсы пра самае-самае асабістае і прыватнае — пра здароўе і немачы, пра хістанні і хвалі ў жыццёвым адчуванні і самаўсталяванні. Мы перакананыя, што такі, непамысны нам від біяграфіі прывёў бы нас да таго, што мы ўгледзелі б поўную раўнавагу паміж шчасцем і пакутамі Ёзэфа Кнэхта і ўсё-такі сказілі б ягоны воблік і ягонае жыццё.

Даволі адхіленняў. Мы гаварылі пра тое, што Кнэхт паслужыўся прадметам зайздрасці многім, хто ведаў яго альбо хто толькі чуў пра яго. Аднак, бадай, нішто ў яго жыцці не выклікала ў людзей меншага маштабу такой зайздрасці, як яго адносіны з старым бенедыктынскім вучоным, дзе ён быў адначасова і вучнем і настаўнікам, дзе ён і браў і даваў, заваёўваў і заваёўваўся, дзе шчасліва спалучаліся дружба і інтымная працоўная садружнасць. Ды і самога Кнэхта ніводнае ягонае заваяванне з часоў Старэйшага Брата ў Бамбукавым гаі не напаўняла большым шчасцем, ніводнае не нараджала такога адчування вылучанасці і, замест сораму, узнагароды і закліку да новых спраў. Бадай, ці не ўсе яго блізкія вучні засведчылі, з якой радасцю, як часта і ахвотна ён расказваў пазней пра айца Якава. У яго Кнэхт навучыўся таму, чаму ў тагачаснай Касталіі наўрад ці мог бы. Ён набыў не толькі пэўнае ўяўленне пра метады і сродкі гістарычнага пазнання і даследавання і першы свой вопыт ва ўжыванні іх, але і намнога большае: ён зразумеў і перажыў гісторыю не як галіну ведаў, а як рэальнасць, як жыццё, што з неабходнасцю пацягнула за сабоюператварэнне і яго асабістага жыцця ў субстанцыю гісторыі. У звычайнага вучонага ён гэтаму не навучыўся б. Айцец Якаў, у дадатак да сваёй саліднай вучонасці, быў не толькі мудры сузіральнік; ён выкарыстоўваў месца, на якое яго паставіў лёс, не на тое, каб цешыцца ўтульнасцю сузіральніцкага існавання, але адчыніў сваю вучоную келлю ўсім вятрам свету і расхінуў сваё сэрца нягодам і спадзяванням сваёй эпохі, ён сам быў удзельнікам падзей свайго часу, ён нёс сваю долю віны і адказнасці за іх; ён не толькі працаваў над аглядам, упарадкаваннем, асэнсаваннем даўно мінулага і меў справу не толькі з ідэямі, але і адольваў наравістае супраціўленне матэрыі і лю-

дзей. Айца Якава разам з яго паплечнікам і супернікам, нядаўна памерлым езуітам, не без прычыны лічылі тымі, хто заклаў асновы дыпламатычнай і маральнай моцы, высокага палітычнага аўтарытэту, якія зноў набыла пасля перыяду бяздзейнасці і вялікай нэндзы Рымская царква.

Калі ў гутарках настаўніка з вучнем мала калі заходзіла гаворка пра палітычную сучаснасць — гэтаму перашкаджалі не толькі ўменне айца Якава маўчаць і стрымлівацца ад заўваг, але не ў меншай меры страх маладзейшага субяседніка ўцягнуцца ў сферу дыпламатыі і палітыкі, — дык усё ж такі палітычная вага і дзейнасць бенедыктынца настолькі адбівалася на ягоных экскурсах у сусветную гісторыю, што кожная яго думка, кожны погляд, які пранізваў перапляценне сусветных сіл, выдаваў практычнага палітыка, аднак не славалюбнага інтрыгана ад палітыкі, не дзяржаўніка і правадыра, гэтаксама і не ўладалюбца, а дарадцу і прыміральніка, дзяржаўнага чалавека, чыя актыўнасць і імкненне наперад змякчаліся мудрасцю і глыбокім пранікненнем у недасканаласць і скамплікаванасць чалавечай прыроды, якому яго вялікая слава, яго вопытнасць, яго веданне людзей і абставін і, не ў апошнюю чаргу, яго бескарыслівасць і асабістая бездакорнасць давалі не абы-якую ўладу. Пра гэта ўсё Кнэхт, прыехаўшы ўпершыню ў Марыяфельс, не меў ніякага ўяўлення, ён не ведаў нават імя святога айца. Большасць кастальцаў жылі ў такой палітычнай нявіннасці і слепаце, як, бадай што, некаторыя прадстаўнікі вучонага саслоўя ранейшых эпох; актыўных палітычных правоў і абавязкаў яны не мелі, газеты рэдка хто чытаў, і калі такая была пазіцыя і такія звычкі ў сярэдняга кастальца, дык яшчэ большы страх перад актуальнасцю, палітыкай, газетай адчувалі адэпты Гульні, якія любілі глядзець на сябе як на сапраўдную эліту, вяршкі Педагагічнай правінцыі, якія вельмі ўжо дбалі пра тое, каб навакольная надта разрэджаная і празрыстая атмасфера інтэлектуальна-артыстычнага існавання нікім не была запаморочана. Бо пры сваім першым з'яўленні ў кляштары Кнэхт не меў дыпламатычнага даручэння, ён прыехаў туды як настаўнік Гульні і не меў іншых палітычных звестак, апрача тых, што паведаміў яму пан Дзюбуа за два-тры тыдні да ад'езду з Вальдцэля. У параўнанні з тым часам ён ведаў цяпер куды больш, аднак ні ў якай меры

не змяніў непрыязнасці вальдцэльца да заняткаў палітыкай. І хоць у гэтых адносінах ён шмат чаго пачэрпнуў з таварышавання з айцом Якавам, але не таму, што адчуваў якую-небудзь патрэбу (як гэта было з гісторыяй, да якой ён быў проста прагны), не, гэта здарылася само па сабе, непрыкметна і непазбежна.

Каб папоўніць свой арсенал і паспяхова рашыць пачэсную задачу, чытаючы святому айцу лекцыі de rebus Castaliensibus [1], Кнэхт прыхапіў з Вальдцэля кнігі пра лад і гісторыю Педагагічнай правінцыі, пра сістэму школ эліты і пра станаўленне Гульні шкляных перлаў. Некаторыя з гэтых кніг добра паслужыліся яму дваццаць гадоў таму назад у спрэчках з Плініё Дэсіньёры (з таго часу ён іх у рукі не браў); іншыя, у той час яму недаступныя, бо былі прызначаныя афіцыйным асобам Касталіі, ён і сам прачытаў толькі цяпер. Вось і выйшла, што ў той самы час, як абсяг ведаў і інтарэсаў яго так пашырыўся, ён быў вымушаны перагледзець і свой духоўны і гістарычны багаж, бо меў патрэбу ва ўсведамленні і ўмацаванні яго. Стараючыся як мага ясней і прасцей падаць айцу Якаву самую сутнасць Ордэна і ўсёй кастальскай сістэмы, ён, як гэтага і трэба было чакаць, неўзабаве выявіў слабы бок сваёй уласнай, а таму і ўсёй кастальскай адукацыі; высветлілася, што ўяўленне пра гістарычнае становішча, якое ў свой час стварыла падставы для ўзнікнення Ордэна і ўсяго, што за гэтым настала, нават больш, якое зрабіла гэтае ўзнікненне неабходным, было даволі бледным і схематычным і пакідала шмат прарэх і прагалаў у сэнсе нагляднасці і стройнасці. Айца Якава можна было назваць кім хочаце, толькі не пасіўным вучнем, што і прывяло да даволі плённых калегіяльных заняткаў, да жывой гутарковасці: у той час як Ёзэф выкладаў святому айцу гісторыю кастальскага Ордэна, стары вучоны ў пэўным сэнсе дапамагаў яму самому ўпершыню ўбачыць і перажыць гэту гісторыю ў правільным асвятленні, прасочваючы яе карані ў агульнай гісторыі свету і дзяржаў. Ніжэй мы пераканаемся ў тым, як гэты інтэнсіўны, а часам дзякуючы тэмпераменту святога айца абернуты ў бурлівыя спрэчкі абмен думкамі рабіў уплыў на Кнэхта і праз многа гадоў, аж да яго апошніх дзён.

---

[1] пра справы кастальскія *(лац.)*.

З другога боку, далейшыя паводзіны айца Якава сведчаць пра тое, як уважліва ён слухаў Кнэхтавы лекцыі і ў якой меры ён сам, у выніку гэтых супольных заняткаў, пазнаваў, а потым і прызнаў Касталію. Гэтым двум людзям мы абавязаныя згодай паміж Рымам і Касталіяй, якая захавалася да сённяшняга дня, яна пачалася з дабрамыснага нейтралітэту і абмену ад выпадку да выпадку вынікамі навуковых даследаванняў, а часам даходзіла да супрацоўніцтва і саюзу. Урэшце айцец Якаў пажадаў — а спачатку ж ён з усмешкай адмовіўся быў ад гэтага, — каб яго пазнаёмілі з тэорыяй Гульні; мабыць, ён адчуў, што менавіта ў гульні схавана таямніца Ордэна, так сказаць, вера яго і рэлігія, і калі ўжо ён наважыўся пранікнуць у гэты, датуль толькі па чутках знаёмы яму і мала прывабны свет, ён з усёй уласцівай яму энергіяй і хітрасцю рушыў у самы яго цэнтр, і калі так і не зрабіўся майстрам Гульні — на гэта ён быў занадта стары, — дык геній Гульні і Ордэна наўрад ці набываў дзе-небудзь па-за Касталіяй больш сур'ёзнага і каштоўнага сябра, чым вялікі бенедыктынец.

Час ад часу, калі Кнэхт развітваўся з Якавам пасля чарговых заняткаў, той даваў яму зразумець, што ўвечары будзе дзеля яго дома, напружанне заняткаў і запал дыспутаў змяніліся спакойным музыкаваннем, для якога Ёзэф звычайна прыносіў квалікорды або скрыпку, пасля чаго стары садзіўся за раяль у мяккім ззянні свечкі, саладжавы пах якой напаўняў маленькую келлю разам з музыкай Карэлі, Скарлаці, Тэлемана альбо Баха, якіх яны гралі разам альбо па чарзе. Стары рана клаўся спаць, тым часам як Ёзэф, асвежаны гэтай маленькай музычнай малітвай, працаваў потым да глыбокай ночы, наколькі гэта дапускалася кляштарным распарадкам.

Апрача настаўніцтва і выкладання ў айца Якава, не надта строга пастаўленага курса Гульні і час ад часу кітайскага калёквіуму з абатам Гервасіем, Кнэхт бываў заняты яшчэ адной толькі грунтоўнай працай: прапусціўшы два гады, ён цяпер прымаў удзел у штогадовых спаборніцтвах вальдцэльскай эліты. На зададзеныя трычатыры галоўныя тэмы трэба было распрацаваць праекты Гульні, прычым асаблівая ўвага аддавалася новым дзёрзкім і арыгінальным камбінацыям тэмаў (пры ўмове найвялікшай фармальнай дакладнасці і карэктнасці),

і ў гэтым адзіным выпадку спаборнікам дазвалялася выходзіць за межы канонаў, інакш кажучы, карыстацца новымі, яшчэ не ўнесенымі ў афіцыйны кодэкс і алфавіт Гульні шыфрамі. Дзякуючы гэтаму такія спаборніцтвы, разам з штогадовай публічнай Гульнёй, ператвараліся ў самую хвалюючую падзею Vicus Lusorum — спаборніцтва кандыдатаў, якія мелі найбольшыя шанцы ўвесці новыя знакі Гульні, а найвышэйшая адзнака, надзвычай рэдкая, між іншым, была не толькі ў тым, што партыя пераможцы разыгрывалася публічна; прапанаваныя ім дапаўненні да граматыкі і моўнага багацця прызнаваліся афіцыйна, а потым уключаліся ў Архіў і мову Гульні. Калісьці, прыкладна гадоў дваццаць пяць таму назад, гэтага рэдкага гонару ўдастоіўся вялікі Томас фон дэр Травэ, цяперашні Vicus lusorum, за яго новыя абрэвіятуры алхімічных значэнняў знакаў Задыяка, ды і наогул пазней Магістр Томас шмат зрабіў для пазнання і засваення алхіміі як даволі павучальнай капатайнай мовы. Гэтым разам Кнэхт адмовіўся карыстацца новымі гульнёвымі значэннямі, якіх у яго, як і ў кожнага кандыдата, меўся пэўны запас, не скарыстаўся ён і нагодаю выказаць сваю прыхільнасць да псіхалагічнага метаду Гульні, чаго, шчыра кажучы, можна было ад яго чакаць. Ён пабудаваў партыю хоць і даволі сучасную і своеасаблівую па сваёй структуры і тэматыцы, аднак перш за ўсё дзівосную сваёй празрыстай і яснай класічнай кампазіцыяй і строга сіметрычным, скупым на арнаментоўку, старамодна-вытанчаным выкананнем. Магчыма, спрычыніла гэта ягоная аддаленасць ад Вальдцэля і Архіва Гульні, але, магчыма, і занятасць гістарычнымі штудыямі, а магчыма, ён свядома ці несвядома кіраваўся жаданнем так стылізаваць сваю партыю, каб гэта найбольш адпавядала густу яго настаўніка і сябра, айца Якава. Мы гэтага не ведаем.

Вышэй мы ўжылі выраз «псіхалагічны метад Гульні», які, можа стацца, не будзе зразумелы ўсімі чытачамі, аднак у часы Кнэхта гэта былі ўжытковыя слоўцы. Мабыць, ва ўсе перыяды сярод пасвечаных у Гульню існавалі розныя плыні, моды, ішла барацьба паміж рознымі поглядамі і тлумачэннямі, а ў тую эпоху можна выдзеліць два асноўныя погляды на Гульню, вакол якіх і разгараліся асноўныя спрэчкі і дыскусіі. Тады адрознівалі два тыпы Гульні — фармальны і псіхалагічны, і нам вядома, што Кнэхт, як і Тэгулярыус, пазбягаў

спрачацца за словы і належаў, аднак, да прыхільнікаў і аматараў другога, толькі Кнэхт больш гаварыў не пра «псіхалагічны», а пра «педагагічны» тып Гульні. Фармалісты ад Гульні ўсё сваё дбанне прыкладалі да таго, каб з прадметных тэм кожнай партыі, матэматычных, моўных, музычных і г. д., стварыць наколькі магчыма шчыльную, закругленую, фармальна дасканалую цэльнасць і гармонію. Наадварот, псіхалагічная школа дамагалася адзінства і гармоніі, касмічнай закончанасці і дасканаласці не так праз выбар, сістэматызацыю, перапляценне, спалучэнне і супрацьпастаўленне тэм, як праз паслядоўную за кожным этапам гульні медытацыю, на якую тут пераносіліся галоўныя акцэнты. Такая псіхалагічная, ці, як любіў казаць Кнэхт, педагагічная Гульня не стварала вонкавага ўражання дасканаласці, але скіроўвала гульца праз шэраг дакладна прадпісаных медытацый да адчування дасканальства і боскасці.

«Гульня, якою я яе бачу, — пісаў аднаго разу Кнэхт старому Магістру музыкі, — замыкае ў сабе гульца пасля завершанай медытацыі, як паверхня сферы сваю сарцавіну, і пад канец прымушае яго адчуць, што нейкі беззаганна зладжаны і гарманічны свет прыняў яго ў сябе і выдаліў з свету выпадковага і заблытанага».

Але тая партыя, якую Кнэхт падаў на суд, па структуры сваёй была фармальная, не псіхалагічная. Магчыма, ён тым самым хацеў даказаць кіраўніцтву, ды і сабе самому, што, заняты сваёй дыпламатычнай місіяй у Марыяфельсе, ён зусім не страціў вастрыні, пругкасці, зграбнасці, віртуознасці гульнёвых манер, і, трэба прызнаць, ён даказаў гэта. Апошнюю шліфоўку і чысты запіс свайго праекта Гульні, які можна было зрабіць толькі ў старым Вальдцэлі, у Архіве, ён даручыў свайму сябру Тэгулярыусу, дарэчы, таксама ўдзельніку спаборніцтва. Ёзэф сам перадаў усе матэрыялы сябру, абмеркаваў з ім праект, паглядзеў ён і праект Тэгулярыуса — яму ўдалося залучыць Фрыца на тры дні ў кляштар, на гэты раз Магістр Томас выканаў гэтую просьбу Кнэхта, якую той паўтарыў двойчы. Але як ні радаваўся Тэгулярыус сустрэчы, як ні спадзяваўся спатоліць сваю цікаўнасць, ён, жыхар астраўной Касталіі, адчуваў сябе ў кляштары вельмі няўтульна; апрача таго, гэты нервовы чалавек ледзь не захварэў ад лішку нязвыклых уражанняў, калі апынуўся сярод людзей гасцінных, але

простых, здаровых і крыху грубаватых, ніводнаму з якіх думкі, клопаты, праблемы, што дапякалі Тэгулярыусу, зусім нічога не значылі.

— Ты жывеш на чужой планеце, — сказаў ён сябру, — і я магу толькі здзіўляцца з цябе, бо ты вытрымаў тут тры гады. Твае patres даволі ветлівыя са мной, але ўсё мяне тут цурае, нішто мяне не прымае, нішто не даецца само, нішто не ладзіцца без мук і супрацiўлення; пражыць тут два тыдні — гэта пекла.

Кнэхту нялёгка было з ім, ён упершыню непрыязна, як бы збоку, назіраў гэтую адчужанасць двух Ордэнаў, двух светаў і разумеў, што яго звышпачуццёвы сябар сваёй нясмелай бездапаможнасцю робіць тут благое ўражанне. Але абодва свае праекты Гульні ім удалося падрабязна абмеркаваць; яны зрабілі адзін аднаму шмат крытычных заўваг, і, калі пасля такой работы ішлі ў другі флігель да айца Якава або ў трапезню, Кнэхту здавалася, быццам ён з роднай краіны раптам пераносіўся ў іншыя краі, дзе зямля і паветра, клімат і зоркі — усё было зусім інакшае.

Калі Фрыц паехаў, Ёзэф выклікаў айца Якава на шчырую размову пра яго.

— Спадзяюся, — адказаў манах, — што большасць кастальцаў падобныя на вас, а не на вашага сябра. У яго асобе, каб вы ведалі, вы паказалі нам варожую, крыху звыродненую, слабую і, як я баюся, фанабэрыстую пароду людзей. Дазвольце мне і далей мець справу з вамі, інакш я стаў бы несправядлівы да кастальцаў. Праз гэтага няшчаснага, датклівага, звышразумнага, стурзанага чалавека мне можа абрыдзець уся ваша Правінцыя.

— Што ж, — сказаў Кнэхт, — за доўгія стагоддзі, відаць, і сярод бенедыктынаў сустракаліся хваравітыя, фізічна слабыя, але затое духоўна паўнацэнныя людзі, як мой сябар. Мусіць, я зрабіў неразумна, што запрасіў яго сюды, дзе за ўсімі яго недахопамі цікуюць вельмі пільна, і дадатнага не бачыць ніхто. Мне ён сваім прыездам зрабіў вялікую сяброўскую паслугу. — І ён расказаў айцу Якаву пра сваё рашэнне ўдзельнічаць у спаборніцтвах. Патэру было прыемна, што Кнэхт заступаецца за сябра.

— Ваша ўзяла! — усклікнуў ён і засмяяўся. — Але мне здаецца, што вы падбіраеце сабе сяброў, з якімі не вельмі лёгка кампаніцца. — Хвіліну ён цешыўся з Кнэх-

тавай разгубленасці, а потым, як нішто ніякае, заявіў: — На гэты раз я маю на ўвазе другога. Вы нічога новага не чулі пра свайго сябра Пілініё Дэсіньёры?

Кнэхт не ведаў, як і здзіўляцца; ашаломлены, ён папрасіў тлумачэння. А было ўсё так: у адным сваім палітычным артыкуле Дэсіньёры выказаў рэзка антыклерыкальныя погляды і пры гэтым даволі энергічна нападаў і на айца Якава. Святы айцец папрасіў у сваіх сяброў у каталіцкім друку звестак пра Дэсіньёры, з якіх даведаўся пра яго вучнёўскія гады, праведзеныя ў Касталіі, і пра ўсім вядомыя адносіны, якія звязвалі вольнага слухача з Кнэхтам. Ёзэф адразу і выпрасіў артыкул Плініё, каб прачытаць, пасля чаго і адбылася яго першая гутарка з айцом Якавам на актуальную палітычную тэму, якіх увогуле ў іх было мала. Кнэхт пісаў пра гэта Фэрамонтэ: «Дзіўна і амаль страшна было гэта мне: раптам убачыць на памостках сусветнай палітыкі фігуру нашага Плініё і ў якасці нейкага дадатка да яго сваю. Аспект, пра магчымасць якога я да гэтага часу і не думаў». Зрэшты, айцец Якаў пахваліў палемічны артыкул Дэсіньёры, прынамсі, ён не быў раздражнёны, пахваліў стыль і сказаў, што даволі лёгка пазнаць у ім уплыў кастальскай школы; звычайна ў перыядычным друку даводзіцца задавальняцца больш сціплым духоўным узроўнем.

Прыкладна ў гэты самы час сябар Фэрамонтэ выслаў Кнэхту копію першай часткі сваёй шырока вядомай працы «Выкарыстанне і перапрацоўка славянскай народнай музыкі ў творчасці нямецкіх кампазітараў, пачынаючы ад Ёзэфа Гайдна». У Кнэхтавым пасланні, між іншым, гаворыцца: «З тваіх заняткаў, у якіх нейкі час мне было дазволена быць тваім паплечнікам, ты зрабіў добрую выснову: абодва раздзелы пра Шуберта, асабліва той, дзе ты пішаш пра квартэты, бадай, самае салідкае з усяго, што я ведаю, у сучаснай музыказнаўчай літаратуры. Прашу цябе часам успамінаць пра мяне, мой ураджай намнога бяднейшы за твой. Як бы я ні быў рады свайму тутэйшаму жыццю — мая місія ў Марыяфельсе, здаецца, выконваецца з поспехам, — я ўсё-такі час ад часу адчуваю прыгнечанасць: надта ж бо зацягнулася адарванасць ад нашай Правінцыі, вальдцэльскага кола, да якога я належу. Навучыўся я тут шмат чаго, вельмі многа, але ад гэтага расце не мая ўпэўненасць і прафесійная прыдатнасць, а мая паняверка.

Праўда, пашыраюцца і мае даляглядь. Што да маёй няўпэўненасці, пачуцця адчужанасці, недахопу радасці, даверу да сябе і іншых прарокаў, ад якіх я пакутаваў асабліва два першыя гады тут, — дык цяпер я паспакайнеў. Нядаўна заязджаў да Тэгулярыуса, але як ён ні радаваўся сустрэчы за мною, як ні карцела яму пабыць у Марыяфельсе, ён ужо на другі дзень быў гатовы ўцякаць заплюшчыўшы вочы, так пакутліва заваладала ім тут прыгнечанасць і адчуванне чужыны. Але паколькі кляштар усё-такі дастаткова адгароджаны, адасоблены і ўтульны свет, прывязаны да духоўнасці, зусім не турма, не казарма або фабрыка, я выводжу з гэтага выснову, што ўсе мы ў нашай мілай Правінцыі куды больш спешчаныя і чуллівыя, чым самі пра гэта падазраем».

Якраз каля таго часу, калі было адпраўлена гэтае пісьмо да Карла, Кнэхт дабіўся ад айца Якава, каб той у кароткім пасланні да кастальскага Ордэна адказаў станоўча на вядомае пытанне; ад сябе ж стары вучоны прыпісаў просьбу, каб «любімага тут майстра Гульні шкляных перлаў Ёзэфа Кнэхта», які ўдастоіў яго privatissimum de rebus Castaliesibus[1], пакінулі яшчэ на нейкі час у Марыяфельсе.

Зразумела, у Вальдцэлі палічылі за гонар задаволіць гэту яго просьбу. Кнэхт, які яшчэ нядаўна наракаў, што ён такі далёкі ад «збору ўраджаю», атрымаў прадпісанае кіраўніцтвам Ордэна і панам Дзюбуа пісьмо са словамі ўдзячнасці за выкананне даручэння. Самая важная ў гэтым вельмі афіцыйным пасланні і найбольш радасная для яго (ён пераможна паведаміў пра гэта Фрыцу) была кароткая фраза наступнага зместу: «Магістр Гульні давёў да ведама Ордэна пра жаданне адрасата вярнуцца ў Vicus lusorum, і Ордэн згадзіўся, пасля выканання даручэння, задаволіць хадайніцтва». Гэта месца Ёзэф прачытаў нават айцу Якаву, прызнаўшыся, што яно радуе яго і як ён баяўся, што яго назаўсёды пазбавяць магчымасці жыць у Касталіі і адправяць у Рым. Pater з смехам адказаў:

— Вось бо, такая ўжо ўласцівасць ордэнскіх арганізацый, мой дружа, ахвотней жывеш ва ўлонні іх, чым на перыферыі або — не дай бог — у выгнанні. Раю вам

[1] спецыяльныя заняткі для прысвячэння ў кастальскія справы (*лац.*).

хутчэй забыць усё тое нямногае, што вы зведалі пра палітыку, у чыёй небяспечнай блізкасці вы тут апынуліся, на яе ў вас няма ніякіх задаткаў. Аднак жа гісторыі не здраджвайце, хоць бы яна і заставалася для вас пабочным і аматарскім заняткам. Для гісторыка, трэба прызнацца, у вас ёсць усё. А цяпер давайце, пакуль вы яшчэ ў мяне, павучымся адзін у аднаго.

Дазволам часцей бываць у Вальдцэлі Кнэхт, відаць, так і не скарыстаўся; але ён слухаў па радыё заняткі семінара і некаторыя даклады, а таксама перадачу цэлых партый Гульні. Седзячы ў старадаўняй кляштарнай гасцёўні, ён нібы прысутнічаў ва ўрачыстай зале Vicus lusorum, прымаў удзел у свяце, калі там аб'яўлялі вынікі спаборніцтва. Ён паслаў у Вальдцэль не надта своеасаблівую і не пераваротніцкую, але дастаткова салідную і выштукаваную партыю, якой ён сам ведаў цану, а таму чакаў пахвальнага ўпамінання або трэцяй, магчыма, нават другой прэміі. На сваё здзіўленне, ён пачуў, што яму прысудзілі першую, і яшчэ не паспеў парадавацца, як вяшчальнік Магістра Гульні сваім прыгожым нізкім голасам назваў і другога прызёра — Тэгулярыуса. Вось ужо і праўда было чым захапляцца: абодва яны поруч выйшлі пераможцамі з гэтага спаборніцтва. Не слухаючы далей, ён ускочыў і пабег уніз па лесвіцы і праз гулкі калідор — на волю. У пісьме да старога Магістра музыкі, напісаным у тыя дні, мы чытаем: «Я вельмі шчаслівы, Вялебны, як ты, мусіць, і сам сабе ўяўляеш. Спачатку поспех маёй місіі і ганаровае прызнанне яго кіраўніцтвам Ордэна, разам з такой важнай для мяне перспектывай хуткага вяртання дамоў, да сяброў, да Гульні, замест далейшага выкарыстання на дыпламатычнай службе, — а потым і першае месца, і прэмія ў спаборніцтвах за прэмію, да якое я з фармальнага боку прыклаў немалыя намаганні; але яна па даволі грунтоўных прычынах зусім не вычэрпвае ўсяго, што я мог бы зрабіць. І яшчэ да таго, радасць падзяліць гэты поспех з сябрам — сапраўды, ці не занадта на адзін раз. Я шчаслівы, так, але не стаў бы бажыцца, што мне лёгка. За такі кароткі час або за час, які здаўся мне кароткім, усё гэта звалілася на мяне надта раптоўна і не ў меру шчодра; да пачуцця ўдзячнасці дамешваецца нейкі страх, быццам дастаткова дадаць усяго адну кроплю ў напоўненую да берагоў пасудзіну, і ўсё зноў будзе пастаўлена пад сумненне. Але прашу

цябе, глядзі на гэта так, як калі б я гэтага не казаў, тут кожнае слова лішняе».

Нам яшчэ давядзецца ўбачыць, што гэтай напоўненай да берагоў пасудзіне неўзабаве наканавана ўвабраць куды больш чым адну кроплю. Аднак да гэтага Ёзэф аддаўся свайму шчасцю і дамяшанаму да шчасця страху так поўна і безумоўна, як калі б ужо загадзя ўгадваў вялікія перамены. Для айца Якава гэтыя некалькі месяцаў таксама выдаліся шчаслівымі і праляцелі вельмі хутка. Яму шкада было траціць такога калегу і вучня, і ён спрабаваў пад час саміх урокаў і яшчэ больш — у свабодных гутарках перадаць яму як мага больш з таго пранікнення ў вышыні і бездані чалавечага быцця і гісторыі народаў, якое давялося яму набыць за сваё жыццё працаўніка і мысліцеля. Часам ён заводзіў гаворку пра мэту і вынікі місіі Кнэхта, пра магчымасць і каштоўнасць дружбы і палітычнай згоды паміж Рымам і Касталіяй, рэкамендаваў Ёзэфу вывучыць тую эпоху, вынікамі якой стала заснаванне кастальскага Ордэна, а таксама паступовае адраджэнне і новы ўздым Рыма пасля перыяду прыніжальных выпрабаванняў. Ён параіў яму пазнаёміцца з двума творамі пра Рэфармацыю і царкоўную схізму ў шаснаццатым стагоддзі, горача раіў заўсёды аддаваць перавагу непасрэднаму аналізу крыніц і ўсякае абмежаванне канкрэтнымі тэмамі чытанню разбухлых сусветна-гістарычных прац, прычым не ўтойваў свайго глыбокага недаверу да любога роду філасофіі гісторыі.

## MAGISTER LUDI

Свой канчатковы ад'езд у Вальдцэль Кнэхт вырашыў перанесці на вясну, калі звычайна адбывалася вялікая публічная Гульня — Ludus anniversarius або sollemnis[1]. Хоць эпоха росквіту гэтых Гульняў даўно ўжо прайшла, адышла назаўсёды ў мінулае, — час, калі штогадовая Гульня цягнулася некалькі тыдняў, калі з усіх канцоў свету на яе з'язджаліся высокапастаўленыя і прадстаўнічыя асобы, — усё ж вясновыя соймы з іх урачыстай Гульнёй, якая трывала ад дзесяці да чатырнаццаці дзён, былі для кастальцаў вялікай святочнай падзеяй года,

[1] Штогадовая, альбо ўрачыстая гульня (лац.).

святам не без высокага рэлігійнага і этычнага значэння, бо гэта паядноўвала прадстаўнікоў усіх, зусім не заўсёды аднадушных кірункаў і тэндэнцый Касталіі, як бы наладжваючы мір паміж сябелюбствам асобных дысцыплін і абуджаючы ўспаміны пра адзінства, якое ўзвышаецца над множнасцю. Для веруючых свята мела таямнічую сілу сапраўднага прысвячэння, для няверуючых было, прынамсі, заменай рэлігійнага абраду, а тым і другім — абмываннем у самых чыстых крыніцах хараства. Так калісьці «Пакуты» Егана Себасцьяна Баха (не так у час іх стварэння, як у тое стагоддзе, якое прыйшло за іх вяртаннем свету) былі ўдзельнікам і слухачам часткова сапраўдным рэлігійным дзействам і таемнасцю, часткова трапятлівым сузіраннем і заменай веры, усім разам — урачыстай маніфестацыяй мастацтва і creator spiritus[1].

Кнэхту не цяжка было атрымаць ухваленне свайго плана як у кляштарных інстанцый, так і ў сваёй Калегіі. Ён яшчэ не мог рэальна ўявіць сабе, якім будзе яго становішча пасля прыезду ў маленькую рэспубліку Vicus lusorum, аднак ён лічыў, што вельмі хутка на яго ўскладуць ганаровы абавязак якой-небудзь пасады або даручэння. Пакуль жа ён радаваўся вяртанню, сустрэчы з сябрамі, блізкаму святу, радаваў сябе апошнімі заняткамі з айцом Якавам, з годнасцю і не без прыемнасці прымаў усялякія знакі прыхільнасці, якімі абат і капітул палічылі магчымым і патрэбным асыпаць яго на провадах. Потым ён вырушыў у дарогу, не без шчымлівага пачуцця расстання з ужо любым месцам і з пройдзеным адрэзкам жыцця, аднак у выніку сузіральніцкіх практыкаванняў да падрыхтоўкі да штогадовай Гульні (ён іх правёў без кіраўніка і без таварышаў, але строга трымаючыся прадпісанняў), у яго паявіўся і святочны настрой. Ён не пагоршаў, калі яму не ўдалося ўгаварыць айца Якава прыняць запрашэнне Магістра Гульні і паехаць разам з ім на свята: Кнэхту была зразумелая стрыманасць старога антыкастальца, сам жа ён на нейкі час адчуў сябе вызваленым ад усіх гнятлівых абавязкаў і загадзя аддаўся ўцехам чаканых урачыстасцей.

Святы маюць свае законы. Цалкам праваліцца сапраўднае свята ніколі не можа, нават пры неспры-

---

[1] творчы дух (*лац.*).

яльным умяшанні вышэйшай сілы; цвёрдаму ў веры шэсце з крыжам і пад ліўнем мае сваю ўрачыстасць, яго не збянтэжыць і прыгарэлы святочны пачастунак, а таму адэпту Гульні кожны гадавы Ludus ёсць свята і ў пэўным родзе свяшчэннадзейства. Тым не меней, як мы ўсе добра ведаем, бываюць святы і Гульні, калі ўсё асабліва добра ладзіцца, адно акрыляе і ўзвышае другое, гэта здараецца і з музычнымі, і з тэатральнымі прадстаўленнямі, якія без больш-менш яўных прычын, быццам пад чарамі, дасягаюць незвычайных вышыняў, пакідаючы ў душы ўдзельнікаў глыбокі след, тым часам як другія, зусім не горш падрыхтаваныя, застаюцца не больш як сумленнай працай. Паколькі нараджэнне такога ўзнёслага пачуцця належыць у пэўнай меры ад душэўнага стану ўдзельніка, трэба прызнаць, што Кнэхт быў найлепшым чынам падрыхтаваны: ніякія клопаты не ўнуралі яго, ён з гонарам вяртаўся з чужыны і жыў у радасным чаканні будучыні.

Аднак гэтым разам Ludus sollemnis не было наканавана стаць восеньскім дзівам, асабліва асвячоным і зіхоткім святам. Штогадовая Гульня была на гэты раз бязрадаснай, надзіва нешчаслівай, каб крыху, дык і зусім прапашчай. Хоць многія прысутныя адчулі ўзвышаныя пачуцці і багавейнасць, але, як і заўсёды ў такіх выпадках, тыя, што ладзілі свята і адказвалі за яго, асабліва востра адчулі загушчаную над усім святам груздую атмасферу няўдачы, няспынных перашкод і проста нешанцавання. Але Кнэхт не быў сярод тых, хто асабліва хваравіта перажываў, хоць, зразумела, і ён адчуў пэўнае расчараванне ў сваіх узнёслых спадзяваннях; тым не меней яму, хто не быў непасрэдным удзельнікам і не нёс ніякай адказнасці, удалося ў тыя дні, нягледзячы на тое, што ўрачыстасць не была пазначана мілатою сапраўднай святасці, прасачыць багавейна за ўсёй дасціпна пабудаванай Гульнёй і без перашкоды даць адгучаць у сабе медытацыі, адчуць ва ўдзячным парыванні знаёмую ўсім гасцям гэтых Гульняў атмасферу свята і ахвярнасці, містычнага зліцця ўсёй абшчыны слухачоў каля ног божышча, што ўрачыстая Гульня здольная даць нават тады, калі яна для вузкага кола арганізатараў «правалілася». Але і ён не застаўся неадчувальны да фатальнага прадвызначэння, якое навісла над гэтым святкаваннем. Сама Гульня, яе план і структура былі бездакорныя, як і ўсе гульні Магістра Тома-

са, нават больш, гэтая Гульня была ці не самая ўражлівая, самая наіўная і непасрэдная. Але выкананне яе гнала злая доля, і ў Вальдцэлі да гэтага часу пра яе не забыліся.

Калі Кнэхт за тыдзень да пачатку свята прыехаў у Вальдцэль зарэгістравацца ў канцылярыі Селішча Гульні, яго прыняў не Магістр, а ягоны намеснік Бэртрам, які хоць і вельмі ласкава прывітаў яго, аднак даволі суха і крыху рассеяна паведаміў, што шаноўны Магістр днямі захварэў, а ён, Бэртрам, недастаткова інфармаваны пра Кнэхтаву місію. А таму ён не можа прыняць у яго справаздачу, а просіць Кнэхта выправіцца ў Хірсланд, далажыць пра сябе кіраўніцтву Ордэна, там жа афіцыйна адзначыць сваё вяртанне і чакаць далейшых пастаноў. Ці то голасам, ці то нейкім рухам Кнэхт выдаў сваё здзіўленне з прычыны халоднага і занадта кароткага прыёму, і Бэртрам паспяшаўся перапрасіцца. Хай даруе яму калега, калі ён яго расчараваў, але хай ён зразумее незвычайнасць гэтай сітуацыі: Магістр прыкаваны да ложка хваробай — і гэта напярэдадні штогадовай Гульні, і ніхто не можа сказаць, ці здолее Магістр ёю кіраваць, ці гэта давядзецца рабіць яму, яго намесніку. Хвароба Вялебнага не магла нахапіцца ў больш неспрыяльны і далікатны момант. Ён, зразумела, заўсёды гатовы выконваць афіцыйныя абавязкі Магістра, але ў такі кароткі тэрмін як след падрыхтавацца да вялікай Гульні і ўзяць на сябе кіраўніцтва ёю — гэта, як ён баіцца, будзе яму не па сіле.

Кнэхту было шкада гэтага прыгнечанага нечаканым паваротам справы і крыху знеўраўнаважанага чалавека; не менш ён шкадаваў, што ад яго будзе залежаць увесь поспех урачыстасці. Надта ж бо доўга Кнэхт пражыў па-за Касталіяй і таму не мог ведаць, наколькі абгрунтаваныя Бэртрамавы страхі, бо той — і гэта самае паскуднае, што можа здарыцца з намеснікам, — з пэўнага часу страціў давер эліты, так званых рэпетытараў, і становішча яго сапраўды можна было назваць нялёгкім. З журбою на душы думаў Кнэхт пра вярхоўнага майстра Гульні, які бездакорна валодаў класічнай формай і іроніяй, пра гэтага дасканалага Магістра і рыцара; Ёзэф так радаваўся скорай сустрэчы з ім, так спадзяваўся, што той выслухае яго і зноў увядзе ў маленькую абшчыну адэптаў Гульні, магчыма, нават у якой-небудзь больш-менш адказнай пасадзе. Прысутні-

чаць пры тым, як Магістр Томас велічна дырыжыруе ўрачыстай Гульнёй, працаваць пад наглядам яго ўсёвідушчых вачэй, руліцца і дбаць, каб заслужыць яго пахвалу, заўсёды было палкім Кнэхтавым жаданнем; і вось цяпер, даведаўшыся, што хвароба зачыніла яму дзверы да Магістра і яго, Кнэхта, перадалі іншым інстанцыям, ён адчуваў горкі боль і расчараванне. Праўда, гэта кампенсавалася абыходлівай зычлівасцю, нават прыязнасцю, з якімі яго прынялі і выслухалі сакратар Ордэна і пан Дзюбуа. З першай жа гутаркі з імі ён даведаўся, што ў рымскім праекце яго не збіраюцца больш выкарыстоўваць і што яго жаданне вярнуцца ў Вальдцэль і да Гульні задаволена. Спачатку яму прапанавалі заняць кватэру ў заезным доме Vicus lusorum і крыху асвойтацца, а таксама прысутнічаць на штогадовай Гульні.

Разам з сябрам Тэгулярыусам ён прысвяціў рэшту дзён посту і практыкаванням у медытацыі і прыняў багавейны і ўдзячны ўдзел у той незвычайнай Гульні, якая пакінула пасля сябе такія безуцешныя ўспаміны.

Дзіўная гэта пасада — намеснік Магістра, якога часам называюць «ценем», асабліва калі гаворка ідзе пра намесніка Магістра музыкі або Магістра Гульні. У кожнага Магістра ёсць намеснік, яго не прызначае Вярхоўная калегія, а Магістр сам выбірае яго з невялікага кола кандыдатаў, несучы поўную адказнасць за ўсе яго ўчынкі і подпіс. Кандыдату гэта знак высокага даверу, калі Магістр выбера яго намеснікам, тым самым робячы яго сваім найбліжэйшым супрацоўнікам, як бы правай рукой; кожны раз, калі сам Магістр па якой-небудзь прычыне адсутнічае, намеснік выконвае яго абавязкі, праўда, не ўсе: так, пры галасаванні ў Вярхоўнай калегіі ён мае права выступаць толькі ў ролі перадатчыка думкі свайго шэфа, але яму не дазволена выступаць у спрэчках, уносіць прапановы і так далей. І ўсё ж, хоць прызначэнне кандыдата намеснікам усемагутнага Магістра ставіць яго на высокі пост, часам вельмі прадстаўнічы, яно азначае тым не меней нешта накшталт заўчаснай адстаўкі, бо ў рамках афіцыйнай іерархіі намеснік уяўляе сабою нейкі адасоблены выпадак: яму даручаюць выкананне даволі важных функцый, шануюць, але ў той самы час пазбаўляюць некаторых правоў і магчымасцей, якімі карыстаюцца ўсе астатнія. Дзве акалічнасці вызначаюць яго выключнае стано-

вішча: намеснік не адказвае за свае дзеянні на пасадзе і дарога ўгору па прыступках іерархіі яму раз і назаўсёды перакрыта. Праўда, гэта закон няпісаны, але яго лёгка вычытаць у гісторыі Касталіі: не было ніводнага выпадку, каб пасля смерці або адстаўкі Магістра ягонае месца заняў «цень», які так часта замяняў яго ў жыцці і само існаванне якога, здавалася б, меціла яго ў наступнікі. Такая практыка як знарок падкрэслівае неадольнасць мяжы, якая здаецца даволі нямоцнай і рухомай: мяжа паміж Магістрам і яго намеснікам выступае як нейкі сімвал мяжы, паміж пасадаю і асобай. Такім чынам, касталец, уступаючы на высокі пост намесніка, канчаткова развітваецца з перспектывай самому калі-небудзь стаць Магістрам, зліцца з строямі і рэгаліямі, якія так часта, прадстаўляючы Магістра, носіць на сабе, але разам з тым ён атрымлівае дзіўнае і двухсэнсоўнае права перакладаць віну за зробленыя памылкі на плечы самога Магістра, які адзін павінен за іх адказваць. І сапраўды, бывалі выпадкі, калі Магістр рабіўся ахвярай выбранага ім намесніка і праз грубае ўпушчэнне, учыненае намеснікам, вымушаны быў выходзіць у адстаўку. Прозвішча, якое ў Вальдцэлі начапілі намесніку Магістра Гульні, цалкам апраўдваецца яго дзіўным становішчам: як яго сувяззю, амаль ідэнтычнасцю з Магістрам, так і прывіднасцю яго афіцыйнага існавання, нібы пазбаўленага субстанцыі. Яго мянуюць, як ужо было сказана, «ценем».

Ужо многія гады ролю «ценю» пры Магістры Томасе фон дэр Травэ выконваў чалавек з імем Бэртрам, якому бракавала, бадай што, удачы, а не адоранасці або добрай волі. Гэта быў выдатны майстар Гульні, што, шчыра кажучы, само сабою разумелася, прынамсі, неблагі настаўнік і сумленны чыноўнік, бясконца адданы свайму Магістру; тым не менеи ён у апошнія некалькі гадоў страціў прыхільнасць пасадных асоб і нацкаваў на сябе маладое пакаленне эліты, бо ў ім не было нічога ад рыцарства яго начальніка, ён страціў упэўненасць і спакой. Магістр не расстаўся з ім, а ўсе гэтыя гады як мог асланяў яго ад сутычак з элітай, усё радзей і радзей выкарыстоўваў яго ў публічных выступленнях, даручаў яму займацца ў Канцылярыі і ў Архіве. Вось гэты незаплямлены, але нялюбы ці знялюблены чалавек, якога шчасце яўна абышло ласкай, праз хваробу свайго Магістра неспадзявана стаў на чале Vicus Luso-

rum і ў выпадку, калі б яму сапраўды давялося кіраваць урачыстай Гульнёй, на свяце аказаўся б на самай віднай пасадзе ва ўсёй Педагагічнай правінцы. Справіцца з такой задачай ён мог толькі, калі б яго адарылі даверам і падтрымкай большасць майстроў Гульні або, прынамсі, рэпетытары, а гэтага, на жаль, не было. Вось і сталася, што гэтым разам Ludus sollemnis зрабілася для Вальдцэля цяжкім выпрабаваннем, амаль катастрофай.

Толькі за дзень да афіцыйнага пачатку Гульні было абвешчана, што Магістр сур'ёзна хворы і не можа ўзяць на сябе кіраванне. Невядома, ці ўваходзіла затрымка гэтай абвесткі ў намеры самога хворага, які, магчыма, да апошняй хвіліны спадзяваўся сабраць усю сваю сілу і ўзначаліць Гульню, але, мусіць, хвароба яго была занадта сур'ёзная, каб ён мог песціць такія надзеі, а «цень» зрабіў памылку, пакінуўшы Касталію да апошняй гадзіны ў няведанні пра сапраўднае становішча ў Вальдцэлі. Зрэшты, ці была такая затрымка памылкай — пытанне спрэчнае. Калі ён яе і зрабіў, дык, несумненна, з добрым намерам, каб загадзя не зніжаць значэння ўрачыстасці і не адпудзіць шаноўцаў Магістра Томаса ад паездкі ў Вальдцэль. І калі б сапраўды ўсё ішло гладка, калі б паміж вальдцэльскай абшчынай адэптаў і Бэртрамам існавала згода, «цень» — і гэта было б цалкам верагодна — набыў бы ўсю годнасць сапраўднага намесніка, і адсутнасць Магістра мала хто заўважыў бы. Няма карысці выказваць з гэтай прычыны розныя іншыя меркаванні; нам проста здалося неабходным адзначыць, што Бэртрам зусім не быў такі абсалютны няздара і тым больш не такі няварты, як лічыла тады грамадская думка Вальдцэля. Не, ён быў у куды большай меры ахвяра, чым вінаваты.

Як і ва ўсе папярэднія гады, у Вальдцэль пачалі з'язджацца госці. Многія нічога не ведалі, некаторыя былі заклапочаныя здароўем Магістра Гульні і поўныя нярадасных прадчуванняў. Усюды, як у самім Вальдцэлі, так і ў блізкіх паселішчах, сустракаліся незнаёмыя людзі, прыехалі амаль усе з кіраўніцтва Ордэна і Выхаваўчай калегіі. Многія святочна настроеныя людзі прыехалі з далёкіх мясцін краіны і з-за мяжы, засялілі ўсе гатэлі. Як звычайна, свята пачалося яшчэ напярэдадні афіцыйнага адкрыцця медытацыяй, пад час якой, пачынаючы з першага ўдару звона, уся святочная публі-

ка ахінулася святым маўчаннем. Нараніцу прагучалі канцэрты і была абвешчана першая частка Гульні, а таксама прызначаны медытацыі на абедзве музычныя тэмы гэтай першай часткі. Бэртрам ва ўрачыстых строях Магістра Гульні трымаўся з годнасцю, валодаў сабой, толькі з выгляду быў вельмі бледны і з кожным днём здаваўся ўсё больш стомленым і нездаровым, а апошнімі днямі і праўда зрабіўся як цень. Ужо на другі дзень афіцыйных урачыстасцяў разышліся чуткі, быццам здароўе Магістра Томаса пагоршала, яго жыццю пагражае небяспека, і ў той самы вечар сярод дасведчаных пачала нараджацца легенда пра хворага Магістра і яго «цень».

Легенда гэтая ўзнікла ў самым вузкім коле рэпетытараў і сцвярджала, быццам Магістр і праўда мог узяць на сябе кіраванне Гульнёй, але, каб улесціць самалюбству свайго «ценю», зрабіў гэтую ахвяру і перадаў кіраванне Бэртраму. Цяпер жа ў сувязі з тым, што Бэртрам яўна не ўпраўляўся з абавязкам і ўся Гульня магла абярнуцца поўным расчараваннем, хворы Магістр усвядоміў сваю адказнасць за «цень» і яго правал і адчувае патрэбу ўзяць на сябе расплату за чужыя грахі; менавіта гэта, а не што-небудзь іншае, і ёсць прычына пагаршэння яго здароўя і высокай тэмпературы. Зразумела, гэта быў не адзіны варыянт легенды, але яго трымалася эліта, якая сцвярджала, што яна, эліта, гэта славалюбнае пакаленне, успрымае сітуацыю як трагічную і не мае намеру браць пад увагу ніякіх ухілістых і палавінчатых тлумачэнняў, замазвання і прыхарошвання гэтай трагедыі.

Пашана да Магістра і непрыязнасць да яго «ценю» ўзаемна ўраўнаважваліся. Услед Бэртраму несліся праклёны і пажаданні ўсякіх нягод, нягледзячы на тое, што пацярпеў бы ад гэтага сам Магістр. Праз дзень з вуснаў у вусны перадавалася плётка, быццам Магістр паклікаў да сваёй пасцелі намесніка і двух старастаў эліты і заклінаў іх захоўваць мір, каб не сарваць свята; яшчэ праз дзень папаўзлі чуткі, быццам Магістр прадыктаваў запавет і паведаміў Вярхоўнай калегіі імя чалавека, якога б ён хацеў бачыць сваім пераемцам. Называліся нават імёны. З кожным днём, разам з весткамі пра пагаршэнне здароўя хворага, памнажаліся і чуткі, і як ва ўрачыстай зале, так і ў гатэлях настрой падаў, хоць ніхто не дазволіў сабе, не дачакаўшыся за-

канчэння Гульні, пакінуць Вальдцэль. Над святам згусла чорная хмара, аднак, нягледзячы на гэта, вонкі ўсё развівалася па загадзя вызначаным плане, хоць пра радасны ўздым, такі характэрны штогадовым Гульням і такі жаданы ўсім прысутным, зразумела, ужо і гаворкі быць не магло. А калі ў надапошні дзень Гульні стваральнік яе, Магістр Томас, навекі з默жыў вочы, Вярхоўнай калегіі так і не ўдалося пазбегнуць пашырэння чутак пра гэта, як ні дзіўна, сёй-той з удзельнікаў з палёгкай прыняў такое вырашэнне заблытанай сітуацыі. Вучні Гульні і асабліва эліта, хоць ім і не было дазволена да заканчэння Ludus sollemnis жалобіцца і перапыняць строга прадпісанае чаргаванне гульнёвых дзеянняў і медытацый, аднадушна адзначылі апошні ўрачысты акт і святочны дзень як дзень жалобы па нябожчыку, акружыўшы Бэртрама, вымучанага бяссонніцай, бледнага, але ўсё яшчэ ўзначальніка Гульні, атмасферай ледзяной незычлівасці і адзіноты.

Ёзэф Кнэхт, які быў звязаны праз Тэгулярыуса з элітай і як спрактыкаваны майстар Гульні вельмі востра адчуваў такія плыні і настроі, усё ж не паддаўся ім, і, пачынаючы з чацвёртага ці то пятага дня, нават забараніў свайму сябру Фрыцу паведамляць яму пра хваробу Магістра. Добра разумеючы і адчуваючы, які трагічны цень лёг на свята, ён з глыбокім смуткам думаў пра Магістра, з усё большай непрыязнасцю, але і са спагадай, — пра ягоны «цень», быццам асуджаны памерці разам з сваім уладаром; у той самы час ён стойка бараніўся ад праўдзівых, так і выдуманых паведамленняў, нікому не дазваляў парушыць сваю гранічную канцэнтрацыю і з радасцю аддаўся плыні выдатна складзенай Гульні, перажываючы ўрачыстасць, насуперак усім хваляванням і змрочным чуткам, у стане сур'ёзным і ўзнёслым.

«Цень» — Бэртрам, на шчасце, быў вызвалены ад мусовага ў такіх выпадках прыёму віншавальнікаў і афіцыйных асоб, традыцыйны Дзень радасці студэнтаў Гульні таксама быў адменены. Як толькі адгучаў апошні такт урачыстага музычнага фінала, Вярхоўная калегія аб'явіла пра смерць Магістра, і ў Vikus lusorum пачаліся дні жалобы, якой строга трымаўся і Ёзэф Кнэхт.

Пахаванне Магістра Томаса, чыю памяць і сёння глыбока шануюць нашчадкі, было праведзена з звычайнай у Касталіі сціпласцю. «Цень» — Бэртрам, напру-

жыўшы ўсю сваю сілу, да канца правёў сваю даволі цяжкую ролю. Усвядоміўшы сваё становішча, ён папрасіў сабе адпачынку і з'ехаў у горы.

У селішчы адэптаў Гульні і ў самім Вальдцэлі панавала жалоба. Можна дапусціць, што ніхто не меў блізкіх, прыязных адносінаў з нябожчыкам, але яго перавага, чысціня і высакароднасць думак разам з выдатным розумам і дасканалым адчуваннем формы зрабілі з яго ўладара, якія ў дэмакратычнай Касталіі сустракаюцца не часта. Ім можна было ганарыцца. Відаць, чужы пакутам, любові, пачуццю дружбы, ён з тым большым правам мог быць узорам для маладых, і ягоная годнасць, княская пастава, якая, дарэчы, прынесла яму ласкава-іранічную мянушку «светласць», забяспечылі яму з гадамі, нягледзячы на пэўны адпор, крыху адмысловае становішча ў Вярхоўнай радзе і на пасяджэннях Выхаваўчай калегіі. Вядома, у Вальдцэлі адразу закіпелі спрэчкі пра кандыдата на высокую пасаду, і нідзе яны не вяліся так горача, як сярод эліты. Пасля ад'езду «ценю», падзення якога так дамагалася і нарэшце дамаглося гэтае кола, эліта, прагаласаваўшы, часова раздзяліла функцыі Магістра сярод трох асоб, зразумела, толькі функцыі, якія датычыліся ўнутраных спраў Vicus lusorum, а зусім не афіцыйныя, што былі прэрагатывай Выхаваўчай калегіі. У адпаведнасці са звычаямі пост Магістра Гульні не павінен быў заставацца вакантным больш за тры тыдні. У выпадку, калі памерлы або адстаўны Магістр пакідаў пасля сябе ўжо пэўнага пераемцу, які не меў супернікаў, пасада яго займалася адразу пасля першага пленарнага пасяджэння Вярхоўнай калегіі. Аднак гэтым разам усё магло зацягнуцца.

Пад час жалобы Ёзэф Кнэхт некалькі разоў загаворваў з сваім сябрам пра закончаную Гульню і пра ўсё засмучэнне свята.

— Гэты намеснік Бэртрам, — сказаў неяк Кнэхт, — не толькі прыстойна давёў сваю ролю да канца, гэта значыць, спрабаваў іграць ролю сапраўднага Магістра, але, па-мойму, зрабіў і куды большае: ён прынёс сябе ў ахвяру Ludus sollemnis як свайму самаму ўрачыстаму і апошняму афіцыйнаму абавязку. Вы былі жорсткія, люта жорсткія з ім, у вас была магчымасць ўратаваць свята і Бэртрама, але вы гэтага не зрабілі, аднак не мне вырашаць, магчыма, у вас былі свае прычыны. Цяпер, калі вы настоялі на сваім і небарака Бэртрам зні-

шчаны, вам трэба быць велікадушнымі. Як толькі ён вернецца, трэба пайсці яму насустрач, паказаць яму, што вы ацанілі прынесеную ахвяру.

Тэгулярыус пакруціў галавой.

— Мы яе ацанілі, — сказаў ён, — і прынялі. Але на тваю долю выпала шчасце быць гэтым разам, так сказаць, бесстароннім удзельнікам Гульні, госцем, а таму ты не мог усяго заўважыць. Не, не, Ёзэф, у нас ужо няма магчымасці выказаць якія-небудзь добрыя пачуцці да Бэртрама. Ён усвядоміў, што ахвяра ягоная была патрэбная, і, думаю, ніколі ўжо не будзе спрабаваць узяць яе назад.

Толькі цяпер Кнэхт зразумеў яго і журботна замоўк. Яно і праўда, ён перажыў гэтыя святочныя дні не як сапраўдны вальдцэлец і таварыш, а хутчэй як госць, і таму толькі цяпер яму адкрылася, як, зрэшты, было яно з Бэртрамавай ахвярай. Да гэтага часу Бэртрам здаваўся яму славалюбным гардзеем, прыдушаным цяжарам непасільнай задачы і таму вымушаным расстацца з усімі сваімі намысламі, забыцца, што калісьці быў «ценем» Магістра і ўзначальваў штогадовую ўрачыстую Гульню. І толькі цяпер, калі ён пачуў сябравыя словы, Кнэхт, раптоўна знямеўшы, зразумеў: суддзі засудзілі Бэртрама, і ён ніколі не вернецца. Яму дазволілі давесці Гульню да канца і нават памагалі, бо не хацелі скандалу, але зроблена гэта было не дзеля таго, каб пашкадаваць Бэртрама, а дзеля Вальдцэля.

Сама Бэртрамава пасада патрабавала заваявання поўнага даверу не толькі ў Магістра — у гэтым Бэртрам меў поспех, — але і не меншага даверу эліты, а яго варты жалю намеснік так і не змог гэтага дамагчыся. Зрабі ён памылку, і іерархія не стала б на яго абарону, як стала б яна на абарону ягонага патрона. І калі былыя таварышы не прызналі яго, ніякі аўтарытэт ужо не мог яго ўратаваць, і гэтыя таварышы, рэпетытары, ператвараюцца ў суседзяў. Калі яны няўмольныя, «ценю» настае канец. Так яно і здарылася гэтым разам. З падарожжа ў горы Бэртрам ужо не вярнуўся. Прайшло шмат часу, і ў Вальдцэлі пайшлі чуткі, што ён сарваўся ў прорву і загінуў. Больш пра яго ніхто не ўспамінаў.

Тым часам у Селішча Гульні штодня наведваліся старэйшыя і вышэйшыя афіцыйныя асобы з кіраўніцтва Ордэна і Выхаваўчай калегіі; сюд-туд таго-сяго з эліты або з чыноўнікаў Гульні выклікалі на гутарку, пра

змест якой сярод той жа эліты выказваліся самыя розныя меркаванні. Не раз выклікалі і Ёзэфа Кнэхта.

У першым выпадку ў яго распытвалі пра прадстаўніка кіраўніцтва Ордэна, у другім з ім гутарыў Магістр філалогіі, потым пан Дзюбуа, потым яшчэ два Магістры. Тэгулярыус, якога таксама няраз выклікалі, увесь час быў у нейкім узнёслым настроі і бясконца дасціпнічаў пра скоры канклаў, як ён гэта называў. Яшчэ ў дні свята Ёзэфу кінулася ў вочы, як мала што цяпер, у адрозненне ад ранейшага часу, звязвала яго з элітай, а ў гэтыя «перадканклаўныя» дні ён адчуў гэта яшчэ вастрэй. І ўсё было не толькі ў тым, што ён, быццам чужы, жыў у гасцёвым флігелі, і не ў тым, што прадстаўнікі Вярхоўнай калегіі абыходзіліся з ім як з роўным. Сама эліта, так званыя рэпетытары, не прынялі яго як роўнага, у іх адносінах да яго было нешта ад іранічнай ветлівасці, прынамсі, адчуваўся нейкі насцярожлівы халадок; эліта адышла ад яго яшчэ ў тыя дні, калі яго паслалі ў Марыяфельс, і гэта было натуральна і нават правільна: хто зрабіў крок ад свабоды да падпарадкавання, ад студэнта да іерархіі, таго ўжо не лічылі таварышам, ён ужо быў у дарозе да начальства, «бонзаў», ён ужо не належаў да эліты і павінен быў ведаць, што яна да пэўнага часу будзе ставіцца да яго даволі крытычна. Так было з усімі, хто трапляў у такое становішча. Але ж Кнэхт у той час успрымаў гэты адыход, гэты халадок асабліва хваравіта, перш за ўсё таму, што асірацелая эліта, якая чакала новага прызначэння Магістра, згуртавалася асабліва цесна, заняла абарончую пазіцыю, і, акрамя таго, яшчэ і таму, што яе рашучасць і непахіснасць яе пазіцыі толькі што так сурова выявілася ў выпадку з «ценем» — Бэртрамам.

Аднойчы ўвачары ў гасцёвы дом прыбег усхваляваны Тэгулярыус, знайшоў Ёзэфа, зацягнуў яго ў нейкі пусты пакой, прычыніў дзверы і выпаліў:

— Ёзэф! Ёзэф! Божа мой, і як гэта я раней не здагадаўся! Я павінен быў гэта ведаць, яно і няцяжка было здагадацца... Не, я нічога не петру і, калі шчыра, не ведаю, ці трэба мне радавацца... — І ён, адзін з самых інфармаваных людзей Селішча Гульні, паспяшаўся паведаміць: больш чым верагодна, нават амаль напэўна, Ёзэфа Кнэхта выберуць Магістрам Гульні. Яшчэ пазаўчора знялі кандыдатуру старшага Архіварыуса, якога прадказвалі ў спадкаемцы Магістра Томаса, з трох

кандыдатаў эліты, якія дагэтуль ішлі наперадзе, ніводнага не падтрымліваюць і не рэкамендуюць ні Магістры, ні кіраўніцтва Ордэна, а за Кнэхта ўжо выказаліся два члены кіраўніцтва і пан Дзюбуа, да іх варта дадаць важкі голас старога Магістра музыкі, якога днямі, як абсалютна вядома, асабіста наведалі некалькі Магістраў. — Ёзэф, яны зробяць цябе Магістрам! — усклікнуў ён яшчэ раз, і тут жа сябар заціснуў яму рот далоняй.

У першае імгненне Ёзэф быў, бадай што, не менш ашаломлены, чым Фрыц, — настолькі ўсё гэта здалося яму неверагодным, але ўжо ў той час, калі Тэгулярыус паведамляў яму пра розныя чуткі, што цыркулявалі сярод адэптаў Гульні пра канклаў, Кнэхт зразумеў, што сябрава падазрэнне небеспадстаўнае. Нават больш, ён адчуў нешта падобнае на пацвярджэнне ў сваіх грудзях, у яго ўзнікла адчуванне, быццам ён даўно гэта ведаў, нават чакаў, настолькі гэта было слушна і натуральна. Аднак, затуліўшы далоняй рот сябру, ён строга, быццам чужы, зірнуў на яго і, як бы нечакана адсунуўшыся ад яго, як бы ўжо здалёк, сказаў:

— Не трэба так многа гаварыць, amice, я і ведаць не хачу гэткіх плётак! Ідзі да сваіх таварышаў!

Тэгулярыус, хоць яму яшчэ і хацелася многае сказаць, анямеў пад гэтым позіркам: на яго глядзеў новы, яшчэ не вядомы яму чалавек; збялеўшы, ён пайшоў. Пазней ён расказваў, што ў тую хвіліну ён успрыняў дзівосную спакойнасць і холаднасць Кнэхта як поўху, як знявагу, як здраду іх ранейшай дружбе, як нічым не вытлумачальнае запабяганне і падкрэсліванне Кнэхтам свайго будучага вярхоўнага сану. Толькі ўжо па дарозе — а ён ішоў як сапраўды збіты — яму адкрыўся ўвесь сэнс гэтага незабыўнага позірку, гэтага далёкага, валадарскага і, аднак, пакутніцкага позірку, і ён зразумеў, што сябар яго ўспрыняў сваю долю не з гонарам, а ў пакоры. І ён успомніў, расказваў Тэгулярыус, задуменны выгляд Кнэхта і глыбокую спагаду, якая прагучала ў яго нядаўніх роспытах пра Бэртрама і прынесеную ім ахвяру. А што, калі ён сам таксама намераны ахвяраваць сабой, сцерці сябе, — такім гордым і пакорлівым долі, велічным і заміраным, самотным і гатовым аддаць сябе на волю лёсу здаўся яму тады сябраў твар, быццам твар гэты ўжо быў высечаны на манументе ў гонар усіх ранейшых Магістраў Касталіі. «Ідзі да

сваіх таварышаў!» — сказаў ён яму. Значыцца, у той момант, калі ён упершыню пачуў пра свой новы сан, ён, каго ўжо ніколі ніхто не здолее зразумець да канца, адчуваў сябе ўжо нейкім звяном іерархіі, глядзеў на свет з іншага цэнтра, ужо не быў яму таварышам, ніколі ім ужо не будзе.

Вядома, Кнэхт і сам мог бы здагадацца пра гэта сваё прызначэнне, гэта апошняе, найвышэйшае сваё пакліканне ці хоць мог бы лічыць яго верагодным, і ўсё ж яно здзівіла, нават спалохала яго, як і ўсе папярэднія. Потым ён сказаў сабе, што цалкам мог бы ўявіць сабе такую магчымасць, і ўсміхнуўся руплівасці Тэгулярыуса, які, хоць спачатку і не чакаў нічога падобнага, усё ж вылічыў і прадказаў яго выбар за некалькі дзён да канчатковага рашэння і яго абнародавання. І сапраўды, супраць выбрання Кнэхта ў Вярхоўную калегію была хіба што толькі яго маладосць: большасць яго папярэднікаў-калег занялі гэты высокі пост ва ўзросце ад сарака да пяцідзесяці гадоў, а Ёзэфу не споўнілася яшчэ і сарака. Зрэшты, закона, які б забараняў такое ранняе прызначэнне, не было.

І вось калі Фрыц нечакана паведаміў сябру пра вынікі сваіх назіранняў і камбінацый, назіранняў спанатранага члена эліты, які да апошніх дробязяў ведаў хітры механізм маленькай вальдцэльскай абшчыны, Кнэхт адразу зразумеў, што той, безумоўна, мае рацыю, адразу прызнаў і прыняў сваё выбранне, свой лёс, аднак першая яго рэакцыя на гэтую вестку была ў словах, якія ён сказаў сябру: «І ведаць не хачу гэтых плётак!» Ледзь толькі ашаломлены і абражаны сябар пайшоў, як Ёзэф паспяшаўся да месца медытацыі, каб здабыць унутраную ўпарадкаванасць, і яго медытацыя зыходзіла з аднаго ўспаміну, які ў той час з незвычайнай сілай авалодаў ім. Ён адзін у пустым класе, голыя сцены, клавір, у акно ліецца халаднавата-радаснае ранішняе святло, а ў дзверы ўваходзіць прыгожы, прыветлівы чалавек з сівымі валасамі і такім прасветленым тварам, поўным дабрыні і годнасці; ён, Ёзэф, яшчэ маленькі гімназіст, дрыжучы ад нясмеласці і шчасця, чакаў тут Магістра музыкі, а цяпер вачыма бачыць яго наяве, Вялебнага, паўбога з казачнай Правінцыі элітарных школ і Магістраў, які прыйшоў паказаць яму, што такое музыка, а потым крок па кроку павёў яго ў сваю Правінцыю, у сваё царства, у эліту і ў Ордэн. І вось ён, Ёзэф,

ужо раўня яму, стаў братам яго, а Магістр адклаў сваю чароўную палачку, або свой скіпетр, і прыняў вобраз маўклівага і ўсё ж прыветлівага, шанаванага і ўсё яшчэ таямнічага старца, чый погляд заўсёды будзе вышэйшы за яго на цэлае пакаленне, на некалькі прыступак жыцця, непамерна вышэйшы за яго ў годнасці сваёй і сціпласці, у майстэрстве і таямнічасці, і заўсёды ён для яго — загадка і ўзор, заўсёды прымусіць ісці за ім, як свяціла на ўзыходзе і схіле вабіць за сабою сваіх братоў. І пакуль Кнэхт міжвольна аддаваўся плыні карцін і вобразаў, блізкіх сваякоў сноў, што звычайна паўстаюць перад нашым унутраным зрокам у стане першай разрадкі, увагу яго прыкавалі да сябе дзве відмы, што вылучыліся з агульнага патоку, два сімвалы, два падабенствы. У адной з іх Кнэхт, яшчэ хлопчык, ідзе рознымі ходамі і пераходамі за Магістрам, а той, ягоны важаты, кожны раз, калі абарочваецца і Ёзэф бачыць яго твар, робіцца ўсё старэйшы і старэйшы, маўклівейшы, годнейшы, зрокава збліжаючыся з ідэалам вечнай мудрасці і годнасці, тым часам як ён, Ёзэф, беззапаветна аддана і паслухмяны, ідзе за прыкладам сваім, але застаецца ўсё тым самым падлеткам, то саромеючыся гэтага, то радуючыся, а часам адчуваючы і нешта падобнае на ўпартае задавальненне. Другая відма: сцэна ў музычным класе, калі Магістр падыходзіць да хлопчыка, і ўсё паўтараецца раз, паўтараецца яшчэ і яшчэ, бясконца: Магістр і хлопчык ідуць адзін за адным, быццам іх рухае нейкі механізм, і часам ужо нельга разабраць хто вядзе, а каго вядуць — стары ці малы? То здаецца, быццам юнак аддае пашану аўтарытэту, старэйшаму, падпарадкоўваецца яму, то тое, што гэта сам старац служыць і пакланяецца і ідзе за паспешлівай спераду постаццю юнацтва, за самым пачаткам, самой радасцю. І ў той час, як Ёзэф сочыць за гэтым бяссэнсавым-асэнсаваным сном-крутаверцю, ён сам адчувае сябе то гэтым старым, то хлопчыкам, то шанавальнікам, то шанаваным, то вядучым, то ведзеным, і ў гэтай зыбкай змене раптам настае момант, калі ён разам — і настаўнік і вучань, не, ён ужо вышэй за іх абодвух, гэта ён кіруе імі, гэта ён усё прыдумаў, гэта ён, сузіраючы, кіруе гэтай каруселяй, безвыніковым спаборніцтвам у бегу старасці і маладосці, і то запавольвае, то паскарае яго да шалёнай гонкі па сваёй волі. Тут раптам узнікае новая відма, больш сімвал, чым сон, больш усвядомленасць,

чым вобраз, відма, не, менавіта ўсвядомленасць: гэты бяссэнсава-асэнсаваны бег па коле настаўніка і вучня, гэта сватанне мудрасці да юнацтва, юнацтва да мудрасці, гэтая бясконца акрыленая гульня ёсць не што якое, як сімвал Касталіі, гэта гульня самога жыцця, якое ў сваёй раздвоенасці паміж старасцю і маладосцю, паміж ноччу і днём, паміж Ян і Інь цячэ і цячэ без канца. Адгэтуль, з свету вобразаў, медытатар знайшоў дарогу ў свет спакою і вярнуўся з доўгага самапаглыблення ўзбадзёраны і прасветлены.

Прайшло некалькі дзён, і кіраўніцтва Ордэна выклікала Кнэхта. З яснай душой ён з'явіўся на выклік і, засяроджана сур'ёзны, адказаў на поціск рук членаў Вярхоўнай калегіі, якія сустрэлі яго нечым падобным на братнія абдымкі. Яму паведамілі пра яго прызначэнне Магістрам Гульні і загадалі праз два дні з'явіцца на прысягу і прысвячэнне ў сан ва ўрачыстую залу, дзе зусім нядаўна намеснік нябожчыка Магістра старшыняваў на такой пакутлівай урачыстасці, што быў падобны на ўпрыгожаную ахвярную жывёліну. Паводле традыцыі дзень, які заставаўся да прысвячэння, адводзіўся пад прадпісанае і заўсёды строга рытуальнае вывучэнне формулы прысягі і «Малога статута Магістраў», вывучэнню таварышавала медытацыя, абавязкова ў прысутнасці альбо пад кіраўніцтвам двух членаў Вярхоўнай калегіі, гэтым разам гэта былі канцлер Ордэна і Magister mathematicae[1]. У гэты, такі напружаны дзень, у час адпачынку пасля трапезы Ёзэф успомніў, як яго прымалі ў Ордэн і як яго рыхтаваў да гэтага Магістр музыкі. Але цяпер рытуал прыёму не ўводзіў яго, як штогод сотні іншых, праз шырокую браму ва ўлонне вялікай абшчыны, цяпер яго прапускалі праз вузюсенькія веснічкі ў самае вузкае кола, у кола Магістраў. Пазней Кнэхт прызнаваўся састарэламу Магістру музыкі, што ў тыя дні інтэнсіўнага самавыпрабавання яму не давала спакою адна думка, адно дурное замарачэнне: ён баяўся той хвіліны, калі хто-небудзь з Магістраў намякне яму, якім маладзёнам ён прымае гонар найвышэйшага сану. Яму давялося прыкласці ўсю сваю сілу, каб управіцца з гэтым страхам, з гэтай блазнавата-марнай думкай, з неадступным жаданнем: у тым выпадку, калі хто-небудзь намякне яму на ўзрост, адказаць: «Дык

[1] Магістр матэматыкі (*лац.*).

дайце мне спакойна састарыцца — я гэтага павышэння не дамагаўся». Зрэшты, далейшы ход самавыпрабавання паказаў яму, што падсвядома ён быў не такі ўжо і далёкі ад думкі пра такое прызначэнне і нават хацеў яго.

Прызнаўшыся сабе ў гэтым, ён спасціг і пераадолеў марнасць сваёй думкі, і на самай справе ні ў той незабыўны дзень, ні пазней ніхто з калег не сказаў ні слова пра яго ўзрост.

Але тым жывей каментавалі і крытыкавалі выбранне новага Магістра Гульні ў колах, з якіх выйшаў сам Кнэхт. Сапраўдных праціўнікаў у яго не было, але былі супернікі, і сярод іх некаторыя старэйшыя за яго ўзростам; да таго ж у тых колах ніхто не збіраўся ўхваляць такі выбар інакш як толькі ў выніку пэўнай барацьбы і выпрабаванняў або, прынамсі, пасля вельмі пільнага і прыдзірлівага назірання. Уступленне на пасаду і першы час на пасадзе амаль заўсёды азначаюць для новага Магістра дарогу праз чысцец.

Інвестытура Магістра не складае грамадскай урачыстасці, апрача Выхаваўчай калегіі і кіраўніцтва Ордэна, на цырымоніі прысутнічаюць толькі старэйшыя вучні, кандыдаты і ўсе афіцыйныя асобы той дысцыпліны, якая атрымлівае новага Магістра. У час самой урачыстасці ў святочнай зале Магістр Гульні дае прысягу, прымае кляйноды свайго сану (некалькі ключоў і пячатак), потым вяшчальнік Ордэна надзявае на яго строі — адмысловую святочную рызу, у якой Магістр выступае ва ўрачыстых выпадках, галоўным чынам у дні штогадовай публічнай Гульні. У гэтым акце, праўда, няма шуму і лёгкага ап'янення публічных святкаванняў, па сваёй прыродзе ён больш хінецца да абрадавай строгасці і стрыманасці, затое прысутнасць у поўным складзе дзвюх высокіх Калегій надае яму надзвычайную годнасць. Маленькая рэспубліка адэптаў Гульні атрымлівае новага кіраўніка, які павінен яе ўзначальваць і прадстаўляць у Вярхоўнай калегіі, а гэта — рэдкая падзея; магчыма, шкаляры і малодшыя студэнты не зусім усведамляюць яго важнасці і бачаць у ім толькі цырымонію і радасць вачам, затое астатнія выдатна разумеюць сур'ёзнасць гэтага акту, бо даволі-такі ўжыліся ў сваю абшчыну і прымаюць усё, што адбываецца, як тое, што мае дачыненне непасрэдна да іх. Гэтым разам урачыстасць была азмрочана не толькі смерцю папярэдняга Магістра, але і

ўсім няўдалым ходам штогадовай Гульні, а таксама трагедыяй намесніка Магістра, Бэртрама.

Прысвячэнне новага Магістра ўчынілі вяшчальнік Ордэна і старэйшы Архіварыус Гульні, разам яны паднялі святочную рызу і ўсклалі яе на плечы новаму Магістру Гульні. Кароткую ўрачыстую прамову сказаў Magister grammaticae[1], які выкладаў класічную філалогію ў Койпергайме, потым прызначаны элітай прадстаўнік Вальдцэля перадаў Кнэхту ключы і пячаткі, а побач з арганістам усе ўбачылі сівога Магістра музыкі. Ён прыбыў да інвестытуры, каб пабачыць прысвячэнне свайго ўлюбёнца і нечаканым сваім з'яўленнем навесці яго на радасны лад, а магчыма, і даць яму тую ці іншую параду. Больш за ўсё старцу хацелася самому сыграць урачыстую месу, але гэта ўжо было яму не па сіле, і таму ён саступіў месца за арганам арганістаму Селішча Гульні, а сам стаяў ззаду і перагортваў ноты. З багавейнай усмешкай глядзеў ён на Ёзэфа, бачыў, як той прыняў строі і ключы, як сказаў прысягу, а потым звярнуўся з невялікай прамовай да сваіх будучых супрацоўнікаў, чыноўнікаў і вучняў. Ніколі раней старац не адчуваў такой любові да гэтага хлопчыка Ёзэфа, ніколі той яго так не радаваў, як цяпер, калі ўжо ён як бы і не Ёзэф, а толькі носьбіт строяў і сану, смарагд у кароне, слуп у будынку іерархіі. Але вока на вока ўдалося пагаварыць з самім Ёзэфам толькі некалькі хвілін. Усміхнуўшыся сваёй светлай усмешкай, ён паспяшаўся ўнушыць яму:

— Наступныя два-тры тыдні — самыя адказныя, яны каштавацьмуць табе велізарных намаганняў, але табе трэба іх пераадолець. Заўсёды памятай пра галоўнае, упушчаныя прыватнасці цяпер ролі не граюць. Цалкам прысвяці сябе эліце, усё астатняе адмятай. Табе прышлюць двух памочнікаў, на якіх ты можаш абаперціся на першым часе; адзін з іх — Майстар ёгі Аляксандр, мне ўдалося пагутарыць з ім, уважай яго словам, ён сваю справу ведае. Галоўнае табе зараз — непарушная ўпэўненасць, што Магістры зрабілі правільна, калі ўвялі цябе ў сваё кола; даверся ім, даверся людзям, якіх прышлюць табе на дапамогу, слепа спадзявайся на сваю сілу. Да эліты пастаўся з вясёлым, заўсёды пільным

[1] Магістр граматыкі (*лац.*).

недаверам, яна нічога іншага і не чакае ад цябе. Ты пераможаш, Ёзэф, я ведаю.

Большасць магістарскіх функцый была добра вядомая Кнэхту, ён няраз прыслужваў або асіставаў былому Магістру. Самай важнай з іх было кіраўніцтва курсамі Гульні, пачынаючы з вучнёўскіх і падрыхтоўчых, вакацыйных і гасцёвых, да практыкаванняў, лекцый і семінараў для эліты. Да гэтых абавязкаў, за выключэннем таго, што названы апошнім, кожны новы Магістр падрыхтаваны, але ёсць і іншыя, у якіх у яго звычайна няма ніякага вопыту, вось яны якраз і дадаюць клопату новаму Магістру. Так яно было і з Ёзэфам. Ён ахвотней прыклаў бы ўсю сваю сілу на выкананне менавіта гэтых магістарскіх абавязкаў: дзейнасці ў Вярхоўнай Радзе Выхаваўчай калегіі, супрацоўніцтва рады Магістраў з кіраўніцтвам Ордэна, прадстаўніцтве Гульні і Vicus lusorum у Вярхоўнай калегіі. Ён прагнуў хутчэй засвоіць усе гэтыя новыя яму аспекты, пазбавіўшы іх такім чынам грознай невядомасці, але найбольш ён хацеў бы адасобіцца на некалькі тыдняў і прысвяціць сябе ўважліваму вывучэнню статута, усіх фармальнасцей, пратаколаў пасяджэнняў і да таго падобнага.

Ён ведаў, што акрамя пана Дзюбуа, на даведкі такога роду яму да паслуг быў таксама выдатны знаўца і настаўнік магістарскіх формаў і традыцый, вяшчальнік Ордэна, хоць сам і не Магістр, рангам ніжэйшы, аднак ён старшыняваў на пасяджэннях Вярхоўнай калегіі і строга сачыў за выкананнем усіх традыцыйных правілаў, як гэта робіць маршалак пры княскім двары. Як Ёзэфу хацелася б папрасіць гэтага разумнага, вопытнага, непранікальнага ў сваёй рафінаванай ветлівасці чалавека, з рук якога ён толькі што прыняў строі, пазаймацца з ім, калі б той жыў у самім Вальдцэлі, а не ў Хірсландзе, куды ўсё-такі было паўдня дарогі! Як яму хацелася ўцячы хоць на тыдзень у Манпор і прасіць старога Майстра музыкі памагчы яму засвоіць усе гэтыя тонкасці! Але пра гэта і думаць не было чаго: такія асабістыя, «студэнцкія» жаданні Магістру былі не да твару. На першым часе Кнэхту прыйшлося заняцца якраз тымі справамі, пра якія ён думаў, што ніякага клопату з імі не будзе. Кожны крок яго новага працоўнага дня, кожная мінута, калі ён усведамляў сваё новае становішча, даказвалі яму: найперш аддай увагу эліце, рэпетытарам, вышэйшым ступеням вучняў, семінарскім

заняткам і асабістаму кантакту з кандыдатамі. Гэта самае пацвярджаў Бэртрамаў прыклад — родная абшчына Бэртрама, эліта, кінула яго на волю лёсу на пасадзе Магістра, і ён змагаўся адзін, так сказаць, у беспаветранай прасторы, дзе і задыхнуўся. І словы старога, сказаныя ў дзень інвестытуры, нагадвалі Ёзэфу пра тое самае, што і ягоныя здагадкі. Архіў можна было аддаць Архіварыусу, пачатковыя курсы — пачатковым педагогам, карэспандэнцыю — сакратарам, упушчэнні тут не страшныя. А вось эліту ні на імгненне нельга было пакідаць саму з сабой, ён павінен быў цалкам прысвяціць сябе ёй, навязаць сябе, зрабіць сябе незаменным, пераканаць яе ў каштоўнасці сваіх здольнасцяў, чысціні сваіх намераў, павінен быў заваяваць яе, ліслівіць ёй і нарэшце адолець, памераўшыся сіламі з любым кандыдатам, які выказаў бы такое жаданне, а недахопу ў іх не было. Пры гэтым шмат што з таго, што ён раней лічыў завадай, і менавіта сваю доўгую адсутнасць у Вальдцэлі і адрыў ад эліты, дзе ён зноў стаў амаль homo novus[1], зрабіла яму няма ладу якую паслугу. Нават яго прыяцельства з Тэгулярыусам скарысцілася. Бо Тэгулярыус, гэты хваравіты і дасціпны аўтсайдэр, які быў зусім не без прэтэнзій да славы, так мала пасаваў для кар'еры, што яго магчымае набліжэнне да сябе новым Магістрам не ўшчамляла нікога з славалюбцаў. І ўсё ж асноўнае і галоўнае Кнэхту трэба было рабіць самому, каб, вывучыўшы гэта вышэйшае, самае жывое, неспакойнае і ўспрыемлівае кола людзей, пранікнуць у яго і зацугляць, як верхавец цугляе натурыстую кабылу высакароднай крыві. Бо ў кожным кастальскім інстытуце, не толькі ў Гульні, эліта ўжо абвучаных, але яшчэ не занятых свабоднымі даследаваннямі альбо ў службе Калегіі ці Ордэна кандыдатаў, званых таксама рэпетытарамі, па сутнасці, з'яўляецца каштоўным рэзервам, самым цветам, шчыра кажучы, будучыняй; і ўсюды, не толькі ў Селішчы Гульні, гэтыя адважныя прадстаўнікі будучай змены настроеныя да новых настаўнікаў крытычна, сустракаюць новага ўзначальніка са стрыманай ветлівасцю, і падпарадкаванне іх павінна быць заваявана асабістым прыкладам і поўнай аддачай, іх трэба пераканаць, перш чым яны яго прызнаюць і самохаць паддадуцца ягонаму кіраўніцтву.

---

[1] новы чалавек (*лац.*).

Кнэхт узяўся за гэту задачу без страху, здзіўляючыся, аднак, яе цяжкасці, і пакуль ён яе рашаў і выйграваў гэту напружаную, знясільную гульню, усе астатнія абавязкі і справы, ад якіх ён, бадай, мог бы чакаць многіх турботаў, самі адсунуліся за парог, здавалася, пакуль што чакалі яго ўвагі. Аднаму свайму калегу ён прызнаўся, што на першым пленарным пасяджэнні Вярхоўнай калегіі, на якое ён прыбыў на кур'ерскіх і пасля якога адбыў таксама на кур'ерскіх, ён адседзеў быццам у сне і потым ні на хвіліну ў думках не вяртаўся да яго — так без астатку захапілі яго бягучыя справы. Нават пад час самога пасяджэння, хоць тэма яго і цікавіла і ён з пэўнай трывогай чакаў, як яго прымуць Магістры, Кнэхт некалькі разоў лавіў сябе, што думкі яго не тут, не сярод роўных яму калег, і ён не сочыць за выступленнямі, а што ён у Вальдцэлі, у аўдыторыі Архіва з пафарбаванымі ў блакітнае сценамі, дзе праводзіў цяпер кожныя тры дні семінар дыялектыкі ўсяго з пяццю слухачамі і дзе кожная гадзіна вымагала большай увагі і аддачы сіл, чым увесь наступны дзень; а і дзень не быў лёгкі, і ад абавязкаў не было куды падзецца, бо да маладога Магістра, пра што яго загадзя папярэдзіў стары Магістр музыкі, быў прыстаўлены «падганяйла», які правяраў яго ўчынкі гадзіна за гадзінай, то раячы як размеркавальнік абавязкаў, то аберагаючы ад аднабаковых захапленняў і лішняй траты сілы. Кнэхт адчуваў удзячнасць гэтаму чалавеку і яшчэ больш — другому прыстаўленцу Ордэна, славутаму майстру медытацыі. Звалі яго Аляксандрам, ён клапаціўся, каб заняты да краю Кнэхт кожнага дня тройчы выдзяляў час на малыя і кароткія практыкаванні ў медытацыі, паслядоўнасць і працягласць кожнага, разлічаная да мінуты, павінны былі выконвацца дакладна. З абодвума, як з педэлем, так і з «сузіральнікам» з Ордэна, ён перад вячэрняй медытацыяй абавязаны быў падвесці вынікі працоўнага дня, адзначыць поспехі і недахопы, «слухаць свой пульс» — як гэта называюць інструктары медытацыі, гэта значыць, правяраць і вымяраць самога сябе, сваё становішча і стан, раскладку сілы, свае надзеі і клопаты, аб'ектыўна ацэньваць увесь свой дзень, не пакідаючы на другі нічога нявырашанага.

І ў той час як рэпетытары, каторы з сімпатыяй, а каторы і з гатоўнасцю скарыстацца любой прамашкай, сачылі за тытанічнымі высілкамі свайго Магістра, не

прапускаючы ніводнай магчымасці ўчыніць яму невялікае выпрабаванне на цярплівасць, кемлівасць або сілу розуму, то падсцёбваючы, то спрабуючы прытармазіць, — вакол Тэгулярыуса ўтварылася фатальная пустата.

Праўда, ён разумеў, што Кнэхт не мае цяпер магчымасці ўважыць яго ні часам, ні клопатам, ні падумаць пра яго або дапамагчы яму і паспагадаць, аднак прымірыцца з поўным забыццём, якім спадобіў яго Ёзэф, ён не мог, тым болей што здавалася, ён не толькі з кожным днём усё больш траціць сябра, але і таварышы ўжо касавурацца на яго, амаль з ім не загаворваюць. І не дзіва, хоць Тэгулярыус і не мог служыць перашкодай славалюбцам, усё ж ён не быў бессаронні, і было вядома, што ён карыстаўся прыхільнасцю маладога Магістра. Усё гэта Кнэхт мог бы сабе ўявіць, і адна яго неадкладная задача якраз і была, каб разам з усім асабістым і прыватным адмесці і гэтую сваю дружбу, хай толькі на які час, але адмесці. Зрабіў ён гэта, як пазней прызнаўся Тэгулярыусу, зусім не свядома — не наўмысна, ён проста забыўся пра сябра, настолькі ператварыўшыся ў прыладу, што такія прыватныя інтарэсы, як дружба, зрабіліся яму непамыснымі, і калі дзе-небудзь, скажам, у памянёным семінары, перад ім раптам узнікаў вобліК Фрыца, дык гэта ўжо быў не Тэгулярыус, не сябар і знаёмы, не нейкая пэўная асоба, а гэта быў член эліты, студэнт, правільней, кандытат або рэпетытар, нейкая частка ягонай працы, ягонай задачы, адзін салдат з таго войска, муштраваць якое і перамагчы разам з ім была яго мэта. У Фрыца халадок прабег па плячах, калі ён упершыню пачуў гэты новы голас Магістра, калі на яго ўпершыню ўпаў гэты погляд, адчужаны і гранічна аб'ектыўны, не прыдуманы, а сапраўды аб'ектыўны і страшны; калі ён зразумеў, што чалавек, які абыходзіцца з ім так дзелавіта і ветліва, захоўваючы пільную асцярожлівасць, — ужо не сябар яго Ёзэф, а толькі патрабавальны настаўнік, толькі строгі Магістр Гульні, замкнёны ў сваёй пасадзе, быццам у абалонцы з бліскучай палівы, абпаленай і застылай на ім. Між іншым, з Тэгулярыусам у гэтыя гарачыя дні сталася вось што: вымучаны бяссонніцай і ўсім перажытым, ён дапусціў на маленькім семінары бестактоўнасць, невялікую ўспышку, — не, не ў адносінах да Магістра, а ў адносінах да аднаго ўдзельніка семінара, пакеплівы тон яко-

га вывеў яго з сябе. Кнэхт заўважыў гэта, заўважыў таксама нервовы стан вінаватага, моўчкі адным махам рукі ён прывёў яго да памяці, а пасля заняткаў прыслаў Тэгулярыусу свайго інструктара па медытацыі, каб той дапамог і крыху супакоіў кандыдата, які трапіў у цяжкае становішча. Пасля поўнага забыцця, якое трывала шмат тыдняў, Тэгулярыус успрыняў такі клопат як першы знак абуджанай дружбы; ён паставіўся да яе як да знаку ўвагі да яго асабіста і ахвотна аддаў сябе ў рукі лекару. На самай жа справе Кнэхт амаль не ўсведамляў, пра каго менавіта ён паклапаціўся, ён зрабіў як Магістр і педагог: заўважыўшы ў аднаго рэпетытара павышаную раздражнёнасць, недахоп вытрымкі, ён адразу зрэагаваў на гэтую акалічнасць, ні на хвіліну не падумаўшы, што за чалавек гэты рэпетытар і якія ён мае адносіны да яго асабіста. Калі праз некалькі месяцаў сябар напомніў Магістру пра гэты выпадак і расказаў Кнэхту, як ён узрадаваўся тады і як яго суцешыў такі знак добрай прыхільнасці, Ёзэф, які зусім забыўся пра здарэнне на семінары, прамаўчаў, так і не развеяўшы Фрыцавай памылкі.

Нарэшце мэта была дасягнута і бітва выйграна, гэта была немалая праца — адолець эліту, замучыць яе муштрай, закілзаць славалюбцаў, перацягнуць на свой бок тых, што вагаліся, і спадабацца фанабэрам. Але цяпер гэты подзвіг быў здзейснены, кандыдаты Селішча Гульні прызналі свайго Магістра і здаліся, раптам усё пайшло лёгка, як быццам не хапала толькі адной кроплі алею. Педэль распрацаваў з Кнэхтам апошні план працоўнага дня, выказаў яму ўхваленне Вярхоўнай калегіі і адышоў. Прыклад яго пераняў Аляксандр. Замест масажу Кнэхт зноў пачаў ранiцамі рабіць шпацыры, пра заняткі або чытанні пакуль што і гаворкі быць не магло, але выпадалі дні, калі вечарам удавалася крыху памузыкаваць. Пабыўшы зноў у Вярхоўнай калегіі, Кнэхт ясна адчуў, хоць ніхто пра гэта нават слова не сказаў, што калегі лічаць, што ён вытрымаў экзамен, што ён поўная ім раўня. Выстаяўшы ў жорсткай схватцы, якая забрала ў яго ўсе сілы, ён зноў адчуў нешта падобнае на абуджэнне, нешта асвяжальнае і астуджальнае, падобнае на выцверазенне, ён раптам зразумеў, што дасягнуў сэрца Касталіі, убачыў сябе на найвышэйшай ступені іерархіі і з дзівоснай спакойнасцю, амаль расчараваннем зазначыў: у гэтым даволі разрэджаным па-

ветры можна дыхаць, хоць, вядома, сам ён, удыхаючы яго цяпер так, быццам і не ведаў ніякага іншага, стаў зусім іншым чалавекам. Гэта быў вынік суровага выпрабавання, якое нібы выпаліла ўсё ўсярэдзіне — як не магло б выпаліць нішто іншае, ніводная іншая служба, ніякае іншае напружанне.

Прызнанне элітай свайго ўзначальніка было гэтым разам выказана адмысловым чынам. Адчуўшы аслабленне адпору і нараджэнне даверу і згоды, усвядоміўшы, што самае цяжкае ззаду, Кнэхт узяўся за выбранне свайго «ценю». Яно і праўда, у гэтыя хвіліны, пасля толькі што атрыманай перамогі, калі звышчалавечае напружанне раптам адпусціла яго і ён адчуў адносную свабоду, ён як ніколі меў патрэбу ў памочніку: шмат людзей спатыкнуліся і ўпалі менавіта на гэтым адрэзку дарогі. Кнэхт не скарыстаўся правам самому выбраць сабе «цень», а папрасіў рэпетытараў прызначыць яму намесніка. Усё яшчэ пад уражаннем Бэртрамавага лёсу эліта на поўным сур'ёзе паставілася да яго прапановы і толькі пасля многіх пасяджэнняў і тайнага галасавання прапанавала Магістру аднаго з сваіх лепшых людзей, які да выбрання Кнэхта лічыўся верагодным кандыдатам на найвышэйшую пасаду.

Сапраўды, самае цяжкае было ззаду. Кнэхт зноў шпацыраваў, музыкаваў, з часам ён збярэцца і пачытаць, адновіцца яго дружба з Тэгулярыусам, зноў ён пачне перапісвацца з Фэрамонтэ, магчыма, выкраіць вольнага паўдня, а то і невялікі водпуск на падарожжа. І ўсё ж гэтыя радасці дастануцца некаму іншаму, не ранейшаму Ёзэфу, які лічыў сябе руплівым адэптам і неблагім кастальцам, але не падазраваў пра ўнутраную сутнасць кастальскіх парадкаў, жыў у такім эгаістычным няведанні, у такой дзіцячай бестурботнасці, цалкам у сваім асабістым, прыватным, свабодным ад усякай адказнасці. Аднойчы ён успомніў, як насмешліва перасцерагаў Магістр Томас, яго словы, якія ён сказаў, калі Кнэхт хацеў прысвяціць сябе яшчэ пэўны час свабодным заняткам. «Пэўны час — а колькі гэта? Твае словы — гэта словы студэнта, Ёзэф». Гэта было некалькі гадоў назад. Глыбока шануючы Магістра, ён з вялікім здзіўленнем выслухаў тады гэтыя словы, і яму стала нават крыху вусцішна ад такой надасабістай дасканаласці, такога крайняга самаакілзання, і ён тады ж адчуў, што Касталія хоча захапіць і яго, прыцягнуць і яго да сябе

і з яго зрабіць вось такога Магістра Томаса, дзяржаўцу і слугу ў адной асобе, нейкую самую дасканалую прыладу. А цяпер ён, Кнэхт, стаіць там, дзе стаяў тады Магістр Томас, і, гутарачы з кім-небудзь з рэпетытараў, адным з гэтых разумных, рафінаваных адэптаў Гульні і аматараў прыватных штудый, адным з гэтых руплівых і фанабэрыстых прынцаў, бачыць у ім далёкі і прыгожы, зусім іншы, дзівосны і ўжо пераадолены ім свет, зусім так, як калісь Магістр Томас заглядваў у яго дзівосны студэнцкі свет.

## НА ПАСАДЗЕ

Калі само ўступленне на пасаду Магістра, як здавалася, прынесла больш выдаткаў, чым прыбытку, бо паглынула ўсю сілу, усё асабістае жыццё, прымусіла адмовіцца ад ранейшых прызвычаек і любімых заняткаў, пакінула ў сэрцы і ў галаве замарачэнне, дык цяпер прыспела асэнсаваць новыя звычкі і даць ім зацвердзіцца, ды і сабе даць перадышку, а потым пачаць новыя назіранні, новыя перажыванні. Самым буйным з іх, пасля выйгранай бітвы, сталася сяброўская, на ўзаемным даверы праца з элітай. Гутарачы са сваім «ценем», працуючы разам з Фрыцам Тэгулярыусам, узятым на пробу ў памочнікі на вядзенне карэспандэнцыі, вывучаючы, правяраючы і дапаўняючы водгукі пра вучняў і супрацоўнікаў, пакінутыя яго папярэднікам, Кнэхт хутка зжываўся з элітай, якую, як яму раней здавалася, ён ужо ведаў дасканала, але сама сутнасць якой, як і своеасаблівасць Селішча Гульні і яго роля ў жыцці Касталіі, ва ўсёй сваёй рэальнасці адкрылася яму толькі цяпер. Праўда, ён шмат гадоў быў членам эліты, рэпетытарам, жыхаром гэтага такога ж арыстакратычнага, як і славалюбнага Селішча ў Вальдцэлі і цалкам адчуваў сябе яго часцінкай. Аднак цяпер ён быў не проста часцінкай, не проста жыў у сардэчнай дружбе з гэтай маленькай абшчынай, цяпер ён адчуваў сябе мозгам, свядомасцю і сумленнем яе, не толькі перажываў усе яе зрухі і лёс, але і адказваў за яе, кіраваў ёю. Ва ўрачыстую хвіліну з нагоды заканчэння курсаў настаўнікаў для пачаткоўцаў, адэптаў Гульні, ён выказаў гэта такімі словамі: «Касталія — гэта маленькая самадастатковая дзяржава, а наша Селішча Гульні — дзяр-

жава ў гэтай дзяржаве, маленькая, але старажытная і гордая рэспубліка, роўная сваім сёстрам у годнасці і правах, аднак узнятая і ўзвялічаная ў сваім самаўсведамленні дзякуючы мусічнаму і ў пэўным сэнсе сакральнаму характару сваёй функцыі. Бо задача наша і ў той самы час высокае адрозненне — берагчы і ахоўваць святыню Касталіі, адзіную ў сваім родзе тайнасць, адзіны сімвал яе — нашу Гульню. Касталія выхоўвае выдатных музыкантаў, гісторыкаў мастацтва, філолагаў, матэматыкаў і іншых вучоных. Кожная кастальская ўстанова, кожны касталец павінны ведаць толькі дзве мэты, два ідэалы: у сваёй галіне дасягаць дасканаласці і захоўваць жывасць і эластычнасць сваёй дысцыпліны, ды і самога сябе, дзякуючы пастаяннаму ўсведамленню яе цеснай, сяброўскай і запаветнай сувязі з іншымі дысцыплінамі. Гэты другі ідэал — думка пра ўнутранае адзінства ўсіх духоўных вымогаў чалавека, думка пра універсальнасць — знайшоў самае поўнае сваё выяўленне ў нашай самай высокай Гульні. Магчыма, фізіку, гісторыку музыкі або іншаму якому-небудзь навукоўцу аскетычнае адмятанне ўсяго, што не датычыцца яго спецыяльнасці, адмаўленне ад думкі пра універсальнасць на нейкі час садзейнічае хуткаму дасягненню поспеху ў вузкіх рамках адной дысцыпліны, але мы, адэпты Гульні, не маем права ставіць сабе такія абмежаванні і заспакойвацца, бо наша задача — песціць ідэю universitas litterarum і найвышэйшае яе выяўленне — высакародную гульню, выратаваць яе ад тэндэнцыі асобных дысцыплін да самазаспакоенасці. Але ж хіба мы можам выратаваць тое, што само не хоча быць выратаваным? Хіба можам мы прымусіць археолага, педагога, астранома і г. д. адмовіцца ад самазадаволенай абмежаванасці сваёй спецыяльнасці і нястомна адчыняць вокны ў другія дысцыпліны? Усякімі прадпісаннямі і выкладаннем Гульні як абавязковай дысцыпліны ў школах мы не даможамся гэтага, не дапамогуць і напаміны пра тое, якія мэты ставілі перад сабой нашы папярэднікі гэтай Гульнёй. Патрэбу ў нашай Гульні, ды і нас саміх, мы можам даказаць толькі ў тым выпадку, калі будзем падтрымліваць яе на самым высокім узроўні, чуйна падхопліваць кожны новы поспех, кожны новы напрамак і навуковую праблему, калі нашай універсальнасці, нашай высакароднай і разам з тым небяспечнай гульні з думкай пра адзінства мы будзем зноў і зноў надаваць

самы прывабны, заманлівы і пераканаўчы характар і будзем гуляць у нашу Гульню так, што і самы сур'ёзны даследчык, і самы старанны спецыяліст не змогуць ухіліцца ад яе закліку, ад яе зачаравальнай позвы. Уявім на хвіліну, што мы, адэпты, працавалі б з меншай зацятасцю, курсы Гульні пачаткоўцаў сталі б сумнымі і павярхоўнымі, у гульнях тых вучоных спецыялістаў, што ўжо сябе добра паказалі, што не змаглі б адчуць біцця пульсу жыцця, высокай духоўнай актуальнасці і інтарэсу, дзве або тры нашыя штогадовыя Гульні падрад гасцям здаліся б старамоднай, безжыццёвай цырымоніяй, недаедкам мінулага — ці шмат спатрэбілася б часу, каб Гульня, а разам з ёю і мы, загінулі? І сёння ўжо наша Гульня шкляных перлаў не на той бліскучай вышыні, на якой яна была пакаленне таму назад, калі штогадовая ўрачыстасць доўжылася не адзін або два, а тры і нават чатыры тыдні і была галоўнай падзеяй года не толькі ў Касталіі, але і ва ўсёй краіне. Праўда, і цяпер свята час ад часу наведваюць прадстаўнікі ўрада, але як правіла — гэта госці, якім у нас нудна. Прысылаюць сваіх пасланцоў і некаторыя гарады і саслоўі, але пасля ўрачыстага акта гэтыя прадстаўнікі свецкіх уладаў ужо няраз ветліва намякалі нам, што працягласць свята не дазваляе многім гарадам пасылаць сваіх паслоў, і ці не пара скараціць урачыстасць альбо ў будучым праводзіць яе толькі раз у два або тры гады? Што ж, такі бег падзей, ці, слушней сказаць, такі заняпад мы не можам прыпыніць. І вельмі магчыма, што неўзабаве там, за межамі Касталіі, ніхто ўжо не будзе разумець нашай Гульні, а штогадовая ўрачыстасць будзе адзначацца раз у пяць-дзесяць гадоў, а то і наогул ніхто не згадае пра яе. Але чаму мы абавязаныя і можам перашкодзіць — дык гэта дыскрэдытацыі і зняцэньванню Гульні на яе радзіме, у нашай Педагагічнай правінцыі. Тут барацьба наша мае сэнс і прыводзіць да ўсё новых і новых перамог. Кожны дзень мы бачым, як юныя вучні эліты, якія раней без асаблівага энтузіязму хадайнічалі за прыём на курсы Гульні і закончылі іх дастаткова добра, аднак без патрэбнага натхнення, раптам так прасякаюцца самім духам Гульні, яе інтэлектуальнымі магчымасцямі, яе высакароднымі традыцыямі, яе сілай, што душу скаланае, і робіцца нашымі палкімі паборцамі і прыхільнікамі. У час Ludus sollemnis мы бачым у сябе знакамітых вучоных, якія,

як нам вядома, цэлы год жывуць у працы і клопатах і глядзяць на нас, адэптаў Гульні, звысоку, пасылаюць нашай інстытуцыі зусім не самыя лепшыя пажаданні, але ўрачыстае свята наша, чарадзейства нашага мастацтва прыносяць ім душэўную палёгку, дораць новую маладосць, узвышаюць іх; умацаваўшы свой дух, усхваляваныя і ўскрыленыя ў сэрцы сваім, пакідаюць яны нас са словамі амаль сарамяжлівай удзячнасці. Прыглядзімся на хвілінку і да сродкаў, якія мы маем, і мы ўбачым перш за ўсё вельмі багаты і выдатны апарат, сэрцам якога з'яўляецца Архіў Гульні; ён удзячна выкарыстоўваецца ўсімі намі ледзь не штогадзінна, і мы, ад Магістра і Архіварыуса да апошняга памочніка, абавязаны служыць яму. Самае ж жывое і самае жыццядайнае, што ў нас ёсць, — гэта спрадвечны кастальскі прынцып выбору найлепшых — эліты. Школы Касталіі шукаюць лепшых вучняў ва ўсёй краіне і выхоўваюць іх. І ў Селішчы Гульні мы таксама імкнёмся нагледзець самых лепшых з здольных да Гульні, прывязаць іх да сябе і навучыць з гранічнай дасканаласцю. Нашы курсы і семінары пачынаюць наведваць сотні вучняў, і многія расстаюцца з імі, не давучыўшыся, але з лепшых мы рыхтуем сапраўдных адэптаў, майстроў сваёй справы; і кожны з вас ведае, што ў нашым мастацтве, як і ва ўсякім іншым, няма мяжы ў росце і што кожны з нас, увайшоўшы ў эліту, усё жыццё будзе працаваць над далейшым развіццём, удасканаленнем, паглыбленнем сябе самога і нашага мастацтва і не лічыцца з тым, уваходзіць ён у склад нашага апарату пасадных асоб ці не. Часта мы чуем галасы, быццам эліта — раскоша, а таму, бачыце, не варта выхоўваць большай колькасці элітных майстроў, чым трэба на пасады. Тут мы скажам, што нашыя пасадныя асобы існуюць не дзеля саміх сябе, і далёка не кожны можа быць чыноўнікам, як, напрыклад, далёка не кожны добры філолаг можа быць добрым педагогам. У кожным разе, мы, людзі на пасадах, ведаем і адчуваем вельмі добра, што рэпетытары не проста наш запас адораных і вопытных гульцоў, якімі мы папаўняем свае рады і атрымліваем сваіх пераемцаў. Я б нават сказаў, што гэта — пабочная функцыя нашай эліты, хоць перад людзьмі недасведчанымі мы гэтую функцыю падкрэсліваем, калі ўжо гаворка заходзіць пра сэнс і права на існаванне ўсяго нашага інстытута. Не, мы зусім не глядзім на рэпетытараў як

на будучых Магістраў, кіраўнікоў курсаў, служак Архіву, — яны ёсць самамэта, іх невялікі атрад і ёсць сапраўдная радзіма і будучыня Гульні; менавіта ў іх, у гэтых некалькіх дзесяткаў гадоў і сэрцаў прайграюцца ходы і варыянты, узлёты Гульні і яе дыялогі з духам часу і адасобленымі навукамі. Толькі тут наша Гульня гуляецца паўнацэнна і правільна, з поўнай аддачай сілы, толькі тут, у нашай эліце, яна самамэта і свяшчэннае служэнне, толькі тут яна свабодная ад дылетанцтва, ад вучонага верхаглядства, ад важнічання і гэтаксама ад прымхлівасці. Вам, вальдцэльскім рэпетытарам, даверана будучыня нашай Гульні. І калі яна — сэрца, найзапаветнейшая сутнасць Касталіі, дык вы — самае запаветнае і жывое ў нашым Селішчы Гульні, вы — соль Педагагічнай правінцыі, яе дух і яе вечная трывога. Няма чаго баяцца, што колькасць вашая будзе занадта вялікая, ваша руплівасць занадта моцная, а палкасць да выдатнай Гульні занадта гарачая; памнажайце іх, нагнятайце іх! Як вам, так і ўсім кастальцам ёсць, па сутнасці, толькі адна небяспека, да якой мы ўсе дзень у дзень, гадзіна ў гадзіну павінны быць гатовыя. Ідэя нашай Правінцыі і нашага Ордэна трымаецца на двух прынцыпах: на аб'ектыўнасці, праўдалюбстве ў пошуках і на пеставанні медытатыўнай мудрасці і гармоніі. Трымаць абодва прынцыпы ў раўнавазе азначае быць мудрымі і вартымі нашага Ордэна. Мы любім навукі, кожны сваю, і ўсё ж ведаем, што адданасць навуцы не заўсёды здольная ўберагчы чалавека ад карыслівасці, заганнасці і марнасці, гісторыя ведае шмат прыкладаў, і вобраз доктара Фаўста — гэта ж якраз літаратурная папулярызацыя памянёнай небяспекі. Былі стагоддзі, калі людзі шукалі ратунку ў зліцці інтэлекту і рэлігіі, даследавання і аскезы, іх universitas litterarum кіравалася тэалогіяй. Для нас медытацыя, шматскладовая ёгічная практыка ёсць тая «прылада», якою мы намагаемся заклясці звера ў саміх сабе і затоенага ў кожнай навуцы д'ябла. Але вы не горш за мяне ведаеце, што наша Гульня мае свайго д'ябла і што ён здольны штурхнуць нас да бяздушнай віртуознасці, да самалюбнасці, да артыстычнага славалюбства, да ганарлівасці, да спроб захапіць уладу над іншымі і тым самым да злоўжывання гэтай уладай. Вось чаму ў нас такая пільная патрэба ў іншым выхаванні, апрача інтэлектуальнага, вось чаму мы падпарадкавалі сябе маралі

Ордэна; зусім не дзеля таго, каб наша актыўнае духоўнае жыццё ператварыць у летуценне, душэўна вегетатыўнае, наадварот, каб захаваць здольнасць да найвышэйшых духоўных узлётаў. Нам не трэба імкнуцца да ўцёкаў з vita activa ў vita contemplativa[1], але мы павінны быць у бясконцых вандроўках паміж імі і адчуваць сябе дома адначасова і тут і там, павінны жыць у кожным з іх».

Мы працытавалі тут Кнэхтавы словы, запісаныя і захаваныя ягонымі вучнямі, бо словы гэтыя незвычайна ярка выяўляюць яго погляды на сваю службу, у кожным разе, у першыя гады яго магістарства. Пра выдатныя педагагічныя здольнасці Кнэхта, з якіх спачатку ён сам дзіву даваўся, гаворыць, між іншым, безліч яго лекцый і выступленняў, што дайшлі да нас. Высокая пасада прынесла яму нечаканае і вялікае адкрыццё, вучыць было надзвычай лёгка, і гэта давала яму вялікую радасць. Гэта сапраўды было нечакана, датуль ён ніколі не марыў пра педагагічную кар'еру. Зрэшты, як і ўсім членам эліты, яму ў апошнія гады студэнцтва даручалі чытаць лекцыі; замяшчаў каго-небудзь, вёў курсы Гульні розных ступеняў, часцей, праўда, як асістэнт, але ў тыя часы свабода даследаванняў і крайняя засяроджанасць на прадмеце яго заняткаў былі яму такія дарагія і важныя, што ён, хоць ужо і тады быў добры і любімы педагог, глядзеў на такія даручэнні як на непажаданую заваду. І, нарэшце, у бенедыктынскім кляштары ён таксама вёў курсы, якія мелі, праўда, самі па сабе малое значэнне і яшчэ меншае для яго самога: вучэнне ў айца Якава, знаёмства з ім адсунулі тады ўсё астатняе. Больш за ўсё яму хацелася ў той час быць спраўным вучнем, успрымаць і ўбіраць у сябе ўсё, што яму падносілі. Цяпер жа вучань сам ператварыўся ў настаўніка, як настаўнік, справіўся з велізарнай задачай, што ўстала перад ім адразу пасля ўступлення на высокую пасаду: у барацьбе за свой аўтарытэт, за тоеснасць асобы і пасады ён перамог.

Пры гэтым ён зрабіў два адкрыцці: радасць перадаваць другому інтэлекту назапашаныя духоўныя багацці і бачыць, як яны ператвараюцца там у зусім іншыя формы і выпраменьванні, гэта значыць, радасць вучыць; і потым ён адкрыў змаганне з непаддатнай індывідуаль-

[1] сузіральнае жыццё (*лац.*).

насцю студэнта або школьніка, заваяванне і захаванне аўтарытэту і духоўнага кіраўніцтва, гэта значыць, радасць выхоўваць. Ён ніколі не аддзяляў адно ад другога, за ўвесь час свайго майстэрства не толькі падрыхтаваў шмат добрых і выдатных адэптаў Гульні, але і асабістым прыкладам, заклікам, сваім строгім доўгацярпеннем, абаяльнасцю і сілай характару выявіў у большасці сваіх вучняў і развіў тое лепшае, на што яны былі здольныя.

Дазволіўшы сабе заскочыць наперад, мы паведамім і пра набыты пры гэтым даволі характэрны вопыт.

Спачатку ён меў справы толькі з элітай, так сказаць, з верхнім пластам сваіх вучняў, з студэнтамі і рэпетытарамі, часам аднаго з ім узросту, і даволі вопытнымі адэптамі Гульні. Заваяваўшы эліту, ён асцярожна і вельмі паступова, з году ў год, стаў усё менш і менш аддаваць ёй часу і сілы, пакуль нарэшце яму не ўдалося амаль цалкам перадаручыць яе сваім давераным супрацоўнікам. Працэс гэты трываў гады, і з году ў год Кнэхт пераходзіў з сваімі лекцыямі, курсамі і практыкаваннямі да ўсё маладзейшых вучняў, і пад канец ён — што ўжо вялікая рэдкасць у Магістра Гульні — пачаў весці пачатковыя курсы самых маладых, гэта значыць, шкаляроў, яшчэ не студэнтаў. Пры гэтым ён выявіў, што чым маладзейшыя і менш падрыхтаваныя яму даставаліся вучні, тым большую радасць прыносіла іх вывучэнне. Пераход ад гэтых малодшых і самых маладых да студэнтаў, або нават да эліты, бываў яму непрыемны і каштаваў вялікай намогі. Часам ён адчуваў жаданне вярнуцца яшчэ далей і паспрабаваць сваю сілу сярод яшчэ маладзейшых, тых, хто яшчэ не ведаў ні курсаў, ні Гульні; яму хацелася б, напрыклад, у Эшгольцы або ў якой-небудзь іншай падрыхтоўчай школе выкладаць маленькім хлопчыкам латынь, спевы або алгебру, а там жа панавала куды менш інтэлектуальная атмасфера, чым нават на пачатковых курсах Гульні. Затое там ён меў бы яшчэ больш паддатных навучанню, яшчэ больш прыдатных да выхавання вучняў, а выкладанне і выхаванне складалі б там яшчэ больш непарыўнае цэлае.

У апошнія два гады свайго магістарства ён у пісьмах двойчы называе сябе «школьным настаўнікам», нібы нагадваючы пра тое, што выраз «Magister Ludi», які ў шэрагу пакаленняў азначаў у Касталіі толькі «Магістр

Гульні», спачатку быў проста прэдыкатам школьнага настаўніка.

Пра здзяйсненне гэтых жаданняў, зразумела, не магло быць і гаворкі, — гэта былі мары, як яно бывае, калі ў зімовую халепу чалавек марыць пра блакітнае летняе неба. Кнэхту былі ўжо застаўлены ўсе дарогі, абавязкі яго вызначаліся пасадай, але пасада ў вялікай меры давала яму права самому вызначаць, як яму правіць свае абавязкі, дык з бегам часу — спачатку ён, бадай што, не ўсведамляў гэтага — яго цікавасць спакваля ўсё больш скіроўвалася на выхаванне самых маладых з даступных яму ўзростаў. Чым старэйшы ён рабіўся, тым мацней яго вабіла моладзь. Прынамсі, мы можам канстатаваць гэта сёння. У той самы час крытычнаму назіральніку цяжка было б знайсці ў вядзенні магістарскіх спраў што-небудзь ад дылетантызму і самаволля. Да таго ж сама пасада зноў і зноў прымушала Магістра вяртацца да эліты, нават у перыяды, калі ён цалкам перадавяраў вядзенне семінараў і Архіва сваім памочнікам і «ценю»; такія справы, як, напрыклад, штогадовыя спаборніцтвы і падрыхтоўка вялікай публічнай Гульні, заўсёды прымушалі яго падтрымліваць жывую штодзённую сувязь з элітай. Ён неяк сказаў жартам свайму сябру Фрыцу: «Гісторыя ведала цароў, якія ўсё сваё жыццё пакутавалі ад непадзеленай любові да сваіх падданых. Душа ў іх ірвалася да аратых, пастухоў, рамеснікаў, настаўнікаў і вучняў, але як рэдка яны бачылі іх, вечна вакол іх круціліся міністры, вайскоўцы, быццам сцяной адгароджваючы іх ад народа. Так і Магістр: ён парываецца да людзей, а бачыць толькі калег, яму хочацца пасядзець з вучнямі і дзецьмі, а бачыць ён вучоных і эліту».

Аднак мы і праўда занадта забеглі наперад, а таму вернемся да першага года Кнэхтавага магістарства. Пасля наладжання жаданых адносін з элітай яму, як добраму і ўсё ж пільнаму гаспадару, след было заручыцца падтрымкай служак Архіва, уважыць канцылярыі, вызначыць яе месца ў агульнай структуры; да таго ж няспынна паступала шырокая карэспандэнцыя, а пасяджэнні і цыркуляры Вярхоўнай калегіі ўвесь час заклікалі яго да рашэння новых задач і выканання ўсё новых абавязкаў, разуменне і слушнае вызначэнне чарговасці якіх вымагала немалых намаганняў. Прычым часта прыходзілася займацца пытаннямі, у рашэнні якіх

былі зацікаўлены розныя факультэты Педагагічнай правінцыі, схільныя зайздросціць адзін аднаму, напрыклад, пытаннямі кампетэнцыі.

І толькі паступова, з усё большым захапленнем, ён спазнаваў таямнічую і магутную сілу Ордэна — гэтай жывой душы кастальскай дзяржавы і чуйнага вартаўніка яго канстытуцыі.

Так беглі месяцы, поўныя працы, і ў думках у Кнэхта ні разу не знайшлося месца Тэгулярыусу, хіба што толькі неўсвядомлена ён даручаў яму якую-небудзь працу, каб ратаваць яго ад непамернай незанятасці. Фрыц страціў таварыша, бо той падняўся на недасяжную вышыню, стаў начальнікам, да якога як да прыватнай асобы ён ужо не меў доступу, у адносінах да якога трэба было быць паслухмяным, звяртацца да яго на «вы» і «шаноўны». Аднак усе даручэнні Магістра ён прымаў як адмысловы клопат і знак асабістай увагі. Гэты капрызны адзіночка, ці то дзякуючы ўзвышэнню сябра і вельмі ўзнятаму настрою эліты, ці то праз гэтыя даручэнні заразіўся агульным узбуджэннем і адчуў, у той меры, у якой гэта было яму па сіле, незвычайны прыліў энергіі; у кожным разе, ён пераносіў зменenae становішча лепей, чым сам чакаў у той момант, калі Кнэхт у адказ на вестку пра яго прызначэнне выслаў яго ад сябе. Да таго ж Фрыцу хапіла розуму і спагады, каб зразумець або хоць здагадацца, якое неверагоднае было напружанне, якое вялікае было выпрабаванне, што выпала на долю сябра. Ён бачыў, што той як бы ахоплены полымем, выгарае з сярэдзіны, і адчуваў гэта і перажываў вастрэй, чым сам паддоследны. Не шкадуючы сілы, Тэгулярыус выконваў усе заданні Магістра, і калі ён калі-небудзь сур'ёзна і шкадаваў пра сваю нямогласць і сваю непрыдатнасць да адказнага служэння, калі адчуваў гэта як недахоп, дык менавіта цяпер, калі так прагнуў паслужыць любаснаму сябру і быць яму карысным памочнікам, як афіцыйная асоба, як «цень».

Букавыя лясы пад Вальдцэлем ужо пачалі жоўкнуць, калі аднойчы, прыхапіўшы з сабой невялічкую кніжку, Кнэхт выйшаў у магістарскі сад побач з сваім жытлом у той прыгожы садок, які так любіў нябожчык Магістр Томас і, як Гарацый, сваімі рукамі ўрабляў, той садок, які калісь, як свяшчэннае месца адпачынку і самапаглыблення Магістра, здаваўся Кнэхту і іншым шкалярам і студэнтам нейкім зачараваным вострavам муз,

нейкім Тускулам, і дзе ён цяпер, з таго часу як сам стаў Магістрам і гаспадаром саду, так рэдка бываў і наўрад ці хоць раз нацешыўся ім у вольны час. І вось ён выйшаў усяго на чвэрць гадзіны пасля трапезы, дазволіў сабе бестурботна прайсціся паміж кустоў і кветнікаў, дзе яго папярэднік пасадзіў некалькі вечназялёных паўднёвых раслін. Потым ён перанёс плеценае крэсла на сонейка — у цяні рабілася халаднавата — сеў на яго і разгарнуў кніжку. Гэта быў «Кішэнны каляндар Магістра Гульні», складзены сем ці восем дзесяцігоддзяў таму назад тагачасным Магістрам Людвігам Васэрмалерам, і з таго часу ўручаны ўсім пераемцам з адпаведнымі дапаўненнямі, папраўкамі і скарачэннямі. Гэты каляндар быў задуманы як vademecum[1] Магістрам, асабліва нявопытным, і быў у першыя гады павадыром з тыдня ў тыдзень, праз увесь запоўнены працаю год, часам намёкам, а часам і больш падрабязна раячы, што і як трэба рабіць. Кнэхт знайшоў старонку цяперашняга тыдня і ўважліва прачытаў яе. Не знайшоўшы нічога нечаканага або асабліва тэрміновага, ён у самым нізе натыкнуўся на дапіску: «Паступова пачынай засяроджваць свае думкі на штогадовай Гульні. Табе здасца, што яшчэ рана, занадта рана, і ўсё ж я раю, калі няма ў цябе ў галаве гатовага плана, хай з гэтага дня не праміне ніводнага тыдня або хоць месяца, каб ты не падумаў пра публічную Гульню. Запісвай свае думкі, выкарыстоўвай кожныя свабодныя паўгадзіны, каб праглядзець схему якой-небудзь класічнай партыі, не забудзься прыхапіць яе з сабой і ў службовыя паездкі. Рыхтуйся, але не старайся сіламаць выціснуць з сябе ўдалую думку. Часцей разважай пра прыгожую святочную задачу, якая чакае цябе, дзеля якой ты павінен сабраць усю сваю сілу і адпаведна сябе наладзіць».

Словы гэтыя напісаў прыкладна тры пакаленні таму назад стары і мудры чалавек, майстар сваёй справы, між іншым, у той час, калі Гульня фармальна дайшла да сваёй вяршыні і ў кожнай партыі можна было знайсці шмат аздоб, а ў выкананні — багацце арнаменту, як мы гэта бачым, напрыклад, у часы позняй готыкі або ракако ў архітэктуры і дэкаратыўным мастацтве; і менавіта тады, прыкладна за два дзесяцігоддзі, у Гульні з'явілася нешта перлавае, нешта несапраўднае, бляск

[1] настольная кніга, указальнік дарогі (*лац.*).

не перлаў, а перлаў штучных, шкляных, нейкае сэнсавае ўбоства і пустазвонства, здавалася, гэта толькі гарэзлівая, какетлівая гульня з велягурыстымі завіткамі, нейкае падскокванне, нейкае эквілібрыстычнае лунанне самага вытанчанага і разнастайнага рытмічнага малюнка. Сустракаліся адэпты Гульні, якія разважалі пра стыль таго часу як пра даўно страчаны чароўны ключ, але былі і іншыя, якія ўспрымалі яго як чыста вонкавы, перагружаны вытанчанасцю дэкадэнцкі і немужчынскі стыль. Адзін творца і майстар тагачаснага стылю і склаў магістарскі каляндар-памятку, поўны такіх зычлівых і выдатна прадуманых парад і напамінкаў; і пакуль Ёзэф Кнэхт дапытліва чытаў і перачытваў каляндар, у грудзях у яго нарадзілася нешта светлае і радаснае, узнік настрой, які быў у яго і раней, як ён думаў, усяго адзін раз, і ён успомніў, што гэта было пад час той медытацыі перад самай інвестытурай, калі ён уявіў сабе цудоўны карагод Магістра музыкі і Ёзэфа, майстра і вучня, старасці і маладосці. Мабыць, пажылы, нават вельмі стары чалавек калісьці прыдумаў і запісаў гэтыя словы: «хай не праміне ніводнага тыдня...» і «не старайся сіламаць выціснуць з сябе ўдалую думку». Мусіць, гэты чалавек гадоў дваццаць, калі не больш, займаў высокую пасаду Магістра, несумненна, у тую ахвочую да Гульні эпоху ракако ён змагаўся з даволі спешчанай і самаўпэўненай элітай і сам стварыў больш за дваццаць бліскучых штогадовых Гульняў, якія трывалі тады па чатыры тыдні, і сам кіраваў імі; чалавек вельмі стары, якому штогадовы абавязак ствараць вялікую ўрачыстую Гульню даўно ўжо не азначаў высокага гонару і радасці, а хутчэй цяжар, вялікую працу, задачу, на выкананне якой трэба было настроіць сябе, пераканаць, неяк дастымуляваць. Да гэтага мудрага старца і вопытнага дарадцы Кнэхт адчуваў не толькі ўдзячнасць і павагу — каляндар не раз служыў яму добрую службу, — але і нешта падобнае на радаснае, вясёлае, нават крыху гарэзлівае пачуццё перавагі, перавагі маладосці. Бо сярод многіх клопатаў Магістра Гульні, з якімі ён нядаўна сутыкнуўся, гэтага аднаго ён не ведаў: каб не забыцца, каб своечасова ўспомніць пра штогадовую Гульню, і ён не ведаў таксама, што за гэтую задачу можна брацца без асаблівай сабранасці і радасці, што табе можа не хапіць ухвацістасці або, яшчэ горш, выдумкі. Кнэхт, які апошнімі месяцамі здаваўся сабе даволі старым, у гэ-

тую хвіліну адчуў сябе дужым і маладым. У яго не было магчымасці доўга аддавацца гэтаму цудоўнаму пачуццю, ён не мог нацешыцца ім да канца — чвэрць гадзіны, адведзеныя на адпачынак, амаль прайшлі. Але светлае, радаснае пачуццё гэта не пакінула яго адразу: кароткі адпачынак у магістарскім садзе, пераrортванне календара ўсё-такі нечым узбагацілі яго. Ён адчуў не толькі разрадку і хвіліннае радаснае смакаванне жыцця, яго азарылі дзве думкі, якія адразу і прынялі форму рашэнняў. Першае: калі ён пастарэе і стоміцца, ён складзе з сябе высокія абавязкі, як толькі ў кампазіцыі штогадовай гульні ўбачыць надакучлівы абавязак і не будзе ведаць, што для яе прыдумаць. Другое: ён рашыў, без адкладу, пачаць падрыхтоўку да сваёй першай штогадовай Гульні, узяць сабе ў памочнікі і таварышы Тэгулярыуса, — гэта будзе прыемна і радасна сябру, ды і яму самому паслужыць своеасаблівым трамплінам, які дасць магчымасць удыхнуць новае жыццё ў паралізаваную дружбу. Чакаць нейкага штуршка або зачэпкі ад сябра — нельга, ініцыятыва павінна ісці ад яго, Магістра.

А сябру тут знойдзецца шмат работы! Яшчэ з часоў Марыяфельса Кнэхт насіўся з думкай пра адну Гульню, якую ён і рашыў цяпер выкарыстаць у сваёй першай штогадовай урачыстасці. У аснову структуры і вымярэнняў гэтай Гульні — у гэтым якраз і была яго шчаслівая знаходка — ён хацеў пакласці старадаўнюю канфуцыянскую рытуальную схему кітайскага дворыка, арыентаванага па напрамках свету, з яго варотцамі, сцяной духаў, суадносінамі і прызначэннем гаспадарчых і жылых будынкаў, падпарадкаванасцю іх сузор'ям, календару, сямейнаму жыццю, з яго сімволікай і правіламі пасадкі саду. Калісьці даўно, у часы вывучэння каментарыяў да «І-Цзін», міфічны парадак і значэнне гэтых правілаў уяўляліся яму як асабліва прывабнае і любаснае ягонаму сэрцу падабенства космасу і месца, якое займае чалавек у светабудове; ён знайшоў таксама, што старажытны народны дух у гэтым традыцыйным размяшчэнні дзівосна гарманічна спалучаецца з духам спекулятыўна-вучоным, духам мандарынаў і магістралаў. Ён ужо даўно з любоўю, праўда, не робячы ніякіх запісаў, выношваў у душы гэты план, і ў галаве ў яго ён склаўся канчаткова; толькі ўступленне на высокую пасаду перашкодзіла Кнэхту прадоўжыць яго распра-

цоўку. Цяпер, у гэтую хвіліну, ён прыняў рашэнне пабудаваць сваю штогадовую Гульню паводле гэтай ідэі кітайцаў, а Фрыцу, калі ён здолее прасякнуцца духам яго задумы, ён цяпер жа даручыць падрыхтоўку агульнай кампазіцыі і перакладу яе на мову Гульні. Але тут адразу ўзнікла і перашкода: Тэгулярыус не ведаў кітайскай мовы. Вывучыць яе ў такі кароткі час было немагчыма. Зрэшты, калі Тэгулярыус будзе строга прытрымлівацца ўказанняў Магістра і Усходнеазіяцкага інстытута, дык, калі яшчэ пакарыстаецца літаратурай, ён зможа пранікнуць у магічную сімволіку кітайскага двара — справа ж не ў філалогіі.

Фрыцу спатрэбіцца на гэта шмат часу, асабліва таму, што ён — чалавек спешчаны, не здольны працаваць кожны дзень. Трэба адразу даць усяму ход. Прыемна ўражаны, Кнэхт усміхнуўся: а яно ж і праўда, гэты такі асцярожны стары чалавек, які склаў каляндарпамятку, меў рацыю з сваім напамінкам.

Ужо на другі дзень — прыёмная гадзіна скончылася раней як звычайна — Кнэхт выклікаў Тэгулярыуса. Той з'явіўся, склаў паклон з крыху падкрэсленым паслушэнствам, прынятым ім цяпер з Кнэхтам, і быў вельмі здзіўлены, калі звычайна такі скупы на словы Кнэхт, хітравата кіўнуўшы яму, спытаўся:

— Ты памятаеш, як мы з табой яшчэ ў студэнцтве нібыта паспрачаліся, ды мне так і не ўдалося схіліць цябе на свой бок? Гаворка ішла пра каштоўнасць і значэнне Усходнеазіяцкага інстытута, асабліва пра вывучэнне кітайскай мовы, і я ўсё стараўся пераканаць цябе таксама займацца ў гэтым інстытуце і вывучаць кітайскую. Ну вось, прыгадаў! А цяпер мне прыкра робіцца, што я не пераканаў цябе тады. Як добра было б, калі б ты ведаў кітайскую! Мы з табой хораша папрацавалі б.

Ён яшчэ крыху пацвяліў сябра, давёў яго цікаўнасць да мяжы і толькі пасля гэтага прапанаваў: ён, бач, у самы блізкі час збіраецца пачаць распрацоўку плана штогадовай Гульні, і калі Фрыцу будзе прыемна, ён просіць яго ўзяць на сябе галоўны клопат, як калісьці ён перад спаборніцтвам выканаў асноўную працу для Гульні, — Кнэхт у той час гасцяваў у бенедыктынаў. Фрыц зірнуў на яго з недаверам, уражаны да глыбіні душы; ён быў усхваляваны ўжо адным ласкавым сяброўскім тонам і распраменёным тварам Ёзэфа, які ў апошнія

месяцы ўяўляўся яму толькі загадцам і Магістрам. Расчулены, узрадаваны, прыняў ён прапанову, і не толькі як гонар і выказванне даверу, — ён зразумеў і ацаніў усё значэнне гэтага высокага жэсту: гэта была спроба ўваскрэсіць дружбу, адчыніць дзверы. Тэгулярыус адмёў Кнэхтавы сумненні наконт кітайскай мовы і тут жа папрасіў Шаноўнага цалкам распараджацца ім.

— І добра, — рэзюмаваў Магістр. — Рады тваёй згодзе. Значыцца, у пэўныя гадзіны мы з табой зноў будзем таварышамі па працы і па занятках, як у тыя, такія далёкія цяпер, часы, калі мы сядзелі разам, і не толькі распрацоўвалі, але і змагаліся за нашы гульні. Мяне гэта радуе, Фрыц. А цяпер ты павінен перш за ўсё асвоіцца з самой ідэяй, на якой я хачу пабудаваць гульню. Табе трэба ўявіць сабе, што такое кітайскі дом і якія правілы выконваюцца пры яго будаўніцтве. Я адразу дам табе рэкамендацыі ва Усходнеазіяцкі інстытут, дзе, упэўнены, табе дапамогуць. Не, пачакай, мне прыйшло ў галаву нешта лепшае: паспрабуем шчасця з Старэйшым Братам, пустэльнікам з Бамбукавага гаю, пра якога я табе калісьці многа расказваў. Магчыма, ён палічыць прыніжэннем сваёй годнасці альбо непажаданай завадай уступаць у зносіны з асобай, якая не ведае кітайскай, але паспрабаваць усё-такі варта. Калі ён захоча, дык і з цябе зробіць сапраўднага кітайца.

Неўзабаве пасля гэтай гутаркі Старэйшаму Брату было паслана пісьмо з запрашэннем прыбыць у Вальдцэль госцем Магістра Гульні, дзе яму будзе паведамлена, якая да яго ёсць просьба. Але кітаец так і не пакінуў Бамбукавага гаю. Кур'ер прывёз ад яго пісьмо, напісанае тушшу па-кітайску. У ім было: «Гонар убачыць вялікага чалавека. Аднак падарожжы вядуць да перашкод. На ахвярапрынашэнне бяруць два сасуды. Узвышанага вітае малодшы». Гэта прымусіла Кнэхта, між іншым, не без цяжкасці, угаварыць Фрыца паехаць самому ў Бамбукавы гай, каб выпрасіць прыёму і навучання. Але невялікае падарожжа гэта не дало вынікаў. Пустэльнік прыняў Тэгулярыуса ў гаі з ледзь не падданніцкай ветлівасцю, але на ўсе пытанні адказваў дружалюбнымі сентэнцыямі на кітайскай мове і, нягледзячы на рэкамендацыйнае пісьмо Магістра Гульні, напісанае на выдатнай рысавай паперы, не запрасіў госця нават зайсці. Расчараваны, так нічога і не дабіўшыся,

Тэгулярыус вярнуўся ў Вальдцэль, прывёз з сабой Магістру лісток, на якім была намалявана залатая рыбка, а над ёю — старадаўняе кітайскае выслоўе. Давялося Фрыцу выправіцца ва Усходнеазіяцкі інстытут і ўжо там пашукаць шчасця. Тут рэкамендацыі Кнэхта ўсплёніліся: пасланцу Магістра Гульні дапамаглі як маглі, і неўзабаве ён сабраў усё, што толькі можна было сабраць да такой тэмы, не ведаючы мовы. Пры гэтым ён сам захапіўся Кнэхтавай ідэяй пакласці ў аснову Гульні сімволіку кітайскага дворыка, прымірыўся са сваёй няўдачай у Бамбукавым гаі і забыўся пра яе.

Калі Кнэхт выслухаў справаздачу пра безвыніковую паездку да Старэйшага брата, а потым, застаўшыся адзін, зірнуў на выслоўе і залатую рыбку, яго агарнулі ўспаміны пра атмасферу вакол гэтага дзівоснага пустэльніка, пра тое, як ён сам, Кнэхт, гасцяваў у хацінцы, вакол якой заўсёды шалясцела лісце бамбуку і пастуквалі сцяблінь крываўніку, прыгадаў ён і сваю былую свабоду, студэнцкую вольніцу — увесь каляровы рай юнацкіх мрояў. Як хараша здолеў гэты смелы і дзівакаваты анахарэт адысці ад свету і ўберагчы сваю свабоду, як надзейна хаваў ад усяго свету ціхі бамбукавы гаёк, як глыбока і моцна ўжыўся ён у гэтую ахайную, педантычную і мудрую кітайшчыну, што ўжо стала яго другой натурай, як моцна яго замыкала з году ў год, дзесяцігоддзе за дзесяцігоддзем, у сваім магічным коле, сненне яго жыцця, ператварыўшы яго сад у Кітай, яго хаціну — у храм, яго рыбак — у божышчы і яго самога — у мудраца! Глыбока ўздыхнуўшы, Кнэхт адвёўся ад гэтых успамінаў. Сам ён ішоў або яго вялі другія па іншай дарозе, і цяпер задача была — прайсці гэты прадвызначаны шлях, не пазіраючы на другі і не збочваючы.

Разам з Тэгулярыусам ён склаў план і за некалькі з цяжкасцю вырваных гадзін склаў сваю Гульню, перадаўшы ўсю работу са зборам матэрыялаў у Архіве і запісы двух першых варыянтаў сябру Фрыцу. Новы змест надаў іх дружбе новае жыццё, новыя формы, ды і сама Гульня, над складаннем якой яны працавалі, у многім набыла іншыя рысы, узбагацілася, дзякуючы своеасаблівасці і тонкай фантазіі Тэгулярыуса. Фрыц належаў да вечна незадаволеных і ў той жа час удастатказаных сціплымі вынікамі людзей, якім уласціва бясконца папраўляць усімі ўхвалены букет або накрыты

стол, з малой дробязі рабіць няма ладу што, працу на цэлы дзень.

І ў пазнейшыя гады Кнэхт рашыў ужо не мяняць устаноўленага звычаю: вялікая штогадовая Гульня павінна быць справай двух. Тэгулярыуса гэта ўдвайне задавальняла: сябру і Магістру ён стаў карысны і нават незаменны ў такой важнай справе, самую ж урачыстасць ён адсвяткуе як ананімны, але добра вядомы эліце саўтар штогадовай Гульні.

Позна ўвосень на першым годзе службы, калі сябар яго яшчэ займаўся кітайскай, Магістр, перачытваючы запісы ў канцылярскім дзённіку, напароўся на такі: «Прыбыў студэнт Пётр з Манпора, рэкамендаваны Magister musicae, перадаў прывітанне ад былога Магістра музыкі, просіць даць яму дах і начлег і дапусціць да працы ў Архіве. Размешчаны ў бакавой прыбудове для студэнтаў». Што ж, студэнта разам з яго хадайніцтвам ён мог спакойна перадаць людзям з Архіва, гэта была руціна. Але вось «прывітанне ад былога Магістра музыкі» — гэта ўжо было асабіста яму. Кнэхт папрасіў выклікаць студэнта. Той быў маўклівы малады чалавек, вонкава палымяна-летуценны, яўна адзін з манпорскай эліты, у кожным разе, аўдыенцыя ў Магістра была яму не навіна. Кнэхт спытаўся, што студэнт мае перадаць ад старога Магістра музыкі.

— Прывітанне, — адказаў студэнт, — самае сардэчнае і пашаноўнае прывітанне, Вялебны, а таксама запрашэнне.

Кнэхт папрасіў госця сесці.

Старанна падбіраючы словы, хлопец сказаў:

— Як я ўжо казаў, глыбокашаноўны Магістр даручыў мне, калі на тое выдасца нагода, прывітаць вас. Ён прасіў таксама даць вам знак, што ў самым блізкім часе, як мага хутчэй, ён хацеў бы вас пабачыць у сябе. Ён запрашае вас або, у кожным разе, хацеў бы, каб вы наведалі яго ў бліжэйшы час, зразумела, калі вы зможаце спалучыць гэта са службовай паездкай і калі вам гэта не будзе цяжка. Такое прыкладна яго даручэнне.

Кнэхт выпрабавальна зірнуў на маладога хлопца. Канечне, ён адзін набліжаны да старца.

— Як доўга ты збіраешся затрымацца ў нашым Архіве, studiose? — асцярожна спытаўся ён.

— Роўна столькі, Вялебны, — пачуў ён адказ, —

колькі вам спатрэбіцца на падрыхтоўку вашай паездкі ў Манпор.

Кнэхт задумаўся.

— Добра, — сказаў ён нарэшце, — але скажы, чаму тое, што ты перадаў мне ад імя старога Магістра, ты перадаў сваімі словамі, а не даслоўна, як таго трэба было чакаць?

Пётр не адвёў вачэй, павольна, старанна падбіраючы словы, як быццам гаворачы на чужой мове, адказаў:

— Даручэння мне не давалі, Вялебны, а таму я не мог перадаць яго слова ў слова. Вы ведаеце майго глыбокапаважанага настаўніка, і вам павінна быць вядома, што ён чалавек надзвычай сціплы; у Манпоры пра яго кажуць, быццам у маладосці, калі ён быў яшчэ рэпетытарам, але сярод эліты ўжо лічыўся будучым Магістрам музыкі, студэнты празвалі яго «Вялікім пакорнікам». І вось гэтая яго сціпласць, спалучаная з гатоўнасцю да служэння, далікатнасцю і цярплівасцю, пасля таго як ён дайшоў да старога веку і асабліва пасля таго, як ён выйшаў у адстаўку, яшчэ больш вырасла, вы гэта, канечне, ведаеце не горш за мяне. Такая сціпласць ніколі не дазволіла б яму прасіць вас пра візіт, якое б гарачае жаданне ў яго ні было. Вось чаму, domine, я не меў гонару перадаць вам такое даручэнне і ўсё ж зрабіў так, як быццам мне гэта было даручана. Калі гэта памылка, дык воля ваша лічыць запрашэнне, якога не было, запрашэннем, якога няма.

Кнэхт крыху ўсміхнуўся.

— Ну, а твае заняткі ў Архіве Гульні, дарагі мой? Ці гэта толькі зачэпка?

— О не! Мне трэба заканспектаваць некалькі хадоў, так што ў самым блізкім часе мне ўсё адно давялося б пакарыстацца вашай гасціннасцю. Але я падумаў, што будзе лепш, калі я крыху прыспешу гэта невялікае падарожжа.

— Вельмі добра, — згадзіўся Магістр, зноў пасур'ёзнеўшы. — Ці будзе мне дазволена папытацца ў вас пра прычыну такой паспешлівасці?

На хвіліну хлопец заплюшчыў вочы, наморшчыў лоб, быццам ад пытання яму забалела. Потым, зноў дапытліва і па-юнацку крытычна зірнуўшы на Магістра, сказаў:

— На гэтае пытанне адказу няма, хіба што вы рашыцеся паставіць яго больш дакладна.

— Пастараюся зрабіць гэта. Значыць, здароўе старога Магістра благое? Вы баіцеся за яго?

Нягледзячы на вялікую стрыманасць Кнэхтавых інтанацый, студэнт заўважыў любоўны клопат пра старога Магістра, і менавіта тады, упершыню за ўвесь час, у яго панурым позірку праблiснула нешта падобнае да зычлівасці, голас яго загучаў больш прыветліва, нязмушана, і нарэшце ён сказаў адкрыта, што ў яго было на душы.

— Пане Магістр, — сказаў ён Кнэхту, — вы можаце быць спакойныя, стан здароўя Вялебнага не надта благі, у яго заўсёды было добрае здароўе, здаровы ён і сёння, хоць старасць даволі моцна аслабіла яго. Не тое каб выгляд яго моцна змяніўся або сіла пачала імкліва ападаць: ён робіць невялікія шпацыры, кожны дзень крыху музыцыруе і да самага нядаўняга часу даваў урокі ігры на аргане двум вучням, зусім яшчэ навічкам, — ён заўсёды любіў бачыць каля сябе дзяцей. Аднак тое, што і ад гэтых двух апошніх вучняў ён некалькі тыдняў таму назад адмовіўся, ёсць усё ж нейкі сімптом, які прымусіў мяне насцярожыцца; з таго часу я пачаў уважліва сачыць за Вялебным, і няраз убачанае мною прымушала мяне задумвацца. Такая прычына майго прыезду. Апраўданнем такіх думак і наступных крокаў можа служыць тое, што і я калісьці быў вучнем у старога Магістра музыкі, яго любімым вучнем, дазволю сабе сказаць, і пераемнік яго вось ужо год як прыставіў мяне да старца ў якасці фамулуса ці кампаньёна, даручыў мне даглядаць яго. Даручэнне гэтае раднае мне, бо няма нікога, да каго я меў бы такое пачуццё прывязанасці і павагі, як да майго старога настаўніка і абаронцы. Гэта ён адкрыў мне тайну музыкі, навучыў мяне служыць ёй, і калі я, звыш таго, у нейкай меры пранік у сэнс і прызначэнне нашага Ордэна, здабыў нешта, падобнае на сталасць і ўнутраную ўпарадкаванасць, дык усё гэта ідзе ад яго і складае яго заслугу. Вось ужо год, як я зусім перасяліўся да яго. Праўда, я яшчэ заняты некаторымі даследаваннямі, наведваю курсы, але я заўсёды гатовы яму паслужыцца, я яго сатрапезнік, спадарожнік на шпацырах і партнёр пры музыцыраванні, а ўночы — сплю праз сцяну ад яго. Пры такой блізкасці я магу даволі дакладна назіраць, так бы мовіць, ступені яго старэння, яго фізічнага затухання, і сёй-той з маіх таварышаў часам спагадліва, а

то і з'едліва адгукаецца пра дзіўную пасаду, якая вызначыла такога маладога чалавека, як я, у слугі і спадарожнікі старому Магістру. Але яны не ведаюць, і, бадай што, ніхто не ведае лепей за мяне, якая старасць наканавана Магістру, як ён спакваля слабее і чэзне целам, усё менш есць, усё болей стамляецца пасля маленькіх праходак, не будучы, шчыра кажучы, хворы, і ў цішыні сваёй старэчай пары ўсё больш ператвараецца ў самую духоўнасць, у багавейнасць, годнасць і прастату. І калі ў маёй ролі фамулуса або сядзелкі і ёсць нейкія цяжкасці, дык яны толькі ў тым, што Вялебны не хоча быць аб'ектам абслугі і клопату, што ён па-ранейшаму хоча толькі даваць і ніколі не браць.

— Дзякую табе, — сказаў Кнэхт, — мяне радуе, што пры Вялебным такі аддадзены і ўдзячны вучань. А цяпер скажы мне, нарэшце, калі ўжо ты гаворыш не з даручэння свайго настаўніка, чаму мой прыезд у Манпор здаецца табе такім мусовым?

— Вы толькі што з трывогай папыталіся пра здароўе старога Магістра музыкі, — адказаў студэнт, — мабыць, мой прыезд выклікаў у вас страх, ці не захварэў ён, ці не варта пасяшацца, каб паспець развітацца з ім? Я і праўда думаю, што варта. Не магу сказаць, што канец яго блізка, але ж Вялебны развітваецца з жыццём па-свойму. Вось ужо некалькі месяцаў, як ён зусім адвык гаварыць, і калі ён заўсёды аддаваў перавагу сціпласці, а не шматслоўю, дык цяпер ён стаў такі ўжо сціплы і ціхі, што я міжволі пачынаю трывожыцца. Калі я ўпершыню не атрымаў адказу на сваё пытанне і гэта пачало паўтарацца ўсё часцей і часцей, я спачатку быў падумаў, ці не аслабеў у яго слых, аднак неўзабаве высветліў, што ён чуе па-ранейшаму добра, я правяраў гэта не адзін раз. Мне заставалася толькі падумаць, што ён рассеяны, не можа засяродзіцца. Аднак і гэтае тлумачэнне было беспадстаўнае. Хутчэй за ўсё ён даўно ўжо як бы ў дарозе і, пакідаючы нас, усё больш і больш замыкаецца ў сваім свеце; напрыклад, ён даўно ўжо нікога не наведвае і нікога не пускае да сябе, праходзяць дні, а ён не бачыць нікога, апроч мяне. Ну, вось з таго часу, як усё гэта пачалося — гэтая адхіленасць, гэтая адсутнасць — з таго часу я і стараюся прыводзіць да яго тых сяброў, якіх, як я ведаю, ён любіў найбольш. Калі б вы, domine, пабылі ў яго, вы, несумненна, вельмі і вельмі парадавалі б свайго старэйшага сябра, я ўпэў-

нены, і вам удалося б яшчэ раз пабачыцца менавіта з тым чалавекам, якога вы любілі і шанавалі. Пройдзе некалькі месяцаў, а можа, і тыдняў, і радасць яго ад сустрэчы з вамі будзе ўжо меншая, магчыма, ён і не пазнае вас, нават не заўважыць.

Кнэхт устаў, падышоў да акна і нейкі час, глыбока дыхаючы, глядзеў перад сабою. Калі ён зноў павярнуўся да студэнта, той ужо ўстаў, думаючы, што аўдыенцыя закончана. Магістр падаў яму руку.

— Яшчэ раз дзякую табе, Пётр, — сказаў ён. — Табе, відаць, вядома, што ў Магістра ёсць такія-сякія абавязкі. Я не магу надзець капялюш і рушыць у дарогу, спачатку трэба ўсё дагнаць да ладу. Думаю да паслязаўтрага ўпраўлюся. Як ты лічыш, ці паспееш ты закончыць сваю працу ў Архіве? Га? Тады я паведамлю табе, як толькі ўпраўлюся.

І сапраўды, Кнэхту ўдалося праз некалькі дзён разам з Пётрам адбыць у Манпор. Калі яны, прыехаўшы, адразу рушылі ў абсаджаны садамі павільён старога Майстра музыкі, у ціхую закутную келлю, яны пачулі з кутняга пакоя музыку, пяшчотную і празрыстую, але ўпэўненую і дзівосна бадзёрую музыку. Мабыць, там сядзеў стары і двума пальцамі найграваў двухгалосную мелодыю. Кнэхт адразу пазнаў яе: гэта была п'еса канца шаснаццатага стагоддзя са зборнікаў двухгалосных песнапенняў. Ён спыніўся, яго праваднік таксама, абодва яны пачалі чакаць, пакуль Магістр дайграе. Толькі тады Пётр гучна звярнуўся да старца і паведаміў яму, што ён прыехаў і прывёз з сабой госця. Старац паказаўся ў дзвярах і ветліва ўсміхнуўся ім. Гэтая ўсім любая ўсмешка Магістра музыкі была такая па-дзіцячы адкрытая, прамяніста-сардэчная і прыветлівая; прайшло амаль трыццаць гадоў, як Ёзэф Кнэхт упершыню ўбачыў яе, і расхінуў, і падарыў сваё сэрца гэтаму добраму настаўніку, у той шчымліва-шчасны ранішні час у музычным класе, і з таго часу ён часта бачыў яе, гэтую ўсмешку, і кожны раз з глыбокай радасцю і дзіўнай расчуленасцю, а тым часам як валасы ў настаўніка сівелі і потым зусім пабялелі, як яго голас рабіўся ўсё цішэйшы, поціск рукі слабеў і паходка рабілася павольнай, яго ўсмешка зусім не траціла сваёй прамяністасці і абаяльнасці, сваёй чысціны і шчырасці. І цяпер сябар і вучань старога магістра ўбачыў, пераканаўся: іскрысты і маўклівы покліч ад гэтага ўсмешлівага

старэчага аблічча, чые блакітныя вочы і далікатны румянец з гадамі рабіліся ўсё святлейшыя, быў ужо не той, не ранейшы і звыклы — ён стаў запаветнейшы, больш таямнічы і інтэнсіўны.

Толькі цяпер Ёзэф Кнэхт усвядоміў, да чаго, зрэшты зводзілася просьба студэнта Пётры і наколькі ён сам, думаючы, што паддаецца гэтай просьбе, аддзячаны з лішкам.

Першы чалавек, з якім ён падзяліўся гэтай думкай, быў яго сябар Фэрамонтэ, на тую пару бібліятэкар славутай музычнай бібліятэкі Манпора. Ён якраз і апісаў гутарку ў адным пісьме.

— Наш стары Магістр музыкі, — сказаў Кнэхт, — быў жа і твой настаўнік, і ты яго вельмі любіў, скажы, а цяпер ты часта бачыш яго?

— Не, — адказаў Карла, — не, я, зразумела, сустракаю яго нярэдка, калі ён выходзіць на шпацыр, а я якраз выходжу з бібліятэкі, але гутарыць з ім мне ўжо некалькі месяцаў не даводзілася. Ён жа вельмі замыкаецца ў сабе і, мусіць, не надта пераносіць люднасць. Раней ён аддаваў цэлы вечар такім, як я, сваім былым рэпетытарам, тым, хто служыў у Манпоры, але ўжо прыкладна з год, як вечары гэтыя адмененыя, і ўсіх вельмі здзівіла, калі стары Магістр паехаў на вашу інвестуру ў Вальдцэль.

— А калі ты сустракаў яго, — спытаўся Кнэхт, — табе не кінуліся ў вочы ніякія перамены?

— О, вы, мабыць, гаворыце пра яго выдатны выгляд, пра яго весялосць, дзіўнае ззянне ад яго. Канечне, мы заўважылі гэта. Па меры таго як слабне яго сіла, весялосць расце з кожным днём. Мы даўно прывыклі да гэтага, вам жа яно адразу кінулася ў вочы.

— Яго фамулус Пётр — усклікнуў Кнэхт, — бачыць яго часцей за нас, але нават ён не змог прывыкнуць да гэтага. Ён сам выправіўся ў Вальдцэль, каб павабіць мяне прыехаць сюды, вядома, падшукаўшы добрую нагоду. Што вы думаеце пра яго?

— Пра Пётра? Ён няблага ведае музыку, аднак хутчэй педантычнага, чым творчага складу чалавек, крыху цяжкаваты або тугадумны. Старому Магістру музыкі ён аддадзены бясконца і аддаў бы за яго жыццё. Мне здаецца, што яго служэнне пры абажаным загадцы і куміры забірае яго без астатку, ён апанаваны ім. У вас не склалася такога ўражання?

— «Апанаваны»? Мне здаецца, гэты малады чалавек не проста апанаваны пэўнай слабасцю або палкасцю, ён не проста закаханы ў свайго старога настаўніка і абагаўляе яго, — ён апантаны і зачараваны сапраўдным феноменам, які ён лепш бачыць або лепш успрымае пачуццём, чым усе вы. Я раскажу табе, сведкам чаго я толькі што быў. Сёння я пайшоў да старога Магістра музыкі, якога не бачыў ужо больш як паўгода; з некалькіх намёкаў яго фамулуса я зразумеў, я мала чаго або і зусім нічога не меў бы з гэтага візіту: мне проста стала страшна, што шаноўны стары ў бліжэйшы час можа нас назаўсёды пакінуць, і я паспяшаўся сюды, спадзеючыся яшчэ раз пабачыцца з ім. Калі ён пазнаў і прывітаў мяне, твар яго засвяціўся, але пры гэтым ён нічога не сказаў, толькі вымавіў маё імя і падаў руку, і мне здалося, што і рух гэты, і сама рука свецяцца, што ад усяго гэтага чалавека або, прынамсі, ад яго вачэй, белых валасоў і бледна-ружовай скуры плыве нейкая ціхая і халодная праменнасць. Я сеў поруч з ім, ён адаслаў студэнта толькі позіркам і павёў са мной самую доўгую, дзівосную размову, у якой я калі-небудзь браў удзел. Спачатку, праўда, мяне азадачвала і прыгнятала, ды і сароміла, што я ўвесь час звяртаўся да старога і задаваў пытанні, і на ўсе ён адказваў мне толькі позіркам; я ніяк не мог уразумець, ці азначаюць для яго паведамленні і пытанні нешта большае, чым дакучлівы шум? Гэта мяне збівала з панталыку, расчароўвала і стамляла, я здаваўся сабе лішнім і настырным: што б я ні казаў Магістру, на ўсё ён адказваў толькі ўсмешкай або кароткім позіркам. Больш таго, калі б гэтыя позіркі не былі такія зычлівыя і сардэчныя, я падумаў бы, што старац непрыхавана пацяшаецца з мяне, з маіх расказаў і роспытаў, з усёй маёй непатрэбнай паездкі і майго візіту да яго. Зрэшты, нешта яно такое і праўда хавалася ў яго маўчанні і ўсмешцы, у іх і праўда быў нейкі адпор, настаўленне на розум, але выяўлялася гэта інакш, на іншым узроўні, на іншай сэнсавай ступені, чым гэта маглі б зрабіць, скажам, пакеплівыя словы. Я павінен быў спачатку знясілець і пераждаць поўны крах маіх, як мне здавалася, цярпліва-ветлівых спробаў завязаць гутарку, перш чым я пачаў здагадвацца, што гэты старац мог бы без лішняга клопату справіцца з такім цярпеннем, такой упарцістасцю і такой ветлівасцю, якія былі б у сто разоў большыя за

мае. Магчыма, гэтыя мае спробы паўтараліся чвэрць гадзіны альбо паўгадзіны, — мне здалося, што прайшло паўдня, я пачаў ужо ў нуд убірацца, пачаў стамляцца і душу сабе ад'ядаць, пачаў шкадаваць, што паехаў, у роце ў мяне перасохла. Вось ён сядзіць перада мною, шанаваны мною чалавек, мой заступнік, мой сябар, які, колькі памяці, заўсёды валодаў маім сэрцам і даверам і ні разу не пакінуў ніводнага майго слова без адказу, а цяпер ён сядзіць перада мною і чуе, як я гавару, альбо, бадай, і не чуе, увесь схаваўшыся і затаіўшыся за гэтым сваім ззяннем, за сваёй усмешкай, за сваёй залатой лічынай, недасягальны, увесь ужо часцінка іншага свету, з іншымі законамі, і ўсё, што я хацеў перадаць яму словамі з нашага свету ў яго свет, усё адскоквала ад яго, як дождж ад каменя. Нарэшце — у мяне ўжо не заставалася надзеі — магічная заслона апала, нарэшце ён прыйшоў мне на дапамогу, нарэшце сказаў штосьці! І гэта былі адзіныя словы, пачутыя мною ад яго за ўвесь сённяшні дзень.

«Ты стамляеш сябе, Ёзэф», — вымавіў ён ціхім голасам, поўным дабрыні і клопату, які ён у яго, ты ведаеш сам. Вось і ўсё. «Ты стамляеш сябе, Ёзэф».

Быццам ён доўга назіраў, як я над нечым цяжка працую, і захацеў мяне асцерагчы. Словы гэтыя ён вымавіў крыху цяжкавата, быццам даўно ўжо нічога не гаварыў. Адначасова ён паклаў сваю руку, лёгкую, як матылёк, руку, мне на плячо, пільна зазірнуў мне ў вочы і ўсміхнуўся. У гэтае імгненне я быў пераможаны. Нешта з яго прасветленага маўчання, нешта ад яго цярплівасці і спакою перадалося мне, і раптам у мяне адслеплі вочы на той паварот, які адбыўся ў яго быцці: ён сышоў, сышоў ад людзей у моўчу, ад слоў — да музыкі, ад думак — да адзінага. Я зразумеў, што спадобіўся ўбачыць, я зразумеў нарэшце гэтую ўсмешку, гэтае ззянне яго; перада мной быў святы і праведнік, які на хвіліну дазволіў мне пабыць у ягоных промнях, а я, дурны, хацеў уцягнуць яго ў гутарку, забавіць размоваю. На шчасце, прасвятленне прыйшло не надта позна. Ён жа мог адаслаць мяне і тым навечна адхіліць. Тады я пазбавіўся б самага незвычайнага і высокага, што калі-небудзь перажываў у жыцці.

— Бачу, — сказаў Фэрамонтэ задуменна, — што вы ўгледзелі ў нашым Магістры нейкае падабенства святога, і я рады пачуць гэта менавіта ад вас. Прызнаюся,

да ўсякага іншага апавядальніка, які б расказаў мне такое, я паставіўся б з самым вялікім недаверам. Далібог, я не люблю містыкі, а як тэарэтык і гісторык музыкі я прыхільнік ясных катэгорый. Як што мы, кастальцы, не хрысціянская кангрэгацыя і не індыйскі або даоскі манастыр, дык залічэнне аднаго нашага да святых, гэта значыць, да нейкай чыста рэлігійнай катэгорыі, уяўляецца мне, па сутнасці, недапушчальным, і каму-небудзь іншаму, а не табе — даруйце, не вам, domine, — я за такое залічэнне зрабіў бы вымову. Зрэшты, думаю, што вы не будзеце хадайнічаць пра кананізацыю шаноўнага Магістра ў адстаўцы, да таго ж у нашым Ордэне не знойдзецца і адпаведнай інстанцыі. Не, не перапыняйце мяне, я кажу зусім сур'ёзна, мае словы — не жарт. Вы расказалі мне пра ваша перажыванне, і я павінен прызнацца, што прысаромлены вашым расказам; хоць абмаляваны вамі феномен не ўнік маёй увагі і ўвагі маіх манпорскіх калегаў, аднак мы толькі прынялі яго да ведама і ўдзялілі яму мала ўвагі. Мне давядзецца падумаць наконт прычыны майго промаху і раўнадушнасці. Тая акалічнасць, што пераўтварэнне старога Магістра так кінулася ў вочы і стала для вас сенсацыяй, тым часам як я яго ледзь прыкмеціў, натуральна тлумачыцца наступным:ператварэнне гэтае вы ўбачылі нечакана, у гатовым выглядзе, я ж быў сведкам паступовага яго развіцця. Той стары Магістр, якога вы бачылі шмат месяцаў таму назад, і той, з якім вы сустрэліся сёння, досыць розныя паміж сабой, але мы, яго суседзі, бачачы старога часта, амаль не заўважалі перамен у ім ад адной сустрэчы да другой. Аднак, прызнаюся, гэта тлумачэнне мяне не задавальняе. Перад нашымі вачыма праходзіць нешта падобнае на дзіва, і хай працэс гэты быў крыху запаволены і непрыкметны, але калі б мы сталі бесстароннімі, яно павінна было б уразіць нас. Вось я і дайшоў да прычыны маёй абыякавасці: я зусім не быў бесстаронні. Я не заўважыў феномена таму, што не хацеў яго заўважаць. Я заўважаў, як, зрэшты, і ўсе навокал, усё большую маўклівасць і адасобленасць нашага Вялебнага і адначасова ўзмацненне яго зычлівасці, усё больш светлы і незразумелы бляск яго аблічча, калі ён, сустрэўшыся, моўчкі адказваў на мой паклон, — усё гэта я, як і ўсе астатнія, добра заўважаў. Але я ўнутрана супраціўляўся таму, каб убачыць нешта большае, і супраціўляўся я не ад недахопу павагі

да старога Магістра, а часткова ад непрыязнасці да культу вялікіх людзей і да сентыментальнасці, часткова ж ад непрыязні да гэтага асобага выпадку сентыментальнасці, а менавіта ад таго віду культу, які вызнае studiosus Petrus. Вось што я сабе зазначыў, пакуль вы расказвалі мне пра свае ўражанні.

Кнэхт засмяяўся.

— Немалая кружная дарога, каб усвядоміць сваю агіду да небаракі Пётры! Аднак жа як? Па-твойму, я таксама сентыментальны містык і аддаюся забароннаму культу святых і вялікіх людзей? Альбо ты прызнаеш за мною тое, у чым адмаўляеш студэнту, і паверыў, што мы нешта ўгледзелі і перажылі, і прытым не сны і летуценні, а нешта рэальнае і прадметна істотнае?

— Вядома, я прызнаю гэта за вамі, — адказаў Карла нерашуча і як бы ў роздуме, — нікому ў галаву не прыйдзе сумнявацца ў вашым перажыванні і ў хараstве ці прасветленасці старога Магістра музыкі, здольнага нам усміхацца такой неверагоднай усмешкай. Усё пытанне ў тым, куды мы падзенем гэты феномен, як яго назваць і як растлумачыць? Гэта гучыць неяк па-настаўніцку, але мы, кастальцы, якраз і ёсць школьныя настаўнікі, і калі я імкнуся знайсці сабе месца і імя вашаму і нашаму перажыванню, я раблю так не дзеля таго, каб праз абстрагаванне і генералізацыю пазбавіць яго жыццёвасці і хараства, а каб як мага дакладней і ясней замацаваць яго і зафіксаваць. Далося б дзе-небудзь у дарозе пачуць, як селянін або дзіця напявае мелодыю, якое я не ведаю, дык для мяне гэта таксама ёсць перажыванне, і калі я пасля спрабую як мага хутчэй і дакладней запісаць мелодыю ў выглядзе нот, дык гэта зусім не прафанацыя майго перажывання, а хутчэй спроба яго ўзвысіць і ўвекавечыць.

Кнэхт па-сяброўску кіўнуў яму.

— Карла, — сказаў ён, — шкада, што мы цяпер так рэдка бачымся. Не ўсе сябры маладосці вытрымліваюць праверку часам. Я прыйшоў да цябе з сваім расказам пра старога Магістра таму, што ты тут адзіны чалавек, думкаю і спагадай якога я даражу. Ты ўжо цяпер сам вырашай, як табе паставіцца да майго аповяду і як ты вызначыш самотніцтва нашага Магістра. Я быў бы рады, калі б ты наведаў яго і пабыў у святле ягонай аўры. Хай гэта стан даброці, прасвятлення, умудронасці, шчасця ці як нам яшчэ ласкай станецца яго назваць,

адносіцца да рэлігійнага жыцця: калі мы, кастальцы, не маем ні царквы, ні сімвала веры, дык усё-такі пабожнасць нам ні ў якім разе не чужая, стары Magister musicae якраз быў чалавек дабрачынны. І калі ўжо ўва ўсіх рэлігіях мы сустракаем звесткі пра прасветленых, пераўтвораных, пра тых, на каго сышла мілата, дык чаму б і нашай кастальскай дабрачыннасці не зацвісці калі-небудзь такімі самымі кветкамі? Позна, мне ўжо спаць пара, заўтра я рана ад'язджаю. Спадзяюся неўзабаве зноў да вас наведацца. Зрэшты, дазволь я дакажу табе маю гісторыю! Дык вось, пасля таго як ён сказаў: «Ты стамляеш сябе, Ёзэф!» — мне нарэшце ўдалося адолець сваё жаданне навязаць гутарку, і я не толькі змоўк, але адвёў волю сваю ад няправільнай мэты — прымусіць загаварыць гэтага маўчуна, ды яшчэ і выдабыць сабе нешта з гэтай гутаркі. І з той самай хвіліны, як я зрокся гэтага свайго жадання і аддаў усё старцу, астатняе ўладзілася нібы само сабою. Потым ты можаш мае выразы замяніць любымі іншымі, але зараз выслухай мяне, нават калі табе і здаецца, што я не дакладны ў выбары слоў і блытаю катэгорыі. Я праседзеў у старога гадзіну ці паўтары і не магу табе паведаміць, што менавіта адбывалася ў гэты час паміж намі, але ніводнага слова сказана не было. Я толькі адчуў, што, калі маё супраціўленне было зламана, ён прыняў мяне ў свой спакой і ў свой свет, яго і мяне атачала яснасць і дзівосная цішыня. Свядома я не звяртаўся ў той час да медытацыі, але падобнілася гэта менавіта да асабліва ўдалай шчасцядайнай медытацыі, тэмай якой было жыццё старога Магістра. Я сузіраў або перажываў ягоны вобраз і ўвесь яго шлях, пачынаючы з тае пары, з той часіны, калі ён упершыню сустракаў мяне, яшчэ хлопчыка, і да сённяшняга дня. Гэта было жыццё, пазначанае працай і самааддачай, але вольнае ад прымусу, вольнае ад славаблуддзя і поўнае музыкі. І развілася яно так, быццам, зрабіўшыся музыкантам і Магістрам музыкі, ён выбраў музыку як адзіны шлях да найвышэйшай мэты чалавека, да ўнутранай свабоды, да чысціні, да дасканаласці, і з таго часу ён нічога іншага і не рабіў, а толькі аддаваўся музыцы ўсё больш і больш, ачышчаўся ёю — ад майстэрскіх разумных пальцаў чэмбаліста і ад яго неверагоднай музычнай памяці аж да ўсіх частак і органаў цела і душы, аж да пульсу і дыхання, аж да сну і сненняў,

і цяпер ён толькі сімвал або хутчэй нейкае выяўленне, нейкая персаніфікацыя музыкі. У кожным разе, я ўспрымаў тое выпраменьванне, якое ішло ад яго, ці тыя хвалі, якія быццам чароды ўдыхаў і выдыхаў, ішлі ад яго да мяне і ад мяне да яго, як музыку, як цалкам пазбаўленую матэрыяльнасці эзатэрычную музыку, што прымала кожнага, хто ўступаў у магічнае кола, як шматгалосная песня прымае новы голас, які ўступае ў партыю. Слушна, немузыканту гэта даброць раскрылася б і ў іншых падабенствах, бадай, астраном убачыў бы сябе ў вобразе месяца, які абягае планету, або філолаг пачуў бы, як яго клікаюць на ўсёзначнай, магічнай прамове. Не хопіць слоў, я развітваюся. Мне было добра, Карла».

Мы з табою грунтоўна спыніліся на гэтым эпізодзе, бо Магістр музыкі займаў у жыцці і ў сэрцы Кнэхта вельмі важнае месца; дадатковай спакусай была для нас тая акалічнасць, што размова Кнэхта з Фэрамонтэ захавалася ў аўтэнтычным запісе, у адным пісьме Фэрамонтэ. З усіх сведчанняў пра «пераўтварэнне» старога Магістра музыкі гэта — самае ранняе і слушнае, пазней ужо тэма спарадзіла больш чым дастаткова самых розных легендаў і чутак.

## ДВА ПОЛЮСЫ

Гадавая гульня, дагэтуль вядомая і часта ўспамінаная пад назвай «Кітайская хатка», абярнулася поспехам Кнэхту і яго сябру і пацвердзіла, што іх намаганні былі плённыя і што Касталія з яе Калегіяй зрабілі правільны выбар, калі заклікалі Кнэхта на такую высокую пасаду. Вальдцэлю, Селішчу Гульні і эліце зноў было дадзена пережыць радасць ад бліскучага і ўзнёслага свята, больш за тое нават, штогадовая Гульня ўжо даўно не ставалася такой вялікай падзеяй, як гэтым разам, калі такі малады Магістр, вакол якога разгарэліся былі гарачыя спрэчкі, мусіў упершыню паявіцца перад людным сходам і апраўдаць ускладзеныя на яго надзеі і калі, звыш таго, Вальдцэлю трэба было рэваншавацца за леташнія хібы і правал. Цяпер ніхто не хварэў, і парадную цырымонію ўзначальвалі не прыгнечаны намеснік, які ўсё больш яўна абстаўляўся ледзяной незычлівасцю і недаверам эліты і якога хай сумленна, але

паныла падтрымлівалі разнерваваныя афіцыйныя асобы. Маўкліва і недасяжна, з галавы да пят першасвятар, убраная ў белае з залатым постаць на шахматнай дошцы сімвалаў, Магістр яўляў свой і сябраў твор; выпраменьваючы спакой, моц і годнасць, недаступны для буднасці, з'явіўся ён у святочнай зале, сярод мноства гасцей, рытуальнымі рухамі адкрываў акт за актам сваёй Гульні, грацыёзна крэсліў зіхоткім ад золата грыфелем пісьмёны за пісьмёнамі на маленькай дошцы, перад якою стаяў, і гэтыя пісьмёны, накрэсленыя тайнапісам Гульні, імгненна паяўляліся, у сто разоў павялічаныя на велізарнай дошцы — задняй сцяне залы. І тысячы галасоў шэптам паўтаралі іх па складах, і вестуны голасна выгуквалі, а тэлеграф разносіў па ўсёй краіне, і калі напрыканцы першага акта ён накрэсліў на дошцы апошнюю, падсумавальную формулу і, захоўваючы грацыёзную і імпазантную статуру, даў прадпісанні на медытацыю, калі ён адклаў нарэшце свой грыфель і сеў, тым самым паказаўшы найлепшую паставу для самапаглыблення, дык не толькі ў зале, не толькі ў Селішчы Гульні і ва ўсёй Касталіі, але і за яе межамі, у любым краі Зямлі, прыхільнікі Гульні шкляных перлаў малітоўна прыселі для медытацыі і былі ў нерухомасці да таго імгнення, калі ў зале Магістр зноў устаў з месца. Усё адбывалася гэтаксама, як бывала ўжо колькі разоў, і ўсё ж было новае і хвалявала. Абстрактны і, бадай што, выняты з часу свет Гульні быў даволі пругкі, каб у сотнях нюансаў знаходзіць адпаведнасць духоўнаму складу, голасу, тэмпераменту і почырку асобы, асоба ж была досыць выдатная і разумная, каб не ставіць свае знаходкі вышэй за непахісныя ўнутраныя законы Гульні. Памочнікі і партнёры, уся эліта слухалася, як выцвічаныя салдаты, і ўсё-такі ўражанне было такое, быццам кожны з іх, хоць бы ён толькі рабіў разам з усімі паклоны і памагаў закрываць заслону перад заглыбленым у медытацыю Магістрам, выконваў сваю самастойную, народжаную ягоным натхненнем Гульню. З натоўпу ж, з велізарнай на ўсю залу і на ўвесь Вальдцэль абшчыны, з глыбіні тысяч душ, якія па слядах Магістра вяршылі фантастычнае свяшчэннае шэсце праз бясконцыя духоўныя прасторы Гульні з усімі вымярэннямі, прагучаў асноўны акорд свята, глыбокі і вібравальны бас званоў, які складае юным і наіўным членам абшчыны іх найлепшае і ледзь

не адзінае перажыванне на свяце, але і ў спанатраных віртуозаў, у крытыкаў з эліты, у супольнікаў святой дзеі, аж да самога Магістра, выклікае нешта падобнае на багавейнае трымценне.

Гэта было высокае свята, нават пасланцы вонкавага свету адчулі і прызналі яго веліч, і не адзін чалавек стаў у тыя дні адэптам Гульні на ўсё жыццё. Тым больш дзівосна прагучалі словы Ёзэфа Кнэхта, сказаныя яго сябру Тэгулярыусу, калі ён, закончыўшы дзесяцідзённыя ўрачыстасці, падвёў вынікі сваіх уражанняў.

— Мы можам быць задаволеныя — сказаў ён. — Праўда гэта, Гульню і Касталію не параўнаць ні з чым, яны амаль дасканалыя. Бяда, бадай што, у тым, што яны занадта добрыя, занадта прыгожыя; яны настолькі прыгожыя, што іх амаль немагчыма сузіраць, не баючыся за іх. Не хочацца думаць пра тое, што яны, як і ўсё на свеце, у свой час загінуць. Але думаць пра гэта трэба.

Гэтыя словы, якія дайшлі да нас, падводзяць біёграфа да самай датклівай і таямнічай часткі яго задачы, той часткі, якую ён ахвотна адклаў бы яшчэ на нейкі там час, каб спакойна і душаўмілавана, што дазволена апавядальніку ясных і адназначных падзей, давесці да канца сваю аповесць пра поспехі Кнэхта, пра яго ўзорнае праўленне і бліскучае завяршэнне яго жыцця. Аднак нам здавалася б упушчаным, нявартым прадмета нашага расказу, калі б мы не знайшлі і не раскрылі раздвоенасці і палярнасці ў душы і жыцці шаноўнага Магістра ўжо на той стадыі, калі яны яшчэ былі непрыкметныя ўсім, акрамя Тэгулярыуса. Мы нават лічым сваім абавязкам ужо цяпер адзначыць і пацвердзіць гэты ягоны раскол, слушней, няспынную пульсацыю палярнасці ў Кнэхтавай душы, менавіта як самае характэрнае і вартае ўвагі ў натуры гэтага высокашанаванага чалавека. Вядома, аўтару, які захацеў бы апісаць жыццё аднаго з кастальскіх Магістраў толькі ў духу дабрачыннага жыцця ad majorem gloriam Castiliae[1] не было б цяжка скласці расказ пра магістарскія гады Ёзэфа Кнэхта (калі прапусціць яго апошнія хвіліны) у выглядзе яго слаўных заслуг і поспехаў, а таксама распавесці пра бліскучае выкананне ім свайго абавязку. Калі б летапісец захацеў датрымацца толькі дакумен-

---

[1] для большага ўслаўлення Касталіі (*лац.*).

тальных фактаў, дык ніводнае жыццё, праўленне Магістра Гульні, у тым ліку і жыццё Магістра Людвіга Васэрмалера, якое адносіцца да светлай пары Гульні і Вальдцэля, не маглі б даць нам карціны больш беззаганнай, больш вартай захаплення, чым жыццё і праўленнне Магістра Кнэхта. Аднак гэтае праўленне мела самы незвычайны, сенсацыйны, на думку многіх, проста скандальны канец, і канец гэты зусім не быў выпадковасцю або няшчасным выпадкам, а стаў зусім заканамерным, і ў нашу задачу ўваходзіць паказаць, што ён ані не супярэчыць яркім і пахвальным дасягненням і перамогам Вялебнага. Кнэхт — гэта вялікі і ўзорны носьбіт свайго высокага сану, Магістр без страху і дакору. Але ён бачыў і адчуваў бляск Касталіі, якой ён служыў, як няўстойлівую і змяншальную велічыню, ён быў у гэтым бляску не бяздумны і легкадумны, як большасць яго суайчыннікаў-кастальцаў, ён памятаў пра яго пачатак і гісторыю, успрымаў яго як гістарычнае ўтварэнне, падуладнае і паддатнае неадольнай сіле часу. Гэтая здольнасць да непасрэднага адчування гістарычнага працэсу і разуменне сваёй дзейнасці і сваёй асобы як ячэйкі ў агульнай плыні станаўленняў і пераўтварэнняў выспелі ў ім і дайшлі да яго свядомасці дзякуючы заняткам гісторыяй і пад уздзеяннем вялікага айца Якава, але схільнасці і пачаткі такога ўспрыняцця былі закладзеныя ў яго душы намнога раней, і той, каму асоба Ёзэфа Кнэхта стала сапраўды жывою, той, каму ўдалося спасцігнуць склад і сэнс яго жыцця, лёгка знойдзе ў ім гэтыя схільнасці і задаткі.

Калі чалавек у самы распраменены дзень свайго жыцця, пры завяршэнні сваіх першых святочных Гульняў, пасля незвычайна ўдалай і хвалюючай маніфестацыі кастальскага духу, сказаў: «Не хочацца думаць, што Гульня і Касталія, як прыйдзе той час, загінуць, але думаць пра гэта трэба», — дык такі чалавек з самага пачатку, задоўга да таго, як ён быў уведзены ў тайны гісторыі, ужо спазнаў законы сусвету, ужо спасцігнікласць усяго існага і спрэчнасць усяго, што створана чалавечым духам. Азірнуўшыся на мінулае, на дзіцячыя і школьныя гады Кнэхта, мы натыкаемся на звесткі пра тое, што кожны раз, калі з Эшгольца знікаў якінебудзь яго школьны таварыш, які расчараваў настаўнікаў і быў вернуты з эліты ў звычайную школу, гэта наводзіла Ёзэфа на тугу і трывогу. Ніводзін з выключа-

ных вучняў не быў, як нам вядома, асабістым сябрам Ёзэфа; не страта, не выключэнне і знікненне таго ці іншага хлопчыка прыгнятала яго, перапаўняла баязлівай журбою. Не, журба яго была хутчэй ад пэўнага ўзрушэння яго дзіцячай веры ў непарушнасць кастальскага парадку, у дасканаласць Касталіі. У тым факце, што былі хлопчыкі і хлопцы, якім прыпала на долю шчасце трапіць у школу эліты, і яны легкадумна пагардзілі гэтай літасцю і адкінулі яе, было для яго, хто так свята і глыбока ўспрыняў сваё пакліканне, нешта ўразлівае, што сведчыла пра магутнасць некастальскага свету. Магчыма нават — даказаць гэта нельга — такія выпадкі далі ў душы хлопчыка першыя парасткі сумнення ў непагрэшнасці Выхаваўчай калегіі, у якую ён датуль верыў бязмежна, бо выявілася, што Калегія часам прымала ў Касталію і такіх вучняў, якіх праз пэўны час даводзілася адсылаць назад. Незалежна ад таго, ці адыграла якую ролю гэта думка, што стала першым зародкам крытычных адносін да аўтарытэтаў, усякі выпадак, калі вучань эліты збіваўся з дарогі і яго адсылалі назад, Ёзэф перажываў не толькі як няшчасце, але і як нешта ганебнае, як агідную пляму, якая ўсім кідалася ў вочы, бо само існаванне яе было дакорам, і адказнай за яе была ўся Касталія. Адгэтуль, думаецца нам, і ішло пачуццё ўзрушэння і разгубленасці ў Кнэхта ў такіх выпадках. Дзесьці там, за Правінцыяй, быў іншы свет, білася чалавечае жыццё, і свет гэты супрацьстаяў Касталіі і яе законам, не падпарадкоўваўся яе разлікам, не паддаваўся ацуглянню і ўдасканальванню. Вядома, і ў сэрцы ў Кнэхта быў гэты свет. І ў Ёзэфа ўзнікалі парыванні, фантазіі, прыцягненні, якія супярэчылі законам, што над ім панавалі, парыванні гэтыя яму ўдалося ўтаймаваць толькі спакваля, цаною цяжкіх намаганняў. Значыцца, і ў іншых вучняў цяга гэтая магла набыць такую сілу, што прарывалася вонкі, насуперак усім угаворам і карам, і выганялі апантаных ёю назад, у той, іншы свет, дзе пануюць не самаакілзание і дух, а прыродныя інстынкты і парыванні, у свет, што паўстае перад людзьмі, якія верныя кастальскім ідэалам, то ў выглядзе падступнай апраметнай, то поўным спакусаў рысталішчам гульняў і марных забаў. У свядомасць юнакоў многіх пакаленняў паняцце грэху ўвайшло менавіта ў такім кастальскім вытлумачэнні. А праз шмат гадоў, ужо калі быў дарослы, захоплены

гісторыяй, ён ясней зразумеў, што гісторыя не можа ўзнікнуць без элемента і дынамікі гэтага грахоўнага свету, свету эгаізму і стыхійнага жыцця, і што нават такая ўзвышаная фармацыя, як Ордэн, нарадзілася з гэтага каламутнага патоку, а прыйдзе час — зноў будзе ім паглынута. Менавіта праблематычнасць самой Касталіі была першакрыніцай усіх моцных хваляванняў, парыванняў і парушэнняў у жыцці Кнэхта, ніколі праблема гэтая не рабілася для яго толькі абстрактнай, наадварот, яна хвалявала яго да глыбіні душы, як нішто іншае, і ён адчуваў адказнасць за яе. Ён належаў да тых натур, што могуць захварэць, зачаўрацца і нават памерці, убачыўшы, як любая іх сэрцу або святая ідэя, як любая ім айчына або абшчына захворваюць і пакутуюць.

Павядзем, аднак, нітку нашага апавядання і вернемся да першых дзён Кнэхтавага жыцця ў Вальдцэлі, да яго апошніх школьных гадоў і яго славутай сустрэчы з вольным слухачом Дэсіньёры, якую мы ў свой час апісалі досыць падрабязна. Гэтая сустрэча паміж палымяным паборцам кастальскага ідэалу і свецкім Плініё сталася вучню Кнэхту не толькі моцным перажываннем, якое пакінула глыбокі след, але і поўным сэнсу сімвалам. Бо менавіта тады яму была навязана роля, такая ж адказная, як і цяжкая, яна як бы выпадкова выпала яму на долю, але яна настолькі пасавала ягонай натуры, што ўсё яго далейшае жыццё, можна сказаць, было не чым іншым, як няспынным вяртаннем да гэтай ролі, усё было поўным ужываннем у яе. Гэта была роля абаронцы і прадстаўніка Касталіі, якую яму праз дзесяць гадоў давялося іграць зноў перад айцом Якавам і якую ён іграў да канца свайго Магістарства, — абаронцы і прадстаўніка Ордэна і яго ўстанаўленняў. Пры гэтым у ім ніколі не паміралі шчырая гатоўнасць і імкненне вучыцца ў праціўніка і весці наперад Касталію не па шляху замыкання ў сабе і коснай адасобленасці, а дарогай жывога ўзаемадзеяння і дыялогу з вакольным светам. Калі духоўнае і прамоўніцкае аднаборства з Дэсіньёры яшчэ было часткова гульнёй, дык пазней, калі яму давялося сутыкнуцца з магутным праціўнікам і адначасова сябрам у асобе Якава, аднаборства набыло вельмі сур'ёзны характар, і ў абодвух выпадках ён вытрымаў выпрабаванне, быў на вышыні, шмат навучыўся ў праціўнікаў, даваў не меней, чым браў, і

абодва разы, хоць і не перамог сваіх партнёраў — ды, зрэшты, ён і мэты такой не ставіў, — здолеў дабіцца ганаровага прызнання не толькі сваёй асобы, але і падабаронных прынцыпаў і ідэалаў. Калі б нават доўгія гутаркі з вучоным бенедыктынцам не прывялі да практычнага выніку — заснавання паўафіцыйнага прадстаўніцтва Касталіі каля прастола яго свяцейшасці, — яны ўсё роўна мелі б куды большае значэнне, чым пра тое падазравалі вельмі многія кастальцы.

Як у сяброўскім проціборстве з Плініё Дэсіньёры, так і ў далейшым — з вучоным патэрам, Кнэхт, не маючы зносін з светам за межамі Касталіі, усё ж атрымаў уяўленне або, правільней, пэўнае ўяўленне пра гэты свет, чым у Касталіі не кожны мог пахваліцца. За выключэннем часу, праведзенага ў Марыяфельсе, дзе ён, па сутнасці, таксама не меў магчымасці далучыцца да свецкага жыцця, ён у гэтым жыцці нідзе не бачыў і не скаштаваў ад яго нічога, хіба што толькі ў самым раннім дзяцінстве; але праз Дэсіньёры, праз айца Якава, а таксама дзякуючы вывучэнню гісторыі ў яго склалася жывое ўяўленне пра рэчаіснасць, яно склалася галоўным чынам інтуітыўна і абапіралася на даволі абмежаваны вопыт, але яно, аднак, узбагаціла яго шырэйшымі ведамі і яснейшым разуменнем свету, чым пераважную большасць кастальцаў, у тым ліку, бадай што, і кіраўнікоў. Кнэхт быў і заўсёды заставаўся шчырым і верным кастальцам, але ён ніколі не забываўся, што Касталія толькі часцінка, маленькая часцінка свету, хай нават самая каштоўная і любасная.

А што азначала яго дружба з Фрыцам Тэгулярыусам, з гэтым цяжкім і надламаным чалавекам, рафінаваным артыстам Гульні, спешчаным і няспелым кастальцам, які не прызнаваў іншага свету, каму да таго няўтульна і самотна здалося ў Марыяфельсе, сярод грубых бенедыктынаў, што, паводле яго слоў, і тыдня не змог бы там выжыць і бясконца здзіўляўся сваймy сябру, які прабыў там два гады. Мы шмат раздумвалі пра гэтую дружбу, сякія-такія здагадкі давялося адкінуць, другія аказаліся больш жывучыя, але ўсе яны круціліся вакол пытання: у чым карані і сэнс гэтага шматгадовага прыяцельства? Перш за ўсё нам не трэба забывацца, што кожны раз, калі ў Кнэхта завязвалася новая дружба, за выключэннем, хіба што, дружбы з старым бенедыктынцам, не ён шукаў, не ён дамагаўся

яе і меў патрэбу ў ёй. Гэта да яго цягнуліся людзі, ім захапляліся, яму зайздросцілі, яго любілі толькі за высакародства яго натуры; на пэўнай ступені свайго «абуджэння» ён сам усвядоміў гэты свой дар. Так, у першыя гады студэнцтва Тэгулярыус ужо захапляўся ім, шукаў яго дружбы, але Кнэхт заўсёды трымаў яго ад сябе на пэўнай дыстанцыі. Усё ж па некаторых знаках мы можам меркаваць, што ён моцна прывязаўся да свайго сябра. Пры гэтым мы трымаемся думкі, што не адна ягоная незвычайная адоранасць, яго невычэрпная геніяльнасць ва ўсім, што датычылася праблем Гульні, падкупляла Кнэхта. Гарачая і доўгая цікавасць Ёзэфа да Тэгулярыуса тлумачыцца не толькі незвычайнай таленавітасцю сябра, але і яго недахопамі, яго хваравітасцю, гэта значыцца, якраз тым, што адштурхоўвала ад яго іншых жыхароў Вальдцэля і часта здавалася ім нясцерпным. Гэты своеасаблівы чалавек быў такі цэльны касталец, увесь яго лад жыцця быў настолькі немагчымы па-за Правінцыяй, ён настолькі залежаў ад яе атмасферы і высокага ўзроўню ў ёй адукаванасці, што менавіта яго варта было б назваць архікастальцам, калі б у яго не быў такі цяжкі і дзівакаваты нораў. І тым не меней гэты касталец кепска ўжываўся з сваімі таварышамі, яго не любілі, не ўжываўся і з настаўнікамі і начальнікамі, увесь час і ўсюды рабіў перашкоды, выклікаў паўсюднае незадавальненне і напэўна даўно ўжо прапаў бы без абароны і дапамогі свайго смелага і разумнага сябра. Тое, што называлі яго хваробай, было, па сутнасці, пахібай: наравістасцю, недахопам характару, што выяўлялася ў глыбокай непавазе да іерархіі, у вельмі індывідуалістычных поглядах і жыццёвым ладзе; ён толькі таму і падпарадкоўваўся заведзенаму парадку, што гэта было неабходна, мусова, каб яго цярпелі ў Ордэне. Ён быў цудоўны, нават бліскучы касталец па сваёй шматбаковай эрудыцыі, па сваёй нястомнай і ненасытнай руплівасці ў высокім мастацтве Гульні і вельмі пасрэдны, нават дурны касталец па характары, адносінах да іерархіі і маралі Ордэна. Самай галоўнай яго заганай было ўпартае, легкадумнае нядбальства ў медытацыі, сэнс якой якраз у падпарадкаванні асобы і заняткі якой, безумоўна, вылечылі б яго ад нервовай занядужанасці, што і адбывалася кожны раз, калі за дурныя паводзіны і пасля перыядаў узбуджэння або прыгнечання яго прымушалі

выконваць строгія медытацыйныя практыкаванні пад чым-небудзь наглядам, — сродак, якім мусіў часам карыстацца і сам Кнэхт, які ставіўся да яго беражліва і любоўна. Так, у Тэгулярыуса быў свавольны, пераменлівы нораў, ён не прызнаваў суровага падпарадкавання, але затое, калі бываў ва ўзнёслым настроі, калі шчодра рассыпаў бляск свайго песімістычнага дасціпства, умеў зачароўваць слухачоў жывым інтэлектам, і немагчыма было не падупасці абаяльнасці смелага палёту ягонай часам змрочнай фантазіі; але па сутнасці ён быў невылечны, бо сам не хацеў гаення, ані ў што не ставіў гармонію і ўпарадкаванасць, любіў толькі сваю свабоду, сваё вечнае студэнцтва і ўсё сваё жыццё заставаўся пакутнікам, заўсёды нечаканым і непакорным адзіночкай, геніяльным блазнам і нігілістам, замест таго каб ступіць на дарогу падпарадкавання іерархіі і тым самым здабыць сабе спакой. Але ён зусім не даражыў спакоем, не даваў ніякай цаны іерархіі, не дужа баяўся асуды і адзіноты. Адным словам, зусім нясцерпны, невыгодны элемент у сукупстве людзей, якія бачаць свой ідэал у гармоніі. Але менавіта дзякуючы сваёй непадатлівасці ён увесь час уносіў у гэты светлы і зладжаны свет дух жыццёвага супору, служыў яму напамінам, дакорам, перасцярогай, падбухторваў да новых, вольных, забаронных і дзёрзкіх думак, быў у статку наравістай авечкай. Якраз гэтыя ягоныя якасці, як мы лічым, і дапамаглі яму набыць у асобе Кнэхта сябра. Бясспрэчна, у Кнэхтавых адносінах да яго заўсёды была доля спагады, і ён адказваў тым самым на заклік няшчаснага, што ўлез у бяду і звяртаецца да рыцарскіх пачуццяў свайго сябра. Але і гэтага было мала, каб даваць пасілак іхняй дружбе пасля ўзвышэння Кнэхта ў сан Магістра, калі жыццё яго напоўнілася напружанай працай, новымі абавязкамі і адказнасцю. Мы маемся погляду, што ў Кнэхтавым жыцці Тэгулярыус быў не меней патрэбны і важны, чым былі ў свой час Дэсіньёры і айцец Якаў з Марыяфельса; як тыя двое, ён быў бунтоўны элемент, адчыненае аконца ў новыя, шырэйшыя абсягі. У гэтым такім дзіўным сябры, як нам здаецца, Кнэхт адчуў, а з часам і свядома прызнаў прадстаўніка пэўнага тыпу, які існаваў пакуль што толькі ў вобразе гэтага адзінага вешчуна, менавіта ж таго тыпу кастальца, якім ён можа зрабіцца ў будучым, калі новыя сувязі і імпульсы не амалодзяць і не ўмацуюць Касталію.

Тэгулярыус быў, як і большасць адзінокіх геніяў, менавіта вешчуном. Ён па сутнасці, жыў у Касталіі, якой пакуль яшчэ не існавала, але якой яна можа быць заўтра: яшчэ больш адасобленай ад усяго свету, унутрана звыродненай з прычыны застарэласці і расхістанасці медытацыйнай маралі Ордэна, светам, дзе яшчэ магчымыя высакародныя ўзлёты духу і глыбокае самаадцуранне ў імя высокіх каштоўнасцяў, але дзе перад вытанчанай, свабоднай гульнёй духу ўжо не стаяць ніякія мэты, акрамя любавання сваімі адточанымі да дасканаласці талентамі. У Тэгулярыуса Кнэхт бачыў адначасова ўвасабленне найвышэйшых даброцяў і цнотаў Касталіі і грозны знак яе будучай дэмаралізацыі і пагібелі. Выдатна, дзівосна, што існаваў такі Фрыц. Але ператварэнню Касталіі ў ілюзорны свет, населены аднымі тэгулярыусамі, трэба было перашкодзіць. Небяспека такога звыраднення была пакуль яшчэ далёка, але яна была. Варта было Касталіі крыху надбудаваць муры сваёй арыстакратычнай адасобленасці, варта было трошкі хістануцца дысцыпліне ў Ордэне, упасці іерархічнай маралі — і Тэгулярыус перастане быць дзівакаватым адзіночкай, а ператворыцца ў тыповага прадстаўніка здрабнелай і канаючай Касталіі. Думка пра магчымасць такога заняпаду, пра тэндэнцыі да яго, пра існаванне яго ў зародкавым стане — гэта самае важнае адкрыццё Кнэхта і прадмет яго самага вялікага клопату — прыйшла б яму ў галаву намнога пазней або не прыйшла б зусім, калі б не жыў побач з ім знаёмы яму да самых драбніц жыхар будачай Касталіі; на пільны розум Кнэхта ён быў сімптомам і засцерагальным сігналам, якім бывае разумнаму доктару першы хворы, заспеты яшчэ невядомай немаччу. А Фрыц жа не быў пасрэднасцю, гэта быў арыстакрат, талент самага высокага рангу. Калі невядомая пакуль што немач, падгледжаная ў Тэгулярыуса, гэтага вешчуна, пашырыцца і зменіць аблічча Касталіі, калі Правінцыя і Ордэн набудуць калі-небудзь іншую, хваравітую форму, дык будучыя кастальцы ў сваёй масе не будуць таксама і тэгулярыусамі, яны ўспадкуюць не яго каштоўныя дараванні, не яго меланхалічную геніяльнасць, не яго парыўчую мастакоўскую палымянасць, а ў большасці сваёй захаваюць толькі яго непастаяннасць, яго залішнюю захопленасць гульнёй, яго няздольнасць да дысцыпліны і духу салідарнасці. У час трывогі Кнэхта наведвалі

такія змрочныя відзежы і прадчуванні, і ён, вядома, траціў шмат сілы на пераадоленне іх то медытацыйнымі практыкаваннямі, то ўзмоцненай дзейнасцю.

Якраз выпадак з Тэгулярыусам ёсць асабліва красамоўны і павучальны прыклад таго, якім спосабам Кнэхт спрабаваў перабароць усе спрэчныя цяжкія і хваравітыя з'явы на сваім шляху, не абыходзячы іх. Без пільнасці і клопату, без дабрадзейнага кіраўніцтва Кнэхта не толькі рана загінуў бы яго сябар, які жыў пад заўсёднай пагрозай, але ён стаў бы, несумненна, прычынай бясконцых завад і недапушчальных выбрыкаў у Селішчы Гульні, у якіх і без таго не было недахопу з таго часу, як Тэгулярыуса залічылі да эліты. Майстэрства, з якім Магістр накіроўваў свайго сябра на праведную дарогу, ды яшчэ, апрача таго, умеў праводзіць ягоныя таленты на карысць Гульні і натхняць яго на высокія дзеі, беражлівасць і трыванне, з якімі ён пераносіў яго капрызы і зажывошчы, разумна перамагаючы іх і не перастаючы апеляваць да найлепшых якасцей яго прыроды, можа толькі захапляць нас, як прыклад майстэрскага ўмення кантактаваць з чалавекам. Дарэчы, было б высакароднай задачай, якая магла б прывесці да дзівосных адкрыццяў, — мы просім каго-небудзь з гісторыкаў Гульні з поўным разуменнем падысці да гэтай задачы — даследаваць стылістычныя асаблівасці штогадовых Гульняў за час праўлення Кнэхта, аналізаваць гэтыя строгія і пры тым апрамененыя каштоўнай выдумкай, бліскучыя па форме і гэтакія ж арыгінальныя па рытме, хоць і далёкія ад самадастатковай віртуознасці партыі, прычым асноўны іх план і структура, і таксама ўключаныя ў іх склад медытацыйныя практыкаванні былі выключна духоўным дасягненнем Кнэхта, тым часам як чаканка дэталяў і распрацоўка дробных тэхнічных падрабязнасцей уваходзілі ў абавязкі яго памочніка Тэгулярыуса. Калі б нават гэтыя гульнёвыя партыі згубіліся або забыліся, — усё адно вопыт Кнэхтавага жыцця і дзейнасці, заразлівая сіла яго прыкладу не былі б страчаны для нашчадкаў. Але, на наша шчасце, яны не згубленыя, яны запісаныя і захоўваюцца, як і ўсе пратаколы афіцыйных Гульняў, і не ляжаць мёртвым грузам у архівах, а да нашых дзён жывыя і перадаюцца з пакалення ў пакаленне, вывучаюцца студэнтамі, даюць выдатныя прыклады для некаторых курсаў і семінараў Гульні. Разам

з імі жыве і памяць пра таго памочніка, які ў іншым разе быў бы даўно забыты або застаўся б у памяці толькі як дзівосны прывід мінулага, што мільгануў у некалькіх анекдотах. Так Кнэхт, знайшоўшы, нягледзячы ні на што, месца і поле дзейнасці свайму такому цяжка выхавальнаму сябру Фрыцу, унёс немалы ўклад у гісторыю і духоўную скарбніцу Вальдцэля і адначасова забяспечыў даўжэйшае жыццё вобразу гэтага сябра ў памяці наступных пакаленняў. Нагадаем, дарэчы, што ў сваіх памкненнях дапамагчы Тэгулярыусу вялікі выхавальнік ясна ўсведамляў, у чым сіла яго педагагічнага ўздзеяння. Сілай гэтай былі любоў і захапленне сябра. Такія ж захапленне і любоў, пакланенне перад моцнай і гарманічнай асобай Кнэхта, перад яго ўладнасцю Магістр заўважаў не толькі ў Фрыца, але і ў многіх сваіх паплечнікаў і вучняў, і, хутчэй за ўсё, менавіта на такіх да яго адносінах, а не на яго высокім становішчы трымаўся яго аўтарытэт і ўплыў, якія, нягледзячы на яго дабрыню і міралюбства, пашыраліся на многіх людзей. Ён тонка адчуваў, што такое сяброўскае слова прывітання або заахвотка ці, наадварот, — якую шкоду можа прынесці пагардлівая недаступнасць і пагарда да чалавека. Адзін яго вельмі руплівы вучань расказваў, што неяк на лекцыі ці то семінары Кнэхт не звярнуўся да яго, яўна не заўважаючы яго, глядзеў на яго як на пустое месца, і гэта было самай горкай і моцнай карай, якую гэты хлопец перажыў за ўсе школьныя гады.

Мы палічылі патрэбным прывесці ўсе гэтыя меркаванні і спасылкі на мінулае, каб падвесці чытача нашага біяграфічнага нарыса да разумення палярных тэндэнцый у асобе Кнэхта, і, давёўшы наш расказ да зеніту яго жыцця, перайсці да апісання апошніх этапаў гэтай такой змястоўнай біяграфіі. Дзве асноўныя тэндэнцыі або два полюсы гэтага жыцця, яго інь і янь, былі такія: на адным полюсе — тэндэнцыя да вернасці, да традыцыі, да самааддачы ў імя іерархіі, на другім — тэндэнцыя да «абуджэння», да прарыву магічнага кола і да схоплівання і спасціжэння рэчаіснасці. Ёзэфу Кнэхту, як сумленнаму і гатоваму да служэння кастальцу, Ордэн, Гульня і Правінцыя былі святыняй і абсалютнай каштоўнасцю; яму ж, як абуджанаму, неспакойнаму празарліўцу, яны пры ўсёй сваёй святасці ўяўляліся ў станаўленні і барацьбе, зменлівымі ў сваіх абрысах і

ўтварэннях, якія могуць падупасці старэнню, бясплоднасці і заняпаду, і калі іх ідэя заставалася недатыкальнай, дык іх цяперашні стан быў асэнсаваны ім як ненадзейны і варты крытыкі. Ён служыў такой духоўнай супольнасці, сілай і сэнсам якой захапляўся, але бачыў яе слабы бок у схільнасці лічыць сябе за самамэту (забываючыся пра сваю долю ва ўсенародных і сусветных задачах) і, нарэшце, у бліскучым, але ўсё больш і больш асуджаным на бясплённасць адасабленні ад жыцця і свету. Гэтую слабасць ён няясна адчуваў яшчэ ў тыя раннія гады, калі доўга марудзіў і не рашаўся цалкам прысвяціць сябе Гульні; яна, гэтая слабасць, усё настойлівей пранікала ў яго свядомасць у час дыскусій з манахамі і асабліва з айцом Якавам, як зацята ён ні адстойваў супроць іх Касталію; яна пачала набірацца ўсё больш адчувальных сімптомаў з таго часу, як ён зноў жыў у Вальдцэлі і стаў Магістрам, выяўляючыся ў сумленнай, але самадастатковай і чыста фармальнай працы многіх устаноў і яго ўласных падначаленых, у вытанчана пыхлівым штукаванні яго вальдцэльскіх рэпетытараў і, не ў апошнюю чаргу, у кранальна-захоплівым абліччы яго сябра Тэгулярыуса. Завяршыўшы першы, вельмі цяжкі год сваёй працы на высокай пасадзе, калі яму не ўдавалася выгадаць ні хвіліны вольнай на сваё прыватнае жыццё, ён зноў вярнуўся да гістарычных заняткаў і ўпершыню без прадузятасці аддаўся вывучэнню гісторыі Касталіі. Пры гэтым ён пераканаўся, што становішча далёка не такое грунтоўнае, як думала сабе ў сваёй фанабэрыі Правінцыя, а менавіта, што яе сувязі з навакольным светам, яе ўплыў на жыццё, палітыку, асвету ў краіне за апошнія дзесяцігоддзі прыкметна скараціліся. Праўда, з думкай Выхаваўчай калегіі па пытаннях школы і народнай асветы ў парламенце яшчэ лічыліся; праўда, Правінцыя ўсё яшчэ давала краіне вопытных настаўнікаў і карысталася аўтарытэтам ва ўсіх навуковых пытаннях, але ўсё гэта ўжо насіла характар механічнай звычкі. Усё радзей і маладыя людзі з розных пластоў кастальскай эліты ахвоціліся прысвяціць сябе выкладанню ў школах extra muros[1], усё радзей улады і асобныя людзі ў краіне прасілі парады ў Касталіі, чый голас у ранейшыя часы ўважліва выслухвалі нават у асабліва важных

[1] за сценамі (*лац.*).

судовых працэсах. Пры параўнанні ўзроўня адукацыі ў Касталіі і ў астатняй краіне лёгка выяўлялася, што яны зусім не збліжаліся, — наадварот, прорва паміж імі фатальна паглыблялася: чым больш вытанчанай, дыферэнцыяванай, вышуканай, велягурыстай рабілася кастальская духоўнасць, чым больш схіляўся знешні свет пакінуць Правінцыю саму на сябе і расцэньваць яе ўжо не як патрэбу, не як хлеб надзённы, а як іншароднае цела. Ёю крыху ганарыліся, быццам старадаўняй рэліквіяй, яе пакуль што не хацелі нікому аддаваць, але лічылі за лепшае трымацца ад яе на адлегласці і, не маючы пра яе правільнага ўяўлення, прыпісвалі ёй лад думак, мараль і пачуццё перавагі, не вельмі дарэчныя ў рэальным і дзейным жыцці. Цікаўнасць грамадзян да жыцця Педагагічнай правінцыі, іх удзел у яе ўстанаўленнях і спецыяльна ў Гульні шкляных перлаў слабелі ў той самай меры, у якой слабеў удзел кастальцаў у жыцці і лёсе краіны. Кнэхту даўно стала ясна, што менавіта тут крыецца памылка, і тое, што ён як Магістр Гульні ў Селішчы меў справу выключна з кастальцамі і спецыялістамі, яго вельмі засмучала. Адгэтуль і яго імкненне прысвячаць сябе галоўным чынам пачатковым курсам, яго жаданне мець пераважна маладых вучняў — чым маладзейшыя яны былі, тым цясней былі звязаны яшчэ з сусветнай і жыццёвай сукупнасцю, тым меней яны былі вымуштраваныя і замкнёныя ў сваёй спецыяльнасці. Часта нападала на яго шчымлівая туга па шырокім свеце, па людзях, па наіўным жыцці — калі такое яшчэ існавала там, у Невядомым. Гэтая туга і адчуванне пустаты, адчуванне жыцця ў занадта разрэджаным паветры ў той ці іншай меры зведаў амаль кожны з нас, і нават Выхаваўчая калегія ведае пра гэтыя цяжкасці, прынамсі, яна заўсёды і ўвесь час вышуквала сродкі на тое, каб іх пераадолець, і тым, што культывавала цялесныя практыкаванні, і тым, што эксперыментавала з самымі рознымі рамёствамі і садовымі работамі сілілася справіцца з бядой. Як мы можам заўважыць, у Ордэне апошнім часам намецілася тэндэнцыя часткова згарнуць навуковую спецыялізацыю там, дзе яна гіпертрафіраваная, каб за кошт гэтага даць больш увагі медытацыйнай практыцы. Не трэба быць скептыкам і песімістам або адорвенем ордэнскага брацтва, каб прызнаць рацыю за Кнэхтам, які раней за нас зразумеў, што складаны і адчувальны

арганізм нашай рэспублікі старэе і ёсць прычыны, каб яго абнавіць.

Мы ўжо згадвалі, што на другі год свайго высокага магістарства Кнэхт зноў вярнуўся да заняткаў гісторыяй, прычым апрача гісторыі Касталіі ён шмат часу аддаваў вывучэнню фундаментальных і больш дробных прац айца Якава пра ордэн бенедыктынаў. Часам яму ўдавалася абмяняцца думкамі па цікавых яму гістарычных праблемах або абмеркаваць новыя пытанні з панам Дзюбуа і адным філолагам з Койпергейма, які быў нязменным сакратаром на пасяджэннях Вярхоўнай калегіі, і такія гутаркі яго заўсёды асвяжалі і радавалі. У яго штодзённым атачэнні такая магчымасць не надаралася, прычым асабліва яскрава гэтае нежаданне блізкіх яму людзей займацца гісторыяй выяўлялася ў яго сябра Тэгулярыуса. Сярод розных папер нам у рукі дастаўся і лісток з запісам адной такой гутаркі, у якой Тэгулярыус аж зацінаўся, даводзячы, што гісторыя ёсць у кастальцаў прадмет, абсалютна няварты вывучэння. Ён дапускаў, што можна дасціпна і пацешна, а калі ваша ласка, дык і высокапатэтычна, талкаваць пра сэнс і філасофію гісторыі, але гэта такая самая забаўка, як і ўсякая іншая філасофія, і ён нічога не мае, каб запярэчыць, калі каму-небудзь гэта прыемна. Але сам прадмет, сам аб'ект гэтай забавы, гэта гісторыя, ёсць нешта такое агіднае, адначасова банальнае і сатанінскае, адначасова вусцішнае і нуднае, што ён проста не разумее, як можна траціць на яе час. Бо яе адзіны змест — гэта людскі эгаізм і заўсёды аднастайная, вечная барацьба за ўладу, барацьба, якая заўсёды пераацэньвае сябе, сябе ж і ўслаўляе, барацьба за матэрыяльную, грубую, звярыную, быдлячую ўладу, гэта значыць, за тое, чаго ў абсягах кастальца ўвогуле няма, або, калі ўжо на тое, не мае ніякай цаны. Сусветная гісторыя, з яго слоў, ёсць бясконцы, бяздарны, нецікавы аповяд пра тое, як дужыя душаць слабых, і ўвязваць сапраўдную, адзіна важную, надчасавую гісторыю духу з гэтай старою, як свет, дурной калатэчай славалюбцаў за ўладу і кар'ерыстаў за месца пад сонцам або, тым болей, выводзіць першую з другой ужо само па сабе ёсць здрада духу і прымушае яго ўспомніць адну пашыраную ці то ў дзевятнаццатым, ці то ў дваццатым стагоддзі секту, пра якую яму аднаго разу расказвалі і якая сур'ёзна лічыла, быццам ахвяраванні старажыт-

ных народаў, разам з багамі, з іх храмамі і міфамі ёсць нароўні з усімі іншымі прыгожымі рэчамі прычына недахопу або лішку ў ежы або занятасці, вынік арыфметычнай неадпаведнасці паміж заробкам і цэнамі на хлеб, і быццам, значыцца, мастацтвы і рэлігіі ёсць дэкарацыі, так званыя ідэалогіі, якія прыкрываюць цалкам паглынутае голадам і жэрцем чалавецтва. Кнэхта гэтая гутарка развесяліла, і ён спытаўся, нібы мімаходзь, ці не лічыць яго сябар, што гісторыя духу, культуры, мастацтва таксама ёсць гісторыя, якая ўсё-такі пэўным чынам звязана з усякай іншай гісторыяй. Не, палка ўсклікнуў сябар, менавіта гэта ён адмаўляе. Сусветная гісторыя — гэта гонка ў часе, пагоня за выйгрышам, за ўладай, за багаццем, у якой усё заводзіцца пра тое, каму хопіць сілы, удачы або подласці не прапусціць нагоды. Тварэнні ж духу, культуры, мастацтва — цалкам процілеглыя, яны кожны раз ёсць вызваленне ад рабства часу, скачок чалавека з бруду сваіх інстынктаў, з сваёй інертнасці ў іншую плоскасць, у пазачасавае, дазволенае, боскае, цалкам негістарычнае і варожае гісторыі быццё. Кнэхт слухаў яго з прыемнасцю і падахвочваў да далейшых, зусім не без досціпу расказаў, а потым стрымана закончыў гутарку заўвагай:

— Пакланюся тваёй любові да духу і яго дзеяў! Аднак духоўная творчасць ёсць нешта, да чаго не так лёгка далучыцца, як думаюць некаторыя. Гутарка Платона або фраза з хору Генрыха Ісаака, як і ўсё, што мы называем духоўнай дзеяй, або творам мастацтва, або аб'ектывацыяй духу, усё гэта — апошні вынік, канчатковы вынік барацьбы за вышляхетніванне і вызваленне. Я згаджуся з табою, што гэта прарывы з часу ў вечнасць, і ў большасці выпадкаў найбольш дасканалыя творы — тыя, што не нясуць на сабе слядоў сутычак і барацьбы, якія папярэднічалі іх стварэнню. Вялікае шчасце, што мы маем гэтыя творы, бо мы, кастальцы, толькі і жывём за іх кошт, наша творчасць — толькі ў іх узнаўленні, мы ўвесь час жывём у патойбочнай, вынятай з часу і барацьбы сферы, якая складаецца з гэтых твораў, без іх мы нічога пра гэтую сферу не ведалі б. І мы і далей іх адухоўліваем або, калі хочаш, яшчэ больш абстрагуем: у нашай Гульні мы раскладваем гэтыя творы мудрацоў і мастакоў на складнікі, выдабываем з іх стылістычныя правілы, фармальныя схемы, вытанчаныя тлумачэнні і аперуем гэтымі абстрак-

цыямі як будаўнічым каменем. Што ж, усё гэта вельмі прыгожа, пра гэта з табой ніхто не будзе спрачацца. Але не кожны здольны ўсё жыццё дыхаць і карміцца аднымі абстракцыямі. Гісторыя мае адну перавагу перад тым, што вальдцэльскі рэпетытар знаходзіць вартым сваёй увагі: яна займаецца рэчаіснасцю. Абстракцыі выдатныя, але я ўсё ж за тое, каб дыхаць паветрам і есці хлеб.

Час-парою Кнэхту ўдавалася выкраіць трохі часу, каб наведаць старога былога Магістра музыкі. Шаноўны старац, сіла якога прыкметна раставала і які ўжо даўно адвык гаварыць, да апошніх дзён захоўваў светлую засяроджанасць духу. Ён не быў хворы, і яго смерць не была ў поўным сэнсе паміраннем, а толькі паступовай дэматэрыялізацыяй, знікненнем цялеснай субстанцыі, цялесных функцый, тым часам як жыццё ўсё больш засяроджвалася ў ягоных вачах і ў ціхім ззянні яго схуднелага старэчага твару. Для большасці жыхароў Манпора гэта быў знаёмы і свята шанаваны вобраз, але толькі нямногія, сярод іх Кнэхт, Фэрамонтэ і малады Пётр, спадобіліся далучыцца да закатнага бляску і згасання гэтага чыстага і беззаганнага жыцця. Гэтым нямногім, калі яны, духоўна падрыхтаваўшыся і засяродзіўшыся, уступілі ў маленькі пакой, дзе стары Магістр сядзеў у сваім крэсле, дадзена было патрываць у ціхім святле развітання з жыццём, суперажыць творнае без слоў здзяйсненне дасканаласці: нібы ў прасторы нябачных прамянёў праводзілі яны шчаслівыя імгненні ў крышталёвай сферы гэтай душы, далучаючыся да нярэчавай музыкі, і потым вярталіся ў свой дзень з прасветленым і ўмацаваным сэрцам, быццам спускаліся з горных вяршыняў. Настала гадзіна, калі Кнэхт атрымаў вестку пра скон старога Магістра. Ён адразу выправіўся да яго і ўбачыў ціха памерлага на ложку, убачыў яго маленькі твар, расталы і застылы нямы надпіс або арабеску, магічную формулу, якой ужо нельга было прачытаць і якая ўсё ж расказвала пра дасканалае шчасце. Над магілай пасля Магістра музыкі і Фэрамонтэ выступіў і Кнэхт, але ён гаварыў не пра натхнёнага празорцу ад музыкі, не пра вялікага настаўніка, не пра зычліва-разумнага найстарэйшага члена Вярхоўнай калегіі, ён гаварыў толькі пра свята яго старасці і скону, пра тую неўміручую прыгажосць духу, якая адкрылася таварышам яго апошніх дзён.

Мы ведаем з многіх выказванняў, што Кнэхт збіраўся апісаць жыццё старога Магістра, але абавязкі не пакінулі яму вольнага часу на такую працу. Ён навучыўся абмяжоўваць свае жаданні. Аднаму маладому рэпетытару ён сказаў аднойчы: «Як шкада, што вы, студэнты, недастаткова добра разумееце, у якой раскошы, у якой выгодзе вы жывяце. Але і я быў такі самы ў студэнцтве. Вучышся і працуеш, здаецца, і ляноце не аддаешся, думаеш, што маеш права лічыць сябе руплівым, але што можна было б зрабіць, на што можна было б ужыць сваю свабоду, наўрад ці ўсведамляеш. Але вось цябе заклікае Калегія, ты робішся патрэбным, маеш заданне, місію, пасаду, узыходзіш ад адной пасады да другой і неспадзявана заўважаеш, што ты аблытаны сеткамі задач і абавязкаў і заблытваешся ў іх тым больш, чым больш хочаш з іх вырвацца. Усё гэта па сутнасці — дробныя задачы, але кожная з іх патрабуе ўвагі, а ў дзелавым дні заўсёды задач болей, чым гадзін. І гэта добра, інакш і не павінна быць. Але калі мітусішся паміж аўдыторыяй, архівам, канцылярыяй, прыёмнай, пасяджэннямі, дзелавымі выездамі і раптам згадаеш на хвілінку пра тую свабоду, якую меў і страціў, пра свабоду вырашаць незададзеныя задачы, траціць нічым не абмежаваныя, доўгія гадзіны на заняткі, часам так і пацягне на імгненне да гэтай былой свабоды, і ўявіш сабе: вось калі б цяпер яе зноў здабыць, ужо ж бы нацешыўся ўсімі яе радасцямі і магчымасцямі!»

Ён быў вельмі чуйны, калі заходзілася пра тое, каб вызначыць, ці здатны той або іншы ягоны вучань або падначалены на службу ў іерархіі; на кожнае даручэнне, на кожную вакансію ён удумліва выбіраў кандыдатаў, і сведчанні і характарыстыкі, якія ён запісваў у спецыяльную кнігу, паказваюць, якія дакладныя яго меркаванні пра людзей, у якіх ён найвышэй цаніў чалавечнасць і характар. У яго ахвотна пыталіся парады, калі трэба было разгадаць складаны характар і знайсці спосаб ужывацца з ім. Да такіх цяжкіх, напрыклад, належаў студэнт Пётр, апошні любімец старога Магістра музыкі. Гэты малады чалавек быў з пароды ціхіх фанатыкаў, ён здолеў паказаць сябе ў найлепшым святле ў своеасаблівай ролі фамулуса, сядзелкі і малодшага таварыша абагаўлянага ім настаўніка. Але пасля смерці старога Магістра роля завяршылася вельмі натуральна, ён адразу апусціўся ў меланхолію і скруху, якую ўсе

разумелі і пэўны час трывалі, але сімптомы якой неўзабаве пачалі сур'ёзна непакоіць тагачаснага гаспадара Манпора — Магістра музыкі Людвіга. Пётр упарта не згаджаўся пакінуць павільён, дзе «нябожчык правёў апошнія гады», ён ацаляў дамок, скрупулёзна захоўваў у ім абстаноўку і ўвесь парадак у ранейшым выглядзе, глядзеў на пакоі, дзе жыў і памёр настаўнік, на яго крэсла, смяротны ложак і клавесін як на недатыкальныя святыні, якія ён заклікаы берагчы, і адзіным клопатам і турботай сваёй лічыў старанна даглядаць усё гэта і магілу, дзе пакоіўся яго абожаны настаўнік. Ён бачыў свой абавязак у тым, каб прысвяціць жыццё пеставанню культу нябожчыка ў гэтых памятных мясцінах, аберагаць гэта свяцілішча, быць жрацом гэтага храма і, магчыма, марыў ператварыць яго ў месца паломніцтва. Першыя дні пасля пахавання ён наогул адмаўляўся ад ежы, а потым абмежаваў сябе нячастымі і беднымі трапезамі, як гэта было ў апошнія дні ў яго настаўніка; здавалася, ён узяў сабе за мэту ісці па слядах глыбока шанаванага Магістра аж да магілы. Доўга ён такога жыцця вытрываць не мог, затое павёў сябе так, каб не заставалася іншага выйсця, як толькі стаць даглядчыкам дамка і магілы, пажыццёвым ахоўцам памятных мясцін. З усяго было відаць, што малады чалавек, і без таго наравісты, які доўгі час быў у адмысловым становішчы, меў намер што б там ні было захаваць сабе гэтую ўпадабаную прывілею і аніяк не хацеў вяртацца да буднай працы, на якую, відаць, у глыбіні душы ўжо не лічыў сябе здатным. «Што да знакамітага Пётры, які быў пры старым Магістры, дык ён зглуздзіўся», — коратка і холадна было сказана ў адным пасланні Фэрамонтэ.

Канечне, вальдцэльскі Магістр не меў ніякага дачынення да студэнта з Манпора і не нёс за яго ніякай адказнасці, ды і не адчуваў, несумненна, ахвоты ўмешвацца ў манпорскія справы і ўскладаць на сябе лішні клопат. Але злашчасны Пётр, якога давялося сілком выгурыць з яго павільёна, ніяк не супакойваўся і дайшоў да такой нэндзы і скрухі, да таго адасобіўся і адцураўся зямнога жыцця, што на яго ўжо нельга было паўплываць мерамі, звычайнымі пры парушэнні дысцыпліны, а як хлопцавы начальнікі ведалі пра Кнэхтаву да яго прыхільнасць, з канцылярыі Магістра музыкі звярнуліся па раду і дапамогу, а чакаючы адказу, трымаліся з

упарціскам як з хворым і трымалі пад асобым нагля-дам у ізаляваным пакоі аддзялення для нядужых. Магістр Гульні даволі неахвотна згадзіўся ўзяць на сябе гэту далікатную справу, але, падумаўшы над ёю і на-важыўшыся пасільна дапамагчы, адразу прыступіў да яе. Ён папрасіў, каб Пятра прыслалі да яго, з умоваю, аднак, што з ім будуць абыходзіцца як з зусім здаровым чалавекам і пусцяць у дарогу аднаго; Пётру Кнэхт паслаў кароткае, але ветлівае запрашэнне, ён прасіў у хлопца, калі ў Манпоры змогуць без яго абысціся, ненадоўга прыехаць у Вальдцэль і намякнуў, што спадзяецца атрымаць у яго некаторыя звесткі пра апошнія дні старога Магістра музыкі. Пасля некаторага вагання манпорскі ўрач згадзіўся пусціць Пятра, таму перадалі Кнэхтава запрашэнне, і, як Магістр правільна адгадаў, хлопцу, які апынуўся ў такім бядотным становішчы, нішто не магло быць больш прыемным і карысным, як магчымасць хутчэй пакінуць месца сваіх няшчасных прыгодаў; таму Пётр адразу ж згадзіўся ехаць, без лішніх адгаворак добра паснедаў, атрымаў пасведчанне на праезд і падаўся ў дарогу. У Вальдцэль ён прыбыў у добрым-такі стане, на яго неспакойныя і нервовыя паводзіны па просьбе Кнэхта ніхто не зважаў, размясцілі яго сярод гасцей Архіва; з ім тут не абыходзіліся ні як з пакараным, ні як з хворым, не глядзелі на яго як на чалавека асаблівага, які адрозніваўся ад іншых, ён быў не настолькі хворы, каб не ацаніць гэтай супакойвальнай атмасферы і не пакарыстацца нагодай вярнуцца да нармальнага жыцця. Праўда, за некалькі тыдняў Пётр паспеў даволі-такі моцна абрыдзець Магістру, які, ствараючы блізір пастаянна кантраляванай занятасці для яго, даручыў яму запісаць апошнія музычныя практыкаванні і ўрокі настаўніка і заадно загадаў даваць яму дробныя, дапаможныя работы ў Архіве. Яго спецыяльна прасілі, калі час яму дазваляе, дапамагчы Архіву, цяпер там нібыта назапасілася вельмі шмат працы і не хапае людзей — адным словам, спанталычанага вярнулі на правільную дарогу. Толькі пасля таго як ён супакоіўся і пачаў паказваць сваю яўную заахвотку да паслушэнства, Кнэхт пачаў праводзіць з ім кароткія выхаваўчыя гутаркі, каб прымусіць яго канчаткова адмовіцца ад нездаровай думкі, што фетышызацыя нябожчыка ёсць святая і дапушчальная ў Касталіі справа. Але як што Пётр усё адно не мог без страху думаць пра

вяртанне ў Манпор, яму врапанавалі, калі ён, відаць, цалкам выздаравеў, месца памочніка настаўніка музыкі ў адной малодшай школе эліты, дзе ён і вёў сябе з добрай годнасцю.

Можна было б прывесці яшчэ шмат прыкладаў паспяховага ўмяшання Кнэхта ў выхаванне і гаенне душ, пералічыць шмат юных студэнтаў, якіх ён мяккай уладай сваёй індывідуальнасці гэтаксама адваяваў для жыцця ў сапраўды кастальскім духу, як яго самога ў свой час заваяваў Magister musicae. Усе гэтыя прыклады паказваюць нам Магістра Гульні не як раздвоеную асобу, не, яны сведчаць пра здароўе і раўнавагу. Нам толькі здаецца, што любоўнае апекаванне шаноўным Магістрам людзей з няўстойлівым норавам, паддатных спакусам, накшталт Пётры або Тэгулярыуса, гаворыць пра яго незвычайную пільнасць і спагадлівасць да такіх хвароб кастальцаў, пра заўсёды нядрэмную ўвагу Кнэхта да праблем і небяспек, закладзеных у самім кастальскім жыцці. Яго праніклівай і мужнай натуры была чужая думка — не заўважаць гэтых небяспек з легкадумства альбо дзеля зручнасці, як гэта рабіла большасць яго суайчыннікаў, ён ніколі не трымаўся тактыкі многіх сваіх таварышаў па Калегіі, якія ведалі пра гэтыя небяспекі, але не зважалі на іх. Ён бачыў і разумеў іх, або, прынамсі, некаторыя, а грунтоўнае веданне ранняй гісторыі Касталіі прымушала яго глядзець на жыццё сярод гэтых небяспек як на барацьбу, і ён прымаў і любіў гэтае жыццё такім, якое яно ёсць, тым часам як многія кастальцы бачылі ў сваім грамадстве і жыцці толькі ідылію. З прац айца Якава пра бенедыктынскі Ордэн ён склаў сабе ўяўленне, што Ордэн — гэта баявая садружнасць, а пабожнасць — ваяўнічы дух. «Не, — сказаў ён аднойчы, — рыцарскаму годнаснаму жыццю без ведаў пра д'ябла і дэманаў і без няспыннай барацьбы з імі».

Адкрытае сяброўства паміж людзьмі, якія стаяць на самых высокіх прыступках іерархіі, — даволі рэдкая з'ява, таму нас зусім не здзіўляе, што ў Кнэхта ў першыя гады магістарства не было сяброўскіх адносін ні з кім з ягоных калег. Ён адчуваў гарачую сімпатыю да філолага-класіка з Койпергейма і глыбокую павагу да Вярхоўнай калегіі ў цэлым, але ў гэтай сферы ўсё асабістае і прыватнае было да такой ступені выключнае і аб'ектываванае, што за межамі супольнай працы

наўрад ці існавала магчымасць больш цеснага збліжэння і дружбы. Але гэта яму давялося яшчэ перажыць.

Мы не маем доступу да сакрэтнага архіва Выхаваўчай калегіі; пра пазіцыю і паводзіны Кнэхта на яе пасяджэннях і пры галасаванні нам вядома толькі тое, пра што можна зрабіць выснову з яго выпадковых выказванняў перад сябрамі. У першыя гады свайго магістарства ён не тое каб маўчаў, але рэдка выступаў з прамовамі, хіба што толькі ў тых выпадках, калі сам быў ініцыятарам і рабіў запыты. Даказана толькі адно: што ён з дзівоснай хуткасцю засвоіў традыцыйны тон абыходжання, які панаваў на вяршынях нашай іерархіі, і бліскуча, з багатай выдумкай і густам да гульні карыстаўся гэтымі формамі. Як вядома, вярхі іерархіі, Магістры і члены кіраўніцтва Ордэна, у зносінах адзін з адным старанна захоўваюць пэўны цырыманіял, але, мала таго, існуе ў іх, бог яго ведае з якога часу, схільнасць, а магчыма, і тайнае прадпісанне альбо правіла гульні: тым стражэй трымацца ў рамках самай вытанчанай ветлівасці, чым большыя разыходжанні ў меркаваннях і чым важнейшыя спрэчныя пытанні, пра якія ідзе гаворка. Лічылася, што гэтая з даўніны вытокамі ветлівасць, разам з уласцівымі ёй іншымі функцыямі, нясе ў першую чаргу функцыі абарончай меры: выштукавана ветлівы тон дэбатаў не толькі ахоўваў спрэчнікаў ад залішне палкага захаплення і дапамагаў утрымаць поўнае самавалоданне, але, апрача таго, абараняў годнасць Ордэна і Калегій, прыкрываючы яго мантыяй цырыманіялу і покрывам святасці, так што ў гэтай утрыраванай ветлівасці, якую так часта высмейвалі студэнты, было зерне здаровага сэнсу. Кнэхтаў папярэднік, Магістр Томас фон дэр Травэ, асабліва здзіўляў усіх гэтым майстэрствам. Кнэхта нельга назваць яго непасрэдным паслядоўнікам, яшчэ менш — яго пераймальнікам, ён хутчэй быў вучнем кітайцаў, яго куртуазныя манеры былі менш вымудраваныя і іранічныя. Але ён і сярод сваіх калег карыстаўся славай чалавека, якога ніхто не мог пераўзысці ў ветлівасці.

## ГУТАРКА

Вось мы і дайшлі ў нашым расказе да таго моманту, калі павінны ўсю нашу ўвагу засяродзіць на пераменах, якія адбыліся ў жыцці Магістра ў апошнія гады: у вы-

ніку іх Магістр Кнэхт пакінуў сваю пасаду і Правінцыю, перайшоў у іншую жыццёвую сферу, дзе і застаўся да скону. Нягледзячы на тое, што да самага свайго зыходу з Вальдцэля ён узорна і руплiва выконваў свае абавязкі і да апошняга дня быў паважаны і любімы сваімі вучнямі і калегамі, з гэтай хвіліны мы перастанем расказваць пра яго далейшую магістарскую дзейнасць, бо ўжо бачым, што ў глыбіні душы ён сыты ёю і ўвесь аддаўся іншым мэтам. Ён вырас з кола тых магчымасцяў, якія давала ягоная пасада яго сіле, дайшоў да мяжы, калі вялікія натуры сыходзяць з дарогі традыцый і пакорлівага падпарадкавання і, даверыўшыся вышэйшай, невымоўнай уладзе, з поўнай адказнасцю ступаюць на новы шлях, нікім наперад не паказаны, нікім загадзя не пратаптаны.

Калі ён гэта ўсвядоміў, ён пачаў старанна вывучаць і цвяроза ацэньваць сваё становішча і магчымасці яго змяніць.

У вельмі маладым узросце ён дасягнуў такіх вышыняў, пра якія толькі мог марыць адораны і славалюбны касталец, і дасягнуў ён іх не славалюбствам альбо адмысловай пранырлівасцю, а не дабіваючыся нічога, ні да кога не падладжваючыся, амаль ці не супраць сваёй волі, бо непрыкметнае, незалежнае, не сперазанае пасаднымі абавязкамі жыццё вучонага больш адпавядала б яго празе. Ён зусім не аднолькава цаніў высокія даброты і паўнамоцтвы, якія прыпалі на яго долю, а іншыя адзнакі або знакі ўлады, належныя яго сану, яму вельмі хутка надакучылі. Асабліва збрыдзелі яму яго абавязкі ў Вярхоўнай калегіі, што не перашкаджала яму выконваць іх сумленна. Нават самая непасрэдная, самая своеасаблівая, толькі на яго ўскладзеная задача — падрыхтоўка і падбор самых вартых адэптаў Гульні, — хоць часам вельмі радавала яго і хоць яго выбранцы ганарыліся сваім ментарам, спакваля рабілася яму не так прыемнасцю, як лішніцай. Найбольшую радасць давала яму выкладанне і выхаванне, прычым ён з вопыту свайго пераканаўся, што і радасць і поспех былі тым большыя, чым маладзейшыя былі яго вучні. Ён лічыў нягодай і ахвярай тое, што пасада прымушала яго да лучнасці не з дзецьмі і падлеткамі, а выключна з юнакамі і дарослымі. Але пастутова за гады магістарства назапасіліся ў яго і іншыя меркаванні, назіранні і здагадкі, якія прымусілі яго крытычна зірнуць на сваю

дзейнасць і на сякія-такія праявы жыцця ў Вальдцэлі, а таксама пераканацца, што ягоная магістарская дзейнасць тармозіць развіццё яго самай лепшай і багатай творчай моцы. Сёе-тое з гэтага вядома кожнаму з нас, пра сёе-тое можна толькі меркаваць наўздогадзь. Усё ў тым, ці меў Магістр Кнэхт па сутнасці рацыю, імкнучыся вызваліцца ад мітрэнгі сваёй пасады, жадаючы прысвяціць сябе менш прыкметнай, але затое больш плённай працы, крытыкуючы становішча ў Касталіі, усё было ў тым, ці трэба яго разглядаць як папярэдніка і адважнага ваяўніка або, наадварот, як нейкага мяцежніка і нават дэзерціра, — усё гэта мы не адважымся закрануць як след, бо пытанні гэтыя абмяркоўваліся больш чым трэба; спрэчка пра гэта на доўгі час падзяліла Вальдцэль ды і ўсю Правінцыю на два лагеры і ўсё яшчэ дарэшты не патухла. Прызнаючы сябе ўдзячнымі шаноўцамі вялікага Магістра, мы ўсё ж не будзем выказваць сваёй думкі на гэты конт: выказванні і думкі пра асобу і жыццё Ёзэфа Кнэхта, што выявіліся ў спрэчках, яшчэ будуць падагульненыя. Мы ж не збіраемся ні судзіць, ні наварочваць каго б там ні было, мы хочам толькі шчыра і праўдзіва распавесці гісторыю канца нашага глыбокашаноўнага Магістра. Гэта, калі ўжо па праўдзе, нават зусім не гісторыя, бадай, лепей было б яе назваць легендай, справаздачай паводле сапраўдных паведамленняў і проста чутак, у тым нават выглядзе, у якім яны, сцякаючыся з чыстых і каламутных крыніц, жывуць сярод нас, малодшых насельнікаў Правінцыі.

Ёзэфа Кнэхта ўжо займалі думкі пра шляхі яго вызвалення, калі перад ім раптам паўстаў колішні знаёмы, цяпер ужо амаль забыты сябар маладосці — Плініё Дэсіньёры. Гэты вольны слухач Вальдцэля, атожылак старадаўняга роду з заслугамі перад Правінцыяй, які здабыў славу і вядомасць на дэпутацтве і публіцыстыцы, аднаго разу зусім непрадбачліва з'явіўся ў Вярхоўную калегію па справах службы. Як гэта рабілася кожныя два гады, была зноў абрана ўрадавая камісія для рэвізіі кастальскага бюджэту, і Дэсіньёры стаў членам гэтай камісіі. Калі ён упершыню выступіў у гэтай ролі на пасяджэнні праўлення Ордэна ў Хірсландзе, Магістр Гульні якраз быў там; сустрэча зрабіла на яго вялікае ўражанне і не засталася без наступстваў, сёе-тое пра гэта мы ведаем ад Тэгулярыуса, а таксама і ад

самога Дэсіньёры, які ў тую не зусім ясную нам пару свайго жыцця зноў зрабіўся Кнэхту сябрам і даверaным. Першая сустрэча пасля забыцця, якое доўжылася некалькі дзесяцігоддзяў, адбылася, калі дакладчык, як звычайна, прадставіў Магістрам паноў з камісіі. Пачуўшы імя Дэсіньёры, наш Магістр быў уражаны і нават пасаромлены, што не пазнаў з першага позірку сябра сваёй маладосці. Адкінуўшы афіцыйныя цырымонii і фармальнае вітанне, ён па-сяброўску падаў Дэсіньёры руку і ўважліва паглядзеў яму ў вочы, спрабуючы дашукацца, якія перамены перашкодзілі яму пазнаць старога сябра. Пад час пасяджэння вочы яго часта затрымліваліся на такім калісьці знаёмым твары. Тым часам Дэсіньёры звярнуўся да яго на «вы» і назваў яго магістарскім тытулам, і Кнэхту давялося двойчы прасіць называць яго па-ранейшаму і зноў перайсці на «ты», перш чым Дэсіньёры на гэта адважыўся.

Кнэхт памятаў Плініё тэмпераментным і вясёлым, кампанейскім і бліскучым хлопцам, гэта быў выдатны вучань і разам з тым свецкі малады чалавек, які адчуваў сваю перавагу над далёкімі ад жыцця кастальцамі і часам забаўляўся тым, што правакаваў іх на спрэчкі. Пэўная ганарыстасць была яму, бадай што, не чужая, але характар ён меў шчыры, не дробязны, абаяльны і ласкавы, і сяго-таго нават сляпіў сваёй прыгожай знешнасцю, упэўненасцю ў манерах і духам чагосьці невядомага, як бы духам прыбыльца з іншага свету. Праз многа гадоў ужо ў канцы студэнцтва Кнэхт сустрэўся з Дэсіньёры зноў, і той здаўся яму прэсным, агрубелым, без ранейшай абаяльнасці, адным словам, расчараваў яго. Яны разышліся сумеўшыся і холадна. Цяпер Дэсіньёры з'явіўся яму зноў зусім іншым. Найперш ён ужо развітаўся з маладосцю, страціў або прыглушыў у сабе ранейшую ажыўленасць, цягу да стасункавання, спрэчак, абмену думкамі, свой энергічны, парывісты і адкрыты нораў. Тое, што пры сустрэчы з колішнім сябрам ён знарок не прыцягнуў да сябе Магістравай увагі, не прывітаўся першы, а калі іх прадставілі, толькі знехаця, толькі пасля сардэчных угавораў звярнуўся да яго на «ты» — усе яго паводзіны, манера гаварыць, рысы твару і рухі сведчылі пра тое, што на змену былому запалу, шчырасці, акрыленасці прыйшлі стрыманасць або прыгнечанасць, пэўная замкнёнасць і самаакілзанне, нешта падобнае на сутаргавую пакору, а магчыма, проста

стома. Патануў і патух хлапечы шарм, але разам з ім і рысы павярхоўнай і занадта настырлівай свецкасці — іх таксама як змяло. Змяніўся і ўвесь выгляд гэтага чалавека, яго твар здаваўся цяпер больш выразна акрэсленым і нават крыху спустошаным, крыху звысакароднёным ад пакуты, што была на ім напісана. І пакуль Магістр сачыў за перагаворамі, увага яго ўвесь час была прыкавана да гэтага твару, і ён не пераставаў думаць, якая ж пакута магла аж да такой ступені завалодаць гэтым тэмпераментным, прыгожым і жыццярадасным чалавекам і пакінуць такі след. Гэта была нейкая чужая, незнаёмая Кнэхту пакута, і чым больш ён разважаў пра яе прычыны, тым большая прыязнасць і спагада цягнулі яго да пакутніка, і ў гэтай спагадзе, у гэтай любові яму чуўся ціхі ўнутраны голас, які падказваў, што ён запазычыўся свайму журботнаму сябру і павінен нешта паправіць. Адкінуўшы магчымыя прычыны смутку ў Плініё, ён падумаў: пакута на гэтым твары — не нізкага паходжання, яна высакародная, трагічная пакута, з выгляду такая, што ніколі ў Касталіі не пабачыш; ён успомніў, што ўжо бачыў такі выраз, але не на тварах кастальцаў, а толькі ў людзей зямных, але ніколі яшчэ гэта так не хвалявала і так не прыцягвала, як у Плініё. Бывалі выпадкі, што Кнэхт бачыў такі выраз на партрэтах людзей мінулага, вучоных або мастакоў, на іх тварах кранальна, ці то хваравіта, ці то фатальна адбівалася скруха, адзінота і бездапаможнасць. Магістр з яго тонкім мастацкім адчуваннем таемнай выразнасці, з яго вострай спагадлівасцю прыроджанага выхавальніка, з разуменнем асаблівасцей характару ўжо даўно набыў пэўны вопыт у фізіягноміцы, якому ён, не ператвараючы яго ў сістэму, інстынктыўна давяраў; так, ён адрозніваў спецыфічна кастальскі і зямны смех, усмешку і весялосць, і гэтак жа спецыфічна зямныя пакуты і скруху. І вось гэтая зямная скруха, здавалася, праступіла цяпер на твары ў Дэсіньёры, і скруха была такая моцная і выразная, быццам твар якраз і мусіў увасобіць і зрабіць бачнымі таемныя пакуты і мукі людзей. Твар гэты спалохаў Кнэхта. Яму здавалася знамянальным не толькі тое, што свет прыслаў сюды менавіта яго страчанага сябра і што Плініё і Ёзэф, як калісьці ў студэнцкіх спрэчках, цяпер сапраўды годна прадстаўлялі адзін — зямное жыццё, другі — Ордэн; яшчэ больш важным і сімвалічным яму

здавалася, што ў асобе гэтага асамотненага і азмрочанага скрухаю чалавека свет і гэтым разам прыслаў у Касталію не сваю ўсмешку, не сваю прагу жыцця, не радаснае ўсведамленне ўлады, не грубасць, а наадварот, сваё гора і пакуту. І гэта зноў абудзіла ў ім новыя думкі, і ён зусім не асуджаў Дэсіньёры за тое, што той больш пазбягаў, чым шукаў Магістра, і толькі паступова, як бы пераадольваючы цяжкія перашкоды, наблі-жаўся да яго і раскрываўся перад ім. Зрэшты — і гэта, зразумела, дапамагло Кнэхту — яго школьны таварыш, сам выхаванец Касталіі, аказаўся не прыдзірлівым, раздражнёным, нават зусім незычлівым членам, якія, здаралася, бывалі ў такой важнай для Касталіі камісіі, а належаў да прыхільнікаў Ордэна і патронаў Правінцыі, які мог зрабіць такія-сякія паслугі. Праўда, ад удзелу ў Гульні ён ужо шмат гадоў як адмовіўся.

У нас няма магчымасці падрабязна расказаць, як Магістр спакваля вярнуў сабе сябраў давер; кожны з нас, ведаючы яго спакойны і светлы нораў, яго мяккую ветлівасць, мог бы растлумачыць гэта сабе па-свойму. Магістр упарта дамагаўся дружбы Плініё, а хто мог доўга ўстаяць перад Кнэхтам, калі ён чаго-небудзь моцна хацеў?

Нарэшце праз некалькі месяцаў пасля іх першай сустрэчы ў Калегіі Дэсіньёры на многія запрашэнні Магістра згадзіўся наведаць Вальдцэль, і аднойчы восеннюю ў хмарны ветраны дзень яны ўдвух выправіліся на шпацыр па тых мясцінах, дзе праходзілі іх школьныя гады і гады дружбы, — па палях, то залітых сонцам, то зацененых; Кнэхт быў роўны і вясёлы, а яго спадарожнік і госць — маўклівы і ўстрывожаны; як і навакольныя палеткі, па якіх паперамена прабягалі сонца і цені, ён сутаргава пераходзіў ад радасці сустрэчы да смутку адчужанасці. Недалёка ад селішча яны выйшлі з экіпажа і пайшлі пешкі па знаёмых дарогах, дзе гулялі калісьці разам, яшчэ як былі школьнікамі; яны ўспаміналі некаторых таварышаў, настаўнікаў, асобныя тагачасныя свае гутаркі. Дэсіньёры цэлы дзень прагасцяваў у Кнэхта, і той дазволіў яму, як і абяцаў, быць сведкам усіх яго распараджэнняў і працы гэтага дня. Пад вечар — госць збіраўся раніцай ехаць — яны сядзелі ўдвух у Кнэхта ў гасцёўні, зноў звязаныя амаль такой самай блізкай дружбай, як калісьці. Дзень, калі ён гадзіну за гадзінай мог назіраць працу Магістра, зрабіў на

госця моцнае ўражанне. У той вечар паміж імі завязалася гутарка, якую Дэсіньёры, вярнуўшыся дахаты, адразу і запісаў. І хоць у гэтым запісе ёсць некаторыя падрабязнасці без асаблівага вялікага значэння, і, можа, якому чытачу не спадабаецца, што імі перабіваецца наш добра адстаялы расказ, мы ўсё ж думаем перадаць тут гэтую гутарку ў тым выглядзе, у якім яна была запісана.

— Так многа мне хацелася табе паказаць, — пачаў Магістр, — і вось не ўдалося. Напрыклад, мой цудоўны сад... — ты яшчэ памятаеш магістарскі сад і пасадкі Магістра Томаса? — і шмат чаго іншага. Спадзяюся, мы яшчэ знойдзем на гэта гадзіну-другую. Усё ж такі з учарашняга дня ты мог асвяжыць у памяці сякія-такія ўспаміны і ўявіць сабе мае абавязкі і маё буднае жыццё.

— Дзякую табе за гэта, — адказаў Плініё. — Я толькі сёння зноў пачаў разумець, што такое, зрэшты, ваша Правінцыя і якія дзівосныя і вялікія тайны яна хавае ў сабе, хоць усе гэтыя гады разлукі я куды больш думаў пра вас, чым ты, можа, уяўляеш. Ты дазволіў мне сёння заглянуць у тваю працу і ў жыццё, Ёзэф, і я спадзяюся, не апошні раз; мы яшчэ часта будзем гутарыць з табой пра ўсё, што я тут убачыў і пра што яшчэ пакуль што не магу гаварыць. З другога боку, я адчуваю, што твой давер абавязвае і мяне; я ведаю, што мая замкнёнасць павінна была здацца табе дзіўнай. Што ж, і ты мяне наведаеш і ўбачыш, чым жыву я. Сёння я табе магу сказаць толькі нямногае, роўна столькі, колькі трэба, каб ты мог скласці ўяўленне пра мяне, ды і мне такая споведзь дасць нейкую палёгку, хоць і будзе мне нібы карай і ганьбай.

Ты ведаеш, што я паходжу з патрыцыянскай сям'і, якая мае заслугі перад краінай і захоўвае прыязныя адносіны да вашай Правінцыі, з кансерватыўнай сям'і памешчыкаў і высокіх чыноўнікаў. Бачыш, ужо гэтая простая фраза ўтварае прорву паміж табой і мной! Я кажу «сям'я» і маю на ўвазе нешта незвычайнае, нешта само па сабе зразумелае і асэнсаванае, але ці так яно? У вас, у вашай Правінцыі, ёсць Ордэн, іерархія, але сям'і ў вас няма, і вы не ведаеце, што такое сям'я, роднасць і паходжанне, вы нават не ўяўляеце сабе патайнага і велізарнага хараства і магутнасці таго, што называецца сям'ёй. Дык вось, тое самае можна сказаць

і пра большасць слоў і паняццяў, праз якія выяўляецца наша жыццё: тыя, якія нам важныя, для вас у большасці не маюць значэння, многія вам проста незразумелыя, а некаторыя маюць зусім іншы сэнс, чым у нас. І паспрабуй тут дагаварыся! Ведаеш, калі ты што-небудзь кажаш, мне здаецца, што перада мной іншаземец; праўда, іншаземец, чыю мову я ў маладосці вывучаў і нават валодаў ёю, так што большасць слоў я разумею. Але ў цябе гэта зусім не так: калі я звяртаюся да цябе, ты чуеш мову, выразы якой табе знаёмыя толькі напалавіну, а адценні і тонкасці зусім невядомыя; ты чуеш расказы пра жыццё людзей, пра форму існавання, далёкую табе; у асноўным гэтыя гісторыі, калі яны нават займаюць цябе, дык застаюцца цалкам або напалавіну табе незразумелыя. Прыгадай хоць бы нашыя бясконцыя перапалкі і гутаркі ў школьныя гады; у мяне гэта было не што іншае, як спроба, адна з многіх, прывесці да згоды свет і мову Правінцыі з маім светам і маёй мовай. Ты быў самы спагадлівы, самы зычлівы і сумленны з усіх, з кім я рабіў такія спробы, ты смела бараніў правы Касталіі, але не заставаўся абыякавы і да майго, іншага свету, і да яго правоў, прынамсі, ты ім не пагарджаў. Тады мы сышліся даволі блізка. Але да гэтага мы яшчэ вернемся.

Ён памаўчаў з хвіліну, задуменны, і Кнэхт асцярожна сказаў:

— Не так ужо і дрэнна ў нас з узаемаразуменнем. Вядома, два народы і дзве мовы не змогуць так глыбока паразумецца, як два чалавекі з адной нацыі і з адной мовай. Але гэта не прычына, каб адмаўляцца ад узаемапаразумення і зносін. Паміж аднапляменнікамі таксама ёсць завалы, якія не даюць паразумецца, — завалы і перашкоды адукацыі, выхавання, здольнасці, індывідуальнасці. Можна сказаць, што кожны чалавек на зямлі прынцыпова здольны па-сяброўску гутарыць з любым іншым і разумець яго, і можна, наадварот, сказаць, што на свеце ўвогуле няма двух людзей, паміж якімі магчымыя поўныя, безумоўныя, блізкія адносіны і ўзаемаразуменне, — і тое і другое будзе аднолькава слушна. Гэта інь і янь, дзень і ноч, і абодва маюць рацыю, і тое і другое трэба ўспамінаць, і я часткова прызнаю тваю рацыю; бо і я, зразумела, не думаю, што мы калі-небудзь да канца паразумеемся. Але будзь ты і на самай справе еўрапеец, а я кітаец, гавары

мы на розных мовах, мы і тады, пры нашай добрай волі, маглі б вельмі многа расказаць адзін аднаму і звыш таго многае ўгадаць і адчуць. У кожным разе, мы паспрабуем гэта зрабіць.

Дэсіньёры кіўнуў і сказаў далей:

— Я хачу спачатку расказаць табе тое нямногае, што трэба ведаць, каб ты мог хоць трошкі зразумець маё становішча. Значыцца, найперш, сям'я — найвышэйшая сіла ў жыцці маладога чалавека, незалежна ад таго, прызнае ён яе ці не. Я ладзіўся са сваёй сям'ёй, пакуль быў вольным слухачом вашай элітарнай школы. Цэлы год мне вальготна жылося ў вас, на вакацыях, дома, са мной насіліся і песцілі мяне як адзінага сына. Маці я любіў пяшчотна і палка, і толькі разлука з ёю ўбольвала мяне кожны раз, як я з'язджаў з дому. З бацькам мяне звязвалі больш халодныя, але даволі прыязныя адносіны, прынамсі, у дзіцячыя і юначыя гады, калі я вучыўся ў вас; ён быў пракаветны шаноўнік Касталіі і ганарыўся тым, што я выхоўваюся ў элітарнай школе і далучаны да такога ўзнёслага занятку, як Гульня шкляных перлаў. У маім быванні ў бацькоў на вакацыях заўсёды была ўзнёсласць і святочнасць, мая сям'я і я сам бачылі адно аднога, так сказаць, толькі ў парадных строях. Часам, едучы дамоў на вакацыі, я шкадаваў вас, пакінутых, пазбаўленых такога шчасця. Мне няма чаго доўга разгамоньваць пра тыя часы, ты мяне ведаў тады лепей, чым хто іншы. Я быў амаль касталец, толькі крыху датклівейшы, грубейшы і паверхоўнейшы, але я быў акрылены і поўны шчаслівага бадзёру і энтузіязму. Гэта была самая шчаслівая часіна майго жыцця, пра што я тады, вядома, не падазраваў, бо ў тыя гады, калі я жыў у Вальдцэлі, я думаў, што шчасце і росквіт майго жыцця пачнуцца толькі пасля таго, як, закончыўшы вашу школу, я вярнуся дахаты і, маючы набытыя ў вас перавагі, заваюю белы свет. Замест гэтага пасля нашай разлукі з табой у жыцці маім пачалася разладзіца, якая трывае і сёння; я ўступіў у барацьбу, з якое, на жаль, не выйшаў пераможцам. Бо гэтым разам радзіма, да якой я вярнуўся, складалася не з бацькоўскага дома, яна зусім не чакала мяне, каб прыгарнуць у абдымкі, і не спяшалася ўкленчыць перад маімі вальдцэльскімі перавагамі, ды і ў бацькоўскім доме неўзабаве пайшлі расчараванні, цяжкасці і дысанансы. Заўважыў я гэта не адразу, мяне

бараніла мая наіўная даверлівасць, мая хлапечая надзея на сябе і на сваё шчасце, абараняла мяне і прышчэпленая вамі мараль Ордэна, прывычка да медытацыі. Але якое расчараванне і ацверазенне прынесла мне вышэйшая школа, дзе я хацеў вывучаць палітычную эканомію! Тон звароту, прыняты ў студэнтаў, узровень іх агульнай адукацыі і забаў, асобы некаторых прафесараў — як рэзка ўсё гэта адрознівалася ад таго, да чаго я прывык у Касталіі! Ты памятаеш, як я калісь абараняў свой свет супроць вашага, як, не шкадуючы фарбаў, усхваляў цэльнае, наіўнае, простае жыццё. Хай я заслужыў за гэта расплату, дружа мой, але, павер, я даволі жорстка пакараны. Бо калі гэтае наіўнае, простае жыццё, кіраванне інстынктамі, гэтая дзіцячасць, гэтая нявінная нявыцвічная геніяльнасць і існавала яшчэ дзе-небудзь, сярод сялян, магчыма, і рамеснікаў, або дзе-небудзь яшчэ, дык мне не ўдалося яго ні ўбачыць, ні тым болей да яго далучыцца. Ты памятаеш таксама, праўда ж бо, як я ў сваіх прамовах асуджаў пыху і фанабэрыю кастальцаў, гэтай спешчанай і надзьмутай касты з яе каставым духам і пагардлівасцю выбранцаў. Але высветлілася, што ў свеце людзі пышаліся сваімі дрэннымі манерамі, сваёй мізэрнай адукацыяй і гарластым гумарам, сваёй ідыёцка-хітрай засяроджанасцю на практычных, карыслівых мэтах зусім не менш, яны не менш лічылі сябе ў сваёй вузкалобай натуральнасці неацэннымі, любаснымі богу і выбранымі, чым самы афектаваны і прыкладны вучань вальдцэльскай школы. Адны глуміліся з мяне і ляпалі па плячы, другія адказвалі на маю чужую ім кастальскую сутнасць адкрытай, шалёнай нянавісцю, якую нізкія людзі заўсёды маюць у сабе да ўсяго ўзвышанага і якую я рашыў прыняць як узнагароду.

Дэсіньёры спыніў свой расказ і паглядзеў на Кнэхта, правяраючы, ці не стаміў яго. Ён перахапіў сябраў позірк і прачытаў у ім глыбокае разуменне і сімпатыю, якія супакоілі яго і злагодзілі. Ён бачыў, што субяседнік захоплены ягонай споведдзю, слухае не так, як слухаюць пустую балбатню ці нават пацешную гісторыю, а вельмі засяроджана, з той выключнай увагай і аддачай, як гэта бывае пры медытацыі, прычым шчыра і з дабрынёй, выраз якой у вачах у Кнэхта яго крануў, такім сардэчным, амаль дзіцячым яно яму здалося; яго здзівіў гэты выраз у твары чалавека, чыёй шматграннай буднай

працай, чыёй мудрай распарадлівасцю і аўтарытэтам ён захапляўся сёння цэлы дзень. І ён з палёгкаю сказаў:

— Не ведаю, ці была з майго жыцця карысць, ці было яно проста недарэчнасцю, мела сэнс ці не мела. Калі і быў той сэнс, дык хіба ў тым, што канкрэтны чалавек нашага часу на сабе спазнаў і перажыў адчувальна і хваравіта, наколькі Касталія аддалілася ад яго роднай краіны або, скажам, наадварот: наколькі наша краіна счужэла, здрадзіла сваёй высакароднай Правінцыі і яе духу, якая прорва падзяляе ў нас цела і дух, ідэал і рэчаіснасць, як мала яны адно аднаго ведаюць і хочуць ведаць. Калі ў мяне ў жыцці і была задача, быў ідэал, дык гэта — каб сінтэзаваць у ім абодва прынцыпы, стаць пасрэднікам, тлумачальнікам і міратворцам паміж імі. Я паспрабаваў гэта зрабіць і панёс паражэнне. А як што я не магу расказаць табе пра сваё жыццё ўсё, ды ты ўсё роўна да канца і не зразумеў бы, пакажу толькі табе адну сітуацыю, характэрную крушэнню маіх планаў. Самая галоўная складанасць майго становішча ў першыя гады вучобы ва універсітэце была не ў тым, каб адбівацца ад пацвельванняў і варожых выбрыкаў, што выпалі мне як кастальцу і прыкладнаму студэнту. Тыя нямногія мае новыя таварышы, якім мая вучоба ў школе эліты імпанавала як прывілея і сенсацыя, рабілі мне нават болей клопату і ставілі мяне ў цяжэйшае становішча, чым іншыя. Не, самае цяжкае, самае немагчымае было, бадай што, жыць сярод зямных паводле кастальскіх прынцыпаў. Спачатку я гэтага амаль не адчуваў, я трымаўся прышчэпленых мне ў Касталіі звычак. Нейкі час мне здавалася, што ўдасца і тут імі кіравацца, што яны ўмацуюць і абароняць мяне, падтрымаюць у мне бадзёрасць і маральнае здароўе, падмацуюць мой намер аднаму, самастойна пражыць студэнцкія гады па магчымасці ў кастальскім духу, на самоце задаволіць сваю прагу ведаў і не даць, каб мяне спіхнулі ва універсітэцкую руціну, якая імкнецца ў як мага карацейшы тэрмін па магчымасці больш грунтоўна набатаваць студэнта ведамі для прафесіі, для заробку на кавалак хлеба і задушыць у ім любы пробліск свабодалюбства і універсальнасці. Але браня, надзетая на мяне Касталіяй, была і небяспечная і ненадзейная, бо я не збіраўся, як пустэльнік, цешыць мір у душы сваёй і спакойна сузіраць, я хацеў заваяваць увесь свет, зразумець яго і прымусіць яго зразумець

мяне, я хацеў яго прыняць і па магчымасці абнавіць і палепшыць, я хацеў у сабе самім аб'яднаць і прымірыць Касталію з астатнім светам. Калі я пасля пера-жытага расчаравання, спрэчак, хваляванняў аддаваўся медытацыі, гэта кожны раз было дабрачынствам, разрадкай, уздыхам палёгкі, вяртаннем да добрых, прыязных сіл. Але з часам я пачаў прыкмячаць, што менавіта гэтае заглыбленне ў сябе, гэтае пакланенне духу, гэтыя практыкаванні яшчэ больш мяне ізалююць, робяць такім непрыемна чужым атачэнню і пазбаўляюць мяне самога здольнасці па-сапраўднаму іх зразумець. І я пераканаўся, што па-сапраўднаму зразумець іх, зямных людзей, я здолею толькі тады, калі стану такім, як яны, калі ў мяне ў параўнанні з імі не будзе ніякіх пераваг. Магчыма, што я крыху прыхарошваю гэты працэс, паказваючы менавіта ў такім выглядзе. Магчыма, нават вельмі верагодна, што я, не маючы роўных сабе ў выхаванні і культуры таварышаў, пазбаўлены кантролю ментараў і абарончай, гаючай атмасферы Вальдцэля, проста страціў прывычку да дысцыпліны, разленаваўся і стаў няўважлівы, стаў звычайным руцінёрам і ў хвіліны, калі дапякала сумленне, апраўдваў сябе тым, што руціна — атрыбут тутэйшага свету і яна дапамагае мне лепей зразумець асяроддзе. Я зусім не хачу нічога прыхарошваць, але не хачу таксама адмаўляць або хаваць таго, што я рабіў вялікія намогі, быў поўны добрых памкненняў і змагаўся нават тады, калі не меў рацыі. Усё гэта было мне вельмі важна. Але была мая спроба зразумець зямное жыццё і знайсці сабе ў ім месца толькі ўяўная або не, так ці інакш, адбылося непазбежнае: свет аказаўся мацнейшы за мяне, ён паступова абламаў і праглынуў мяне; быццам жыццё злавіла мяне на слове і цалкам дараўняла да таго свету, правільнасць, наіўнасць, сілу і быццёвую перавагу якога я так услаўляў і апантана адстойваў у нашых вальдцэльскіх спрэчках, адмаўляючы ўсю тваю логіку. Ты гэта памятаеш, вядома.

А зараз я хачу табе нагадаць нешта іншае, што ты даўно забыўся, бо табе гэта ані не абыходзіла. Мне ж яно было вельмі важна — важна і жахліва. Прайшлі мае студэнцкія гады, я прыстасаваўся, пераможаны, але не зламаны; наадварот, у глыбіні душы я ўсё яшчэ лічыў сябе ў вашым лагеры і верыў, што я, калі сяды-тады прыстасоўваюся і збочваю з роўнай дарогі, раблю гэта

самахоць, бо кіруюся жыццёвай мудрасцю, а не загадам пераможцаў. Я ўсё яшчэ ўчэпіста хапаўся за некаторыя свае прызвычайкі і патрэбы маладосці, у тым ліку і за Гульню шкляных перлаў, што, мусіць, мела мала сэнсу, бо без старых практыковак і без роўных сабе і разумнейшых партнёраў нельга нічога навучыцца, а гульня ў адзіноце можа замяніць сапраўдную толькі ў той меры, у якой маналог можа замяніць гутарку з субяседнікам. І вось, не дужа задумваючыся над тым, што са мной адбываецца, ці захаваў я свае майстэрства ў Гульні, свае веды і ўсё, прышчэпленае мне Вальдцэлем, я ўсё ж сіліўся зберагчы гэтыя каштоўнасці ці хоць частку іх; калі я рабіў накід гульні аднаму майму таварышу, аднаму з тых, што спрабавалі выказаць свае меркаванні пра Гульню, зусім не разумеючы яе духу, або аналізавалі які-небудзь ход, гэтым поўным невукам здавалася, што я займаюся вядзьмарствам. На трэці ці то на чацвёрты год студэнцтва я ўзяў удзел у Гульні ў Вальдцэлі, і сустрэча са знаёмымі мясцінамі, з гарадком, са старой школай, з Селішчам Гульні дала мне горкую радасць; цябе на той час не было, ты вучыўся недзе ў Манпоры ці то ў Койпергейме і лічыўся дзіваком. Курс, у якім я ўзяў удзел, быў усяго толькі канікулярным курсам для нас, бедных зямлян і дылетантаў, і ўсё ж мне давялося досыць-такі папрацаваць, і я ганарыўся, калі ў канцы атрымаў звычайную «тройку», тую самую «здавальняльную» адзнаку, якая давала яе ўладальніку права зноў паўдзельнічаць у такіх канікулярных курсах.

Прайшло яшчэ колькі гадоў, я яшчэ раз сабраў свае сілы, запісаўся зноў на канікулярныя курсы, якімі кіраваў мой папярэднік, і працаваў як заляты, каб хоць стацца вартым Вальдцэля. Я перачытаў свае старыя запісы, паспрабаваў зноў папрактыкавацца ў самаканцэнтрацыі, адным словам, адпаведна падрыхтаваны і засяроджаны, я сваімі сціплымі сродкамі рыхтаваўся да канікулярнага курса, як сапраўдныя майстры Гульні рыхтуюцца да вялікіх штогадовых спаборніцтваў. Я прыехаў у Вальдцэль, дзе пасля некалькіх гадоў адчуў сябе яшчэ больш чужым, але і больш зачараваным, быццам вярнуўся на цудоўную страчаную радзіму, мову якой ужо пачаў забываць. Гэтым разам споўнілася маё палкае жаданне пабачыцца з табой. Ці памятаеш ты гэта, Ёзэф?

Кнэхт сур'ёзна зірнуў яму ў вочы, кіўнуў і мякка ўсміхнуўся, але не сказаў ні слова.

— Добра, — зноў Дэсіньёры, — ты, значыцца, успомніў. Але што, зрэшты, успомніў? Мімалётнае спатканне з аднакашнікам, кароткую сустрэчу і расчараванне; ідзеш сваёй дарогай і больш не думаеш пра гэту сустрэчу, хіба што толькі табе няветліва напомняць пра яе праз дзесяткі гадоў. Ці ж не так? Хіба яно было інакш і сустрэча гэтая значыла табе нешта большае?

Ён быў моцна ўсхваляваны, хоць увачавідкі стараўся авалодаць сабою; здавалася, ён хацеў аблегчыць душу, выспавядацца, выказаць усё, што ў ёй назбіралася за доўгія гады і чаго ён не мог у сабе пабароць.

— Ты забягаеш наперад, — загаварыў Кнэхт вельмі мякка. — Чым гэтая сустрэча была для мяне, я скажу, калі прыйдзе мая чарга і я буду перад табой адказваць. А пакуль што слова табе, Плініё. Бачу, тая сустрэча не была табе прыемная. Ды і мне — таксама. А цяпер расказвай далей, як яно ўсё тады было. Кажы ўсё, як складзецца!

— Паспрабую, — адказаў Плініё. — Дакараць цябе не буду. Мушу таксама прызнаць, што ты трымаўся са мной карэктна, каб не сказаць больш. Калі я цяпер прыняў тваё запрашэнне прыехаць у Вальдцэль, куды я пасля таго паўторнага канікулярнага курса больш не наведваўся, нават яшчэ раней, калі я згадзіўся ўвайсці ў камісію, пасланую сюды, у мяне была мэта сустрэцца і пагаварыць з табой наконт той сустрэчы, — усё адно, будзе гэта нам абодвум прыемна ці не. Слухай далей. Прыехаў я на канікулярны курс, і размясцілі мяне ў гасцявым доме. Удзельнікі курса былі прыкладна майго ўзросту, некаторыя нават старэйшыя; набралася нас ледзьве дваццаць чалавек, у большасці кастальцы, але або дрэнныя, абыякавыя, адсталыя аматары Гульні, або зусім пачаткоўцы, якім з вялікім запазненнем прыйшла ў галаву думка павярхоўна пазнаёміцца з Гульнёй. Я адчуў вялікую палёгку, калі пераканаўся, што сярод іх не было нікога з маіх знаёмых. Кіраўнік нашага курса, адзін работнік Архіва, старанна ўзяўся за справу і быў даволі ласкавы, але ўся наша навука з самага пачатку мела характар нечага другаснага, нікому не патрэбнага, нечага накшталт курса штрафнікоў, дзе выпадкова і спехам сабраныя ўдзельнікі гэтак жа мала верацъ у сапраўдны сэнс і поспех, як і сам настаўнік, хоць ніхто

гэтага не кажа ўголас. Міжволі напрошвалася пытанне: навошта з'ехалася сюды гэтая жменька людзей, навошта яны самохаць узяліся за справу, да якое ў іх не ляжыць душа, цікавасць да якое недастаткова моцная, каб надаць ім патрэбную вытрымку, не кажучы ўжо пра гатоўнасць да ахвяр? І навошта вучоны лоб марнуе сілу на ўрокі і практыкаванні, ад якіх і сам ён наўрад ці чакае поспеху? Тады я не ведаў, а пазней дазнаўся ад вопытных людзей, што мне з гэтым курсам проста не пашанцавала, што крыху іншы яго склад мог бы зрабіць яго больш жывым, змястоўным і нават натхняльным. Часам даволі, так мне сказалі пазней, двух вартых удзельнікаў, здольных запаліць адзін аднаго або раней знаёмых і блізкіх, каб натхніць увесь курс, усіх навучэнцаў і выкладчыкаў. Ты ж сам — Магістр Гульні, табе гэта павінна быць вядома. Дык вось, мне не пашанцавала, у нашай выпадковай групе не знайшлося жыватворнага ядра, яе не здолелі ні запаліць, ні ўскрыліць, гэта быў і застаўся вялы паўторны курс дарослых школьнікаў. Ішоў час, і з кожным днём расло расчараванне. Але ж апрача Гульні быў яшчэ Вальдцэль, месца свяшчэнных і дарагіх сэрцу ўспамінаў, і калі курс мяне не задавальняў, усё ж заставалася радасць вяртання да роднага дому, стасункаванне з таварышамі дзён былых, магчыма, спатканне з тым таварышам, пра якога засталіся самыя багатыя і самыя моцныя ўражанні і які ў мяне больш за каго б там ні было ўвасабляў сабою нашу Касталію: з табой, Ёзэф! Калі б я зноў убачыў некалькіх школьных сяброў, калі б я на шпацырах па цудоўных, такіх любых мясцінах зноў сустрэў добрых духаў маёй маладосці, калі б ты, напрыклад, зноў наблізіўся да мяне і з нашых гутарак, як калісь, нарадзіліся б спрэчкі, не так паміж табой і мной, як паміж маёй кастальскай праблемай і мной самім, тады не было б шкада ні страчанага часу, ні няўдалага курса, нічога.

Першыя два школьныя таварышы, якія сустрэліся мне ў Вальдцэлі, былі маладыя людзі без прэтэнзій, яны мне ўзрадаваліся, ляпалі па плячы і задавалі дзіцячыя пытанні пра маё таямнічае свецкае жыццё. Некалькі іншых былі не такія прастадушныя, яны жылі ў Селішчы Гульні і належалі да малодшага пакалення эліты; яны не задавалі наіўных пытанняў, а віталіся са мной, калі мы сустракаліся ў адным пакоі твайго свяцілішча і не было магчымасці ўхіліцца ад сустрэчы, з вытанчанай,

крыху нацягненай ветлівасцю, нават прыветліва, але не перастаючы падкрэсліваць сваю занятасць важнымі і недаступнымі майму разуменню справамі, не спасылаючыся на недахоп часу, цікаўнасці, спагады і жадання аднавіць старое знаёмства. Што ж, я ім не навязваўся, я не чапаў іх, у іхнім алімпійскім, ясным, пакеплівым кастальскім спакоі. Я глядзеў на іх, на іх запоўнены бадзёрай дзейнасцю дзень, як вязень за кратамі або як бядняк, згаладалы і прыгнечаны, глядзіць на арыстакратаў і багатых, вясёлых, прыгожых, адукаваных, добра выхаваных, выдатна адпачылых, з выпешчанымі тварамі і рукамі.

Але вось паявіўся ты, і радасць і новыя надзеі ўспыхнулі ўва мне, калі я цябе ўбачыў. Ты ішоў дваром, я пазнаў цябе ззаду па паходцы і адразу аклікнуў. «Нарэшце чалавек, — падумаў я, — нарэшце сябар, магчыма, праціўнік, але чалавек, з якім можна пагаварыць, хай нават архікасталец, але такі, у каго кастальская сутнасць не ператварылася ў маску і браню, чалавек, здольны зразумець другога!» Ты не мог не заўважыць, як я ўзрадаваўся і як многа я ад цябе чакаў, і ты на самай справе пайшоў мне насустрач з вытанчанай ветлівасцю. Ты яшчэ памятаў мяне, я яшчэ табе нешта значыў, табе было радасна зноў убачыць мой твар. І ты не абмежаваўся гэтым кароткім радасным вітаннем на двары, а запрасіў мяне да сябе, прысвяціў, ахвяраваў мне вечар. Але які гэта быў вечар, дарагі Кнэхт! Як мы абодва стараліся здавацца бадзёрымі, гутарыць ветліва, амаль па-таварыску і як цяжка нам было пры гэтым цягнуць вялую размову ад адной тэмы да другой. Хоць твае калегі былі да мяне абыякавыя, але з табою мне было куды горш, гэтыя пакутлівыя і бясплённыя патугі скласці былую дружбу крыўдзілі яшчэ вастрэй. Той вечар назаўсёды паклаў канец маім ілюзіям, мне бязлітасна далі зразумець, што я не таварыш і не аднадумец, не касталец, не роўны рангам, а дакучлівы, нахабны галган, недавучаны чужаніца, і тое, што расчараванне і нецярпенне былі так беззаганна замаскаваныя, параніла мяне найбольш. Калі б ты мяне лаяў або дакараў, калі б ты асуджаў мяне: «У каго ты абярнуўся, дружа, як ты мог так нізка ўпасці?» — я быў бы шчаслівы, і лёд быў бы зламаны. Але божа мой! Я ўбачыў, што больш не належу да Касталіі, што настаў канец маёй любові да вас, да маіх заняткаў Гульнёй, да нашай

дружбы з табой. Рэпетытар Кнэхт прыняў у Вальдцэлі набрыдлага візіцёра, прамучыўся і прасумаваў з ім цэлы вечар, а потым бездакорна ветліва выставіў яго за дзверы.

Дэсіньёры, спрабуючы змагчы хваляванне, перапыніў свой расказ і з пакутлівым тварам зірнуў на Магістра. Той сядзеў, уважліва слухаючы, але сам зусім не ўсхваляваны, і глядзеў на былога сябра з усмешкай ціхай спагады. Плініё маўчаў і маўчаў, і Кнэхт не зводзіў з яго зычлівых вачэй з выразам задавальнення, нават радасці на твары, і сябар нейкую хвіліну, можа, нават і больш, вытрымліваў гэты позірк, змрочна гледзячы перад сабой.

— Табе смешна? — усклікнуў Плініё горача, але не гнеўна. — Табе смешна? Ты лічыш, што ўсё тут як мае быць?

— Мушу прызнацца, — усміхнуўся Кнэхт, — што ты выдатна апісаў гэту сцэну, проста цудоўна, усё адбывалася менавіта так, як ты апісаў; і магчыма, рэшткі крыўды і асуды ў тваім голасе былі патрэбныя, каб паказаць і так дасканала зноў ажывіць яе ў маёй памяці. Да таго ж, хоць ты, на жаль, яшчэ глядзіш на ўсё ранейшымі вачыма і шмат чаго яшчэ не паспеў забыцца, ты аб'ектыўна і правільна абмаляваў становішча двух хлопцаў у крыху пакутлівай сітуацыі: абодва яны вымушаны былі прыкідвацца, і адзін з іх, менавіта ты, зрабіў у дадатак памылку, спрабуючы схаваць сапраўдныя пакуты пад штучнай развязнасцю, замест таго каб скінуць з сябе маску. Ствараецца нават уражанне, што ты яшчэ і цяпер больш вінаваціш мяне за безвыніковасць той сустрэчы, чым сябе, хоць якраз ад цябе залежала павярнуць усё інакш. Няўжо ты і праўда гэтага не заўважаў? Але апісаў ты ўсё гэта сапраўды цудоўна, слоў няма. І я зноў адчуў прыгнечанасць і збянтэжанасць, якія былі апанавалі мяне ў той дзіўны вечар, часам здавалася, што мне зноў цяжка стрымацца і што мне крыху сорамна за нас абодвух. Праўда, твой расказ дакладны і слушны. Чыстая асалода пачуць такое.

— Што ж, — адказаў Плініё, крыху здзіўлены, і ў голасе ў яго яшчэ гучала водгулле крыўды і недаверу, — прыемна, што мой расказ пацешыў хоць аднаго з нас. Мне, каб ты ведаў, было тады зусім не да смеху.

— Але сёння, — запярэчыў Кнэхт, — сёння ж ты

бачыш, якой забавай нам павінна здацца гэта гісторыя, якая не прынесла нікому з нас лаўраў? Нам застаецца толькі пасмяяцца з яе.

— Пасмяяцца? Але чаму?

— Таму, што гэта гісторыя пра экс-кастальца Пліниё, які дамагаецца ўдзелу ў Гульні і прызнання ад сваіх былых таварышаў, гісторыя гэта даўно вычарпана і даволі забытая, гэтак жа, як гісторыя пра ветлівага рэпетытара Кнэхта, які, насуперак усім кастальскім правілам, не здолеў не сумецца перад Плініё, што зваліўся яму як снег на галаву, настолькі, што яшчэ і сёння, праз шмат гадоў, ён бачыць сябе як у люстры. Паўтараю, Плініё, у цябе добрая памяць, і ты выдатна ўсё расказаў, я б так не патрапіў. Шчасце, што гісторыя гэтая скончылася і мы можам з яе пасмяяцца.

Дэсіньёры быў азадачаны. Ён адчуваў, што ў добрым гуморы Магістра ёсць нешта і яму, Плініё, прыемнае і сардэчнае, што няма ў ім і следу насмешкі; ён адчуваў таксама, што вясёласць гэта хавае ў сабе нешта глыбока сур'ёзнае, але, апавядаючы, ён зноў перажыў усю горыч былога, да таго ж расказ яго настолькі нагадваў споведзь, што ён не меў сілы рэзка перамяніць тон.

— Ты, мабыць, забываешся, — пачаў ён нерашуча, хоць ужо амаль пераканаы, — што для мяне і для цябе ўсё расказанае мною мела не аднолькавае значэнне. У цябе гэта было, сама большае, непрыемнасць, у мяне ж — правал, і, дарэчы, пачатак важнага пераллому ў маім жыцці. Калі я, не закончыўшы курса, пакінуў Вальдцэль, я рашыў ніколі больш сюды не вяртацца і быў блізка да таго, каб зненавідзець Касталію і ўсіх вас. Я страціў свае ілюзіі, пераканаўся, што не маю больш нічога супольнага з вамі, ды і раней, бадай што, быў да вас зусім не такі блізкі, як сабе думаў, і не хапала вельмі няшмат, каб яператварыўся ў рэнегата і вашага заклятага ворага.

Сябар глядзеў на яго весела і неяк нават пільна.

— Зразумела, — сказаў ён, — і пра ўсё гэта, хочацца, ты неўзабаве мне раскажаш. Але на сёння становішча наша, як мне здаецца, такое. У ранняй маладосці мы сябравалі, потым расталіся і пайшлі рознымі дарогамі, потым зноў спаткаліся, і гэта быў час тых самых злашчасных вакацыйных курсаў; ты напалавіну, а можа, і зусім стаў зямны, а я — крыху самаўпэўненым жыхаром Вальдцэля, заклапочаным выключна кастальс-

скімі канонамі, і вось пра гэтую сустрэчу, якая так расчаравала нас і якое мы абодва саромеемся, мы сёння згадалі. Мы зноў убачылі сябе і сваю тагачасную бянтэгу, мы перажылі гэта відовішча і цяпер можам пасмяяцца з сябе, бо сёння ў нас усё зусім інакш. Не схаваю, што ўражанне, якое зрабіла на мяне тады твая персона, на самай справе яшчэ больш мяне збянтэжыла, гэта было, далібог, непрыемнае, адмоўнае ўражанне, я проста не ведаў, пра што нам з табой гутарыць, ты здаўся мне на тую хвіліну надзіва, нечакана і прыкра нясталы, грубы, заземлены. Я быў малады касталец, які не ведаў, ды, зрэшты, і ведаць не хацеў зямнога жыцця, а ты — ого, ты быў малады чужаніца, і я не мог, па сутнасці, уцяміць, чаго ты явіўся, навошта ўдзельнічаў у Гульні, бо, на вока, у табе не засталося нічога ад вучня элітарнай школы. Ты мне тады тузаў нервы гэтаксама, як і я табе. Я, вядома, падаўся табе такім фанабэрыстым жыхаром Вальдцэля, без ніякіх заслуг, які сіліўся датрымацца дыстанцыі з некастальцамі, дылетантам Гульні. Ты ж быў мне варварам, недавукам, які да таго ж без ніякіх на тое падстаў меў прыкрыя, сентыментальныя апетыты на маю цікавасць і дружбу. Мы абараняліся адзін ад аднаго, мы амаль зненавідзелі адзін аднаго. Нам нічога не заставалася, як разысціся, ніводзін з нас не мог нічога даць другому і ніводзін не быў здольны прызнаць слушнасць за другім.

Але сёння, Плініё, мы нарэшце маем права выдабыць з глыбіняў памяці з сорамам пахаваны ўспамін пра тую сустрэчу, мы маем права пасмяяцца з гэтай сцэны і з сябе, бо мы сёння сышліся разам з зусім іншымі намерамі і магчымасцямі, без сентыментальнай замілаванасці, але і без здушанага пачуцця рэўнасці і нянавісці, без самаўпадабанасці — мы ж бо даўно ўжо мужчыны.

Дэсіньёры з палёгкай усміхнуўся. Але тут жа спытаўся:

— А ці ўпэўнены мы ў гэтым? Бо добрая ж воля была ў нас і тады.

— Згодзен, — усміхнуўся Кнэхт. — І, нягледзячы на гэтую добрую волю, мы невыносна турзалі і стамлялі і інстынктыўна не трывалі адзін аднаго, адзін здаваўся другому далёкім, настырным, чужым і агідным, і толькі ўяўны абавязак і агульнасць прымушалі нас цэлую гадзіну іграць гэтую пакутлівую камедыю. Я зразумеў

гэта вельмі ясна адразу пасля твайго ад'езду. У той час мы яшчэ не зжылі да канца ні былога сяброўства, ні былога суперніцтва. Замест таго каб даць ім памерці, мы палічылі сябе абавязанымі адкапаць і прадоўжыць іх любымі сродкамі. Мы адчувалі сябе запазычанымі і не ведалі, чым сплаціць тое, што пазычылі. Хіба не так?

— Мне здаецца, — задуменна запярэчыў Плініё, — што ты і цяпер яшчэ, бадай што, занадта ветлівы. Ты кажаш «мы абодва», але ж не абодва мы шукалі і не маглі знайсці адзін аднаго. Пошукі, любоў — усё гэта было толькі ў мяне, а адгэтуль і маё расчараванне і боль. Што ў тваім жыцці змянілася, папытаюся я ў цябе, пасля нашай сустрэчы? Нічога! А ў мяне гэта быў глыбокі, балючы надлом, — вось чаму я не магу, як ты, проста пасмяяцца з гэтай гісторыі.

— Прабач, — прымірэнча сказаў Кнэхт, — я, ма-быць, паспяшаўся. Але ўсё-такі я спадзяюся, што з часам і цябе прымушу смяяцца са мной. Гэта праўда, цябе тады ўшчаміла, — не я, праўда, ушчаміў, як ты думаў і, здаецца, думаеш і цяпер, а адчужанасць і прорва, што пралеглі паміж табой і Касталіяй. Прорву тую, здавалася, у гады нашага сяброўства мы як быццам пераступілі, але яна раптам нянаджана і неспадзявана, жахліва шырока і глыбока расхінулася паміж імі. А раз ты мяне лічыш вінаватым, прашу цябе, выкажы адкрыта сваё абвінавачанне.

— Ах, якое ж гэта абвінавачанне. Гэта толькі скарга. Ты яе недачуў, ды і цяпер, здаецца, слухаць не хочаш. І тады ты адказаў мне на яе ветлівай усмешкай, і сёння ўсміхаешся таксама.

Хоць Плініё чытаў у вачах у Магістра дружбу і прыязнасць, ён не мог выкінуць з памяці старое; яму здавалася, што трэба нарэшце выказацца і пакончыць з гэтым даўнім і глыбока схаваным болем.

Твар у Кнэхта зусім не змяніўся. Ёзэф крыху падумаў, а потым мякка сказаў:

— Я толькі цяпер, здаецца, пачынаю цябе разумець, дружа. Можа, ты і маеш рацыю, нам трэба і гэта абгаварыць. Але найперш я павінен табе нагадаць: толькі ў тым разе ты меў бы права патрабаваць ад мяне разумення таго, што ты называеш сваёй скаргай, калі б ты сапраўды гэту скаргу выказаў. Але ж тады ў час нашай гутаркі вечарам у гасцёвым доме ты не выказваў ніякіх

скаргаў, наадварот, ты, як і я, гаварыў развязна і пагардліва, як і я, прыкідваўся чалавекам абыякавым, якому няма чаго журыцца. Але патаемна ты чакаў, як я цяпер бачу, што, нягледзячы на гэта, я ўгадаю тваю прыхаваную скаргу і ўбачу пад маскай твой сапраўдны твар. Праўда, сёе-тое можна было і тады заўважыць, хоць і не ўсё. Але як я мог, не кранаючы твайго гонару, даць табе знак, што ты мяне непакоіш, што я цябе шкадую? Ды і які толк быў працягваць табе руку, калі яна пустая, калі я нічога не мог даць табе, ні парады, ні суцехі, ні дружбы, бо сцежкі нашыя надта ж далёка разышліся. Тады гэтая прыхаваная незадаволенасць і гаркота, якія ты прыкрываў самаўпэўненымі прамовамі, не падабаліся, перашкаджалі мне і здаваліся, шчыра кажучы, агіднымі; у іх адчуваліся прэтэнзіі на спагаду і жаль, чаму ўсе твае паводзіны яўна супярэчылі, у ім было нешта назойлівае, нешта хлапечае. Так мне здавалася, і гэта студзіла мае пачуцці. Ты заявіў прэтэнзію на маю дружбу, ты хацеў быць кастальцам, але быў пры гэтым такі няструмлівы, дзіўны, такі занураны ў свае эгаістычныя перажыванні! Такая была мая думка, бо я добра бачыў, што кастальскага ў табе амаль нічога не засталося, ты яўна забыў нават асноўныя каноны. Што ж, гэта мяне не датычылася. Але навошта тады ты явіўся ў Вальдцэль і захацеў вітаць нас як таварышаў? Вось што раздражняла мяне і абурала, і ты меў рацыю, зразумеўшы маю падкрэсленую ветлівасць як адпор. Праўда, я інстынктыўна даваў табе адпор, і не таму, што ты быў парафіянін, а таму што ты прэтэндаваў на званне кастальца. Калі ж ты праз шмат гадоў нядаўна паявіўся тут зноў, у табе нічога такога больш не адчувалася, ты выглядаў зямным і гаварыў, як гавораць прыбыльцы са знешняга свету, але асабліва здзівіла і кранула мяне выяўленне журбы, турботы і маркоты на тваім твары. Усё гэта — твае паводзіны, словы, нават скруха твая — мяне падкупляла, было цудоўна, пасавала табе, было вартае цябе, нішто ўжо больш не адцірала, я мог прыняць і ўпадабаць цябе без нічога ніякага. Гэтым разам не патрэбна была ні ўдаваная ветлівасць, ні стрыманасць, вось чаму я адразу сустрэў цябе як сябра і ўсяляк стараўся выказаць табе міламжальную любоў. Гэтым разам усё склалася зусім не так, як тады, хутчэй я дамагаўся тваёй дружбы і дабіваўся яе, а ты замкнуўся ў сабе, але ўсё-такі я ў душы ўспрыняў тваё

з'яўленне ў нашай Правінцыі і тваю цікавасць да яе лёсу як знак прывязанасці і вернасці. Нарэшце і ты пайшоў мне насустрач, і вось цяпер мы можам расхінуць адзін аднаму душу і, хочацца верыць, узнавіць нашу былую дружбу.

Ты толькі што сказаў, што вельмі хваравіта перажыў тады нашу юначую сустрэчу, мне ж яна быццам бы была абы на што. Не будзем пра гэта спрачацца, хай будзе твая праўда. Але цяперашняя наша сустрэча, amice, зусім не абы-што мне, яна значыць мне куды больш, чым я магу табе пра гэта сказаць і чым ты можаш сабе ўявіць. Яна азначае, калі ўжо казаць на поўную шчырасць, не толькі вяртанне страчанага сябра і тым самым уваскрашэнне мінулага часу, адкуль я магу зачарпнуць новай энергіі на новыя пераўтварэнні. Яна азначае ў мяне, перш за ўсё, покліч, крок насустрач, яна адкрывае мне дарогу ў ваш свет, ставіць мяне зноў перад старой праблемай: сінтэз між намі і вамі. І адбываецца гэта, павер, у самую спрыяльную для мяне хвіліну. На гэты раз [redacted] не застаўся глухі, вуха маё стала больш чуйнае, чым калі б то ні было раней, бо ты мяне, па сутнасці, не застаў знянацку, покліч свой не здаецца нечым чужым, вонкавым, перад чым можна адкрыцца або замкнуцца, ён як бы ідзе з самога мяне, гэта нібы адказ на моцнае і ўсё больш настойлівае жаданне, на патрэбу маю і палкую маю мару. Але пра гэта іншым разам, ужо позна, нам абодвум трэба адпачываць.

Ты сказаў нядаўна пра маю весялосць і пра сваю журбу і рашыў, здаецца, што я не магу зразумець тваю, як ты яе называеш, «скаргу» — нават сёння, бо я адказваю на яе ўсмешкаю. Тут я чагосьці не разумею. Чаму нельга выслухаць скаргу весела, чаму на яе, замест усмешкі, трэба адказваць скрухай? Ты з сваёй маркотай, [redacted] сваёй бядой зноў прыйшоў у Касталію, да мяне, і я маю права зрабіць выснову з гэтага, што цябе вабіць менавіта наша ціхамірная яснасць духу. Калі я не магу падзяліць з табой твае беды і скруху і заразіць імі сябе, дык з гэтага зусім не вынікае, што я не паважаю іх і не стаўлюся да іх сур'ёзна. Я цалкам прымаю тваё аблічча і пячатку на ім ад твайго жыцця і лёсу, гэта твая доля, яна — твая, і яна дарагая мне, хоць я не думаю ўбачыць яе ў перамене. Як узнікла тваё аблічча, я магу толькі здагадвацца, калі-небудзь ты мне раска-

жаш роўна столькі, колькі палічыш патрэбным. Я бачу толькі адно: табе, як відаць, жывецца цяжка. Але чаму ты думаеш, што я не хачу і не магу правільна зразумець цябе і твае беды?

Твар Дэсіньёры зноў пацямнеў.

— Часам мне здаецца, — сказаў ён панура, — што мы не толькі па-рознаму выказваем свае думкі і гаворым на розных мовах, прычым перакласці з адной на другую можна толькі прыблізна, а што мы наогул дзве зусім розныя істоты, якія ніколі не зразумеюць адна адну. І хто з нас у сутнасці сапраўдны, паўнацэнны чалавек — ты ці я, а можа, ні ты, ні я — мне гэта вечная загадка. Быў час, калі я глядзеў на вас, членаў Ордэна, знізу ўгору, з трапятаннем, адчуваў сваю непаўнацэннасць і зайздросціў вам, бо вы былі поўныя светлай радасці, вечна гулялі, вечна цешыліся сваім жыццём, глядзеў на вас, як на багоў, якім недаступныя пакуты, як на звышчалавекаў. У некаторыя дні вы мне здаваліся вартымі то спагады, то пагарды, бясполымі, штучна асуджанымі на вечнае маленства, дзіцячымі, блазнюкаватымі ў сваім беспачуццёвым, старанна адгароджаным, чысценька прыбраным лялечным свеце, як бы ў дзіцячым садку, дзе клапатліва выціраюць кожнаму нос, дзе заглушаюць і таймуюць усякі недазволены рух пачуцця або думкі, дзе ўсё жыццё гуляюць у прыстойныя, бяспечныя, бяскроўныя гульні, дзе любы здаровы пробліск жыцця, любое вялікае пачуццё, любое сапраўднае жаданне, любое сардэчнае хваляванне кантралююць і лечаць медытацыяй, адганяюць і знешкоджваюць. Хіба гэта не штучны, стэрылізаваны і па-школьнаму абмежаваны свет, палавінны і прывідны, у якім вы тут баязліва ліпееце, свет без заганаў і палкасці, без голаду, без соку і солі, свет без сям'і, без матчынай пяшчоты, без дзяцей, амаль без жанчын? Пачуццёвае жыццё вы цугляеце медытацыяй, рызыкоўныя і галаваломныя рэчы, за якія цяжка несці адказнасць, як, скажам гаспадарка, судоўніцтва, палітыка, вы ўжо колькі пакаленняў аддаяце другім; маладушныя, дабротлівыя, вы не ведаеце ні клопату пра кавалак хлеба, ні залішне грузкіх абавязкаў, вы жывяце паразітамі і з нудоты бавіцеся сваімі вучонымі прыхамацямі і вышукамі, падлічваеце склады і літары, займаецеся музыкай і Гульнёй, а тым часам там, у свецкім брудзе, няшчасныя,

зацкаваныя людзі жывуць сапраўдным жыццём і робяць сапраўдную справу.

Кнэхт слухаў яго з неаслабнай, сяброўскай увагай.

— Дружа мой, — сказаў ён задуменна, — як жа твае словы нагадваюць мне нашы школьныя гады, тваю тагачасную запальчывую крытыку! Але сёння роля ў мяне не тая, што тады, не мая задача сёння абараняць Ордэн і Правінцыю ад тваіх нагана́к, і мне вельмі прыемна, што я пазбаўлены гэтага цяжкага мусу, які ў свой час даводзіў мяне да поўнага знясілля. Менавіта такія бліскучыя атакі, як твая цяперашняя, адбіваць даволі цяжка, ты, напрыклад, гаворыш пра людзей, якія там, за межамі Касталіі, «жывуць сапраўдным жыццём і робяць сапраўдную справу». Гэта гучыць катэгарычна, узнёсла і шчыра, амаль як аксіёма, і калі б хто хацеў аспрэчыць гэтую аксіёму, яму давялося б проста нявветліва нагадаць прамоўцу, што яго зямная «сапраўдная справа» часткова накіравана на дабро і падтрымку Касталіі. Але адкінем на нейкі час нашы жарты! Я разумею з тваіх слоў і чую з твайго тону, што сэрца тваё ўсё яшчэ поўнае нянавісці да нас, але ў той самы час і заўзятай любові, зайздрасці і палкай тугі. Мы ў цябе — баязліўцы, трутні або дзеці, што бавяцца ў дзіцячым садку, але ж быў час, калі ты бачыў у нас божышчаў, поўных радаснай яснасці. Адну выснову я магу ўжо зрабіць з сказанага табою: у тваёй журбе, у тваіх няшчасцях, або як бы мы іх ні называлі, Касталія не вінаватая, яны пачынаюцца з іншай крыніцы. Калі б вінаватыя былі мы, кастальцы, ты б сёння не паўтараў старых папрокаў і пярэчанняў, якія ты прыводзіў у спрэчках у нашы хлапечыя гады. У далейшых нашых гутарках ты больш раскажаш пра сябе, і я не сумняваюся, што мы знойдзем спосаб зрабіць цябе весялейшым і шчаслівейшым альбо хоць зрабіць твае адносіны да Касталіі больш свабоднымі і цярпімымі. Як я магу меркаваць, твае адносіны да нас, да Касталіі і, значыцца, да сваёй маладосці і школьных гадоў — фальшывыя, нацягненыя, сентыментальныя. Ты раскалоў сваю душу на кастальскую і свецкую, ты залішне пакутуеш ад спраў, за якія на цябе не падае ніякая адказнасць. І вельмі магчыма, што ты дужа лёгка ставішся да іншых спраў, за якія ты якраз сам і адказваеш. Падазраю, што ты ўжо даўно не практыкаваўся ў медытацыі. Праўда ж?

Дэсіньёры ўсміхнуўся вымушанай усмешкай.

— Які ты пранікпівы, domine. Даўно, кажаш? Ужо шмат, шмат гадоў я не карыстаюся чарамі медытацыі. Але які ж ты стаў клапатлівы! Апошні раз, калі я быў у Вальдцэлі на вакацыйных курсах і прыняў ад вас столькі ветлівасці і пагарды, калі вы так пыхліва адхілілі мае сяброўскія пачуцці, я вярнуўся дамоў з цвёрдым намерам раз і назаўсёды вытруціць з сябе ўсё кастальскае. З таго часу я адмовіўся ад Гульні, ад медытацыі, нават музыка надоўга мне спрыкрала. Замест гэтага я знайшоў сабе новых таварышаў, якія выклалі мне поўны курс свецкіх асалод. Мы пілі і юрылі, мы выпрабавалі ўсе даступныя спосабы самаачмурэння, мы аплёўвалі і асмейвалі ўсё прыстойнае, дабраяўнае, усё, што мела дачыненне да ідэалаў. Такая апантанасць была, вядома, нядоўгая, але дастатковая, каб сцерці з мяне апошні налёт кастальскага духу. І калі я праз шмат гадоў у сувязі з адным выпадкам зразумеў, нарэшце, што перабраў меру і што сякія-такія прыёмы медытацыі мне б вельмі-такі прыдаліся, я меў зашмат гонару, каб пачынаць спачатку.

— Зашмат гонару? — ціха спытаўся Кнэхт.

— Ну, але, зашмат. Я за гэты час паспеў нырнуць у свецкае жыццё і стаць свецкім чалавекам. Я ўжо не хацеў нічым адрознівацца ад людзей свету, не хацеў іншага жыцця, як іх жыццё, поўнае страсці, дзіцячае, жорсткае, неакілзанае, жыццё паміж шчасцем і страхам; я пагардліва адкінуў магчымасць стварыць сабе палегчанае, прывілеяванае жыццё з дапамогаю вашых сродкаў.

Магістр кінуў на яго пранізлівы позірк:

— І ты мог вытрымаць такое жыццё шмат гадоў запар? І не знайшоў ніякіх іншых сродкаў, каб адолець яго?

— Чаму не, — прызнаўся Плініё, — я спрабаваў і спрабую ўжыць гэтыя сродкі і сёння. Бываюць дні, калі я зноў напіваюся і не магу заснуць без парашкоў.

На імгненне Кнэхт, быццам раптам стаміўшыся, заплюшчыў вочы, потым зноў уеўся вачыма ў сябраў твар. Моўчкі глядзеў ён яму ў твар спачатку выпрабавальна і сур'ёзна, потым усё больш прыязна і весялей. Дэсіньёры заўважыў, што яшчэ ніколі не бачыў чалавечых вачэй, якія былі б адначасова такія праніклівыя і такія поўныя дабрыні, такія нявінныя і патрабавальныя, такія

ясна зычлівыя і ўсёведныя. Ён прызнаваўся, што позірк гэты спачатку бянтэжыў і раздражняў яго, але спакваля супакоіў і нарэшце скарыў сваёй мяккай сілай. Усё ж ён яшчэ памкнуўся абараніцца.

— Ты сказаў, — прамовіў ён, — што ведаеш сродак, як зрабіць мяне больш шчаслівым і радасным. Але табе і ў галаву не прыйшло спытацца ў мяне, ці хачу я гэтага.

— Ну, — засмяяўся Кнэхт, — калі мы можам зрабіць чалавека больш шчаслівым і радасным, мы ў кожным разе абавязаны дабіцца гэтага, не чакаючы, калі нас пра гэта папросяць. Ды і як ты можаш не імкнуцца да гэтага, не хацець гэтага! На тое ты і тут, на тое і сядзім мы зноў адзін перад адным, на тое ты і вярнуўся да нас. Ты ненавідзіш Касталію, ты пагарджаеш ёю, ты надта ганарышся сваёй заземленасцю і сваёй скрухай, каб палегчыць свае становішча розумам і медытацыяй — і ўсё-такі тайнае і неадольнае імкненне да нас і да нашай яснасці вяло і цягнула цябе ўсе гэтыя гады, пакуль нарэшце не прымусіла вярнуцца і яшчэ раз пашукаць шчасця ў нас. І я запэўніваю цябе: ты прыйшоў у самы раз, у такі час, калі я і сам вельмі таміўся, чакаючы, што мяне паклічуць з вашага свету, што адчыняцца перада мною дзверы з яго. Але пра гэта другім разам! Ты мне сёе-тое даверыў, дружа, і я дзякую табе за гэта; ты ўбачыш, што і я мушу табе паспавядацца. Ужо позна, заўтра раніцай ты едзеш, мяне зноў чакае цяжкі дзень, нам пара спаць. Але падары мне яшчэ чвэрць гадзіны.

Ён устаў, падышоў да акна і падняў вочы ўгору, туды, дзе паміж хмарамі цягнуліся прасветліны чыстага начнога неба, усыпанага зоркамі. Ён не адразу павярнуўся, і госць таксама ўстаў і падышоў да акна. Магістр стаяў, гледзячы ўгору, рытмічнымі глыткамі ўдыхаючы халоднае асенняе паветра. Ён паказаў рукой на неба.

— Зірні, — сказаў ён, — на гэтыя аблокі з прасветлінамі неба! Спачатку здаецца, што глыбіня там, дзе цямней, але адразу ж пачынаеш разумець, што гэты морак і рыхласць — усяго толькі аблокі, а сусветная прастора са сваімі глыбінямі пачынаецца каля берагоў і фіёрдаў гэтых хмарных гор, сыходзячы ў бясконцасць, дзе ўрачыста ззяюць зоркі, для нас, людзей, гэта — найвышэйшы сімвал яснасці і парадку. Глыбіня сусвету і яе таямніцы не там, дзе хмары і морак, глыбіня ў пра-

зрыстасці і радаснасці. Прашу цябе, перад сном паглядзі крыху на гэтыя бухты і праліві з мноствам зорак і не адганяй думак або летуценняў, якія пры гэтым наведаюць цябе.

Дзіўнае, трапятлівае пачуццё, незразумела — пакуты ці шчасця, варухнулася ў сэрцы ў Плініё. Такімі ж словамі, успомніў ён, яго калісьці, у непрыпомныя часы, на цудоўным, светлым заранку яго маладосці, у першыя гады вучобы ў Вальдцэлі, заклікалі да пачатковых медытацыйных практыкаванняў.

— І дазволь яшчэ адно, — ціхім голасам зноў загаварыў Магістр Гульні. — Я хацеў бы сказаць табе некалькі слоў пра яснасць, пра яснасць зорак і духу, а адначасова і пра нашу кастальскую яснасць. У цябе нядобрыя адносіны да яснасці, трэба думаць таму, што табе наканавана было ісці дарогай скрухі, і цяпер усякая бадзёрасць і добры гумор, асабліва ў нас, кастальцаў, здаюцца табе праявай немачы і блазнюкаватасці, а таксама баязлівасці, уцёкамі ад жахаў і безданяў жыцця ў ясны, уладкаваны свет пустых формаў і формул, голых абстракцый і дзівосаў. Але, дружа мой маркотны, хай і праўда ёсць у нас гэтыя ўцёкі ад жыцця, хай шмат у нас баязлівых жанглёраў пустымі формуламі, хай іх нават у нас большасць — у сапраўднай яснасці, хай гэта яснасць неба або яснасць духу, гэта не забярэ ні каштоўнасці, ні бляску. Рыцарам павярхоўнай мяккадушнасці і фальшывай яснасці супрацьстаяць людзі і генерацыі людзей, чыя яснасць — не гульня ў блізір, а сур'ёзная для іх і глыбокая. Аднаго такога я ведаў: гэта наш былы Магістр музыкі, ты яго час ад часу сустракаў у Вальдцэлі; гэты чалавек у апошнія гады свайго жыцця ў такой меры валодаў даброццю яснасці, што ўвесь аж прамяніўся ёю, як сонца прамяніцца святлом, ён адараў кожнага сваёй зычлівасцю і жыццярадаснасцю, сваім гуморам, верай і даверам; і кожны, хто пранікнёна прымаў гэтае ззянне і ўбіраў яго ў сябе, выпраменьваў яго далей на іншых людзей. І мяне таксама апраменіла гэта святло, і мне ён узычыў часцінку сваёй яснасці і ўнутранага ззяння, гэтаксама як нашаму Фэрамонтэ і некаторым іншым. Дасягнуць такой яснасці было б мне, а са мною і многім іншым, найвышэйшай і найвысакароднейшай мэтай. Ты можаш убачыць яе і ў многіх айцах нашага Ордэна. Гэта яснасць — не выдумка і не самазадавальненне, яна най-

вышэйшае пазнанне і любоў, прыманне любой рэчаіснасці, чуванне на краі ўсіх безданяў і прорваў, дабрачыннасць святых і рыцараў, яна неразбуральная, і з гадамі, з набліжэннем смерці толькі павялічваецца. У ёй — таямніца прыгажосці і сапраўдная субстанцыя ўсіх мастацтваў. Паэт, які славіць у танцавальным рытме сваіх вершаў веліч і вусцішнасць жыцця, альбо музыкант, які прымушае гучаць чыстую існасць, — гэта светланосец, які робіць жыццё больш радасным і больш празрыстым, нават калі ён вядзе нас праз слёзы і пакутлівую напружанасць. Магчыма, паэт, чые вершы нас гэтак захапляюць, быў журботны і самотны, магчыма, музыкант быў пануры летуценнік, але яго твор усё роўна саўдзельны з яснасцю багоў і зорак. Дорыць ён нам ужо не свой морак, не свой боль, не сваю боязь, а кроплю чыстага святла, вечнай яснасці. І калі цэлыя народы ў міфах, касмагоніях, рэлігіях сіляцца вымераць глыбіню светаявы, апошняе і найвышэйшае, да чаго яны даходзяць, ёсць усё тая самая яснасць. Узгадай старажытных індусаў, пра якіх так добра расказваў калісь наш вальдцэльскі настаўнік: гэта ж быў народ пакутаў, роздуму, самазнясілення, аскезы, але апошнія ўзлёты яго духу былі поўныя святла і яснасці, ясная была ўсмешка ў тых, што пераадолелі свет будаў, яснасць пазначала вобразы яго бяздоннай міфалогіі. Свет, як яго выяўляюць гэтыя міфы, паўстае ў сваім пачатку боскім, шчасным, прамяністым, першатворнапрыгожым, як залаты век; потым ён захворвае і псуецца, усё больш і больш упадае ў грубасць і ўбоства і пад канец чатырох сусветных вякоў, што спускаюцца ўсё ніжэй і ніжэй, ён гатовы распасціся і загінуць пад нагамі смяшлівага танцора Шывы; але гэта не канец, усё пачынаецца нанава з усмешкай снобачлівага Вішну, які галузлівай рукой творыць новы, малады, цудоўны, зіхатлівы свет. Ты толькі падумай: гэты народ, пранікліва, здольны пакутаваць як ніякі іншы, з жахам і сорамам глядзіць на жорсткую гульню сусветнай гісторыі, на вечна рухомае кола жадання і пакуты, ён разгледзеў і зразумеў усю крохкасць рэчаў, усю сатанінскую ненажэрнасць чалавека, але таксама і яго тугу па чысціні і гармоніі, і ён знайшоў выяўленню сусветнай прыгажосці і сусветнага трагізму гэтыя непараўнаныя прыпавесці пра сусветныя вякі і распад светаявы, пра грознага Шыву, які ў танцы руйнуе стары свет, і пра ўсмешку

Вішну, які кволіцца ў дрымоце і з залатых божых сноў, іграючы, творыць новы свет.

Што да нашай кастальскай яснасці, дык яе можна разглядаць як познюю і малую разнавіднасць той вялікай яснасці, але і гэтая разнавіднасць несумненна мае права на існаванне. Вучонасць не заўсёды і не ўсюды была святочная, хоць і павінна быць такою. У нас яна ў якасці культа ісціны цесна звязана з культам прыгажосці і, звыш таго, з медытатыўным выхаваннем душы і з гэтай прычыны не можа канчаткова страціць святочнай яснасці. Але гульня аб'ядноўвае ўсе тры пачаткі: навуку, пакланенне прыгажосці і медытацыю, а таму сапраўдны адэпт Гульні павінен быць увесь прасякнуты яснасцю, як спелы плод салодкім сокам, і, найперш, ён павінен насіць у сабе яснасць музыкі, якая не што іншае, як смеласць, як бадзёрае, усмешлівае, скочнае шэсце праз жахі і агні свету, як ахвяраванне. Гэтая яснасць была маёй мэтай з тых часоў, калі я школьнікам і студэнтам толькі пачаў пра яе здагадвацца, і я ніколі ёй не здраджу, хай то ў няшчасці і пакутах.

Цяпер пара спаць, а заўтра раніцай ты едзеш. Вяртайся хутчэй, раскажаш мне больш падрабязна, раскажаш мне болей пра сябе, і мне таксама будзе што расказаць, ты ўбачыш, што і ў Вальдцэлі, і ў жыцці Магістра ёсць свае дысанансы і расчараванні, што і яму вядомыя роспач і бездані. Але зараз ты яшчэ павінен насыціць слых музыкай, вазьмі яе ў свой сон. Позірк на зорнае неба і слых, які ўвабраў у сябе музыку перад сном, не раўнуючы лепш, чым твае снатворныя.

Ён сеў і павольна, зусім ціха сыграў фразу з той санаты Пёрселя, якую так любіў айцец Якаў. Быццам кроплі залатога святла падалі гукі ў моўчу, так ціха, што ў прамежках чутна была песня старога фантана на двары. Пяшчотна і строга, скупа і соладка сустракаліся і перапляталіся галасы празрыстай музыкі, смела і бадзёра вялі яны свой любоўны карагод праз Ніштó часу і трупехласці, на кароткі час свайго жыцця надаючы пакою і начному часу бязмернасць светаявы, і калі Ёзэф Кнэхт развітваўся з Плініё, у госця быў зусім іншы, прасветлены твар, а ў вачах стаялі слёзы.

Кнэхту ўдалося скрышыць лёд, і паміж ім і Дэсіньёры ўзнікла жывое і дабратворнае стасункаванне. Плініё, які доўгія гады пражыў у расчараванай меланхоліі, прымушаны быў цяпер прызнаць слушнасць за сябрам: сапраўды, сум па гаенні, па бадзёрасці, па кастальскай яснасці цягнуў яго да Педагагічнай правінцыі. Ён заўчашчаў сюды, ужо не ўваходзячы ні ў якія камісіі, сустракаў яго тут з раўнівым недаверам Тэгулярыус, і неўзабаве Магістр Кнэхт ведаў пра Плініё і яго жыццё ўсё, што яму трэба было ведаць. Жыццё гэта не было такое ўжо незвычайнае і складанае, як мог спярша падумаць Кнэхт з прызнанняў сябра. Поўны ў юнацтве энтузіязму і дзейснай прагі, Плініё, як мы ўжо ведаем, потым зведаў расчараванні і прыніжэнні. Ён не стаўся міратворцам і пасрэднікам паміж знешнім светам і Касталіяй, а застаўся адзінокім панурым чужаніцай ды так і не змог дабіцца сінтэзу свецкіх і кастальскіх уласцівасцей свайго паходжання і характару. І ўсё ж ён не быў проста няўдальцам, ён здабыў у паражэнні і капітуляцыі, нягледзячы ні на што, свой твар і незвычайную долю. Кастальскае выхаванне не апраўдала ўскладзеных на яго надзей, прынамсі, спачатку яно не дало яму нічога, акрамя канфліктаў і расчаравання, глыбокай і пакутлівай для яго прыроды адчужанасці і адзіноты. І ступіўшы на гэтую ўсыпаную цернямі дарогу чалавека адзінокага і непрыстасаванага, ён сам рабіў усё, каб паглыбіць сваю адчужанасць і прыпалыя яму цяжкасці. Яшчэ студэнтам ён, напрыклад, уступіў у непрымірымы канфлікт з сям'ёй, найперш з бацькам. Бацька не належаў да сапраўдных палітычных лідэраў і ўсё жыццё заставаўся, як і ўсе Дэсіньёры, стаўпом кансерватыўнай, вернападданніцкай палітыкі і партыі, ворагам усякіх навацый, праціўнікам любых замахаў на іх правы; ён прывык адносіцца з недаверам да людзей без імя і становішча і быў гатовы на ахвяры дзеля захавання старога парадку, дзеля ўсяго, што здавалася яму законным і свяшчэнным. Таму ён, не маючы асаблівай патрэбы ў рэлігіі, заставаўся верным сынам царквы і таму, не будучы чужы пачуццям справядлівасці, зычлівасці і патрэбе рабіць дабро, упарта і пераканана супраціўляўся спробам арандатараў палепшыць сваё становішча. Гэтую жорсткасць ён

апраўдваў, мусіць, лагічна, ходкімі праграмнымі слоўцамі сваёй партыі, а на самай справе ім кіравалі не перакананні і довады, а сляпая вернасць сваім братам па саслоўі і сваім родавым традыцыям, бо характар яго складаўся з нейкага рыцарскага культу гонару і высакародства і наўмыснай пагарды да ўсяго, што лічыць сябе сучасным, перадавым і прагрэсіўным.

Такі чалавек, зразумела, не мог не адчуць расчаравання, абурэння і злосці, даведаўшыся, што яго сын Плініё яшчэ студэнтам зблізіўся з нейкай апазіцыяй і прагрэсісцкай партыяй і ўступіў у яе. У той час стварылася левае, маладзёжнае крыло старой буржуазна-ліберальнай партыі, якую ўзначаліў нейкі Верагут, публіцыст, дэпутат, бліскучы трыбун, тэмпераментны, часам крыху самазакаханы і самазаспакоены друг народа і вальналюбец, чые публічныя выступленні па універсітэцкіх гарадах і змаганне за студэнцкую моладзь не засталіся марнымі і прывялі да яго сярод іншых захопленых слухачоў і прыхільнікаў маладога Дэсіньёры. Хлопец, расчараваўшыся ў вышэйшай школе, шукаючы новай апоры, якой-небудзь замены кастальскай маралі, якая страціла ў яго сэнс, шукаючы іншага ідэалу, іншай праграмы, захапіўся дакладамі Верагута, яго пафасам і баявітым духам, яго дасціпнасцю і выкрывальніцкім тонам, яго прыгожай паставай і мовай, — Плініё прыхінуўся да студэнцкай групы з слухачоў Верагута, якія цалкам прынялі яго бок і мэты. Калі пра гэта даведаўся бацька Плініё, ён адразу ж выправіўся да сына і, вельмі разгневаны, упершыню ў жыцці сурова выгаварыў яму. Ён накінуўся на сына з папрокамі ў крамоле, у здрадзе бацьку, сям'і і традыцыям роду і безапеляцыйна загадаў яму выправіць свае памылкі і парваць з Верагутам і яго партыяй. Гэта быў, вядома ж, не зусім удалы метад уздзеяння на хлопца, якому свая пазіцыя бачылася цяпер у німбе пакутніцтва. Плініё спакойна выслухаў бацькаву філіпіку і заявіў, што не на тое ён дзесяць гадоў хадзіў у элітарную школу і ў універсітэт, каб адмовіцца ад сваіх поглядаў і самастойных меркаванняў, дазволіць хаўрусу карыслівых землеўладальнікаў навязваць яму погляды на дзяржаву, эканоміку і справядлівасць. Яму пайшла на карысць школа Верагута, які па ўзоры ўсіх вялікіх трыбунаў і на ўме не меў ніякіх асабістых або саслоўных выгодаў, а імкнуўся выключна да чыстай, абсалютнай справядлі-

васці і чалавечнасці. Стары Дэсіньёры з'едліва зарагатаў і прапанаваў сыну спярша закончыць адукацыю, а потым ужо ўмешвацца ў мужчынскія справы, і не строіць сабе, быццам ён больш разумее ў чалавечым жыцці і справядлівасці, чым шэраг пакаленняў відных высакародных сямействаў, чыім мізэрным атожылкам ён з'яўляецца і каму зараз сваёй здрадай наносіць удар у плечы. Яны спрачаліся, з кожным словам усё больш зацята, усё больш зневажаючы адзін аднаго, пакуль стары раптам, быццам убачыўшы ў люстры свой скажоны ад гневу твар, не спыніўся, засаромеўшыся, і з халодным маўчаннем не выйшаў. З таго часу ранейшыя блізкія і цёплыя адносіны Пlініё з сям'ёй ніколі ўжо больш не аднаўляліся, бо ён не толькі застаўся верны сваёй групе і яе неалібералізму, але яшчэ да скančэння курса універсітэта зрабіўся непасрэдным вучнем, памочнікам і паплечнікам, а праз некалькі гадоў і зяцем Верагута. Мала таго што выхоўваўся Плініё ў элітарных школах і цяжка прывыкаў да жыцця на радзіме і ў свеце (што дужа мучыла яго і парушала душэўную раўнавагу) — новыя абставіны канчаткова паставілі яго ў безабароннае, складанае становішча. Безумоўна, ён набыў нешта каштоўнае: нейкае падабенства веры, палітычныя перакананні і партыйную прыналежнасць, што задавальняла яго юначае імкненне да справядлівасці і прагрэсу, а ў асобе Верагута — настаўніка, правадыра і старэйшага сябра, якога спачатку безаглядна любіў і які, у сваю чаргу, меў патрэбу ў ім і цаніў яго. Акрамя ўсяго, ён здабыў і мэту, сферу дзейнасці і жыццёвую задачу. Гэта было нямала, але заплаціць за гэта давялося дарагой цаной. Калі малады чалавек прымірыўся са стратай натуральнага свайго спадчыннага становішча ў бацькоўскім доме і сярод саслоўных братоў, калі з фанатычнай утрапёнасцю мучаніка пераносіў выгнанне з прывілеяванай касты і яе варожасць, дык заставалася яшчэ нешта, з чым ён не мог прымірыцца, — уедлівае пачуццё, што ён прынёс гора маці, паставіў яе ў вельмі цяжкае становішча паміж сабой і бацькам і, магчыма, скараціў гэтым яе дні. Яна памерла неўзабаве пасля яго жаніцьбы; з таго часу Плініё ў бацькавым доме амаль не паяўляўся, а пасля смерці старога нават прадаў яго дом, старадаўняе фамільнае гняздо.

Ёсць натуры, здольныя любіць аплачанае ахвярамі месца ў жыцці, хай гэта пасада, шлюб, прафесія, і ме-

навіта праз ахвяры так зжыцца з гэтым месцам, што яно прыносіць ім шчасце і радасць. Дэсіньёры быў чалавек іншага складу. Ён, праўда, застаўся верны сваёй партыі і яе правадыру, яе палітычнаму накірунку і дзейнасці, свайму шлюбу, свайму ідэалу; аднак з часам усё гэта стала ў яго гэтаксама сумніцельным, як праблематычным зрабілася само яго існаванне. Юнацкі запал у палітыцы і ў поглядах прытух, ваяўнічасць, угрунтаваная на ўсведамленні сваёй слушнасці, пачала даваць яму гэтаксама мала шчасця, як ахвяры і пакуты, якія ішлі ад яго ўпартасці. Тут далучыўся і працверажальны вопыт у прафесійнай дзейнасці; нарэшце ён пачаў думаць, ці праўда, што толькі любоў да ісціны і справядлівасці перацягнулі яго на бок Верагута, ▪ што, калі гэтаму садзейнічалі прамоўніцкі талент і характар народнага трыбуна, абаяльнасць і майстэрства публічных выступленняў, зычны голас Верагута, выдатны, мужны смех або розум і прыгажосць ягонай дачкі? Плініё ўсё больш і больш сумняваўся, ці праўда стары Дэсіньёры з яго вернасцю свайму саслоўю, з яго суровасцю да арандатараў, абараняў менш высакародны пункт погляду; ён усумніўся наогул, ці існуе дабро і зло, праўда і несправядлівасць, ці не ёсць, зрэшты, сваё сумленне адзіным правамоцным суддзёй, а калі так, дык ён, Плініё, не мае рацыі, бо жыве ён не ў шчасці, не ў спакоі і згодзе з самім сабой і людзьмі, а ў бясконцых сумненнях, у пакутах нячыстага сумлення. Шлюб яго хоць і не быў зусім нешчаслівы або няўдалы, але быў поўны напружання і супярэчнасцей; бадай што, гэта было лепшае з усяго, чым ён валодаў, але сямейнае жыццё не адарыла яго тым спакоем, тым шчасцем, адчуваннем невінаватасці, чыстага сумлення, якія яму былі так патрэбны, а вымагаў большай асцярогі і вытрымкі, каштаваў пакутлівых намаганняў. Нават харошанькі і здольны сын Ціта скора стаўся аб'ектам змагання і дыпламатыі, рэўнасці і спроб кожнага з бацькоў перацягнуць дзіця на свой бок; надта любёны і спешчаны абаімі, хлопчык усё больш і больш прыкіпаў да маці і нарэшце зусім адышоў да яе. Гэта быў апошні, самы балючы ўдар, апошняя страта ў жыцці Дэсіньёры. Але і гэты ўдар не падбіў яго, ён здолеў ад яго адысці і знайшоў у сабе сілу захаваць спакой, трымаўся з годнасцю, што, аднак, клеілася цяжка і ад чаго ён даўся ў нязведаную меланхолію.

Усе гэтыя падрабязнасці Кнэхт уведаў ад свайго сябра паступова, за час яго наведванняў і сустрэчы з ім, узамен ён дзяліўся з Плініё сваімі перажываннямі і праблемамі. Ён ніколі не дазваляў сабе ставіць Плініё ў становішча чалавека, які спавядаўся, а праз гадзіну інакш ужо настроены, ужо шкадуе пра гэта і хацеў бы ўзяць сказанае назад, — наадварот, ён падтрымліваў і мацаваў давер Плініё сваёй шчырасцю і любоўю. Спакваля і ягонае жыццё раскрылася перад Плініё, з выгляду простае, узорна ўпарадкаванае жыццё ў рамках іерархіі, жыццё, поўнае поспехаў і прызнання і ўсё ж даволі суровае, ахвярнае, самотнае; калі шмат што ў гэтым жыцці заставалася незразумелым чалавеку збоку, якім быў Плініё, усё ж яму былі даступныя яго галоўныя плыні і асноўныя тэндэнцыі, і нічога ён не разумеў лепей, нічому не спагадаў больш, чым Кнэхтавай павабе да маладога пакалення, да юных, яшчэ не вымуштраваных выхаваннем вучняў, да сціплай дзейнасці без вонкавага бляску, без вечна абрыдлівай яму прадстаўнічасці, да цягі стаць, скажам, настаўнікам латыні або музыкі дзе-небудзь у пачатковай школе. У поўнай згодзе з сваімі медатамі лекавання і выхавання Кнэхт здолеў скарыць гэтага свайго пацыента не толькі незвычайнай адкрытасцю, але і давёў, што той можа паслужыць і памагчы яму, і паказаў, як гэта зрабіць. І Дэсіньёры на самай справе мог быць у пэўных адносінах карысны Магістру, не так, можа, у галоўным пытанні, як задавальняючы яго цікаўнасць у розных дробязях свецкага жыцця.

Чаму Кнэхт усклаў на сябе нялёгкую задачу нанава навучыць меланхалічнага сябра маладосці ўсміхацца і смяяцца і ці магло тут граць нейкую ролю чаканне паслуг у адказ, нам невядома. Дэсіньёры, які павінен быў ведаць пра гэта больш, чым хто іншы, адкідаў такую думку. Пазней ён расказваў: «Калі я спрабую зразумець, якімі сродкамі мой сябар Кнэхт здолеў уздзейнічаць на расчараванага і замкнёнага ў сабе чалавека, як я, мне прыходзіць на памяць, што гэта грунтавалася найперш на чарадзействе і, я павінен дадаць, на хітрасці. Ён быў куды большы хітрун, чым думалі пра яго людзі, у ім было багата гульні, разумнай хітрыны, авантурнасці, шмат густу да чарадзейства і ліхадзейства, да раптоўных знікненняў і з'яўленняў. Я думаю, што ўжо пры першым маім візіце да кастальскіх улад ён рашыў

запаланіць мяне, па-свойму паўплываць, гэта значыць, абудзіць і прывесці ў добрую форму. У кожным разе, з самых першых хвілін ён спрабаваў прыцягнуць мяне да сябе. Навошта ён гэта рабіў — не магу сказаць. Думаю, што людзі яго складу дзейнічаюць часцей за ўсё імпульсіўна, як бы рэфлекторна, яны адчуваюць сябе як бы пастаўленымі перад нейкай задачай, чуюць покліч пра дапамогу і не вагаючыся ідуць на гэты покліч. Калі мы сустрэліся, я быў недаверлівы і запалоханы і зусім не збіраўся кідацца яму ў абдоймы, а тым болей прасіць дапамогі; ён знайшоў мяне, колісь такога шчырага і кампанейскага сябрука, расчараванага і замкнёнага, але менавіта гэтая перашкода, гэтыя вялікія цяготы, мабыць, і развярэдзілі яго. Ён не адставаў, хоць я і быў стрыманы, і нарэшце дамогся, чаго хацеў. Пры гэтым ён скарыстаўся майстэрскім манеўрам, прывучаючы мяне да думкі, што адносіны нашы заснаваны на ўзаемнасці, што яго сіла роўная маёй, яго значэнне — майму, што яму гэтаксама патрэбна дапамога, як і мне. Ужо пры першай нашай больш-менш даўжманай гутарцы ён намякнуў, што быццам чакаў майго з'яўлення, што моцна хацеў яго; ён паступова даверыў мне свае намеры скласці з сябе пасаду Магістра і пакінуць Правінцыю, прычым увесь час даваў мне ў знакі, як шмат ён чакае ад маёй парады, майго садзеяння і маўчання, бо ў яго няма ні сяброў, апрача мяне, ні вопыту ў свецкім жыцці. Прызнаюся, мне было прыемна чуць такія словы, і яны нямала паспрыялі таму, што я падарыў яму поўны свой давер і да пэўнай ступені аддаў сябе ў яго рукі; я верыў яму бясконца. Але пазней, з бегам часу, усё гэта зноў і зноў здавалася мне падазроным і непраўдападобным, і я ўжо не мог упэўнена сказаць, ці праўда ён чагосьці чакае ад мяне і чаго менавіта, не ведаў, ці была яго манера лавіць мяне нявінная або дыпламатычная, наіўная або хітрая, шчырая або разлічаная паводле законаў гульні. Ён стаяў настолькі вышэй за мяне і зрабіў мне столькі добрага, што я наогул не адважыўся кідацца ў такія даследаванні. Сёння, прынамсі, я лічу ягоныя клятвы, быццам ён у такім самым становішчы, як і я, быццам яму гэтаксама патрэбна мая спагада і гатоўнасць памагчы, як мне, толькі данінай ветлівасці, прыемнай падбадзёрчай угаворкай, з дапамогай якой ён прывязаў мяне да сябе; не ведаю толькі, у якой меры яго гульня са мною была свядомая, праду-

маная і наўмысная і ў якой, насуперак усяму, наіўная і міжвольная. Бо Магістр Ёзэф быў вялікі артыст; з аднаго боку, ён быў настолькі апантаны неадольным жаданнем выхоўваць, уплываць, лячыць, дапамагаць, развіваць, што ўсе сродкі здаваліся яму добрымі, з другога боку, ён проста не ўмеў займацца нават малой справай, не аддаючыся ёй усёй душой. Несумненна адно: ён тады спачуў мне як сябар, як вялікі лекар і кіроўца, больш не адпускаў мяне ад сябе і нарэшце абудзіў і вылечыў мяне, наколькі гэта наогул было магчыма. Але вось што важна і вельмі падобна на яго: ствараючы блізір, быццам ён прымае маю дапамогу ў зыходзе з Касталіі, спакойна, нават з адабрэннем выслухоўваў мае часта рэзкія і наіўныя выпады, больш таго, кпіны і абразы ў адрас Касталіі, сам змагаючыся за збавенне ад Правінцыі, ён на справе хітра вярнуў мяне да яе, ён зноў прывучыў мяне да медытацыі, з дапамогай кастальскай музыкі і самапаглыблення, з дапамогай кастальскай яснасці, кастальскай мужнасці, ён перавыхаваў і пераўтварыў мяне — пры ўсёй маёй панадзе да вас, такога некастальскага і антыкастальскага чалавека; ён зноў падняў мяне да вашага ўзроўню і маю няшчасную любоў да вас ператварыў у шчаслівую».

Так расказваў Дэсіньёры, і ў яго, зразумела, былі ўсе падставы захапляцца і дзякаваць. Бадай што, хлопчыка альбо хлопца няцяжка прывучыць да стылю Ордэнскага жыцця пры дапамозе нашых даўно выпрабаваных метадаў, але вельмі складана дабіцца такой мэты, маючы перад сабой чалавека пяцідзесяці гадоў, нават калі той ахвотна ідзе насустрач. Не тое каб Дэсіньёры стаў пазаўзятым, а тым больш узорным кастальцам. Але пастаўленую перад сабой задачу Кнэхт выканаў: размякчыў упартасць і горасную надрыўнасць яго смутку, прывёў яго надзвычай уражлівую і зняволеную душу да гармоніі і яснасці, выкарчаваў з яго некаторыя дрэнныя звычкі і прышчапіў добрыя. Зразумела, Магістр Гульні не мог сам выканаць усіх патрэбных дзеля гэтага дробных задач; ён заклікаў на дапамогу дзеля ганаровага госця апарат і сілы Вальдцэля і Ордэна, на нейкі час нават паслаў з ім у горад настаўніка па медытацыі з Хірсланда, рэзідэнцыі Ордэна, для сталага кантролю за практыкаваннямі Дэсіньёры дома. Але план і кіраванне заставаліся ў ягоных руках.

Ішоў восьмы год Кнэхтавага магістравання, калі ён

упершыню паддаўся дамогам сябра і наведаў яго дом у сталіцы. З дазволу Ордэна, чый старшыня Аляксандр быў з ім у дружбе, ён скарыстаўся адным святочным днём на візіт, ад якога чакаў шмат і які ён, нягледзячы на гэта, усё адкладваў і адкладваў цэлы год: можа, таму, што хацеў больш упэўніцца ў сябры, можа, ад зразумелай боязі, бо гэта быў першы ягоны крок у свет, адкуль яго прыяцель Плініё прынёс свой застылы смутак і дзе было схавана ад яго так многа розных таямніц. Ён наведаў пастаўлены на сучасны лад дом, на які яго сябар памяняў стары асабняк роду Дэсіньёры і дзе гаспадарыла прэзентабельная, вельмі разумная, стрыманая дама; дамай, у сваю чаргу, камандаваў прыгожанькі, шустры і даволі нявыхаваны сынок, вакол чыёй персоны, відавочна, усё круцілася і які пераняў у маці яе ўладную, крыху пагардлівую манеру адносін з бацькам. Тут адчуваліся халадок і недавер да ўсяго кастальскага, але маці і сын не дужа доўга маглі супрацьстаяць абаяльнасці Магістра, ды і ў самым ягоным сане, апрача ўсяго іншага, было для іх схавана нешта таямнічае, свяшчэннае і легендарнае. Тым не меней пры першым наведванні ўсё было вельмі нацягнена і штыўна. Кнэхт адмоўчваўся, назіраў і чакаў, гаспадыня прымала яго з халоднай, афіцыйнай ветлівасцю і прыхаваным неадабрэннем, як прымаюць высокапастаўленага афіцэра непрыяцельскай арміі, прысланага на пастой, сын Ціта трымаўся больш нязмушана, чым астатнія, яму, мусіць, ужо няраз даводзілася бываць сведкам такіх сцэн і забаўляцца імі. Яго бацька, бадай, быў галава дома, на самай справе. Паміж ім і жонкай панаваў настрой мяккай, асцярожнай, такой, ведаеце, на дыбачках ветлівасці, які лягчэй і вальней падтрымліваўся жонкай, чым мужам. Ён яўна высільваўся на таварыскія адносіны з сынам, а хлопчык то спрабаваў выгадзіць сабе з гэтага, то дзёрзка адцураў бацьку. Карацей, гэта была атмасфера пакутлівая, без ніякай чысціні, душная ад прыдушаных парываў, поўная напругі, страху перад сутыкненнямі і ўспышкамі, а стыль адносін, як і стыль усяго дома, быў залішне выштукаваны і наўмысны, быццам ніякая, самая глухая сцяна не магла быць удосыць моцная, каб абараніць гэты дом ад магчымых уварванняў і набегаў. І яшчэ адно цікавае назіранне зрабіў Кнэхт: зноў здабытая яснасць духу сцерлася з твару Плініё; ён, хто ў Вальдцэлі або ў Хірсландзе, здавалася, зусім скінуў з

сябе смутак, вызваліўся ад прыгнёту, тут, у сваім доме, зноў як бы ўлез у густы цень і зноў стаў варты асуды і спагады. Дом быў прыгожы і сведчыў пра багацце і распешчаны густ, кожны пакой быў абстаўлены адпаведна памерам і падначалены сугуччу двух-трох колераў, то тут, то там віднеліся каштоўныя творы мастацтва, якімі Кнэхт з прыемнасцю любаваўся; але нарэшце ўся гэтая прыласка вачэй пачала яму здавацца залішне прыгожай, занадта дасканалай і прадуманай, ёй бракавала руху, станаўлення, навізны, і ён адчуваў, што прыгажосць пакояў і рэчаў мела сэнс нейкага закляцця, нейкага малення пра абарону, што гэтыя пакоі, карціны, вазы і кветкі абстаўляюць і ўмінаюць жыццё, якое сумуе па гармоніі і хараstве, не ўмеючы гэтага дасягнуць інакш, як толькі клопатам пра дбайна падабраны абсталюнак.

Па нейкім часе пасля гэтага візіту, які пакінуў у яго даволі бязрадаснае ўражанне, Кнэхт паслаў да сябра настаўніка медытацыі. Правёўшы адзін дзень у надзіва наэлектрызаванай і задушлівай атмасферы гэтага дома, Магістр даведаўся сёе-тое, чаго ён зусім не хацеў ведаць, але і зноў жа сёе-тое, чаго яму самому не хапала і што ён прагнуў ведаць дзеля сябра. І ён не абмежаваўся першымі адведзінамі, ён прыязджаў яшчэ некалькі разоў і заводзіў размовы пра выхаванне і пра юнага Ціта, у якіх маці хлопчыка брала самы актыўны ўдзел. Спакваля Магістр заваяваў давер і прыхільнасць гэтай разумнай і абачлівай жанчыны. Калі ён аднаго разу, жартуючы, сказаў, што ўсё-такі шкада, што яе сынок не быў своечасова аддадзены на выхаванне ў Касталію, яна вельмі сур'ёзна прыняла гэтыя словы як папрок і пачала апраўдвацца: яна сумнявалася, ці маглі на самай справе прыняць туды Ціта, ён, праўда, даволі здольны хлопчык, толькі цяжка паддаецца выхаванню, і яна ніколі не дазволіла б сабе ўмешвацца ў сынава жыццё супраць яго волі, бо такі самы бацькаў вопыт ніяк нельга назваць удалым. Акрамя таго, яна і муж не лічылі магчымым карыстацца прывілеямі векавечнай сям'і Дэсіньёры дзеля інтарэсаў сына, бо яны парвалі з бацькам Плініё і з усімі традыцыямі роду. І ўжо зусім пад канец яна дадала з горкай усмешкай, што ўсё роўна, пры любых акалічнасцях, яна ніколі не згадзілася б расстацца з дзіцём, бо, апрача яго, у яе няма нічога ў жыцці, дзеля чаго варта было б жыць.

Кнэхт потым доўга думаў пра гэта, бадай, міжвольнае а не прадуманае прызнанне.

Дык, значыцца, ні яе шыкоўны дом, дзе ўсё было такое рафінаванае, бліскучае і густоўнае, ні яе муж, ні яе палітыка і партыя, спадчына яе калісь абажанага бацькі, — не маглі надаць яе жыццю каштоўнасці і сэнсу, гэта мог зрабіць толькі сын. І яна гадавала гэта дзіця ў дрэнных і шкодных яму ўмовах, якія склаліся ў доме і сям'і, каб толькі не разлучыцца з ім дзеля яго ж дабра. У такой разумнай, мабыць, нават такой халоднай, інтэлектуальнай жанчыны гэта было дзівоснае прызванне. Кнэхт не мог дапамагчы ёй гэтакім жа непасрэдным чынам, як яе мужу, ды яму і ў галаву не прыходзіла такая думка. Але ўжо самыя яго рэдкія візіты і тое, што Плініё падупаў яго ўплыву, усё ж унесла ў заблытаныя і нягладкія сямейныя адносіны нейкую ноту, якая крыху стрымлівала і абмяжоўвала пал. Аднак самому Магістру, хоць ён з кожным разам заваёўваў у доме Дэсіньёры ўсё больш ўплыў і аўтарытэт, жыццё гэтых зямлян рабілася тым больш загадкавым, чым бліжэй ён з ім спазнаваўся. Зрэшты, пра яго паездкі ў сталіцу і пра тое, што ён там бачыў і перажыў, мы ведаем даволі мала, а таму абыдземся толькі тым, што тут расказана.

З старшынёй Ордэна Кнэхт дагэтуль ніколі не збліжаўся больш, чым таго вымагалі яго афіцыйныя абавязкі. Яны сустракаліся толькі на пленарных пасяджэннях Выхаваўчай калегіі ў Хірсландзе, ды і там роля старшыні часцей за ўсё зводзілася да абрадавых і цырыманіяльных актаў, да ўрачыстага прыёму і роспуску сабраных, тым часам як асноўная праца прыпадала на дакладчыка. У момант заступлення Кнэхта на пасаду Магістра, ранейшы галава Ордэна быў ужо чалавекам у добрым веку; і хоць Магістр Гульні вельмі шанаваў яго, той ніколі не даваў яму зачэпкі скараціць паміж імі дыстанцыю; ён быў для Кнэхта ўжо амаль што не чалавек, не асоба, а лунаў недзе высока ўгары, як вярхоўны першасвятар, як сімвал годнасці і самавалодання, як маўклівая вяршыня над усімі Калегіямі і ўсёй іерархіяй. Гэты годнасны муж сканаў, і на яго месца Ордэн выбраў старшынёю Аляксандра. Аляксандр быў менавіта той настаўнік у медытацыі, пад чый дагляд кіраўніцтва Ордэна нямала гадоў таму назад аддало нашага Ёзэфа Кнэхта на першым часе яго магістравання, і ўжо тады

Магістр удзячна любіў і шанаваў гэтага ўзорнага для яго члена Ордэна; але і Аляксандр за той час, пакуль Кнэхт заставаўся прадметам яго клопату і да пэўнай ступені яго духоўным сынам, паспеў даволі блізка прыгледзецца да Кнэхта, вывучыць яго нораў і паводзіны і прыязна да яго прыгарнуцца. Гэтая сімпатыя, якая да пэўнага часу ніяк адкрыта не праяўлялася, адкрылася абодвум і ператварылася ў дружбу з таго часу, як Аляксандр зрабіўся старшынёй і калегам Кнэхта, бо цяпер яны зноў пачалі сустракацца даволі часта і ў іх паявілася агульная праца. Вядома, дружбе гэтай бракавала штодзённых зносін, а таксама агульных хлапцоўскіх перажыванняў, гэта была ўзаемная сімпатыя паміж высокапастаўленымі калегамі, і вонкава яна выяўлялася толькі ў крыху больш цёплых вітаннях пры сустрэчы і развітанні, у поўным узаемаразуменні і, бадай што, у нядоўгіх гутарках у пярэрвах паміж пасяджэннямі.

Хоць паводле статута старшыня, які называўся таксама Магістрам Ордэна, не стаяў вышэй за калег Магістраў, усё ж ён па традыцыі заўсёды вёў рэй на пасяджэннях Вярхоўнай калегіі, і чым больш медытатыўны і манаскі характар набываў Ордэн у апошнія дзесяцігоддзі, тым больш рос яго аўтарытэт, праўда, толькі ў межах іерархіі і Правінцыі. У Выхаваўчай калегіі старшыня Ордэна і Магістр Гульні заваёўвалі ўсё большы ўплыў, як сапраўдныя выразнікі і прадстаўнікі кастальскага духу; бо ў процілегласць спрадвечным дысцыплінам накшталт граматыкі, астраноміі, матэматыкі або музыкі, якія прыйшлі яшчэ з дакастальскіх часоў, медытатыўнае выхаванне духу і Гульня шкляных перлаў былі унікальным здабыткам Касталіі. Таму было так важна, каб прадстаўнікі і ўзначальнікі гэтых дысцыплін падтрымлівалі паміж сабой сяброўскія адносіны, а для іх абодвух гэта было ўсталяванне і ўзвышэнне іх годнасці, дадавала іх жыццю крыху цяпла, спрыяла найлепшаму выкананню іх задачы — увасабляць дзве найбольш запаветныя, найбольш сакральныя каштоўнасці і сілы кастальскага свету. Кнэхту гэта было лішняй перашкодай у яго ўсё больш заўзятым імкненні адмовіцца ад цяперашняга свайго жыцця і сысці ў іншую, новую жыццёвую сферу.

Тым не меней гэта імкненне ўсё больш нястрымна нарастала. З таго часу як яно было ім упершыню ўсвядомлена, што здарылася прыкладна на шостым ці то

сёмым годзе магістарства, яно ўмацавалася і было ім, рыцарам «абуджэння», без страху прынята ў сваё свядомае жыццё. Менавіта з таго часу, мы можам гэта смела сказаць, ён спарадніўся з думкай, што хутка пакіне сваю пасаду і Правінцыю — часам так, як вязень зжываецца з верай у вызваленне, а часам як паміраючы чалавек звыкаецца з думкай пра немінучы скон. Тады, пры першай гутарцы з сябрам маладосці Плініё, ён упершыню выказаў гэтую думку ўголас, магчыма, толькі дзеля таго, каб прывязаць да сябе маўклівага і стрыманага сябра, каб адамкнуць яго сэрца, а можа, каб гэтымі ўпершыню сказанымі словамі, далучыць пабочнага да свайго абуджэння, новага ўспрыняцця свету, каб упершыню даць ім выйсце вонкі, першы штуршок да іх здзяйснення. У далейшых размовах з Дэсіньёры жаданне Кнэхта расстацца з цяперашнім укладам і зрабіць смелы скачок у іншы, новы яму свет прыняло ўжо характар рашэння. А пакуль ён старанна мацаваў дружбу з Плініё, які цяпер быў звязаны з ім не толькі захопленай адданасцю, але таксама і ўдзячнасцю чалавека, што папраўляецца ад хваробы, разглядаючы гэтую дружбу як мост да пераходу ў шырокі свет і ў яго жыццё, поўнае загадак.

Тое, што Магістр Ёзэф вельмі няскора дазволіў сябру Тэгулярыусу зазірнуць у тайну і ў план уцёкаў, не павінна здзіўляць нас. Укладваючы ў сяброўскія адносіны даволі шмат зычлівасці і цеплыні, ён і ў гэтым захоўваў цвёрдасць волі і абачлівасць дыпламата. З таго часу як Плініё зноў увайшоў у яго жыццё, у Фрыца паявіўся супернік, новы і ў той самы час стары сябар з правамі на ўвагу і на Кнэхтава сэрца, так што Магістр наўрад ці мог быць здзіўлены, калі Тэгулярыус спачатку рэагаваў на гэта бурнай рэўнасцю. На нейкі час, гэта значыць, пакуль ён канчаткова не заваяваў даверу ў Дэсіньёры і не наладзіў яго жыццё, крыўда і стрыманасць Тэгулярыуса далася Кнэхту нават на выгоду. Але пазней на першы план выступіла іншае, важнейшае меркаванне. Як прымусіць такую натуру, як Тэгулярыус, зразумець і прымірыцца з сябравым жаданнем — непрыкметна пакінуць Вальдцэль і магістарскую пасаду? Бо варта Кнэхту выехаць з Вальдцэля, як ён адразу будзе Тэгулярыусу навекі страчаны; і гаворкі быць не магло, каб звесці яго на вузкую і небяспечную сцежку, якая ляжала перад Кнэхтам, нават калі б сябар, насу-

перак усім чаканням, пайшоў на гэта і стаўся досыць смелы. Кнэхт чакаў, разважаў і вагаўся вельмі доўга, перш чым адкрыў Тэгулярыусу свае намеры. Нарэшце ён усё-такі зрабіў гэта, калі яго рашэнне выспела. Пакінуць сябра ў няведанні да канца і рабіць планы за яго спінай або якія канкрэтныя крокі, вынікі якіх маглі адбіцца на ягоным сябры, не стасавалася з яго прыродай. Па магчымасці ён хацеў зрабіць яго, як і Плініё, не толькі сваім паверанымі, але сапраўдным, а можа, нават і ўяўным памочнікам і супольнікам, бо пры напружанай працы лягчэй перанесці любую страту.

Ёзэфавы думкі пра пагрозу ўпадку Касталіі былі Тэгулярыусу, канечне, даўно вядомыя, бо першы быў гатовы падзяліцца імі, а другі — выслухаць. З гэтага Магістр і пачаў адкрывацца сябру. Насуперак чаканню і на вялікую яго палёгку, Фрыц не прыняў гэтага паведамлення трагічна; больш таго, уяўленне, што Магістр гатовы кінуць у твар кіраўніцтву сваю пасаду, атрэсці з ног пыл Касталіі і выбраць жыццёвае прыпорыска на свой густ, здавалася, прыемна ўсхвалявала яго і нават парадавала. Як адорвень і вораг усякага парадку Тэгулярыус заўсёды станавіўся на бок адзіночкі супроць улады; вынаходліва абысці афіцыйную ўладу, падражніць, перахітрыць яе — на гэта ён заўсёды быў гатовы. Такім чынам, Тэгулярыус сам падказаў Кнэхту шлях, і той, уздыхнуўшы з палёгкай, унутрана смеючыся, адразу ж скарыстаўся сябравай рэакцыяй. Ён пакінуў Тэгулярыуса пры перакананні, што гаворка ідзе толькі пра выбрык супраць Калегіі і пасаднай пыхі, і адвёў яму ў гэтым выбрыку ролю паверанага, клеўрэта і хаўрусніка. Цяпер трэба было прыдумаць прашэнне да Калегіі з пералікам прычын, якія падштурхнулі Магістра на просьбу пра адстаўку, прычым складанне і падрыхтоўка гэтай паперы давяралася галоўным чынам Тэгулярыусу. Перш за ўсё яму след было засвоіць гістарычныя погляды Кнэхта на крыніцы, росквіт і цяперашні стан Касталіі, пасля сабраць гістарычны матэрыял на падмацаванне задуманага і Кнэхтавых прапаноў. Гэтым разам Тэгулярыуса не спыніла нават тое, што яму дзеля гэтага трэба будзе заглыбіцца ў пагарджаную ім навуку — гісторыю, а Кнэхт паспяшаўся даць яму ўсе патрэбныя ўказанні. Пасля гэтага Фрыц з уласцівымі яму запалам і ўпартасцю, вельмі яркімі, калі ён займаўся справамі, што не датычыліся яго самога, прыступіўся да выка-

нання сваёй новай задачы. Ён, гэты непапраўны індывідуаліст, атрымаў своеасаблівую, жорсткую асалоду ад гэтых заняткаў, якія давалі яму магчымасць укалоць іерархію і бонзаў, паказаўшы ім іх недахопы, ненадзейнасць іхняга існавання, або хоць бы падражніць іх.

Ёзэф Кнэхт ні ў якім разе не падзяляў гэтай асалоды, гэтаксама як і мала верыў у поспех сябравых дбанняў. Ён цвёрда вырашыў скінуць з сябе путы свайго цяперашняга становішча і вызваліцца для працы, якая, ён гэта адчуваў, чакае яго ў іншым месцы, але яму было ясна, што ён не патрапіў ні пераадолець разумнымі доказамі супраціўлення Касталіі, ні перакласці часткі ўжо блізкіх турбот на плечы Тэгулярыуса. Але яму было важна ўжо тое, што сябар будзе заняты і ўвага яго будзе адцягнута, прынамсі, на той час, які Кнэхту яшчэ засталося жыць побач з ім. Расказаўшы пра гэта пры бліжэйшай сустрэчы Плініё Дэсіньёры, ён дадаў:

— Мой сябар Тэгулярыус цяпер заняты і ўзнагароджаны за ўсё, што ён, на яго думку, страціў з тваім з'яўленнем. Ён амаль вызваліўся ад рэўнасці, а праца на маю абарону супраць нашых калег дае яму сапраўдную асалоду, ён нават у пэўнай меры шчаслівы. Але не думай, Плініё, што я шмат чакаю ад ягонай дапамогі, калі не лічыць той карысці, якая будзе яму самому. Неверагодна, немагчыма дапусціць, што Вярхоўная калегія дасць ход маёй просьбе; у лепшым выпадку будзе лёгкая нагонка і папярэджанне. Бо паміж маімі планамі і іх здзяйсненнем стаіць аснова асноў нашай іерархіі, мне і самому не па душы была б Калегія, якая адпусціла б свайго Магістра Гульні і дала яму занятак за межамі Касталіі, якія пераканаўчыя і доказныя ні былі б яго довады. Апрача таго, у кіраўніцтве Ордэна гаспадар — Аляксандр, чалавек няўмольны. Не, гэтую барацьбу мне ўжо прыйдзецца вытрымаць самому. Але пакуль што няхай Тэгулярыус выштукоўваецца ў дасціпнасці! Мы праз гэта страцім не дужа шмат часу, ён мне так ці інакш патрэбен, каб прывесці ўсё тут у парадак, каб ад мяне не было ніякай шкоды Вальдцэлю. Табе ж пакуль што трэба пашукаць мне там, у сябе, прыстанішча і працу, самую сціплую; у крайнім выпадку, я гатовы задаволіцца, скажам, месцам настаўніка музыкі, мне патрэбен толькі пачатак, трамплін.

Дэсіньёры сказаў, што праца знойдзецца, а дом яго адчынены сябру ў любую хвіліну. Гэта Кнэхта не задавальняла.

— Не, — сказаў ён, — у госці я не надаюся, мне патрэбна праца. Акрамя таго, варта мне затрымацца ў тваім доме даўжэй, чым на некалькі дзён, гэта непазбежна павялічыць трэнні і згусціць атмасферу ў тваёй сям'і. Я табе цалкам давяраю, ды і жонка твая папрыветлівела, прывыкла да маіх з'яўленняў, але ўсё гэта адразу пераменіцца, калі я з рэдкага госця і Магістра Гульні ператваруся ва ўцекача і падсуседа.

— Ты занадта датклівы, — запярэчыў Плініё. — Я ўпэўнены, што, як толькі ты парвеш з Ордэнам і асялішся ў сталіцы, ты неўзабаве атрымаеш вартае цябе месца, сама меней — прафесарскую кафедру ў вышэйшай школе, на гэта ты можаш цвёрда разлічваць. Але на такі клопат патрэбен час, гэта ты павінен зразумець, і я толькі тады змагу табе нешта зрабіць, калі адбудзецца тваё вызваленне.

— Ну, вядома, — сказаў Магістр, — да таго часу маё рашэнне павінна заставацца ў тайне. Я не магу прапаноўваць паслуг вашаму начальству, пакуль маё не будзе апавешчана і не вынесе свайго прысуду — гэта ясна. Але перш за ўсё я не шукаю афіцыйнай пасады. У жыцці і побыце я вельмі непераборлівы, ты нават уявіць сабе гэтага не можаш. Мне патрэбен пакойчык і харчы, а галоўнае — праца, пасада настаўніка ці выхаваўцы, мне патрэбны адзін або некалькі вучняў і гадаванцаў, з кім бы я жыў і на каго мог бы ўплываць; меней за ўсё мяне спакушае вышэйшая школа, я б з такой самай асалодай, не, нават з большай, паступіў бы ў хатнія настаўнікі ў сям'ю з адным хлопчыкам або штонебудзь гэтакае. Усё, чаго [redacted] хачу і шукаю, — гэта простых натуральных абавязкаў, чалавека, які меў бы ўва мне патрэбу. Прызначэнне ў вышэйшую школу з самага пачатку ўцісне мяне зноў у традыцыйны, асвячоны і механізаваны афіцыйны апарат, я ж мару зусім пра іншае.

Тут Дэсіньёры нерашуча выказаў сваю просьбу, якую выношваў у сабе ўжо даўно.

— У мяне ёсць прапанова, — пачаў ён, — і я прашу цябе выслухаць мяне да канца і без прадузятасці абдумаць яе. Магчыма, яна здасца табе прымальнай, тады ты і мне зробіш паслугу. З таго дня, як я ўпершыню быў тут тваім госцем, ты шмат мне дапамог. Ты пазнаёміўся з маім жыццём, з маім домам і ведаеш, як усё склалася. Там яшчэ і цяпер няма ладу, але ўпершы-

ню за шмат гадоў палепшала. Самае цяжкае — гэта мае адносіны з сынам. Ён спешчаны і дзёрзкі, ён паставіў сябе ў нашым доме ў прывілеяванае, выключнае становішча: яму гэта лёгка ўдалося ў той час, калі за яго, яшчэ дзіця, ішла барацьба паміж мною і яго маці. Тады ён рашуча стаў на бок маці, і мяне паступова пазбавілі ўсіх дзейсных сродкаў выхавання. Я з гэтым прымірыўся, як і наогул з усім сваім няўдалым жыццём. Я пакорліва прыняў гэта. Але цяпер, калі я з тваёй дапамогай у пэўнай меры вылечыўся, у мяне зноў нарадзілася надзея. Ты ўжо разумееш, куды я хілю; я вельмі шмат аддаў бы, каб Ціта, у якога, дарэчы, у школе непрыемнасці, атрымаў хоць бы на час настаўніка і выхаваўцу, гатовага прысвяціць сябе яму цалкам. Гэта эгаістычная просьба, я разумею, і я не ўпэўнены, што табе такая задача даспадобы. Але ты сам даў мне мужнасці зрабіць такую прапанову.

Кнэхт усміхнуўся і падаў руку.

— Дзякую табе, Плініё. Ніводная прапанова не была б мне больш прывабнай. Не хапае згоды толькі тваёй жонкі. Потым вы абое павінны рашыцца на першы час цалкам аддаць вашага сына на мой догляд. Каб мне ўзяць яго ў рукі, яго трэба вывесці з-пад штодзённага ўплыву бацькоўскага дому. Ты павінен пагаварыць пра гэта з жонкай і пераканаць яе прыняць маю ўмову. Вазьміся за справу асцярожна, я вас не падганяю.

— І ты думаеш, табе ўдасца перарабіць Ціта? — спытаўся Плініё.

— Вядома, чаму ж не? Ён успадкаваў высакародную пароду і добрыя задаткі ад бацькоў, трэба ўсё гэта толькі гарманізаваць. Абудзіць у ім цягу да гэтай гармоніі, правільней, развіць яе і зрабіць нарэшце свядомай — вось на чым будзе палягаць мая задача, і я ахвотна бяру яе на сябе.

Цяпер Ёзэф Кнэхт ведаў, што абодва сябры, кожны па-свойму, спрыяюць дасягненню яго мэты. Пакуль Дэсіньёры ў сталіцы выкладаў жонцы свае новыя планы і стараўся зрабіць іх ёй прымальнымі, у Вальдцэлі, у адным рабочым пакоі бібліятэкі сядзеў Тэгулярыус і паводле Кнэхтавых указанняў назапашваў матэрыял на дакумент, які трэба было скласці. Магістр закінуў яму прынаду, перадаўшы ў яго рукі процьму кніг і папрасіўшы іх пачытаць; Фрыц Тэгулярыус, які ўсё жыццё пагарджаў гісторыяй, таргануў за гэту прынаду і заха-

піўся гісторыяй ваяўнічага стагоддзя. Будучы ў Гульні нястомным працаўніком, ён з усё большым смакам збіраў сімпатычныя анекдоты той эры, змрочнай эры да ўзнікнення Ордэна, і назбіраў іх столькі, што, калі паднёс сябру плён сваёй шматмесячнай працы, той выбраў хіба што дзесятую частку.

За гэты час Кнэхт некалькі разоў бываў у сталіцы. Пані Дэсіньёры прасякалася да яго ўсё большым даверам, бо часта бывае, што здаровы і гарманічны чалавек знаходзіць дарогу да душы складанай і абцяжаранай. Неўзабаве яна згадзілася з мужавымі планамі, Ціта, як нам стала вядома, у час адных Магістравых наведзін крыху фанабэрыста даў яму зразумець, што не дазволіць звяртацца да сябе на «ты», бо ўсе, нават школьныя настаўнікі, гавораць яму «вы». Кнэхт з рафінаванай ветлівасцю падзякаваў яму, перапрасіўшыся тым, што ў яго Правінцыі настаўнікі гавораць «ты» ўсім сваім вучням і студэнтам, нават зусім дарослым. Па палудні ён папрасіў хлопчыка прагуляцца з ім і паказаць горад. На гэтым шпацыры Ціта, між іншым, павёў яго на галоўную вуліцу Старога горада, дзе шчыльна, адзін да аднаго, папрыціскаліся дамы, што стаялі тут колькі стагоддзяў і належалі відным і багатым патрыцыянскім сем'ям. Перад адным такім моцным, вузкім і высокім домам Ціта спыніўся, паказаў на герб над параднымі дзвярыма і спытаўся:

— А вы ведаеце, што гэта такое?

І калі Кнэхт адказаў адмоўна, ён сказаў:

— Гэта — герб роду Дэсіньёры, і гэта наш стары родавы асабняк, ён тры стагоддзі належаў нашай сям'і. А мы тырчым у нашым зашмуляным доме, падобным да тысяч іншых, толькі таму, што майму тату пасля смерці дзеда закарцела прадаць гэты цудоўны ганараваны дом і пабудаваць другі, у сучасным стылі, які, дарэчы, цяпер ужо не такі сучасны. Можаце вы зразумець такое?

— А вам вельмі шкада вашага старога дома? — пасяброўску спытаў Кнэхт, і калі Ціта палка пацвердзіў гэта і паўтарыў сваё пытанне: «Можаце вы зразумець такое?» — адказаў: — Усё можна зразумець, калі ўважліва разабрацца. Вядома, старадаўні дом — гэта цудоўна, і калі б новы стаяў побач і вашаму бацьку было дадзена выбіраць, ён бы, мусіць, пакінуў сабе стары. Старыя дамы цудоўныя і шаноўныя, асабліва такі пры-

гожы, як гэты. Але ў тым, каб пабудаваць дом самому, таксама ёсць нешта цудоўнае, і калі дзейны малады чалавек стаіць перад выбарам: утульна і пакорліва агнездавацца ў гатовым або пабудавацца нанава, дык яго можна добра зразумець, калі ён пачне будаваць новае. Наколькі я ведаю вашага бацьку, а я ведаў яго, калі ён быў вашага веку, і ён тады ўжо вылучаўся настойлівым і смелым норавам, я мяркую, што продаж і страта старога дома нікому не прычынілі столькі гора, як яму самому. У яго быў цяжкі канфлікт з бацькам і з усёй сям'ёй, мабыць, яго выхаванне ў нас, у Касталіі, не надта пайшло яму на карысць, прынамсі, яно не змагло асланіць яго ад некаторых неадумных рашэнняў. Адно з іх — продаж дома. Гэтым ён як бы кінуў выклік і аб'явіў вайну сямейным традыцыям, бацьку, усяму свайму мінуламу і сваёй залежнасці ад іх, — мне, у кожным разе, усё гэта зразумела. Але чалавек — дзіўная істота, і мне здаецца не зусім неpraўдападобнаю іншая думка: прадаючы стары дом, ваш бацька хацеў укалоць не толькі сваю сям'ю, але найперш самога сябе. Сям'я расчаравала яго, яна паслала яго ў нашу элітарную школу, дазволіла нам выхоўваць яго па-нашаму, а калі ён вярнуўся, сустрэла яго такімі задачамі, патрабаваннямі і дамаганнямі, справіцца з якімі было не па сіле. Ісці далей у сваіх псіхалагічных здагадках я не хачу. Так ці інакш, гэтая гісторыя з продажам дома паказвае, якая страшная сіла ў канфліктах паміж бацькамі і дзецьмі, у гэтай нянавісці або ў любові, якая абярнулася нянавісцю. У тэмпераментных адораных натур рэдка абыходзіцца без такіх канфліктаў, сусветная гісторыя ведае мноства выпадкаў. Зрэшты, мне лёгка ўявіць сабе маладога Дэсіньёры другога пакалення, які паставіў бы сабе жыццёвай мэтай любой цаной зноў вярнуць гэты дом сваёй сям'і.

— І вы апраўдалі б яго, — усклікнуў Ціта, — калі б ён гэта зрабіў?

— Я не судзіў бы яго, мой юны дружа. Калі адзін з позніх нашчадкаў Дэсіньёры ўсвядоміць веліч свайго роду і абавязкаў, накладзеных на яго тым самым жыццём, калі ён будзе аддана служыць свайму гораду, краіне, народу, справядлівасці, дабрашчаснасці і пры гэтым здабудзе такую сілу, што здолее пры гэтым вярнуць сабе родавае гняздо, — гонар і слава яму, і мы здымем перад ім капялюш. Але калі ён не будзе ведаць іншай мэты

ў жыцці, як толькі гэту гісторыю з домам, дык ён толькі апантаны і маньяк, цацка пачуцця, і, што даволі верагодна, ён так ніколі і не зразумее сэнсу гэтага канфлікту пакаленняў і праз усе дні свае, нават стаўшы дарослым мужчынам, будзе асуджаны цягаць на сабе гэты цяжар. Мы можам зразумець яго, можам пашкадаваць яго, але славы свайму роду ён не пабольшыць. Вельмі добра, калі старажытны род любоўна даражыць сваім домам, але прынесці яму абнаўленне і новую веліч здольныя толькі тыя сыны, якія служаць мэтам большага маштабу, чым сямейныя.

На гэтым шпацыры Ціта ўважліва і даволі ахвотна слухаў госця, але ў іншыя разы ён часам зноў выказваў непрыязнасць да яго і ўпартасць, бо ў гэтым чалавеку, якога так высока ставілі звычайна нязгодныя між сабой бацькі, ён адчуваў сілу, якая магла стаць небяспечнай ягонай неакілзанасці і сваволі. І тады ён наўмысна задаваўся сваёй нявыхаванасцю; праўда, за гэтым заўсёды ішлі каянне і жаданне загладзіць сваю віну, бо самалюбства яго было зачэплена, што ён дазваляў сабе такія выбрыкі, тым часам як ясная гжэчнасць акружала Магістра, быццам бліскучым панцырам. Акрамя таго, ён адчуваў у глыбіні свайго неспрактыкаванага і крыху здзічэлага сэрца, што перад ім чалавек, які заслугоўвае, магчыма, глыбокай любові й учты. Надта востра ён адчуў гэта, пабыўшы аднаго разу паўгадзіны сам-насам з Кнэхтам, які чакаў занятага нечым бацьку. Увайшоўшы ў пакой, ён убачыў, што госць нерухома сядзіць, прыплюшчыўшы вочы, застылы як статуй, выпраменьваючы ў сваёй самапаглыбленасці спакой і цішыню, дык хлопчык міжволі пачаў ступаць нячутна і хацеў на дыбачках вышмыгнуць з пакоя. Але тут госць падняў вочы, прыязна яго павітаў, устаў, кіўнуў на фартэпіяна, што стаяла ў пакоі, і спытаўся, ці любіць ён музыку.

Любіць, адказаў Ціта, але ён ужо досыць даўно не браў урокаў і зусім не практыкуецца, бо ў школе ў яго не бліскучыя поспехі і настаўнікі моцна даймаюць яго. Але слухаць музыку яму ўсё адно прыемна. Кнэхт сеў за раяль, адчыніў века, пераканаўся, што інструмент наладжаны, і сыграў адну частку з «Андантэ» Скарлаці, на якую ён днямі паклаў адно практыкаванне Гульні. Потым ён спыніўся, убачыўшы, што хлопчык слухае ўважліва і самазабыўна, і пачаў у даступнай форме тлумачыць яму, што прыблізна адбываецца пад

час такога практыкавання ў Гульні, расклаў музыку на яе кампаненты, паказаў некалькі спосабаў аналізу, якія трэба пры гэтым ужываць, а таксама шляхі яе перакладу ў іерогліфы Гульні. Упершыню Ціта ўбачыў у Магістры не госця, не вучоную славутасць, якая прыгнятала яго і таму была варожая, — ён убачыў яго за працай, перад ім быў чалавек, што валодаў вельмі тонкім і дакладным майстэрствам і па-майстэрску дэманстраваў перад ім гэтае майстэрства, пра сэнс якога Ціта мог пакуль што толькі здагадвацца, але якое, відаць, патрабуе ўсяго чалавека, поўнай яго самааддачы. У дадатак, хлопчыка падняло ў сваіх вачах тое, што яго лічаць дастаткова дарослым і кемлівым, каб цікавіцца такімі складанымі матэрыямі. Ён прыціх і менавіта ў гэтыя паўгадзіны пачаў здагадвацца, з якой крыніцы бяруцца яснасць і няўзрушлівасць гэтага незвычайнага чалавека.

Службовая дзейнасць у Кнэхта апошнім часам была амаль гэтакая ж напружаная, як і ў тыя цяжкія дні, калі ён заступіў на пасаду. Яму было справай гонару пакінуць даверанае яму ведамства ва ўзорным парадку. Гэтага ён дасягнуў, затое не дасягнуў другой мэты, менавіта: не здолеў даказаць, што без яго можна абысціся або яго лёгка замяніць. Так і бывае з нашымі высока пасаджанымі асобамі: Магістр лунае недзе ўгары, над складанай велічэзнасцю сваіх абавязкаў, ледзь не як простая ўкраса, як чысты сімвал; ён нечакана з'яўляецца і гэтак жа нечакана знікае, лёгка, быццам ласкавы госць, скажа слова-другое, згодна кіўне, жэстам намякне на дадзенае даручэнне, і ўжо няма яго, ужо ён у суседзяў; ён грае на службовым апараце, як музыкант на інструменце, мабыць, не траціць ні сілы, ні розуму, аднак усё ідзе як па шнурочку. Але кожны чалавек у яго апараце ведае, як цяжка замяніць Магістра, калі ён з'едзе або захварэе, хоць бы на дзень або на некалькі гадзін! За той час, пакуль Кнэхт яшчэ раз аглядаў і правяраў сваё маленькае царства, Vicus lusorum і асабліва шмат дбаў, каб падвесці свой «цень» да здачы — у бліжэйшы час цалкам замяніць яго, ён зразумеў, што яго больш не перапаўняе шчасцем і не трымае ў палоне чароўнасць іх ідэальна прадуманага маленькага свету. Ён глядзеў на Вальдцэль і на сваё магістарства як на нешта, што ўжо засталося ззаду, як на сферу, праз якую ён ужо пераступіў, якая многа яму дала, шмат

чаму навучыла, але ўжо не ўлівае ў яго больш новай сілы і не спрыяе новым здзяйсненням. Апрача таго, у час гэтага паступовага вызвалення і развітання яму рабілася ўсё ясней, што сапраўднай прычынай ягонай адчужанасці і жадання пайсці адсюль было не прадбачанне загрозы Касталіі, не клопат пра яе будучыню, а толькі тое, што частка ягонай істоты, яго сэрца, яго душы спустошылася, засталася незанятая і раптам заявіла пра свае правы і захацела з іх зыску.

Ён яшчэ раз грунтоўна праштудзіраваў закон і статут Ордэна і канчаткова ўпэўніўся, што пайсці з Правінцыі, па сутнасці, не так ужо і цяжка, не так немагчыма, як ён думаў сабе спачатку. Ён меў права на загад сумлення пакінуць сваю пасаду, а таксама выйсці з Ордэна, бо запавет даваўся ім не на ўсё жыццё, хоць члены Ордэна вельмі рэдка, а члены вышэйшага кіраўніцтва ні разу не карысталіся гэтым правам. Не, не строгасць закона рабіла гэты крок такім цяжкім, а сам іерархічны дух Ордэна, вернасць і адданасць яму, што жыла ў сэрцы ў Ёзэфа Кнэхта. Вядома, ён не збіраўся ўцякаць потайкам, ён рыхтаваў сваё прашэнне, каб дабіцца волі, бо наіўнае дзіця Тэгулярыус, складаючы яго, дапісаўся да мазалёў на пальцах. Але Кнэхт не верыў у поспех гэтай просьбы. Яго будуць угаворваць, асцерагаць, магчыма, прапануюць адпачыць, у Марыяфельсе, напрыклад, дзе нядаўна памёр айцец Якаў, або ў Рыме. Але адпусціць яго не захочуць, гэта рабілася ўсё больш ясна. Адпусціць яго азначала б зрабіць наперакор усім традыцыям Ордэна. Згадзіўшыся на гэта, Вярхоўная калегія тым самым прызнала б, што жыццё ў Касталіі, і прытым на такой высокай пасадзе, можа пры пэўных умовах абрыдзець чалавеку і зрабіцца яму адрачэннем і палонам.

## ПАСЛАННЕ

Роспаведзь наша ідзе ў канец. Як мы ўжо папярэджвалі, звесткі нашыя пра гэты канец досыць фрагментарныя і маюць хутчэй характар падання, чым гістарычнай справаздачы. Нам даводзіцца, аднак, задаволіцца і з гэтага. Тым больш нам прыемна, што мы можам дапоўніць — перадапошні — раздзел жыццёпісу Кнэхта сапраўдным дакументам, менавіта — доўгім

пасланнем, у якім Магістр Гульні сам раскрывае прычыны, якія падвялі яго да рашэння, просіць вызваліць ад пасады.

Мусім толькі дадаць, што Кнэхт, як мы ўжо даўно ведаем, не толькі зняверыўся ў поспеху свайго так старанна падрыхтаванага паслання, але нават, калі «прашэнне» было амаль гатовае, як бы ён хацеў яго наогул не дапісваць і не падаваць. З ім сталася тое, што бывае з усімі людзьмі, якія карыстаюцца прыроджанай і спачатку неўсвядомленай уладай над іншымі: гэтая ўлада не праходзіць дарма таму, хто ёю карыстаецца, і калі Магістр раней радаваўся, што яму ўдалося намусіць Тэгулярыуса служыць сваім мэтам, ператварыць у свайго памочніка і супольніка, дык, калі яно ўсё па яго сталася, абставіны зрабіліся мацнейшыя за жаданні і задумы Магістра. Ён заваліў і захапіў Фрыца працай, у мэтазгоднасць якой ён, яе натхняльнік, сам даўно не верыў; ён ужо не мог ні адмяніць гэтай працы, калі сябар раптам падаў яе, ні адкласці або кінуць без скарыстання, бо тады б ён яшчэ больш зняважыў і расчараваў сябра, тым часам як ягоным намерам было, наадварот, палегчыць разлуку. Як нам вядома, у гэты час Кнэхт прыйшоў да высновы, што найпэўней было б без усякага адкладу скласці свае паўнамоцтвы і абвясціць пра выхад з Ордэна, чым ісці абочкі, падаваць «прашэнне», што ўжо нават у ягоных вачах ператварылася ці не ў камедыю. Але, памятаючы пра сябе, ён не наважыўся яшчэ раз на які час ацугляць сваю нецярплівасць.

Бадай што, было б вельмі цікава пазнаёміцца з самім рукапісам уседлівага руплі́ўца Тэгулярыуса. Гэта быў у асноўным гістарычны матэрыял, сабраны на доказ або ілюстрацыю, але мы наўрад ці памылімся, калі падумаем сабе, што ў рукапісе можна было знайсці таксама рэзкія і дасціпныя па форме крытычныя заўвагі як супраць іерархіі, так і супраць усяго свету і сусветнай гісторыі. Але нават калі б гэты рукапіс, плён шматмесячнай дбайнасці, дагэтуль захаваўся, што ўвогуле магчыма, нават калі б ён дастаўся ў нашыя рукі, нам прыйшлося б адмовіцца ад таго, каб станавіць яго ў кнігу, кніга — не тое месца для яго.

Нам адно важна даведацца, як скарыстаўся рукапісам сябра Магістра Гульні. Калі Тэгулярыус урачыста ўручыў Кнэхту рукапіс, той прыняў яго з словамі сар-

дэчнай падзякі; ведаючы, што Тэгулярыус парадуецца, ён папрасіў прачытаць яго ўголас. Некалькі дзён Тэгулярыус па паўгадзіны праводзіў у магістарскім садзе, балазе было гэта летам, і з добрай сабе прыемнасцю чытаў адну за адной старонкі рукапісу, і няраз чытанне перапынялася гучным рогатам сяброў. Гэта былі цудоўныя дні ў Тэгулярыуса. А потым Кнэхт адасобіўся і напісаў, выкарыстоўваючы некаторыя мясціны з сябравага твору, пасланне да членаў Калегіі; мы прыводзім яго тут слова ў слова, бо няма патрэбы ні ў якіх каментарыях.

### *Пасланне Магістра Гульні да членаў Выхаваўчай калегіі*

Розныя меркаванні схіляюць мяне, Магістра Гульні, выкласці сваю незвычайную просьбу ў асобным, прытым часткова прыватным пасланні, замест таго, каб уключыць яго ў штогадовую ўрачыстую справаздачу. Хоць я і прыкладаю гэта пісьмо да сваёй чарговай справаздачы і чакаю афіцыйнага яго разгляду, я ўсё ж лічу яго хутчэй пасланнем да ўсіх маіх калег Магістраў.

Абавязак кожнага Магістра змушае яго ставіць Калегію да ведама пра перашкоды альбо небяспекі, якія пагражаюць правільнаму выкананню яго службовых функцый. Настаў момант, калі мая службовая дзейнасць, як бы старанна я ні аддаваў ёй сваю сілу, стаіць (альбо мне здаецца, што стаіць) перад небяспекай; я сам яе носьбіт, хоць і зусім не адзіная яе крыніца. І я разглядаю гэтую маральную небяспеку, якая робіць мяне мала прыдатным на ролю Магістра Гульні, як аб'ектыўную, незалежную ад маёй асобы.

Каб сказаць карацей: у мяне зарадзіліся сумненні ў маёй здольнасці паўнацэнна выконваць даручаныя мне абавязкі, бо, з майго пункту погляду, над самім іх прадметам, над самой даверанай майму клопату Гульнёй навісла пагроза. Мэта майго паслання ў тым, каб указаць Калегіі на памянёную пагрозу і даказаць, што менавіта яна, як што я ўжо прадбачу, настойліва памушае мяне пакінуць пасаду, якую я займаю. Хай будзе мне дазволена патрактаваць сітуацыю такім параўнаннем: нехта сядзіць у мансардзе над вельмі складанай і мудрай вучонай працай і раптам заўважае, што ў доме пад ім шугае пажар. Ён не будзе пытацца ў сябе, што

ўваходзіць у ягоныя абавязкі і ці не лепей будзе прывесці ў парадак табліцы, а кінецца ўніз і паспрабуе ўратаваць дом. Так і я сяджу на верхнім паверсе нашага кастальскага будынка, заняты Гульнёй, працуючы тонкімі, адчувальнымі інструментамі, і мой інстынкт, маё адчуванне кажа мне, што дзесьці ўнізе гарыць, што ўвесь наш будынак пад пагрозай і што мой абавязак — не займацца аналізам музыкі або ўдакладненнем правілаў Гульні, а паспяшацца туды, адкуль верне дым.

Інстытут Касталіі, наш Ордэн, наша навуковая і педагагічная дзейнасць разам з Гульнёй і ўсім астатнім здаюцца большасці братоў нашага Ордэна такімі ж звычайнымі, як паветра, якім мы дыхаем, як зямля, на якой мы стаім. Наўрад ці хто з іх задумваецца над тым, што гэта паветра і гэтая зямля дадзены нам не навечна, што паветра нам можа калі-небудзь не хапіць, што зямля можа вымкнуцца з-пад нашых ног. Нам выпала шчасце бесклапотна жыць у маленькім чыстым і ясным свеце, і большасць нас жыве, як гэта ні здасца дзіўным, пад фальшывым уражаннем, быццам свет гэты існаваў спрадвеку і мы народжаны ў ім. Я сам пражыў маладыя гады ў гэтай даволі суцешлівай ілюзіі, тым часам як я цвёрда ведаў праўду, што я ў Касталіі не нарадзіўся, а ўзяты быў сюды Калегіяй і тут выхаваны, што Касталія, Ордэн, Калегіі, інстытуты, архівы, Гульня — усё гэта зусім не існуе спрадвечна і створана не прыродай, а ёсць позні, высакародны і разам з усім штучным часова існы твор чалавечай волі. Усё гэта мне было добра вядома, але здавалася рэальным, я проста не думаў пра гэта, не глядзеў на гэта, і я ведаю, што больш за тры чвэрці нас да самага скону жыцьмуць і закончаць свае дні ў гэтым дзіўным і прыемным замарачэнні.

Але гэтаксама як сотні і тысячы гадоў таму назад свет існаваў без Ордэна, без Касталіі, так ён будзе існаваць без іх і наперад. І калі я сёння нагадваю сваім калегам і высокашаноўнай Калегіі пра гэты факт, пра гэтую элементарную ісціну і прапаную ім нарэшце звярнуць увагу на пагрозлівую небяспеку, калі я, такім чынам, на пэўны час бяру на сябе ролю прарока, заклінальніка і прапаведніка, ролю непрыемную і вельмі паддатную кпінам, дык я гатовы прыняць на сябе гэтыя кпіны, але ўсё ж спадзяюся, што большасць вас дачытае маё пасланне да канца, а сёй-той нават у некаторых

пунктах са мною згодзіцца. І гэта ўжо вельмі шмат.

Такое ўстанаўленне, як нашу Касталію, гэтую маленькую рэспубліку духу, высочвае небяспека і ўсярэдзіне, і звонку. Нутраную небяспеку, прынамсі, частку яе, мы ведаем, назіраем і ўмеем з ёю змагацца. Час ад часу мы адсылаем з нашых школ асобных вучняў, бо адкрываем у іх невынішчальныя якасці і схільнасці, якія робяць іх непрыдатнымі і шкоднымі нашай супольнасці. Мы спадзяёмся, што большасць іх не зробіцца праз гэта непаўнацэннымі людзьмі, яны толькі непрыстасаваныя да жыццёвага ўкладу Касталіі; вярнуўшыся ў свет, яны знойдуць больш адпаведныя сабе ўмовы і стануць карыснымі і годнымі людзьмі. Наша практыка ў гэтых адносінах цалкам сябе апраўдала, і ў цэлым пра нашу супольнасць можна ўпэўнена сказаць, што яна клапатліва аберагае сваю годнасць і самадысцыпліну і цалкам адпавядае сваёй задачы — быць найвышэйшым пластам, саслоўем арыстакратаў духу і няспынна гадаваць яму новае папаўненне. Сярод нас, трэба думаць, сустракаецца не больш несумленных або абыякавых, чым гэта натуральна і дапушчальна. Не так добра ў нас з уласцівым Ордэну самалюбаваннем, з той саслоўнай пыхай, да якой прыводзіць любы арыстакратызм, любое прывілеяванае становішча і якая слушна або няслушна ставіцца ў віну ўсякай арыстакратыі. Гісторыя грамадскага развіцця заўсёды ішла поруч са спробамі ўтварыць прывілеяваны пласт, які ўзначальвае і ўвенчвае грамадства; стварэнне свайго роду арыстакратыі, панаванне выбраных, бадай, ёсць сапраўдная, хоць і не заўсёды адкрыта прызнаваная мэта і ідэал усякага вопыту грамадскага развіцця. Спакон веку любая ўлада, хай то манархічная або ананімная, была гатовая падтрымаць новую арыстакратыю, аберагала яе і адорвала прывілеямі незалежна ад таго, якая гэта арыстакратыя — палітычная або не, арыстакратыя ад нараджэння або выбраная і адпаведна выхаваная. Спакон веку лагоджаная ўладай арыстакратыя мацнела пад гэтым сонцам, але такое жыццё пад сонцам, такое прывілеяванае становішча на пэўнай ступені развіцця непазбежна ператваралася ў спакусу і стварала ўмовы для распаду. Калі разглядаць наш Ордэн як арыстакратыю і ў гэтым ракурсе паспрабаваць праверыць, наколькі нашыя адносіны да народа, да свету ў цэлым апраўдвае наша адмысловае становішча, наколькі мы ўжо ахоплены і

заражаны характэрнымі хваробамі арыстакратыі — фанабэрыстасцю, пагардлівасцю, саслоўнай пыхай, усёзнайствам, ахвотай жыць за чужы кошт, — у нас ужо можа ўзнікнуць пэўная паняверка. Уявім сабе, сённяшні касталец слухаецца законаў Ордэна, любіць працу, духоўна вытанчаны, але ці часта ён умее бачыць сваё месца ў сярэдзіне структуры народу, свету, сусветнай гісторыі? Ці разумее ён, у чым аснова яго існавання, ці здольны ён адчуць сябе толькі лісцінкай, кветачкай, галінкай або коранем жывога арганізму, ці падазрае ён, на якія ахвяры за яго ідзе народ, даючы яму ежу і вопратку, забяспечваючы яму магчымасць атрымаць адукацыю і аддавацца ўсялякім навуковым заняткам? І ці шмат ён думае пра сэнс нашага існавання і нашага адмысловага становішча, ці мае ён правільнае ўяўленне пра мэты нашага Ордэна і нашага жыцця? Дапускаючы выключэнні, многія і слаўныя выключэнні, я схіляюся да таго, каб адказаць на ўсе гэтыя пытанні адмоўна. Сярэдні касталец глядзіць на зямнога і прафана, магчыма, без пагарды, без зайздрасці, без злосці, але ён не ставіцца да яго як да брата, не бачыць у ім свайго кармільца, не хоча несці ані малюткай адказнасці за тое, што робіцца там, у вялікім свеце. Мэтай свайго жыцця ён мае культыванне навукі дзеля яе самой або прыемныя шпацыры ў садах адукаванасці, якую ён ахвотна выдае за універсальную, хоць яна, па сутнасці, не такая. Карацей, наша кастальская асвета, узвышаная і высакародная, якой я, зразумела, многім абавязаны, для большасці тых, хто ёю асянёны, не ёсць прыладай або інструментам, не накіравана на актыўныя мэты, не служыць свядома вялікім і глыбокім задачам, а ў пэўнай ступені служыць толькі самаасалодзе і самазахваленню, фармаванню і культываванню розных інтэлектуальных спецыяльнасцяў. Мне вядома, што ў нас шмат цэльных і ў высокай ступені вартасных кастальцаў, якія не хочуць нічога іншага, як служыць справе; гэта выгадаваныя намі настаўнікі, асабліва тыя, хто працуе за межамі Касталіі, далёка ад мяккага клімату і духоўнай здалікачанасці Правінцыі, хто вядзе ў свецкіх школах сваю самаадданую і неацэнна важную працу. Гэтыя сумленныя настаўнікі, якія працуюць па-за Касталіяй, строга кажучы, — адзіныя сярод нас, хто сапраўды апраўдвае прызначанасць Касталіі, і толькі іх працай мы аддзячваем краіне і на-

роду за ўсё тое добрае, што яны нам робяць. Самы першы і самы святы наш абавязак у тым, каб захоўваць і берагчы нашай краіне і ўсяму свету той духоўны падмурак, які, як выявілася, ёсць і досыць дзейснай асновай этыкі, менавіта ж: дух ісціны, на якім, апрача ўсяго іншага, грунтуецца і справядлівасць. Гэта, пэўна ж, вядома кожнаму члену Ордэна, але, зірнуўшы ў сябе глыбей, большасць нас будуць вымушаныя прызнаць, што дабрашчаснасць свету, захаванне сумленнасці і чысціні духу за межамі нашай так дбайна дагледжанай Правінцыі для нас зусім не найважнейшая мэта і наогул не дужа нас цікавіць; мы цалкам перадаверылі мужным настаўнікам, якія працуюць па-за Правінцыяй, пагасіць нашу запазычанасць свету і хоць бы часткова апраўдаць прывілею нашых майстроў Гульні, астраномаў, музыкантаў, матэматыкаў карыстаць з усіх інтэлектуальных даброт. З той жа нашай фанабэрыі, таго ж кастава духу, пра якія ўжо гаварылася, вынікае, што мы не надта задумваемся, ці заслужылі мы гэтыя прывілеі сваёй працай; нямала нашых братоў лічаць асаблівай сваёй заслугай выкананне прадпісаных Ордэнам матэрыяльных абмежаванняў у ладзе жыцця, быццам гэта даброць іхняя, быццам гэта робіцца выключна дзеля іх саміх, тым часам як гэта толькі мінімальная аддача за тое, што краіна забяспечвае наша кастальскае існаванне.

Я задаволюся ўказаннем менавіта на гэтую нутраную небяспеку і шкоду, яны досыць важныя, хоць спакойным часам яны яшчэ доўга не сталі б нам рэальнай пагрозай. Аднак мы, кастальцы, залежым не толькі ад нашай маралі і нашага розуму, але ў большай ступені і ад становішча ў краіне, і ад волі народа. Мы ямо хлеб, працуем у сваіх бібліятэках, будуем сабе школы і архівы, але калі народ больш не захоча або не зможа даваць нам сродкі на гэта, калі краіна згалее, выбухне вайна або пачнуцца іншыя гароты, нашаму жыццю і вучонай дзейнасці імгненна настане канец. Можа прыйсці дзень, калі краіна паглядзіць на сваю Касталію і яе культуру як на раскошу, якой яна ўжо больш не можа сабе дазволіць, і, замест таго каб дабрадушна ганарыцца намі, адшпурне нас як гультаёў і шкоднікаў, як ілжэнастаўнікаў і ворагаў — вось якая небяспека падпільноўвае нас звонку.

Калі б я паспрабаваў растлумачыць гэта сярэдняму

кастальцу, мне давялося б перш-наперш звярнуцца па прыклады да гісторыі, і пры гэтым я натыкнуўся б на пэўнае пасіўнае супраціўленне, на пэўнае, калі хочаце, дзіцячае неразуменне і неспагаду. Цікавасць да сусветнай гісторыі ў нас, кастальцаў, як вы ведаеце, вельмі слабая, у большасці нас не толькі няма такой цікавасці, мы нават несправядліва і, я б сказаў, непаважліва ставімся да гісторыі. Такая спароджаная раўнадушнасцю і пачуццём сваёй перавагі грэблівасць да сусветнай гісторыі часта абуджала ўва мне жаданне даследаваць прычыны гэтага феномена, і я прыйшоў да высновы, што іх дзве. Першае, мы лічым гістарычныя факты проста малаважнымі, другараднага значэння, — я, вядома, маю на ўвазе не гісторыю духу і культуры, да яе мы ставімся з поўнай павагай; сусветная гісторыя, на думку кастальцаў, гэта ланцуг жорсткіх сутычак за ўладу, за багацце зямлі, сыравіну, грошы — адным словам, за каштоўнасці матэрыяльныя і квантытатыўныя, гэта значыць, на наш погляд, нізкія і нават вартыя пагарды. Для нас семнаццатае стагоддзе — гэта эпоха Дэкарта, Паскаля, Фробергера, Шутца, а не Кромвеля або Людовіка XIV. Другая прычына нашай непрыхільнасці да сусветнай гісторыі хаваецца ў нашым традыцыйным, як я думаю, часцей за ўсё даволі абгрунтаваным недаверы да пэўнага метаду разгляду і інтэрпрэтацыі гістарычных фактаў у эпоху заняпаду, яшчэ да заснавання нашага Ордэна, — да метаду, да якога мы з самага пачатку не мелі ніякага даверу; гэта так званая філасофія гісторыі, найбольшы росквіт яе і адначасова самы небяспечны ўплыў мы знаходзім у Гегеля, прычым у наступным стагоддзі гэта філасофія прывяла да самай недапушчальнай фальсіфікацыі і занядбання духу праўды. Цягу да так званай філасофіі гісторыі мы лічым адной з галоўных прыкмет эпохі падзення духу і буйных палітычных сутычак і барацьбы за ўладу, той эпохі, што мы часам называем «ваяўнічым стагоддзем», часцей за ўсё «фельетаністычнай эпохай». На руінах гэтай эпохі, з барацьбы за адоленне яе духу або яе бездухоўнасці і ўзнікла наша сучасная культура, узніклі Ордэн і Касталія. У сваёй духоўнай надвышэйшасці мы ставімся да сусветнай гісторыі, асабліва да найноўшай, прыкладна так, як, скажам, старажытнахрысціянскі аскет і анахарэт глядзеў на тэатр зямной марнасці. Гісторыя ўяўляецца нам арэнай змагання бязглуздых мод, жывёльнага

гону, юру, прагі і ўладалюбства, крыважэрства і гвалту; прагэта разбурэнні і войны, славалюбныя міністры, прадажныя генералы, сцёртыя з зямлі гарады, і мы надта лёгка забываемся, што гэта толькі адзін з яе многіх аспектаў. І найперш забываемся, што сама наша Касталія — таксама частка гісторыі, нешта «ўзніклае» і таму асуджанае на паміранне, калі мы страцім здольнасць да далейшага станаўлення і росту. Мы самі — гісторыя, і мы адказныя за сусветную гісторыю ў цэлым і за наша становішча ў ёй. Вось гэтага ўсведамлення адказнасці нам і бракуе.

Калі мы акінем вокам сваю гісторыю, перыяд узнікнення сённяшніх педагагічных правінцый у нашай краіне і ў некаторых іншых, узнікненне ордэнаў і іерархій, у тым ліку і нашага Ордэна, мы вельмі хутка пераканаемся, што наша іерархія і наш дом — дарагая Касталія — былі заснаваны зусім не тымі, хто ставіўся да сусветнай гісторыі гэтак жа расчаравана і высакадумна, як мы. Нашыя папярэднікі, заснавальнікі Касталіі, пачыналі сваю справу напрыканцы ваяўнічай эпохі, калі свет ляжаў у руінах. Мы прызвычаіліся аднабакова тлумачыць становішча, якое склалася ў свеце да пачатку першай так званай сусветнай вайны, спасылаючыся на тое, што менавіта ж бо тады духоўны пачатак страціў усякую каштоўнасць і служыў грозным дзяржаўцам толькі дадатковай, пры выпадку ўжыванай зброяй барацьбы, у чым мы бачым вынікі фельетаністычнай карупцыі. Дзіва што, няцяжка канстатаваць бездухоўнасць і грубасць, якія пазначалі сваім кляймом тагачасную барацьбу за ўладу. Я кажу пра бездухоўнасць не таму, што не хачу заўважаць сімпатычных дасягненняў таго часу па лініі інтэлекту і методыкі, а таму, што мы прывыклі нязменна разглядаць дух у першую чаргу як волю да ісціны, тым часам як злоўжыванне духам у тагачасных бітвах, бадай што, нічога супольнага з воляй да ісціны не мае. На няшчасце той эпосе неўладкаванай дынаміцы, якая ўзнікла з неверагодна хуткага колькаснага росту чалавецтва, не былі супрацьпастаўлены хоць якія-кольвечы цвёрдыя маральныя ўстоі; тое, што яшчэ засталося ад іх, было выцеснена лозунгамі дня, і, даследуючы ход гэтай барацьбы, мы натыкаемся на ўразу вусцішных фактаў. Гэтаксама ў часы спрычыненай Лютэрам царкоўнай схізмы за чатыры стагоддзі да гэтага ўвесь свет раптам апанавала трывога: усюды

ўспыхвалі замешкі, узнікалі франты барацьбы, усюды імкліва разгортвалася жорсткая, непрымірымая варажнеча паміж старым і маладым, паміж айчынай і чалавецтвам, паміж чырвоным і белым, і мы не здольныя ў наш час хоць бы ў думках рэканструяваць моц і ўнутраную дынаміку гэтага «чырвонага» і «белага», як і сапраўдныя сэнсы і значэнні тагачасных дэвізаў і заклікаў, ужо не кажучы пра тое, каб зразумець і суперажываць іх; як і ў часы Лютэра, мы бачым па ўсёй Еўропе, больш таго, на добрай палавіне зямнога шара, як вернікі і ерэтыкі, маладыя і старыя, паборцы мінуўшчыны і паборцы прышласці адухоўлена або роспачна пабіваюць адно аднаго; зноў і зноў лінія фронту ішла праз карты краін, праз народы, праз сем'і, і не выпадае сумнявацца, што большасці саміх змагароў альбо хоць бы іх правадырам усё гэта было поўна самага найвышэйшага сэнсу, мы не можам адмовіць многім узначальцам і ідэолагам тых бітваў у нейкай прымітыўнай веры ў свае ідэалы, у нейкай перакананасці, як гэта было прынята тады называць. Ва ўсіх канцах зямлі змагаліся, забівалі і разбуралі, і абодва бакі рабілі гэта з цвёрдай верай у тое, што яны змагаюцца ў імя Бога і супроць сатаны.

Для нас гэтыя дзікія часы высокага энтузіязму, дзікай нянавісці і неапісальных, непамысных пакут як бы не існуюць, што само па сабе даволі дзіўна, калі ўжо тая эпоха так цесна звязана з узнікненнем усіх нашых інстытуцый і з'яўляецца і зачэпкай і першапрычынай іх. Сатырык параўнаў бы гэта забыццё з забыўлівасцю прымазаных да магнацтва авантурыстаў, паводле свайго паходжання і сваіх бацькоў. Удзелім яшчэ трошкі ўвагі гэтай ваяўнічай эпосе. Я вывучыў некаторыя дакументы, якія датычацца яе, прычым цікавіўся не так запрыгнечанымі народамі і разбуранымі гарадамі, як паводзінамі ў тыя часы служкаў духу. Ім даставалася цяжка, большасць не выстаяла. Былі і мучанікі як сярод вернікаў, так і сярод вучоных, і іх пакутніцтва і прыклад нават у тыя звыклыя да ўсякіх страхоццяў часы не прайшлі без следу. І ўсё ж большасць прадстаўнікоў духоўнага свету не вынесла прыгнёту гэтай эры насілля. Яны скарыліся і аддалі свой талент, свае веды і метады ўладцам, да нас дайшло выслоўе аднаго тагачаснага прафесара вышэйшай школы ў рэспубліцы мусагетаў: «Колькі будзе двойчы два, вызначае не фа-

культэт, а наш пан ґенерал». Іншыя ішлі ў апазіцыю і заставаліся ў ёй датуль, дакуль маглі дзейнічаць больш-менш беспакарана, і выступалі з пратэстамі. Павядаюць, што адзін сусветна вядомы пісьменнік напісаў за адзін год — гэта можна прачытаць у Цыгенхальса — больш як дзвесце такіх пратэстаў, засцярог, заклікаў да розуму і г. д., мабыць, болей, чым мог сам прачытаць. Але большасць навучылася маўчаць, навучылася трываць голад і холад, жыць жабрацтвам і хавацца ад паліцыі, адны заўчасна паміралі, а тыя, што заставаліся жыць, зайздросцілі нябожчыкам. Многія-многія наклалі на сябе рукі. І сапраўды, становішча вучонага або літаратара не давала ні радасці, ні гонару: той, хто ішоў служыць уладам і іх лозунгам, атрымліваў месца і хлеб, але і пагарду найлепшых сваіх калег, а ў дадатак адчувальныя згрызоты сумлення; той, хто адмаўляўся ад такой службы, мусіў галадаць, жыць па-за законам і паміраць выгнанцам у галечы і нэндзы. Гэта быў жорсткі, нечувана суровы адбор. Вельмі хутка заняпалі не толькі навуковасць, калі яна не служыла мэтам барацьбы за ўладу, але і школьніцтва. Асабліва пацярпела гістарычная навука, якую запанаваныя тады нацыі прынароўлівалі выключна да сябе, бясконца спрашчалі і перакройвалі; філасофія гісторыі і фельетон укарэньваліся ўсюды, аж да школы.

Даволі падрабязнасцяў. То былі часы бурлівыя і дзікія, часы хаосу і вавілонскага вэрхалу, калі народы і партыі, старыя і моладзь, чырвоныя і белыя перасталі разумецца. І нарэшце, калі народы ўжо сцяклі крывёю і загразлі ў галечы, нарадзілася нястрымнае імкненне адумацца, зноў знайсці мову паразумення, вярнуцца да ўпарадкаванасці, да добрых нораваў, да сапраўднай меры рэчаў, да такой азбукі і такой табліцы множання, якія не падыктаваны інтарэсамі ўлады і не паддатныя штохвілінным пераменам. Узнік неверагодны голад на ісціну і права, цяга да розуму, да ўтаймавання хаосу. Гэтаму вакууму ў канцы насільніцкай і памкнёнай на знешняе эры, гэтай невыказна мусовай патрэбе пачаць усё нанава і здабыць парадак мы абавязаны стварэннем Касталіі і нашым у ёй існаваннем. Да мізэрна малой купкі смелых, сапраўды інтэлектуальных людзей, знясіленых голадам, але як і раней нязломных, пачало вяртацца ўсведамленне іх сілы, а ў іх аскетычна гераічнай самадысцыпліне пачалі вымалёўвацца парадак і арга-

нізаваўшыся, усюды, маленькімі і малюпасенькімі груп-камі, яны ўзнавілі сваю працу, пахерылі лозунгі і знізу, з самага першага каменя зноў заклалі будынак духоўнасці, навуковага даследавання, навучання, асветы. Будаўніцтва пайшло паспяхова, з драбнюткіх, але гераічных пачаткаў яно спакваля вырасла ў велічнае збудаванне, за некалькі пакаленняў былі створаны Ордэн, Выхаваўчая калегія, школы эліты, архівы, музеі, спецыяльныя навучальныя ўстановы і семінары. Гульня — і вось сёння мы, нашчадкі гэтых людзей, жывём у гэтым новым занадта велічным будынку і цешымся яго багаццямі. І — паўтаруся яшчэ раз — размясціліся мы ў ім дыхтоўна, як бестурботныя госці, мы нічога больш не хочам ведаць ні пра страшэнныя людскія ахвяры, што леглі ў яго падмурак, ні пра сумны вопыт, які дастаўся нам у спадчыну, ні пра сусветную гісторыю, якая ўзнесла або дапусціла існаванне нашага будынка, падтрымлівае нас і паблажае нам сёння і, магчыма, будзе падтрымліваць яшчэ нейкі лік кастальцаў і Магістраў пасля нас, але аднаго дня аберне ў друз увесь наш будынак, як яна разбурае і паглынае ўсё, што сама ўзгадавала.

Цяпер я расстаюся з гісторыяй і, дастасоўваючыся да дня сённяшняга і да нас саміх, прыходжу да такой высновы: наша сістэма і Ордэн ужо пераступілі самую высокую рысу росквіту і шчасця, адпушчаных цудоўнаму і жаданаму паводле загадкавых вычвараў гісторыі. Мы ідзём да заняпаду, ён, магчыма, пратрывае яшчэ доўга, але ўжо не выпадзе нам на долю нічога больш узнёслага, больш цудоўнага і жаданага, чым выпадала дагэтуль, — дарога наша пайшла з гары; гістарычна, я думаю, мы ўжо дастаткова выспеліліся, каб упасці, і гэта несумненна спраўдзіцца і збудзецца, хай не сёння і не заўтра, а паслязаўтра ці запаслязаўтра. Я выводжу гэта не толькі з непамерна маралізаванай ацэнкі нашых дасягаў і здольнасцяў, я высноўваю гэта куды больш з тых рухаў, што, як бачу, спеюць у вакольным свеце. Блізіцца крытычны час, ува ўсім ужо відаць яго прыкметы і знакі, свет мерыцца зноў перанесці свой цэнтр цяжару. Рыхтуецца перамена ўлады, яна не можа стацца без войнаў і гвалту; пагроза не толькі свету, але жыццю і свабодзе ідзе з далёкага Усходу. Як бы ні пнуліся наша краіна і яе палітыкі трымацца нейтралітэту, які б ні быў аднадушны наш народ (чаго ўвогуле няма) у сваім жаданні захаваць усё

ў ранейшым стане і заставацца верным ідэалам Касталіі, усё будзе марна. Ужо сёння даволі выразна чуюцца галасы асобных сяброў парламента, што Касталія — залішняя раскоша нашай краіне. Як толькі дойдзе да сур'ёзных ваенных падрыхтаванняў, хай сабе толькі дзеля абароны, — а гэта адбудзецца незабаўным часам, — нашай краіне прыйдзецца падцісնуць пояс эканоміі, і, нягледзячы на самыя прыязныя адносіны да нас урада, большасць гэтых мер непазбежна зачэпіць нас. Мы ганарымся, што Ордэн і непахіснасць духоўнай культуры, забяспечана ім, патрабуюць ад краіны даволі сціплых выдаткаў. У параўнанні з іншымі эпохамі, напрыклад, ранне-фельетаністычнай, з яе багатымі вышэйшымі вучэльнямі, з яе процьмай тайных радцаў і дарагіх інстытутаў, гэтыя ахвяры даволі невялікія, і ўжо зусім мізэрныя, калі параўнаць іх з тымі сродкамі, якія паглыналіся ў ваяўнічую эпоху вайной і падрыхтоўкай да яе. Але менавіта гэтая падрыхтоўка неўзабаве зробіцца зноў высокім законам, у парламенце зноў возьмуць верх генералы, і, калі народ будзе пастаўлены перад выбарам — ахвяраваць Касталіяй або падупасці небяспецы вайны і пагібелі, лёгка прадбачыць, як і за што ён будзе галасаваць. І тады несумненна пераможа ваяўнічая ідэалогія, яна з асаблівай сілай завалодае моладдзю, пераважыць светапогляды лозунгаў, пад знакам якіх вучоныя і вучонасць, латынь і матэматыка, асвета і культура духу толькі таму і будуць мець права на існаванне, што яны змогуць паслужыць мэтам вайны.

Хваля ўжо коціцца, настане час, і яна змые нас. Можа, гэта добра і так трэба. Але, чакаючы гэтага, мае шаноўныя калегі, нам трэба ў меру нашага разумення падзей, у меру нашай празорлівасці пакарыстацца той абмежаванай свабодай рашэнняў і дзеянняў, што дарована чалавеку і ператварае сусветную гісторыю ў гісторыю чалавецтва. Мы можам, калі хочам, не глядзець на небяспеку, бо яна яшчэ даволі далёка; хутчэй за ўсё мы, сённяшнія Магістры, спакойна дажывём свае дні і спакойна сустрэнем свой смяротны кон да таго, як небяспека насунецца блізка і стане ўсім відаць. Але мне, ды, пэўна, і не толькі мне аднаму, было б немагчыма цешыцца такім спакоем з чыстым сумленнем. Я не хачу і далей спакойна выконваць свае абавязкі і прысвячаць сябе Гульні, задаволены тым, што будучая катастрофа ўжо не застане мяне жывога. Не, наадварот,

я абавязаны памятаць, што і мы, людзі, далёкія ад палітыкі, уцягнуты ў арбіту сусветнай гісторыі і памагаем яе тварыць. Таму я і напісаў на пачатку свайго паслання, што мае дзелавыя здольнасці канчаюцца, а могуць і назусім прапасці, бо я не маю сілы перашкодзіць таму, што мае думкі і клопат паглынутыя галоўным чынам навіслай над намі небяспекай. І хоць я забараняю свайму ўяўленню маляваць, якія формы можа набыць гэтая трагедыя для нас усіх і для мяне асабіста, я не магу заглушыць у сабе пытанне: што павінны зрабіць мы і што павінен зрабіць я, каб прыняць небяспеку не з голымі рукамі? Хай будзе мне дазволена спыніцца на гэтым крыху больш падрабязна.

Дамаганняў Платона на тое, што кіраваць дзяржавай павінны вучоныя, больш таго — мудрацы, я не падзяляю. Свет быў у яго час маладзейшы. А Платон, хоць і заснаваў свайго роду Касталію, быў ніякі не касталец, а прыродны арыстакрат, атожылак царскага роду. Праўда, і мы арыстакраты і належым да высакароднага саслоўя, але гэта высакароднасць духу, а не крыві. Я не веру, што чалавецтва здольнае выпеставаць пароду людзей, у якіх адначасова спалучаліся б высакароднасць крыві і высакароднасць духу, — гэта была б ідэальная арыстакратыя, але яна пакуль што — мара. Мы, касталься, нягледзячы на тое, што мы людзі высокіх маральных правілаў і не без розуму, валадарыць не патрапім; калі б нам давялося кіраваць краінай, мы б не маглі рабіць гэтага з той энергіяй і непасрэднасцю, якія патрэбны сапраўднаму кіраўніку, і пры гэтым наша ўласнае поле дзейнасці, самы блізкі нам клопат — культываванне ўзорнага духоўнага жыцця — хутка было б занядбана. Каб валадарыць, зусім не трэба быць дурным або грубым, як часам заяўляюць заядлыя інтэлектуалы, але на тое патрэбна нічым не атручаная любоў да накіраванай вонкі дзейнасці, патрэбна палкасць да самаатаясамлівання з пастаўленай мэтай і, зразумела, пэўная імклівасць і непераборлівасць у выбары шляхоў да поспеху. Усё гэта, як бачыце, якасці, якіх у вучонага — мудрацамі сябе мы называць не будзем — няма і быць не павінна, бо для нас разважанне важней за дзеянне, а пры выбары сродкаў і метадаў дасягнення нашых мэт мы прывучаны да абачлівасці і асцярогі. Такім чынам — кіраваць краінай і займацца палітыкай — не наша доля. Мы — прафесія-

налы даследавання, чляненне і вымярэння, наша справа аберагаць і вывяраць усе азбукі, табліцы множання і метады, ствараць эталоны мер і вагі. Зразумела, мы любім і шмат чаго іншага, мы можам пры выпадку быць і наватарамі, першаадкрывальнікамі, шукальнікамі прыгодаў, заваёўнікамі і перагалумачальнікамі, але найпершы наш абавязак, дзеля якога народ мае ў нас патрэбу і нас корміць, ёсць захаванне ў чысціні ўсіх крыніц ведаў. У палітыцы, гандлі і дзе толькі хочаце ператураванне чорнага ў белае можа залічыцца геніяльным дасягненнем, у нас — ніколі.

У былыя эпохі, у так званыя «вялікія» і бурныя часы, пры войнах і пераваротах, ад людзей разумовых прафесій часам патрабавалі, каб яны бралі ўдзел у палітыцы. Асабліва гэта датычыцца канца фельетаністычнай эпохі. У яе патрабаванні ўваходзіла палітызацыя або мілітарызацыя духу. Падобна на тое, як царкоўныя званы пералівалі на гарматы, як зусім яшчэ недарослымі школьнікамі папаўняліся парадзелыя шэрагі войска, так і дух канфіскоўвалі і выкарыстоўвалі дзеля ваенных мэтаў.

Вядома, мы пагадзіцца з такім патрабаваннем не можам. Не даводзіцца спрачацца пра тое, што вучоны ў выпадку самай большай патрэбы не можа быць адкліканы з кафедры або ад лабараторнага стала і ператвораны ў салдата, больш таго, што ён пры пэўных абставінах не павінен пайсці на гэта па добрай волі, нарэшце, па што ў знэнджанай вайною краіне вучоны павінен падзяляць з народам усе матэрыяльныя нягоды, аж да голаду. Чым вышэйшая адукаванасць чалавека, чым большымі прэрагатывамі ён карыстаўся, тым большыя ахвяры ён павінен прыносіць у выпадку патрэбы; мы спадзяёмся, што кожнаму кастальцу гэта калі-небудзь будзе неаспрэчнай ісцінай. Але раз мы гатовыя прынесці ў ахвяру народу, калі ён у небяспецы, наш дабрабыт, нашы выгоды, з гэтага не вынікае, што мы гатовыя прынесці ў ахвяру надзённым інтарэсам народа або генералаў і сам дух, традыцыі і запаветы нашага духоўнага жыцця. Палахліўцам назавём мы таго, хто ўхіляецца ад працы, ахвяр і небяспекі, што прыпалі на долю яго народу. Але палахліўцам і здраднікам удвайне будзе той, хто здрадзіць прынцыпам духоўнага жыцця дзеля матэрыяльных выгодаў, хто, напрыклад, згодзіцца даць права валадарам вырашаць, колькі будзе двойчы

два. Бо ахвяраваць любоўю да ісціны, інтэлектуальным сумленнем, вернасцю законам і метадам духу дзеля якіх-небудзь іншых інтарэсаў, хай нават гэта будуць інтарэсы бацькаўшчыны, ёсць здрада. Калі ў барацьбе інтарэсаў і лозунгаў ісціне пагражае небяспека гэтак-сама падупасці зняцэньванню, перакручванню і гвалту, як і асобе, як мове, як мастацтву, наш адзіны абавязак — супраціўляцца гэтаму і ратаваць ісціну, правільней кажучы, імкненне да ісціны, як найвышэйшы сімвал веры. Калі вучоны з трыбуны, з кафедры або ў кнігах свядома гаворыць няпраўду, свядома падтрымлівае хлусню і фальсіфікацыю, ён не толькі грэшыць супраць законаў жыцця, ён, насуперак усякай яўнасці і патрэбе дня, і народу свайму прыносіць не карысць, а цяжкую шкоду, атручвае яму паветра і зямлю, ежу і пітво, атручвае мысленне і пачуццё справядлівасці і дапамагае ўсім злым і варожым сілам, якія пагражаюць яму знішчэннем.

Значыцца, касталец не павінен рабіцца палітыкам, ён абавязаны, калі трэба, ахвяраваць сваёй асобай, але не сваёй вернасцю духу. Дух дабратворны і святы ў паслушэнстве ісціне; калі ён ёй здраджвае, адмаўляе ёй у пакланенні, робіцца прадажным і паддатным любым уздзеянням, — ён ёсць д'ябал у патэнцыі і яшчэ большая гнюсота, чым жывёльнае, падсвядомае скоцтва, у якім усё ж захоўваецца нейкая доля прыроднай нявіннасці.

Я даю магчымасць кожнаму з вас, глыбокашаноўныя калегі, самому падумаць пра тое, у чым абавязкі Ордэна ў хвіліну, калі краіне і самому Ордэну пагражае небяспека. На гэта могуць быць розныя пункты гледжання. І ў мяне ёсць свой, і, грунтоўна абдумаўшы ўсе закранутыя тут пытанні, я асабіста склаў сабе яснае ўяўленне пра тое, у чым мой абавязак і якія павінны быць у мяне памкненні. Гэта і прымусіла мяне звярнуцца з асабістай просьбай да нашага паважанага кіраўніцтва, якою я і закончу свой мемарандум.

З усіх Магістраў, якія складаюць нашу Калегію, я, як Magister Ludi, паводле сваіх абавязкаў менш за ўсё сутыкаюся са знешнім светам. Магістры матэматыкі, філалогіі, фізікі, педагогікі і іншыя працуюць у галінах, агульных са светам недасведчаных; і ў некастальскіх звычайных школах нашай і ўсякай іншай краіны матэматыка і граматыка складаюць аснову выкладання, і ў

свецкіх універсітэтах вывучаюць фізіку і астраномію, а музыкай займаюцца нават і без адмысловай падрыхтоўкі; усе гэтыя дысцыпліны старыя як свет, намнога старэйшыя за наш Ордэн, яны існавалі задоўга да яго і яго перажывуць. Адна толькі Гульня шкляных перлаў ёсць наша вынаходства, наша выдатнасць, наша любімая цацка, крайняе, вытанчанае выяўленне нашага спецыфічнага кастальскага тыпу духоўнасці. Гэта адначасова самая бліскучая і самая бескарысная, самая ўпадабаная і самая крохкая каштоўнасць у нашай скарбонцы. Яна і загіне першая, як толькі стане пытанне пра існаванне Касталіі, — не толькі таму, што яна сама па сабе ёсць самае крохкае з усіх нашых багаццяў, а і таму, што недасведчаным яна, бясспрэчна, — найменш патрэбная частка кастальскага свету. Калі дойдзе да скарачэння ў краіне лішніх выдаткаў, дык будзе паменшана колькасць элітарных школ, зніжаны, а пасля і адменены фонды на ўтрыманне і пашырэнне бібліятэк і калекцый, будзе пагоршана наша харчаванне, перастануць абнаўляць нашу вопратку, але ўсе найважнейшыя дысцыпліны нашай universitas litterarum будуць захаваныя — акрамя Гульні. Матэматыка патрэбна і на тое, каб прыдумваць новую зброю, але ніхто не паверыць, асабліва вайскоўцы, што закрыццё Vicus lusorum і адмаўленне ад нашай Гульні прынясе краіне і народу хоць самую малую шкоду. Гульня — самая выштукаваная і самая пацэльная частка нашага будынка. Магчыма, менавіта таму Magister Ludi, які ўзначальвае самую чужую свету галіну, першы і адчуў блізкі землятрус або, прынамсі, першы выказаў Калегіі свае апасенні.

Такім чынам, я лічу, што ў выпадку палітычных і ваенных катаклізмаў Гульня загіне. Яна хутка прыйдзе да заняпаду, і калі нават асобныя людзі і захаваюць да яе прыхільнасць, яна не будзе адноўлена. У атмасферы, якая ўзнікае пасля новай ваяўнічай эры, Гульня не зможа існаваць. Яна знікне гэтаксама, як зніклі некаторыя высока развітыя традыцыі ў гісторыі музыкі, напрыклад, прафесійныя пеўчыя хоры семнаццатага стагоддзя або нядзельная канцэртная музыка ў цэрквах у пачатку васемнаццатага. Тады чалавечае вуха лашчылі гукі, анёльскай, прамяністай чысціні якіх не здолелі адрадзіць ніякая навука, ніякае чарадзейства. Так і Гульню не забудуць ніколі, але і адрадзіць яе не ўдасца,

а тыя, хто ў будучым займецца вывучэннем яе гісторыі, яе ўзнікнення, росквіту і заняпаду, толькі ўздыхнуць, зайздросцячы таму, што нам выпала шчасце жыць у такім гарманічным духоўным свеце.

Хоць я Magister Ludi, я зусім не лічу сваёй або нашай задачай папярэджваць або адсоўваць пагібель Гульні. Усё выдатнае, якім бы яно ні было выдатным, яно ўміручае, бо зрабілася гісторыяй, зямной з'явай. Мы гэта ведаем і можам журыцца з гэтай прычыны колькі хочам, але няма сэнсу спрабаваць сур'ёзна змяніць тое, чаго змяніць нельга. Калі Гульня занепадзе, Касталія і ўвесь свет панясуць велізарную страту, але не адразу гэта нават адчуюць, настолькі ў эпоху крутых паваротаў яны будуць заклапочаныя ратаваннем таго, што яшчэ можна ўратаваць. Касталію без Гульні яшчэ можна сабе ўявіць, але Касталія без пакланення ісціне, без вернасці духу — непамысная. Выхаваўчая Калегія можа абысціся без Магістра Гульні. Але сам выраз Magister Ludi з самага пачатку і па сваёй сутнасці — што ўжо амаль забыта намі — азначае не тую спецыяльнасць, якую мы пад гэтым словам разумеем. Magister Ludi пачаткова азначала проста «школьны настаўнік». А настаўнікі, добрыя і мужныя настаўнікі, будуць нашай краіне тым болей патрэбны, чым большая небяспека будзе пагражаць Касталіі, чым больш яе скарбаў будзе гінуць або спакваля адміраць. Настаўнікі нам найбольш патрэбныя, бо гэта людзі, якія прышчапляюць моладзі здольнасць вымяраць і ацэньваць факты, якія служаць моладзі прыкладам пакланення ісціне, паслушэнства духу, служэння слову. І гэта зусім не датычыцца ў першую чаргу нашых элітарных школ, існаванню якіх таксама калі-небудзь прыйдзе крэс, гэта датычыцца ўсіх свецкіх школ па-за Касталіяй, дзе вучаць і выхоўваюць будучых гараджан і сялян, рамеснікаў і салдатаў, палітыкаў, афіцэраў і кіраўнікоў, пакуль яны яшчэ дзеці і паддатныя выхаванню. Менавіта там аснова духоўнага жыцця краіны, а не ў нашых семінарах або Гульні. Мы здавён забяспечваем краіну настаўнікамі і выхаваўцамі, і я ўжо казаў: яны найлепшыя сярод нас. Але мы абавязаны рабіць больш, чым рабілі дагэтуль. Мы не павінны больш спадзявацца, што з некастальскіх школ да нас будзе ісці пастаянны прыток здольных дзяцей і яны змогуць нам захаваць Касталію. Нам трэба разглядаць сціплую,

цяжкую і адказную працу ў школе, асабліва ў свецкай школе, як самую важную і ганаровую частку нашай задачы і як мага яе пашыраць.

Цяпер я падышоў да сваёй асабістай просьбы, з якой я адважуся звярнуцца да шаноўнай Калегіі. Гэтым пасланнем я прашу Калегію вызваліць мяне ад пасады Магістра Гульні, даверыць мне за межамі Касталіі звычайную школу, вялікую або малую, і дазволіць мне ў якасці педагога рыхтаваць у гэтай школе атрад юных членаў Ордэна, людзей, у адносінах да якіх я магу быць пэўны, што яны самаадданa дапамагацьмуць уводзіць у кроў і плоць нашы прынцыпы і прышчапляць іх маладым людзям.

Спадзяюся, што велешаноўная Калегія зробіць ласку дабрамысна разгледзець маю просьбу і яе абгрунтаванне і паведаміць мне свой адказ.

*Магістр Гульні*

Прыпіска:

Хай будзе мне дазволена прывесці тут словы айца Якава, якія я запісаў у час адной незабыўнай прыватнай гутаркі з ім:

«Могуць настаць часіны жудасці і найцяжэйшых гаротаў. І калі сярод бедаў яшчэ будзе магчыма нейкае шчасце, тое адзіна духоўнае шчасце, абернутае назад, да выратавання культуры мінулых эпох, і звернутае наперад, да бадзёрага і дзейснага самавыяўлення духу сярод той эпохі, якая ў іншым выпадку цалкам падупала б уладзе рэчавага».

Тэгулярыус і не падазраваў, як мала ў гэтым пасланні захавалася ад ягонай працы; у апошняй рэдакцыі яму не давялося яго ўбачыць. Праўда, Кнэхт паказаў яму два папярэднія варыянты, даўжэйшыя, а потым адправіў сваё пасланне і пачаў чакаць адказу ад Калегіі, выяўляючы куды менш нецярплівасці, чым яго сябар. Магістр прыняў рашэнне не паведамляць яму пра свае далейшыя крокі; ён нават забараніў яму абмяркоўваць пазней гэта пытанне і толькі намякнуў, што да паступлення адказу пройдзе, магчыма, нямала часу.

Таму, калі (раней, чым Кнэхт чакаў) прыйшоў гэты адказ, Тэгулярыус пра яго нічога не даведаўся. Пасланне з Хірсланда паведамляла:

Велешаноўнаму Магістру Гульні ў Вальдцэлі.

Глыбокашаноўны калега!

Кіраўніцтва Ордэна, а таксама кангрэгацыя Магістраў, з незвычайнай цікавасцю пазнаёміліся з Вашым такім жа сардэчным, як і дасціпным пасланнем. Ваш рэтраспектыўны погляд на гістарычнае мінулае не меней, чым Ваш поўны клопату погляд у будучыню, прыкаваў да сябе нашу ўвагу, і многія з нас, несумненна, яшчэ не раз будуць вяртацца да гэтых хвалюючых і часта не пазбаўленых слушнасці меркаванняў і здабудуць з іх карысць. З радасцю і ўдзячнасцю ўсе мы прынялі натхняльны Ваш настрой, настрой сапраўднага і самаадданага кастальства, глыбокай любові, што ўжо стала другою Вашай натурай, да нашай Правінцыі, да яе жыцця і звычаяў, любові шматтурботнай і ў цяперашні час крыху трывожнай. З не меншай радасцю і ўдзячнасцю прынялі мы асабістую ноту і настраёвасць гэтай любові, гатоўнасць да ахвяр, прагу дзейнасці, усю глыбіню і руплівасць вашую, цягу да гераізму. Ува ўсім гэтым мы зноў пазнаём характар нашага Магістра Гульні, яго энергію, яго запал, яго адвагу. Як гэта падобна на вучня славутага бенедыктына: ён не ператварае гісторыю ў самамэту чыстай навукі, у падабенства эстэтычнай гульні, ён вывучае яе не ў якасці абыякавага назіральніка, а яго гістарычная эрудыцыя непасрэдна скіравана да сучаснасці, да дзеяння, да актыўнай дапамогі! І як жа, высокашаноўны калега, адпавядае Вашаму характару тая акалічнасць, што мэта Вашых асабістых жаданняў настолькі сціплая, што Вас вабіць не да палітычных даручэнняў і місій, не да ўплывовых або ганаровых пасад, Вы хочаце служыць проста як Magister Ludi, школьны настаўнік!

Вось якія некаторыя ўражанні і развагі, што міжволі напрошваюцца пры першым чытанні Вашага паслання. Яны былі аднолькавыя альбо амаль аднолькавыя ў большасці нашых калег. Аднак пры далейшым знаёмстве з Вашымі паведамленнямі, засцярогамі і просьбамі Калегія ўжо не выявіла такой поўнай аднадушнасці. Спецыяльнае пасяджэнне было прысвечана пытанню, якое мы ажыўлена абмяркоўвалі, наколькі прымальны ваш пункт гледжання пра небяспеку, якая пагражае нашаму панаванню, а таксама пытанню пра род, маштабы і магчымыя тэрміны набліжэння гэтай небяспекі, і большасць прысутных паставілася да гэтых праблем

з патрэбнай сур'ёзнасцю і жывой зацікаўленасцю. І ўсё ж мы павінны давесці да Вашага ведама, што ні ў водным з гэтых пытанняў Ваш пункт погляду не сустрэў падтрымкі большасці. Усе мы аднадушна прызналі толькі багацце Вашай фантазіі і шырыню Вашых гісторыка-палітычных поглядаў, а ў прыватнасцях ніводная з Вашых здагадак або, калі хочаце, прароцтваў, не была ў поўным сваім аб'ёме ўхвалена або прызнана пераканаўчай. У пытанні пра тое, у якой ступені Ордэн і кастальскі парадак саўдзельнічаюць у захаванні незвычайна доўгага мірнага перыяду, наколькі яны могуць наогул прынцыпова служыць фактарамі палітычнай гісторыі і палітычнага становішча, на Вашым баку таксама аказаліся толькі нямногія, ды і тое з агаворкамі. Думка большасці зводзілася да таго, што мір, які ўстаrouteляваўся ў нашай частцы свету пасля ваяўнічай эпохі, можна прыпісаць у поўнай ступені ўсеагульнаму вычарпанню і абяскроўліванню ў выніку папярэдніх спустошальных войнаў, але яшчэ больш той акалічнасці, што Заходняя Еўропа перастала тады быць асяродкам сусветнай гісторыі і арэнай змагання за гегемонію. Не ставячы пад сумненне заслугі Ордэна, усё ж нельга прызнаць кастальскую ідэю, ідэю высокага культывавання духу пад знакам медытатыўнага выхавання душы, у сапраўдным сэнсе гэтага слова гістарычным фактарам, інакш кажучы — прыпісваць ёй жывое ўздзеянне на стан сусветнай палітыкі, тым болей што мэты і патрабаванні такога роду ў найвышэйшай ступені чужыя ўсяму ладу Касталіі. Як падкрэслівалася ў шэрагу сур'ёзных выступленняў, уздзеянне на палітыку і ўдзел у пытаннях вайны і міру не адпавядаюць ні волі, ні прызначэнню Касталіі, і пра такую місію ўжо таму не можа быць ніякай гаворкі, што ўсё кастальскае памкнёна да розуму і адбываецца ў межах разумнага, чаго ўсё-такі нельга сказаць пра сусветную гісторыю, не ўпадаючы ў тэолагапаэтычныя летуценні рамантычнай філасофіі гісторыі і не залічыўшы ўвесь апарат забойстваў і знішчэння, які быў на службе гісторыятворных сіл, да метадаў сусветнага розуму. Далей, пры самым беглым поглядзе на гісторыю духу робіцца ясна, што перыяды найвышэйшага духоўнага росквіту па сутнасці не могуць быць вытлумачаны палітычнымі абставінамі, наадварот, культура, або дух, або душа маюць сваю гісторыю, якая адбываецца побач з так

званай сусветнай гісторыяй (гэта значыць, з нескканчальнай барацьбой за матэрыяльную ўладу), як другая гісторыя, запаветная, бяскроўная і святая. Наш Ордэн мае адносіны толькі да гэтай святой і запаветнай, а не да «рэальнай» звярынай сусветнай гісторыі, і ў яго задачы зусім не ўваходзіць дбаць пра палітыку або, тым болей, дапамагаць яе рабіць.

Значыцца, незалежна ад таго, такая ці не такая сусветна-палітычная канстэляцыя, якою яе малюе Ваша пасланне, Ордэну ў кожным разе не да твару займаць у адносінах да яе іншую пазіцыю, акрамя як толькі пазіцыю чакання і цярплівасці. А таму Ваша думка пра тое, што мы павінны ўспрымаць канстэляцыю, якая склалася цяпер, як сігнал да актыўнай пазіцыі, была рашуча адхілена большасцю калег. Што ж да Вашых поглядаў на сённяшні стан свету і Вашых прадказанняў на бліжэйшую будучыню, дык, хоць на большасць членаў яны яўна зрабілі пэўнае ўражанне, а некаторымі нават былі ўспрыняты як сенсацыя, але і ў гэтым пункце, як ні падкрэслівалі амаль усе прамоўцы сваю павагу да Вашай эрудыцыі і празорлівасці, большая частка калег не згадзілася з Вамі. Наадварот, усе схіліліся да таго, што Вашы выказванні, вельмі вартыя ўвагі і ў вышэйшай ступені цікавыя, усё ж перабольшана песімістычныя. Адзін з прысутных задаў пытанне, ці не варта лічыць небяспечным, нават злачынным, і, ва ўсякім разе, легкадумным, калі Магістр асмельваецца бянтэжыць сваю Калегію такімі змрочнымі карцінамі быццам бы хуткай небяспекі і выпрабаванняў. Не пярэчым, што своечасовы напамін пра трупехласць усяго сутнага дапушчальны, і кожны касталец, ва ўсякім разе на высокай і адказнай пасадзе, час ад часу павінен вяртацца думкаю да memento mori [1], але так абагулена, так нігілістычна прарочыць блізкі канец усяго саслоўя Магістраў, усяго Ордэна, усёй іерархіі азначае ў яго вачах не толькі нядобрую спробу парушыць душэўны спакой сваіх калег, але і пагрозу самой Калегіі і яе дзеяздольнасці. Праца любога Магістра, безумоўна, прайграе, калі ён кожнае раніцы будзе брацца за яе з думкай, што яго пасада, яго дзейнасць, яго выхаванне, яго адказнасць перад Ордэнам, яго жыццё ў Касталіі і для Касталіі — усё гэта заўтра ці паслязаўтра згіне

[1] памятай пра смерць (*лац.*).

іператворыцца ў пыл. Хоць гэтая думка не была падтрымана большасцю, яна ўсё ж сустрэла пэўнае адабрэнне.

Мы канчаем сваё пісьмо, але былі б радыя сустрэцца і пагутарыць з Вамі асабіста. З нашых скупых слоў Вы можаце меркаваць, Велешаноўны, што Ваша пасланне не мела таго ўздзеяння, на якое Вы, мусіць, разлічвалі. У вялікай ступені няпоспех яго тлумачыцца рэальнымі прычынамі, фактычным разыходжаннем паміж Вашымі сённяшнімі поглядамі і жаданнямі і поглядамі і жаданнямі большасці Вашых калег. Але некаторую ролю адыгралі і чыста фармальныя прычыны. Нам, прынамсі, здаецца, што непасрэдная, вусная размова паміж Вамі і Вашымі калегамі была б куды больш гарманічнай і пазітыўнай... І не толькі гэтая форма афіцыйнага пісьмовага паслання, як нам здаецца, пашкодзіла Вашаму хадайніцтву: яшчэ больш адмоўнае ўражанне зрабіла непрынятае ў зносінах паміж намі спалучэнне калегіяльнага паведамлення з прыватным хадайніцтвам, з асабістай просьбай. Большасць знаходзіць у гэтым спалучэнні няўдалую спробу новаўвядзення, іншыя проста называюць яго недарэчным.

Тут мы набліжаемся да самага далікатнага пункту Вашага паслання, да Вашай просьбы пра вызваленне Вас ад пасады і накіраванне на працу ў свецкую школу. Аўтар такой просьбы павінен быў загадзя ведаць, што Калегія ніколі не згодзіцца з такой нечаканай і так арыгінальна матываванай просьбай, што яе ніяк нельга ўхваліць і задаволіць. Зразумела, Калегія адказвае на яе адмовай.

Што сталася б з нашай іерархіяй, калі б не Ордэн і не загад Калегіі вызначалі кожнаму ягонае месца? Што сталася б з Касталіяй, калі б кожны самастойна ацэньваў сябе, свае дараванні і схільнасці і адпаведна выбіраў сабе прызначэнне? Мы рэкамендуем Магістру Гульні падумаць над гэтым і даручаем яму і далей выконваць пачэсныя абавязкі, якія мы яму даверылі.

У гэтых радках і заключаны адказ на Ваша пасланне. Мы не маглі даць Вам адказу, на які Вы, відавочна, спадзяваліся. Аднак мы не хацелі б і змоўчаць пра той рышпект, з якім мы прынялі поўны годнасці, хвалюючы і засцерагальны Ваш дакумент. Мы разлічваем пагутарыць з Вамі асабіста пра яго змест, прытым як мага хутчэй, бо, хоць кіраўніцтва Ордэна лічыць магчы-

мым даверыцца Вам, усё ж той пункт Вашага паслання, дзе Вы гаворыце пра магчымае аслабленне Вашых здольнасцяў да правільнага функцыянавання на пасадзе, дае нам прычыну для неспакою.

Кнэхт чытаў пісьмо не надта каб спадзеючыся, але з найвялікшай увагай. Што ў Калегіі была «прычына для неспакою», ён лёгка сабе мог уявіць, да таго ж ён атрымаў асаблівыя на тое доказы. Нядаўна ў Селішчы Гульні паявіўся госць з Хірсланда, які падаў афіцыйную даведку і рэкамендацыю ад кіраўніцтва Ордэна, ён папрасіў гасціннасці на некалькі дзён, нібыта для працы ў Архіве і бібліятэцы, а таксама атрымаў дазвол у якасці госця прысутнічаць на некалькіх лекцыях у Кнэхта, быў маўклівы і ўважлівы. Гэты ўжо немалады чалавек нечакана паяўляўся амаль ва ўсіх аддзяленнях і будынках Селішча, цікавіўся Тэгулярыусам і некалькі разоў наведаў дырэктара вальдцэльскай элітарнай школы, які жыў паблізу: не было ніякага сумнення, што чалавек гэты быў назіральнікам, прысланым, каб высветліць, як ідуць справы ў Селішчы Гульні, ці няма неахайнасці ў працы, ці ў добрым здароўі Магістр, ці на сваім ён пасту, ці рупліва працуюць службоўцы, ці не ўстрывожаны чым-небудзь вучні. Ён пабыў у Селішчы Гульні цэлы тыдзень, не прапусціў ніводнай Кнэхтавай лекцыі, яго назіранні і маўклівая ўсюдыіснасць звярнулі на сябе ўвагу ўсіх службоўцаў. Зразумела, што кіраўніцтва Ордэна чакала дакладу гэтага назіральніка, перш чым адказаць Магістру на яго пасланне.

Як трэба было расцаніць гэты адказ і хто мог быць яго аўтарам? Угадаць гэта па стылі было немагчыма — гэта быў агульнаўжываны безасабовы афіцыйны стыль, які і патрабаваўся ў такім выпадку. Але пры больш тонкім вывучэнні ў пісьме выявілася больш адметнага і асабістага, чым можна было заўважыць пры першым чытанні. У аснове ўсяго дакумента ляжаў ордэнскі дух, справядлівасць і любоў да парадку. Выразна адчувалася, якое несуцяшальнае, прыкрае, нават цяготнае і засмучальнае ўздзеянне зрабіла Кнэхтава просьба, і рашэнне адхіліць яе было, вядома, прынята аўтарам адказу ўжо пры першым знаёмстве з пасланнем незалежна ад меркавання астатніх. Але, з другога боку,

апрача незадаволенасці і асуджэння ў адказе адчуваліся іншыя пачуцці і настрой: яўная сімпатыя, жаданне падкрэсліць усе мяккія і прыязныя выказванні і меркаванні, якія былі на пасяджэнні, дзе абмяркоўвалася Кнэхтава просьба. Кнэхт не сумняваўся, што аўтарам адказу быў Аляксандр, галава ордэнскага кіраўніцтва.

Такім чынам, мы дайшлі да канца нашай дарогі і думаем, што падалі ўсё істотнае пра жыццё Ёзэфа Кнэхта. Іншы, пазнейшы біёграф, несумненна, знойдзе і паведаміць яшчэ некаторыя дадатковыя падрабязнасці пра канец гэтага жыцця.

Мы адмаўляемся даваць сваё апісанне апошніх дзён Магістра, бо ведаем пра іх не болей, чым кожны вальдцэльскі студэнт, і не маглі б зрабіць гэтага лепей, чым гэта зроблена ў «Легендзе пра Магістра Гульні», якая ходзіць у нас па руках у многіх спісках і створана, трэба думаць, некалькімі выдатнымі вучнямі Магістра, які ўжо адышоў ад нас. Гэтай легендай і завяршаецца наша кніга.

## ЛЕГЕНДА

Калі мы слухаем, як спрачаюцца нашы таварышы пра знікненне Магістра і прычыны яго ўцёкаў, пра правамоцнасць або неправамоцнасць яго рашэнняў і ўчынкаў, пра сэнс і бяссэнсавасць яго лёсу, усё гэта здаецца нам гэтаксама дзіўным, як і выдумкі Дыядора Сіцылійскага пра магчымыя прычыны разліваў Ніла, і мы лічылі б не толькі бескарысным, але і шкодным памнажаць такія выдумкі. Ці не лепей замест гэтага шанаваць у сэрцах нашых памяць пра Магістра, які так хутка пасля свайго таямнічага сыходу з Касталіі адышоў у яшчэ больш чужы і таямнічы той свет. У імя яго неацэннай для нас памяці мы і хочам запісаць пра гэтыя падзеі ўсё, што дайшло да нашых вушэй.

Пасля таго як Магістр прачытаў пісьмо Калегіі з адмовай ягонай просьбе, ён адчуў лёгкае дрыжанне, павеў ранішняга халадку і ацверазення, якія паслужылі яму знакам, што час яго прабіў і няма больш месца ніякім хістанням і адкладу. Гэта дзіўнае адчуванне, якое ён называў «абуджэннем», было знаёмае яму, бо ён ужо перажыў яго ў іншыя вырашальныя хвіліны

свайго жыцця; гэта было бадзёрлівае і разам з тым томнае адчуванне, зліццё разлукі і новых чаканняў, яно хвалявала глыбока і падсвядома, як веснавая навальніца. Ён праверыў час, праз гадзіну ў яго была лекцыя. Ён вырашыў аддаць астатак хвілін роздуму і выйшаў у ціхі магістарскі сад. Усю дарогу яму неадчэпна гучаў вершаваны радок, што нечакана выплыў з памяці:

У кожным пачынанні сіла тая...

Ён усё паўтараў радок сам сабе, не ведаючы, у якога аўтара ён яго вычытаў, але радок гэты нечым крануў, ён падабаўся яму і, здавалася, вельмі добра пасаваў настрою перажыванай хвіліны. У садзе ён сеў на лаўку, ужо абсыпаную першым асеннім лісцем, адладзіў дыханне, спрабуючы знайсці ўнутраны спакой, а потым з прасветленым сэрцам аддаўся медытацыі, пад час якой гэтае імгненне жыцця ўявілася яму ў выглядзе абагульненых, надасабістых вобразаў. Але калі ён ішоў назад да маленькай аўдыторыі, у памяці зноў ажыў той радок з верша, і ён зноў задумаўся над ім і вырашыў, што радок павінен усё-такі гучаць інакш. І раптам памяць праяснілася і прыйшла яму на дапамогу, і ён ціха вымавіў:

У кожным пачынанні тайнасць тая,
што нашае жыццё абараняе.

Але толькі пад вечар, калі лекцыя даўно ўжо была прачытана і будзённыя справы закончаны, ён успомніў, адкуль гэтыя радкі. Іх напісаў не нехта з старых паэтаў — гэта былі радкі з яго ж верша, напісанага ў школьныя ці то студэнцкія гады, і канчаўся ён такімі словамі:

Бывай жа, сэрца! Ў адраджэнне з тла!

У той самы вечар ён выклікаў свайго намесніка і паведаміў, што павінен заўтра выехаць на няпэўны час. Ён перадаў яму ўсе бягучыя справы з кароткімі ўказаннямі і развітаўся ветла і па-дзелавому, як заўсёды перад нядоўгімі службовымі паездкамі.

Тое, што ён мусіць пакінуць свайго сябра Тэгулярыуса, не сказаўшы яму пра свае намеры і не засмучаючы яго развітаннем, было яму ясна яшчэ раней. Ён павінен быў зрабіць менавіта так, і не толькі, каб злітавацца з свайго такога далікатна-датклівага сябра, але і з боязі

нашкодзіць свайму плану. Пастаўлены перад фактам, Тэгулярыус як-небудзь справіцца з сабой, тым часам як нечаканае тлумачэнне і сцэна развітання маглі б штурхнуць яго на непрадуманыя ўчынкі. Спачатку ў Кнэхта нават мільганула думка паехаць, так і не пабачыўшы сябра на развітанне. Але, падумаўшы, ён вырашыў, што гэта было б занадта падобна да ўцёкаў. Як гэта ні разумна, як ні правільна — выбавіць сябра ад хвалявання, ад нагоды зрабіць нешта благое, — самому сабе ён не мог дазволіць такое палёгкі. Заставалася яшчэ паўгадзіны да сну, ён мог наведаць Тэгулярыуса, не патурбаваўшы ні яго, ні іншых. Калі ён пераходзіў шырокі ўнутраны двор, было ўжо зусім цёмна. Ён пастукаўся ў келлю да сябра з дзіўным пачуццём, што робіць гэта апошні раз, і застаў яго аднаго. Адарваўшыся ад чытання, сябар радасна яго прывітаў, адклаў кнігу і запрасіў сесці.

— Мне сёння прыйшоў у галаву адзін стары верш, — пачаў Кнэхт нядбалым тонам, — правільней, некалькі радкоў з верша. Можа, ты ведаеш, дзе знайсці яго цалкам?

І ён працытаваў:

У кожным пачынанні тайнасць тая...

Тэгулярыус думаў не доўга. Праз хвіліну ён успомніў верш, устаў і дастаў з шуфляды рукапіс вершаў Кнэхта, аўтарскі рукапіс, калісь падараваны яму сябрам. Ён пагартаў яго, дастаў дзве старонкі з першым варыянтам верша і падаў іх Магістру.

— Вось, — сказаў ён з усмешкай, — Велешаноўны, калі ласка. Упершыню за доўгія гады вы зрабілі сабе ласку ўспомніць гэты свой твор.

Ёзэф Кнэхт уважліва, не без хвалявання разглядаў пададзеныя яму лісткі. Калісьці, яшчэ студэнтам Усходнеазіяцкага інстытута, ён запоўніў гэтыя лісткі вершаванымі радкамі, і вось далёкае мінулае зірнула на яго з гэтых лісткоў, усё гаварыла пра забытыя, а цяпер засцерагальныя і пакутліва ажылыя ў памяці мінулыя дні — папера ўжо крыху пажаўцела, хлапечы почырк, выкрасленыя і папраўленыя мясціны ў тэксце. Ён, здавалася, успомніў не толькі год і пару года, калі нарадзіліся гэтыя радкі, але нават дзень і гадзіну, настрой тае часіны, тое пачуццё сілы і гонару, што перапаўняла яго і рабіла шчаслівым, выліўшыся ў вершы.

Ён напісаў іх у адзін з тых асаблівых дзён, калі яго наведаў душэўны стан, названы ім «абуджэннем».

Выразна, на самым версе, першым радком быў напісаны загаловак. Вялікімі літарамі, размашыстым почыркам ён тады напісаў:

*Transcendere!* [1]

Пазней, іншым часам і ў іншым настроі, у іншых жыццёвых умовах гэты загаловак, а таксама клічнік былі выкраслены, і паявіўся іншы загаловак, напісаны драбнейшымі, танчэйшымі і сціплымі літаркамі: *«Прыступкі»*.

Кнэхт хутка прыгадаў цяпер, як ён у той дзень, акрылены ідэяй свайго верша, напісаў слова «Transcendere!» — гэта быў заклік і загад, самаўгавор, зноў сфармуляваны і ўмацаваны намер падпарадкаваць гэтаму дэвізу ўсё сваё жыццё і справы, рашучымі і радаснымі крокамі перасякаць усякую прастору, кожны адрэзак сваёй дарогі і, выканаўшы свой абавязак, пакідаць іх. Ён ціха, сам сабе, прачытаў некалькі радкоў:

Прыступкамі ўтару павінны йсці мы
і не прывязвацца, як да радзімы,
дух свету хай не звузіць нам прастору,
няхай узносіць паэтапна ўгору.

— Ужо колькі гадоў, як я забыўся гэтыя радкі, — сказаў Кнэхт, — і калі адзін з іх сёння выпадкова ажыў у памяці, я нават не ўспомніў, адкуль ён і што я сам яго склаў. Як яны табе здаюцца сёння? Ці гавораць яны табе яшчэ пра што?

Тэгулярыус задумаўся.

— У мяне заўсёды былі нейкія дзіўныя адносіны да гэтага верша, — сказаў ён нарэшце. — Ён з тых вашых твораў, якія мне, папраўдзе, не падабаліся, у якіх мяне нешта цурала, нешта мне заважала. Раней я не разумеў — што менавіта. Сёння мне здаецца, я бачу гэта. Ваш верш, Велешаноўны, які вы назвалі «Transcendere!», як бы аддаючы загад да маршу, а потым, дзякуй богу, замянілі загаловак на больш удалы, ніколі мяне надта не прывабліваў, бо ў ім ёсць нешта загаднае, нешта маралізатарскае ці то павучальнае. Але каб з яго выдаліць гэты элемент, змыць гэтую афарбоўку, ён быў

---

[1] Пераступаць межы! (*лац.*)

бы адным з вашых найлепшых вершаў, цяпер я гэта бачу. Яго сапраўдны змест няблага выказаны ў загалоўку «Прыступкі», але з такім самым ці нават большым поспехам вы маглі б назваць яго «Музыка» або «Сутнасць музыкі». Бо, калі адкінуць маралізатарскую або прапаведніцкую ноту, ён, шчыра кажучы, ёсць медытацыя пра сутнасць музыкі або, скажам, хвалебная песня музыцы, яе злітнасці з цяперашнім момантам, яе яснасці і рашучасці, яе імкліваму бегу, яе нястомнаму жаданню і гатоўнасці заўсёды спяшацца наперад, пакідаючы ззаду толькі што занятую прастору ці частку яе. Калі б вы тады абмежаваліся гэтымі разважаннямі або пахвалой духу музыкі, калі б вы, падбухторваны ўжо тады славай выхавальніка, не зрабілі з яго нейкага ўмаўлення і казані, верш гэты мог бы стаць сапраўднай жамчужынай. Але ў тым выглядзе, у якім ён цяпер перад намі, ён, на мой густ, носіць характар не толькі не ў меру «настаўленчы», не ў меру «настаўніцкі», ён хворы, апрача таго, на нейкую недамыснасць. У ім, дзеля дасягнення маральнага ўздзеяння, музыка і жыццё прыроўненыя адно да аднаго, што сама мала неверагодна і спрэчна; гэта ператварае натуральную, свабодную ад маралі рухальную сілу або асноўную пружыну музыкі ў «жыццё», якое імкнецца выхоўваць і развіваць нас з дапамогай заклікаў, загадаў, добрых настаўленняў. Карацей, тут нейкая візія, нешта непаўторнае, прыгожае і велічнае, фальсіфікуецца і эксплуатуецца з мэтай павучання, і якраз гэта заўсёды выклікала ўва мне супор.

Магістр слухаў яго з прыемнасцю, назіраючы, як нарастала ў сябры гнеўная гарачнасць, якую ён так у ім любіў.

— А бадай што, твая праўда! — сказаў ён не то жартам, не то сур'ёзна. — Ва ўсякім разе, у тым, што ты сказаў пра адносіны майго верша да музыкі. Ідэя «перасячэння адной прасторы за другою» і асноўная думка маіх вершаў сапраўды ідуць ад музыкі, хоць я сам гэтага не ведаў і не заўважаў. Не знаю, ці сказіў я думку і фальсіфікаваў візію; магчыма, праўда твая. Калі я пісаў гэтыя радкі, у іх гаворка ішла ўжо не пра музыку, а пра іншае перажыванне, бо цудоўная алегорыя музыкі павярнулася да мяне сваім этычным бокам, прагучаўшы ўшчуваннем і заклікам, нагадаўшы мне пра маё прызванне. Імператыўная форма верша, якая цябе

асабліва гідзіць, зусім не мае на мэце загадваць або ўмаўляць, бо загад і ўшчуванне звернутыя толькі да мяне самога. Калі б ты нават не ведаў гэтага, дарагі мой, ты мог бы гэта вычытаць з апошняга радка верша. Такім чынам, да мяне прыйшло разуменне, я нешта ўсвядоміў, на мяне сышла мілата, і я спрабаваў прыкласці сэнс і этычную выснову гэтай мілаты да самога сябе, прымусіў сябе запомніць яго назаўсёды. Таму верш так і засеў у маёй памяці, хоць я сам пра гэта не здагадваўся. Такім чынам, добрыя мае вершы або дрэнныя, але мэты сваёй яны дасягнулі, ушчуванне не пераставала жыць ува мне, яно не заглухла. Сёння яно зноў гучыць мне па-новаму, гэта — цудоўнае перажыванне, і твае кпіны не могуць яго прытруціць. Аднак мне пара. Якія выдатныя былі тыя часіны, дружа, калі мы абодва, студэнты, часта дазвалялі сабе парушаць распарадак і да позняга заседжваліся за гутаркамі. Але Магістру гэта болей не лічыць. А шкада!

— Ах, — сказаў Тэгулярыус, — лічыць яно лічыць, ды адвагі не стае.

Кнэхт з усмешкай апусціў яму руку на плячо...

— Што да адвагі, дарагі мой, дык я гатовы і не на такія штукі. Дабранач, стары буркала!

Вясёлы, выйшаў ён з келлі, але паступова, у пустых начных калідорах і дварах Селішча, да яго вярталася сур'ёзнасць, сур'ёзнасць развітання. Скорае развітанне ў нас заўсёды абуджае малюнкі мінулага, і Кнэхту ў гэтым калідоры ўспомніўся той дзень, калі ён, хлопчык, толькі што прыняты ў Вальдцэль вучань, зрабіў свой першы шпацыр па Вальдцэлі і Vicus lusorum, поўны надзей і прадчуванняў, і вось цяпер, сярод паснулых маўклівых дрэў і будынкаў, сэрца ягонае сціснулася ад пранізлівага, пакутлівага чуцця, што ён бачыць усё гэта апошні раз; апошні раз прыслухоўваецца, як заміpae і атульваецца сном такое бурхлівае ўдзень Селішча, апошні раз бачыць, як адбіваецца ў вадзе басейна слабы агеньчык з дамка вартаўніка, як бягуць над дрэвамі магістарскага саду начныя аблокі. Ён няспешна абышоў усе дарогі і закуткі Селішча Гульні, яму захацелася яшчэ раз адчыніць весніцы і ўвайсці ў сад, але не аказалася пры сабе ключа, і гэта хутка працвярэзіла яго і прымусіла апамятацца. Ён вярнуўся ў сваю кватэру, напісаў некалькі пісьмаў, у тым ліку Дэсіньёры, якому паведаміў, што неўзабаве прыедзе ў сталіцу, по-

тым у глыбокай медытацыі вызваліўся ад душэўных хваляванняў гэтай гадзіны, каб раніцай прачнуцца дужым на выкананне сваёй апошняй задачы ў Касталіі — размовы са старшынёй Ордэна.

На раніцу Магістр устаў у звычайны час, выклікаў экіпаж і паехаў; мала хто заўважыў яго ад'езд, і ніхто не надаў яму значэння. У напоеную восеньскім туманам раніцу ён паехаў у Хірсланд, прыехаў туды апоўдні і тут жа папрасіў далажыць пра сябе Магістру Аляксандру, старшыні Ордэна. У руках ён трымаў загорнутую ў сукно прыгожую металічную скрыначку, якую ён узяў з патаемнай шуфляды свайго бюро і дзе захоўваліся кляйноды яго сана, а таксама пячатка і ключы.

У «галоўнай канцылярыі» кіраўніка Ордэна яго сустрэлі са здзіўленнем: яшчэ не было, бадай, выпадку, каб хто-небудзь з Магістраў паяўляўся тут без папярэджання або без запросін. Па распарадцы старшыні, яго накармілі абедам, потым правялі на адпачынак у келлю ў старой крытай галерэі і паведамілі, што Велешаноўны спадзяецца вызваліцца і прыняць яго праз дзве-тры гадзіны. Ён папрасіў прынесці яму статут Ордэна, сеў, прачытаў яго з пачатку да канца і апошні раз пераканаўся, які просты і законны яго намер, аднак растлумачыць словамі гэты намер і ўнутрана яго апраўдаць здавалася яму нават у гэты час немагчымым. Ён прыгадаў адзін пункт статута, якому яго прымусілі калісьці прысвяціць цэлую гадзіну медытацыі — у апошнія дні яго хлапцоўскай і студэнцкай свабоды, у момант яго прыняцця ў Ордэн. Цяпер ён перачытаў гэты пункт, пачаў разважаць над ім і пры гэтым адчуў, наколькі сам ён перамяніўся, наколькі непадобны на маладога сарамяжлівага рэпетытара, якім ён быў у той час. «Калі Калегія, — гаварыў пункт статута, — заклікае цябе заняць пэўную пасаду, дык ведай: кожная вышэйшая прыступка — гэта не крок да свабоды, а новы абавязак. Чым болей улады дае пасада, тым суровейшае служэнне. Чым мацнейшая асоба, тым больш асуджальная сваволя». Як усё гэта некалі гучала непрэчна, адназначна і як моцна змянілася для яго значэнне некаторых слоў, асабліва такіх шматзначных, як «абавязак», «асоба», «сваволя», якія цяпер набылі новы, бадай што, цалкам іншы сэнс! І якія ж яны ўсё-такі былі цудоўныя тады, ясныя, моцна злітыя і дзівосна паслядоўныя, гэтыя правілы статута, якія абса-

лютныя, вечныя і непарушна слушныя былі яны ва ўяўленні юначага духу! О, такімі яны і засталіся б, калі б Касталія была ўсім светам, сукупным, цэласным, разнастайным, непадзельным, а не толькі адасобленым свецікам усярэдзіне вялікага свету або ж смела і гвалтоўна вынятай з яго сарцавінай! Будзь увесь гэты свет элітарнай школай, будзь Ордэн грамадствам усіх людзей на Зямлі, а старшыня Ордэна — Госпадам Богам, якія б дасканалыя былі тыя словы і ўвесь статут! О, каб гэта было так, якое светлае, квітнючае і шчасна-нявіннае было б жыццё! А калісьці ж яно ўсё так і было на самай справе, калісьці ён усё гэта бачыў і перажыў якраз так: бачыў у Ордэне і ў кастальскім духу боскі і абсалютны пачатак, у Правінцыі — увесь свет, у жыхарах Касталіі — усё чалавецтва. А пазакастальскія абсягі былі для яго толькі часткаю цэлага, нейкім падабенствам дзіцячага свету, падрыхтоўчай прыступкай да Правінцыі, цалкам, які яшчэ чакае высачынь культуры і вызвалення, з трапятаннем пазірае на Касталію і час ад часу пасылае ёй ласкавых гасцей накшталт маладога Плініё.

А як дзіўна атрымалася з ім самім, з Ёзэфам Кнэхтам і яго душой! Ці ж не разглядаў ён раней, ну, хоць бы ўчора, тое ўласцівае яму ўменне адкрываць, усведамляць і ўспрымаць рэчаіснасць, што ён называў «абуджэннем», як паступовае пранікненне ў самае сэрца свету, у асяродак ісціны, як нешта абсалютнае, як паступальны рух або дарогу, якую можна адольваць толькі паступова, крок за крокам, але якая, згодна з ідэяй, бесперапынная і простая? Хіба колісь, у маладосці, яму не здавалася абуджэннем, крокам наперад, неабвержна каштоўным і адзіна слушным, што ён, хоць і прызнаваў знешні свет у асобе Плініё, тым часам як касталец свядома і прадумана адмяжоўваўся ад гэтага свету? І наступным крокам наперад, да ісціны, ён лічыў тое, што пасля шматгадовых сумненняў адважыўся прысвяціць сябе Гульні і Вальдцэлю. І яшчэ адзін крок, калі, з яго згоды, Магістр Томас падаў яго кандыдатуру на пасаду ў іерархію, а стары Магістр музыкі рэкамендаваў яго ў Ордэн; і пазней, калі яму прысвоілі званне Магістра. Усё гэта былі малыя і вялікія крокі на простай, здавалася б, дарозе, — і ўсё ж сёння, у канцы гэтай дарогі, ён зусім не апынуўся ў сэрцы свету і асяродку ісціны, сённяшняе абуджэнне азначала адно

толькі, што ён як бы толькі-толькі расплюшчыў вочы і ўбачыў сябе зноў у новым становішчы пры засваенні новай канстэляцыі. Тая самая строгая, ясная, выразна азначаная сцежка, простая сцежка, якая прывяла яго ў Вальдцэль, у Марыяфельс, у Ордэн, на пост Магістра, цяпер зноў вывела яго назад, вонкі. Паслядоўны шэраг этапаў абуджэння адначасова стаўся шэрагам развітанняў. Касталія, Гульня, сан Магістра — усё гэта былі асобныя тэмы, якія чакалі свайго раскрыцця і завяршэння, усё гэта былі прасторы, абсягі, якія трэба было прайсці, адолець. І вось яны ўжо ззаду. А і ў былы ж час, калі ён думаў і рабіў не так, як думае і робіць сёння, а зусім наадварот, ён ужо, відавочна, нешта ведаў або здагадваўся пра спрэчнасць гэтага ўсяго; нездарма ж загалоўкам верша, у якім гаворыцца пра ступені і развітанні, ён паставіў гэты дэвіз — «Transcendere!».

Такім чынам, аказваецца, дарога яго ішла кругам, альбо эліпсам, альбо спіраллю, як бы там яно ні было, толькі не напрасткі, бо праскі існуюць толькі ў геаметрыі, а не ў прыродзе і не ў жыцці. Але ён няўхільна слухаўся самаўгавору і самападбадзёрцы, якія ўклаў у свой верш, нават пасля таго, як радкі яго і тагачаснае абуджэнне даўно адышлі ў мінулае, — праўда, слухаўся не без агаворак, не без хістанняў, паняверкі і прыступаў слабасці, не без барацьбы. Але ён адольваў ступень па ступені, прастору па прасторы, смела, спакойна, з яснай душою, хай не такой прамяністай, як у старога Магістра музыкі, але без стомы або журбы, нічога не выракаючыся, нічому не здраджваючы. І калі ён цяпер паводле кастальскіх правілаў выракся і здрадзіў, калі ён, насуперак законам ордэнскай маралі, дзейнічае як бы толькі паслугуючы сваёй асобе, гэта значыць — самаволі, дык жа і гэта авеяна духам адвагі, духам музыкі, значыцца, адбываецца ў строгай адпаведнасці з яе рытмам і яснасцю, а ў астатнім — хай будзе што будзе! О, калі б ён мог растлумачыць і даказаць іншым тое, што яму здавалася такім ясным: сваволя яго дзеянняў ёсць на самай справе не што якое, а служэнне і пакора, і ён ідзе насустрач не свабодзе, а новым, невядомым і трывожным абавязкам, не як уцякач, а як заклікання, не сваволяй, а паслухмяна, не ўладар, а ахвяра! Ну а як жа тады з даброцямі, з яснасцю, з рытмам, з адвагаю? Яны здрабнелі, але заха-

валі сваю значнасць. Нават калі не ідзеш, а цябе вядуць, калі больш не пераступаеш межаў па сваёй волі, а адбываецца толькі кручэнне прасторы вакол кагосьці, хто стаіць у цэнтры, гэтыя даброці ўсё-такі існуюць, захоўваюць сваю каштоўнасць, свае чарадзейства. Яны ў сцвярджэнні замест адмаўлення, у пакоры замест ухілення, а можа, крыху і ў тым, што робіш і думаеш так, быццам ты сам сабе пан, у тым, што ты актыўны, прымаеш без праверкі жыццё і самаспакусу, гэты блізір самавызначэння і адказнасці, у тым, што ў сутнасці сваёй з невядомых прычын створаны хутчэй на дзеянне, чым на пазнанне, больш слухаешся інстынктаў, чым духу. О, калі б можна было пагутарыць пра ўсё гэта з айцом Якавам!

Думкі ці мроі такія былі водгаласам яго медытацыі. І мроілася яму, што ў «абуджэнні» важныя не ісціна, а існасць і тое, як яе перажыць, як выстаяць. Абуджаючыся, ужо не пранікаеш глыбока ў сутнасць рэчаў, у ісціну, а схопліваеш, здзяйсняеш або перажываеш адносіны свайго «я» да стану рэчаў у гэтую вось хвіліну. Пры гэтым ты здабываеш не заканамернасці, а рашэнні, дасягаеш не цэнтра светабудовы, а цэнтра свайго «я». Вось чаму тое, што пры гэтым адчуваеш, так цяжка выказаць, вось чаму такім дзівосным чынам гэта вывінаецца са слоў і фармулёвак; магчымасці чалавечай мовы, мабыць, не разлічаныя на паведамленні з гэтай сферы жыцця. Калі, як выключэнне, знойдзецца чалавек, здольны зразумець цябе крыху лепш за іншых, — значыцца, чалавек гэты ў такім самым становішчы, як і ты, гэтаксама пакутуе або абуджаецца. На нейкім адцінку ягонай дарогі, Кнэхтавай дарогі, часам разумеў Тэгулярыус, яшчэ глыбей і паўней — Пліній. Каго яшчэ ён мог бы назваць? Нікога.

Ужо змяркалася, і ён, аддаўшыся цалкам сваім думкам, забыўся на ўсё вакол, калі ў дзверы раптам пастукаліся. Ён не адразу ачуўся і адказаў. Той, за дзвярыма, счакаўшы, яшчэ раз ціхенька пастукаўся. Цяпер Кнэхт адгукнуўся, устаў і пайшоў за пасыльным, які правёў яго ў будынак канцылярыі і, не дакладваючы больш, проста ў кабінет старшыні Ордэна. Магістр Аляксандр устаў насустрач.

— Шкада, што вы прыехалі без папярэджання, — сказаў ён, — праз гэта вам прыйшлося мяне чакаць.

Мяне разбірае цікаўнасць — што так неспадзявана прывяло вас сюды? Спадзяюся, нічога благога?

Кнэхт засмяяўся.

— Не, нічога благога. Але няўжо мой прыезд такая ўжо вам неспадзяванка, і вы так ужо і не можаце сабе ўявіць, што прывяло мяне сюды?

Аляксандр сур'ёзна і дапытліва зірнуў яму ў вочы.

— Што ж, — адказаў ён, — уявіць я сабе магу і тое і гэтае. Я, напрыклад, падумаў днямі, што справа з вашым пасланнем для вас, пэўна ж, гэтым не вычэрпваецца. Калегія вымушана была адказаць на яго даволі коратка і ў такім сэнсе і тоне, які павінен быў вас расчараваць.

— Не, не, — запярэчыў Кнэхт, — я, у сутнасці, і не чакаў ад Калегіі іншага адказу. Што да тону, дык ён якраз і падзейнічаў на мяне добра. З пісьма я магу зрабіць выснову, што аўтару яго было цяжка, нават пакутліва пісаць яго і што ён адчуваў патрэбу ўліць некалькі кропель мёду ў непрыемны мне і крыху ўшчувальны адказ; і гэта яму выдатна ўдалося, за што я сардэчна ўдзячны.

— А з самім сэнсам пісьма вы, значыцца, згодныя, шаноўны?

— Я яго прыняў да ведама і ў асноўным зразумеў і ўхваліў. Адказ і не мог прынесці мне нічога, апрача адмовы на маё хадайніцтва, ды яшчэ мяккага ўшчування. Маё пасланне было даволі нечаканае для Калегіі і, безумоўна, непрымальнае, у гэтым я зусім не сумняваўся. Але, апрача таго, як што ў ім было і асабістае хадайніцтва, яно было крыху няўдала складзена. Я наўрад ці мог чакаць іншага адказу, акрамя адмоўнага.

— Нам вельмі прыемна, — сказаў старшыня з ледзь улоўнай рэзкасцю ў голасе, — што вы гэта так прынялі і што наша пісьмо вас не раніла і не здзівіла. Нам гэта вельмі прыемна. Але я не разумею аднаго. Калі вы, складаючы і пасылаючы афіцыйнае пасланне — як што я вас правільна зразумеў, — з самага пачатку не верылі ў поспех і ў станоўчы вынік, больш таго, загадзя былі перакананыя ў няўдачы, навошта ж вы да канца дапісалі яго, перабялілі і адправілі, гэта ж была немалая праца?

Кнэхт, прыязна гледзячы на яго, адказаў:

— Глыбокашаноўны Магістр, у маім пісьме два

зместы, яно мела перад сабою дзве мэты, і я не думаю, што яно было зусім ужо бязмэтнае і няўдалае. У пасланні маім была асабістая просьба, каб мяне вызвалілі ад маёй пасады і дазволілі прыкласці мае веды ў іншым месцы; гэтую асабістую просьбу я разглядаю як нешта параўнаўча другараднае, кожны Магістр абавязаны па магчымасці адсоўваць на задні план свае прыватныя інтарэсы. Просьба была адхілена, з гэтым мне прыйшлося зміршцца. Але маё афіцыйнае пасланне мае яшчэ іншае: апрача маёй просьбы ў ім шмат фактаў і думак, іх я лічыў сваім абавязкам данесці да ведама Калегіі і рэкамендаваць яе ўвазе. У выніку ўсе Магістры, або амаль усе, пазнаёміліся з маімі довадамі і засцярогамі, і хоць большасці іх гэта ежа напэўна ж не ўсмакавала і паставіліся яны да яе хутчэй за ўсё няўхвальна, усё ж яны прачыталі і прынялі да ведама тое, што я лічыў патрэбным вам сказаць. Тое, што яны не прынялі майго паслання з захапленнем, у маіх вачах не ёсць няўдача, бо я не шукаў ні захаплення, ні ўхвалы; мая мэта была хутчэй абудзіць у маіх калегаў неспакой, растрывожыць іх. Я б вельмі шкадаваў, калі б з прычын, згаданых вамі, устрымаўся ад адпраўкі маёй працы. Вялікае ці слабое было яе ўздзеянне, яно ўсё ж прагучала заклікам і сігналам трывогі.

— Зразумела, — нерашуча азваўся старшыня, — і ўсё-такі загадка гэтым для мяне не вычэрпваецца. Калі вы хацелі давесці да вушэй Калегіі вашыя заклікі, сігналы і вашы перасцярогі, навошта ж вы паслабілі, нават паставілі пад пагрозу ўздзеянне вашых залатых слоў тым, што звязалі іх з прыватнай просьбай, да таго ж з такой, у выкананне якой вы самі не вельмі верылі? Гэтага я так і не зразумеў. Але, спадзяюся, зразумею, калі мы пагутарым пра ўсё грунтоўна. У кожным разе, менавіта ў гэтым слабое месца вашага паслання: у спалучэнні закліку з хадайніцтвам, перасцярогі з просьбай. Бо ў вас, трэба думаць, не было ніякай патрэбы выкарыстоўваць форму просьбы, каб данесці да нас свае перасцерагальныя словы. Вы лёгка маглі вусна або пісьмова ўздзейнічаць на вашых калег, калі лічылі патрэбным іх «растрывожыць». А хадайніцтва пайшло б сваёй звычайнай чаргою.

Кнэхт прыязна кіўнуў яму.

— Але, але, — кінуў ён, як бы вокаўзам, — магчыма, вы і маеце рацыю. І ўсё ж, зірніце пільней на гэтую

даволі складаную справу! Ні ў маіх перасцярогах, ні ў маім хадайніцтве не ідзе пра нешта будзённае, прывычнае або звычайнае, яны ўжо таму звязаныя адно з адным, што незвычайныя і народжаны неабходнасцю, што выходзяць за межы агульнапрынятага. Бо ж зусім нязвыкла і не прынята, каб чалавек без уважлівай знешняй прычыны раптам пачаў заклікаць сваіх калег успомніць пра марнасць, пра спрэчнасць свайго існавання, гэтаксама як нязвыкла і не прынята, каб кастальскі Магістр дабіваўся месца школьнага настаўніка за межамі Правінцыі. З гэтага боку абодва зместы майго пісьма блізкія адзін аднаму. Чытачу, які з поўнай увагай паставіўся б да майго паслання ў цэлым, у выніку прачытання, па-мойму, павінна зрабіцца зразумела: тут не проста нейкі дзівак абвяшчае пра свае прадчуванні, стараючыся ўнушыць іх сваім калегам, — гэты чалавек болей чым сур'ёзна ставіцца да сваіх думак і пагрозы бедаў. Ён гатовы пакінуць сваю пасаду, адмовіцца ад сана, пераступіць цераз мінулае і пачаць жыццё нанова на самым сціплым прыпорыску, бо ён перасычаны і санам, і мірным жыццём, гонарам і аўтарытэтам, ён прагне пазбыцца іх, адкінуць іх прэч. З такога пасылання — я ўсё яшчэ спрабую паставіць на месца майго чытача — вынікаюць, на мой погляд, дзве высновы: або аўтар гэтай маралізатарскай казані, на няшчасце, звіхнуўся розумам і, значыцца, на ролю Магістра ні ў якім разе больш не прыдатны; або, калі аўтар гэтага маралізавання не вар'ят, а жыве ў здаровым глуздзе, у яго казані, у яго песімізме тоіцца нешта большае, чым капрыз або дзівацтва, а менавіта ж нейкая рэальнасць, нейкая ісціна. Так прыблізна ■ ўяўляў сабе ход думак у майго чытача і павінен прызнацца, што тут я пралічыўся. Маё хадайніцтва і мой сігнал трывогі не толькі не падтрымалі і не падмацавалі адно аднаго, але іх проста не прынялі сур'ёзна, не пажадалі ў іх удумацца. Паўтараю, мяне гэта не вельмі засмуціла і не надта здзівіла, бо, па сутнасці, я, нягледзячы ні на што, такога выніку чакаў і, шчыра кажучы, заслужыў. Усё ў тым, што маё хадайніцтва, у поспех якога я верыў, было пэўнай хітрасцю, жэстам, фармальнасцю.

Твар Магістра Аляксандра яшчэ больш пасур'ёзнеў і запанурыўся. Але ён не перапыняў Кнэхта.

— Пасылаючы сваё хадайніцтва, я зусім не спадзяваўся на станоўчы адказ і не радаваўся яму загадзя,

але гэтаксама я не меў намеру пакорліва прыняць адмову як неаспрэчнае рашэнне.

— ...не меў намеру прыняць адмову вашай Калегіі як неаспрэчнае рашэнне... Можа, я недачуў, Magister? — перабіў яго Аляксандр, рэзка падкрэсліваючы кожнае слова. Ён, відавочна, толькі зараз цалкам усвядоміў сур'ёзнасць становішча

Кнэхт злёгку пакланіўся.

— Вядома, вы пачулі правільна. Так і ёсць: я наўрад ці мог спадзявацца на поспех майго хадайніцтва, і ўсё-такі палічыў патрэбным падаць яго, каб датрымацца парадку і формы. Тым самым я даў паважанай Калегіі магчымасць самым годным чынам пакончыць з гэтай справай. Але я ўжо з самага пачатку меў таксама намер, будзе яна не пойдзе на такое рашэнне, не спыняцца і не супакойвацца, а дзейнічаць.

— І як дзейнічаць? — ціха спытаўся Аляксандр.

— Так, як мне падказваюць розум і сэрца. Я вырашыў скласці сан і прыступіць да новай дзейнасці за межамі Касталіі нават без загаду або дазволу Калегіі.

Старшыня Ордэна заплюшчыў вочы і, здавалася, не слухаў больш. Кнэхт зразумеў, што ён выконвае адмысловае практыкаванне, з дапамогай якога члены Ордэна ў выпадку раптоўнай небяспекі альбо пагрозы стараюцца здабыць самавалоданне і ўнутраны спакой, што дасягаецца двухразовай затрымкай дыхання на поўным выдыху. Ён бачыў, як пабялеў твар у гэтага чалавека, і адчуваў сябе вінаватым за яго пакутлівы стан, ён бачыў, як пастунова, з павольным удыхам, што пачынаецца ў брушных мускулах, чырвань вярталася на твар, як зноў расплюшчаныя вочы такога любага яму і так высока шанаванага Магістра на імгненне застылі ў разгубленасці, але адразу зноў набылі асэнсаваны і цвёрды выраз; з лёгкім спалохам убачыў ён, як гэтыя ясныя, засяроджаныя, заўсёды паслухмяныя волі чалавека, аднолькавага ва ўменні падпарадкоўвацца і загадваць, вочы ўпіліся ў яго са спакойнай, разлічанай халоднасцю, як яны прамяніліся, судзілі яго. Доўга яму давялося моўчкі вытрымліваць гэты позірк.

— Я думаю, што зразумеў вас нарэшце, — спакойна сказаў Аляксандр пасля маўчання. — Трэба меркаваць, вы стаміліся ад пасады, ад Касталіі, ужо даўно вас дацінае жаданне скаштаваць зямнога жыцця. Вы паддаліся гэтаму настрою, а не закону і вашаму аба-

вязку. Гэтаксама вы не адчувалі патрэбы даверыцца нам і шукаць у Ордэна парады і дапамогі. Каб выканаць фармальнасць і не абцяжарваць сваё сумленне, вы паслалі нам хадайніцтва, хоць выдатна ведалі, што яно непрымальнае; але вы, мусіць, думалі спаслацца на яго, калі б дайшло да тлумачэнняў. Скажам, у вас былі падставы на такія незвычайныя ўчынкі, і намеры вашы былі чыстыя, іншага я і падумаць не магу. Але як вам удавалася з такімі думкамі ў галаве, з такімі жаданнямі, рашэннямі ў сэрцы, унутрана ўжо здрадзіўшы свайму сцягу, так доўга маўчаць і заставацца на сваім пасту і, відаць, бездакорна выконваць свае абавязкі?

— На тое я сюды і з'явіўся, — сказаў Магістр Гульні ўсё з той самай прыязнасцю, — каб пра ўсё перагаварыць, адказаць на кожнае ваша пытанне, і я цвёрда вырашыў: адзін раз ступіўшы на дарогу сваволі, пакінуць Хірсланд і ваш дом не раней, чым убачу, што мой стан і мае дзеянні хоць часткова вам зразумелыя.

Магістр Аляксандр задумаўся.

— Ці павінна гэта азначаць, што вы спадзяецеся дамагчыся ад мяне ўхвалы вашых учынкаў і вашых планаў? — нерашуча спытаўся ён.

— Ах, пра ўхвалу я і не думаю. Я толькі спадзяюся і хачу быць вамі зразуметым і захаваць хоць каліўца вашай павагі, калі пайду адгэтуль. Развітанне з вамі — апошняе, што чакае мяне ў Правінцыі. Вальдцэль і Селішча Гульні я пакінуў сёння назаўсёды.

Аляксандр зноў на некалькі імгненняў заплюшчыў вочы. Словы гэтага неспасцігальнага чалавека былі такія ўзрушлівыя і нечаканыя!

— Назаўсёды? — перапытаў ён. — Вы, значыцца, і не думаеце вярнуцца на свой пост? Мушу сказаць вам, што вы ўмееце ашаламіць чалавека! Адно пытанне, калі дазволіце: лічыце вы сябе Магістрам Гульні ці не?

Ёзэф Кнэхт узяў у рукі прывезеную скрыначку.

— Я быў ім да ўчарашняга дня, — адказаў ён, — і спадзяюся быць сёння вызваленым ад гэтага паста, уручыўшы ў вашай асобе Калегіі пячатку і ключы. Яны цэлыя, у Селішчы Гульні вы таксама знойдзеце выдатны парадак, калі захочаце праверыць.

Старшыня Ордэна ўстаў з крэсла; ён здаваўся стомленым і як бы раптоўна пастарэлым.

— Пакінем вашу скрынку на сёння тут, — сказаў ён суха. — Калі здача ключоў павінна адначасова азна-

чаць ваша звальненне, дык я не маю ўлады вырашаць адзін, бо на гэта патрэбна прысутнасць сама меней траціны ўсіх членаў Калегіі. Вы самі заўсёды так цанілі старыя звычаі і фармальнасці, я не магу так хутка асвоіцца з вашымі новымі адносінамі да гэтага. Ці не будзеце вы настолькі ласкавыя і ці не згодзіцеся адкласці працяг нашай гутаркі да заўтрага?

— Я цалкам да вашых паслуг, высокапаважаны Магістр. Вы не адзін год ведаеце мяне і маю павагу да вас; паверце, у гэтым сэнсе нічога не змянілася. Вы — адзіны чалавек, з якім я развітваюся перад тым, як пакіну Правінцыю, і не толькі таму, што вы стаіце на чале Ордэна. Цяпер, калі я перадаў у вашыя рукі пячатку і ключы, я спадзяюся, domine, што пасля канчатковага тлумачэння вы мяне вызваліце і ад майго абавязку як члена Ордэна.

Журботным, выпрабавальным позіркам паглядзеў Аляксандр яму ў вочы і падавіў уздых.

— Пакіньце мяне цяпер аднаго, шаноўны сябар. Вы ўзвалілі на мяне дастаткова клопату і далі матэрыялу на развагі на цэлы дзень. Заўтра мы пагутарым яшчэ, прыходзьце за гадзіну да абеду.

Ён развітаўся з Магістрам ветлівым кіўком, і гэты жэст, які гаварыў пра расчараванасць і перадаваў тую падкрэсленую ветлівасць, якую выказваюць звычайна не калегу, а зусім чужому чалавеку, куды вастрэй укалоў Магістра Гульні, чым усе папярэднія словы.

Служка, які ўвайшоў, каб правесці Кнэхта вячэраць, падвёў яго да накрытага гасцёвага стала і паведаміў, што Магістр Аляксандр пайшоў да сябе на доўгую медытацыю. Ён сказаў, што думае — пан Магістр Ёзэф сёння таксама не мае патрэбы ў кампаніі; пакой яму прыгатаваны.

Аляксандр быў да глыбіні душы ўзрушаны адведзінамі і словамі Магістра Ёзэфа Кнэхта. Праўда, складаючы ад імя Калегіі адказ на яго пісьмо, ён прадбачыў магчымасць ягонага прыезду і з лёгкім неспакоем думаў пра размову. Але каб Магістр Кнэхт, які славіўся сваім узорным паслушэнствам, скрупулёзнасцю ў выкананні абавязку, сціпласцю і душэўным тактам, раптам, нянаджана паўстаў перад ім без папярэджання і самачынна, не ўзгадніўшы гэтага загадзя з Калегіяй, склаў з сябе паўнамоцтвы, кінуўшы тым самым ашаламляльны выклік усім звычаям і традыцыям, — гэта ён лічыў

абсалютна непрымальным. Хоць нельга было не прызнаць, што паводзіны Кнэхта, тон і выразы яго, ненавязлівая ветлівасць былі такія самыя, як заўсёды, але тым больш жахлівыя і зняважлівыя, тым больш новыя і нечаканыя, о, якія некастальскія былі змест і дух яго выказванняў! Ніхто з тых, хто ўбачыў бы і пачуў цяпер Магістра Гульні, не западозрыў бы, што той, магчыма, хворы,ператомлены, раздражнёны і не зусім валодае сабою; да таго ж старанная праверка, праведзеная зусім нядаўна ў Вальдцэлі, не выявіла аніякіх знакаў парушэнняў, беспарадку або нядбальства ў жыцці і працы Селішча Гульні. І тым не меней гэты жахлівы чалавек, да ўчорага яшчэ яго самы любімы калега, паставіў перад ім скрыначку з кляйнодамі ягонага сана, быццам дарожную торбу, і заявіў, што ён ужо не Магістр, не член Калегіі, не член Ордэна, не касталец і прыйшоў сюды толькі дзеля таго, каб спехам развітацца. Ніколі яшчэ за ўсю сваю бытнасць на пасту старшыні Ордэна ён, Аляксадр, не быў у такім непрыемным, цяготлівым і цяжкім становішчы; вялікім намаганнем ён захоўваў вытрымку.

Што ж рабіць? Ужыць прымус, напрыклад, узяць Магістра Гульні пад ганаровы арышт, неадкладна, сёння ж увечары, паслаць тэрміновае паведамленне ўсім членам Калегіі і склікаць іх сюды? Ці магчымыя пярэчанні супраць такой меры? Хіба гэта не самае простае і пэўнае, што можна зрабіць? І ўсё-такі ў ім нешта бунтавала супраць такога рашэння.

І чаго, шчыра кажучы, ён даможацца такімі рэпрэсаліямі? Магістру Кнэхту яны не дадуць нічога, апрача прыніжэння, Касталіі — нічога, больш за ўсіх, бадай што, выйграе ён сам, узначальнік, бо здыме з сябе цяжар адказнасці, супакоіць сваё сумленне, бо не давядзецца яму тады аднаму адказваць за тое, што ён лічыць агідным і цяжкім. Але калі ўвогуле яшчэ існуе хоць самая малая магчымасць нешта выправіць у гэтай фатальнай справе, калі яшчэ можна зрабіць спробу зачапіць Кнэхтава пачуццё гонару, яшчэ можна дабіцца павароту ў ягоных намерах, — гэтага можна дабіцца толькі сам-насам. Ім двум, Кнэхту і Аляксандру, прыйдзецца вытрымаць жорсткую схватку, больш няма каму. І, апанаваны такімі думкамі, ён мусіў прызнаць, што Кнэхт, па сутнасці, зрабіў правільна і высакародна: не звярнуўшыся ў Вярхоўную калегію, якая для яго

перастала існаваць, ён усё-такі з'явіўся да яго, узначальніка, на апошнюю бітву і развітанне. Гэты Еэзф Кнэхт, хоць і ўчыніў нешта забароненае і ненавіснае, захаваў пры гэтым сваю годнасць і застаўся тактоўны.

Магістр Аляксандр вырашыў даверыцца апошняму доваду і не ўмешваць у справу апарат Калегіі. Толькі цяпер, калі рашэнне было знойдзена, ён пачаў абдумваць усе падрабязнасці здарэння і найперш спытаўся ў сябе, што, па сутнасці, было слушнае і няслушнае ў дзеяннях Магістра Гульні, які, безумоўна, рабіў уражанне чалавека, цвёрда перакананага ў правільнасці сваіх поглядаў і ў правамоцнасці свайго нечуванага ўчынку. Цяпер, спрабуючы падвесці дзёрзкі намер Магістра Гульні пад нейкую формулу, праверыць яго згодна з законамі Ордэна, якія ён ведаў як ніхто, Аляксандр прыйшоў да нечаканага адкрыцця, што фактычна Еэзф Кнэхт зусім не парушыў і не меў намеру парушаць літару закона, бо паводле закона, які, праўда, дзесяцігоддзямі не ўжываўся, кожны член Ордэна меў права ў любы час выйсці з яго, калі ён аднachасова адмаўляецца ад сваіх правоў і ад кастальскага грамадства. Вяртаючы дaвераныя яму пячаткі, заяўляючы Ордэну пра свой выхад, ідучы ў некастальскі свет, Кнэхт, праўда, рабіў крок нечуваны, незвычайны, страшны, магчыма, нават нягодны, але ніяк не пераступіў правілаў Ордэна. Хочучы зрабіць гэты неспасцігальны, але фармальна не супярэчны закону ўчынак не за спінай старшыні Ордэна, а твар у твар з ім, ён рабіў нават больш, чым патрабавалася ад яго паводле літары закона. Але як дайшоў да такога рашэння гэты акружаны чтою чалавек, адзін з стаўпоў іерархіі? Як асмеліўся ён кіравацца ў сваім, што ні кажы, адступніцкім намеры пісанымі правіламі і пагардзіць сотняй не пісаных, але не меней святых абавязкаў, якія павінны былі б яму ў гэтым перашкодзіць?

Аляксандр пачуў бой гадзінніка, адагнаў бясплённыя думкі, прыняў ванну, прысвяціў дзесяць мінут дыхальным практыкаванням і выбраў сабе келлю для медытацыі, каб за гадзіну, да сну набрацца сілы і спакойнасці і потым да раніцы не вяртацца ў думках да гэтага прадмета.

На другі дзень малады служка правёў Магістра Кнэхта з гасцёвага дома да старшыні Ордэна і быў

сведкам таго, як абодва абмяняліся прывітаннямі. Яго, хто прывык бачыць вытанчаных майстроў медытацыі зблізку, усё ж падзівіла ў выглядзе, у манерах, у прывітанні абодвух самых годных Магістраў нешта адмысловае, найвышэйшая засяроджанасць і выразнасць. Гэта было, расказваў ён нам пазней, не зусім звычайнае прывітанне паміж двума носьбітамі высокіх санаў, як заўсёды бывала згодна з абставінамі — або павярхоўным і нядбала выкананым цырыманіялам, або ўрачыста-радасным, святочным актам, а магло быць і нейкім спаборніцтвам у ветлівасці, самапрыніжэнні і падкрэсленай дагодай. Цяпер гэта выглядала так, быццам тут прымалі чужога, напрыклад, нейкага вялікага майстра ёгі, які прыехаў з далёкіх краёў, каб выказаць кіраўніку Ордэна сваю пашану і памерацца з ім сілай. Словы і жэсты былі сціплыя, але позіркі і абліччы абодвух саноўных кастальцаў поўныя спакойнасці, рашучасці і сабранасці, таксама прыхаванай напругі, быццам абодва яны свяціліся з сярэдзіны або былі зараджаныя электрычным токам. Больш нічога нашаму сведку не ўдалося ні ўгледзець, ні пачуць. Субяседнікі пайшлі ва ўнутраныя пакоі, мабыць, у прыватны кабінет Магістра Аляксандра, і заставаліся там некалькі гадзін, прычым нікому не дазволена было турбаваць іх. Усё, што стала вядома пра іх гутарку, было пазней расказана дэпутатам Дэсіньёры, якому сёе-тое расказаў сам Ёзэф Кнэхт.

— Учора вы засталі мяне знянацку, — пачаў старшыня Ордэна, — і ледзь не вывелі з раўнавагі. За мінулыя гадзіны я сёе-тое абдумаў. Мая думка, зразумела, не змянілася, я — член Калегіі і ордэнскай управы. Паводле літары закона, вы маеце права заявіць пра свой выхад з Ордэна і скласці з сябе свае абавязкі. Вы прыйшлі да высновы, што ваша пасада стала вам цяжарам, і лічыце патрэбным паспрабаваць пачаць новае жыццё па-за Ордэнам. А што, калі я вам прапаную зрабіць такую спробу, але не так, як вы згопалу вырашылі, а, скажам, узяўшы працяглы або нават не абумоўлены тэрмінам адпачынак? Нешта падобнае, дарэчы, было і ў вашым хадайніцтве...

— Не зусім, — запярэчыў Кнэхт. — Калі б маё хадайніцтва было задаволена, я б заставаўся ў Ордэне, але ўсё роўна пайшоў бы з пасады. Тое, што вы так ласкава прапануеце, было б выкруткай. Зрэшты, Вальдцэлю

і Гульні мала было б карысці ад Магістра, які надоўга, на няпэўны час пайшоў у водпуск і пра якога нельга з поўнай пэўнасцю сказаць, што ён наогул вернецца. А калі б ён і паявіўся зноў праз год, праз два, ён шмат чаго страціў бы з таго, што яму трэба ведаць і што датычыцца яго пасады, дысцыпліны і Гульні, і нічога новага не ўведаў бы.

Аляксандр:

— Сяго-таго, магчыма, ён усё-такі навучыўся б. Магчыма, ён даведаўся б, што свет за межамі Касталіі не зусім такі, якім ён яго сабе ўяўляў, што свет той гэтаксама не мае ніякай патрэбы ў Ёзэфе Кнэхце, як і Кнэхт у ім, і ён вярнуўся б заспакоены і быў бы рады зноў апынуцца ў ранейшым надзейным атачэнні.

— Ваша дабрыня сягае надта далёка. Я вам вельмі ўдзячны і ўсё ж не магу ёю пакарыстацца. Бо я шукаю не задавальнення сваёй цікаўнасці і не зямнога жыцця, не, я шукаю безумоўнасці. Я зусім не хачу выйсці ў шырокі свет, маючы за спінаю пралазіну на выпадак расчаравання, не хачу быць асцярожным вандроўнікам, які выпаўзае з сваёй нары, каб крыху пабачыць белага свету. Наадварот, я прагну рызыкі, ускладненняў, небяспекі, я згаладаўся па рэальнай задачы, па справе, па нягодах і пакутах. Дазвольце мне прасіць вас не настойваць на вашай такой велікадушнай прапанове і наогул не спрабаваць пахіснуць мяне і хіліць назад. Гэта ні да чога не прывяло б. Мой прыезд да вас страціў бы для мяне ўсю каштоўнасць і святасць, калі б прынёс мне запозненае, але ўжо не патрэбнае выкананне маёй просьбы. З хвіліны адпраўкі гэтай просьбы я паспеў прайсці далёка наперад; дарога, на якую я ступіў, цяпер у мяне — адзіна магчымая, яна — мой закон, радзіма, служэнне.

Уздыхнуўшы, Аляксандр кіўнуў галавой, прызнаючы яго праўду.

— Што ж, уявім, — сказаў ён, не трацячы цярпення, — што вас сапраўды нельга ні змякчыць, ні пераканаць, што вы, насуперак знешняй відавочнасці, глухі чалавек, апантаны амокам або вар'яцтвам, якому нельга станавіцца папярок. Таму я пазбягаю пакуль што вас угаворваць або ўплываць на вас. Але тады зрабіце тое, дзеля чаго вы сюды прыехалі, даверце мне гісторыю вашага адступніцтва, растлумачце мне вашы дзеянні і рашэнні, якія нас так зжахнулі! Хай гэта будзе

споведзь або апраўданне, хай гэта будзе абвінавачанне — усё роўна, я хачу гэта пачуць.

Кнэхт кіўнуў.

— Апантаны амокам дзякуе вам і радуецца. Я не збіраюся вінаваціць. Тое, што я хацеў бы сказаць, калі б гэта не было так цяжка, так неверагодна цяжка перадаць словамі, для мяне мае сэнс апраўдання, вы ж можаце прыняць гэта за споведзь.

Ён адкінуўся ў крэсле і паглядзеў угору, туды, дзе скляпенне яшчэ трымала на сабе бляклыя абрысы сцёртай размалёўкі тых часоў, калі ў Хірсландзе быў кляштар, — прывідныя, тонкія сляды ліній і фарбаў, кветак і арнаментаў.

— Думка пра тое, што пасада Магістра можа абрыднуць, што можна адмовіцца ад яе, прыйшла да мяне ўпершыню ўжо праз некалькі месяцаў пасля майго прызначэння. Аднойчы я сядзеў і гартаў запісную кніжку майго колісь так праслаўленага папярэдніка, Людвіга Васэрмалера, у якой ён, прасочваючы месяц за месяцам цэлы год свайго магістарства, дае сваім пераемцам парады і ўказанні. І я напаў на яго перасцярогу, на яго напамінак, што да публічнай Гульні наступнага года трэба рыхтавацца загадзя. Калі ж ты не адчуваеш натхнення, калі не хапае табе вынаходлівасці, трэба настройваць сябе канцэнтрацыяй. У той час я, самы малады Магістр, яшчэ адчуваў у сабе лішак сілы і, прачытаўшы гэту перасцярогу, прызнацца, усміхнуўся ў сваёй юначай фанабэрыі з клопатаў старога чалавека. Але ўжо тады я адчуў у яго словах і нешта сур'ёзнае — нешта накшталт небяспекі, нешта грознае і гнятлівае. Задумаўшыся над гэтым, я яшчэ ў той час прыйшоў да рашэння: як у маім жыцці настане дзень, калі думка пра будучую Гульню замест радасці прынясе мне трывогу, замест гонару — страх, я не буду пакутліва выціскаць з сябе ідэі, а падам у адстаўку і вярну Калегіі ўручаныя мне кляйноды. Так упершыню ў маю душу запала гэтая думка, але, вядома, у той час, калі я тольκі-толькі асіліў вялікае напружанне, вялікія цяжкасці маёй новай пасады, калі ветразі мае былі поўныя ветру, я ў глыбіні душы не вельмі верыў, што ператваруся ў старога, стамлюся ад работы і жыцця і што мне калі-небудзь скрушліва і збянтэжана прыйдзецца зведаць, як нялёгка вынаходзіць новыя ідэі ў нашай Гульні. Так ці інакш, рашэнне зарадзілася ўва мне. Вы мяне ў той

час добра ведалі, шаноўны Магістр, магчыма, нават лепей, чым я сам ведаў сябе, вы былі маім дарадцам і спавядальнікам у першыя, самыя цяжкія дні маёй службы на пасту і зусім нядаўна пакінулі Вальдцэль.

Аляксандр выпрабавальна паглядзеў на яго.

— Мне, бадай што, ніколі не давалі больш прыемнага даручэння, — сказаў ён, — я быў задаволены вамі і самім сабою, як гэта рэдка бывае ў жыцці. Калі праўда, што за ўсё прыемнае, што выпадае нам на долю, мы павінны расплачвацца, я, відаць, павінен сёння несці кару за сваю тагачасную захопленасць. У той час я пасапраўднаму ганарыўся вамі. Сёння я не магу гэтага сказаць. У тым, што Ордэн з вашай ласкі мае такое расчараванне, а Касталія будзе глыбока ўзрушаная, ёсць доля маёй віны. Магчыма, калі я быў вашым ментарам і дарадцам, мне варта было б пабыць яшчэ некалькі тыдняў у Селішчы Гульні і больш крута ўзяцца за вас, стражэй праверыць.

Кнэхт весела сустрэў яго позірк.

— Вы не павінны так мучыцца згрызотамі сумлення, domine, інакш я буду вымушаны нагадаць вам пра некаторыя настаўленні, якія вам давялося рабіць мне, калі я, новы Магістр, з цяжкасцю спраўляўся з сваімі новымі абавязкамі і сваёй адказнасцю. І ў адну такую хвіліну — я толькі што ўспомніў пра гэта — вы сказалі мне: калі б я, Magister Ludi, быў злодзей і тупіца, калі б я рабіў усё, што Магістр рабіць не павінен, калі б нават свядома імкнуўся на сваім высокім пасту нарабіць нашай любай Касталіі як мага больш шкоды, гэта расхвалявала б яе не глыбей, чым каменьчык, кінуты ў возера. Ціхі плёск, некалькі кругоў — і ўсё! Такі трывалы, такі моцны і непахісны наш кастальскі парадак, такі недатыкальны яе дух. Ці памятаеце вы гэта? Не, у маіх дбаннях быць як мага больш кепскім кастальцам і прынесці Ордэну найбольшую шкоду вы, безумоўна, невінаватыя. І вы таксама ведаеце, што мне ніколі не ўдасца сур'ёзна пахіснуць ваш спакой. Але я хачу расказаць вам, што было далей. Тое, што я ўжо на пачатку сваёй магістарскай дзейнасці здолеў прыняць такое рашэнне, тое, што я гэтага рашэння не забыўся і зараз гатовы яго здзейсніць, звязана са своеасаблівым душэўным станам, які бывае ў мяне час ад часу і які я называю «абуджэннем». Але пра гэта вы ведаеце, я ўжо аднойчы расказваў вам, калі вы былі маім духоўным

настаўнікам, і нават бедаваў, што з дня майго ўступлення на пасаду ў мяне ўжо не было такога стану і я ўсё больш ад яго аддаляюся.

— Успамінаю, — пацвердзіў Магістр Аляксандр, — я быў тады збянтэжаны вашай здольнасцю перажываць такое, бо ў нашым асяроддзі гэта здараецца вельмі рэдка, а за межамі Касталіі выяўляецца ў самых разнастайных формах: часам у геніяў, асабліва ў дзяржаўных дзеячаў або палкаводцаў, але таксама і ў слабых, крыху паталагічных індывідаў са здольнасцямі ніжэй сярэдняга ўзроўню: у празорліўцаў, тэлепатаў, медыумаў. З ніводным з гэтых чалавечых тыпаў: ні з ваеннымі героямі, ні з празорліўцамі або рудазнаўцамі — у вас, на мой погляд, не было нічога супольнага. Больш таго, вы мне здаваліся тады, ды і да ўчарашняга дня, узорным членам Ордэна: разважлівы, з ясным усведамленнем сваёй ролі, паслухмяны. Падупаласць уладзе таямнічых галасоў, хай то боскіх або дэманічных, хай то голасу свайго запаветнага «я», здавалася мне зусім не ўласцівай вам. Таму я растлумачыў сабе гэтыя «абуджэнні», апісаныя вамі, проста як імгненныя ўсведамленні ўласнага росту. Мне здаецца натуральным, што такія душэўныя станы надоўга перасталі вас тады наведваць: вы толькі што занялі высокую пасаду і ўсклалі на сябе задачу, якую пакуль што адчувалі як завялікую вопратку, вам яшчэ трэба было ў яе ўрасці. Скажыце, аднак: ці верылі вы калі-небудзь, што гэтыя «абуджэнні» — гэта як нешта накшталт шчыравання найвышэйшых сіл, весткі ці покліч з сфераў нейкай аб'ектыўнай, вечнай або боскай ісціны?

— Вось тут мы якраз і падышлі да пастаўленай перада мною ў гэтую хвіліну вельмі цяжкай задачы, — сказаў Кнэхт, — выказаць словам тое, што ўнікае слова; ператварыць у рацыянальнае тое, што вызначана пазарацыянальна. Не, маніфестацыямі божышча, або дэмана, або абсалютнай ісціны я гэтыя свае абуджэнні не лічыў. Важкасць і пераканаўчасць маім перажыванням надае не доля ўтрыманай у іх ісціны, не іх высокае паходжанне, боскасць або яшчэ што-небудзь у гэтакім родзе, а іх рэальнасць. Яны жахліва рэальныя, як усё роўна моцны фізічны боль або стыхійнае бедства, накшталт урагану і землятрусу, здаюцца нам зусім інакш зараджанымі рэальнасцю, злітнасцю з цяперашнім момантам, непазбежнасцю, чым звычайныя дні і

станы: Парыў ветру перад навальніцай, які гоніць нас хутчэй пад страху і напаследак яшчэ спрабус вырваць у нас з рук дэверы, або моцны зубны боль, які, здаецца, засяроджвае ўсю напружанасць, усе пакуты і канфлікты свету ў нашай сківіцы, — гэта з'явы, рэальнасць або сэнс якіх мы можам пазней аспрэчваць, калі мы схільны да такіх жартаў, але ў тую хвіліну, калі мы іх перажываем, яны не церпяць ніякага сумнення і да жудасці рэальныя. Такой абвостранай існасцю валодалі і мае «абуджэнні», адсюль і назва іх; у гэтыя часы я адчуваю асяроддзе так, быццам я доўга спаў або драмаў, а цяпер раптам прачнуўся і бадзёры і прыгадваю ўсё ясна, як ніколі раней. Хвіліны вялікіх пакут або ўзрушэнняў — што датычыцца і падзей сусветнай гісторыі — маюць пераканаўчую сілу неабходнасці, яны распаляюць у нас пачуццё гнятлівай рэальнасці і напружання. Такія напружанні могуць растварыцца ў прыгожым і светлым або віратлівым і змрочным. Але, у кожны разе, тое, што адбываецца ў гэтыя хвіліны, будзе здавацца нам вялікім, неабходным, важным і будзе істотна адрознівацца і вылучацца сярод таго, што адбываецца кожны дзень.

— А цяпер давайце паспрабуем, — гаварыў далей Кнэхт, перадыхнуўшы, — зірнуць на справу з другога боку. Ці памятаеце вы легенду пра святога Хрыстафора? Памятаеце? Дык вось, гэты Хрыстафор быў чалавек вялікай сілы і адвагі, але ён не захацеў стаць панам і кіраваць, ён хацеў служыць. Служэнне было яго сілай і яго рамяством, яно яму давалася найлепш. Але яму было далёка не ўсё роўна, каму служыць. Яму мус было служыць самаму магутнаму, самаму вялікаму пану. І калі да яго даходзілі чуткі пра ўладара, які быў яшчэ магутнейшы, ён прапаноўваў свае паслугі новаму. Гэты вялікі слуга заўсёды быў мне па душы, і я, мусіць, крыху падобны да яго. У кожным разе, у тую, адзіную маю пару, калі я мог распараджацца сабою, гэта значыцца ў студэнцкія гады, я доўга шукаў і вагаўся, якому ўладару паслужыцца. Так я доўга трымаўся ўбаку ад Гульні, не давяраў ёй, хоць даўно ўжо прызнаў у ёй самае своеасаблівае дзіця нашай Правінцыі. Я ўжо пакаштаваў гэтай прынады і ведаў, што няма на зямлі нічога больш прывабнага і больш складанага, чым прысвяціць сябе Гульні, і я даволі рана зразумеў, што гэтая чароўная Гульня патрабуе не наіўных аматараў, згод-

ных аддаць ёй гадзіну-другую адпачынку, а тых, кім яна завалодае цалкам, хто гатовы падпарадкавацца ёй і служыць усё жыццё. І вось нейкі ўнутраны інстынкт, нейкі наіўны поцяг да прастаты, цэласці, здароўя супраціўляліся ўва мне таму, каб навекі прынесці ў ахвяру гэтаму чарадзейству ўсю сваю сілу і інтарэсы, засцерагала мяне ад духу вальдцэльскага Vicus lusorum як ад нейкага духу спецыялізацыі і віртуознасці, праўда, вытанчанага, вельмі развітага, але адарванага ад жыццёвай і чалавечай сукупнасці і замкнёнай у сваёй пыхлівасці самоты. Гадамі мяне грызла паняверка, я правяраў сябе, пакуль не выспела рашэнне, і я, нягледзячы на свае ваганні, аддаўся Гульні. Я гэта зрабіў, бо ўва мне жыў памянёны поцяг шукаць самых высокіх мэт і служыць самаму высокаму пану.

— Разумею, — сказаў Магістр Аляксандр. — Але колькі б я ні разважаў, што б вы мне ні расказалі пра сябе, я ўвесь час натыкаюся на ўсё тую самую крыніцу вашых асаблівасцяў і адметнасцяў. Вы надта моцна адчуваеце сваё «я» або надта ад яго залежыце, а гэта зусім не тое самае, што быць вялікай асобай. Адзін можа быць зоркай першай велічыні па сваёй адоранасці, сіле волі, вытрымцы, але ён так добра цэнтраваны, што без ніякіх трэнняў і выдаткаў энергіі ўключаецца ў рытм сістэмы, да якое належыць. Другі гэтаксама багата адораны, магчыма, нават больш, але вось ягонага «я» не праходзіць дакладна праз цэнтр, і ён выдаткуе палавіну сваёй сілы на эксцэнтрычныя рухі, якія стамляюць яго самога і заважаюць усім вакол яго. Вы, мабыць, належыце да гэтай другой катэгорыі. Праўда, прызнаюся, што вы цудоўна ўмелі хаваць гэта. З тым большай сілай ударыла нас гэтае ліха сёння. Вы расказалі мне пра святога Хрыстафора, і я мушу сказаць: калі ў гэтым вобразе ёсць што-небудзь велічнае і кранальнае, дык як узор служэння нашай іерархіі ён нічога не варты. Хто хоча служыць, павінен нязменна служыць таму ўладару, якому ён прысягнуў на вернасць, служыць да магілы, а не з тайным намерам перакінуцца да другога, больш імпазантнага пана, як толькі такі знойдзецца. Інакш слуга ставіць сябе суддзёю над сваім панам, што вы зараз і робіце. Вы заўсёды хочаце служыць самаму вялікаму ўладару, і вы настолькі прастадушны, што берацеся самі вызначаць ступень велічы тых уладароў, сярод якіх выбіраеце свайго.

Кнэхт выслухаў яго з глыбокай увагай, і на яго твар лёг лёткі цень смутку. Ён сказаў:

— Схіляюся перад вашым меркаваннем, пан Магістр, іншага я ад вас і не чакаў. Дазвольце мне, аднак, дасказаць маю аповесць, засталося ўжо нямнога. І вось я стаў майстрам Гульні і доўга быў упэўнены, што служу самаму вялікаму ўладыку. Нездарма мой сябар Дэсіньёры, наш заступнік у федэральнай радзе, аднойчы даволі вобразна паказаў, якім пыхлівым, фанабэрыстым, надзьмутым віртуозам Гульні, якім чыстакроўным кастальцам я быў калісьці. Але я павінен яшчэ растлумачыць вам, якое значэнне са студэнцкіх гадоў, з пачатку маіх «абуджэнняў» мела для мяне слова transcendere. Яно засела мне ў памяць, я думаю, пры чытанні аднаго філосафа-асветніка і пад уплывам Магістра Томаса фон дэр Травэ і з таго часу стала для мяне, як і слова «абуджэнне», сапраўды магічным словам, якое патрабавала і штурхала ісці наперад, якое даравала суцяшэнне і так шмат абяцала. Мае жыццё, казаў я сабе, павінна стаць пераступаннем межаў, няспынным узыходжаннем з самай нізкай прыступкі на самую высокую, я павінен пераадольваць і пакідаць за сабою адну прастору за адной, як музыка раскрывае, прайгравае і завяршае адну тэму за адной, адзін тэмп за адным, не стамляючыся, не зводзячы вачэй, заўсёды бяссонна, заўсёды напагатове. Дзякуючы маім «абуджэнням» яназіраў, што такія ступені і прасторы сапраўды існуюць і што ў канцы пэўнага ўрэзка жыцця кожны раз паяўляецца адценне завядання, жаданне смерці, але потым усё мяняецца, падыходзіш да новай прасторы, новага абуджэння, новага пачатку. І пра ўсё гэта, што для мяне ў слове «transcendere», я расказваю вам, бо лічу, што яно можа даць ключ да разумення майго жыцця. Рашэнне прысвяціць сябе Гульні было важнай ступенню, і гэтакай самай ступенню было першаснае адчуванне маёй злітнасці з іерархіяй.

І, будучы на пасту Магістра, я ўсё гэтак жа падымаўся з ступені на ступень. Самым лепшым, што дала мне мая дзейнасць на гэтым пасту, было наступнае адкрыццё: не толькі заняткі музыкай і Гульня могуць зрабіць чалавека шчаслівым, але і праца выхаваўцы і настаўніка. Паступова я ўведаў, што праца гэтая дае мне тым большую радасць, чым маладзейшыя і менш сапсаваныя мае выхаванцы. Гэта адкрыццё, побач з

многімі іншымі, прывяло да таго, што праз гады ўва мне расло жаданне выхоўваць усё маладзейшых, што я з найбольшай ахвотай пайшоў бы працаваць настаўнікам у пачатковую школу, карацей, маё ўяўленне часам вяло мяне ў сферы, якія былі далёка за межамі маіх афіцыйных абавязкаў.

Ён змоўк. Старшыня сказаў:

— Вы ўсё больш мяне здзіўляеце, Магістр. Вы расказваеце пра ваша жыццё, і гаворка ідзе амаль выключна пра прыватныя, суб'ектыўныя перажыванні, асабістыя жаданні, этапы развіцця і рашэнні! Я, далібог, не думаў, што касталец вашага рангу можа так глядзець на сябе і на сваё жыццё.

У яго голасе гучаў ці то дакор, ці то сум, і гэта замаркоціла Кнэхта. Але ён авалодаў сабой і бадзёра ўсклікнуў:

— Але, Шаноўны, мы ж цяпер гаварылі не пра Касталію, не пра Касталію ці іерархію, а выключна пра мяне, пра псіхалогію чалавека, якому, на жаль, выпала на долю наклікаць на вас вялікія непрыемнасці. Гаварыць пра сваю працу на пасту Магістра, пра выкананне мною майго абавязку, пра тое, варты я ці не варты звання кастальца і Магістра, мне не след. Мая праца, як і наогул вонкавы бок майго жыцця, адкрытая і можа быць праверана кожным; наўрад ці вы знойдзеце тут многае, што заслугоўвала б асуджэння. Але мы цяпер гаворым зусім пра іншае, я хачу зрабіць для вас зразумелым той шлях, які я прайшоў адзінока і які вывеў мяне сёння з Вальдцэля, а заўтра выведзе з Касталіі. Будзьце ж ласкавыя, выслухайце мяне да канца.

Маімі звесткамі пра існаванне іншага свету за межамі нашай маленькай Правінцыі ■ абавязаны не штудыям і кнігам, у якіх гэты свет паўставаў перада мною толькі як далёкае мінулае, але спачатку майму школьнаму таварышу Дэсіньёры, госцю адтуль, а пазней, у час майго жыцця ў бенедыктынаў — айцу Якаву. На свае вочы я бачыў зямное жыццё вельмі мала, але праз гэтага чалавека я атрымаў уяўленне пра тое, што называецца гісторыяй, і, магчыма, гэта і паслужыла прычынай ізаляцыі, калі я вярнуўся. Я вярнуўся з кляштара ў край, які амаль не меў уяўлення пра гісторыю, у Правінцыю вучоных і адэптаў Гульні, у грамадства надзвычай шаноўнае і надзвычай прывабнае; але я з маім цьмяным уяўленнем пра навакольны свет, з маёй

растрывожанай цікаўнасцю, з маёй спагадлівай цікавасцю да гэтага свету апынуўся ў поўнай адзіноце. Шмат што магло мяне і суцешыць: тут было некалькі чалавек, якіх я вельмі высока ставіў, і зрабіцца іх калегам здавалася мне вялізным, бянтэжлівым гонарам і шчасцем; акрамя таго, тут было шмат добра выхаваных, высокаадукаваных людзей, досыць працы і многа здольных і вартых любові вучняў. За час вучобы ў айца Якава я засвоіў, што я не толькі касталец, але і чалавек, што свет, «увесь свет» мае дачыненне і да мяне, патрабуе і ў мяне ўдзелу ў яго жыцці. З гэтага адкрыцця вынікалі патрэбы, жаданні, вымогі, абавязкі, ісці за якімі я ні ў якім разе не мог. Зямное жыццё ў вачах кастальцаў было адсталае, малакаштоўнае жыццё, поўнае непарадку і грубасці, палу і рассеяння, у ім, на іх думку, не было нічога прыгожага і жаданага. Але на самай справе свет з яго жыццём быў бясконца шырэйшы і багацейшы за тыя ўяўленні, якія маглі скласціся ў кастальца. Гэты свет быў у неперапынным станаўленні, ён сам тварыў гісторыю, ён быў поўны вечна новых пачынаў; гэты свет, няхай хаатычны, быў айчынай і ўрадлівай глебай, на якой раслі ўсе лёсы, усе ўзлёты, усе мастацтвы, усё чалавечае, ён спараджаў мовы, народы, дзяржавы, культуры, ён стварыў і нас, і нашу Касталію, і ён жа будзе сведкам нашага памірання і застанецца жыць пасля нас. Мой настаўнік Якаў абудзіў ува мне любасць да гэтага свету, і любасць гэтая няспынна расла і патрабавала жывення, а ў Касталіі не было нічога, што магло б жывіць яе. Тут мы жылі за межамі свету, мы самі зрабіліся маленькім, дасканалым, застылым у сваім развіцці светам, які перстаў ужо расці.

Ён глыбока ўздыхнуў і крыху памаўчаў. Старшыня таксама нічога не гаварыў і толькі, чакаючы нечагась, глядзеў на Кнэхта, таму той задуменна кіўнуў яму і загаварыў сам:

— Выявілася, я павінен несці двайны цяжар, і гэта доўжылася гадамі. Мне трэба было кіраваць вялікім ведамствам і адказваць за яго, а з другога боку, мне трэба было неяк справіцца з сваёй любасцю да людскога свету. Мая праца — і гэта мне было зразумела з самага пачатку — не павінна была цярпець ад гэтай любасці. Наадварот, як я думаў, яна павінна была выйграць. Калі б я нават — спадзяюся, што гэта было

не так — крыху горш, не так беззаганна рабіў сваю працу, чым гэта належала Магістру, я ўсё роўна ўсведамляў бы, што я жывейшы і чуйнейшы сэрцам за самага беспахібнага з маіх калег, і ў мяне было што даць маім вучням і супрацоўнікам. Я бачыў сваю задачу ў тым, каб, не парываючы з традыцыямі, паступова, спакваля, асцярожна пашыраць і падаграваць кастальскае жыццё і мысленне, каб уліць у яго струмень свежай крыві ад свету і ад гісторыі, і шчаслівым збегам акалічнасцяў тым самым часам у свеце, за межамі Касталіі, у аднаго чалавека зарадзіліся такія самыя мары пра збліжэнне і ўзаемапранікненне Касталіі і свету: гэта быў Плініё Дэсіньёры.

Магістр Аляксандр, крыху падціснуўшы губы, сказаў:

— Так, ад уплыву на вас гэтага чалавека я ніколі не чакаў нічога добрага, як і ад вашага нягеглага пратэжэ Тэгулярыуса. Дык гэта Дэсіньёры канчаткова схіліў вас парваць з іерархіяй?

— Не, domine, але ён часткова, сам таго не ўсведамляючы, дапамог мне. Ён удыхнуў крыху свежага паветра ў маё застаялае жыццё, дзякуючы яму я зноў судаціўся са светам і толькі тады здолеў пераканацца і прызнацца самому сабе, што мая дарога тут, у вас, вось ужо і канчаецца, што я ўжо не здольны адчуваць шчырую радасць ад сваёй працы і пара пакласці крэс гэтай пакуце. Яшчэ адна ступень пройдзена, я мінуў яшчэ адну прастору, і гэтай прасторай тым разам была Касталія.

— Як вы пра гэта кажаце! — паківаў галавой Аляксандр. — Быццам Касталія не такая шырокая, каб на ўсё жыццё даць вартасны занятак многім і многім. І вы сур'ёзна думаеце, што вымерылі і адолелі гэтую прастору?

— Ой не! — жвава адгукнуўся яго субяседнік. — Нічога такога ■ ніколі не думаў. Кажучы, што я дастаўся да мяжы гэтай прасторы, я толькі меў на ўвазе: усё, чаго я як асоба мог дасягнуць на сваёй пасадзе, зроблена. Вось ужо колькі часу я стаю на той грані, дзе мая праца як Магістра Гульні ператвараецца ў бясконцае паўтарэнне ўжо зробленага, у пустыя фармальныя экзерсісы, і я выконваю яе без радасці, без натхнення, нават часам без веры. Пара спыніць гэта.

Аляксандр уздыхнуў.

— Такі ваш погляд, але Ордэн і яго правілы прадугледжваюць іншае. У тым, што і ў члена Ордэна бываюць свае настроі, што ён часам стамляецца ад сваіх абавязкаў, няма нічога новага і дзіўнага. Тут дапамога — правілы, яны паказваюць, як аднавіць гармонію і нанава здабыць цэнтраванасць. Няўжо вы забыліся пра гэта?

— Зусім не, Шаноўны! Вам лёгка ацаніць маю працу, зусім жа нядаўна, пасля майго паслання, вы пракантралявалі справы ў Селішчы Гульні і мяне самога. Вы маглі пераканацца, што праца ідзе, канцылярыя і архіў у парадку, Magister Ludi не паказвае ніякіх прыкмет на хваробу і ні на якія там выбрыкі. Менавіта тым правілам, якія вы мне калісьці так па-майстэрску ўвялі ў галаву, я абавязаны, што не здаўся, не страціў ні сілы, ні вытрымкі. Але мне гэта каштавала вялікага намагання. І цяпер, на жаль, мне не меней цяжка пераканаць вас у тым, што мною кіруюць зусім не настроі, не прыхамаці, не вычуды. Але ўдасца мне гэта ці не, на адным я буду настойваць: вы мусіце прызнаць, што мая асоба і мая дзейнасць да таго моманту, калі вы іх апошні раз праверылі, былі беззаганныя і карысныя. Няўжо я патрабую ад вас залішне многага?

У вачах у Магістра Аляксандра бліснула ўсмешка.

— Паважаны калега, — сказаў ён, — вы гаворыце са мной так, быццам мы абодва прыватныя асобы, якія нязмушана гутараць паміж сабой. Але гэта датычыцца вас аднаго, бо вы цяпер, на самай справе, — прыватная асоба. У мяне ж усё інакш: тое, што я думаю і кажу, я кажу не ад сябе, а як галава Ордэна, і я павінен адказваць за кожнае слова свайго кіраўніцтва. Тое, што вы сёння тут кажаце, не будзе мець ніякіх наступстваў; якія ні важныя вам вашы словы, яны так і застануцца словамі прыватнай асобы, якая абараняе свае прыватныя інтарэсы. Але я па-ранейшаму займаю свой пост і нясу за яго адказнасць, і тое, што я сёння скажу або зраблю, можа мець свае наступствы. Перад вамі і ў вашай справе я прадстаўляю Калегію. Зусім не ўсё адно, ці прыме Калегія ваша тлумачэнне падзей і, магчыма, нават прызнае вашу праўду. Вы выстаўляеце справу так, быццам вы, хоць і тоілі ў галаве адмысловыя думкі, да ўчарашняга дня былі беззаганны, крышталёва сумленны касталец і Магістр; што, хоць на вас і находзілі хвіліны хістанняў і стомленасці, вам тым не меней

заўсёды ўдавалася адольваць і заглушаць іх. Дапусцім, я паверу ў гэта, але як, скажыце, мне зразумець такі пачварны факт, што беззаганны, непагрэшны Магістр, які яшчэ ўчора выконваў кожнае прадпісанне Ордэна, сёння раптам ідзе на дэзерцірства? Воля ваша, мне ўсё ж лягчэй уявіць сабе Магістра, чыя душа ўжо даўно чарвівая, які, хоць і выдае сябе за даволі прыстойнага кастальца, на самай справе ўжо даўно не касталец. I яшчэ я пытаюся ў сябе: чаму вы, зрэшты, так дамагаецеся ўстанаўлення таго факта, што вы да самага апошняга часу заставаліся верным свайму абавязку? Раз вы ўжо пайшлі на гэты крок, парушылі запавет паслушэнства і дэзерціравалі, вам не павінна абыходзіць тое, што пра вас будзе думаць Ордэн.

Але Кнэхт запярэчыў:

— Дазвольце, Велешаноўны, як гэта мне не павінна абыходзіць? Гаворка ідзе пра маю рэпутацыю, пра маё добрае імя, пра памяць, якую я тут па сабе пакіну. Гаворка, тым самым, ідзе пра магчымасць для мяне працаваць па-за Касталіяй, але на яе карысць. Я ў вас не дзеля таго, каб абяляць сябе, тым болей не на тое, каб дамагацца ўхвалення майго ўчынку Калегіяй. Я прадбачыў ужо, што мае калегі будуць глядзець на мяне як на асобу сумніўную і своеасаблівую, і гатовы з гэтым пагадзіцца. Але я не хачу, каб мяне лічылі адступнікам або вар'ятам, з такім выракам я згадзіцца не магу. Я зрабіў учынак, які вы не можаце не асуджаць, але я зрабіў яго, бо інакш не мог, бо такое маё прызначэнне, такая мая доля, і я ў яе веру і з добрай волі буду ёй скарацца. Калі вы гэтага не хочаце прызнаць, — значыцца, я пацярпеў паражэнне і ўся наша гутарка з вамі на нішто.

— Мы ўвесь час топчамся на адным месцы, — адказаў Аляксандр. — Я павінен, аказваецца, прызнаць, што пры пэўных умовах волі асобнага чалавека дадзена права парушаць законы, у якія ■ веру і якія абавязаны абараняць. Але ж не магу я адначасова верыць у наш парадак і прызнаць за вамі прыватнае права гэты парадак парушаць, — не перапыняйце мяне, прашу вас. Я магу толькі згадзіцца з тым, што вы, відавочна, перакананыя ў сэнсе вашага небяспечнага кроку і ў сваім праве зрабіць яго, што вы шчыра бачыце ў гэтым сваё прызначэнне. Вы, зразумела, не разлічваеце, што я ўхвалю ваш учынак. Але аднаго вы дамагліся: я адмо-

віўся ад пачатковай думкі вярнуць вас ва ўлонне Ордэна і схіліць вас да адмены вашага рашэння. Я не пярэчу супраць вашага выхаду з Ордэна і перадам Калегіі заяву пра вашу адмову ад займанай пасады. Больш я нічым не магу вам памагчы, Ёзэф Кнэхт.

Магістр Гульні рухам выказаў сваю пакору. Потым ціха вымавіў:

— Дзякую вам, пане старшыня. Куфэрак я ўжо вам аддаў. Цяпер я аддаю вам (для перадачы Вярхоўнай калегіі) мае запісы пра стан рэчаў у Вальдцэлі, найперш пра рэпетытараў, а таксама пра тых некалькіх людзей, хто, на маю думку, найбольш падыходзіць у якасці пераемцы на пасадзе Магістра.

Ён дастаў з кішэні і паклаў некалькі складзеных лісткоў паперы. Потым ён устаў, старшыня таксама. Кнэхт падышоў да Аляксандра і доўга з маркотнай прыязнасцю глядзеў яму ў вочы. Потым ветліва пакланіўся і сказаў:

— Я хацеў вас папрасіць даць мне на развітанне руку, але цяпер бачу, што павінен ад гэтага адмовіцца. Вы заўсёды былі мне асабліва дарагі, і сённяшні дзень нічога ў гэтым не перамяніў. Бывайце, дарагі і паважаны дружа!

Аляксандр маўчаў. Бледнасць заліла яго абліччаʼ нейкае імгненне здавалася, быццам ён хоча падняць руку і падаць яе Ёзэфу. Ён адчуў, што вочы яго павільгатнелі.

Унурыўшы галаву, ён адказаў на Кнэхтаў паклон і адпусціў яго.

Пасля таго як Кнэхт зачыніў за сабою дзверы, Аляксандр пастаяў яшчэ нейкі час нерухома, услухоўваючыся ў крокі, і калі яны аціхлі і ўсё супакоілася, ён з хвіліну пахадзіў па пакоі з канца ў канец, пакуль звонку зноў не пачуліся крокі і нехта не пастукаў у дзверы. Увайшоў малады служка і аб'явіў, што нейкі наведнік хоча гаварыць з Магістрам.

— Скажы яму, што я змагу прыняць яго праз гадзіну і што я прашу яго быць кароткім, бо мяне чакаюць неадкладныя справы. Не, чакай! Ідзі ў канцылярыю і перадай сакратару, няхай спешна скліча паслязаўтра пасяджэнне Калегіі і паведаміць усім яе членам, што прысутнасць іх мусовая і толькі цяжкая хвароба можа апраўдаць няяўку. Акрамя таго, схадзі да кашталяна і накажы яму, што заўтра раніцай я павінен ехаць у

Вальдцэль, хай распарадзіцца, каб на сем гадзін мне падалі экіпаж...

— Дазвольце далажыць, — сказаў хлопец, — пан Магістр мог бы скарыстацца экіпажам Магістра Гульні.

— Як гэта?

— Шаноўны прыехаў учора ў экіпажы. А толькі што ён выйшаў з дома і сказаў, што далей пойдзе пеша і пакідае экіпаж тут у распараджэнні Калегіі.

— Добра. Тады я паеду заўтра ў вальдцэльскім экіпажы. Паўтарыце, калі ласка, мае распараджэнні.

Служка паўтарыў:

— Наведнік будзе прыняты праз гадзіну і ненадоўга. Першы сакратар павінен будзе на паслязаўтра склікаць пасяджэнне, прысутнасць усіх абавязковая, толькі цяжкая хвароба вызваляе ад яўкі. Заўтра, а сёмай раніцы, — ад'езд у Вальдцэль у экіпажы Магістра Гульні.

Калі хлопец выйшаў, Магістр Аляксандр уздыхнуў і падышоў да стала, за якім толькі што сядзеў з Кнэхтам; у вушах у яго ўсё яшчэ гучалі крокі гэтага незразумелага чалавека, якога ён любіў болей, чым каго б там ні было, і які так балюча зацяў яго. Заўсёды, яшчэ з тае пары, калі Кнэхт служыў пад яго кіраўніцтвам, ён любіў гэтага чалавека, і сярод іншых яго якасцяў яму асабліва падабалася яго паходка, цвёрдая і рытмічная і разам з тым лёгкая, амаль бязважкая, недзе паміж важнасцю і дзіцячасцю, па-свойму прывабная і арыстакратычная паходка, якая вельмі пасавала твару і голасу Кнэхта. Не менш гарманіравала яна і з яго спецыфічнай манерай несці сан кастальца і Магістра, з уласцівымі яму ўладарнасцю і весялосцю, што часам нагадвала высакародную стрыманасць яго папярэдніка, Магістра Томаса, а часам прастату і сардэчнасць старога Магістра музыкі. І вось ён пайшоў, паспяшаўся, пайшоў пеша, бог ведае куды, і хутчэй за ўсё Аляксандр больш ніколі з ім не пабачыцца, ніколі не пачуе яго смеху, не ўбачыць, як яго прыгожая рука з доўгімі пальцамі крэсліць іерогліфы Гульні. Старшыня ўзяў са стала напісаныя лісткі і пачаў іх чытаць. Гэта быў кароткі запавет, складзены з вельмі лаканічных выразаў, па-дзелавому, часта толькі накідамі замест фраз, і прызначаліся яны, каб палегчыць кіраўніцтву працу над рэвізіяй Селішча Гульні і пры выбарах новага Магістра. Прыгожым дробным почыркам былі запісаны разумныя заўвагі, у словах і ў форме літар выяўлялася

непаўторная, ні да кога не падобная асоба Ёзэфа Кнэхта не меней, чым у яго твары, голасе, паходцы. Нялёгка будзе Калегіі знайсці роўнага яму пераемніка: сапраўдныя ўладары і характары сустракаюцца рэдка, і кожную асобу трэба разглядаць як дарунак і шчаслівую выпадковасць, нават тут, у Касталіі, у Правінцыі выбраных.

Праходка Кнэхту спадабалася, ён ужо шмат гадоў не вандраваў пеша. Калі добра ўспомніць, дык, бадай што, яго апошняе пешае падарожжа было тое, што прывяло яго аднойчы з кляштара Марыяфельс назад у Касталію, на тую штогадовую Гульню ў Вальдцэлі, якая была так азмрочана смерцю Магістра Томаса фон дэр Травэ, чым пераемцам яму давялося стаць. Наогул, калі ён вяртаўся ў думках да таго далёкага часу, асабліва да часоў студэнцтва і Бамбукавага гаю, у яго было заўсёды такое адчуванне, быццам ён пазірае з халоднае, голае камеры на прасторны, асеяны сонцам пейзаж — як на нешта незваротнае, як толькі на нейкі яркі, каляровы ўспамін; такі роздум, нават калі ён і не будзіў скрухі, выклікаў карціны чагосьці вельмі далёкага, іншага, таямніча-святочнага, такога не падобнага на сённяшнія будні. Але сёння, у гэты ясны, сонечны вераснёўскі дзень, з яго сакавітымі барвамі зблізку і пяшчотнымі, блакітнавата-бэзавымі, пераліўстымі адценнямі далечыні, у час гэтага радаснага шпацыру і бяздумнага сузірання ўсё тое, што адышло ў мінулую вандроўку, здалося яму зусім не недасягальным раем, — не, сённяшні шпацыр быў падобны на той, сённяшні Ёзэф Кнэхт быў падобны на таго, як родны брат, усё было зноў новае, таямнічае і столькі абяцала, быццам мінулае магло вярнуцца і прынесці яшчэ шмат новага. Даўно ўжо дзень і ўвесь белы свет не здаваліся яму такімі лёгкімі, прыгожымі і нявіннымі. Шчаслівае адчуванне свабоды і незалежнасці п'яніла яго як моцнае віно: даўно не прыходзіла такое адчуванне, гэтая салодкая, дзівосная ілюзія! Ён пашукаў у памяці і ўспомніў часіну, калі гэтае непараўнанае адчуванне ўпершыню натыкнулася на перашкоду і яго скавалі быццам ланцугамі: гэта было пад час гутаркі з Магістрам Томасам, пад яго прыветна-іранічным позіркам. Кнэхт зноў перажыў усю цяжкаснасць той часіны, калі ён страціў сваю

свабоду: гэта не быў рэальны боль, пякучая пакута, — хутчэй баязлівасць, лёгкае перасцерагальнае трымценне, смактанне ў грудзях, змена тэмпературы, усяго тэмпу жыцця. І вось ён ужо вылечаны і ўзнагароджаны за пакутлівае, да знямеласці, камяком у горле, адчуванне той фатальнай хвіліны.

Яшчэ ўчора па дарозе ў Хірсланд Кнэхт вырашыў: што б там ні здарылася, ён нізавошта не пакаецца ў тым, што зрабіў. На сёння ён забараніў сабе нават думаць пра падрабязнасці сваёй гутаркі з Магістрам Аляксандрам, пра сваю барацьбу з ім і за яго. Цяпер ён увесь аддаўся адпачынку і свабодзе, што перапаўняе яго, як перапаўняе такое пачуццё селяніна, які скончыў цяжкі працоўны дзень; у душы быў спакой, ён ведаў, што вольны ад усіх абавязкаў, што нікому ў гэтую хвіліну не патрэбны, выключаны з усяго, не павінен ні працаваць, ні думаць; поўны яркіх фарбаў дзень, які пяшчотна апрамяніў яго, увасабляўся толькі гэтым імгненнем, нічога не патрабуючы, не вяртаючы ў мінулае, не клічучы ў будучыню. Часам задаволены Кнэхт напаўголаса напяваў паходную песеньку, адну з тых, якія яны калісь, яшчэ вучні элітарнай школы ў Эшгольцы, распявалі на тры-чатыры галасы на шпацырах, і з пары яснага заранку ягонага жыцця выпырхвалі, быццам галасістыя птушкі, адгалоскі светлых успамінаў і гукаў.

Кнэхт спыніўся пад вішняй, якую восень ужо кранула пурпурай, прысеў на траву. Дастаў з кішэні на грудзях штуку, якой Магістр Аляксандр ніколі ў яго не западозрыў бы, — маленькую флейту — і пачаў пяшчотна разглядаць яе. Гэты просценькі, падобны на дзіцячую цацку інструмент належаў яму з нядаўняга часу, прыкладна з паўгода, і ён з прыемнасцю прыгадаў той дзень, калі флейта зрабілася ягонай. Ён паехаў у Манпор, каб абмеркаваць з Карла Фэрамонтэ некаторыя праблемы тэорыі музыкі; між іншым, зайшла гаворка пра драўляныя духавыя інструменты розных эпох, і Кнэхт папрасіў сябра паказаць яму Манпорскую калекцыю інструментаў. Пасля выдатнай праходкі па некалькіх залах, дзе выстраіліся старадаўнія арганы, арфы, лютні, фартэпіяна, яны прыйшлі на склад, дзе ляжалі інструменты для школ. Там Кнэхт убачыў цэлую скрынку такіх флейтачак, аблюбаваў сабе адну,

паспрабаваў яе і спытаўся ў сябра, ці можна ўзяць яе сабе. Карла са смехам прапанаваў яму выбраць, якую хоча, са смехам выпісаў на яе квітанцыю, пасля падрабязна растлумачыў яму будову інструмента, правілы абыходжання з ім і тэхніку ігры. Кнэхт узяў з сабою гэтую прыемную цацку, цяпер у яго, упершыню пасля дзіцячай флейты ў Эшгольцы, быў духавы інструмент для практыкаванняў у вольны час. Апрача гамаў ён вывучваў старыя мелодыі са зборніка, складзенага Фэрамонтэ для пачаткоўцаў, і з магістарскага саду або з Кнэхтавай спальні часам чуліся мяккія салодкія гукі маленькай флейты. Яму яшчэ было далёка да майстэрства, але ён усё адно вывучыў некалькі харалаў і песень з таго зборніка, ведаў іх на памяць, некаторыя нават са словамі. Адна такая песенька, якая вельмі пасавала пад гэтую хвіліну, прыйшла яму на памяць. Ён сказаў некалькі радкоў:

Маё беднае цела
У дамавіне сатлела.
Але сёння ўстаў я,
Свае путы парваў я
І ў божае неба, шчаслівы, гляджу.

Потым прыклаў інструмент да вуснаў і зайграў мелодыю, паглядзеў на горныя вяршыні ў мяккім ззянні далечыні, пачуў, як адгучалі салодкія пералівы набожна-вясёлай песні, і адчуў сябе ў адзінстве і злагадзе з небам, гарамі, песняй і сённяшнім днём. Яму прыемна было трымаць пальцамі круглую гладкую дзеравяшку і думаць, што, акрамя вопраткі на яго целе, гэтая маленькая флейта — уся маёмасць, якую ён дазволіў сабе прыхапіць з Вальдцэля. За доўгія гады вакол яго набралася нешта накшталт яго асабістага дастатку, асабліва запісы, сшыткі з выпіскамі і іншае; усё гэта ён пакінуў, хай карыстаюцца ў Вальдцэлі, хто хоча. Але маленькую флейту ён узяў з сабой і радаваўся, што яна пры ім; гэта быў мілы і сціплы таварыш у дарозе.

На другі дзень падарожны прыйшоў у сталіцу і з'явіўся ў дом Дэсіньёры. Плініё збег яму насустрач па лесвіцы і ўсхвалявана абняў яго.

— Мы так нецярпліва і трывожна чакалі цябе! — усклікнуў ён. — Ты зрабіў вялікі крок, дружа мой, хай будзе нам усім з таго дабро! Але як яны цябе пусцілі? Вось ніколі не паверыў бы!

Кнэхт засмяяўся:

— Як бачыш, я тут. Але пра гэта я раскажу табе пасля. А зараз я хацеў бы найперш прывітаць майго выхаванца і, зразумела, тваю жонку і падрабязна з вамі дамовіцца, з чаго будуць складацца мае абавязкі. Мне карціць хутчэй узяцца за працу.

Плініё паклікаў пакаёўку і сказаў ёй прывесці сына.

— Маладога паніча? — з відавочным здзіўленнем спыталася дзяўчына, але тут жа шпарка пайшла, а гаспадар правёў сябра ў адведзены яму пакой і з захапленнем пачаў расказваць, як ён усё абдумаў і падрыхтаваў да прыезду Кнэхта і да яго цяперашняга жыцця з Ціта. Усё склалася так, як хацеў Кнэхт, нават маці Ціта пасля нядоўгага супраціўлення зразумела справядлівасць яго патрабаванняў і падпарадкавалася ім. У іх была невялікая дача ў гарах, названая Бельпунт і маляўніча размешчаная на беразе возера; Кнэхт з выхаванцам пажывуць пэўны час там, клапаціцца пра іх будзе старая ахмістрыня, яна ўжо днямі туды перабралася, каб усё падрыхтаваць. Зразумела, там яны прабудуць нядоўга, сама позна да зімы, але менавіта на першым часе такая адасобленасць ім абодвум будзе толькі карысная. Яму, Плініё, гэта прыемна яшчэ і таму, што Ціта вельмі любіць горы і Бельпунт, заўсёды рады пажыць там і згадзіўся на гэта без пярэчанняў. Дэсіньёры ўспомніў, што ў яго ёсць папка з картачкамі дома і наваколля; ён павёў Кнэхта ў свой кабінет, пачаў хутка шукаць, знайшоў, адкрыў папку і пачаў паказваць здымкі і расказваць госцю пра дом, пра пакой у сялянскім стылі, пра кафляную печ, альтанку, купальню каля возера, вадаспад.

— Падабаецца табе? — настойліва дапытваўся ён. — Ці будзе табе там добра?

— Чаму ж не? — спакойна адказаў Кнэхт. — А дзе ж Ціта? Ужо столькі часу прайшло, як ты па яго паслаў.

Яны пагаварылі яшчэ крыху пра тое-сёе, потым пачуліся крокі, дзверы адчыніліся, і нехта ўвайшоў: гэта быў не Ціта і не пасланая па яго служанка. Гэта была Цітава маці, пані Дэсіньёры. Кнэхт устаў павітацца з ёю, яна падала яму руку, усміхнулася крыху змушана, і ён заўважыў, што гэтай усмешкай яна стараецца прыхаваць нейкі клопат ці засмучэнне. Не паспела яна сказаць госцю некалькі прыязных слоў, як ужо павярну-

лася да мужа і паспяшалася сказаць, што яе ўстурбавала.

— Якая непрыемнасць! — усклікнула яна. — Уяві сабе, хлопчык знік, яго нідзе не знайшлі.

— Ну, мусіць, выйшаў пагуляць, — супакойваў яе Плініё, — зараз вернецца.

— Баюся, што не, — сказала маці. — Яго няма з самага рання. Я даўно гэта заўважыла.

— Чаму ж я даведваюся толькі цяпер?

— Я з хвіліны на хвіліну чакала, што вернецца, і не хацела цябе марна трывожыць. Спярша я не падумала нічога благога, думала, што пайшоў пагуляць. Але калі ён не вярнуўся на полудзень, я занепакоілася. Ты таксама не палуднаваў дома, інакш адразу пра ўсё даведаўся б. Але я і тут сябе ўгаворвала, што ён проста так, забыўшыся, прымушае мяне так доўга чакаць. Аказваецца, усё не тое.

— Дазвольце спытацца, — загаварыў Кнэхт, — малады чалавек ведаў пра мой скоры прыезд і пра вашыя планы адносна нас абодвух?

— Вядома, пан Магістр, і ён быў, па ўсім відаць, рады гэтым планам, у кожным разе, ён хацеў лепш атрымаць такога настаўніка, як вы, чым выпраўляцца ў якую-небудзь школу.

— Ну, тады ўсё ў парадку, — сказаў Кнэхт. — Ваш сын, сіньёра, прывык да вялікай свабоды, асабліва ў апошні час, і перспектыва дацца ў рукі выхавальніку і ўтаймавальніку, натуральна, яму зусім не даспадобы. Вось ён і збег у такую хвіліну, калі яго яшчэ не здалі з рук на рукі новаму настаўніку, трэба думаць, не так каб уцякаючы ад назначанай яму долі, як маючы на ўвазе, што ён нічога не прайграе, выгадаўшы час. Апрача гэтага, яму, мусіць, хацелася ўцерці нос і бацькам, і толькі што нанятаму педагогу, і заадно даць выйсце раздражненню супраць усяго свету дарослых і настаўнікаў.

Дэсіньёры спадабалася, што Кнэхт не ўспрыняў гэты інцыдэнт трагічна. Але сам ён быў моцна засмучаны, пяшчотнаму бацькоўскаму сэрцу ўжо трызніліся ўсе магчымыя няшчасці. Хто ведае, можа, Ціта сур'ёзна наважыўся ўцячы, можа, нават задумаў зрабіць з сабою нядобрае? Так, усё няправільнае, альбо ўпушчанае ў выхаванні хлопчыка цяпер помсцілася якраз у тую хвіліну, калі бацькі спадзяваліся паправіць справу.

Насуперак Кнэхтавай парадзе ён настойваў, што трэба нешта зрабіць; не маючы сілы пакорліва і бяздзейна чакаць удару, ён узвінціў сябе да найвышэйшай ступені нецярпення і нервовай узбуджанасці, чым спрычыніў маўклівае асуджэнне свайго сябра. Таму вырашылі паслаць слуг у некалькі дамоў, дзе Ціта бываў у сваіх равеснікаў і таварышаў. Кнэхт узрадаваўся, калі пані Дэсіньёры выйшла, і ён застаўся з сябрам самнасам.

— Плініё, — сказаў ён, — у цябе такі твар, быццам ты ўжо пахаваў свайго сына. Ён не маленькае дзіця і не мог ускочыць пад машыну ці аб'есціся воўчых ягад. Вазьмі сябе ў рукі, прыяцель! Пакуль сынка няма дома, дазволь мне ненадоўга замест яго ўзяць у навуку цябе. Я назіраў цяпер за тваімі паводзінамі і лічу, што ты не ў форме. У тое імгненне, калі атлет аказваецца нечакана пад ударам або пад ціскам, яго мускулы самі па сабе робяць патрэбныя рухі, расцягваюцца або скарачаюцца і дапамагаюць яму авалодаць становішчам. Так і ты, вучань Плініё, у тое імгненне, калі адчуў удар — або тое, што перабольшана палічыў за ўдар, — павінен быў ужыць першы сродак абароны пры душэўных траўмах і ўспомніць пра запаволенае, старанное дыханне. Ты ж замест гэтага дыхаеш, як актор, які павінен паказаць самае вялікае ўзрушэнне. Ты недастаткова добра ўзброены, вы, недухоўныя цывільцы, мусіць, зусім адмыслова паддатныя цярпенням і трывогам. У гэтым ёсць нешта безабароннае і кранальнае, часам жа, калі заходзіцца пра сапраўдную муку і пакутніцтва мае сэнс, — нават велічнае. Але ў будзённым жыцці такое адмаўленне ад абароны — непрыдатная зброя; я паклапачуся, каб сын твой быў узброены лепш, калі яму гэта спатрэбіцца. А зараз, Плініё, будзь ласкавы, зрабі разам са мною некалькі практыкаванняў, каб я пераканаўся, што сапраўды ты ўсё забыўся.

З дапамогай дыхальных практыкаванняў пад строгую рытмічную каманду Ёзэф адвёў сябра ад самамардавання, пасля чаго той згадзіўся выслухаць разумныя довады і заглушыў у сабе страх і трывогу. Яны падняліся ў Цітаў пакой; Кнэхт з прыемнасцю разглядаў раскіданыя хлопчыкавы рэчы, узяў з начнога століка каля ложка кнігу, заўважыў у ёй шматок паперы і вось — гэта была запіска з весткаю ад прапалага. Кнэхт са смехам падаў лісток Плініё, і твар у яго так-

сама пасвятлеў. У цыдульцы Ціта паведамляў бацькам, што сёння рана ён едзе ў горы і будзе чакаць новага настаўніка ў Бельпунце. Ён прасіў дараваць яму гэту невялікую вольнасць, ён дазволіў яе сабе, перш чым ягоная свабода будзе зноў абмежавана, яму страшна не хацелася рабіць гэтае кароткае, але цудоўнае падарожжа з настаўнікам і ў ролі паднаглядната або вязня.

— Я добра яго разумею, — сказаў Кнэхт. — Заўтра я паеду за ім і застану яго ўжо на месцы, у тваім летніку. А цяпер найперш ідзі да жонкі і скажы ёй, што сталася.

Рэшту дня ў доме панаваў вясёлы і спакойны настрой. У той самы вечар Кнэхт па просьбе Плініё каротка расказаў сябру пра падзеі апошніх дзён і пра свае дзве гутаркі з Магістрам Аляксандрам. У гэты вечар ён запісаў таксама цікавы верш на лістку, які цяпер захоўваецца ў Ціта Дэсіньёры. Прычына была такая.

Перад вячэрай гаспадар ненадоўга пакінуў Кнэхта аднаго. Ён убачыў шафу з старымі кнігамі, якая зацікавіла яго. Яму зноў стала прыемна, пачуццё амаль забытае за гады ўстрымання, на яго зноў дыхнула цяплом успамінаў пра студэнцтва: стаяць перад незнаёмымі кнігамі, наўздагад браць то адзін, то другі том, калі пазалота або імя аўтара, фармат або колер пераплёту цябе павабяць. З прыемным пачуццём ён спачатку прабегся вачыма па назвах на карэнцах і пераканаўся, што перад ім белетрыстыка дзевятнаццатага і дваццатага стагоддзяў. Нарэшце ён дастаў адну кніжку ў вылінялым палатняным пераплёце, назва якой — «Мудрасць брамінаў» — прыцягнула яго ўвагу. Спачатку стоячы, потым прысеўшы на крэсле, ён гартаў кнігу, у якой было сотні павучальных вершаў, цікавае змяшчэнне балбатлівай павучальнасці і сапраўднай мудрасці, філістэрства і сапраўднай паэзіі. У гэтай пацешнай кнізе, як яму здалося, зусім не бракавала эзатэрыкі, але яна была схаваная ў глыбокую шкарлупіну свойскай дыхтоўнасці, і якраз самыя прыемныя былі не тыя вершы, што сур'ёзна хацелі перадаць мудрасць, а тыя, у якіх вылілася паэтава душа, яго чалавекалюбнасць, яго здольнасць кахаць, яго сумленны бюргерскі склад. З пачуццём павагі і вясёласці Кнэхт стараўся пранікнуць у сэнс гэтай кнігі, і тут

на вочы трапілася чатырохрадкоўе, якое яму спадабалася і якое ён з прыемнасцю прачытаў і з усмешкай прывітаў, быццам яно было яму паслана менавіта на гэты дзень. Вось яно:

Мы бачым, як мінае час і ўсё старэе,
ды нешта вабнае усё-такі паспее;
насадзім сад і ўсцешымся ў яго зацішку,
дзіця ўзгадуем і дапішам нашу кніжку.

Ён высунуў шуфляду з стала, пакапаўся ў ёй, знайшоў лісток паперы і запісаў на яго чатырохрадкоўе. Пазней паказаў яго Плініё, сказаўшы:

— Вершы мне спадабаліся, у іх ёсць нешта адмысловае: як гэта лаканічна і як задушэўна! Яны так адпавядаюць майму цяперашняму стану і душэўнаму настрою! Хай я не садоўнік і не збіраюся прысвяціць сябе пеставанню саду, але я настаўнік і выхавальца, я на дарозе да сваёй задачы, да дзіцяці, якое я буду выхоўваць. Як я рады гэтаму! Што ж да аўтара гэтых вершаў, паэта Рукерта, дык ён, трэба думаць, быў апанаваны трыма высакароднымі захапленнямі: садоўніка, выхавальца і аўтара, прычым трэцяе стаіць у яго, мусіць, на першым месцы, чаму і згадвае ён яго на апошнім, самым значным; ён настолькі ўлюбёны ў прадмет свайго натхнення, што нават даецца ў пяшчоту і называе кнігу «кніжкай». Як гэта кранае!

Плініё засмяяўся.

— Хто ведае, — сказаў ён,— ці не ёсць гэтая прыгожая памяншальная форма проста данінай вершаванаму памеру, які ў гэтым месцы патрабуе не аднаскладовага, а двухскладовага слова.

— Не будзем недаацэньваць паэта, — запярэчыў Кнэхт. — Чалавек, які за сваё жыццё стварыў дзесяткі тысяч вершаваных радкоў, не запнецца на нейкай дробязнай метрычнай цяжкасці. Не, ты толькі паслухай, як далікатна і сарамяжліва гэта гучыць: «...і дапішам нашу кніжку»! Магчыма, не толькі закаханасць ператварыла «кнігу» ў «кніжку». Магчыма, ён хацеў нешта апраўдаць або прымірыць. Магчыма, нават верагодна, гэты паэт быў настолькі захоплены творчасцю, што сам часам глядзеў на сваю схільнасць да пісання кніг як на род запалу або заганы. Тады ў слове «кніжка» змяшчаецца не толькі адценне закаханасці, але і той прыміральны, абачліва-прабачальны сэнс, які мае на ўвазе

гулец, запрашаючы на гульню «па маленькай», п'яніца, калі ён патрабуе яшчэ «кілішак» або «чарачку». Але ўсё гэта адны дапушчэнні. У кожным разе, гэты вершапісец з яго дзіцём, якога ён хоча выгадаваць, і з яго кніжкай, якую ён хоча напісаць, мае ў мяне поўную падтрымку і спагаду. Бо мне вядомая не толькі любоў да выхавальніцтва, не, і пісанне кніг — таксама любоў, мне зусім не чужая. Цяпер, калі я вольны ад сваёй пасады, гэтая думка зноў набывае ў мяне панадную сілу: калі-небудзь у добры час пры добрым гуморы напісаць кнігу, не, кніжку, маленькі твор сябрам і аднадумцам.

— Пра што? — пацікавіўся Дэсіньёры.

— О, гэта ўсё роўна, тэма не мае значэння. Яна была б толькі прычынай, даб даць нырца ў працу, адчуць шчасце нічым не абмежаванай свабоды. Самае важнае мне — гэта тон, залатая сярэдзіна паміж шанаваннем і даяральнасцю, сур'ёзнасцю і забавай, тон не павучання, а сяброўскіх зносін, магчымасць выказацца пра тое-сёе, што я зведаў і чаму, як мне здаецца, навучыўся. Манеру гэтага Фрыдрыха Рукерта змешваць у сваіх вершах павучальнасць з роздумам і сур'ёзнасць з балбатнёй я, вядома, не пераняў бы, і ўсё ж нечым яна мне мілая; яна індывідуальная і ў той самы час пазбаўленая самаволі, яна вычудлівая і ў той жа час звязана цвёрдымі законамі формы, і гэта мне якраз падабаецца. Пакуль што мне няма калі радавацца і задумвацца над праблемамі творчасці, я павінен ашчаджаць сілу на іншае. Але калі-небудзь пазней, я думаю, і мне зможа расквітнець радасць творчасці, такой, якою яна мне мроіцца: няспешнае, беражлівае дакрананне да рэчаў, і не толькі сабе на радасць, а з пастаяннай аглядкай на нямногіх добрых сяброў і чытачоў.

На другую раніцу Кнэхт выбраўся ў Бельпунт. Напярэдадні Дэсіньёры прапанаваў правесці яго, але ён рашуча адмовіўся, а калі сябар пачаў настойваць, ледзь не раззлаваўся.

— Годзе хлопчыку і таго, — сказаў ён, — што яму прыйдзецца сустрэць навязанага яму настаўніка, навошта ж яшчэ прысутнасць бацькі, якая менавіта сёння наўрад ці будзе яму прыемная.

Калі свежай вераснёўскай раніцай ён ехаў у нанятым яму Плініё экіпажы, да яго вярнуўся добры дарожны настрой учарашняга дня. Ён разгаварыўся з фурманам, часам прасіў яго спыніцца або ехаць павальней,

калі мясцовасць яму асабліва падабалася, некалькі разоў пачынаў іграць на маленькай флейце. Гэта была цудоўная паездка: з даліны, дзе была сталіца, у перадгор'е, усё вышэй і вышэй, усё далей і далей, ад позняга лета ў восень. Каля паўдня пачаўся апошні вялікі пад'ём па шырокай пятлістай дарозе, па разрэджаным хвойніку, уздоўж бурлівых пеністых горных ручаёў у скалах, па мастах, міма адзінокіх абгароджаных высокімі платамі прысадзістых дамкоў з маленькімі вокнамі; пачаўся край каменных хрыбтоў, усё больш суровы і дзікі, і сярод гэтай непрыступнасці і холаду ўдвая мілейшымі здаваліся маленькія паляны, усеяныя кветкамі.

Невялікі летнік, да якога яны нарэшце дабраліся, стаяў на беразе горнага возера, прытуліўшыся да сівых скал, на фоне якіх ледзь можна было разгледзець яго. Убачыўшы дом, падарожнік адразу ацаніў яго строгую, крыху змрочную архітэктуру, якая выдатна гарманіравала з суровым горным краявідам; але якраз тут радасная ўсмешка асвятліла яго твар, бо ў адчыненых дзвярах ён убачыў хлопца ў яркай курце і кароткіх штанах, і гэта быў не хто там які, а яго вучань Ціта; і хоць Кнэхт увесь гэты час не дужа каб непакоіўся за ўцекача, ён усё ж удзячна і з палёгкай уздыхнуў. Калі Ціта тут і вітае яго на парозе дома, значыцца ўсё добра і адпалі яго страхі пра магчымыя цяжкасці, якія ў дарозе ўсё-такі ўзнікалі ў яго.

Хлопчык пайшоў яму насустрач з прыветлівай і крыху збянтэжанай усмешкай, дапамог выйсці з экіпажа.

— Я не хацеў вас пакрыўдзіць, прымусіўшы праехаць усю дарогу сюды ў адзіноце, — і, не дачакаўшыся настаўнікавага адказу, даверліва закончыў: — Я думаю, вы зразумелі мяне. Інакш вы напэўна прывезлі б бацьку. Я ўжо паведаміў яму, што добра дабраўся.

Кнэхт усміхнуўся і паціснуў яму руку і пайшоў за ім у дом, дзе яго вітала ахмістрыня, якая паведаміла, што вячэра неўзабаве будзе гатовая. Калі Кнэхт, прымаючы непрывычную яму патрэбу, ненадоўга прылёг перад вячэрай, ён раптам адчуў, што стаміўся, нават знясілеў, хоць паездка ў экіпажы была даволі прыемная; і ўвечары, калі ён гаварыў з вучнем і разглядваў ягоны гербарый горных раслін і калекцыю матылькоў, яго ўсё больш разбірала гэтая знямога, ён нават адчуў нешта падобнае на замарачэнне, незвычайную дагэтуль пустату ў галаве і нервовыя штуршкі сэрца. Тым не меней ён

прасядзеў з Ціта да ўмоўленага паміж імі часу класціся спаць, і з усяе сілы стараўся не паказаць яму сваёй нямогласці. Вучань быў крыху здзіўлены, што Магістр ні словам не акінуўся пра пачатак заняткаў, расклад урокаў, апошнія адзнакі; калі ж Ціта паспрабаваў скарыстаць добры настаўнікаў настрой і прапанаваў заўтра выправіцца ў далёкі шпацыр, каб паказаць новыя мясціны, настаўнік ласкава прыняў яго прапанову.

— Я вельмі рады такой прагулцы, — дадаў Кнэхт, — і хачу адразу папрасіць у вас адной паслугі. Разглядаючы ваш гербарый, я пераканаўся, што вы намнога лепш ведаеце горную флору, чым я. Між іншым, адна з задач нашай супольнасці ў тым, каб абменьвацца ведамі, падцягваць адзін аднаго; пачнём жа з таго, што вы праверыце мае кволыя веды ў батаніцы і дапаможаце мне нагнаць упушчанае.

Калі яны сказалі адзін аднаму «дабранач», Ціта быў вельмі задаволены і поўны самых добрых намераў. Магістр Кнэхт і гэтым разам яму спадабаўся. Ён не кідаў пустых і высокіх слоў і не размазваўся пра навуку, даброць і высакароднасць духу, як гэта любілі школьныя настаўнікі, але было ў гэтым няўзрушным, прыветлівым чалавеку, ва ўсім яго выглядзе, у мове нешта такое, што абавязвала і заклікала да высакародных, добрых, рыцарскіх і высокіх памкненняў і сіл. Калі ашукаць і перахітрыць любога настаўніка лічылася радасцю, нават доблесцю, дык у адносінах да такога чалавека, як Магістр, гэтая думка не магла нават прыйсці ў галаву. Ён... але ж бо, а што ён і хто ён? Ціта задумаўся: што ж у гэтым чужым чалавеку было такое, чым ён яму так падабаўся і выклікаў павагу? І ён зразумеў: гэта яго высакародства, яго арыстакратызм, яго ўладнасць. Вось што найперш падкупляла ў ім хлопца. Гэты Магістр Кнэхт быў арыстакрат, ён быў пан, высакародны чалавек, хоць ніхто не ведаў, адкуль ён і ці не быў яго бацька просты шавец. Ён быў высакароднейшы і танчэйшы, чым большасць знаёмых яму мужчын, не выключаючы нават яго роднага бацькі. Хлопец, які так высока ставіў патрыцыянскія рысы і традыцыі сваёй сям'і, які не мог дараваць бацьку, што той пагарджаў гэтымі традыцыямі, упершыню ў жыцці сустрэў духоўны, набыты арыстакратызм, — тую сілу, якая пры шчаслівых акалічнасцях можа часам тварыць цуды і, пераскочыўшы цераз доўгі рад продкаў і пакаленняў, на працягу аднаго ча-

лавечага жыцця ператварыць сына плебея ў высакароднага чалавека. У душы ў палкага і ганарыстага варухнулася прадчуванне, што прыналежнасць да такога роду арыстакратыі і служэнне ёй магло б стаць яго абавязкам і гонарам, што, магчыма, менавіта тут, з паяўленнем гэтага настаўніка, які пры сваёй ціхмянасці і прыязнасці быў наскрозь панам, ён наблізіўся да разгадкі сэнсу свайго жыцця і задач, якія перад ім стаялі.

Кнэхта правялі ў яго пакой, але ён не адразу лёг, хоць яму моцна хацелася спаць. Гэты вечар стаміў яго, яму было цяжка трымаць сябе ў руках пры маладым чалавеку, які несумненна ўважліва назіраў за ім, і ні словам не выдаць, ні рухам, ні голасам сваёй дзіўнай, усё больш цяжкай стомы, або дрэннага настрою, або хваробы. Але, відаць па ўсім, яму гэта ўдалося. Цяпер, аднак, ён павінен перамагчы гэтую пустату, гэтую нямогласць, кружэнне галавы, смяротную стомленасць, поўную трывогі, а таму ён павінен, у першую чаргу, яе распазнаць і зразумець. Гэта далося яму даволі лёгка, хай і не адразу. Ён пераканаўся, што ягоная нядужасць не мела ніякіх прычын, акрамя сённяшняй паездкі, пад час якой ён за вельмі кароткі час трапіў з даліны на вышыню дзвюх тысяч метраў. Ён дрэнна перанёс такі хуткі пад'ём, бо з часоў ранняй маладосці, калі зрабіў некалькі такіх пад'ёмаў, не бываў на вышыні і не прывык да яе. Мусіць, яшчэ дзень-другі ён будзе адчуваць сябе нядобра, калі ж і тады яно не пройдзе і яму не зробіцца лепей, давядзецца ім з Ціта і ахмістрыняй вярнуцца дамоў, тады, значыцца, план яго сябра Плініё адносна чароўнага Бельпунта не здзейсніцца. Шкада, вядома, але і бяды ў гэтым вялікай няма.

Раздумваючы пра ўсё гэта, ён лёг у ложак, але правёў ноч амаль без сну, то вяртаючыся ў думках да падарожжа, пачынаючы з хвіліны ад'езду з Вальдцэля, то спрабуючы супакоіць сэрца і ўзбуджаныя нервы. І пра вучня свайго ён думаў многа і прыязна, але не робячы ніякіх планаў; яму здавалася, што гэта пародзістае, але гарачае жарабятка лягчэй за ўсё прыручаць дабрынёй і цеснай еднасцю, без лішняй спешкі, без пануквання. Ён марыў спакваля прывесці хлопца да ўсведамлення сваіх здольнасцяў і сілы і адначасова ўзгадаваць у ім высокую цікаўнасць, тую высокую незадаволенасць сабой, якія даюць сілу на любоў да навукі, да духоўнага жыцця, да прыгожага. Гэта была высокая

задача, яго выхаванец — не проста першы стрэчны хлопец, малады талент, які трэба абудзіць і ўкласці ў пэўную форму; як адзіны сын багатага і ўплывовага патрыцыя, Ціта павінен быў, апрача таго, стаць у будучым адным з уладароў, адным з творцаў грамадскага і палітычнага жыцця краіны і народа, адным з тых, хто заклікаці служыць прыкладам і весці за сабой людзей. Касталія запазычылася сямейству Дэсіньёры: даверанага ёй калісьці бацьку Ціта яна выхавала не дужа добра, недастаткова загартавала, паставіла ў цяжкае становішча паміж цывільнымі і духоўнымі інтарэсамі, зрабіла тым самым няшчасным не толькі адоранага і прывабнага маладога Плініё, чалавека з неўладкаваным жыццём, якім ён не здолеў кіраваць, але і яго адзінага сына наразіла на небяспеку быць уцягнутым у праблемы, якія турзалі бацьку. Тут трэба было шмат чаго загоіць і направіць, нібы сплаціць пазыку, і Кнэхту было радасна і здавалася поўным сэнсу, што такая задача выпала менавіта на яго долю, яму, упартаму і ўяўнаму адступніку.

Раніцай, толькі пачуўшы ў доме гукі абуджанага жыцця, ён устаў, знайшоў каля пасцелі пакладзены яму купальны халат, накінуў яго паверх лёгкай начной бялізны і прайшоў, як яму напярэдадні паказаў Ціта, праз заднія дзверы ў крытую галерэю, якая злучала дом з купальняй і з возерам.

Перад ім ляжала невялікае азярцо, зеленавата-сталёвая паверхня яго была нерухомая, па той бок уздымаўся высокі, круты і скалісты схіл з вострым, зазубраным грэбенем, які як бы ўразаўся ў празрыстае, зеленаватае, па-ранішняму празоленае неба і адкідваў рэзкі, халодны цень. Але ўжо адчувалася за гэтым грэбенем сонца, прамяні яго ўспыхвалі то тут, то там рэдкімі іскрамі ўздоўж вострага камяністага хрыбта; яшчэ лічаныя мінуты — і з-за зубчастай вяршыні выкаціцца сонца і залье яркім святлом возера і горную даліну. Уважліва і засяроджана ўглядаўся Кнэхт у гэтую карціну, успрымаў цішыню, суровасць і хараство як нешта далёкае і ў той самы час яму блізкае і вабнае. Глыбей, чым пад час учарашняй паездкі, адчуў ён моц, халадпасць і велічную непрытульнасць гэтага горнага краю, які не раскрываецца насустрач чалавеку, не вабіць яго да сябе, а толькі трывае. І яму здалося дзіўным і поўным значнасці, што свае першыя крокі ў свабоднае зям-

ное жыццё ён робіць менавіта тут, сярод маўклівай і халоднай велічы.

Падышоў Ціта, у адным купальным касцюме, падаў яму руку і сказаў, паказваючы на скалу насупраць:

— Вы прыйшлі якраз у пару, зараз узыдзе сонца. Ах, як жа хораша тут угары!

Кнэхт ласкава кіўнуў яму. Ён ужо ведаў, што Ціта любіць рана ўставаць, бегаць, дужацца, хадзіць, хоць бы з пратэсту супроць сваёй немужчынскасці, супроць лянівага, панскага жыцця бацькі. З гэтай самай прычыны хлопец пагардліва адмаўляўся ад віна. Гэтыя звычкі і схільнасці, праўда, часам ставілі Ціта ў позу першабытнага дзікуна з яго пагардлівымі адносінамі да дубхоўнасці. Імпэт да перабольшанняў, відаць, быў у крыві ва ўсіх Дэсіньёры, але Кнэхт вітаў гэта, ён нават вырашыў выкарыстаць заняткі спортам як сродак для заваявання і ўтаймавання палкага юнака. Адзін з нямногіх сродкаў, і нават не самы важны; ад музыкі, напрыклад, ён чакаў куды большага. І, зразумела, ён не спадзяваўся дабіцца роўных поспехаў з маладым чалавекам у фізічных высцігах, тым болей не імкнуўся яго выперадзіць. Даволі проста ўдзелу, які ні да чога не абавязвае, каб паказаць юнаку, што яго выхавальнік — не баязлівец і не заўзяты дамасед.

Ціта пільна ўглядаўся ў цёмны грэбень гары, за якою клубілася пазалочанае золкам неба. Раптам край скалістай вяршыні ўспалыхнуў, быццам распалены і ўжо крыху прыплаўлены метал, абрысы хрыбта расплыліся, ён як усё роўна адразу паніжэў, быццам, растаючы, асеў, і з палымянага правалу выплыла сляпучае дзённае свяціла. І адразу ўсё навокал раззіхацелася: зямля, дом, купальня, бераг возера з гэтага боку, і два чалавекі, якія апынуліся пад яркімі праменямі сонца, вельмі хутка адчулі яго дабратворчае цяпло. Хлопец, захоплены ўрачыстай прыгажосцю гэтага імгнення і пераможным адчуваннем сваёй маладосці і сілы, пацягнуўся, раскінуў рукі рытмічным рухам, за якім падалося і ўсё цела, каб у экстатычным танцы прывітаць нараджэнне дня і выказаць сваю душэўную еднасць з раскалыханымі і распраменёнымі вакол яго стыхіямі. Ён то памыкаўся ў радасным пакланенні насустрач пераможнаму сонцу, то малітоўна адступаў; распасцёртыя рукі быццам хацелі прыціснуць да сэрца горы, возера, неба, укленчыўшы, ён прывітаў маці-зямлю, прасціраннем рук — воды

возера, прапануючы вечным сілам, як святочны дарунак, сваю маладосць, сваю свабоду, сваю запаветна распаленую ўпоенасць жыццём. На яго смуглых плячах ігралі сонечныя блікі, вочы былі прыплюшчаныя пад сляпучымі прамянямі, на юным твары з нерухомасцю маскі застыў выраз захопленай, амаль фанатычнай сур'ёзнасці.

Магістр таксама быў узбуджаны і ўсхвалявины ўрачыстым відовішчам нараджэння дня ў маўклівай каменнай пустэльні. Але яшчэ болей, чым гэтая карціна, узрушыла і захапіла яго ператварэнне чалавека на ягоных вачах, святочны танец яго выхаванца ў славу раніцы і сонца, які падымаў нясталага, паддатнага вычудам хлопца да амаль літургічнай засяроджанасці і раскрываў перад ім, гледачом, яго самыя запаветныя і высакародныя схільнасці, дараванні і прызначэнні, гэтаксама раптоўна і сляпуча сарваўшы з іх усе покрывы, як сонца агаліла і высвеціла халодную і змрочную цясніну. Юная істота гэтая стала перад ім больш дужай і значнай, чым ён уяўляў яе сабе дагэтуль, але затое і больш жорсткай, недаступнай, чужой духоўнасці, паганскай. Гэты святочны і ахвяравальны танец юнака, апантанага радасцю Пана, важыў больш, чым прамовы і паэтычныя творы Плініё ў маладосці, ён падымаў Ціта намнога вышэй за бацьку, але і рабіў яго больш чужым, няўлоўным, недаступным пакліку.

Сам хлопчык быў ахоплены гэтай апантанасцю, не ўсведамляючы, што з ім адбываецца. Яго танец не быў ужо вядомым, паказаным яму, вывучаным танцам; гэта не быў таксама прывычны, самастойна вынайдзены рытуал у гонар ранішняй зары. І танец яго, і магічная апантанасць, як ён зразумеў толькі пазней, былі народжаныя не толькі паветрам гор, сонцам, раніцай, адчуваннем свабоды, але і не ў меншай ступені новай прыступкай у маладым яго жыцці, чаканнем нейкіх перамен, што ўзнікалі перад ім у вобразе такога ж прыветлівага, як і шаноўнага Магістра. У гэты ранішні час у лёсе Ціта і ў ягонай душы супала ўсё тое, што вылучала гэты час з тысячаў іншых як асабліва ўзнёслы, святочны, свяшчэнны. Не ўсведамляючы, што ён робіць, без разваг і сумнення, ён тварыў тое, чаго патрабавала ад яго гэтая шчаслівая хвіліна, укладваў у танец сваё захапленне, благаў малітвай да сонца, выліваў у самазабыўных рухах цела сваю радасць, сваю веру ў жыццё,

сваю дабрачыннасць і пакланенне. Ганарыста і ў той самы час пакорліва ён прыносіў сваю малітоўна-трапятлівую душу ў ахвяру сонцу і божышчам, а разам з гэтым і прадмету свайго абагаўлення і страху, мудрацу і музыканту, які з'явіўся з невядомых сфераў, майстру магічнай Гульні, будучаму свайму выхавальніку і сябру.

Усё гэта, як і баль фарбаў у хвіліну ўзыходу сонца, трывала нядоўгія імгненні. Усхвалявана глядзеў Кнэхт на гэта дзівоснае відовішча, калі вучань у яго на вачах ператвараўся і, увесь раскрыўшыся перад ім, ішоў яму насустрач, новы і незнаёмы чалавек, у поўным сэнсе слова роўны яму. Абодва яны стаялі на сцежцы паміж домам і хацінай, купаючыся ў моры святла, што лілося з усходу, глыбока ўсхваляваныя віхурай толькі што перажытых адчуванняў, як раптам Ціта, толькі што закончыўшы апошні рух свайго танца, ачуўся ад шчаслівага забыцця і, быццам заспетая знянацку за сваімі адзінокімі гульнямі жывёла, застыў, паступова ўсведамляючы, што ён тут не адзін, што ён не толькі рабіў і перажыў нешта незвычайнае, але і адбывалася гэта на вачах у сведкі. Імгненна ён ухапіўся за першую думку, якая прыйшла ў галаву, каб выйсці са становішча, якое раптам здалося яму ў нечым небяспечным і сарамлівым, каб сілком вырвацца з-пад улады чараў гэтых незвычайных імгненняў, якія так неразрыўна аплялі яго і завалодалі ўсёй яго істотай.

Твар юнака, на якім яшчэ за хвіліну да гэтага не было ўзросту, строгі, як маска, раптам прыняў хлапечы, дураслівы выраз, які бывае ў нечакана разбуджанага з глыбокага сну чалавека. Ён некалькі разоў крыху прысеў, пружынячы ў каленях, з тупым здзіўленнем зірнуў у твар настаўніку і з раптоўнай паспешнасцю, быццам успомніў і баяўся ўпусціць нешта важнае, жэстам працягнуў руку да таго берага возера, што, як палавіна самога возера, ляжаў у глыбокім цяні, які скала пад націскам ранішніх промняў паступова ўсё больш сцягвала да свайго падножжа.

— Калі мы хутчэй паплывём, — усклікнуў ён хутка, з хлапечай гарачнасцю, — мы яшчэ паспеем дабрацца да таго берага раней за сонца!

Ледзь паспеўшы сказаць гэтыя словы, ледзь кінуўшы кліч на спаборніцтвы з сонцам, Ціта магутным скачком галавой уніз кінуўся ў возера, нібы хочучы, ці то з сва-

вольства, ці то сумеўшыся, як мага хутчэй уцячы адгэтуль, энергічнымі рухамі прымусіць забыць толькі што разыграную тут урачыстую сцэну. Вада пырснула фантанам і самкнулася над ім, і толькі праз некалькі імгненняў вынырнулі галава, плечы, рукі і, шпарка аддаляючыся, выступалі над зеленавата-блакітным люстрам вады.

У Кнэхта, калі ён выйшаў на бераг, і ў думках не было купацца або плаваць, дзень на гэта быў занадта халодны, і пасля кепскай ночы ён адчуваў сябе занадта слабым. Цяпер, калі ён стаяў над цёплым сонцам, узбуджаны толькі што перажытым, а таксама таварыскім запрашэннем і выклікам свайго выхаванца, такая смеласць ужо не здавалася яму надта неразумнай. Але найбольш ён баяўся, каб усё, чаму гэты ранішні час даў пачатак, усё, што ён узвяшчаў, зноў не згніло, не знікла, калі Кнэхт цяпер пакіне хлопца аднаго, расчаруе яго, калі ў халоднай дарослай разважлівасці адмовіцца ад прапанаванай пробы сілы.

Праўда, адчуванне няўпэўненасці і слабасці, якое ўзнікла ад хуткага пераезду ў горы, перасцерагала яго, але хто ведае, магчыма, трэба перасіліць сябе, рабіць рэзкія рухі, і тады ён хутчэй адолее сваю немач. Выклік перамог паняверку, воля — інстынкт. Ён хуценька скінуў лёгкі халат, зрабіў глыбокі ўдых і кінуўся ў ваду ў тым самым месцы, куды нырнуў яго вучань.

Возера, падсільванае ледніковымі водамі і даступнае нават у самыя гарачыя дні толькі вельмі загартаваным купальшчыкам, з вострай варожасцю пранізала яго ледзяным холадам. Кнэхт падрыхтаваўся да азнобу, але не да гэтай шалёнай сцюжы, якая адусюль ахапіла яго, быццам палючым агнём, і пасля хвіліннага апёку пачала хутка праймаць усё яго цела. Пасля скачка ён адразу вынырнуў на паверхню, убачыў далёка наперадзе Ціта, адчуў, як яго адольвае ледзяная, дзікая, варожая стыхія, і ва ўяўленні сваім яшчэ змагаўся за мэту заплыву, за павагу і дружбу, за душу хлопца, калі на самай справе ён ужо змагаўся з смерцю, якая выклікала яго на двабой і абхапіла яго ў барацьбе. Усю сілу сваю кінуў цяпер Кнэхт на гэтую схватку і супраціўляўся да таго часу, пакуль не перастала біцца сэрца.

Малады плывец часта азіраўся і з прыемнасцю пераканаўся, што Магістр кінуўся ў ваду за ім. Зноў і зноў ён азіраўся, калі ж заўважыў, што настаўнік знік

з вачэй, занепакоіўся, пачаў шукаць яго вачыма і голасна клікаць, потым павярнуў назад, спяшаючыся на дапамогу. Ён не знаходзіў і ўсё шукаў і шукаў утоплага, плыў і ныраў да таго часу, пакуль сам не знясілеў ад лютага холаду. Ледзь трымаючыся на нагах, задыхаючыся, ён вылез нарэшце на бераг, убачыў купальны халат Магістра на беразе, падняў яго і пачаў машынальна расціраць цела, тулава, рукі і ногі, пакуль скарчанелыя члены яго не сагрэліся. Быццам аглушаны, ён сеў на сонца, гледзячы на возера, зеленавата-блакітная роўнядзь якога здавалася яму цяпер непрывычна пустэльнай, чужой і варожай, і ўсё большая бездапаможнасць і глыбокая скруха авалодалі ім па меры таго, як праходзіла фізічная слабасць і ўсё больш выразным станавілася ўсведамленне жудасці таго, што адбылося.

Якое гора, думаў ён у роспачы, гэта ж я вінаваты ў яго смерці! І толькі цяпер, калі не было перад кім паказваць свой гонар, калі не было каму супраціўляцца, ён зразумеў усёй гаротнасцю свайго ашаломленага сэрца, які дарагі яму гэты чалавек. І ў той час, як ён, насуперак усім адгаворкам, усведамляў сябе вінаватым у смерці Магістра, на яго свяшчэнным трапятаннем нахлынула прадчуванне, што гэтая віна ператорыць яго самога і ўсё яго жыццё, што яна спатрабуе з яго намнога большага, чым ён сам калі-небудзь чакаў ад сябе.

# ВЕРШЫ ШКАЛЯРА І СТУДЭНТА

## СКАРГА

Нам жыць не дадзена. Мы ўсе — струмень,
Гатовыя сябе ў любую форму ўліць:
У грот альбо ў сабор, у ноч, у дзень, —
Наскрозь нас праціна́е прага жыць.

Нястомна запаўняем формаў цьмы,
А дзе ў іх шчасце, дом, радзіма дзе?
Мы вечныя вандроўцы, госці мы,
Нас плуг не кліча, хлеб не нам расце.

Не знаем, што нам вызначыць Гасподзь,
Бо толькі ж гліна мы ў руцэ ў Яго.
Нас мне маўклівы Творца самахоць,
Не ставячы ніколі на агонь,

Каб скамяніць! І так трываць гады і годы —
Да гэтага імкнёмся ў палкай змозе,
Ды вечнасць нас палохае заўсёды
І адпачынкам не стае ў дарозе.

## КАМПРАМІС

Запанявераным і нерашучым
Сумненні нашы — толькі марната.
Наш свет у плоскасці — нас мудра вучаць,
А вымярэнне трэцяе — лухта.

Бо варта ўцвердзіцца на паняверцы,
Што быццам мы жывём у плоскай меры,
Ці зможам веры даць сваёй бяспецы,
Ці зможам жыць у гэтакай хімеры?

Таму, каб у суладдзі вызнаць меры,
Альтэрнатывы лішнія пахеры!

Калі ў навуках ментарскіх бясспрэчна,
Што забягаць наперад небяспечна,
Тады жыць з трэцяй мерай недарэчна.

## ТАЕМНА Ж ПРАГНЕМ...

Духоўным, вабным, ясным, як блакіт,
Здаецца нам жыццё, як танец феяў,
Эфірна лёткае, — яго мы ўмеем
Мяняць на рэчаісна-прэсны свет.

З прыгожых мар сатканая смуга,
Глыбокі сэнс пануе ў міражы,
А там, падыспадам, на дне душы
Жыве па цемры, па крыві туга.

У пустаце спраўляе крутаверць
Жыццё, гатовае служыць гульні,
Таемна ж прагнем будна бавіць дні,
Зачаць, радзіць і ў муках смерць сустрэць.

## ЛІТАРЫ

Мы пішам знакі на паперы белай,
І сэнс у іх такі, што глыбіня
Дасведчаным бывае зразумелай:
На правілах грунтуецца гульня.

А што, калі б дзікун ці месячанін
Прыйшоў сюды і гэты ліст паднёс
Пад свой дапытліва-цікаўны нос
Ды ўгледзеў свет чужы ў пісьмёнах тайных,
Убачыў чарадзейства людазвера
У гэтых А і Б, няведамых яшчэ,
Убачыў жадлівасць сляпых намераў
У рухах языкоў, хвастоў, вачэй,
Нібы на снезе ў лапах гругана —
Апанавала б прага дзікуна
Уразумець праз рысачкі і ўзоры

Светабудоваў іншых лад і крой
І разгадаць чужых сусветаў творы
Па знаках іх пакут, кахання, мрой.
Смяяўся б ён і плакаў — і дзівіўся,
Як раптам свет увесь перамяніўся,
У шрыфт уліўшыся, і як сам свет
Змяшчаецца ў сукупнасці тых знакаў,
Паменшаны ў магічны гэты след
Падобных рысак так, што аніякай,
Здаецца, розніцы ў праявах сутных:
Жыццё, ці смерць, ці радасць, ці пакуты...

І закрычаў бы ў страху, як шалёны,
Ад мук нясцерпных і расклаў агонь —
Ды пад літаній гукі, пад заклёны
Шпурнуў у полымя усе пісьмёны.
І адчуваў дрымотліва, праз сон,
Што адышоў ужо ў Нівеч, Ня-Свет,
Усмоктаны ў Ніколі-Існаванне.
У Нікуды — усміхнуўся б напаслед
І задаволіўся б дазвання...

## ЧЫТАЮЧЫ СТАРАДАЎНЯГА ФІЛОСАФА

Усё, што ўчора поўнілася спрэс
Глыбокім сэнсам спадкаемнай думкі,
Раптоўна блякне, вяне, траціць сэнс
Як нотны стан, дзе зблыталіся гукі,

Бо ключ прапаў, і доўгі шэраг нот
Нямы, будова ссунута, сугуччы
Не маюць сэнсу, і любы акорд —
Ператвараецца ў грук рыпучы.

Так, правільны, суладны думкам твар
Старога мудрамыснага мужчыны
Міжволі змусіць прыгадаць пачвар —
Калі скажаюць хараство маршчыны.

Так пачуццё высокай асалоды
У прыкрасць акунае наша сэрца,
Нібы мы папярэджаныя зроду,
Што зжухне ўсё, згніе і распадзецца.

Але над нэндзай, гніласцю і тлом
Узносіцца нятленны, шчодры, годны
Дух палкасці, азораны святлом,
Дух неўміручы, смерцьспрамоглы.

## АПОШНІ МАЙСТАР ГУЛЬНІ ШКЛЯНЫХ ПЕРЛАЎ

Сядзіць з ружанцам у руцэ стары,
Прыгорблены; а край яго ў віры
Вайны й чумы спустошаны і голы,
Руіны плюшч увіў, здзічэлі пчолы...
Прыглушаныя псалтыр'ёна гукі,
Старэчасць кволая, трасуцца рукі,
Перабіраючы шнурок пярлін:
Блакітны шарык, белы, смаляны,
Малы, вялікі, строга ў лік,
І ўсе кладуцца роўна ў рад шкляны.
Вялікі быў ён сімвалаў уладца,
Магістр мастацтваў многіх абазнаны,
У высокіх колах шчыра шанаваны,
Славуты з краю ў край усім дарадца,
У гурце вучняў і калег вучоных.
Цяпер ён, збытнік свету, тут адзін,
Зыскоўцы не шукаюць ласк ягоных —
Ніхто на дыспуты не кліча старца,
Усё ў мінулым: кнігі, ўлады бэрла,
Кастальскіх школ няма... Сярод руін
Руіна сам ён, з нізкай штучных перлаў,
Цяпер яны — стракаценькая цацка.
Рассыпаўся ў старых руках шнурок,
І коцяцца гарошынкі ў пясок.

## ДА АДНОЙ БАХАВАЙ ТАКАТЫ

Драпцвее моўчы... Змрочышча і цьмень...
Ды праз хаос прасвечвае прамень,
З Нічога формы свету вылучае,
Прасторы ладзіць, з чорнай пустаты
Яўляе прорвы, горныя хрыбты,
Сініць паветра, цвердзь зямлі згушчае,

Той промень-парастак сабой самім
Да творчай спрэчкі будзіць дух прасторы —
І зырка ўспыхвае нямое тло,
Калі яго пранізвае святло,
Парадак ладзіцца, і ў дзіўным хоры
Творцу святла й жыцця лунае гімн.

Да бога ўзносіцца, да перш-асновы,
Паўз безліч твораў, праз змаганне,
Да велічы спазнання ўсіх тайнот
Праз радасць, гора, песню і палёт,
Праз меру, музыку, праз гукі мовы,
Праз рух і дух, праз барацьбу й каханне.

## СОН

Гасцюючы ў гарах, ў манастыры,
Зайшоў я ў час, калі пайшлі маліцца,
У кніжны схоў. Бляск позняе зары
Праз вокны ціха ліўся на паліцы
З радамі скуранымі кніг старых.
Цікаўнасцю працяты, выняў з іх
На пробу першы томік, наўздагад —
«Пра квадратуру круга» — тытул тома.
Вазьму, падумаў, прачытаю дома;
Другая кніга, скураны аклад,
На каранцы: «Пра тое, як Адам
З другога дрэва плод пазнання еў» —
З другога дрэва? Плод жыцця? Дык меў
Ён неўміручасць, пэўна? Нездарма,
Відаць, так думаў я, невыпадкова
Я апынуўся тут, і фаліянт
Убачыў іншы — срэбны шрыфт і кант,
Разьба на вокладцы, і адмыслова
Рукой напісаная назва тома:
«Сакрэт значэння колераў і нот:
Для перакладу ўсіх сугуччаў, тонаў
На мову фарбаў і наадварот»,
О, як шматзначна мова фарбаў тая
Мне загучала раптам! І здалося —
І лепшым доказам таго было ўсё, —

Што я стаю ў бібліятэцы рая;
Дзе ёсць адказ на ўсё, што ні спытаю;
На ўсякі голад ёсць акраец хлеба;
Бо толькі позіркам крануўся тома,
Як тут жа і рабілася вядома,
Што ўсякая здаволіцца патрэба —
З любога дрэва рві пазнання плод,
Якога прагне кожны вучань часта,
Якім прынадзіцца й масцісты майстар.
Тут меўся чысты сэнс, патайны звод
Паэзіі, навукі, мудрыні,
Чароўнасць сілы, ўсякай глыбіні
Пытанняў нашых — ключ з пісьмёнаў тайных,
І тонкі водар духу ў нечуваных
Таемных кнігах быў тут прыхаваны.
Ключы ляжалі тут на ўсякі выбар
Пытанняў, тайнаў, — і той браў адказ,
Каго неспасцігальны клікаў час.

Я разгарнуў дрыготкімі рукамі
На пульце цяжкі фаліянт.
І вось, нібы адкрыліся пісьмёны самі,
(Так часта ў сне ты спрытны рызыкант,
І ўсё даецца ўраз табе і скрозь);
Так быў ■ ўзнесены адразу ў сферы,
Адкуль відна калавароту вось,
Дзе тайны ўсе й містычныя хімеры
Праз вобразы адкрыліся вачам,
Тысячагоддзяў спадкі, вопыт свету
У новых сувязях і ў тых ключах,
І гарманічна складваліся разам,
Як хор планет, пытанні і магчымасць
Здаровы розум наталіць адказам.

За гэты час, калі чытаць ключы ёсць,
Невераготны шлях ■ прабягаў
І празарэнні ўсіх эпох з натуры
У сукупнай сутнасці іх спасцігаў,
Чытаў пісьмёнаў дзіўныя фігуры,
Што спалучаліся, збягаліся чаргою,
Кружыліся, спляталіся паміж сабою,
Ствараючы зноў новыя спалукі, —
Калейдаскопы сэнсавых структур,
Невычарпальны сэнс у тых фігур.

І вось, калі уражаны дарэшты,
Адвёў я вочы ўбок на нейкі міг,
Убачыў: не адзін я тут ля кніг —
Старэнькі нейкі быў, вышукваў нешта
У кнігах; архівіст — раблю выснову —
Сур'ёзны, заклапочаны; і вось
Здалася мне прасветленай наскрозь
Таемнасць гэтай працы адмысловай.
Як важна знаць яе. Стары тым часам
Рукою дрогкаю здымаў чарговы
З паліцы том, прачытваў назву,
На тытул хукаў, выціраў і новы
Па следзе надпіс той рэстаўраваў,
На месца ставіў том і потым зноў
Ішоў далей, і новы том здымаў,
Сціраў і аднаўляў стары назоў.

І раптам стала мне несамавіта —
Мой розум адмаўляўся разумець;
Рашыў вярнуцца да чытання; ледзь
Два-тры радкі прабег, але забыта
Была карціна вобразаў, якія
Складалі свет пазнання, іх стыхія
Не захапляла больш; пісьмёнаў строй
Урок празрысты, ясны страціў свой
І пераблыталіся ўсе радкі,
Сышлі у цемру, некудысьці вонкі,
І з-пад маёй збянтэжанай рукі
Зірнула ў вочы пустата старонкі.

Тут на плячы адчуў я нейкі дотык:
Падняўшы вочы, ўгледзеў я старога,
Які ўзяў том, не мовіўшы нічога, —
Няясны страх мяне жахнуў — і потым
Ён пальцам слізгануў, з аклада змыў
Старую назву, бляклыя пісьмёны,
І знакі новыя, ў якіх мне быў
Адкрыты новы свет, пяром ягоным
Былі накрэслены. Стары памалу
Сабраў прылады і пакінуў залу.

## СЛУЖЭННЕ

Калісьці на пачатку новай эры
Валадарам свае правы здаў люд —
Спраўляць абрад ахвярны, правіць суд
І захаваць у родзе непарушнасць меры
У ладзе з іншай мераю, якая
Заўсёды яркае жыццё свяціл
На небе у гармоніі трымае,
У раўнавазе неўміручых сіл.
Але даўно ўжо божы той парадак
Зламаўся, і зняслыўся мераў свет,
І чалавек адкінуў запавет,
Жыве без святасці ў нязгодзе з ладам,
Ды не памерла вера ў святасць свету
І нам даручана, прарваўшы занядад
Праз гульні знакаў, аднавіць той лад
І перадаць далей святыню гэту.
Магчыма, змрок рассеецца дазвання,
І вернецца закон былых эпох,
І закіруе Сонца, быццам Бог,
І прыме з нашых рук ахвяраванне.

## МЫЛЬНЫЯ ПУЗЫРЫ

Як шмат патолі, думак і настрояў
Адгорне час з старога мудраца,
Пакуль з няясных уяўленняў, мрояў
З апошняй працай дойдзе да канца.

Тым часам палкі малады студэнт
Штурмуе кнігасховішчы, надзеі поўны,
Што ўскалыхне адкрыццямі сусвет,
Якія і завершаць твор ягоны.

Так дзьме дзіця малое у салому,—
Дзівосны твор дыхання паўстае,
Іграюць колеры, нібы псаломы,
Нібы душа тайноты аддае.

Усе творцы: старац, хлопчык і студэнт —
Не мае сэнсу ні старая пена,
Ні новы сон, што створаны імгненна,
Ні ўкладзены з усёй душы імпэт
У ілюзорна-каляровы свет.

## ПАСЛЯ ЧЫТАННЯ «SUMMA CONTRA GENTILES»[1]

Калісь было, здаецца, праўды болей,
З навукай мудрасць не была ў расколе,
І свет шырэйшы быў, было ўсё ясна,
І ўсе жылі паўней і дабрашчасна —
Пра гэта нам даўным-даўно вядома
З кітайскіх мудрацоў і з кніг Платона.
І кожны раз, як мы былі пад шатай
Духоўнасці свяшчэннай Аквіната,
Здаваўся свет суцэльна чыстым раем,
Дзе ўсё навокал яснай праўдайззяе,
Прырода адухоўлена, і строга
Разлічана шляхі вядуць да Бога,
Закон і лад ва ўсім, і без заганы
Ўсе звёны ў цэлае дапасаваны,
А нам, адступнікам, благая доля:
Змаганне марнае з пустой патоляй,
І спаняверанасць, і прага веры,
Імкненне і хімерныя намеры.

Але, магчыма, час такі настане,
Калі на ўсё інакш нашчадак гляне,
І ўсе сумненні нашы, спрэчкі, звады
Здавацьмуцца яму як хор суладны,
І ўсе пакуты нашы і згрызоты
У міфыператворацца, ў тайноты,
І, можа, той, хто сёння чуцен ледзьве,
Найбольшы бляск у гучнай славе мецьме,
І стане прыкладам для пераймання
І моладзі — узорам выхавання
Таму, каму не маем сёння згадкі,
Зайздросціць будуць нашыя нашчадкі.
І думаць будуць, што ў часы былыя
Жылі ў дастатку геніі святыя
І, нібы дзеці, бавіліся шчасна,
Бо вечны дух і ў нас палае ясна.
Наш дух — ён брат адвечнаму, які
Пераэжыве Цябе, Мяне і ўсе вякі.

---

[1] «Сума супроць язычнікаў» (*лац.*).

## ПРЫСТУПКІ

Любая кветка вяне; саступае
І старасць месца юнаму запалу,
І мудрасць з часам гэтак адцвітае,
Нішто не вечна, здоўжыцца памалу.
Павінна быць гатовым наша сэрца
Перарадзіцца, новы даць пачатак
Спалукам іншым, формам, месцам,
Ахвяравацца ў іншы распарадак.
У кожным пачынанні тайнасць тая,
Што нашае жыццё абараняе.

Прыступкамі ўгару павінны йсці мы
І не прывязвацца, як да радзімы.
Дух свету хай не звузіць нам прастору,
Няхай узносіць паэтапна ўгору.
Вось толькі мы ў адной зжыліся сферы,
Ужо лянотнасць наша на парозе,
І толькі той, хто вечна у дарозе,
Перамагае звыкласці хімеры.

Магчыма, што смяротнае прычасце —
Прыступка толькі новага жытла,
Не скончыцца жыццё часовым шчасцем...
Бывай жа, сэрца! У адраджэнне з тла!

## ГУЛЬНЯ ШКЛЯНЫХ ПЕРЛАЎ

Сусвету музыку, людскія творы,
Здаецца, кожны б з захапленнем слухаў, —
Склікаў бы ўсіх з усіх часін і пораў
На свята чыстае шаноўных духаў.

І дазваляем мы сябе праз тайны
Магічных формул весці на арбіты
Жыцця, ў якім усім кіруюць рытмы
І пэўны сэнс змяненняў незвычайных.

У звоне ўсіх сузор'яў шматталосым
Гучыць крыштальна сэнс над нашым лёсам,
Калі ж мы з кола выпасці павінны,
Дык толькі ў самы цэнтр, да сарцавіны.

# ТРЫ ЖЫЦЦІ

## ЗАКЛІНАЛЬНІК ДАЖДЖУ

Гэта было тысячы гадоў таму назад, калі яшчэ ўладу трымалі жанчыны: у родзе і ў сям'і маці і бабулі мелі высокую пашану і поўнае паслушэнства, нараджэнне дзяўчынкі лічылася большым шчасцем, чым нараджэнне хлопчыка.

Жыла ў адным сяле Прамаці роду, ёй было ўжо даўно за сто, але ўсе баяліся яе і шанавалі як каралеву, хоць яна ўжо, колькі людзі памяталі, толькі вельмі рэдка ледзь паварушыць, бывала, пальцам альбо слова скажа якое. Дзень у дзень сядзела яна ў парозе сваёй халупы сярод родзічаў, якія прыслужвалі ёй, і сельскія жанчыны прыходзілі выказаць ёй сваю пашану, падзяліцца клопатам, паказаць дзяцей, папрасіць, каб іх багаславіла; прыходзілі цяжарныя, прасілі, каб дакранулася рукою да жывата і дала імя жданцу. Прамаці часам клала на маці рукі, часам згодна або нязгодна ківала альбо ж заставалася нерухомая. Гаварыла яна мала калі; яна толькі была існая; яна прысутнічала — сядзела і кіравала, сядзела і трымала проста галаву з рэдкімі жаўтавата-сівымі пасмамі валасоў абапал пергаментнага твару з пільнымі арлінымі вачыма; сядзела і прымала пакланенне, дарункі, просьбы, весткі, данясенні, скаргі, сядзела і была ўсім вядомая як маці сямі дачок, як баба і прабаба процьмы ўнукаў і праўнукаў; яна сядзела і ўмяшчала ў паараных глыбокімі маршчынамі рысах і за смуглым ілбом мудрасць, паданні, права, звычаі і гонар вёскі.

Быў вясновы вечар, хмарны і пануры. Перад гліняной халупай продкавіцы сядзела не яна сама, а яе дачка, амаль такая самая сівая і гожая і, бадай, не нашмнога маладзейшая за маці. Яна адпачывала на парозе, на пляскатым камені, накрытым шкурай з нагоды дрэн-

нага надвор'я, а далей расселіся паўкругам, на пяску, на траве, жанчыны з дзецьмі і некалькі падлеткаў; яны збіраліся тут штовечара, калі не было дажджу ці марозу, бо хацелі паслухаць, як дачка родапачынальніцы пабае казкі або напявае выслоўі. Раней гэта рабіла сама Прамаці, а цяпер яна занадта знядужылася і цуралася людзей, і на яе месцы сядзела і расказвала дачка, а як што ўсе казкі і выслоўі яна пераняла ад маці, дык пераняла і голас, і манеру, і спакойную гожасць паставы, рухаў і мовы, а маладзейшыя слухачы ведалі яе намнога лепш за маці, і ўжо амаль не памяталі, што яна сядзела на месцы іншай і апавядала казкі і паданні роду. З яе вуснаў вечарамі крынічыла мудрасць, скарбы роду былі схаваныя пад яе сівізной, за старым маршчыністым ілбом жыла памяць, жыў дух селішча. Калі хто і спадобіўся ведаў і вывучыў выслоўі ці казкі, дык ён гэта пераняў ад яе. Акрамя яе і самой Прамаці ў родзе быў яшчэ толькі адзін мудры мужчына, але ён пазбягаў людзей, і быў гэты таямнічы, вельмі маўклівы чалавек — заклінальнік навальніц і дажджу.

Сярод слухачоў прыладзіўся хлопчык, яго звалі Слуга, а побач з ім маленькая дзяўчынка, яе звалі Ада. Слуга ўпадабаў гэтую дзяўчынку, праводзіў яе часта і абараняў — гэта, канечне, не было каханне, пра каханне ён пакуль што яшчэ нічога не ведаў, бо сам быў дзіця, дзяўчынка ўпадабалася яму таму, што была дачкою заклінальніка дажджу. Пасля Прамаці і яе дачкі хлопчык найвышэй ставіў заклінальніка дажджу. Толькі ж яны былі жанчыны, перад імі можна было нізка схіляцца, іх можна было баяцца, але нельга было нават падумаць, нават употай пажадаць, каб зрабіцца на іх падобным. Між тым заклінальнік надвор'я быў чалавек не вельмі гаваркі, і хлопчыку было цяжка да яго падступіцца; даводзілася шукаць розных падыходаў, і адным такім падыходам быў Слузе клопат пра заклінальнікаву дачку. Пры кожнай нагодзе ён заходзіў па дзяўчынку ў іх халупу, якая стаяла зводдаль, каб увечары разам пасядзець перад халупай старое і паслухаць яе, а потым вёў дзяўчынку дамоў. Так ён зрабіў і сёння, і вось дзеці паселі сярод цёмнай у змроку купкі людзей і слухалі.

Сёння старая расказвала пра вядзьмацкую вёску. Яна гаварыла:

«Бывае, жыве ў вёсцы жанчына, злая, нікому добра-

га не ўзычыць. У такіх амаль ніколі дзеці не родзяцца. А бывае часам, што злосніца так абрыдне вёсцы, што людзі не хочуць жыць з ёю побач. Яны хапаюць яе ноччу, мужа вяжуць, караюць жанчыну дубцамі, праклінаюць, а потым праганяюць далёка-далёка ў цёмныя нетры і балоты і там пакідаюць. З мужа пасля гэтага здымаюць путы і, калі ён яшчэ не дужа стары, дазваляюць яму ўзяць другую жонку. Тым часам выгнанка, калі не загінула, бадзяецца па лясах, па багнах, вучыцца звярынай мове і, пахадзіўшы, паблукаўшы доўгі час, прыбіваецца нарэшце ў маленькае сяльцо, гэта і ёсць вядзьмачая вёска. Там сышліся ўсе нядобрыя жанчыны, якіх людзі прагналі з сваіх селішчаў, і яны збудавалі сабе сваю вёску. Там яны жывуць, кояць свае злосныя чыны і займаюцца вядзьмарствам; асабліва ім падабаецца, бо ў іх няма сваіх дзяцей, заваблівать да сябе дзяцей з сапраўдных вёсак, і, калі якое дзіця заблудзілася ў лесе, не вярнулася дахаты, не думайце, што яно загразла ў балоце ці яго загрыз воўк: ведзьма магла завабіць яго ў лясную глухамань і завесці ў вядзьмацкую вёску. У тыя часы, калі я была яшчэ зусім малая і найстарэйшая ў родзе была мая бабуля, адна дзяўчынка пайшла з сяброўкамі ў лес у чарніцы; яна стамілася і задрамала; яна была такая малая, што зусім схавалася пад лістоўем папараці, і сяброўкі нічога не заўважылі і пайшлі далей; толькі калі пад вечар вярнуліся ў вёску, тут яны і спахапіліся. Паслалі маладых хлопцаў, тыя абнышкарылі ўвесь лес, клікалі яе да самай ночы, ды не даклікаліся і парожнія вярнуліся. Тым часам дзяўчынка адпачыла, прачнулася і пайшла далей і далей у лес. Чым больш разбіраў яе страх, тым хутчэй яна бегла. Яна ўжо даўно не ведала, дзе яна, і толькі бегла і бегла наперад куды вочы вялі, усё далей і далей ад сваёй вёскі, туды, куды ніхто да яе не хадзіў. На шыі ў дзяўчынкі вісеў на шнурку дзіковы зуб, яго ёй падарыў бацька, ён прынёс зуб з палявання, вострым каменем пратачыў у ім дзірку, каб нанізаць на шнурок, а да таго тры разы вывварыў яго ў дзіковай крыві пад мудрыя заклёны; і хто насіў пры сабе такі зуб, таго не бралі ніякія чары. Але вось з нетры выйшла жанчына, гэта была ведзьма, яна прыкінулася ласкавай і соладка сказала: «Дзень добры, дзéцетка маё, ты, мусіць, заблудзілася? Хадзем са мною, я завяду цябе дахаткі». Дзяўчынка пайшла з ёю. Але тут яна ўспомніла, што ёй

наказвалі бацька і маці — каб ніколі нікому не паказвала дзіковага зуба; яна ціхенька зняла зуб са шнурка і схавала яго ў пояс.Шмат гадзін вяла жанчына дзяўчынку па лесе, ужо і на сутонне пайшло, ужо і ноч увабралася, калі яны дайшлі да вёскі, але гэта была не наша вёска, гэта была вядзьмацкая вёска. Дзяўчынку замкнулі ў цёмны хлеў, а ведзьма пайшла спаць у сваю халупу. На раніцу ведзьма спыталася: «А дзікоў зуб у цябе ёсць?» Дзяўчынка адказала, што ёсць, што, бачыце, ён у яе быў, але яна згубіла яго ў лесе, вось толькі шнурочак застаўся, а на ім ужо нічога няма. Тады ведзьма прынесла каменны горшчык з зямлёю, а ў зямлі той раслі тры травіны. Дзяўчынка паглядзела на травінкі і спыталася, што гэта такое. Ведзьма паказала на першую травінку і сказала: «Гэта жыццё тваёй мамы». Потым паказала на другую: «Гэта жыццё твайго таты». Пасля паказала на трэцюю: «А гэта тваё жыццё. Пакуль гэтыя травінкі зелянецьмуць у росце, вы будзеце жывыя і здаровыя. Калі адна пачне вянуць, — заняможа той, чыё жыццё яна азначае. Калі вырваць адну травінку, як я зараз вырву, павінен памерці той, чыё жыццё яна ацаляе». Ведзьма падчапіла пальцамі травінку — гэта было татава жыццё — і пачала цягнуць яе з зямлі, і калі яна выцягнула крышку і паказаўся ўжо беленькі карэньчык, травінка жаласна застагнала...»

Пры гэтых словах дзяўчынка, якая сядзела каля Слугі, падхапілася, быццам яе ўкусіла змяя, крыкнула і стрымгалоў кінулася прэч. Доўга старалася яна суняць страх, які нагнала на яе казка, і вось тут не вытрымала. Адна старая засмяялася. Астатнія напалохаліся не менш за дзяўчынку, але трымаліся і сядзелі. Слуга, адкінуўшы чароўную замроенасць ад казкі і страх, таксама ўскочыў і пабег за дзяўчынкай. Дачка родапачынальніцы распавядала далей.

Хаціна заклінальніка дажджу стаяла каля вясковай сажалкі, туды і рушыў Слуга шукаць уцякачку. Супакойлівымі, ласкавымі словамі, спевам і рознымі галасамі стараўся ён прывабіць яе, ён муркаў, і буркатаў, і тылінкаў, як гэта робяць жанчыны, калі клічуць курэй, цягучым, салодкім галаском, нібы хацеў зачараваць. «Ада, — клікаў і спяваў, — Ада, Адулечка, выйдзі сюды. Не бойся, Ада, гэта я, Слуга». І так ён спяваў і спяваў, і, яшчэ не пачуўшы, не ўбачыўшы сяброўкі, ён раптам адчуў у сваёй далоні яе маленькую, далікатную ручку.

Яна стаяла на дарозе, прыхіліўшыся да сцяны чужой хаты, і чакала з той хвіліны, як пачула Слугу. Яна ўздыхнула і прынікла да хлопчыка, які здаваўся ёй вялікім і дужым — ужо ці не зусім мужчынам.

— Ты спалохалася, га? — спытаўся ён. — Не трэба баяцца, ніхто цябе не пакрыўдзіць, усе любяць Аду. Хадзем дахаты.

Яна ўсё яшчэ дрыжала і ўсхліпвала, але спакваля супакоілася, удзячна і даверліва пайшла за хлопчыкам.

З дзвярэй хаціны прасвечвала цьмянае чырванаватае святло, усярэдзіне, каля агменю, сядзеў, згорбіўшыся, заклінальнік дажджу, на абвіслых валасах пабліскваў пунсовы водсвет; стары расклаў агонь і гатаваў нешта ў двух гаршчэчках. Перш чым увайсці з Адай у хаціну, Слуга нейкую хвіліну, затоіўшы дыханне, цікаваў за ім; хлопчык адразу скеміў, што ў гаршчэчках гатуецца не ежа, гэта рабілася ў іншым начынні, ды і пара была позняя. Але заклінальнік дажджу адразу пачуў, што нехта прыйшоў.

— Хто там стаіць за дзвярыма? — спытаўся ён. — Заходзьце хутчэй. Гэта ты, Ада?

Ён накрыў гаршчэкі вечкамі, падгарнуў да іх жар і прысак і павярнуўся.

Слуга ўсё яшчэ касіў вокам на таямнічыя гаршчэчкі; заўсёды, калі ён бываў у гэтай хаціне, яго разбірала цікаўнасць, на яго находзіла нейкая глыбокая шана, нейкая сарамлівасць. Ён прыходзіў сюды так часта, як толькі выпадала, прыдумваў розныя прычыны, дачыны і чыны, і кожны раз яго адольвала нейкае не то казытлівае, не то перасцерагальнае пачуццё ціхай прыгнечанасці, у якім пахібная цікаўнасць і радасць змагаліся з страхам. Стары не мог не змеціць, што Слуга даўно цікуе за ім і заўсёды паяўляецца там, дзе мяркуе спаткаць яго, што ён, як паляўнічы, ідзе па яго следзе і моўчкі прапануе яму свае паслугі і сваю кампанію.

Туру, заклінальнік надвор'я, глянуў на яго светлымі вачыма драпежнай птушкі.

— Што табе трэба тут? — халадна спытаўся. — Ноч на дварэ, а ты па чужых хатах ходзіш, хлопча.

— Я прывёў Аду, майстар Туру. Яна была ў Прамаці, мы слухалі казку пра ведзьмаў, і раптам Ада спалохалася, закрычала, і вось я яе прывёў дахаты.

Бацька павярнуўся да дзяўчынкі.

— А ты ў мяне палахуша, Ада. Разумным дзяўчаткам няма чаго баяцца ведзьмаў. А ты ж у мяне разумная дзяўчынка, праўда ж?

— Але, тата. А ведзьмы ведаюць розныя страшныя намовы, і калі ў цябе няма дзіковага зуба...

— А, вунь што, і ты б хацела мець дзіковы зуб? А мы давай глянем. Я ведаю сёе-тое лепшае за дзіковы зуб. Я ведаю адзін такі корань і прынясу яго табе, але шукаць і выкопваць яго трэба ўвосень, ён асланяе разумных дзяўчатак ад благіх чараў і робіць іх яшчэ прыгажэйшымі.

Ада радасна заўсміхалася, яна супакоілася, як толькі апынулася сярод знаёмых пахаў хаціны, у цьмяным святле агню.

Слуга нясмела спытаўся:

— А ці нельга, каб і я пайшоў шукаць таго кораня? Ты толькі раскажы мне, які ён...

Туру прымружыў вочы.

— Ці аднаму хлопчыку хацелася б гэта ведаць, — сказаў ён, але голас яго гучаў нязлосна, крыху пакепліва. — Пацярпі. Восенню пабачым.

Слуга выйшаў і знік у тым баку, дзе стаяла хаціна хлопчыкаў, з якімі ён начаваў. Бацькі яго даўно паўміралі, ён быў сірата, і гэта зноў жа была прычына, чаму яго так цягнула да Ады і ў яе хату.

Заклінальнік дажджу Туру быў і сам негаваркі і не любіў слухаць другіх; многія лічылі яго дзіваком, а некаторыя буркуном. Але ён не быў ні дзівак, ні буркун. Ён ведаў усё, што рабілася вакол яго, куды лепш, чым гэта можна было пра яго падумаць, ведаючы яго вучоную і самотніцкую рассеянасць. Бачыў ён і тое, што гэты крыху настырлівы, але далікатны і кемлівы падлетак усюды бегае і назірае за ім, ён заўважыў гэта з самага пачатку, можа, з год ці больш таму назад. Ён нават дакладна ўгадваў, што гэта азначала. А гэта азначала вельмі многае для хлопчыка, але і для яго таксама. Гэта азначала, што хлопчык захапіўся рамяством заклінання дажджу і ні пра што больш так не марыць, як каб самому навучыцца. Час ад часу ў вёсцы траплялiся такія хлопчыкі. Сёй-той ужо і спрабаваў пабегаць за Туру. Некаторых лёгка было ўзяць на паняверку і адцураць, але не ўсе здаліся духам, двух ён некалькі гадоў трымаў пры сабе ў вучнях і памочніках, потым яны з'ехалі ў далёкія селішчы, пажаніліся і

зрабіліся заклінальнікамі дажджу і зельнікамі; з таго часу Туру заставаўся адзін, і калі ён цяпер возьме вучня, дык ужо ж напэўна, каб падрыхтаваць сабе наступніка. Так было заўсёды, і гэта было правільна і не магло быць іначай: зноў і зноў павінен з'яўляцца таленавіты хлопчык і ісці ў шанавальнікі і ў вучні да таго мужчыны, у якім убачыць майстра свайго рамяства. Слуга адораны, у ім ёсць якраз тое, што трэба, майстар бачыў у ім знакі таленту: перш-наперш дапытлівы, адначасова пранозлівы і задуменны позірк, стрыманасць і маўклівасць натуры і нешта ў выразе твару, у павароце галавы, быццам ён увесь час нешта віжуе, высочвае, вынюхвае, быццам ён увесь час напагатове, тонка ўлоўлівае шум і пах; было ў ім нешта і ад птушкі, і ад паляўнічага. Ясна, з гэтага хлопчыка можа выкукліцца добры знаўца прыроды, можа, нават вяшчун, з яго будзе нешта людскае. Але спяшацца няма куды, ён яшчэ замалы, і нічым нельга паказваць яму, што на ім спынілася ўвага настаўніка, нельга спрашчаць яму задачу, зводзіць у бок з пакручастых сцежак. Калі ён сумеецца, дасца на запалох, адхіснецца, калі страціць адвагу — што ж, хай яно так і будзе. Хай чакае і слугуе майстру, хай крадзецца за ім і籠 заваёўвае яго мілажальнасць.

Слуга, задаволены, радасна ўсхваляваны, бег праз ноч пад захмараным небам; толькі дзве-тры зоркі мігцелі над вёскай. Людзі там нічога не ведалі пра асалоды, хараство і вытанчаныя ўцехі, якія нам, людзям сучасным, здаюцца натуральнымі і абавязковымі, якія даступныя нават самым бедным, яны не ведалі ні навук, ні мастацтва, яны не ведалі інакшых будынкаў, апрача скасабочаных гліняных халупін, не ведалі ні жалезнага, ні сталёвага рыштунку, гэтаксама былі ім невядомыя пшаніца і віно, а свечка або лямпа здаліся б гэтым людзям вялікім божым дзівам. Але праз гэта жыццё Слугі і яго ўнутраны свет не былі бяднейшыя, свет быў хлопчыку неахопнай таямніцай, вялікай кнігай з малюнкамі, і кожны дзень ён адваёўваў у свету новую порцыю яго тайнотаў, пачынаючы з жыцця жывёл і раслін і да зорнага неба, і паміж гэтай маўклівай таямнічай прыродай і яго самотнай душою, што трымцела ў кволых хлапечых грудзях, была блізкая зродненасць, у якой жылі напятасць, страх, цікаўнасць і прага валодання, усё, на што здольная чалавечая душа. Няхай у свеце,

дзе ён рос, не было запісаных ведаў, не было ні гісторыі, ні кніг, ні алфавіту, няхай усё, што было далей за тры-чатыры гадзіны дарогі ад яго селішча, было яму невядомае і недасяжнае, затое ў сваім свеце, у сваім селішчы ён жыў адзіным, цэльным жыццём, злітым з усім, што было навокал. Селішча, радзіма, агульнасць роду пад уладай мацярэй давалі яму ўсё, што можа даць чалавеку народ і дзяржава: тлебу з тысячамі каранёў, сярод якіх ён быў толькі маленькі парастак, часцінка цэлага.

Ён задаволены ішоў наперад, у дрэвах шапацеў начны вецер, нешта ціхенька патрэсквала, пахла мокрай зямлёй, трыснягом і тванню, дымам ад сырой драўніны, і гэты тлусты, саладжавы пах больш, чым які іншы, нагадваў пра радзіму; калі ён падышоў да хлапечай хаціны, ён адчуў яе пах, пах маладых чалавечых цел. Не нашумеўшы, ён пракраўся пад трысцяговай цыноўкай у цёплую, надыханую цемру і выцягнуўся на саломе, а ў галаве круціліся думкі пра ведзьмаў, пра дзіковы зуб, пра Аду, пра заклінальніка надвор'я і пра ягоныя гаршчыкі на агні, пакуль сон не змарыў яго.

Туру вельмі стрымана ішоў на збліжэнне з хлопчыкам, ён не хацеў пасабляць яму ў дарозе да яго. Але хлопец хадзіў за ім па пятах, яго цягнула да старога, ён і сам не ведаў — чаму. Часам, калі заклінальнік ставіў пасткі, вынюхваў след, выкопваў корань альбо збіраў насенне ў якім-небудзь глухім куточку лесу, балота ці стэпу, ён раптам адчуваў на сабе позірк хлопчыка, які гадзінамі нячутна скрадаўся за ім і падпільноўваў яго. Часам ён прыкідваўся, што нічога не заўважае, часам сердаваў і гнеўна праганяў назолу, а бывала і так, што пакліча да сябе ды і водзіць дзень цэлы, прымае яго дапамогу, паказвае яму тое, іншае, прымушае адгадваць, выпрабоўвае яго, адкрывае яму найменні зёлак, загадвае зачэрпнуць вады або запаліць агонь, і, што б хлопчык ні рабіў, стары вучыў яго, як тое самае зрабіць яшчэ лепей і спраўней, вучыў яго тайнам і заклёнам, настойліва пераконваў: усё гэта трэба трымаць у сабе, нікому нічога не расказваць. І нарэшце, калі Слуга падрос, заклінальнік дажджу зусім пакінуў яго пры сабе, прызнаў яго сваім вучнем і перасяліў з хлапечай халупы ў сваю. Гэтым ён вылучыў Слугу перад усім племем: яго перасталі лічыць хлопчыкам, цяпер ён вучань заклінальніка дажджу, а гэта азначала, што

калі ён устаіць перад змустай і станецца прыдатны, дык пазней зойме месца старога.

З таго часу як Туру ўзяў Слугу ў сваю хаціну, сцяны паміж імі ўжо не было, не сцяны пашаны і паслушэнства, а сцяны недаверу і замкнёнасці. Туру здаўся, хлопцава настойлівасць скарыла яго; цяпер адзіным яго жаданнем было зрабіць Слугу сапраўдным заклінальнікам надвор'я і сваім пераемцам. На такую вучобу не было ні паняццяў, ні тэорыі, ні метады, ні пісьма, ні лічбаў, і было вельмі мала слоў, і таму майстар развіваў не так розум, як пяць адчуванняў у Слугі. Наперадзе было — не толькі авалодаць усім вялікім багаццем паданняў і вопыту, усім запасам чалавечых ведаў той эпохі і ўмела ўжываць іх, але і навучыцца перадаваць іх далей. Шырокая і багатая сістэма вопыту, назіранняў, інстынктаў, звычкі даследаваць паступова, спаквалля пакуль што вельмі цьмяна раскрываліся перад хлопцам, амаль нічога з гэтага багатага запасу нельга было выказаць у ясных паняццях, даводзілася ўсё спрабаваць, вывучаць, правяраць толькі сваімі пяццю адчуваннямі. Асновай і галоўным зместам гэтай навукі было вучэнне пра месяц, пра яго фазы і ўздзеянне, пра месяц, населены душамі памерлых, якія ён пасылае на новае нараджэнне, каб вызваліць месца новым нябожчыкам.

Акрамя таго вечара, калі ён ад казкі родапачынальніцы бег да агменю старога з ягонымі гаршчыкамі, яшчэ адно адбілася ў памяці ў Слугі — глухая пара паміж ноччу і раніцай, калі настаўнік разбудзіў яго праз дзве гадзіны за апоўнач і выйшаў з ім з дому ў непраглядную цемру, каб паказаць яму апошні ўсход ветаха. Яны доўга чакалі на выступе скалы сярод лясістых пагоркаў; настаўнік — маўклівы і нерухомы, хлопец — крыху спалоханы, сонны і змерзлы, пакуль на дакладна паказаным настаўнікам месцы, у апісанай загадзя форме і нахіле не азначыўся тоненькі сярпок, мякка выгнутая лінія. Баязліва і зачаравана глядзеў Слуга, як павольна ўзыходзіла свяціла, як яно ціха выплывала з мораку воблакаў на чыстую прагаліну неба.

— Неўзабаве ён зменіць свой воблік і зноў пачне расці, тады настане пара сеяць грэчку, — сказаў заклінальнік дажджу, падлічваючы на пальцах дні. І ён зноў змоўк. А Слуга як забыты стаяў на блішчастым ад расы камені і дрыжаў ад холаду, а з нетры даляцеў працяглы савіны крык. Доўга маўчаў стары, задуменны,

потым устаў, паклаў руку на галаву Слузе і сказаў ціха, як праз сон:

— Калі я памру, мой дух паляціць на месяц. На той час ты ўжо будзеш мужчына, у цябе будзе жонка, мая дачка Ада будзе табе жонка. Калі яна народзіць табе сына, мой дух вернецца і ўселіцца ў вашага хлопчыка, і ты назавеш яго Туру, як я называюся Туру.

Вучань здзіўлена слухаў, ён не адважваўся нават слова прамовіць, толькі серабрысты серп месяца падняўся высока, ужо напалавіну яго закрыла хмара. Да юначай душы дзівосна дакранулася прадчуванне мноства ўзаемных сувязяў і спляценняў, паўторнасцяў і перакрыжовін у рэчах і з'явах; дзіўна, здалося яму, што ён пастаўлены тут назіральнікам і нават удзельнікам таго, што адбывалася на гэтым чужым начным небе, дзе над бясконцымі лясамі і пагоркамі выплыў дакладна ўгаданы наперад востры, тонкі серп; дзіўным здаўся яму і сам настаўнік сярод тысяч таямніц, чалавек, які думае пра сваю смерць, чый дух паляціць на месяц і вернецца з месяца зноў, каб усяліцца ў чалавека, і гэтым чалавекам будзе яго, Слугоў, сын, якога трэба назваць імем настаўніка, які жыў раней. Дзівосна расчынілася перад ім будучыня, мясцінамі празрыстая, як вось гэтае воблачнае неба, адкрыўся яму яго лёс, і тое, што яго можна прадбачыць, назваць, гаварыць пра яго, як бы дазволіла хлопцу зазірнуць у неабсяжныя прасторы, запоўненыя дзівосамі і ўсё ж падлеглыя цвёрдаму парадку. На імгненне яму памроілася, быццам усё можна ахапіць духам, усё спазнаць, усё пачуць: і маўклівы дакладны ход свяцілаў угары, і жыццё людзей і жывёл, іх агульнасць і варожасць, сутыкненні і барацьбу, і ўсё вялікае і малое разам з заключанай у кожнай істоце смерцю, усё гэта ён угледзеў або спасціг у першым трапятлівым прадчуванні адзінага цэлага, угледзеў і сябе самога, уключанага ў гэтае цэлае, як нешта, падначаленае парадку, кіраванае пэўнымі законамі, падатнае разуменню. Першае прадчуванне вялікіх таямніц, іх значэння і глыбіні, а таксама іх спазнавальнасці быццам нябачнай рукой дакранулася да хлопца ў гэтай досвіткавай лясной золі, на скале, што ўздымалася над тысячамі шалясткіх вяршалін. Ён не змог бы выказаць гэтага словамі ні тады, ні потым, усё сваё жыццё, але думкамі ён колькі разоў вяртаўся да гэтай хвіліны праз усё жыццё, нават больш — у далейшай яго вучобе і ў

практыцы тое імгненне і ўсё перажытае тады ніколі не пакідалі яго. «Падумай пра тое, — папярэджваў яго ўнутраны голас, — падумай пра тое, што ўсё гэта ёсць, існуе, што паміж месяцам і табою, і Туру, і Адай узнікаюць прамяні і токі, што існуе смерць, і краіна душ, і вяртанне адтуль, што на ўсе з'явы і вобразы жыцця ты знойдзеш адказ у сваім сэрцы, што да ўсяго ты павінен дачыняцца, што пра ўсё ты павінен ведаць стóлькі, колькі сілы чалавек мае ведаць». Так казаў яму гэты голас. Слуга ўпершыню чуў голас духу, зведаў яго звабліvую змусту, яго патрабавальнасць, яго магічны покліч. Няраз ён бачыў, як вандруе па небе месяц, няраз чуў савіны крык, а з вуснаў настаўніка пры ўсёй яго маўклівасці няраз чуў словы — вынік старадаўняй мудрасці і самотлівых роздумаў, — але цяпер у гэты паўночны час, усё было новае, іншае: яго азарыла прадчуванне цэлага, агульнай узаемасувязі і ўзаемадачынёнасці, парадку, што і яго ўцягнуў у сваю арбіту, што і на яго ўсклаў адказнасць. Хто завалодае ключом да гэтых таямніц, той павінен не толькі высачыць звера па следзе, распазнаць расліну па корані або насенні, ён павінен умець ахапіць увесь сусвет: нябесныя свяцілы, духаў, людзей і звяроў, гаючыя сродкі і труцізну, і па асобных частках гэтага цэлага, па асобных яго рысах умець узнавіць астатнія яго часткі. Бываюць добрыя паляўнічыя, яны па следзе, па памёце, па шэрсцінцы пазнаюць больш, чым хто другі; па некалькіх валасках яны пазнаюць не толькі, якой пароды перад імі звер, але і ці стары ён, ці малады, самец гэта ці саміца. Іншыя — па форме воблака, па паху ў паветры, па пэўных прыкметах у паводзінах жывёл ці раслін за некалькі дзён наперад скажуць вам надвор'е; настаўнік Слугі быў у гэтай штуцы недасягальны і амаль ніколі не мыліўся. Бываюць людзі, адораныя прыродным спрытам: некаторыя хлапчукі з трыццаці крокаў цалялі каменем у птушку, яны гэтаму не вучыліся — ім гэта ўдавалася без лішніх намогаў; проста, дзякуючы чарадзейству альбо адмысловаму дару, камень, кінуты іх рукою, ляцеў сам, куды яму трэба, камень хацеў уцэліць птушку, птушка хацела, каб яе дастаў камень. Надараюцца і людзі, якія ўмеюць прадказваць будучыню: памрэ хворы ці не, народзіць цяжарная жанчына хлопчыка ці дзяўчынку; дачка родапачынальніцы славілася гэтым, казалі, што і заклінальнік стыхій ведае не меней. Значыцца, думаў

у тую хвіліну Слуга, у неабсяжнай сетцы счапленняў ёсць нейкі цэнтр, дзе ўсё вядома, дзе можна ўбачыць і прачытаць мінулае і будучае. Да таго, хто стаіць у гэтым цэнтры, сплываюцца веды, як сплывае вада ў даліну, як бяжыць заяц да капусты; слова таго чалавека павінна быць вострае і біць гэтаксама цэлка, як б'е камень, кінуты самай цэлкай рукой; сілай свайго духу чалавек гэты павінен умець злучаць у сабе ўсе дзівосныя здольнасці і прымусіць іх служыць яму: вось гэта быў бы дасканалы, самы мудры чалавек, і раўні яму не было б! Зрабіцца такім, як ён, наблізіцца да яго, вечна да яго імкнуцца — вось найлепшы шлях, вось мэта, вось што можа напоўніць жыццё, даць яму сэнс. Прыкладна такія былі адчуванні ў Слугі, і як бы мы ні намагаліся выказаць іх сваёй, невядомай яму абстрактнай мовай, ніштто не здолее перадаць таго жаху і ўзлёту жарасных пачуццяў, што ахапілі яго. Абуджэнне сярод ночы, дарога праз цёмны маўклівы лес, поўны небяспекі і таемнасці, чаканне на каменным выступе, наверсе, у досвіткавай золі, з'яўленне тоненькага, прывіднага серпіка месяца, ашчадныя словы мудрага старца, самое трыванне тут сам-насам з настаўнікам у такі незвычайны час — усё гэта Слуга перажыў і запамятаў як некую містэрыю, як свята прысвячэння, прыняцця яго ў нейкую суполку, у нейкую рэлігійную абшчыну, у падначаленае, але ганаровае стаўленне да нечага невыказнага, да сусветнай таямніцы. Гэтае перажыванне альбо нешта падобнае не магло ўвасобіцца ў думку, а тым больш у слова; і яшчэ больш далёкай і немагчымай, чым усякая іншая, была б думка: «Што гэта ўсё — маё асабістае перажыванне ці аб'ектыўная існасць? Ці адчувае настаўнік тое самае, што і я, ці, можа, гэта ён пакепвае з мяне? Ці новыя, ці ўласцівыя толькі мне, непаўторныя гэтыя думкі, альбо настаўнік і яшчэ хто-небудзь да яго перажыў і перадумаў тое самае?» Не, такога раздзялення, такой дыферэнцыяцыі не было, усё было рэальна, усё было насычана рэальнасцю, нібы цеста дрожджамі. Воблакі, месяц, зменлівая карціна неба, мокрая, халодная вапна пад босымі нагамі, зольная досвіткавая сырасць у бялёсай імгле, прыемны пах роднай хаты, агменю і звялага лісця, яшчэ жывое ў шкуры, у якую загарнуўся настаўнік, адценне годнасці і кволы водгалас старасці і гатоўнасці да смерці ў яго суровым голасе — усё гэта было больш чым рэальнае і ледзь не ґвалтам

пранізвала ўсе хлопцавы адчуванні. А для ўспамінаў пачуццёвыя ўражанні — куды больш жыўная глеба, чым самыя дасканалыя сістэмы і метады мыслення.

Хоць заклінальнік дажджу належаў да нямногіх, што мелі пэўны занятак, хоць ён дасягнуў адмысловага, даступнага толькі яму майстэрства і ўмення, знешне яго жыццё мала чым адрознівалася ад жыцця астатніх яго родзічаў. Ён займаў высокае становішча і карыстаўся пашанай, меў сваю долю здабычы і ўзнагароду ад племя, калі працаваў на абшчыну, але гэта было толькі ў асобых выпадках. Самай важнай, самай адказнай можна сказаць, свяшчэннай місіяй было вызначаць вясной дзень сяўбы ўсіх пладоў і раслін; высноўваў ён свае разлікі на ўважлівым вывучэнні фазаў месяца і паводле перанятых у спадчыну паданняў і са свайго вопыту. Але ўжо ўрачыстая цырымонія засевак — высяванне першай жмені насення ў абшчынную зямлю — не ўваходзіла ў абавязкі заклінальніка дажджу, такога гонару не рабілі ніводнаму мужчыну, нават самаму шаноўнаму; гэта рабіла сваімі рукамі сама родапачынальніца або яе бліжэйшая сваячка. Самай значнай асобай у селішчы майстар рабіўся ў тых выпадках, калі яму даводзілася заклінаць надвор'е. Гэта бывала тады, калі спусташала доўгая суша, халепа або холад, калі племю пагражаў голад. Тады Туру ўжываў сродкі, здольныя перамагчы сухмень і няўроду: ахвяры, заклёны, ублагальныя шэсці. Паводле падання, калі пры неадступнай сушы ці бясконцых залевах усе астатнія сродкі не даюць папраўы і духаў не ўдалося ўлешчыць ні малітвамі, ні просьбамі-грозьбамі, заставаўся самы апошні, беспахібны сродак, які, як кажуць, калісьці ўжываўся часам прамацеркамі: абшчына прыносіла ў ахвяру самога заклінальніка. Расказвалі, быццам цяперашняя Прамаці бачыла гэта на свае жывыя вочы.

Апрача клопату за надвор'е майстар меў, так сказаць, і прыватную практыку: заклінаў духаў, рабіў амулеты, гатаваў чарадзейныя трункі, а ў пэўных выпадках, калі гэта не было выключнай прывілеяй родапачынальніцы, нават лекаваў. У астатнім Туру жыў, як і ўсе. Ён пасабляў, калі наставала яго калейка на абшчынны польны шарварак, а таксама меў каля хаціны свой невялікі гарод. Сам збіраў садавіну, грыбы, запасаў дровы. Ён лавіў рыбу, паляваў, трымаў казу ці то нават дзве. Як ратай ён быў падобны на ўсіх іншых, а як па-

ляўнічы, рыбак, зельнік раўні сабе не меў, тут ён быў адзін і геній, і хадзіла слава, быццам ён ведае пропадзь жывых і магічных хітрыкаў, ухватак, заскокаў і розных падсобкаў. Казалі, быццам ніводзін звер, які ўлезе ў сплеценую ім лазовую вузільню, нізавошта з яе не выдзерацца, быццам ён умее адмыслова падсаладзіць і паддухмяніць рыбную прынаду, быццам ведае, як прыпрасіць да сябе рака, сёй-той нават верыў, што ён разумее звярыную мову. Але сапраўдным яго заняткам была магічная навука: назіранне за месяцам і зоркамі, зведванне знакаў надвор'я, уменне прадказаць пагоду і рост пасеваў — адным словам, усё чыста, што толькі дапамагала яму ў магічных дзеях. Ён быў вялікі знаўца і збіральнік тых відаў расліннага і жывёльнага царства, з якіх можна было б рабіць гаючыя сумесі або труцізны, напоі з чарадзейнымі ўласцівасцямі, што і бласлаўлялі і асланялі ад усякай нечысці. Ён ведаў, умеў знайсці і пазнаць кожную расліну, нават самую рэдкую, ведаў, дзе і калі яна цвіце і дае насенне, калі прыходзіць пара выкапаць корань. Ён умеў знайсці і распазнаць усе віды змеяў і жаб, ведаў, калі ўжываць рогі, пазуры, шэрсць, капыты, разбіраўся ва ўсякай звырадненасці, нарасцях, свілях, вычварных або жахоткіх крывулінах дрэў, у наплывах, таўсцізнах, пухляках на іх камлях, на лісці, на зерні, арэхах, рагах і капытах.

Слуга вучыўся не так розумам, як адчуваннем, рукамі і нагамі, вачамі і вушамі, нюхам і навобмацак, зрэшты, і Туру вучыў яго больш сваім прыкладам і пазам, чым словам. Настаўнік увогуле вельмі рэдка гаварыў звязна, ды і тое словы яго былі толькі спробай зрабіць больш зразумелымі яго незвычайна красамоўныя рухі. Вучоба Слугі мала чым адрознівалася ад вучобы маладога паляўнічага альбо рыбака ў вопытнага майстра, і яна давала хлопчыку вялікую радасць, бо ён вучыўся толькі таму, што было закладзена ў ім самім. Ён вучыўся высочваць, цікаваць, выслухоўваць, падкрадвацца, назіраць, быць напагатове, не паддавацца дрымоце, вынюхваць і абмацваць; але дзічынай, якую ён і яго настаўнік высочвалі, былі не толькі ліс ці барсук, гадзюкі і жабы, птушкі і рыбы, а дух, сукупнасць, сэнс, сувязь з'яў. Вызначыць і вызнаць, адгадаць і прадказаць змену і за́жывы прыроды, ведаць, у якой ягадзіне, у джале якой змяі тоіцца смерць, падслухаць таямніцу, што звязвае воблакі і вятры з фазамі месяца, уплы-

вае на пасевы і іх рост, а таксама на шчаснасць і пагібель чалавека і звера, — вось да чаго яны імкнуліся. Яны, зрэшты, ішлі да той самай мэты, да якой пасля іх тысячы гадоў ішлі навука і тэхніка, — да спазнання прыроды, да ўмення кіраваць яе законамі, але ішлі яны зусім іншым шляхам. Яны проста не аддзялялі сябе ад прыроды, не спрабавалі сілаю праўваць у яе тайны, яны ніколі не супрацьпастаўлялі сябе прыродзе і не варагавалі з ёю, яны заўсёды заставаліся часткай яе і аддавалі сябе ёй са свяшчэннай любоўю. Магчыма, яны лепш яе ведалі і стасункаваліся з ёю з большым розумам. Адно толькі ў іх было немагчымае нават у самых дзёрзкіх думках, — падыходзіць да прыроды і да свету духаў без пашаны і чты, не адчуваць сябе яе падданымі, а тым болей ставіць сябе вышэй за яе. Такое блюзнерства і ў галаву ім прыйсці не магло, і падыходзіць да сіл прыроды, да смерці, да дэманаў без страху здавалася ім немагчымым. Страх стаяў над жыццём чалавека. Адолець яго было нельга. Але каб зменшыць яго, утрымаць у пэўных межах, перахітрыць, прыхаваць, падпарадкаваць агульнай плыні жыцця, існавала цэлая сістэма ахвяравання. Жыццё гэтых людзей цякло пад заўсёдным ціскам страху, і без гэтага цяжкага ціску з іх жыцця знік бы жах, але ж і энергія знікла б. Каму ўдалося збольшага звысакароднiць гэты страх, ператварыўшы яго ў малітоўнае пакланенне, той шмат выйграваў, людзі такога складу, чый страх перарос у пабожную дабрамыснасць, чту, былі геніямі дабра і пайшлі далей за свой век. Ахвяр прыносілі многа і ў самых розных формах, само ахвяраванне звязаны з гэтым рытуал уваходзілі ў абавязкі заклінальніка надвор'я.

Побач са Слугой падрастала ў хаціне маленькая Ада, прыгожая дзяўчына, любае бацькава дзіця, і калі, на яго думку, прыспеў час, ён аддаў яе свайму вучню за жонку. З таго часу Слугу ўжо лічылі памочнікам заклінальніка. Туру прадставіў яго Прамаці вёскі як свайго зяця і пераемцу і цяпер дазваляў яму часам выконваць за сябе некаторыя цырымоніі і абавязкі. Паступова, як спакваля змяняліся поры года і цяклі гады, стары заклінальнік дажджу канчаткова адышоў ва ўласцівую старцам сузіральнасць і перадаў зяцю ўсе свае абавязкі, а калі ён памёр, — яго знайшлі нежывога каля агменю, сагнутага над некалькімі гаршчычкамі з чарадзейным варывам, з асмаленымі сівымі валаса-

мі, — яго вучань Слуга ўжо даўно быў вядомы селішчу як заклінальнік дажджу. Слуга запатрабаваў у старэйшыны селішча, каб яго настаўніка пахавалі з усім гонарам і як ахвяру спаліў над яго магілай вялікі ахапак самых рэдкіх духмяных гойных траў і каранёў. І гэта прайшло, і сярод дзяцей Слугі, ад якіх хаціна Ады стала цесная, быў хлопчык з імем Туру: у ягоным вобразе старац вярнуўся са свайго смяротнага падарожжа на месяц.

У Слугі ўсё пайшло гэтаксама, як калісь у яго настаўніка. Даброць і духоўнасць у ім пабаролі частку страху. Маладыя парыванні і глыбокая палкасць часткова засталіся, часткова адміралі спакваля альбо раствараліся ў ягоным старэнні ў працы, у любові і клопатах пра Аду і дзяцей. Па-ранейшаму жыла ў яго сэрцы найвялікшая любоў — любоў да месяца, — ён вывучаў месяц і яго ўплывы на поры года і перамены надвор'я; у гэтым ён дараўнаўся да свайго настаўніка Туру, а потым нават пераўзышоў яго. І як што нараджэнне, рост і паступовае знікненне месяца цесна звязаны з смерцю і нараджэннем людзей, як што з усіх страхаў, сярод якіх жыве чалавек, страх непазбежнай смерці самы вялікі, — Слуга, шаноўца і знаўца Месяца, вынес з сваіх цесных і жывых сувязяў з гэтым свяцілам прасветленую і асвячоную павагу да смерці: дажыўшы да сталага веку, ён ужо не быў так паддатны страху мусовай смерці, як іншыя людзі. Ён умеў пачціва гаварыць з месяцам, і благальна, і далікатна, пяшчотліва, ён адчуваў, што звязаны з месяцам духоўна, добра ведаў месяцава жыццё і шчыра ўдзельнічаў у яго пераўтварэннях і лёсе, перажываў як містычную таемнасць яго сыход і нараджэнне, спагадаў яму і жахаўся, калі наставала страшнае і месяцу пагражалі хваробы і небяспекі, беды і шкоды, калі ён траціў бляск, мяняў колер, цямнеў аж так, што здавалася, вось-вось патухне. У такія часіны праўда, усе спагадалі месяцу, дрыжалі за яго, адчувалі пагрозу блізкай бяды, трывожна ўзіраліся ў яго спахмурнелы, стары і хворы твар. Але якраз тады і выяўлялася, што заклінальнік дажджу Слуга цясней звязаны з месяцам і больш пра яго ведае, чым хто іншы, ён таксама скрушыўся яго доляй, у яго таксама млосна смактала ў грудзях, але яго ўспаміны пра такія самыя здарэнні былі больш дакладныя і яркія, давер — больш апраўданы, вера ў вечнасць і кругазварот падзей, у магчы-

масць пераадолення смерці і перамогі над ёю — больш непарушная; глыбейшая была і яго самааддача: ён гатовы быў прыняць і на сябе долю свяціла аж да пагібелі і новага нараджэння, часам ён нават чуў у сабе нейкую дзёрзкасць, нейкую рашучую смеласць і парыў кінуць смерці выклік, супрацьпаставіць ёй дух, сцвердзіць сваё «я» і гэтым самым даказаць сваю адданасць звышчалавечаму лёсу. Часам гэта выяўлялася ў яго паводзінах і кідалася ў вочы нават староннім людзям: ён быў вядомы як чалавек мудры і дабрамысны, чалавек вялікага спакою і раўнавагі, які мала баяўся смерці і быў у дружбе з высокімі сіламі.

Ён часам сурова выпрабоўваў гэтыя здольнасці і даброці. Аднойчы яму выпала змагацца з няўродам і непагодай два гады запар, гэта было самае цяжкае выпрабаванне за ўсё яго жыццё. Няўгодзіцы і ліхія азнакі пачаліся ўжо пад час сяўбы, сеялі з адкладам тры разы, а потым ужо на рунь зваліліся ўсякія ліхоты і нягоды, якія ўрэшце амаль спляжылі ўсё, што было пасеяна; абшчына галадала, і Слуга разам з усімі; і тое, што ён перажыў гэты страшны год, што ён, заклінальнік дажджу, не страціў даверу і ўплыву, а здолеў памагчы племю ператрываць гэтае няшчасце пакорліва і спакойна — гэта ўжо было нешта. Калі ж налета, пасля суровай зімы, якая забрала шмат жыццяў, зноў пачаліся леташнія гароты і ліхоты, калі абшчынная зямля высахла і патрэскалася ад летняй сушы, калі распладзіліся процьмы мышэй, а самотлівыя модлішчы і ахвяраванні заклінальніка дажджу пайшлі пропадам і не далі плёну, як і маленні ўсім агулам, барабанны бой, малітоўныя шэсці ўсёй абшчыны, калі выявілася жудасная праўда, што заклінальнік дажджу і гэтым разам не дастане дажджу, — гэта ўжо была не дробязь, і толькі такі чалавек, як ён, мог узяць на сябе ўсю адказнасць і не спахібіць перад напалоханым і ўзбураным людам. Два-тры тыдні Слуга заставаўся зусім адзін, на яго паўстала ўся абшчына, паўсталі голад і роспач, і ўсе ўспомнілі старую погадку, быццам улагодзіць гнеў высокіх сіл можна толькі ахвяраваннем самога заклінальніка. Ён перамог толькі сваёй гатоўнасцю. Ён не супраціўляўся, ён сам падаў гэтую думку. Да таго ж ён з нечуванай настойлівасцю і самаахвярнасцю стараўся аблегчыць гароту племя, не перастаючы вышукваць новыя крыніцы вады: то струмок, то яміна з вадою, не даў

у самыя цяжкія дні зарэзаць усё быдла, а галоўнае — сваёй падтрымкай, парадамі, просьбамі-грозьбамі, чарамі і малітвамі, сваім прыкладам — не дазволіў тагачаснай родапачынальніцы селішча, зусім старой жанчыне, якая ўжо ўпала ў пахібную роспач і душэўную немач, зламацца духам і пусціць усё на плынь часу і падзей. Вось тады і стала ясна, што ў дні смуты і вялікай ліхтугі чалавек можа прынесці тым больш карысці, чым больш ягонае жыццё і розум скіраваныя на духоўныя мэты, мэты звышасабістыя, чым лепш ён умее падпарадкоўвацца, сузіраць, маліцца, служыць і ахвяраваць сабою. Гэтыя два страшэнныя гады, якія ледзь не зрабілі яго ахвярай, ледзь не ўвялі яго ў пагібель, прынеслі яму ўрэшце самае вялікае прызнанне і давер не толькі сярод тлуму цёмных і безадказных людзей, але і сярод нямногіх, на якіх ляжала адказнасць, сярод тых, хто здольны быў ацаніць чалавека такога складу, як Слуга.

Так праз гэтыя і розныя іншыя выпрабаванні цякло жыццё Слугі. І вось ён дастаўся сталасці і вяршыні жыцця. Ён пахаваў на сваім вяку дзвюх родапачынальніц племя, страціў цудоўнага шасцігадовага сынка, якога схапіў воўк, адужаў без нічыёй дапамогі цяжкую хваробу, сам сябе вылечыўшы. Не раз і не два цярпеў голад і холад. Усё гэта прыкметна наслядзіла на твары і глыбока ў душы. Ён зведаў на сабе, што людзей духу ўсе астатнія родзічы непрыязняць і гідзяць імі, што іх шануюць, праўда, зводдаль, а як выпадзе патрэба, просяць у іх рады, але зусім не любяць, не лічаць сабе роўнымі і як мага пазбягаюць іх. Ён пераканаўся, што хворыя і зганьбаваныя з куды большай ахвотай скарыстаюцца спадчыннымі альбо нанава прыдуманымі замовамі і заклёнамі, абы каб не прыняць разумнай парады, што чалавек згодзіцца хутчэй бедаваць і фальшыва каяцца, чым змяніцца ўнутрана, а тым больш спрабаваць перарабіцца, што ён хутчэй дасць веры чарадзейству, чым розуму, заклёнам, чым жывому вопыту: усё гэта рэчы, якія пазней за тысячы гадоў, бадай што, змяніліся не настолькі, як гэта сцвярджаюць некаторыя гістарычныя працы. Але Слуга зразумеў таксама, што дапытлівы чалавек, чалавек духоўны не павінен траціць пачуцця любові, ён павінен абыходзіцца з людскімі жаданнямі і слабінамі без пагарды і пыхі, хоць і не прыстасоўвацца да іх, што ад мудраца да прайдзісвета, ад свя-

тара да штукара, ад чалавека, які па-брацку дапамагае, да карысліўца-гультая — адзін крок, што людзі больш ахвотна плацяць шарлатану, даюцца на падман базарнаму крыкуну, чым прымаюць шчырую дапамогу, за якую не просяць платы. Яны не любяць плаціць даверам і любоўю, яны ахвотней плацяць грашмі. Яны ашукваюць і самі разлічваюць на падман. Трэба было навучыцца бачыць у чалавеку слабую істоту, сябелюбную і баязлівую, але тым жа часам трэба было і прызнаць, што і ў табе гняздуюцца дрэннасць і благія інстынкты, а таксама верыць, верыць усім сэрцам, што ў чалавеку жывуць таксама дух і любоў, нешта, што змагаецца з інстынктамі і імкнецца іх увысакародніць. Гэтыя думкі выкладзеныя тут, вядома, больш ясна, сфармуляваныя больш акрэслена, чым здольны быў гэта зрабіць Слуга. Скажам адно: ён ішоў да гэтых думак, яго дарога вяла якраз да іх і далей — праз іх.

Ідучы па гэтым шляху, сумуючы па думцы, але жывучы больш у свеце пачуццёвым, зачараваны месяцам, водарам кветкі, сокам кораня, смакам кары, збіраючы гойныя зёлкі, гатуючы мазі, падпарадкоўваючыся надвор'ю і атмасферным з'явам, ён выпрацаваў у сабе некаторыя здольнасці, такія, напрыклад, якіх мы, наступнікі, ужо не маем і якіх сёння нават напалавіну не разумеем. Самая важная з гэтых здольнасцяў, вядома, была здольнасць заклінаць дождж. Хоць бывалі асобныя выпадкі, калі неба было з ім жорсткае і бязлітасна здзекавалася з яго патугаў, Слуга ўсё ж сотні разоў выклікаў дождж і амаль кожны раз крыху іншым спосабам. Праўда, у цырымонію ахвяраванняў, у рытуал малітоўных шэсцяў, заклінанняў, у барабанную музыку ён не адважваўся ўносіць ніякіх змен альбо што-колечы з іх выпускаць. Але гэта была толькі афіцыйная, усім бачная часціна яго дзейнасці, яе службовы і жрацоўска-паказны бок; і вядома ж, гэта было дзівоснае відовішча, якое давала прыгожыя, узнёслыя пачуцці, калі ўвечары пасля дзённых ахвяраванняў і працэсій нябёсы здаваліся і небакрай зацягваўся хмарамі, вецер даносіў пах вільгаці і падалі першыя кроплі дажджу. Але менавіта тут і патрабавалася майстэрства заклінальніка, трэба было правільна выбраць дзень, а не лезці напрагал да недасягальнага; прыходзілася ўпрошваць нябесныя сілы, нават дакучаць ім, але ўсё гэта з адчуваннем меры, паказваючы пакорлівасць іх волі. І намнога даражэйшыя

за гэтыя выдатныя, святочныя сведчанні поспеху і літасці багоў былі яму іншыя перажыванні, пра якія ніхто, акрамя яго самога, не ведаў, ды, зрэшты, і ён успрымаў іх баючыся і не так розумам, як душою, пачуццямі. Часам бывалі такія станы надвор'я, такая напружлівасць паветра і цяпла, воблачнасці і ветру, такія пахі вады, зямлі і пылу, такія пагрозы і прадвесці, капрызы і вычуды дэманаў надвор'я, якія Слуга прадчуваў і адчуваў усёй сваёй скурай, валасамі, усімі сваімі пачуццямі, і таму нішто не магло ні здзівіць яго, ні расчараваць, ён убіраў у сябе надвор'е і насіў яго ў сабе так глыбока, што ўжо не меў сілы загадваць хмарам і вятрам: вядома, не па сваёй волі, а менавіта ў выніку гэтага саюзу з прыродай і лучнасці з ёю, якая сцірала мяжу паміж ім і ўсім светам, паміж унутраным і вонкавым. У такія хвіліны ён мог, забыўшыся на самога сябе, стаяць на месцы і слухаць, заміраць і не толькі адчуваць усімі порамі цела кожны рух паветра і воблакаў, але і кіраваць імі і ўзнаўляць іх, як мы ўмеем абудзіць у сабе і ўзнавіць добра знаёмую музычную фразу. І тады даволі было яму затрымаць дыханне, як вецер або гром сціхалі, даволі было толькі схіліць галаву або паківаць ёю, як пачынаў сыпацца або пераставаў град, варта было ўсмешкай ухваліць у сваёй душы замір'е супраціўных сіл, як угары разгладжваліся складкі воблакаў і адкрывалі празрыстую, чыстую сінечу. Часам у стане асабліва яснай прасветленасці і душэўнай раўнавагі ён адчуваў у сабе надвор'е наступных дзён, прадбачыў яго дакладна і беспамылкова, быццам у крыві ў яго была адбіта ўся партытура, паводле якой яно павінна было разгортвацца. Гэта былі самыя лепшыя дні яго жыцця, у іх была ягоная ўзнагарода, ягонае шчасце.

Калі гэтая інтымная лучнасць з вонкавым светам парушалася, калі надвор'е і свет рабіліся яму несамавітымі, незразумелымі і непрадказальнымі, тады і ў яго душы парушаўся парадак і перапыняліся токі, тады ён адчуваў, што ён не сапраўдны заклінальнік дажджу, а сваю службу і адказнасць за надвор'е і ўраджай успрымаў як цяжар і несправядлівасць. У такі час ён днямі сядзеў дома, слухаўся Ады і пасабляў ёй, спраўна займаўся гаспадаркай, рабіў дзецям прылады і цацкі, уходжваўся са сваім зельным варывам, цягнуўся да кахання і хацеў як мага менш адрозніваццца ад людзей, цалкам падпарадкоўвацца звычаям і норавам, нават

выслухоўваў звычайна такія непрыемныя яму жончыны і суседскія расказы пра жыццё, здароўе і паводзіны людзей. У добрыя часіны яго мала калі заставалі дома, ён доўга бадзяўся, лавіў рыбу, паляваў, шукаў зёлкі, ляжаў у траве або залазіў на дрэва і сядзеў там, прынюхваўся, прыслухоўваўся, пераймаў галасы звяроў, раскладваў цяпельцы, каб параўнаць клубы дыму з воблакамі ў небе, расіў валасы і скуру дажджом, туманам, паветрам, сонцам або месячным святлом, а заадно збіраў, як гэта ўсё жыццё рабіў яго папярэднік і настаўнік Туру, такія прадметы, у якіх сутнасць і форма на першы погляд належалі да розных сфераў, у якіх мудрасць альбо капрыз прыроды быццам бы лёгенька падказвалі воку правілы гульні і тайны стварэння, прадметы, у якіх самае далёкае злівалася ў адно, напрыклад: свілі на суках́, падобныя на людскія твары і морды жывёлін, вышараваныя вадой крамушкі з узорам, які нагадваў разрэз дрэва, скамянелыя фігуры жывёл, якія даўно аджылі, выродлівыя або парныя костачкі пладоў, камякі ў форме ныркі або сэрца. Ён умеў вычытаць з жылінак на лісце, сеткі ліній на зморшчанай шапачцы смарчка нешта таямнічае, духоўнае, будучае, магчымае: магію знакаў, вырак лічбаў і пісьмёнаў, ператварэнне бясконцага, тысячакротнага ў простае, у сістэму, у паняцце. Бо ў ім былі закладзены ўсе гэтыя магчымасці спасцігнення свету з дапамогай духу, пакуль што яшчэ безназоўныя магчымасці, але іх можна было здзейсніць, не непамысныя, пакуль што яшчэ схаваныя ў зародку, у пупышцы, але ўласцівыя яму сваім арганічным ростам. І калі б мы маглі перанесціся яшчэ на некалькі тысячагоддзяў назад, да таго, як жыў гэты заклінальнік дажджу, часы якога нам сёння здаюцца раннімі і першабытнымі, мы б і тады — у гэтым мы пераканаліся — ужо ў першым чалавеку сустрэлі б дух, той самы, што не мае пачатку і вечна заключаў у сабе тое, што ён здолеў стварыць пазней.

Заклінальніку надвор'я не дадзена было ўвечніць хоць адно сваё прадказанне, хоць прыблізна даказаць яго, і наўрад ці была на тое патрэба. Ён не прыдумаў ні пісьмовасці, ні геаметрыі, ні медыцыны, ні астраноміі. Ён застаўся невядомым звяном у ланцугу, але гэтаксама неабходным, як усякае звяно: ён перадаў далей тое, што набыў і да чаго дастаўся сам. Бо ж і ў яго былі вучні. Шмат гадоў рыхтаваў ён двух да пасады заклі-

нальніка дажджу, і адзін пазней стаў яго наступнікам.

Доўгія гады ён займаўся сваім рамяством у поўнай адзіноце, і калі ўпершыню — гэта было неўзабаве пасля цяжкага няўроду і голаду — каля яго апынуўся хлапец, пачаў хадзіць да яго, цікавіць за ім, усяк яго шанаваць і наступаць яму на пяты, адзін той, каго ён пазней павінен быў зрабіць заклінальнікам дажджу і настаўнікам, у яго неяк скрушліва зашчымела сэрца, бо ён вярнуўся ў памяці да самага глыбокага перажывання сваёй маладосці і тут упершыню зведаў сталае, суровае пачуццё, якое адначасова і сціскала грудзі, і напаўняла іх жыццём: ён зразумеў, што маладосць прайшла, што сярэдзіна дарогі пройдзена, кветка ператвараецца ў плод, чаго сам ад сябе не чакаў, паставіўся да хлопца гэтаксама, як у свой час да яго паставіўся стары Туру, і гэтая непрыступнасць, няспешнасць у паводзінах атрымаліся самі па сабе, інстынктыўна, гэта не было перайманне старога чарадзея, усё ішло зусім не ад маральных ці выхаваўчых меркаванняў, што, бач, маладога хлопца трэба доўга выпрабоўваць, ці дастае яму сур'ёзнасці, што нікому нельга скараціць дарогу да спасцігнення тайны, а, наадварот, трэба зрабіць яе яшчэ цяжэйшай і так далей. Не, проста Слуга быў са сваімі вучнямі такі, як усякі іншы чалавек, які ўжо заглядае ў старасць, які прывык да адзіноты, як паводзіў бы сябе ўсякі іншы вучоны дзівак з сваімі пашаноўцамі і паслядоўцамі: сарамяжліва, нясмела, трошкі адасобкам, баючыся застацца без сваёй цудоўнай адзіноты і свабоды, без шпацыраў па лясной глухамані, без магчымасці паляваць дасхочу, бадзяцца, збіраць, што пад руку трапіць, марыць, услухоўвацца, быць раўніва прывязаным да сваіх звычак і любімых заняткаў, да сваіх потаек і роздуму. Ён ніяк нічым не паднаджваў нясмеля, які хінуўся да яго з палкай цікаўнасцю, зусім не памагаў яму перабароць страх, не падбадзёрваў, не лічыў яго прыход радасцю і ўзнагародай, прызнаннем ці дарагім сваім поспехам: нарэшце, бачыце, паслаў яму свет ганца, знак любові, нехта дамагаецца ягонай увагі, нехта адданы і блізкі яму і, як і сам ён, бачыць сваё прызначэнне ў служэнні тайнам прыроды. Не, спачатку ён успрыняў яго як прыкрую заваду, як замах на свае правы і звычкі, як замах на незалежнасць, якую ён, як цяпер вось пераканаўся, горача любіў: ён супраціўляўся

гэтаму ўварванню, чаго толькі не выдумляў, каб перахітрыць, схавацца, замясці сляды, ухіліцца, вывінуцца. Але і тут адбылося тое самае, што сваім часам з Туру: доўгае маўклівае ўпорванне спакваля размякчыла хлопцава сэрца, падтачыла і паслабіла яго супраціўленне, і ён сам, чым мацней станавіўся хлопец на ногі, няспешна паварочваўся да яго і раскрываўся, ён ужо і сам парываўся пайсці насустрач яго настырным жаданням і прызнаў у гэтым новым і цяжкаватым абавязку — гадаваць і накіроўваць вучня — непазбежнасць, вызначаную лёсам, загад духу. Усё далей і далей адлятала яго мара пра асалоды невычэрпных магчымасцяў, тысячаабліччнай будучыні. Замест мары пра бясконцы поступ, пра суму ўсёй мудрасці поплеч з ім паявіўся вучань, маленькая, блізкая, патрабавальная рэальнасць, уварванец, які ўскалаціў ягоны спакой, яго не прагоніш, ад яго не ўвінешся, адзіная дарога ў рэальную будучыню, адзіны самы важны абавязак, адзіная вузкая сцежка, на якой заклінальнік дажджу толькі і мог схаваць ад спарахнення сваё жыццё, сваю справу, задумы і прадчуванні, бо, толькі ўдыхнуўшы жыцця ў новую маленькую пупышку, можна падоўжыць і сваё жыццё. З уздыхам, з скрыгатам зубоў, з усмешкай прыняў ён на сябе гэты абавязак.

Але і ў гэтай важнай, мажа, нават самай адказнай сферы сваёй дзейнасці — у перадачы назапашанага і ў выхаванні спадкаемца — заклінальнік дажджу не пазбег цяжкага і горкага вопыту і расчаравання. Першага хлопца, які дамогся яго прыхільнасці і пасля доўгага чакання, пасля многіх перашкодаў стаў вучнем Слугі, звалі Маро, менавіта ён і расчараваў настаўніка, які да канца дзён сваіх не змог апрытомнець. Хлопец быў пахлебны і ліслівы і доўгі час строіў поўнае паслушэнства, але яму шмат чаго бракавала, найперш — мужнасці: ён баяўся, напрыклад, ночы і цемры і ўсяк не паказваў гэтага, а Слуга, ужо калі заўважыў, яшчэ доўга лічыў астаткам дзяцінства, які з часам пройдзе. Але нішто не праходзіла. Апрача таго, у гэтага вучня зусім не было дару самазабыўна і бескарысліва аддавацца назіранням, выкананню сваіх абавязкаў і абрадаў, роздуму і загадкам. Ён быў кемлівы, меў ясны, дасціпны розум, і тым, чаго можна было навучыцца без самааддачы, авалодваў лёгка і ўпэўнена. Але чым далей, тым больш выяўлялася, што быў ён сам сабе

наўме, што толькі эгаізм падштурхнуў яго да таго, каб прынаровіць сабе майстэрства заклінання дажджу. Найбольш за ўсё яму хацелася быць што-та я, нешта значыць, іграць ролю, уражваць. Ён любіў у сабе славу чалавека адоранага, але не закліканага. Ён даганяўся з поспехам, хваліўся перад равеснікамі здабытымі вещамі і майстэрствам — але нават гэта магло быць дзіцячай блазнотай і з гадамі прапасці. А ён шукаў не толькі поспеху, але і ўлады над людзьмі і сваёй выгоды; настаўнік, пачаўшы заўважаць гэта, зжахнуўся і спакваля адвёў ад яго сваё сэрца. Ужо пасля таго як хлопец некалькі гадоў прабыў у Слугі ў навуцы, яго два-тры разы накрылі на правінах. Паддаўшыся спакусам, ён самаволам, без ведама і дазволу настаўніка, браўся за пэўны барыш: то лекаваць хворае дзіця зёлкамі, то заклёнамі выганяць пацукоў з чыёй-небудзь халупы, і як што яго, нягледзячы на ўсе пагрозы і абяцанні, няраз лавілі на такіх нядобрых учынках, майстар выключыў яго з ліку сваіх вучняў, паведаміў пра здарэнне родапачынальніцы і пастараўся выкінуць няўдзячніка і нягодніка з памяці.

Пазней яму сплацілі дабром два другія вучні, асабліва другі, ягоны сын Туру. Гэтага апошняга і самага маладога з сваіх вучняў ён любіў найбольш, на яго думку, з сына магло выйсці нешта больш людскае, чым ён сам, бо ў хлопчыка, гэта было відавочна, перасяліўся дзедаў дух. Слуга жыў у радасці, якая мацавала яму дух, што яму ўдалося перадаць свае веды і веру ў будучыню і што поруч з ім быў чалавек, удвайне яго сын, якому ён мог у любы дзень перадаць сваю пасаду, калі самому яна стане не па сіле. Але свайго першага, няўданага вучня яму ўсё ж не ўдалося выгнаць са свайго жыцця і са сваіх думак, той зрабіўся ў вёсцы хай не самым пашаноўным, але многімі любімым і досыць уплывовым чалавекам, ажаніўся, забаўляў людзей, як усё роўна які блазен, стаў нават галоўным барабаншчыкам у барабанным хоры і пры гэтым заставаўся тайным неабольнікам і зайздроснікам заклінальніка дажджу, пры зручным выпадку як мог пракудзіў і паскудзіў. Слуга ніколі не прападаў за сябрамі, яму былі патрэбны самота і свабода, ён ніколі не заўжываў людской павагі і любові, хіба што яшчэ зводмаладзь — у Майстра Туру. Але цяпер ён адчуў, што такое мець ворага і знянáвідніка —

каб жа толькі адзін — два дні ягонага жыцця былі атручаныя праз гэта.

Маро быў з тых вучняў, з тых багата адораных юнакоў, якія пры ўсёй сваёй альснёнасці, праз усе часы былі карай боскай сваім настаўнікам, бо талент у іх — не тая арганічная сіла, якая расце з глыбіні, з карэння, не далікатная стыгма ўшляхетнення добрай натуры, добрай крыві і добрага характару, а як бы нешта наноснае, выпадковае, узурпаванае або ўкрадзенае. Вучань з нікчэмным характарам, але высокім розумам або яркай фантазіяй непазбежна бянтэжыць настаўніка: настаўнік павінен перадаць гэтаму вучню здабытыя веды і метады вывучэння, далучыць яго да духоўнага жыцця, а тым часам адчувае, што яго сапраўдны, найвышэйшы абавязак менавіта ў ахове навук і мастацтва ад дамаганняў людзей толькі адораных; бо не вучню ж павінен служыць настаўнік, а яны абодва — духу. Гэта і ёсць прычына, чаму настаўнікі часам жахліва баяцца некаторых бліскучых талентаў; кожны такі вучань пераварочвае дагары ўвесь сэнс і служэнне выхаваўчай работы. Усякае вылучэнне вучня, які здольны толькі ззяць, а не служыць, па сутнасці, толькі шкодзіць служэнню і ёсць пэўнага роду здрада духу. Мы ведаем перыяды ў гісторыі некаторых народаў, калі пры глыбокіх зрухах духоўнага парадку, такія «толькі адораныя» штурмуюць кіруючыя пасады ў абшчынах, школах, акадэміях, дзяржавах, і хоць на ўсіх пасадах аказваюцца досыць таленавітыя людзі, усе яны хочуць кіраваць, не ўмеючы служыць. Пазнаць такога роду таленты да таго, як яны паспелі сесці на падмуркі духоўных прафесій, прымусіць іх з усёй патрэбнай цвёрдасцю сысці на дарогу неінтэлектуальных заняткаў бывае часам вельмі цяжка. Так і Слуга зрабіў памылку, ён залішне доўга трываў свайго вучня Маро, ён паспеў ужо нават даверыць легкадумнаму славалюбцу некаторыя таямніцы, і зусім дарма. Вынікі былі горшыя, чым ён мог прадбачыць.

Прыйшоў год — барада ў Слугі ўжо добра пасерабрылася, — калі дэманы незвычайнай сілы і подласці зрушылі раўнавагу паміж зямлёй і небам. Гэтыя зрухі пачаліся з восені, страшныя і велічныя, яны скаланалі душы да асновы, сціскалі іх страхам, паказвалі неба такім, якім яго яшчэ ніхто не бачыў, неўзабаве пасля асенняга сонцавароту, які заклінальнік дажджу заўсёды

назіраў і ўспрымаў трохі ўрачыста, з чтою і адмысловай увагай. Прыйшоў вечар, лёгкі, з ветрыкам, халаднаваты, неба было льдзіста-празрыстае, толькі на велізарнай вышыні плыло некалькі неспакойных аблачын, доўга-доўга трымаючы на сабе ружовы водбліск заземнага сонца: таропкія, калматыя, пеністыя пучкі святла ў халоднай, бледнай нябеснай прасторы. Слуга ўжо некалькі дзён назіраў і адчуваў нешта больш моцнае і дзівоснае, чым усё, што яму ўдавалася бачыць штогод у гэтую пару, калі дні пачыналі карацець, — барохтанне сіл і стыхій у нябесных прасторах, трывогу, якою агортвалася зямля, расліны і жывёлы, нейкую ўспалошанасць, зыбістасць, чаканне, страх і прадчуванне ўва ўсёй прыродзе, нейкую зварушлівасць у паветры; і гэтыя доўга-доўга трымтлівыя, успыхлівыя ў той вечаровы час аблачыны, іх пырханне, што не супадала з вевам ветру на зямлі, іх умольны пунсовы водсвет, што доўга і журботна змагаўся з патуханнем, яго ахаладжэнне і знікненне, пасля чаго раптам і хмаркі раставалі ў імглоце. У вёсцы ўсё было спакойна, госці і дзеці, якія слухалі роспаведзі родапачынальніцы каля хаціны, даўно разышліся, толькі некалькі хлопчыкаў усё яшчэ кешкаліся і бегалі, даганяліся, астатнія ўсе даўно ўжо павячэралі і сядзелі каля сваіх агменяў. Многія ўжо спалі, наўрад ці хто, акрамя заклінальніка дажджу, назіраў барвовыя воблакі вячэрняй зары. Слуга пахаджаў па садку за сваёй хацінай і разважаў пра надвор'е, усхваляваны і неспакойны, час ад часу прысаджваўся адпачыць на калодку, якая стаяла ў зарасцях крапівы — на ёй калолі дровы. Калі ў аблоках дагарэў апошні промень, у яшчэ светлым, зеленаватым небе раптам праяснелі зоркі, ярчэй і ярчэй разгараліся яны, большала і большала іх на небасхіле; дзе толькі што было іх дзве-тры, вось ужо і дзесяць, дваццаць. Многія зоркі і сузор'і былі знаёмыя заклінальніку дажджу, ён бачыў іх сотні разоў, у іх заўсёдным вяртанні было штосьці, што супакойвала, радавала; халодныя, далёкія, яны, праўда, не прамяніліся цяплом, але незварушныя, заўсёды на сваіх месцах, яны ўзвяшчалі лад і пастаяннасць. Такія, здавалася, далёкія і чужыя жывенню зямному, жывенню людскому, такія на жыццё не падобныя, такія недасягальныя людскому цяплу, трапятанню, пакутам і экстазам, яны ўзвышаліся над гэтым жыццём у сваёй халоднай і пагардлівай велічы, у

сваёй пракаветнасці, і ўсё-такі яны злучаныя з намі, можа, нават кіруюць і намі, і, калі асобныя людзі, можа, калі дасягаюць вяршынь ведаў, духоўных вышыняў, упэўненасці і перавагі духу над усім часовым, яны спадабняюцца зоркам, ззяюць, як зоркі, у халодным спакоі, суцяшаюць сваім зябкім мігценнем, вечныя і крыху пакепліўыя. Так часам здавалася заклінальніку дажджу, і, хоць ён не быў злучаны з зоркамі такімі цеснымі, разярэдлівымі і выпрабаванымі ў вечным кругавароце повязямі, як з месяцам, гэтым вялікім, блізкім, вільготным свяцілам, гэтай тлустай дзівоснай рыбінай у нябесным моры, ён усё-такі глыбока пакланяўся зоркам і быў звязаны з імі шмат якімі вераваннямі. Доўга ўглядаючыся ў іх, адчуваючы на сабе іх уплыў, ён давяраў свой розум, сваё сэрца, свае страхі іх спакойнаму, халоднаму позірку, ён нібы акунаўся ў ваду, нібы прыпадаў да чароўнага пітва.

І сёння яны, як заўсёды, глядзелі на яго, толькі вельмі яркія, як адшліфаваныя, з калючага, разрэджанага паветра, але ён не знаходзіў спакою ў душы, каб аддацца ім; з невядомых прастораў да яго цягнулася нейкая сіла, калола ў кожную порыну, высмоктвала вочы, ціснула на яго моўчкі і нязбытна, як паток, як далёкі засцерагальны гуд. А побач у хаціне тлеў чырванаваты агонь у ачагу, цякло маленькае цёплае жыццё, чуліся галасы, смех, позяхі, пахла чалавекам, цёплай скурай, матчынай любоўю, дзіцячым сном, блізкасць гэтага простага жыцця рабіла ноч яшчэ больш чароўнай, яшчэ больш аддаляла зоркі ў неспасцігальную бяздонную глыбіню і вышыню.

І цяпер, калі Слуга прыслухоўваўся да голасу Ады, якая калыхала ў хаціне дзіця, напявала і мармытала нешта сваім меладычным голасам, у небе пачаўся катаклізм, які вёска запамятала на доўгія гады. У нерухомай бліскучай сетцы зорак сям-там пачало бліскаць, быццам нябачныя датуль ніткі гэтай сеткі раптам загарэліся; ярка ўспыхваючы і тут жа гаснучы, асобныя зоркі, як падкінутыя камяні, крэслілі наўскасяк нябесныя прасторы, тут адна, там дзве, і яшчэ некалькі, і не паспела знікнуць з вачэй першая знічка, не паспела сэрца, скамянелае ад гэтага відовішча, адысціся зноў, як ужо замільгацелі ў небе, даганяючы адна адну, прыгаршчамі рассыпаныя зоркі, коса або па крыху выгнутай лініі; дзесяткамі, сотнямі, безліч безліччу сыпаліся яны, нібы

гнаныя нямой бурай, праз маўклівую ноч, быццам восень сусвету сарвала з нябеснага дрэва завялыя лісты і бязгучна мяце іх далёка ў нябыт. Як жухлае лісце, як лёткія ў прасторы сняжынкі, яны ляцелі тысячамі ў злавеснай цішыні ўніз і ўдалечыню, і знікалі за лясістымі гарамі на паўднёвым усходзе, куды яшчэ ніколі, як помняць людзі, не закочвалася ніводная зорка, і ападалі ў бездань.

З застылым сэрцам, з палкімі вачыма стаяў Слуга, увабраўшы галаву ў плечы, спалоханымі, але неспакойнымі вачамі ўпіўся ў пераўтваранае, зачараванае неба, не верачы сам сабе і ўсё ж цвёрда пераканаы, што адбываецца нешта жудаснае. Як і ўсім, перад кім адкрывалася такое начное відовішча, яму здавалася, што і даўно знаёмыя зоркі затрымцелі, разляталіся ва ўсе бакі і падалі ў яго на вачах, і ён чакаў, што нябесная цвердзь, калі яе не праглыне зямля, неўзабаве будзе чорная і спустошаная. Праз нейкі час ён, праўда, разумеў тое, чаго не дадзена было зразумець іншым: знаёмыя зоркі тут, і там, і ўсюды заставаліся на сваіх месцах, зорная віхура шалёна бушавала не сярод вядомых зорак, а ў прасторы паміж небам і зямлёй, і гэтыя падучыя ці кінутыя новыя агні гэтак жа імгненна з'яўляліся, як і патухалі, і гарэлі яны полымем крыху інакшага адцення, чым старыя, сапраўдныя зоркі. Гэта суцешыла Слугу і дапамагло яму авалодаць сабой, але, хоць зоркі, якія віхурыліся на небасхіле, былі новыя, непастаянныя, нейкія іншыя зоркі, яны, страшныя, лютыя, усё роўна вяшчалі пра няшчасце і замяшанне, і глыбокія стогны вырываліся з яго перасохлага горла. Ён глядзеў на зямлю, прыслухоўваўся да гукаў, каб даведацца, ці адзін ён сведка гэтай прывіднасці, ці былі тут і іншыя. Неўзабаве да яго пачалі далятаць з суседніх хацін стогны, плач, крыкі жаху; значыцца, і другія ўбачылі, яны паднялі трывогу, будзілі тых, хто ўжо спаў і не прадбачыў ніякай бяды, яшчэ хвіліна — і страх, паніка апануюць вёску. Слуга глыбока ўздыхнуў: яго, заклінальніка дажджу, гэтая бяда забірала ў першую чаргу, — яго, бо менавіта ж ён пэўным чынам адказваў за лад у небе і ў паветры. Да гэтага часу ён загадзя ўгадваў і адчуваў вялікія нягоды: паводкі, град, буры; ён заўсёды падрыхтоўваў і засцерагаў родапачынальніцу і старэйшын, прадухіляў самае горшае і дзякуючы сваім ведам, сваёй мужнасці, свайму даверу да нябес-

ных сіл памагаў адолець роспач. Чаму ж ён гэтым разам нічога не ўбачыў зараней, нічым не распарадзіўся? Чаму ні з кім не падзяліўся цьмянай трывогай, якая палохала і таміла ягонае сэрца?

Ён адхіліў полаг у хаціну і ціхенька клікнуў жонку. Яна выйшла з малым дзіцём каля грудзей, ён узяў у яе малое і паклаў яго на салому, потым узяў Аду за руку, прыклаў палец да вуснаў, каб маўчала, вывеў з хаціны і ўбачыў, як яе заўсёды трывучы, спакойны твар адразу перакрывіўся ад жаху.

— Хай дзеці спяць, ім не трэба гэтага бачыць, чуеш? — горача зашаптаў ён. — Не выпускай нікога, нават Туру. І сама сядзі дома. — Ён павагаўся, не ўпэўнены, колькі можна сказаць ёй, якімі думкамі падзяліцца, потым цвёрда дадаў: — З табою і дзецьмі нічога благога не здарыцца.

Яна паверыла яму адразу, хоць страх яшчэ не адступаўся.

— Што гэта такое? — спыталася яна, не гледзячы на яго і падняўшы вочы ў неба. — Нешта страшнае, га?

— Страшнае, — мякка адказаў ён, — думаю, што вельмі страшнае. Але і цябе абыдзе, і дзяцей. Не выходзьце на двор, хай полаг будзе апушчаны. Мне трэба да людзей, пагаварыць з імі. Ідзі, Ада.

Ён падштурхнуў яе да ўвахода, акуратна завесіў полагам, пастаяў яшчэ колькі хвілін тварам да зорнага ліўню, які ўсё не пераставаў, потым яшчэ раз цяжка ўздыхнуў і борздка пайшоў у змроку да вёскі, да хаціны родапачынальніцы.

Тут ужо сабралася палавіна вёскі, стаяў глухі гул, усе здзеравянелі, анямелі ад страху, ашаломленыя жудасцю і роспаччу. Былі мужчыны і жанчыны, якія аддаваліся адчуванню жаху і блізкай пагібелі з нейкім шаленствам, з асалодай; яны стаялі як апантаныя, скамянеўшы на месцы, або ашалела махалі рукамі і нагамі, у адной жанчыны на вуснах выступіла пена, жанчына сама з сабою скакала нейкі журботны і разам з тым непрыстойны танец, вырывала ў сябе цэлыя пасмы валасоў. Слуга бачыў, што ўжо яно пачалося, што ўжо амаль усе былі апанаваныя дурманам, падучыя зоркі ўсім зблыталі розум, здавалася, вось-вось выбухне оргія апантання, лютасці і самазнішчэння, трэба, не адкладаючы ні на хвіліну, згуртаваць вакол сябе жменьку мужных і дабрамысных людзей і падтрымаць іх дух.

Старая родапачынальніца заставалася спакойная; яна лічыла, што настае канец свету, але не абаранялася і ішла насустрач лёсу з каменным, жорсткім, амаль кеплівым абліччам, застылым у нерухомай грымасе. Слузе ўдалося прымусіць старую выслухаць яго. Ён стараўся пераканаць яе, што старыя, аседлыя ў небе зоркі паранейшаму на месцы, але гэта не даходзіла да яе ці то таму, што вочы ў яе ўжо страцілі вастрыню зроку, ці то таму, што яе ўяўленні пра зоркі і адносіны да іх моцна адрозніваліся ад уяўленняў заклінальніка дажджу, і яны не маглі паразумецца. Яна ківала галавой, а на твары заставалася бясстрашная, насмешлівая грымаса. Але калі Слуга пачаў благаць, каб яна не пакідала на волю лёсу гэтых людзей, апанаваных страхам і злымі дэманамі, яна адразу з ім згадзілася. Вакол яе і заклінальніка згрупаваўся невялікі гурток людзей, спалоханых, але не застрашаных, гатовых слухацца Слугі.

Яшчэ за хвіліну да гэтага Слуга спадзяваўся, што яму ўдасца адолець агульнае хваляванне сваім прыкладам, розумам, словам, тлумачэннем і парадамі. Але ўжо з кароткай гутаркі з родапачынальніцай ён зразумеў, што прыйшоў запозна. Ён думаў далучыць сваіх суродзічаў да свайго перажывання, перадаць ім яго як дарунак, каб прымусіць іх найперш зразумець, што не самыя зоркі, прынамсі, не ўсе, падаюць з неба і змятаюцца сусветнай віхурай, хацеў гэтым самым дапамагчы ім, каб перайшлі ад бездапаможнага страху да дзейснага назірання, каб пераадолелі ашаламленне і жах. Але ва ўсёй вёсцы, як ён неўзабаве пераканаўся, толькі нямногія былі яшчэ даступныя ягонаму ўплыву, і пакуль ён будзе іх угаворваць, астатнія дойдуць да вар'яцтва. Не, тут, як гэта часта бывае, нічога не даб'ешся разважаннямі і мудрагошчамі. На шчасце, меліся і іншыя сродкі. Калі было немагчыма раствараць смяротны страх у святле розуму, дык можна было даць гэтаму смяротнаму страху кірунак, арганізаваць яго, надаць яму форму, аблічча і ператварыць гэты жахлівы кавардак у нейкае моцнае адзінства, зліць разасобленыя, дзікія, раскіданыя галасы ў хор. Слуга адразу ўзяўся за работу, і прыдуманы ім сродак не спахібіў. Ён стаў перад людзьмі і пачаў выкрыкваць знаёмыя ўсім словы малітвы, якою звычайна адкрываліся жалобныя або пакайныя сходы: хаўтурны плач па памерлай Мацеры вёскі, свята ахвярнасці або каянне,

калі племю пагражала небяспека, скажам, звальная пошасць ці паводка. Ён выкрыкваў словы рытмічна, адбіваў такт далонямі, і ў такім самым рытме, таксама пляскаючы пад воклічы ў далоні, нізка нагінаўся, ледзь не да самай зямлі, і зноў выпростваўся; і вось ужо дзесяць, дваццаць чалавек паўтараюць за ім рухі, старая Маці, стоячы, рытмічна нешта мармыча, лёгкімі кіўкамі галавы намячае рытуальныя рухі. Хто падыходзіў з суседніх хацін, адразу падключаўся да рытму і духу цырымоніі, а некалькі апантаных або знясіленыя зваліліся і ляжалі плазам, або, захопленыя мармытаннем хору і рытмічнымі паклонамі мольбітаў, таксама да іх далучыліся. Задума Слугі ўдалася. Замест арды кручаных перад ім была абшчына гатовых на ахвяру і пакаянне мольбітаў, і кожнаму было за шчасце, кожнаму мацавала сэрца тое, што ён не павінен хаваць у сабе смяротны спалох і жах або аднаму выкрыкваць словы, што ён можа далучыцца да зладжанага хору, уключыцца ў агульную цырымонію. Многа тайных сіл дапамагаюць такому дзейству, яго самая моцная ўцеха ў аднастайнасці, якая падвойвае пачуццё агульнасці, яго самыя надзейныя гаючыя сродкі — мера і ўпарадкаванасць, рытм і музыка.

Начное неба ўсё яшчэ было занята войскам падучых зорак, як каскадам буйных кропель святла, яно цэлыя дзве гадзіны выкідала свае патокі, але панічны жах жыхароў вёскі перайшоў у засяроджанасць і дброцць, малітву і пакаянне, і перад абліччам парушальніка парадку неба чалавечыя страх і слабасць зноў прыбраліся ў парадак і культавую прыстойнасць. Яшчэ да таго, як зорны лівень, стаміўшыся, пачаў падаць радзейшымі струмянямі, здарылася гэта добрае дзіва, а калі неба пачало паступова супакойвацца і гоіцца, змораных мольбітаў напоўніла пачуццё збавення, бо яны здолелі ўлагодзіць вярхоўныя сілы і аднавіць парадак на небе.

Людзі не забыліся той страшнай ночы, пра яе гаварылі ўсю восень і зіму, але гаварылі ўжо не благальным шэптам, а будным голасам, з задавальненнем прыгадвалі, як мужна перанеслі няшчасце, як паспяхова справіліся з небяспекай. Цешылі сябе падрабязнасцямі, кожнага па-свойму ўразіла небывальшчына, кожны быццам першы ўбачыў яго, некаторых, асабліва баязлівых і ашаломленых, адважваліся нават на смех падымаць, і яшчэ доўга ў вёсцы трымалася ўзрушэнне: нешта пе-

ражыта, здарылася нешта вялікае; сталася Нешта!

Толькі адзін Слуга не падзяляў гэтых настрояў, ён не мог забыць той вялікай падзеі. Для яго гэта зла-весная прыгода была незабыўнай перасцярогай, якая застрэміла яго памяць, не давала спакою і не адпускала, і ўжо таму, што падзея адышла ў мінулае, што ўдалося ўзяць над ёю верх працэсіямі, малітвамі, пакаяннем, ён не лічыў яе вычарпанай і ўхіленай. Наадварот, чым далей, тым большай значнасці набірала гэтая падзея, ён напаўняў яе новым сэнсам, не пераставаў пра яе думаць і тлумачыць яе. Для яго яна была чараўніцтва прыроды, зрабілася неверагодна велізарнай і цяжкай праблемай з многімі наступствамі, той, каму прыпала ўбачыць, павінен быў усё жыццё помніць. Ва ўсёй вёсцы толькі яшчэ адзін чалавек успрыняў бы зарапад з тымі самымі думкамі, убачыў бы яго такімі самымі вачыма, як і ён, — гэтым чалавекам быў яго сын і вучань Туру, толькі гэтага адзінага сведку мог бы прызнаць Слуга, толькі з ягонымі меркаваннямі і заўвагамі ён мог бы згадзіцца. Але сына ён не дазволіў тады разбудзіць, і чым больш ён разважаў, чаму так зрабіў, чаму адмовіўся ад адзінага сапраўднага сведкі і назіральніка, тым больш мацнела ў яго ў душы ўпэўненасць, што зрабіў ён добра і правільна, паслухаўшыся мудрага прадчування. Ён хацеў уберагчы ад гэтага відовішча сваіх родзічаў, свайго вучня і таварыша, асабліва яго, бо нікога ён так моцна не любіў, як Туру. Ён утоіў ад яго зорны дождж, бо ён верыў у добрых духаў сну, асабліва юначага, і, акрамя таго, калі яму не заводзіць памяць, ён яшчэ ў той момант, на самым пачатку нябеснага знакавання, бачыў у ім не так непасрэдную небяспеку ўсім, як засцярожэнне ад бедаў у будучым, прычым ад такой нягоды, якая нікога не закране так блізка, як яго самога, заклінальніка дажджу. Нешта насоўваецца, нейкая небяспека альбо пагроза з тых сфераў, з якімі ён быў павязаны абавязкамі, і ў якой бы форме гэтая небяспека ні прыйшла, яна найперш уболіць яго самога. Сустрэць гэту небяспеку чуйна і адважна, душэўна падрыхтавацца да яе, прыняць яе, але не саступіць, не даць сябе прынізіць, — вось такую навуку, такое рашэнне падказалі яму гэтыя знакі. Доля, якая чакала яго, вымагала сталасці і мужнасці, і было б неразумна ўцягваць з сабою і сына, рабіць яго ўдзельнікам ці хоць бы сведкам сваёй пакуты і гненбы, бо як ён ні цаніў сына, усё ж нельга

было ведаць, ці выявіць патрэбную стойкасць хлопец, які яшчэ нічога ў жыцці не зведаў.

Яго сын Туру, вядома ж, быў вельмі незадаволены, што прамаргаў, праспаў вялікае відовішча. Як бы яго ні тлумачылі, гэта было нешта грандыёзнае; хто ведае, ці ўбачыць ён хоць раз у жыцці нешта такое, ён празяваў нешта звышнезвычайнае, сусветнае дзіва, таму нейкі там час воўчыўся на бацьку. Але потым крыўда разышлася, тым болей што стары стараўся адшкадавацца пабольшанай увагай і пяшчотай і ўсё часцей далучаў яго да сваіх абавязкаў: трэба думаць, што, прадбачачы падзеі, ён асабліва спяшаўся выгадаваць у Туру найбольш упраўнага спадкаемцу, якому вядомыя ўсе тайны рамяства. Ён рэдка гаварыў з сынам пра зорную зліву, затое смялей і смялей перадаваў яму свае сакрэты, спрыт, вопыт, веды, дазваляў яму шпацыры з сабою, дапускаў да спробаў падгледзець тайны прыроды, што дагэтуль звычайна рабіў толькі сам.

Прыйшла і мінула зіма, сырая, бадай, нават мяккая. Зоркі больш не сыпаліся з неба, нічога вялікага ці незвычайнага не здаралася, вёска супакоілася, паляўнічыя спраўна клалі звера, на жардзінах каля хацін у вецер дубатáлі прамерзлыя скуры, на тоўстых абчасаных лáгах валаклі па снезе з пушчы дровы. Якраз у гэтую пару самых моцных маразоў у вёсцы памерла адна старая жанчына, і яе нельга было адразу пахаваць; многа дзён, пакуль зямля не адтала, замерзлы труп стаяў прыхілены да сцяны каля ўвахода ў хаціну.

Толькі ўвесну часткова пацвердзіліся нядобрыя прадчуванні заклінальніка дажджу. Гэта была благая, без месяцавай аслоны, нярадасная вясна, без росту, без сакагону: месяц увесь час запазняўся, ніколі не сыходзіліся разам розныя знакі, якія спрыялі б пачатку сяўбы, кветкі ў пушчы распускаліся кволыя, вяла звісалі з вецця непраклюнутыя пупышкі, і ўсё больш нэндзала, чым расло. Слуга быў моцна ўстрывожаны, але не паказваў гэтага, толькі Ада, і асабліва Туру, бачылі, як грызе яго турбота. Ён не толькі выконваў свае звычайныя заклінанні, але і прыносіў асаблівыя ад самога сябе ахвяры, гатаваў дэманам пахучае варыва і напоі, каб абудзіць у іх пажаду, коратка падстрыг бараду, а валасы спаліў у ноч на поўню ў сумесі са смалой і сырою карою, што давала асабліва густы дым. Наколькі магчыма, ён пазбягаў публічных мальбонаў, агульных ахвяраванняў,

малітоўных шэсцяў з хорамі барабаншчыкаў, наколькі гэта было магчыма, ён хацеў сам змагацца з праклятым надвор'ем гэтай злой вясны. І ўсё-такі, калі прайшлі звычайныя тэрміны сяўбы, Слуга мусіў пайсці да родапачынальніцы з дакладам пра ўсё, і тут яго зноў чакалі няўдачы і завады. Старая родапачынальніца, яго добры сябар, якая заўсёды ва ўсім па-мацярынску спрыяла яму, не прыняла яго, яна занядужала і ляжала ў ложку, а ўсе свае абавязкі і клопаты перадаверыла сястры, а ўжо гэтая сястра была вельмі непрыязная да заклінальніка дажджу; у яе не было сестрынога характару, строгага, але шчырага, любіла яна забавы і гулі, і вось якраз гэтая схілка зблізіла яе з барабаншчыкам і блазнам Маро, які ўмеў падпусціць лёстачак і ў каленкі не ўпасці. Маро ж быў Слугоў вораг. Ужо з першай сустрэчы Слуга адчуў яе нсзычлівасць, хоць і не пачуў ні слова агуды. Яго прапановы і довады што да таго, каб патрываць з сяўбою, не спяшацца з ахвяраваннямі і шэсцямі, яна ўхваліла і прыняла, але старая гутарыла з ім холадна і як з ніжэйшым, а ягоную просьбу адведаць хворую ці хоць згатаваць ёй лекі — рашуча адхіліла. Засмучаны, як абдзелены, з нясмакам у роце, вярнуўся ён дахаты пасля гутаркі і палавіну месяца даступнымі яму сродкамі дабіваўся спрыяльнага сяўбе надвор'я. Але стыхіі, якія так часта зліваліся з глыбіннымі плынямі яго душы, гэтым разам толькі здзекаваліся з яго і варожа ўпарціліся; ні чарадзейства, ні ахвяры спасу не давалі. І зноў заклінальнік дажджу пайшоў да сястры родапачынальніцы, цяпер ужо была як бы просьба пацярпець, адкласці; яму стала ясна, што яна гаварыла пра яго і ягоную справу з Маро, гэтым блазнюком, бо ў гаворцы пра адклад сяўбы і новы дзень выхаду ў поле або пра ўрачысты малебен старая жанчына дужа старалася паказаць, што выдатна разбіраецца ў яго справах, прычым часам ужывала такія выразы, якія магла пераняць толькі ад яго былога вучня Маро. Слуга выпрасіў тры дні, нанава разлічыў размяшчэнне зорак, якое гэтым разам здалося яму крыху больш спрыяльным, і прызначыў пачатак сяўбы на першы дзень трэцяй фазы месяца. Старая згадзілася, закончыла гутарку рытуальным выслоўем; вяскоўцам паведамілі рашэнне, і ўсе пачалі рыхтавацца да свята сяўбы. І тут, калі ўжо, здавалася, усё як след згадзілася, дэманы зноў паказалі свой ліхі нораў. Роўна за дзень да

жаданага і рупліва рыхтаванага свята адышла ў нябыт старая родапачынальніца, урачыстасць прыйшлося адкласці, а замест яе прызначылі хаўтурныя грабакладзіны і пачалі да іх рыхтавацца. Хавалі родапачынальніцу вельмі пышна; за новай правіцелькай, яе сёстрамі і дочкамі ішоў заклінальнік дажджу; ён ішоў у строях, якія ўскладаў на сябе толькі на самыя ўрачыстыя малітоўныя шэсці, на галаве — вастраверхая шапка з лісінага футра; поплеч з ім — яго сын Туру круціў трашчотку з цвёрдага дрэва. Нябожчыцы, а таксама яе сястры, новай родапачынальніцы, была выказана вялікая учта. Маро, які ішоў на чале групы барабаншчыкаў, працiснуўся наперад і меў сваю долю ўвагі і поспеху. Вёска плакала і святкавала, упівалася жалобай і ўрачыстасцю, грукатам барабанаў і ахвяраваннямі, гэта быў усім цудоўны дзень, але ж сяўбу зноў адклалі. Слуга стаяў, поўны годнасці, засяроджаны, але глыбока засмучаны; яму здавалася, што разам з родапачынальніцай хаваюць найлепшыя дні яго жыцця.

Неўзабаве пасля таго, па волі новай родапачынальніцы, таксама пышна, была праведзена сяўба. Працэсія ўрачыста прайшла па палях, старая жанчына рытуальна кінула першыя прыгаршчы зярнят у абшчынную раллю, абапал яе ступалі сёстры, кожная несла мяшэчак з насеннем, з якіх старэйшая чэрпала. Слуга ўздыхнуў з палёгкай, калі цырымонія закончылася.

Але так святочна пасеянае не дало ні радасці, ні плёну — год быў бязлітасны. Пачаўшыся з вяртання зімы і сцюжы, надвор'е ў тую вясну і лета чыніла людзям усякія падступствы і штукі, а калі нарэшце рэдзенькая, чэзлая рунь накрыла палеткі, па ёй быў нанесены апошні, самы моцны і жорсткі ўдар: насунулася нечуваная суша, якой яшчэ не было на людской памяці. Тыдзень у тыдзень сонца варылася ў бялявым марыве скварў, плыткія ручаіны перасохлі, а ад вясковай сажалкі засталася толькі мулістая лужына — рай стракозам і камарыным хмарам; перасохлая зямля патрэскалася, было голым вокам відаць, як чэзне і гіне ўраджай. Час ад часу ўспаўзала на неба хмара, але навальніцы не давалі вільгаці, а калі і пырскаў сякі-такі дождж, дык за ім ішлі доўгія дні гарачага ўсходняга пярэсыху, маланкі часта цалялі ў перасохлыя высокія дрэвы, і тады ўпражаныя вяршаліны ўспыхвалі знішчальным полымем.

— Туру, — сказаў аднаго разу Слуга сыну, — даброМ гэта не скончыцца, усе дэманы супраць нас. А пачалося яно з тато зарападу. Думаю, што будзе каштаваць мне жыцця. Запомні сабе: калі прыйдзецца прынесці мяне ў ахвяру, ты ў тую ж хвіліну заступіш маё месца, і тады ты адразу загадай, каб цела маё спалілі і попел рассеялі па палях. Зімою вы будзеце моцна галадаць. Але пасля гэтага беды скончацца. Ты павінен паклапаціцца, каб ніхто не спакусіўся насеннем, за гэта трэба караць смерцю. Налета ўжо стане лягчэй, і людзі скажуць: «Добра, што ў нас новы, малады заклінальнік надвор'я».

Вёска была ў роспачы, Маро нацкоўваў людзей на Слугу, часам у спіну заклінальніку дажджу ляцелі пагрозы і праклёны. Ада хварэла, яе даймалі ваніты, трэсла ліхаманка. Малітоўныя шэсці, ахвяраванні, барабанныя хоры ўжо нічога паправіць не маглі. Слуга кіраваў імі, гэта быў яго абавязак, але калі натоўп рассейваўся, ён заставаўся адзін, бо ўсе пазбягалі яго. Ён ведаў, што трэба было рабіць, ведаў таксама, што Маро патрабаваў ужо ў родапачынальніцы, каб яго, Слугу, прынеслі ў ахвяру. Каб абераначы свой гонар, а таксама дзеля сына ён зрабіў рашучы крок: убраў Туру ў святочныя строі і пайшоў з ім да родапачынальніцы, назваў сына сваім пераемнікам і сам прапанаваў сябе ў ахвяру. На імгненне яна ўпілася ў яго выпрабавальным, цікаўным позіркам, пасля кіўнула і сказала: «Добра».

Ахвяраванне было прызначана на той самы дзень. Усе людзі вёскі хацелі б прысутнічаць, але многія ляжалі ў крываўцы. Ада таксама ляжала хворая. Туру ў ягоных строях і высокай лісінай шапцы ледзь не зваліў сонечны ўдар. У шэсці бралі ўдзел усе дастойнікі вёскі, хто не быў хворы, родапачынальніца з дзвюма сёстрамі, старэйшыны, начальнік хору — барабаншчык Маро. За імі бязладнай гурмою ішлі ўсе астатнія. Ніхто не адважыўся даць ганьбы заклінальніку дажджу, панавала поўнае маўчанне. Шэсце скіравала ў лес і пайшло да вялікай круглай паляны, якую Слуга сам выбраў месцам свяшчэннага абраду. Большасць мужчын пабралі з сабой каменныя тапары, каб памагчы насячы дроў на вогнішча. Калі выйшлі на паляну, заклінальніка дажджу паставілі пасярэдзіне, вакол яго пасталі кругам, далей, кругам шырэйшым, сталі ўсе астатнія. Натоўп нерашуча і разгублена маўчаў, таму загаварыў сам заклінальнік дажджу.

— Я быў у вас заклінальнікам дажджу, — сказаў ён, — і ўсе доўгія гады стараўся рабіць сваю справу як мага лепш. Цяпер дэманы паўсталі супроць мяне, і ўдача пакінула мяне. Таму я прапаную сябе ў ахвяру. Гэта задаволіць дэманаў. Мой сын будзе вам новым заклінальнікам дажджу. А цяпер — забіце мяне і, як толькі я буду мёртвы, дакладна выконвайце прадпісанні майго сына. Будзьце шчаслівыя і здаровыя! Але хто ж мяне заб'е? Я прапаную барабаншчыка Маро, ён найбольш пасуе на гэта.

Ён змоўк, але ніхто не зрушыў з месца. Туру, расчырванелы пад цяжкай лісінай шапкай, пакутлівым позіркам абвёў людзей, губы ягонага бацькі скрывіліся ў грэблівай усмешцы. Нарэшце родапачынальніца раз'юшана тупнула нагой, пальцам паклікала Маро і крыкнула:

— Ідзі ж! Бяры тапор і рабі, што трэба!

Маро з тапаром у руцэ стаў перад сваім былым настаўнікам, ён ненавідзеў яго цяпер люцей, чым калі-небудзь раней, пагардлівая ўсмешка маўклівых старэчых вуснаў жорстка зневажала яго. Ён падняў тапор, узмахнуў ім над галавой, прымерыўся і затрымаў яго, пільна гледзячы ў твар сваёй ахвяры і чакаючы, калі заклінальнік дажджу заплюшчыць вочы. Але Слуга не зрабіў гэтага, ён упарта глядзеў на чалавека з тапаром, твар у яго быў без ніякага выразу, а калі што і можна было на ім прачытаць, дык гэта была не то спагада, не то насмешка.

Маро ў злосці адкінуў тапор.

— Не магу! — прамармытаў ён, прабіўся праз кола дастойнікаў і знік у натоўпе. Нехта ціхенька засмяяўся. Родапачынальніца ўся белая зрабілася ад гневу, яна злавала на труслівага, ні на што не здатнага Маро не менш, чым на гэтага ганарыстага заклінальніка дажджу. Яна кіўнула аднаму старэйшыну, паважанаму ціхаму чалавеку, які стаяў, абапёршыся на свой тапор, і, мусіць, саромеўся гэтага ганебнага відовішча. Ён ступіў наперад, коратка і прыязна кіўнуў ахвяры (яны яшчэ ў дзяцінстве вадзіліся), і цяпер Слуга гатоўна заплюшчыў вочы і крыху нахіліў галаву. Стары ўдарыў яго тапаром, ахвяра ўпала на зямлю. Туру, новы заклінальнік дажджу, не меў сілы сказаць хоць слова, толькі рухамі ён паказаў, што трэба рабіць далей, і неўзабаве вырас касцёр, і на яго ўсклалі

мёртвае цела. Урачысты рытуал здабывання агню з дапамогаю дзвюх асвянцоных палачак быў першым актам Туру на яго новай пасадзе.

## СПАВЯДАЛЬНІК

У тыя часы, калі святы Іларыён быў яшчэ жывы, хоць ужо моцна абчэплены гадамі, жыў у горадзе Газе чалавек Ёзэфус Фамулус, які да сваёй трыццатай вясны вёў пабожнае жыццё і чытаў язычніцкія кнігі, аднак пасля, праз жанчыну, якое дамагаўся, ён спазнаў боскае вучэнне і слодыч хрысціянскіх дабрачыннасцяў, прыняў святое хрышчэнне, адрокся ад сваіх грахоў і шмат гадоў праседзеў каля ног прэсвітэраў свайго горада, з прагнай увагаю слухаючы ўпадабаныя ўсімі гавэнды пра жыццё святых пустэльнікаў, пакуль аднойчы, ужо ў трыццаць шэсць гадоў, не ступіў на тую дарогу, якую прайшлі да яго святыя Павел і Антоній, а за імі і многія праведнікі. Ён перадаў рэшту сваёй маёмасці старэйшынам, каб тыя падзялілі яе паміж беднымі абшчыннікамі, развітаўся каля гарадское брамы з сваімі блізкімі і рушыў з горада ў пустыню, з абрыдлага свету — у гаротнае жыццё пакайных анахарэтаў.

Доўгія гады паліла і сушыла яго сонца, ён здзіраў сабе на малітве скуру на каленях аб каменне і пясок, ён пасціў да заходу сонца, каб потым скаўтаць жменьку фінікаў; нячыстыя даймалі яго спакусамі, смешкамі і панадамі, ён бараніўся малітваю, аскезай, самаадрачэннем, падобна на тое, як гэта мы чытаем у жыццёпісах святых айцоў. Доўгія ночы чуваў ён без сну, сачыў зоркі, але і зоркі ўводзілі яго ў змусту і спакушалі, ён пазнаваў астральныя фігуры, паводле якіх калісьці навучыўся вычытваць гісторыі багоў і падабенствы чалавечай істоты, — навука, якую адмаўлялі прэсвітэры, але яна яшчэ доўга надакучала яму прывідамі і думкамі з яго паганскіх часоў.

Усюды, дзе толькі ў тых краях сярод голай, няплоднай пустыні цякла крыніца, жылі тады пустэльнікі, некаторыя ў поўным адасабленні, некаторыя з невялікімі брацтвамі, як гэта паказана на адной фрэсцы пізанскага Кампа-Санта; выступаючы за жыццё ў беднасці і прапаведуючы любоў да блізкага, яны былі прыхільнікі нейкай палымянай ars moriendi — мастацтва паміранні, па-

мірання для свету і для свайго «я», адыходу ад яго, Спаса, у светлае і нятленнае быццё. Іх наведвалі анёлы і дэманы, пустэльнікі складалі гімны, праганялі чарцей, лекавалі і багаслаўлялі, быццам пабралі на сябе задачу адрабіць марнасць, грубасць, юрлівасць многіх вякоў, што ўжо адышлі і што яшчэ прыйдуць, моцным парываннем духоўнага палымнення і самаадрачэння, экстатычным звышлішкам волі да подзвігу. Сёй-той з іх, мусібыць, ведаў старавечныя прыёмы ачышчэння, якія вялі свой пачатак яшчэ з язычніцтва, сродкі і выцвічкі ўжо стагоддзямі практыкаванай у Азіі навукі адухоўліваць сябе, але пра гэта не гаварылася ўголас, ды ўжо ніхто і не вучыў гэтым прыёмам ёгаў, яны былі забароненыя, як і ўсё паганае, на што хрысціянства ўсё больш і больш накладала руку.

У некаторых пустэльнікаў уласцівае іх жыццю духоўнае гарэнне спарадзіла адмысловыя дары: дар малітвы і гаення ўскладаннем рук, дар прадбачання і выгнання нячысцікаў, дар суду і кары, суцяшэння і багаславення. І ў Ёзэфусавай душы драмаў нейкі дар, і з гадамі, калі валасы ў яго пасівелі, дар гэты выспеліўся. Гэта быў дар слухаць. Варта было якому-небудзь пустэльніку або ўгрызенаму сумленнем парафіяніну прыйсці да Ёзэфуса і расказаць пра свае ўчынкі, цярпенні, спакушэнні і памылкі, расказаць пра сваё жыццё, пра сваё парыванне да дабра, пра сваё паражэнне або свае страты, пра сваё гора і скруху, як Ёзэфус расчыняў перад пакайнікам слых і сэрца, быццам хацеў увабраць у сябе ўсё гора яго і турботы, увабраць іх у сябе і адпусціць яго ўжо вызваленага і супакоенага. Спакваля за гэтыя доўгія гады Ёзэфус цалкам увайшоў у сваю службу, ператварыўшыся ў прыладу, у нейкае вуха, да якога людзі звярталюцца з даверам. Вялікая цярплівасць, нейкая чароўная паслухмянасць і маўклівасць былі яго даброцямі. І людзі ўсё часцей і часцей пачалі хадзіць да яго, каб выгаварыцца, скінуць з сябе накопленую гаркоту, але ніводнаму пакайніку не хапіла адвагі, рашучасці прызнацца, хоць і немалая была ў яго дарога да трысняговага буданчыка Ёзэфуса. Прыйшоўшы, ён пачынаў выкручвацца, саромеўся, быццам даражыў сваімі грахамі, уздыхаў і доўга маўчаў пасля прывітання, а ён, Ёзэфус, быў з усімі аднолькавы — ахвоча ці супраць волі, паспешліва ці запінаючыся, выдавалі прыхадні свае таямніцы, злосна ці ганарыста расставаліся

з імі. Яму ўсе былі роўныя: вінаваціў чалавек бога ці сябе самога, прыхоўваў ці пабольшваў свае грахі і цярпенні, спавядаўся ў забойстве ці адно толькі ў парушэнні цноты, аплакваў здраду каханай ці загублены душэўны ратунак. Ёзэфус не жахаўся, калі наведнік распавядаў пра блізкае знаёмства з дэманамі і па ўсіх знаках быў з самім чортам на «ты», ён не сердаваў, калі каторы за доўгімі і нуднымі байкамі маніўся прытаіць самае важнае, ён не выходзіў з сябе, калі госць узвальваў на сябе самыя вар'яцкія правіны ў прыдуманых грахах. Здавалася, усё, што чуў Ёзэфус: скаргі, прызнанні, абвінавачанні, згрызоты сумлення — усё ўбіраў ён у сябе, як пясок у пустыні ўбірае дождж; здавалася, у яго ні пра што няма сваёй думкі і няма ў ім ні шкадавання, ні жалю, ні варожасці да спавядальца, і ўсё ж, а можа, менавіта таму, тое, што яму давяралі, здавалася сказаным не напуста, а ў час самой споведзі, у час слухання яе яно як бы пераўтваралася, лягчэла, а то і зусім знікала. Рэдка калі ён ушчуваў або перасцерагаў, яшчэ радзей раіў або загадваў, гэта нібыта і не ўваходзіла ў ягоныя абавязкі, ды і спавядальцы адчувалі, што гэта яму не абыходзіць. Ягоным было — абуджаць і прымаць давер, цярпліва і любасна слухаць, дапамагаць гэтым самым яшчэ не зусім выспеленай споведзі канчаткова сфармавацца, даць усяму, што застаялася і загусла ў наведнікавай душы, растаць і сцячы, увабраць у сябе ўсё гэта і ахінуць маўчаннем. Толькі ў канцы споведзі, хай яна страшная альбо бяскрыўдная, пакорлівая альбо ганарыстая, ён казаў пакаянцу ўкленчыць побач з ім, казаў пацеры і, перш чым адпусціць грэшніка, цалаваў таму ў лоб. У ягоную службу не ўваходзіла накладаць епітым'ю або кару, ды і даваць афіцыйна адпуст грахоў ён не лічыў сваім правам, ён не судзіў і не дараваў. Выслухаўшы і зразумеўшы, ён як бы браў на сябе частку віны, дапамагаў несці чужы цяжар. Сваім маўчаннем ён хаваў у магілу і аддаваў забыццю пачутае. Молячыся пасля споведзі разам з грэшнікам, ён паўставаў перад ім як брат і роўны. Цалуючы пакаянца, ён быццам багаслаўляў яго, але хутчэй як брат, чым як духоўнік, хутчэй ласкава, чым урачыста.

Слава пра яго разнеслася па ўсіх ваколіцах Газы, яго ведалі далёка і часам нават ставілі побач з вялікім спавядальнікам Дыёнам Пугілем, чыя вядомасць, зрэшты, была гадоў на дзесяць даўнейшая, ды і грунта-

валася зусім на іншым; бо Дыён славіўся менавіта тым, што чытаў у душах даверлівых хутчэй і выразней, чым у пачутых словах, часта здзіўляючы нясмелага спавядальца, калі выказваў яму проста ў вочы ўсе яго нявыказаныя грахі. Гэты сэрцавед, пра якога Ёзэфус чуў дзівосныя расказы і з якім ён ніколі не асмеліўся б параўнаць самога сябе, быў боганатхнёны настаўнік аблудных душ, вялікі суддзя, карнік і ўладжвальнік: ён накладваў епітым'ю, абавязваў да бічавання і паломніцтва, асвячаў шлюбы, змушаў ворагаў да прымірэння і карыстаўся не меншым аўтарытэтам, чым каторы епіскап. Жыў ён непадалёк ад Аскалона, аднак сустрэчы з ім шукалі просьбіты з самога Ерусаліма і нават з яшчэ далейшых мясцін.

Як і большасць пустэльнікаў і анахарэтаў, Ёзэфус Фамулус доўгія гады вёў зацятае і знясільнае змаганне з сабой. Хоць ён і пакінуў свецкае жыццё, аддаў сваю маёмасць і дом, пакінуў горад з яго такімі шматлікімі спакусамі, але ад сябе самога ён не мог нікуды ўцячы, а ў ім жылі ўсе стыхіі душы і цела, якія толькі могуць увергнуць чалавека ў бяду і спакушэнне. Найперш ён падавіў у сабе ўсё цялеснае, падавіў сурова і няўмольна, прывучаў цела да гарачыні і холаду, голаду і смагі, шнароў і мазалёў, пакуль яно не высахла і не завяла; але нават у такой яго аскецкай абалонцы старавечны Адам няраз дакучаў яму самымі нянаджанымі жаданнямі і страсцямі, снамі і відзежамі, бо добра ж вядома, што д'ябал надта рупіцца аскетамі і пустэльнікамі. Так што потым, калі яго пачалі час ад часу наведваць людзі, якім было патрэбна суцяшэнне, якія прагнулі споведзі, ён з удзячнасцю ўгледзеў у гэтым покліч мілаты і ўспрыняў яго як нейкую палёгку ў сваім аскетычным жыцці: яно атрымала надасабісты сэнс, нейкі сан быў яму давераны, цяпер ён мог служыць, блізкім і служыць богу як прылада ў яго руках для прыцягнення да сябе душ. І гэта было дзівоснае і сапраўды ўзвышальнае пачуццё. Але пазней ён адкрыў, што і душэўныя скарбы належаць свету зямнога і могуць зрабіцца спакушальнымі пасткамі. Бо здаралася, калі дарожнік, пешы ці конны, спыняўся перад яго келляй, выдзеўбанай у скале, і прасіў глытка вады, а потым споведзі, у нашага Ёзэфуса з'яўлялася пачуццё задаволенасці самім сабой, пачуццё марнае і себялюбнае; ён жахаўся, калі распазнаваў яго. На каленях ён благаў у бога даравання,

прасіў, каб ніхто болей не прыходзіў да яго, нягоднага, на споведзь: ні манаская брацiя з суседніх келляў, ні парафіяне з горада і сёл. Але і калі наведнікі не дакучалі яму, ён усё роўна не адчуваў палёгкі, калі ж потым да яго зноў пачыналі звяртацца людзі, ён лавіў сябе на новых грахах: слухаючы прызнанні, ён адчуваў нейкі ўнутраны холад, поўную абыякавасць, нават пагарду да спавяданага. З уздыхам спрабаваў ён пабароць і гэтыя спакусы, аддаваў сябе пасля кожнай выслуханай споведзі подзвігам пакаяння і знемажэння. Яшчэ больш, ён паставіў сабе законам: да ўсіх спавядальцаў ставіцца не толькі як да братоў, але нават з адмысловай шанобай, тым большай, чым меней яму падабаўся той ці іншы наведнік; кожнага ён прымаў як божага вестуна, пасланага яму на выпрабаванне. Не хутка, ужо старэючы, ён з гадамі набыў вядомую аднастайнасць у жыцці, і тым, хто жыў побач з ім, ён здаваўся беззаганным праведнікам, што здабыў унутраную заміранасць у бозе.

Аднак жа і заміранасць ёсць нешта жывое, і, як усё жывое, яна павінна расці або менець, павінна суадносіцца з акалічнасцямі, павінна паддавацца выпрабаванням і пераменам. Такая была і заміранасць у Ёзэфуса Фамулуса: яна была няўстойлівая, яна то прыходзіла, то знікала, то была блізкая, як свечка ў руцэ, то бясконца далёкая, як зоркі на зімовым небе. Але з часам зусім інакшы, новы від грэху і спакусы пачаў абцяжарваць ягонае жыццё ўсё часцей і часцей. Гэта не было моцнае, палкае парыванне, рух альбо мяцеж помыслаў, хутчэй наадварот. Амаль непрыкметнае пачуццё гэта ён на першым часе зносіў лёгка, не адчуваючы ніякіх згрызотаў або недахопу чагосьці: гэта быў нейкі вялы, санлівы, абыякавы стан духу, які можна было азначыць толькі адмоўна, нейкае раставанне, змаленне і ўрэшце поўная адсутнасць радасці. Усё гэта было падобна на дні, калі і сонца не свеціць, і дождж не падае, а неба завалочанае і як бы ціха апускаецца само ў сябе, нейкае шэрае і ўсё ж не чорнае, у паветры задуха, але не тая, што нясе з сабой навальніцу. Вось такія дні і насталі цяпер у пастарэлага Ёзэфуса; усё менш яму ўдавалася адрозніць раніцу ад вечара, свята ад будняў, гадзіны ўздыму ад гадзін заняпаду, жыццё цягнулася, над ім вісела стома і абыякавасць. Прыйшла старасць, журботліва падумаў ён. А журба налягала на яго таму,

што ён чакаў: набліжэнне старасці і паступовае згасанне страсцей зробяць яго жыццё больш прасветленым і лёгкім, будуць яшчэ адным крокам да жаданай гармоніі і сталай заміранасці, а старасць расчароўвала і ашуквала яго, бо не прыносіла з сабой нічога, апрача гэтай вялай, шэрай, бязрадаснай пустэчы, гэтага адчування невылечнай перанасычанасці. Ён перанасыціўся ўсім: самім існаваннем, тым, што дыхаў, начным сном, жыццём у сваёй пячоры на краі невялічкага аазіса, вечнай зменай дня і ночы, чаргаваннем дарожнікаў і пілігрымаў на аслах і на вярблюдах, а найбольш тымі людзьмі, якія прыходзілі дзеля яго самога — гэтымі дурнымі і напалоханымі і да таго ж поўнымі блазенскай веры людзьмі, якім трэба было распавесці яму сваё жыццё, грахі і страхі, свае спакушэнні і самаабвінавачанні. Часам яму здавалася: вось у аазісе цурчыць малюсенькая крынічка, збірае свае воды ў ямцы, выкладзенай камянямі, бяжыць па траве раўчуком, потым выліваецца ў пясок пустыні, і вось ён ужо ссяк і памёр — так і ўсе гэтыя споведзі, пералічэнні грахоў жыццёпісы, гэтыя згрызоты сумлення, і вялікія і малыя, цяжкія і пустыя, сцякаюцца ў яго вуха тузінамі, сотнямі, усё новыя і новыя. Але яго вуха не было мёртвае, як пясок пустыні, яно было жывое і няздольнае вечна ўбіраць у сябе, глытаць і паглынаць; ён адчуваў, што стаміўся, ягоную сілу ўжылі на зло, ён перанасычаны, ён прагне, каб гэтыя патокі і ўсплёскі казаняў, турботаў, абвінавачанняў, самабічаванняў нарэшце перапыніліся, каб месца гэтага бясконцага цурчання занялі спакой, смерць, цішыня. Але ён хацеў канца, ён стаміўся, ён быў сыты па горла, жыццё яго зблякла і зняцэнілася, і дайшло да таго, што Ёзэфус часам адчуваў спакусу пакласці крэс такому існаванню, пакараць сябе, выкрасліць з спісу жывых, як гэта зрабіў, павесіўшыся, Юда Прадажнік. І калі ў першыя гады манаскага жыцця д'ябал маніўся закінуць яму ў душу вобразы і крозы свецкага юру, дык цяпер ён апрыкраў яму думкамі пра самазнішчэнне, так што Ёзэфус пачаў прыглядвацца да кожнай галіны, а ці не падыдзе яна, каб на ёй павесіцца, і да кожнай скалы, а ці дастаткова яна высокая і крутая, каб кінуцца з яе. Ён супрацьстаяў спакусе, ён змагаўся, ён не паддаваўся, аднак і ўдзень і ўночы жыў у агні нянавісці да сябе і прагі смерці, жыццё здавалася яму невыносным і ненавісным.

Так было з Ёзэфусам. Аднаго разу, стоячы на крутой скале, ён убачыў удалечыні паміж зямлёй і небам дзве-тры малюпасенькія фігуркі: гэта былі дарожнікі ці пілігрымы, а можа, і людзі, якія мерыліся наведаць яго, каб паспавядацца, — і раптам ім авалодала неадольнае жаданне як мага хутчэй уцячы адсюль, прэч з гэтых мясцін, прэч ад гэтага жыцця. І жаданне гэта з такой сілай і палкасцю ахапіла яго, што перабарола ўсе астатнія подумкі, адкінула пярэчанні, сумненні, якіх жа таксама было нямала: хіба мог дабрачынны аскет, не спрагаючы сумленне сваё, аддавацца безадказнаму парыванню? І вось ён ужо бег, ужо вярнуўся да сваёй пячоры, дзе столькі прайшло гадоў барацьбы, да сасуда, які ўвабраў столькі перамог і паражак. У апантанай спешцы ён згроб прыгаршчы фінікаў, нацадзіў вады ў сушаны гарбуз, запхнуў усё гэта ў сваю старую торбу, перакінуў яе цераз плячо, схапіў посах і пакінуў зялёны спакой сваёй маленькай радзімы, зноў зрабіўшыся ўцекачом, які не ведае ні міру, ні спакою, які бяжыць ад бога і ад людзей і найперш ад таго, што яшчэ зусім нядаўна лічыў сваім найвышэйшым абавязкам і сваёй місіяй.

Спачатку ён бег як зацкаваны, быццам убачаныя ім са скалы постаці і праўда гналіся за ім і былі ягонымя ворагі. Але праз некалькі гадзін ён адолеў гэтую баязлівую спешку, хада прынесла дабрадатную стому, і на першым жа прывале, калі ён не дазволіў сабе дакрануцца да фінікаў — бо ў яго ўжо стала святым правілам не дакранацца да ежы да заходу сонца, — абудзіўся ягоны розум, прывучаны да самотных разважанняў, зноў ачуўся і пачаў выпрабавальна разглядаць яго неабдумныя ўчынкі. І розум не астудзіў гэтых учынкаў, якімі б неразумнымі яны яму ні здаваліся; не, ён амаль ласкава пазіраў на іх — бо ўпершыню пасля доўгага часу ён убачыў паводзіны Ёзэфуса прастадушнымі і нявіннымі. Праўда, гэта былі ўцёкі, раптоўныя і неабдуманыя ўцёкі, і ўсё ж не ганебныя. Ён пакінуў свой пост, які стаў яму не па плячы, сваімі ўцёкамі ён прызнаўся сабе і таму, хто, можа, назіраў за ім, у сваім паражэнні; ён спыніў нарэшце штодзённую бескарысную барацьбу і прызнаў сябе разбітым і пераможаным. Гэта было, як казаў яго розум, не тое каб дужа велічна, не да твару герою або святому, але, прынамсі, шчыра і здавалася непазбежным; Ёзэфус цяпер здзіўляўся, чаму

ён даўно не наважыўся на ўцёкі, чаму так доўга, так неверагодна доўга цярпеў? Упартасць, з якой ён змагаўся за безнадзейную справу, здавалася яму зараз памылкай, і яшчэ горш — сутаргамі ягонага сябелюбства, сутаргамі яго спарахнелага Адама, і яму цяпер стала зразумела, чаму гэтая ўпартасць прывяла да такіх кепскіх, проста д'ябальскіх вынікаў, да такой растурзанасці і вяласці душы, да дэманічнай апантанасці смерцю і самазнішчэннем. Хоць хрысціяніну і не лічыць бачыць у смерці свайго ворага, падзвіжніку ж і святому след глядзець на ўсё жыццё як на ахвяру, усё ж думка пра добраахвотнае накладанне на сябе рук была цалкам д'ябальская і магла нарадзіцца толькі ў такой душы, настаўнік і абаронца якой ужо не анёл гасподні, а злыя дэманы. Нейкі час Ёзэфус сядзеў прыгнечаны і збянтэжаны, а пад канец жахнуўся, зірнуўшы на сваё жыццё з адлегласці, адоленай за некалькі гадзін хады, і ўсвядоміўшы яе як безнадзейную маяту стараватага чалавека, што не знайшоў сваёй мэты і неадступна даймаецца жахлівымі спакусамі павесіцца на першай галіне, як той, што прадаў Спаса. Але калі ён і жахнуўся, так падумаўшы пра дабравольную смерць, дык у гэтым жаху было штосьці ад дачасавага, дахрысціянскага, старажытнапаганскага ведання, ведання пра спрадвечны звычай прыносіць у ахвяру чалавека, калі на ахвяраванне прызначалі цара, святога або абранца племені, які часта павінен быў рабіць усё гэта сваімі рукамі. І жах выклікала не так думка пра гэты цёмны звычай язычніцкай старавечнасці, як пра тое, што ўрэшце і Спасава смерць на крыжы — не што іншае, як дабравольная самарэзь. Яно і праўда, варта было Ёзэфу як след прыгадаць, і цьмянае ўсведамленне гэтага ён знаходзіў ужо ў першых успышках тугі па самазабойстве; гэта было злосна-ўпартае і дзікае жаданне прынесці сябе ў ахвяру і тым самым недазволеным чынам паўтарыць подзвіг Спаса або ж і недазволеным чынам намякаць, што Спас не так ужо і ўпаспешыў у сваёй справе. Ёзэфус здрыгануўся, але тут жа адчуў, што небяспека ўжо мінулася.

Доўга прыглядаўся ён да гэтага пустэльніка па імені Ёзэфус, да таго, у якога ён ператварыўся і які, замест таго каб ісці за прыкладам Юды або, калі хочаце, прыкладам Крыжаванага, кінуўся зараз упрочкі, зноў аддаўшы свой лёс у руку божую. Чым ясней яму ўяўля-

лася пекла, якога ён пазбег, тым мацней нарасталі ў ім сорам і роспач, і пад канец усё гора яго абярнулася ў невыносна задушлівы камяк у горле і раптам знайшло сабе выйсце і разбаўленне ў нястрымным патоку слёз, якія прынеслі дзівосную палёгку. О, як даўно ён не плакаў! Слёзы цяклі ручаём, вочы ўжо нічога не бачылі, але смяротнай задухі ўжо як і не было, а калі ён ачнуўся дарэшты, пасмакаваў соль на вуснах і зразумеў, што плача, дык на імгненне яму здалося, што ён зноў стаў дзіцём, якое не ведала ліха. Ёзэфус усміхнуўся, яму было крыху сорамна за слёзы, потым ён устаў і зноў рушыў у дарогу. Добра ён не ведаў, куды вядуць яго ўцёкі і што з ім станецца; сапраўды, ён здаваўся сам сабе дзіцём, у ім ужо не было ні змагання, ні волі; ён з палёгкаю адчуваў сябе так, быццам яго вялі, быццам далёкі добры голас клікаў і вабіў яго дамоў, быццам вандраванне ягонае было вяртаннем. Нарэшце ён стаміўся, стаміўся яго розум, які цяпер замоўк, альбо супакоіўся, альбо адчуў сваю непатрэбнасць.

Каля вадапою, дзе Ёзэфус наважыўся спыніцца нанач, ён заўважыў некалькі разуючаных вярблюдаў; але ў невялікім гурце падарожнікаў былі і дзве жанчыны, і Ёзэфус абышоўся маўклівым прывітаннем, пазбягаючы ўступаць у гутарку. Аднак пасля таго як ужо ў сутонні ён з'еў некалькі фінікаў, памаліўся і прылёг, ён міжволі пачуў размову двух дарожнікаў, старога і маладога: абодва яны ляжалі зусім блізка ад яго. Гэта была толькі частка дыялогу, далей дарожнікі гаварылі неразборлівым шэптам. Але і гэты ўрывак прыцягнуў Ёзэфусаву ўвагу і прымусіў праляжаць без сну амаль усю ноч.

— Добра ўжо, — пачуў ён старэйшага, — і тое добра, што ты рашыўся паехаць да такога святога чалавека паспавядацца. Пустэльнікі — яны не толькі хлеб жуюць, яны сёе-тое петраць і заклёны ведаюць. Варта сказаць такому слоўца, і раз'юшаны леў падцісне хвост, разбойнік, і падасца ўпрочкі. Але, але, яны і льва могуць ручным зрабіць, а аднаму з іх — надта ж бо ён быў святы чалавек — яго свойскія львы нават магілу выграблі, калі ён памёр, а потым роўненька так засыпалі; доўга яшчэ пасля пахавання два львы ўдзень каля магілы сядзелі, як бы варту неслі. Ды і не толькі львоў яны ўмеюць прыручаць. Адзін такі святы ўзяўся за рымскага цэнтурыёна — звер быў, а не чалавек, распуста распустаю, ва ўсім Аскалоне такога другога не знойдзеш,

а святы гэты так за яго ўзяўся, што салдат зусім панік, як сабака пабіты ў сваю буду палез. Ніхто яго пасля гэтага і пазнаць не мог, такі ціхі і рахманы ён зрабіўся. Праўда, нядобра тут сталася, неўзабаве пасля гэтага ён узяў дый памёр.

— Святы?

— Ды не, цэнтурыён. Варон звалі яго. Пасля таго як пустэльнік як след абламаў яго, салдат увесь абмяк, два разы яго трасца патрэсла, а праз тры месяцы ён і памёр. Што ж, шкадаваць яго не выпадае; але як бы там ні было, а ў мяне з галавы не йдзе: мабыць, пустэльнік не толькі д'ябла з яго выгнаў, мабыць, яшчэ і слова такое меў наўме, каб салдата хутчэй у зямлю запраторыць.

— Гэта ты пра святога чалавека так гаворыш? Ніколі не паверу!

— Хочаш вер, хочаш не, даражэнькі. Але з таго дня цэнтурыёна таго як усё роўна падмянілі, не кажучы — зачаравалі, тры месяцы прайшло і...

Нейкі час абодва маўчалі, потым зноў пачуўся голас маладога:

— Чуў я пра аднаго пустэльніка, дзесьці тут непадалёк павінен ён быць, зусім адзін каля крынічкі жыве, за два крокі ад дарогі на Газу, Ёзэфусам завуць яго, Ёзэфус Фамулус. Шмат чаго мне пра яго казалі.

— Ну, а што ж казалі?

— Надта ж бо такі сумленнік, а на жанчын — дык і не зірне ніколі. Пройдзе хай міма ягонай цэлі караван і хай хоць на адным вярблюдзе сядзіць жанчына, дык як бы яна ні была ўхутаная, пустэльнік адвернецца ад яе і пойдзе ў цэлю. Многія да яго спавядацца ходзяць, дужа многія.

— Мусіць, пустое мелюць, а то б я пра яго пачуў. Ну, і што ж ён у цябе ўмее, твой Фамулус?

— Споведзі слухаць. Не будзь у ім нічога добрага або не разумей ён нічога, людзі б не хадзілі да яго. Між іншым, павядаюць пра яго, быццам ён ніколі і слова не мовіць, не сварыцца, не крычыць, кар ніякіх не накладае, ласкавы, кажуць, чалавек, нават рахманы.

— А што ж ён тады робіць, калі не сварыцца, не карае і нават рота не растуліць?

— Слухае цябе, дзіўна так уздыхае і хрысціцца.

— Ай, ды кінь ты! Выдумаў мне святога! Няўжо ты такі дурны, каб бегаць за нямком?

— А як жа? Трэба яго мусова знайсці! Дзесьці непадалёку жыве. Як пачало змяркацца, я тут аднаго паломніка ля вадапою згледзеў, заўтра зранку і папытаюся, ён сам на пустэльніка падобны.

Стары зусім разышоўся:

— Ай ды кінь ты гэтага святошу! Няхай сабе сядзіць у сваёй нары! Такія, што толькі сядзяць і слухаюць і ўздыхаюць, ды яшчэ і бабаў баяцца, — яны ж нічога не ўмеюць і не ведаюць. Ты вось лепей мяне паслухай, я цябе навучу, да каго пайсці. Праўда, далекавата будзе адгэтуль, за Аскалонам, затое ўжо з усіх пустэльнікаў самы найпустэльны, самы лепшы, каб ты ведаў, спавядальнік на ўсім свеце. Дыёнам яго завуць, Дыёнам Пугілем, а гэта азначае — кулачны баец, таму во ён з усімі чарцямі на кулаках. Прыйдзе каторы грэшнік да яго, скажа яму сваю споведзь, пра ўсё чыста раскажа, што натварыў, — а Пугіль гэты і не думае ўздыхаць ды енчыць, і не маўчыць, а так накінецца на цябе, такога дасць табе пытлю, што сябе не пазнаеш. Аднаго, кажуць, дык нават набіў, а другіх цалюткую ноч на каленях трымаў, на камені! Ды яшчэ да таго скажа раздаць бедным сорак грошаў. Во гэта, скажу я табе, спавядальнік, дзіва чыстае! Зірне гэтак во на цябе, зіркне — адразу як наскрозь, адразу ты як працяты. Не, гэты не будзе ўздыхаць, гэты ўсё можа. І калі цябе сон не бярэ або сніцца табе ўсякая немарасць, відзежы табе аказваюцца — Пугіль як рукою здымае! І кажу я табе гэта не таму, што так старыя бабы мелюць, а таму, што сам у яго быў. Сам, хоць і не што-та я, але калісьці і я хадзіў да Дыёна — да ваёўніка, да чалавека божага. Пайшоў я да яго ў скрусе, сумленне ўсё сплюгаўлена, а выйшаў — чысты і светлы, як зорка-мілавіца; і ўсё гэта праўда, як праўда, што мяне завуць Давыдам. Запамятай, значыцца: Дыён завуць яго, Дыён Пугіль. Вось да яго і ідзі, і як мага хутчэй; такога, як ён, ты яшчэ ніколі не бачыў. Ігемоны, старэйшыны, епіскапы і тыя да яго па раду ходзяць.

— Буду ў тых мясцінах, можа, і завярну. Але калі ўжо я тут і паблізу недзе гэты Фамулус, пра якога я чуў шмат добрага...

— Добрага, кажаш? На што ён табе здаўся, гэты Фамулус?

— Спадабалася мне, што ён не лае, не кідаецца на цябе зверам лютым, — вось і ўсё. Я ж не цэнтурыён які-

небудзь і не біскуп, я чалавек малы, можа, нават кволы, смалы там і ўсякай серкі шмат не вытрываю; мне больш даспадобы, калі са мною дабром, лагодаю, такі ўжо я ўрадзіўся.

— Бач ты, чаго схацеў! Каб з ім лагодаю! Вось калі па споведзі, калі ты вызваліўся ад грахоў, кару, якая табе належыць, прыняў, ачысціўся, во тады, — гэта я разумею, каб тады з табою з лагодкамі, але ж не тады, калі ты толькі стаў перад духоўнікам і суддзёй сваім, а сам увесь спаскуджаны і смярдзіш, як той шакал.

— Ай, добра ўжо. Чаго ты крычыш, людзі вунь спаць пакладліся. — Той, што сказаў гэтыя словы, раптам захіхікаў. — А мне пра яго і смешнае расказвалі.

— Гэта пра каго ж?

— Ды пра яго, пра пустэльніка Ёзэфуса. Дык вось, прызвычайка ў яго ёсць такая: як толькі раскажуць яму ўсё пра сябе і паспавядаюцца, ён, значыцца, таго на развітанне багаславіць і пацалуе ў шчаку ці ў лоб.

— Няўжо? Бач ты, чаго прыдумаў!

— А потым ён, значыцца, жанчын надта баіцца. А да яго аднаго разу вазьмі ды і заваліся блудніца, пераапранутая ў мужчынскае, а ён нічога і не змеціў, выслухаў усю яе брахню, усё, што яна начаўпла, а калі скончыла споведзь, ён пакланіўся ёй у пояс, а потым — плюсь бусю.

Старэйшы ўголас зарагатаў, але спадарожнік ягоны адразу зашыкаў, і Ёзэфус нічога больш не разабраў, апрача гэтага прыглушанага смеху.

Ён зірнуў на неба. Над каронамі пальмаў вісеў рэзка акрэслены серп месяца. Ёзэфус здрыгануўся ад начнога холаду. У вячэрняй гутарцы пагонцаў вярблюдаў быццам у крывым люстры і ўсё ж даволі павучальна паўстаў ягоны адбітак і выява той ролі, якой ён ужо паспеў здрадзіць. Значыцца, нейкая блудніца пасмяялася з яго. Што ж, гэта, вядома, не самае страшнае, хоць і непрыемна.

Доўга яшчэ Ёзэфус думаў пра гутарку двух пагонцаў. Нарэшце, ужо на золку, яму ўдалося заснуць, але толькі таму, што разважанні яго аказаліся не марнымі, яны прывялі да пэўнага выніку, рашэння, і з гэтым новым рашэннем у душы ён моцна заснуў і праспаў да світання.

А рашэнне яго было якраз такое, якое малодшы па-

гонца мог бы і зразумець і спасцігнуць. Рашэнне яго было ў тым, каб за парадай старэйшага праведніка наведаць Дыёна, званага Пугілем, пра якога ён даўно ўжо ведаў і якому сёння пры ім праспявалі такую перакаж наўчую апалогію. Гэты славуты спавядальнік, пастыр і настаўнік, ужо, мусіць, знойдзе яму патрэбную раду, патрэбную кару, ясную дарогу. Яму якраз і хацеў Ёзэфус даверыць сябе як намесніку бога, каб пакорліва выканаць усё, што той яму загадае.

Раніцай, калі абодва пагонцы яшчэ спалі, ён выправіўся ў дарогу і таго самага дня ў рупным сваім падарожжы дабраўся да тых мясцін, дзе, як ён ведаў, жылі святыя айцы і адкуль ён спадзяваўся выйсці на вялікую дарогу ў Аскалон.

Падыходзячы на змярканні да аазіса, ён угледзеў прыветныя кароны пальмаў, пачуў бляянне казы, сярод зялёных ценяў яму прымроіліся стрэхі халуп, пах чалавечага жытла, а калі ён нерашуча наблізіўся, яму раптам здалося, што нехта пільна глядзіць на яго. Ёзэфус спыніўся, агледзеў усё навокал і пад першымі ж дрэвамі ўбачыў чалавека, які сядзеў там, прыпёршыся да камля пальмы, старога і простага, сівабародага, з годнасным, але суровым і нерухомым абліччам. Гэты чалавек, мабыць, і глядзеў на яго так пільна і ўжо даволі доўга. Позірк у яго быў востры і цвёрды, аднак без жаднага выразу, як позірк чалавека, што прывык назіраць, але ніколі не выяўляць ні цікаўнасці, ні спагады, позірк чалавека, які дазваляе людзям і рэчам праходзіць міма, які спрабуе зразумець іх, але ніколі іх не запрашае і не кліча.

— Слава Ісусу Хрысту! — прывітаў яго Ёзэфус.

Старац адказаў неразборлівым мармытаннем.

— Даруйце мне, — зноў звярнуўся да яго Ёзэфус. — Вы тут таксама чужы, як я, ці жывяце ў гэтым слаўным селішчы?

— Чужы, — адказаў сівабароды.

— Шаноўны, а ці не скажаце вы мне, як можна адгэтуль выйсці на аскалонскую дарогу?

— Скажу, — адказаў стары, цяжка падымаючыся. Цяпер ён зноў стаяў на поўны рост — сухарлявы волат — і глядзеў у пустэльную далечыню. Хоць Ёзэфус і адчуў, што стары не схільны да гутаркі, ён усё-такі наважыўся задаць яшчэ адно пытанне.

— Дазвольце мне папытацца ў вас яшчэ пра адно,

шаноўны, — сказаў ён ветліва, заўважыўшы, што позірк старога быццам вярнуўся здалёку, зноў скіраваўся на бліжэйшае атачэнне. Холадна і ўважліва стары разглядаў яго. — Магчыма, вы ведаеце, дзе жыве айцец Дыён, называны Дыён Пугіль?

Волат крыху ссунуў бровы, і позірк у яго стаў яшчэ халаднейшы.

— Я ведаю яго, — адказаў ён стрымана.

— Вы яго ведаеце? — усклікнуў Ёзэфус. — Тады скажыце, дзе мне знайсці айца Дыёна? Я ж іду да яго.

Волат выпрабавальна глядзеў на яго з вышыні свайго велізарнага росту. Ён прымусіў Ёзэфуса доўга чакаць адказу. Потым адышоў да пальмы, дзе сядзеў дагэтуль, сеў як і раней, прыхіліўшыся да камля, і простым жэстам запрасіў Ёзэфуса падсесці.

Ёзэфус паслухмяна прыняў запрашэнне і, калі сеў, на момант адчуў гнятлівую стому, але неўзабаве забыўся на яе, зноў усю ўвагу скіраваўшы на старца. А той задумаўся, і на яго строгім, важным твары паявіўся выраз недаступнасці, а паўзверх яго нібы лёг яшчэ іншы выраз, калі не другі твар, быццам празрыстая маска, — выраз старога адзінокага гора, якому гонар і годнасць не дазваляюць выліцца.

Прайшло багата часу, перш чым позірк шаноўнага старца зноў павярнуўся да прыхадня. З адмысловай вастрынёй ён зірнуў на яго, быццам выпрабоўваючы, і нарэшце загадным тонам спытаўся:

— А хто вы такі?

— Пустэльнік, — адказаў Ёзэфус. — Ужо шмат гадоў я жыву пустэльнікам.

— Бачу. Але я спытаўся: хто вы?

— Мяне завуць Ёзэфус, прозвішча Фамулус.

Як толькі Ёзэфус вымавіў сваё імя, стары, дагэтуль нерухомы, так рэзка ссунуў бровы, што вочы ў яго на імгненне амаль зніклі; здавалася, Ёзэфусава паведамленне закранула, жахнула альбо расчаравала яго, але, магчыма, гэта была ўсяго толькі стомленасць вачэй, кароткае аслабленне ўвагі, раптоўны прыступ немачы, што даволі часта здараецца з старымі. Як бы тое ні было, ён застыў у поўнай нерухомасці і нейкі час хаваў вочы за бровамі, а калі зноў расплюшчыў іх, позірк яго змяніўся, стаў, калі толькі гэта было магчыма, яшчэ вастрэйшы, яшчэ больш асамотнены, скамянелы і разам з тым чакальны. Губы павольна растуліліся і ён сказаў:

— Я чуў пра вас. Вы той самы, да каго людзі ходзяць спавядацца?

Ёзэфус збянтэжана кіўнуў — назваць сваё імя было для яго падобна да пакутлівага самавыкрыцця, і, вось ужо другі раз спаткаўшыся з пагудкамі пра сябе, ён адчуваў сорам.

Зноў і ўсё гэтак жа коратка стары спытаўся:

— А цяпер вы хочаце наведаць Дыёна Пугіля? Навошта ён вам?

— Я хацеў яму паспавядацца.

— І вы многага чакаеце ад гэтай споведзі?

— Не ведаю. Я адчуваю давер да яго, яшчэ больш, мне здаецца нават, быццам голас з неба пасылае мяне да яго.

— Ну, а пасля споведзі што вы маеце рабіць?

— Тое, што ён мне загадае.

— А калі ён вам параіць альбо загадае што-небудзь няправільнае?

— Не мне меркаваць, правільна гэта ці няправільна, я буду слухаць і слухацца.

Стары не сказаў больш ні слова. Сонца амаль ужо схавалася за небакраем, у лістоце закрычала птушка. Ёзэфус устаў і яшчэ раз нясмела спытаўся ў старца, які так і не парушыў маўчання:

— Вы сказалі, што ведаеце, дзе знайсці айца Дыёна. Ці дазволена мне папрасіць у вас назваць месца і распытаць дарогу да яго?

На твары ў старога паявілася нешта падобнае на кволую ўсмешку.

— І вы ўпэўнены, — спытаўся ён мякка, — што ваш прыход будзе яму прыемны?

Здзіўлены гэтым пытаннем, зусім сумеўшыся, Ёзэфус так і застаўся стаяць, дзе стаяў, не адказваючы старцу.

Потым ён сказаў:

— Ці магу я хоць спадзявацца, што ўбачу вас зноў?

— Я тут начую, — сказаў стары з прыветлівым жэстам, — і пабуду тут нейкі час пасля ўзыходу сонца. А цяпер ідзіце, вы стаміліся і галодны.

Нізка пакланіўшыся, Ёзэфус выправіўся ў дарогу і на змярканні дайшоў да невялікага селішча. У ім, як у кляштары, жылі так званыя анахарэты, хрысціяне з розных мясцін і гарадоў, якія стварылі сабе ў гэтым адасобленым месцы нешта падобнае на прытулак, каб без завадаў весці жыццё простае і чыстае, у цішыні і

сузіранні. Ёзэфусу далі вады, накармілі яго, паказалі начлег і, разумеючы, што ён стаміўся, не апытваліся з ім. Хтосьці прачытаў малітву з нешпара, у якой узялі ўдзел і ўсе астатнія, укленчыўшы побач. Заключнае «Аман» было сказана хорам. Іншым часам сустрэча з гэтай абшчынай пабожных людзей падарыла б Ёзэфусу радасныя перажыванні, але цяпер у яго было толькі адно наўме, і па першай жа ранішняй шэрані ён паспяшаўся туды, дзе напярэдадні пакінуў старца. Той спаў на зямлі, захінуўшыся ў тонкую цыноўку; чакаючы, пакуль ён прачнецца, Ёзэфус сядзеў воддаль пад дрэвамі. Неўзабаве старац павярнуўся, расплюшчыў вочы, разгарнуў цыноўку, цяжка падняўся і расправіўся; потым ён укленчыў і сказаў ранішнюю малітву. Калі ён падняўся зноў, Ёзэфус падышоў і моўчкі пакланіўся.

— Ты ўжо еў? — спытаўся незнаёмы.

— Не. Я ем толькі адзін раз на дзень і толькі пасля заходу сонца. А вы галодны, шаноўны?

— Абодва мы людзі ўжо немаладыя, да таго ж у дарозе. Нам трэба падсілкавацца перад дарогай.

Ёзэфус развязаў хатулёк і прапанаваў старцу фінікаў. Надоечы гасцінныя людзі далі яму з сабой прасяны хлябок, які ён цяпер таксама падзяліў з старцам. Калі абодва закончылі трапезу, той сказаў:

— Цяпер можна ў дарогу.

— Мы пойдзем разам? — усклікнуў узрадаваны Ёзэфус.

— Разам. Ты ж прасіў завесці цябе да Дыёна. Хадзем.

— Які вы добры! — усклікнуў здзіўлены і шчаслівы Ёзэфус і хацеў ужо падзякаваць. Аднак старац рэзкім рухам прымусіў яго змоўкнуць.

— Ніхто не добры, добры толькі Бог, — сказаў ён. — А цяпер пойдзем. Кажы мне «ты», як і я табе. Навошта такія лішнія цырымоніі паміж двума старымі падарожнымі?

Высокі старац пакрочыў наперад, за ім Ёзэфус. Сонца ўжо ўстала. Старац, які, відаць, добра ведаў дарогу, сказаў, што апоўдні прыйдуць у зацішнае месца, дзе яны перабудуць гарачыню. Больш яны ў дарозе не гаварылі.

Толькі калі самай спёкай яны дайшлі да месца прывалу, дзе і размясціліся на адпачынак у цені суровых скал, Ёзэфус зноў звярнуўся да свайго праваднiка. Ён

спытаўся, колькі дзённых пераходаў спатрэбіцца, каб дабрацца да Дыёна Пугіля.

— Гэта залежыць толькі ад цябе, — адказаў старац.

— Ад мяне? — здзівіўся Ёзэфус. — Ды калі б гэта залежала ад мяне, я сёння ж быў бы ў яго.

Аднак старац і цяпер яўна не схіляўся да размовы.

— Што ж, паглядзім, — толькі і сказаў ён і заплюшчыў вочы. Ёзэфусу не хацелася глядзець на заснулага, і ён ціха адышоўся ўбок, прылёг і хутка заснуў — ён амаль усю ноч не спаў. Старац разбудзіў яго, калі прыйшла пара ў дарогу.

Перад захадам сонца яны падышлі да прывалу, дзе была крыніца, раслі дрэвы і нават трава. Яны спатолілі смагу, умыліся, і старац сказаў, што яны тут і пераначуюць.

Ёзэфус нерашуча спрабаваў пратэставаць:

— Ты сказаў нядаўна, што толькі ад мяне залежыць, калі мы дабяромся да айца Дыёна. Я гатовы ісці яшчэ шмат гадзін, абы хутчэй яго ўбачыць.

— Не, не, — сказаў старац, — на сёння годзе.

— Даруй мне, — усклікнуў Ёзэфус, — няўжо ты не разумееш майго нясцерпу.

— Разумею. Гэта не дапаможа табе.

— Навошта ж тады ты сказаў, што ўсё залежыць толькі ад мяне?

— Як я сказаў, так яно і ёсць. Калі ты ўверышся ў сваім жаданні паспавядацца, адчуеш, што гатовы, што даспеў для споведзі, ты зможаш пачаць яе.

— І нават сёння?

— І нават сёння.

У вялікім здзіўленні ўзіраўся Ёзэфус старцу ў твар.

— Ці можа быць такое? — усклікнуў ён, ашаломлены. — Ты — айцец Дыён?

Старац кіўнуў.

— Адпачні тут пад дрэвамі, — сказаў ён ласкава. — Але не спі, а засяродзься духам, ды і я хачу адпачыць і засяродзіцца. Пасля ты мне раскажаш тое, што ты прагнеш расказаць.

Так Ёзэфус зразумеў, што дасягнуў сваёй мэты, і толькі дзіву даўся, як гэта дасюль не пазнаў і не зразумеў шаноўнага старца, хоць прабыў з ім цэлыя суткі.

Ён адышоўся ўбок, стаў на калені, памаліўся і потым накіраваў усе свае думкі на тое, што павінен быў ска-

заць духоўніку. Праз гадзіну Ёзэфус зноў падышоў да старца і спытаўся, ці гатовы той.

Цяпер споведзь магла пачынацца. Цяпер усё, што ён перажыў за гэтыя гады і што, здавалася, ужо страціла ўсякі сэнс і цану, вылілася ў расказ, поўны скаргаў, пытанняў і самаабвінавачанняў: гэта была гісторыя жыцця хрысціяніна і пустэльніка, жыцця, скіраванага на ачышчэнне і прасвятленне, жыцця, якое пад канец абярнулася збянтэжанасцю, памарачэннем і роспаччу. Ён не змоўчаў і пра пералытае ў самы апошні час, пра свае ўцёкі, пра пачуццё збавення і надзеі, якое прынеслі яму гэтыя ўцёкі, пра сваё рашэнне пайсці да Дыёна, пра сустрэчу з ім і пра тое, як ён, хоць і прасякнуўся да яго, старэйшага, даверам і любоўю, аднак цэлы дзень, праведзены разам, думаў пра яго як пра чалавека нячулага і дзіўнага, нават капрызнага.

Сонца ўжо стаяла нізка над небакраем, калі ён закончыў сваю аповесць. Дыён уважліва слухаў яго ад пачатку да канца, ні разу не перапыніў, нічога не спытаўся. І цяпер, калі Ёзэфус закончыў споведзь, старац маўчаў. Ён цяжка ўстаў, лагодна зірнуў на Ёзэфуса, нахіліўся да яго, пацалаваў у лоб і асяніў знакам крыжа. Толькі пазней Ёзэфусу прыйшло ў галаву: гэта быў той самы маўклівы братэрскі жэст, які адхіляў ролю суддзі, якім ён сам адпускаў пакаянцаў.

Неўзабаве пасля гэтага яны разам паелі, памаліліся нанач і леглі спаць. Ёзэфус яшчэ нейкі час раздумваў, чаму ў адказ на споведзь ён не пачуў ні праклёнаў, ні суровай водпаведзі, і гэта не занепакоіла яго, не расчаравала — аднаго позірку, аднаго братэрскага пацалунку Дыёнавага яму было даволі: душа яго была заміраная, і неўзабаве ён аддаўся дабрадзейнаму сну.

На раніцу старац, не гаворачы лішніх слоў, паклікаў яго, і яны адмералі доўгі шлях разам. Праз чатыры-пяць дзён яны дабраліся да Дыёнавай цэлі. Там яны і пачалі жыць. Ёзэфус дапамагаў старцу ў працы, зведаў ягоныя будныя справы, якія мала чым адрозніваліся ад тых, якія ён сам выконваў доўгія гады. Але цяпер ён не быў адзінокі, ён жыў быццам у цені, пад абаронай другога, а таму яго цяперашняе жыццё было зусім іншае. З блізкіх селішчаў, з Аскалона і з больш далёкіх мясцін пацяклі да іх людзі, якім былі патрэбныя парада, споведзь. Спачатку, як толькі прыходзіў хто-небудзь, Ёзэфус пакідаў пакой і паяўляўся толькі тады, калі чужых

не было. Але Дыён то прасіў яго прынесці вады, то памагчы ящчэ ў чым-небудзь і так пакрысе прывучаў Ёзэфуса не хавацца, калі сам спавядаў, а пакаянец не пярэчыў. Ды і тое праўда, што многім, а лепш сказаць, большасці было прыемна не заставацца сам-насам з грозным Пугілем і бачыць побач гэтага ціхага, прыязнага і паслужлівага памочніка. Там Ёзэфус спакваля даведаўся, як Дыён спавядаў, як суцяшаў, як умешваўся і ўладжваў людскія жыцці, як караў і як радзіў. Толькі зрэдчас ён дазваляў сабе пытанні, як гэта здарылася пасля расказу аднаго вандроўнага вучонага ці то аматара навук.

У гэтага чалавека, як вынікала з яго расказу, былі сябры сярод вешчуноў і звездароў. Уладкаваўшыся на адпачынак, ён праседзеў гадзіну ці дзве ў старых пустэльнікаў, паказаўшы сябе госцем ветлівым і гаварлівым, і мерна, вучона і красамоўна гаварыў пра сузор'і і пра вандраванне чалавека разам з сваімі божышчамі праз усе кругі Задыяка. Ён гаварыў пра Адама, першага чалавека, пра яго тоеснасць з Ісусам Крыжаваным, і называў місію Ісуса Адамавым вандраваннем ад Дрэва Пазнання да Дрэва Жыцця, а райскага змея менаваў ахоўцам свяшчэннай першакрыніцы цёмнай бездані, з начных водаў якое ўзнікаюць усе ўцялесненні, усе людзі і багі. Дыён уважліва слухаў расказ вучонага, сірыйская мова якога была моцна аздоблена грэчаскімі словамі, а Ёзэфус быў вельмі здзіўлены, нават абураны: чаму Дыён не гневаецца, не пратэстуе супраць ягоных паганскіх аблуд, не абвяргае іх, не праклінае, наадварот, здавалася, гэты маналог усёведнага паломніка прыносіць яму радасць і асалоду, быццам нават выклікае ў ім спагаду, бо Дыён не толькі ўвесь аддаўся слыху, але нават усміхаўся і часта ківаў у адказ на словы, быццам яны былі яму вельмі да душы.

Калі вучоны пайшоў, Ёзэфус, не вытрываўшы, спытаўся з дакорам:

— Як гэта табе хапае цярплівасці слухаць язычніцкія лжэвучэнні? Мне здалося, што ты слухаў яго нават спагадліва, быццам ягоныя казані лашчылі табе слых. Чаму ты не пярэчыў? Чаму не спрабаваў яго абвергнуць, выкрыць і навярнуць да веры ў Госпада нашага?

Дыён, ківаючы галавой на тонкай маршчыністай шыі, адказаў:

— Я не абвяргаў яго, бо гэта не дало б ніякай ка-

рысці, ды я і не змог бы яго абвергнуць. У разважаннях і сілагізмах, у міфалагічных і астралагічных ведах гэты чалавек намнога перасягнуў мяне, я б з ім не справіўся. Да таго ж, сыне мой, не мая гэта і не твая справа нападаць на чыю-небудзь веру з заявамі, быццам вера гэтая ёсць ілжа і памылковасць. Сапраўды, я слухаў гэтага разумнага чалавека не без прыемнасці, ты гэта добра падмеціў. Мне было прыемнае яго ўменне гаварыць, яго багатая вучонасць, але найперш тое, што ён нагадаў мне маю маладосць, бо замаладзь я сам займаўся гэтымі навукамі. Міфы, пра якія госць наш так міла з намі гутарыў, ні ў якім разе не аблуднасць. Гэта ўяўленні і прытчы нейкай веры, у якой мы ўжо не маем патрэбы, бо мы набылі сабе веру ў Ісуса, адзінага Спаса нашага. А тым, хто яшчэ не знайшоў нашай веры і, магчыма, ніколі яе не знойдзе, іх цяперашняя вера, якая бярэ пачатак у мудрасці продкаў, вартая павагі. Зразумела, дарагі мой, наша вера іншая, зусім інакшая. Але наша вера не мае патрэбы ў вучэнні пра сузор'і і эоны, начныя воды, сусветныя матэры і іншыя падобныя сімвалы, гэта зусім не азначае, што вучэнні гэтыя — ілжа і падман.

— Але ж наша вера, — усклікнуў Ёзэфус, — больш дасканалая, і Ісус прыняў смерць дзеля ўсіх людзей: значыцца, мы, хто спазнаў яго, павінны аспрэчваць застарэлыя вучэнні і ставіць на іх месца новыя, праўдзівыя.

— Гэта мы з табой, ды і многія іншыя даўно ўжо зрабілі, — спакойна адказаў Дыён. — Мы — вернікі, бо намі авалодала вера, гэта значыць, улада Адкупніка і яго акупальнай смерці. А тыя, іншыя, міфолагі і тэолагі Задыяка, адэпты старадаўніх вучэнняў, не падпалі гэтай уладзе, і нам не дадзена прымусам прывесці іх пад гэтую ўладу. Хіба ты не заўважыў, Ёзэфус, як тонка і разумна ўмее гэты міфолаг гаварыць і складаць сваю гульню падабенстваў і якую асалоду ён ад гэтага атрымлівае, як зміратворана і гарманічна жыве ў свеце мудрасці прытчаў і сімвалаў сваёй міфалогіі! Відаць, гэтага чалавека не гняце ніякае цяжкае гора, ён задаволены, яму добра. А задаволенаму няма чаго сказаць. Каб чалавек зажадаў выратавання і веры ў Збаўцу, каб ён страціў спадобу да гармоніі і мудрасці сваіх паняццяў і адважыўся на вялікі подзвіг веры ў выкупальны цуд, — на гэта трэба, каб яму зрабілася кепска, вельмі

кепска, ён павінен перажыць боль і расчараванне, горыч і роспач, павінен адчуць, што стаіць на краі прорвы. Не, Ёзэфус, хай гэты вучоны паганін жыве ў сваім дабрабыце, хай упіваецца сваёй мудрасцю, сваімі думкамі і сваім красамоўствам! Можа, заўтра або праз год, а то і праз дзесяць гадоў ён спазнае гора, якое развее на пыл яго штукоўнасць і ягоную мудрасць, можа, заб'юць жонку, якую ён кахае, або адзінага сына, або яго дастане хвароба і нэндза, і калі мы тады спаткаем яго, мы яму паспагадаем і раскажам, як спрабавалі адолець сваё гора. І калі ён папытаецца: «Чаму ж вы мне не сказалі гэтага ўчора або дзесяць гадоў таму назад?» — мы адкажам: «Ты не ведаў тады, што такое сапраўднае гора».

Дыён змоўк, здавалася, ён над нечым задумаўся. Потым, увесь ва ўспамінах, дадаў:

— Я і сам калісьці шмат пабавіўся з бацькоўскімі паданнямі і суцяшаўся імі, і калі ўжо я выйшаў на дарогу крыжа, багаслоўнічанне часта давала мне радасць, хоць, зрэшты, і даволі шмат гора. Найбольш мяне цікавіла стварэнне свету, бо напрыканцы стварэння ўсё павінна было быць зладжана самым найлепшым чынам, бо напісана ж: «І ўгледзеў Бог усё, што ён стварыў, і вось, добра вельмі». А на самай справе добра і дасканала ўсё было толькі адно імгненне, імгненне Раю, а ўжо ў наступнае імгненне ў гэтую дасканаласць уварвалася віна і праклящце, бо Адам скаштаваў ад дрэва, ад якога каштаваць яму было забаронена. І вось былі духоўныя настаўнікі, якія казалі: Бог, які стварыў свет і ў ім Адама і Дрэва Пазнання, — не адзіны, не найвышэйшы бог, а толькі часціна яго, або падпарадкаваны бог Дэміург, а твор яго не добры, ён яму не ўдаўся і на цэлую эру праклятыя і аддадзены злу, пакуль Ён сам, адзіны Бог-Дух, праз сына свайго не паклаў крэсу эры праклящця. І тады, як вучылі яны, ды і я так думаў, пачалося адміранне Дэміурга і яго тварэння, і свет паступова адмірае і вяне, пакуль у новай эры не застанецца больш тварэння, светабудовы, плоці, грэху і цярпенняў плоцкага зачацця, нараджэння і памірання, але ўзнікне свет дасканалы, духоўны і чысты, вызвалены ад праклящця Адама, вызвалены ад вечнага праклящця і насілля цярпення, зачацця, нараджэння і смерці. Віну ж за недахопы гэтага свету мы хутчэй ускладалі на Дэміурга, чым на першага чалавека, мы лічылі, што Дэ-

міургу, калі ён праўдзівы бог, нічога б не каштавала стварыць Адама іншым або вызваліць яго ад спакушэння. Так, у выніку нашых разважанняў, у нас з'явіліся ўжо два багі — бог-творца і бог-бацька, і мы нават здолелі судзіць і асуджаць першага. Трапляліся сярод нас і такія, што ішлі яшчэ далей і сцвярджалі, што свет створаны не богам, а д'яблам. Мы лічылі, што нашым разумаваннем мы дапамагаем Спасу і будучай эры Духа і ляпілі багоў, светы і светавыя лёсы, спрачаліся і багаслоўнічалі, пакуль я аднойчы не зваліўся ў ліхаманцы і не захварэў да смерці, але і ў трызненні мяне не пакідалі мроі пра Дэміурга, і я мусіў весці войны і праліваць кроў; мае відзежы рабіліся ўсё страшнейшыя, а ў ноч, калі гарачка дайшла да краю, мне здалося, што я павінен забіць маці, каб згладзіць сваё плоцкае нараджэнне. Д'ябал турзаў мяне ў гэтых ліхаманкавых снах жахліва і жудасна. Аднак я паправіўся і, на прыкрасць сваім былым сябрам, вярнуўся да жыцця тупым і няшчасным маўчуном, хоць, праўда, хутка вярнуў сабе цялесную сілу, але страціў спадобу да філасофнічання. Бо ў дні і ночы выздароўлівання, калі мяне ўжо не мучылі відзежы і я амаль увесь час спаў, я ў кожнае імгненне чування бесперастанку ўсведамляў каля сябе Спаса, адчуваў сілу, якая з яго ўваходзіла ў мяне, і калі я ачуняў, мне зрабілася журботна ад таго, што [illegible] ўжо не мог так адчуваць яго блізкасць. Але замест гэтага я зведаў вялікую тугу па гэтай блізкасці, і вось адкрылася: варта было паслухаць былыя спрэчкі і дыспуты, як я адчуваў, што гэтая туга — тады мая найлепшая маетнасць — пачынала знікаць і расплывацца ў думках і словах, як вада ў пяску. Вось так, дружа мой, я і дайшоў да канца свайго разумавання і багаслоўнічання. З таго часу я належу да працякоў. І ўсё ж я не хацеў бы быць завадай і адмаўляць у павазе тым, хто знаецца ў філасофнічанні і ў міфалогіі, хто гуляе ў тыя гульні, у якія і я калісьці гуляў. Калі ўжо мне самому калісьці давялося прызнаць, што Дэміург і Бог-Дух, што тварэнне і выратаваннне ў сваім неспасцігальным адначасавым і непадзельным жыцці ёсць невырашальная загадка, дык мне трэба прызнаць і тое, што я не магу ператварыць філосафа ў верніка. Не мой гэта абавязак.

Аднойчы пасля таго, як нехта на споведзі прызнаўся Дыёну ў забойстве, Дыён сказаў свайму кялейніку:

— Забойства і целапажадлівасць — гэта гучыць

вельмі страшна і гучна, яно і сапраўды гэта дрэнна! Але я скажу табе, Ёзэфус, на самай справе парафіяне гэтыя не сапраўдныя грэшнікі. Варта мне ўявіць сябе адным з іх, быццам увасобіцца ў яго, як яны ўяўляюцца мне зусім дзецьмі. Яны не добрыя, не высакародныя, яны карыслівыя, юрлівыя, пыхлівыя, злосныя, — усё гэта слушна, але на самай справе, калі глядзець у корань, яны нявінныя менавіта ў тым сэнсе, у якім нявінныя дзеці.

— І тым не меней, — сказаў Ёзэфус, — ты сурова заклікаеш іх да адказу і пагражаеш ім усімі пакутамі пекла.

— Але ж, менавіта таму. Бо яны дзеці, і калі ў іх загаварыла сумленне і яны прыходзяць да споведзі, дык яны хочуць, каб іх прымалі сур'ёзна і сур'ёзна ж з іх і спаганялі. У кожным разе, я так думаю. Ты вунь у свой час рабіў інакш: ты не ганіў, не караў, не накладаў епітым'і, а быў з імі ласкавы і адпускаў іх з братэрскім цалункам. Не буду цябе гудзіць, не, але я на гэта не здольны.

— Але, — вагаючыся сказаў Ёзэфус, — але чаму ж тады, калі ты выслухаў маю споведзь, ты са мной абышоўся не так, як з астатнімі, а моўчкі пацалаваў, ні слова не сказаўшы асуды?

Дыён Пугіль празорліва паглядзеў на яго.

— Хіба тое, што я зрабіў, было няслушна? — спытаў ён.

— Я не хачу сказаць, што гэта было няслушна. Гэта было слушна, інакш споведзь не зрабіла б на мяне такога дзейснага ўплыву.

— Што ж, пакінем гэта. Але ж я наклаў на цябе тады строгую кару, хоць і не ўклаў яе ў словы. Я ўзяў цябе з сабою і абыходзіўся з табой як з слугою, і вярнуў цябе да тых абавязкаў, ад якіх ты хацеў збегчы.

І Дыён адвярнуўся, ён не любіў доўгіх размоў. Але гэтым разам Ёзэфус не адступаўся.

— Ты тады ўжо ведаў, што я паслухаюся цябе, я гэта абяцаў табе яшчэ да споведзі, нават да таго, як я зразумеў, хто ты. Не, скажы мне, ты сапраўды толькі таму так павёў сябе са мной?

Дыён некалькі разоў прайшоўся ўзад-уперад, спыніўся перад Ёзэфусам, паклаў яму руку на плячо і сказаў:

— Пабожнікі — дзеці, сыне мой. А святыя — свя-

тыя не ідуць да нас на споведзь. Але мы з табой і падобныя да нас, аскеты, шукальнікі, пустэльнікі, мы дзеці і мы не бязвінныя, казанямі нас не перайначыш. Мы, мы — сапраўдныя грэшнікі, бо ведаем, мыслім, скаштавалі ад Дрэва Пазнання, і не лічыць нам абыходзіцца адзін з адным, як з дзецьмі, якіх караюць дубцом і потым зноў пускаюць пабегаць. Мы ж не ўцякаем пасля споведзі і пакаяння ў дзіцячы свет, дзе святкуюць святы, займаюцца справамі, а час ад часу забіваюць адно аднаго; для нас грэх — не кароткі і страшны сон, які можна прагнаць ад сябе пакаяннем і ахвярай, мы жывём у ім, мы ніколі не бязвінныя, мы заўсёды грахоўныя, мы жывём у грэху і ў агні нашага сумлення, і мы ведаем, што нашай вялікай віны нам ніколі не адкупіць, хіба што Гасподзь пасля смерці нашай злітуецца з нас і прыме нас ва ўлонне сваё. Вось чаму, Ёзэфус, ■ не буду чытаць казані і вызначаць епітым'і ні табе, ні сабе. Мы ж сутыкаемся не з тымі ці іншымі благімі ўчынкамі або зладзействамі, але заўсёды з самай пачатковай віной, таму адзін з нас можа толькі запэўніць другога ў разуменні і братэрскай любові, але не вылечыць яго карай. Хіба ты не ведаў гэтага?

Ёзэфус ціха адказаў:

— Я ведаў гэта.

Тады старац сказаў:

— Не будзем жа часу марнаваць на пустыя гаворкі, — і пайшоў да каменя перад цэляй, дзе, як заўсёды, укленчыў на малітву.

Прайшло некалькі гадоў. Айцец Дыён усё часцей цярпеў ад прыступаў немачы, і Ёзэфус зранку мусіў памагаць яму, бо сам той ужо не мог устаць. Потым старац ішоў маліцца, але і пасля малітвы не мог падняцца сам. Ёзэфус дапамагаў яму, а потым Дыён цэлы дзень сядзеў на адным месцы і глядзеў удалечыню. Але так бывала не заўсёды, некаторымі днямі ён уставаў сам. Аднак выслухоўваць споведзі штодня ён таксама не мог, і калі хто-небудзь спавядаўся ў Ёзэфуса, Дыён падклікаў яго да сябе і казаў: «Дні мае злічаныя, сыне мой, і канец блізка. Скажы людзям: гэты Ёзэфус заступіць мяне». І калі Ёзэфус спрабаваў выказаць нязгоду, старац скіроўваў на яго свой вусцішны позірк, ад якога ледзянела сэрца.

Аднаго разу, калі Дыён падняўся, не абапіраючыся на свайго памочніка, і здаваўся бадзёршым, чым звы-

чайна, ён паклікаў Ёзэфуса і павёў яго ў далёкі куток іх невялічкага садка.

— Вось тут, — мовіў ён, — ты пахаваеш мяне. А дол мы з табою выкапаем разам, час у нас яшчэ ёсць. Прынясі рыдлёўкі.

З гэтага дня яны кожнае раніцы патроху капалі магілу. Калі Дыён мог, ён сам выкідаў некалькі рыдлёвак зямлі, праўда, з вялікай цяжкасцю, аднак заўсёды вессла, быццам праца гэтая яму была радасцю. Ды і цэлы дзень пасля гэтага ён бываў вясёлы; з таго часу, як яны разам пачалі капаць магілу, бесклапотнасць духу не пакідала айца Дыёна.

Неяк ён сказаў Ёзэфусу:

— На маёй магіле пасадзі пальму. Можа, ты яшчэ пакаштуеш з яе, а калі не, дык хто-небудзь іншы пасмакуе пладоў. Час ад часу я сам садзіў дрэвы, але мала, надта мала. Кажуць, мужчына, перш чым памерці, павінен пасадзіць дрэва і пакінуць па сабе сына. Што ж, я пакідаю па сабе дрэва і цябе: ты ж сын мне.

Цяпер ён увесь час быў спакойны і нейкі светлы, не такі, якім яго раней ведаў Ёзэфус. Аднойчы ўвечары — цемра хутка згусала, яны ўжо павячэралі і памыліся — Дыён паклікаў Ёзэфуса да свайго ложка і папрасіў пасядзець з ім.

— Я хачу табе расказаць сёе-тое, — сказаў ён лагодна, і Ёзэфусу здалося, што старац зусім не стаміўся за дзень, не хоча спаць.

— Ты памятаеш, Ёзэфус, тыя нядобрыя часіны, калі ты жыў у сваёй цэлі пад Газай і жыццё табе спрыкрала. І як ты кінуўся наўцекача, каб знайсці старога Дыёна і распавесці яму пра сваё жыццё? І як у селішчы анахарэтаў ты сустрэў старога і спытаўся ў яго, дзе табе знайсці Дыёна Пугіля? Ну дык вось — ці не здалося табе дзівам, што стары гэты і быў сам Дыён? Цяпер я хачу расказаць табе, як гэта ўсё здарылася, — я ж бо прыняў гэта за дзіва.

Ты ведаеш, як гэта бывае, калі да пустэльніка і спавядальніка прыходзіць старасць, і ён ужо выслухаў споведзі ў многіх грэшнікаў, якія лічаць яго бязгрэшным і святым, не ведаючы, што ён большы грэшнік за іх. І вось яму ўсе справы ягоныя раптам здаюцца непатрэбнымі і марнымі, і тое, што раней было святое і важнае, бо сам Гасподзь уганараваў і прызначыў яго выслухоўваць і гаіць бруд і мярзоту душ людскіх, — усё гэта ця-

пер здаецца яму цяжкай, нязмерна цяжкай ношай, сапраўдным пракляццем, і ўрэшце яму робіцца млосна глядзець на кожнага гаротніка, які ідзе да яго з сваімі дзіцячымі грахамі, і ён хоча пазбыцца яго, ды і самога сябе, няхай хоць з дапамогай шворкі, перакінутай цераз сук. Гэтак во было ў цябе на душы. А цяпер настала часіна маёй споведзі, і я прызнаюся табе: і ў мяне было тое самае, і я здаваўся сабе бескарысным і духоўна нябожчым, і сілы маёй не было трываць, каб людзі з даверам сваім неслі да мяне ўсю саромату і мярзоту людскую, з якімі самі не маглі ўправіцца і якім я таксама не мог даці рады.

У тыя часы я часта чуў пра аднаго пустэльніка, званага Ёзэфус Фамулус. І да яго, як і да мяне, людзі ахвоча ішлі спавядацца, і многія з большай ахвотай да яго, чым да мяне, бо быў ён, як пагудкі неслі, чалавек лагодны і ласкавы, і людзі казалі, што нічога ён ад іх не патрабуе, не ганіць іх, а абыходзіцца з імі як з братамі, проста выслухоўвае і адпускае з цалункам. Не, гэта было не па мне, ты ведаеш, і калі я ўпершыню пачуў пра гэтага Ёзэфуса, мне яго манера здалася дурной і занадта дзіцячай; але ў той час, калі ўсё, што б я ні рабіў, выклікала ў мяне паняверку — ці правільна я раблю сам, — у мяне былі ўсе падставы ўстрымацца ад асуджэння Ёзэфуса. Ды якая ж сіла павінна была быць у гэтага Ёзэфуса? Я ведаў, што ён маладзейшы за мяне, але таксама ўжо блізкі да старасці, і мне гэта было прыемна, маладому я б не мог даверыцца. А да гэтага мяне адразу пацягнула. І вось я надумаў выправіцца да Ёзэфуса Фамулуса, расправесці яму пра сваю бяду, папытацца ў яго рады, а калі ён і не дарадзіць мне нічога, пачэрпнуць у яго суцяшэнне, умацаваць дух свой. Ужо адна гэтая думка дабратворна паўплывала на мяне, і мне палягчэла.

І вось я пайшоў у дарогу і пачаў шукаць месца, дзе, казалі, была яго цэля. А тым часам брат Ёзэфус перажыў тое самае, што перажыў і я, прыняў такое самае рашэнне, якое прыняў я, і кожны з нас кінуўся ў бегі, каб папытаць рады ў другога. І калі я, яшчэ не дастаўшыся да ягонай цэлі, сустрэўся з ім, дык пазнаў яго з першых слоў, ды і быў ён такі, якім я яго сабе ўяўляў. Але ён жа тады быў уцякач, яму было дрэнна, гэтаксама дрэнна, як і мне, а можа, яшчэ і горш, ён і не думаў пра тое, каб выслухоўваць чыесьці там споведзі, — не, ён

сам прагнуў паспавядацца, сам хацеў перакласці сваю бяду на чужыя плечы. У той час гэта прынесла мне вялікае расчараванне, і мне стала вельмі маркотна. Бо калі і гэты Ёзэфус, які не ведаў мяне зусім, стаміўся ад свайго служэння і зняверыўся ў сэнсе свайго жыцця, дык ці не азначае гэта, што мы абодва нічога не вартыя, абодва пражылі бескарыснае жыццё і пацярпелі крах?

Я коратка, я ж расказваю табе тое, што ты сам перажыў. Калі ты пасля нашай сустрэчы пайшоў прасіць начлегу ў селішчы анахарэтаў, я застаўся адзін, паглыбіўся ў сябе, увайшоў у стан гэтага Ёзэфуса і падумаў: што ён будзе рабіць, даведаўшыся заўтра, што дарма ўцякаў, дарма паспадзяваўся на гэтага Пугіля, што і Пугіль — уцякач, якога гоняць змусты? І чым больш я ўваходзіў у яго, тым большую спагаду ён выклікаў у мяне, тым неадчэпней была думка, што Ёзэфус пасланы мне богам, каб я ўведаў і ацаліў яго, а з ім і сябе. Гэта мяне супакоіла, і я змог заснуць, бо поўнач ужо мінула. На другі дзень мы разам рушылі ў дарогу, і ты стаў мне сынам.

Вось што хацеў я табе расказаць. Я чую, ты плачаш. Паплач, гэта аблегчыць табе душу. І калі ўжо я так нягожа разгаварыўся, дык, будзь ласкавы, выслухай і ахавай у сваім сэрцы яшчэ і такія мае словы: чалавек нёспасцігальны, пакладацца на яго нельга, а таму не выключана, што настане час — і ранейшыя цярпенні і спакусы зноў пачнуць дакучаць табе і паспрабуюць адолець, і хай пашле табе тады Гасподзь на ўцеху такога ж лагоднага і трывушчага сына і кялейніка, якога ён у тваёй асобе дараваў мне. А што да той галіны, пра якую змусціцель прымусіў цябе марыць, і што да смерці злашчаснага Юды Іскарыёта, дык я скажу табе адно: рыхтаваць сабе такую самую смерць не толькі грэх і неразумнасць, хоць Спасу нашаму нічога не абыходзіць дараваць і такі грэх. Але звыш таго, крыўдна, калі чалавек памірае ў роспачы. Роспач бог пасылае нам не на тое, каб усмерціць нас; ён пасылае нам яе, каб разбудзіць у нас новае жыццё. А калі ён пасылае нам смерць, Ёзэфус, калі ён адлучае нас ад зямлі і плоці і заклікае да сябе, дык гэта вялікая радасць! Калі табе дазволена заснуць, як што ты стаміўся, дазволена скінуць цяжар, які ты так доўга насіў, — гэта цудоўная і дзівосная справа. З таго часу як мы з табой выкапалі магілу — не забудзь пра пальму, якую я прасіў цябе пасадзіць, —

з таго часу, як мы пачалі капаць магілу, я зрабіўся такі спакойны і задаволены, якім не быў ужо шмат гадоў.

Бачыш, як я разбалабоніўся, сыне мой, ты, мабыць, стаміўся. Ідзі, выспіся, ідзі ў сваю цэлю, Гасподзь з табой.

На другі дзень старац не выйшаў на ранішнюю малітву і не паклікаў Ёзэфуса. Калі той, устрывожаны, ціха ўвайшоў у цэлю і падступіўся да адра Дыёна, ён убачыў, што Дыён ужо спачыў і ягоны твар азораны дзіцячай прамяністай усмешкай.

Ёзэф аддаў цела старца зямлі, пасадзіў на магіле дрэва і дажыў да таго лета, калі дрэва ўпершыню ўрадзіла.

## ІНДЫЙСКІ ЖЫЦЦЕПІС

Адзін князь дэманаў, пацэлены стралой з месяцападобнага лука Вішну (ці Рамы, у якім увасобілася частка істоты Вішну) у зацятай бітве таго з дэманамі, вярнуўся ў вобразе чалавека ў крутаверць пераўвасабленняў і з імем Равана жыў на беразе вялікага Ганга жыццём ваяўнічага ўладара. Ён і быў бацька Дасы. Маці Дасы памерла рана, і ледзь толькі яе пераемніца, жанчына прыгожая і славалюбная, нарадзіла князю сына, як ужо маленькі Даса стаў ёй папярок дарогі; замест яго, першароднага, яна марыла ўбачыць на прастоле свайго сына Налу, здолела астудзіць бацькавы пачуцці да Дасы і задумала пры першай зручнай нагодзе прыбраць сыноўца з дарогі. Аднак ад прыдворнага брахмана Раваны, спрактыкаванага ў ахвяраваннях Васудэвы, не ўтаілася яе зламыснасць, і разумнаму старому ўдалося паламаць задуманае. Яму было шкада хлопчыка, і да таго ж ён разгледзеў у нораве маленькага княжыча спадчынныя матчыныя задаткі богабаязнай рахманасці і пачуцця абавязку. Ён пачаў ахоўваць Дасу, чакаючы, калі выпадзе звесці хлопчыка ад мачахі.

Быў у раджы Раваны статак прысвечаных Брахму кароў, іх трымалі ў доглядзе і ад малака і масла іх гэтаму богу прыносілі частыя ахвяры. На самых лепшых пашах пасвіліся гэтыя каровы. Аднойчы ў двор явіўся пастух свяшчэннага статка, здаў масла і паведаміў, што ў гэтых мясцінах, дзе яны пасуць каровы, чакаецца вялікая суша, а таму яны, пастухі, умовіліся перагнаць

статак бліжэй да гор, дзе ў самую сухмень не чэзнуць крыніцы і заўсёды ўдосталь свежай муравы. Не першы год брахман Васудэва ведаў гэтага пастуха як чалавека добрага і адданага, а таму і даверыўся яму, і калі на другі дзень маленькі Даса, сын Раваны, знік і не быў знойдзены, толькі Васудэва і пастух ведалі таямніцу яго знікнення. Падлетка Дасу пастухі завялі да далёкіх пагоркаў, там яны нагналі статак, які павольна качаваў, і Даса лёгка і проста сышоўся з пастухамі, рос падпаскам, дапамагаў пільнаваць і пераганяць каровы, навучыўся даіць, гуляў з цяляткамі, спаў у цені дрэў, піў салодкае малако, і босыя ногі яго былі заўсёды ўроблены ў гной. Яму гэта вельмі падабалася, ён зведаў пастухоўскае жыццё, спанатры кожнай каровы, зведаў лес з яго дрэвамі і пладамі, палюбіў манга, дзікую смокву і дрэва варынгу, вылоўліваў у зялёных вірах салодкі корань лотасу, а на святы плёў сабе вянок з чырвоных кветак пламніку, прывык асцерагацца дзікіх звяроў, пазбягаць сустрэч з тыграм, сябраваць з разумнай мангустай і вясёлым вожыкам і пераседжваць час вялікіх дажджоў у будане; тут пастушкі гулялі ў свае гульні, спявалі гімны, плялі цыноўкі і кашы. Хоць Даса і не да канца забыў сваю радзіму і ранейшае жыццё, але неўзабаве яны зрабіліся яму далёкім сном.

І вось аднаго разу, калі статак перакачаваў на свежую пашу, Даса пайшоў у лес паласавацца мёдам. З таго часу, як ён упершыню пабыў у лесе, ён вельмі палюбіў яго, а гэты лес здаўся яму асабліва прыгожым: быццам залатыя змеі, іскрыліся сонечныя прамяні паміж лістоў і галін, птушыны пошчак, крыкі малпаў, шэпт лістоты — увесь лясны гоман здаваўся Дасу ціхім зіхоткім плецівам, а ўсе лясныя пахі — кветак і лісця, вады і звяроў, пладоў і ягад, зямлі і моху, то церпкія, то салодкія, то бадзёрлівыя, то ачмурныя, то дзікія і невядомыя, то родныя і блізкія — таксама як бы спляталіся і расплятаміся, быццам сонечныя прамяні. Часам у цёмнай глыбіні яра чулася цурчанне ручая, над белымі парасолькамі пырхаў матылёк з чорнымі і жоўтымі крапачкамі на смарагдавых крылечках, у сіняватай глыбіні нетры трашчаў сук, глуха шалясцела апалае лісце, у змроку рыкаў звер або неўгамонная малпа сварылася з прыяцелькамі... Забыўшыся на мёд, Даса прыслухоўваўся да спеваў пералівіста-зіхоткіх райскіх птушак, і раптам сярод густой зарасці папараці, што расла

нібы маленькім лесам у гэтым велізарным лесе, убачыў нечы след, быццам нехта вытаптаў тут вузкую сцежку. Ціха, асцярожна ён пайшоў па ёй і неспадзявана пад велізарным мнагаствольным дрэвам знайшоў будан, сплецены з папараці і падобны на спічастую палатку, а побач — чалавека, які сядзеў проста і нерухома, рукі ў яго ляжалі паміж скрыжаваных ног, а з-пад сівых валасоў і шырокага лба на зямлю глядзелі спакойныя, як бы невідушчыя вочы, хоць і расплюшчаныя, але скіраваныя толькі ўсярэдзіну. Даса зразумеў: гэта святы чалавек, ёг, ён і раней бачыў такіх, — гэта былі людзі паважаныя, богу спадобныя, лічылася за шчасце падносіць ім дарункі і выказваць пашану. Але гэты, што сядзеў у самапаглыбленні перад сваім старанна схаваным буданом з папараці так проста і спакойна, апусціўшы рукі, упадабаўся хлопчыку асабліва і здаўся больш дзівосным і пашаноўным, чым усе, каго ён бачыў раней. Гэтага чалавека, які бязважка сядзеў і, здавалася, сваім адсутным паглядам бачыў усё і прадбачыў усё, ахінала нейкая аўра святасці, забароннае кола годнасці, вогненная хваля ёгічнай сілы, якую хлопчык не мог ні пераступіць, ні разарваць вітаннем або гуканнем. Веліч і годнасць ёга, яго аблічча, унутранае святло, якім свяціўся твар, засяроджанасць і жалезная няўзрушнасць усіх яго рысаў выпраменьвалі хвалі, у сплыве якіх ён лунаў, як месяц, і згустак духоўнай сілы, бязгучна засяроджаная воля ва ўсім яго аблічча ўтваралі навокал яго такое магічнае кола, што адчувалася: не падымаючы вачэй, адным жаданнем, адной думкай сваёй гэты чалавек можа забіць і зноў вярнуцца да жыцця.

Нерухомейшы за дрэва, бо галіны яго ўсё-такі дыхаюць і лісты калышуцца, як каменны ідал, сядзеў ёг, і гэтаксама нерухома, быццам закаваны ў ланцугі, застыў перад ім хлопчык з таго імгнення, як заўважыў яго, не могучы сысці з месца, не могучы паварухнуцца і парушыць зачараванасць. Ён стаяў і глядзеў на ёга, бачыў сонечны блік на яго плячы і яшчэ адзін на супакоеных руках, бачыў, як блікі памалу рухаюцца, як узнікаюць новыя, пачаў здзіўлена разумець, што гэтыя блікі не звязаныя з ёгам, ды і птушыная гамана вакол, і крыкі малпаў у глыбіні лесу, і кашлатая лясная пчала, якая села аскету на твар і панюхала скуру, прабегла па шчацэ, а потым узнялася і паляцела, — усё шматабліччае жыццё лесу, усё гэта, адчуваў Даса, усё, што ба-

чыць вока, чуе вуха, усё прыгожае і абрыдлівае, усё прыемнае і жахоткае — усё гэта не мела дачынення да святога: дождж не мог астудзіць яго і спрыкрыць яму, агонь не мог яго абпаліць, увесь навакольны свет — у яго толькі паверхня без ніякага значэння. Здагадка пра тое, што ўвесь свет сапраўды толькі паверхня, павеў ветру і зыб хвалі над нязведанымі глыбінямі, узнікла ў княжыча-падпаска не думкаю, а лёгкімі дрыжыкамі прабегла па яго целе, як нешта падобнае на кружэнне галавы, як пачуццё жаху і блізкай небяспекі, а разам з тым і як вялікая туга і прыцягальная сіла. Бо, здавалася яму, ёг праз паверхню свету, праз свет паверхні апусціўся ў аснову сутнага, у тайну ўсіх рэчаў, ён прарваў чарадзейскія цянёты пачуццяў, ашукі святла, гукаў, фарбаў, адчуванняў, ён скінуў іх з сябе і цяпер трывала ўчапіўся карэннем за сутнаснае і непарушнае. Хлопчык, хоць і пабываў у школе ў брахманаў і ўспрыняў ад іх каліва духоўнага святла, зразумеў гэта не розумам, і словамі ён нічога не змог бы сказаць пра гэта, — ён адчуў гэта, як у шчасны час адчуваеш блізкасць боскага, як трапятанне павагі і здзіўлення перад гэтым чалавекам, як любоў да яго, як тугу па жыцці, якою, здавалася, жыў гэты ёг у сваім самапаглыбленні. Даса ўсё стаяў на тым самым месцы, і ў памяці ў яго дзякуючы ёгу нянаджана ўсплыў успамін пра яго княскую і царскую годнасць, душа яго трымцела, і тут, на краі папаратніку, ён не чуў ні птушак, ні шалахцення дрэў, ён забыўся пра лес і пра далёкі статак — ён паддаўся уладзе чараў і глядзеў на пустэльніка, захоплены неспасцігальнай цішынёй і недатыкальнасцю ўсёй яго постаці, светлым спакоем твару, сілай і засяроджанасцю паставы, бо старац увасабляў служэнне службе сваёй.

Сказаць потым, прабыў ён каля будана гадзіну ці дзве, дзень ці тыдзень, — ён не мог. І калі зачараванасць знікла, калі ён ціхенька ішоў па сцежцы праз зараснік папараці, потым знайшоў дарогу, якая вывела яго з лесу, і нарэшце зноў апынуўся на пашы паблізу статка — ён зрабіў гэта неўсвядомлена, і душа яго ўсё яшчэ была зачараваная, і ачуўся ён толькі тады, калі нехта з пастухоў клікнуў яго. Пастух адразу накінуўся на яго з лаянкай за такую доўгую адсутнасць, але Даса толькі здзіўлена паглядзеў на яго круглымі вачыма, і пастух змоўк, ён быў уражаны такім незвычайным і

адчужаным позіркам і ўсім урачыстым выглядам хлопчыка. Крыху счакаўшы, ён спытаўся:

— Дзе ж гэта ты быў, дарагі? Можа, бога якога ўбачыў або дэмана спаткаў?

— Я быў у лесе, — адказаў Даса, — мяне пацягнула туды, я хацеў сабраць мёду. А потым убачыў там чалавека, пустэльніка, і забыўся на ўсё, а ён сядзеў, задумённы такі, або, можа, гэта ён маліўся, а я, як убачыў яго прасветлены твар, так і застыў і доўга не мог вачэй адвесці. Можна, я ўвечары зноў пайду да яго і занясу яму што-небудзь, — ён святы чалавек.

— Так і зрабі, — адказаў пастух, — занясі яму малака і масла: святых трэба шанаваць і трэба ім падаваць.

— А як мне называць яго?

— Ніяк. Пакланіся яму ды пастаў, што прынёс, вось і ўсё.

Так Даса і зрабіў. Ён даволі доўга блукаў, перш чым зноў знайшоў тое месца. Перад буданом нікога не было, а зайсці Даса не адважыўся, і ён паставіў усё, што прынёс, проста на зямлю перад уваходам і пайшоў.

Кожны вечар, пакуль яны паслі статак у тых краях, Даса насіў дарункі да будана, а аднаго разу пабываў там удзень і зноў убачыў пустэльніка ў стане самапаглыбленасці; змярцвеўшы, ён зноў не ўстояў перад спакусай прыняць промень ад ззяння, якое вытачала добрасная сіла святога. І яшчэ доўга пасля таго, як яны пакінулі гэты край і Даса памагаў пераганяць статак на новыя пашы, ён не мог забыць перажытае ў лесе, а часам, як гэта часта бывае з хлопчыкамі, застаючыся сам з сабою, ён аддаваўся мроям і бачыў сябе на месцы пустэльніка і мудрага ёга. Але спакваля мары і ўспаміны пабляклі, і бляклі яны тым хутчэй, чым больш Даса падрастаў, рабіўся дужым хлопцам, які з радаснай прагай аддаваўся гульням і спаборніцтвам з равеснікамі. Але ў глыбіні яго душы яшчэ жыў нейкі водбліск, жыла кволая здогадзь: навука ёгаў, веліч яе і моц вернуць яму яго страчаную княскую годнасць, і ён зноў будзе княжычам.

Аднойчы, калі яны пасвілі статак недалёка ад горада, пастух, вярнуўшыся адтуль, расказаў, што гараджане рыхтуюцца да вялікага свята: стары князь Равана зусім страціў сваю былую сілу, пастарэў і вызначыў дзень, калі сын яго Нала заступіць яго месца і будзе

абвешчаны царом. Дасу захацелася пабыць на свяце, паглядзець горад, пра які з дзяцінства ў яго не засталося амаль ніякіх успамінаў, паслухаць музыку, паглядзець на святочнае шэсце і спаборніцтвы высакародных, хацелася хоць раз пабыць у тым невядомым свеце гараджан і ўладароў, пра які так часта расказваецца ў легендах і паданнях і пра які ён ведаў — можа, гэта таксама была толькі легенда, казка, можа, штосьці яшчэ меншае, — што калісьці ў старавечныя часы гэта быў яго свет.

Пастухі атрымалі загад даставіць у двор масла на святочныя ахвяраванні, і, на радасць Дасы, старэйшы пастух прызначыў яго і двух другіх ехаць у горад.

Напярэдадні свята яны былі ўжо пры двары і здалі масла брахману Васудэву: менавіта ён быў галоўны распарадчык пры ахвяраваннях, але хлопца ён, вядома, не пазнаў. Пастухі ўзялі ўдзел у святкаванні, бачылі, як раніцай пад кіраўніцтвам брахмана пачаўся абрад, як залаціста-жоўтае масла аддалі агню, як полымя ўзвілося да неба, угору, у бясконцасць, а напоены тлушчам дым ператварыўся ў пахошчы тройчы дзесяці багам. Яны бачылі шэсце сланоў з пазалочанымі балдахінамі, пад якімі сядзелі воіны, бачылі ўпрыгожаную кветкамі княскую калясніцу і ў ёй маладога раджу Налу, яны чулі аглушальную музыку барабанаў. Усё было цудоўна, пышна і крыху смешна, ва ўсякім разе, так гэта здалося маладому Дасу; ап'янелы і аглушаны нязвыклым шумам, грукатам калясніц, упрыгожанымі конямі, усёй гэтай раскошаю і транжырлівым багаццем, Даса захапіўся танцоркамі, якія скакалі перад княскай калясніцай, статнымі і гнуткімі, як сцяблiны лотасу, захапляўся такім велізарным і прыгожым горадам, і ўсё ж, насуперак гэтаму ап'яненню, гэтай радасці, глядзеў на ўсё вачыма пастуха, які ў душы пагарджае гараджанамі. Але пра тое, што на самай справе ён быў першародны, што толькі што яго братаніча Налу, якога ён ужо зусім не памятаў, памазалі і ўзвялі ў цары і гэта Налу ўшаноўвалі, а на самай справе гэта ён, Даса, павінен быў ехаць ва ўпрыгожанай кветкамі калясніцы, — не, пра гэта ён не думаў. Аднак малады раджа яму вельмі не спадабаўся, ён здаўся яму дурным, злым і разам з тым спешчаным, нязносна славалюбным у сваім раздзьмутым самапаклaненні, і ён, Даса, быў не супраць таго, каб адкалоць штуку гэтаму блазню, які

строіў з сябе цара, ды і правучыць яго як след, але нагоды не было, і Даса неўзабаве забыўся пра гэта, — надта шмат на што было тут паглядзець, шмат чаго паслухаць, з чаго пасмяяцца і парадавацца. Гараджанкі былі прыгожыя, дзёрзкія былі ў іх позіркі, і паходка, і мова; усе тры пастухі таго дня наслухаліся такога, што яшчэ доўга звінела ў іх вушах. Праўда, жанчыны загаворвалі з імі пакеплліва, — бо гараджанін жа ставіцца да пастуха так, як пастух да гараджаніна, з пагардай, — але ўсё-такі прыгожыя і дужыя, узрослыя на малацэ і сыры, амаль круглы год пад адкрытым небам, хлопцы вельмі спадабаліся гараджанкам.

З свята Даса вярнуўся ўжо не хлопцам, а мужчынам, пачаў бегаць за дзяўчатамі, і нярaз яму даводзілася кулакамі адстойваць свае правы перад іншымі. Няшмат прайшло часу, як яны перакачавалі на новае месца, дзе былі прасторныя лугі і шмат азёр, парослых трыснягом і бамбукам. Тут Даса сустрэў дзяўчыну, звалі яе Правації, і загарэўся апантаным каханнем. Яна была арандатарава дачка, і Даса так моцна пакахаў яе, што забыўся на ўсё і ўсё закінуў, толькі каб дабіцца яе кахання. А калі праз нейкі час пастухі пагналі статак далей, ён не паслухаўся іх засцярог і парад, а развітаўся з імі, ды і з сваім пастухоўствам, якое яму датуль дужа падабалася, асеў на зямлі і дасягнуў свайго: Правації аддалі яму ў жонкі. Ён жаў проса і рыс на цесцевым полі, дапамагаў у млыне і ў лесе, паставіў жонцы бамбукавую хаціну, абмазаў яе глінай і трымаў Правації пад замком. Якою неадольнаю павінна быць сіла, што прымушае маладога чалавека адмовіцца ад усіх ранейшых радасцяў, таварышаў і звычак, змяніць жыццё і ўзяць на сябе незайздросную ролю зяця сярод чужых яму людзей! Такая вялікая была прыгажосць Правації, такое вялікае спакушальнае абяцанне радасцяў кахання, якім праменіўся яе твар, яе цела, што Даса аслеп для ўсяго астатняга, увесь аддаўся гэтай жанчыне і сапраўды зведаў у яе абдымках вялікае шчасце. Апавядаюць, быццам некаторыя багі і святыя, заварожаныя спакуслівай жанчынай, забываліся пра ўсё, зліўшыся з ёю, і не выпускалі яе з сваіх абдымкаў дні, месяцы і гады, цалкам аддаўшыся асалодзе, адцураўшыся ўсяго на свеце. Вось такое долі і жадаў сабе Даса, такога сабе кахання. Але яму было наканавана інакш, і шчасце яго не задоўжылася. Яно трывала не болей за год, ды

і гэты год не ўвесь быў напоўнены адным толькі шчасцем — і на другое заставаўся час: на дакучлівыя прыставанні цесця, на швагровыя прычэпкі, на вычуды маладой жонкі. Але кожны раз, як ён быў з ёю ў ложку, усё гэта забывалася і ператваралася ў нішто — так вабіла яго яе чароўная ўсмешка, так соладка было яму лашчыць і песціць яе гнуткае цела, так расцвітаў усімі сваімі кветкамі, надзячы халадком і водарам, сад пажады яе маладога цела.

Дасава шчасце не патрывала і года, як у тых мясцінах узнікла трывога і прыйшоў неспакой. Явіліся ганцы-верхаўцы і абвясцілі, што прыязджае малады раджа, а за ганцамі прыехаў і сам раджа Нала, з конямі, паляўнічымі і ўсім абозам, каб папаляваць у тых мясцінах; слугі раскінулі намёты, коні ржалі, рогі трубілі. Даса працаваў у полі, потым на млыне, як мог пазбягаў сустрэчы з паляўнічымі і людзьмі раджы. Неяк вярнуўшыся ў хаціну і не застаўшы ў ёй жонкі, якой у гэтыя дні строга наказаў не выходзіць, ён адчуў укол у сэрца і зразумеў, што блізіцца бяда. Ён тут жа паспяшаўся да цесця, але і там не знайшоў Праваці, ніхто яе не бачыў. Дасава сэрца сціснулася яшчэ пакутлівей. Ён абышоў агарод, палеткі, — дзень, потым другі толькі і рабіў, што бегаў паміж сваёй хацінай і цесцевым домам, падпільноўваў на полі, спускаўся ў калодзеж, маліўся, выкрыкваў яе імя, угаворваў, праклінаў, вышукваў яе слядоў. Нарэшце самы малодшы швагер, хлопчык яшчэ, расказаў яму, што Праваці — у раджы, яна жыве ў яго ў намёце, ён бачыў яе верхам на ягоным кані. Прыхапіўшы прашчу, якая засталася ў яго з той пары, калі ён пасвіў каровы, Даса выправіўся да лагера Налы і пачаў чакаць. Як толькі ён заўважыў, што княскі намёт нікім не ахоўваецца ці то ўдзень, ці то ўночы, ён падкрадваўся, але кожны раз аказвалася варта, і ён адступаўся. Схаваўшыся ў шатах вялікага дрэва, ён сачыў за намётам і аднаго разу ўбачыў раджу, твар якога быў яму знаёмы і ненавісны яшчэ з вялікага свята ў горадзе; раджа ўскочыў на каня і паскакаў, а калі ён праз некалькі гадзін вярнуўся, саскочыў на зямлю і адкінуў полаг намёта, Даса паспеў заўважыць маладую жанчыну, якая прывітала раджу. Пазнаўшы ў гэтай жанчыне сваю жонку Праваці, Даса ледзь не зваліўся з дрэва. Цяпер ён ужо ўпэўніўся, і на сэрца яму лёг яшчэ большы цяжар. І калі шчасце ягонага кахання з Праваці

было вялікае, дык не менш вялікае, калі не большае, было цяпер ягонае гора, яго шал, пачуццё страты і знявагі. Так яно і бывае, калі чалавек засяроджвае ўсё сваё каханне на чым-небудзь адным, а страціць гэта адно — усё рушыцца, усё з рук валіцца, і застаецца ён адзін сярод руінаў.

Цэлы дзень і цэлую ноч бадзяўся Даса па навакольных лясах, і варта было яму спыніцца і перадыхнуць, як вялікае гора сэрца гнала яго, змардаванага, наперад. Ён не мог не рухацца, ён павінен быў кудысьці бегчы, хоць на край свету, хоць упрочкі з гэтага жыцця, бо яно страціла ўсё сваё хараство і ўсякую цану. І ўсё ж ён нікуды не ўцёк, а кружляў-кружляў паблізу ад месца, дзе застала яго гора, — каля сваёй хаціны, млына, раллі і княскага намёта. Нарэшце ён зноў схаваўся ў шатах дрэва каля намёта, сядзеў і высочваў, поўны прагі і горычы, падобны на галоднага драпежніка, які затаіўся ў засадзе, пакуль не настала тое імгненне, дзеля якога ён і запашваў усе свае сілы: раджа выйшаў з намёта. Нячутна Даса саслізнуў на зямлю, раскруціў прашчу, і камень пацэліў у лоб ненавісніку: Нала ўпаў нерухомы. Навокал — нікога, буру салодкай помсты, якая бушавала ў грудзях у Дасы, на момант змяніла дзіўная і вусцішная глыбокая цішыня. І перш чым каля забітага замітусіліся слугі і ўзняўся гвалт, Даса кустоўем выбраўся з лагера і схаваўся ў зарасніку бамбуку ў даліне.

У той час, як ён спускаўся з дрэва, быццам ап'янелы раскручваў прашчу, пасылаючы смерць, ён адчуваў, быццам ён разлучаецца і са сваім жыццём, быццам гэта апошняя сіла выходзіць з яго, быццам разам з смертаносным каменем ён і сам ляціць у прорву, і ён быў згодны загінуць, абы ненавісны вораг хоць на хвіліну загінуў раней за яго. Але цяпер, калі за чынам настала нечаканая цішыня, прага да жыцця, пра якую ён дагэтуль і не падазраваў, павяла яго ад краю раззеўранай прорвы, а ўсімі яго думкамі авалодаў нейкі першасны інстынкт, які і пагнаў яго ў лес, у бамбучнік, і прымусіў уцякаць, зрабіцца нябачным. І толькі ўжо схаваўшыся, унікнуўшы першай небяспекі, ён усвядоміў, што сталася. І калі ён, вымучаны, задыханы, прынік да зямлі, ап'яненне пачало развейвацца, прыйшла цвярозасць, і ён найперш адчуў расчараванне і агіду: як жа гэта сам ён застаўся жывы? Але як толькі дыханне яго супакоілася,

як толькі перастала круціцца ў галаве ад празмернай стомы, дык і агіднае пачуццё слабасці змянілася ўпартай прагай жыць, зноў да яго вярнулася дзікая радасць ад таго, што ён учыніў.

Неўзабаве непадалёк ад яго паднялася трывога, пачаліся пошукі, пагоня, і было гэта цэлы дзень; яго не знайшлі толькі таму, што ён праляжаў увесь час, не варухнуўшыся, у зарасцях, а шукальнікі не хацелі лезці ў самую гушчобу, баючыся тыгра. Даса заснуў ненадоўга, потым зноў ляжаў, прыслухоўваючыся, папоўз далей, зноў даў сабе спачынку, а на трэці дзень ужо перабраўся праз ланцуг пагоркаў і, не ведаючы стомы, усё ўцякаў і ўцякаў у горы.

Бяздомніцтва прымусіла Дасу пабываць у самых розных краях, яно зжарсцвіла яго, з'абыякавіла да ўсяго, але і навяло на розум, уціхамірыла, і ўсё ж начамі яму снілася Праваці, яго мінулае шчасце з ёю або тое, што ён так называў; часта яму сніліся ягоныя ўцёкі і пагоня — страшныя, цяжкія сны. Напрыклад, такі: ён бяжыць лесам, за ім пагоня, чутны барабан, трубяць трубы, а ён прадзіраецца праз гушчар па куп'і, праз калючыя зарасці, па хісткіх кладках, нешта нясе, нейкую ношу, нешта спавітае, схаванае, невядомае, пра што толькі і ведае, што яно вельмі дарагое яму і ні ў якім разе не павінна трапіць у чужыя рукі, нешта бясцэннае і крохкае, нейкі скарб, магчыма, крадзеную здабычу, загорнутую ў хустку, у яркую тканіну з чырвонымі і блакітнымі ўзорамі, такімі самымі, як і на святочнай сукенцы Праваці, — і з гэтай ношай, скарбам або здабычай ён бяжыць, паўсюль небяспека, трасе страх, ён крадзецца пад навіслымі галінамі і скаламі, міма сыклівых змей, а то і на страшэннай вышыні па хісткіх кладках цераз бурлівыя рэкі, поўныя кракадзілаў, і пад канец, зацкаваны і вымучаны, спыняецца, цярэбіць тасёмкі вузлоў, развязвае адзін за адным, разгортвае тканіну, і скарб, які ён дастае, аказваецца сваёй, ягонай галавой.

Ён жыў у бясконцых вандроўках, хаваючыся, не тое каб па-сапраўднаму ўцякаючы ад людзей, а пазбягаючы іх. І вось аднаго разу вандроўкі прывялі яго ў зялёны пагорысты край, які здаўся яму такім цудоўным і радасным, нібыта ўсё тут вітала яго, як даўняга знаёмага: ён пазнаваў то поле ў даліне, дзе калыхаліся пахучыя травы, то сакоўныя лугі — усё нагадвала яму вясёлы і

бесклапотны час, калі ён не ведаў кахання і рэўнасці, злосці і помсты. Гэта быў той край, дзе калісьці з таварышамі ён пасвіў каровы: найлепшы час яго маладосці глядзеў на яго з далёкіх глыбіняў незваротнага. Салодкай скрухаю заныла сэрца ў Дасы на прыветлівыя галасы гэтых мясцін: ласкавага ветрыку, што шалясцеў у серабрыстай лістоце вярбы, імклівага ручая, што напяваў такую задорыстую і вясёлую паходную песню, на звонкія галасы птушак і басовае брунжанне залатых чмялёў. Усё тут гучала прыстанішчам, радзімай, і яму, звыкламу да вандроўнага пастухоўскага жыцця, яшчэ ніводзін край не здаваўся такім родным.

Гэтыя галасы ўжо гучалі ў ягонай душы, яны падганялі яго, і ён з пачуццямі, падобнымі на пачуцці чалавека, які вярнуўся на радзіму, бадзяўся па землях гэтай прыязнай яму краіны ўпершыню за многія страшныя месяцы не як чужы, не як выгнанец, асуджаны на смерць уцякач, а з шчырым сэрцам, ні пра што не думаючы, нічога не прагнучы, увесь у ціхай радасці жыцця, убіраючы ў сябе ўсё, што было вакол яго, з глыбокай удзячнасцю і пэўным здзіўленнем перад гэтым новым, нязвыклым, упершыню з захапленнем перажытым станам душы, перад гэтай адкрытасцю без жаданняў, гэтай весялосцю без запалу, перад гэтай радаснай і ўдзячнай гатоўнасцю да сузірання. З зялёных лугоў яго пацягнула ў лес, пад шаты дрэў, у запырсканы сонечнымі блікамі морак; пачуццё вяртання на радзіму там яшчэ памацнела і павяло яго па сцежках, якія ногі яго, здавалася, знаходзілі самі, пакуль ён, прабраўшыся праз зарасці папараці, гэты маленькі лес у вялікім лесе, не ўбачыў будан, а перад ім нерухомага ёга — таго самага, якога ён калісьці падглядваў і якому насіў малако.

Даса стаяў, быццам прачнуўшыся. Тут усё было як раней, тут час не ішоў, тут ніхто не забіваў і не пакутаваў; тут жыццё і час застылі, быццам крышталь, у непарушным спакоі. Ён глядзеў на старога, і ў яго сэрца вярталіся тыя самыя захапленне, любоў і туга, якія ён адчуваў тут, калі першы раз убачыў ёга. Ён глядзеў на будан і думаў, што на пачатку вялікіх дажджоў яго трэба было б крыху паладзіць. Потым ён асмеліўся асцярожна падысці да будана, увайшоў у яго, агледзеўся і ўбачыў, што ў ім амаль нічога не было: ляжанка з лісця, высушаны гарбуз з вадой і пусты плецены кош. Ён узяў кош, выйшаў і пачаў шукаць у лесе чаго-небудзь на ежу,

знайшоў некалькі пладоў і салодкіх каранёў, вярнуўся, узяў гарбуз і прынёс свежай вады. Вось ён і зрабіў тое, што тут трэба было зрабіць. А як мала трэба чалавеку, каб жыць! Даса сеў на зямлю і аддаўся марам. Ён быў рады гэтаму маўкліваму, летуценнаму спакою ў лесе: ён быў рады голасу ў яго душы, які прывёў яго сюды, дзе ён яшчэ хлопцам адчуваў нешта падобнае на мір, шчасце і радзіму.

Так ён і застаўся ў маўклівага. Мяняў подсцілку з лісця, збіраў у лесе плады і карэнне, потым паправіў стары будан і непадалёк пачаў будаваць новы, ужо сабе. Здавалася, стары трывае яго, аднак ці заўважыў ён наогул яго, зразумець было ніяк нельга. Устаючы пасля самапаглыблення, ёг ішоў у будан і клаўся спаць, або крыху еў, або прагульваўся па лесе. Даса жыў каля шаноўнага, як слуга каля вялікага пана, правільней нават, як хатняя жывёліна, прыручаная птушка або мангуста жыве каля людзей, амаль непрыкметная, з калівам карысці. Даса, які быў уцякач і доўга жыў з нячыстым сумленнем, няўпэўнены ў заўтрашнім дні, штохвіліны чакаў пагоні, гэта спакойнае жыццё, лёгкая праца і суседства чалавека, які, здавалася, не заўважаў яго, нейкі час былі шчасцем: ён спаў без страшных сноў, а выпадалі дні, калі ён ні разу не ўспамінаў пра мінулае. Пра будучыню ён не думаў, а калі і ўзнікалі жаданні або туга па чым-небудзь, дык гэта па тым, каб застацца тут, каб ёг увёў яго ў таямніцы пустэльніцтва, каб і самому зрабіцца ёгам, далучыцца да ганарлівай спакойнасці. Ён пачаў пераймаць позы шаноўнага, спрабаваў, скрыжаваўшы ногі, як і ён, сядзець нерухома, як і ён, сузіраць невядомы свет, глядзець на праявы жыцця і не ўспрымаць таго, што непасрэдна блізка ад яго. Пры гэтым ён хутка стамляўся, зацякалі ногі, ныла спіна, дакучалі камары або раптам пачынала свярбець скура, гэта змушала яго юрзаць, часацца і рэштаю ўставаць. Але бывала і так, што ён адчуваў нешта іншае, падобнае на спустошанасць, на незвычайную лёгкасць, ён быццам лунаў, як лунаюць у сне: трэба толькі крыху-крыху адштурхнуцца ад зямлі, і ўжо ляціш, як пушынка. У такія хвіліны на яго находзіла прадчуванне таго, як гэта будзе, калі ён увесь час будзе так лунасць, калі цела і душа скінуць з сябе цяжар і будуць узносіцца ў дыханні вялікага, чыстага і сонечнага жыцця, узвысяцца і растануць у незямным, бясчасавым і вечным. Аднак

хвіліны гэтыя так і заставаліся хвілінамі і прадчуванні — толькі прадчуваннямі. Расчараваны, зноў вяртаючыся ў сваю будзённасць, ён думаў, як добра было б, калі б майстар узяў яго ў вучні, увёў у свае практыкаванні, у тайну свайго майстэрства і зрабіў з яго ёга. Але як гэтага дасягнуць? Здавалася, пустэльнік ніколі не ўбачыць яго, як бачаць вачамі, ніколі і словам з ім не перакінецца. Здавалася, дні і гадзіны, лес і будан — усё гэта было недзе па той бок, як і ён сам быў па той бок слоў.

І ўсё ж аднойчы ён сказаў адно слова. У Дасы зноў настаў такі час, калі ён ноч у ноч бачыў страшныя сны, то заваблïва салодкія, то заваблiва страшныя, то Праваці яўлялася яму, то ён зноў перажываў усе страхі ўцёкаў. І ўдзень ён не дабіваўся ніякіх поспехаў, доўгага нерухомага спакою і паглыблення ў сябе ён не вытрымліваў, думаў пра жанчын, пра каханне і падоўгу без нічога ніякага блукаў па лесе, магчыма, было вінаватае надвор'е: стаяла засуха, налятаці парывы гарачага ветру... І вось зноў настаў адзін такі нядобры дзень, калі звінелі камары, а надоечы ўночы Даса бачыў сон, гнятлівы, страшны, што там у тым сне было, ужо і не памятаў, але цяпер на яве сон здаўся яму недазволеным, мізэрным і ганебным вяртаннем у ранейшае жыццё, на раннія яго ступені. Увесь гэты дзень ён таптаўся каля будана, устрывожаны і пануры, усё валілася з рук, некалькі разоў ён садзіўся папрактыкавацца ў самапаглыбленні, але яго адразу агортвала нейкая ліхаманкавая трывога, рукі і ногі тузаліся, быццам тысячы мурашак паўзлі па яго целе, у патыліцы гарэла, хвіліны ён не вытрымліваў такога стану; збянтэжаны і прысаромлены, ён касавурыўся на старца, які сядзеў у дасканалай позе, вочы звернутыя ў сябе, усярэдзіну, а зіхаткі ад спакойнай радасці твар пахітваецца, быццам кветка на сцябліне.

Калі ёг устаў і пакіраваўся да будана, Даса, які ўжо даўно пільнаваў гэтага мігу, заступіў яму дарогу і з роспаччу запалоханага ўцекача сказаў:

— Даруй, шаноўны, што я ўварваўся ў тваю цішыню. Я шукаю міру, шукаю спакою. Я хацеў бы жыць, як ты, і стаць, як ты. Я яшчэ малады, але зазнаў шмат гора, доля жорстка абышлася са мною. Я нарадзіўся князем, але мяне прагналі да пастухоў, і я вырас пастухом, дужы і вясёлы, як малады бычок, і я быў чысты сэрцам.

Потым я ўведаў жанчын, і калі ўбачыў самую прыгожую, я ўсё жыццё аддаў ёй і памёр бы, калі б яна не выйшла за мяне. Я пакінуў таварышаў-пастухоў, прысватаўся да Праваці і стаў зяцем. Я служыў гэтую службу, цяжка працаваў, але ж Праваці была мая, кахала мяне, або я думаў, што яна мяне кахае, і кожны вечар я вяртаўся ў яе абдымкі, і яна туліла мяне да свайго сэрца. І раптам у нашыя краі прыходзіць раджа, той самы, за якога мяне яшчэ змалку выгналі, прыйшоў і адабраў маю Праваці, і я ўбачыў Праваці ў яго абдымках. Гэта быў самы страшэнны боль, які я зведаў, і ён перамяніў мяне і ўсё маё жыццё. Я забіў раджу, я забіў і пачаў жыць жыццём злачынцы, уцекача, за мною гналіся, ні гадзіны я не быў спакойны за сваё жыццё, пакуль не дабраўся сюды. Я чалавек без розуму, о, шаноўны, я забойца, магчыма, калі-небудзь мяне схопяць і чацвяртуюць. Не магу я болей жыць гэтым жудасным жыццём, я хачу пазбыцца яго.

Ёг няўзрушна выслухаў гэтую казань, прыплюшчыўшы вочы. Цяпер ён расплюшчыў іх і глядзеў у твар Дасы, гэта быў ясны, пранізлівы, амаль невыносна цвёрды, засяроджаны і прамяністы позірк, і, у той час, як ён разглядаў Дасаў твар і разважаў над спешлівым расказам, яго рот павольна скрывіўся на ўсмешку і на смех, і з бязгучным смехам ён затрос галавой і паўтараў, смеючыся:

— Майя, майя!

Дарэшты збянтэжаны і прысаромлены Даса так і застыў, а старац падняўся і перад вячэрай пагуляў крыху па вузкай сцежцы ў зарасцях папараці, быццам вытрымліваў такт, роўнымі крокамі прайшоўся ўзад і ўперад і, зрабіўшы так крокаў сто, вярнуўся ў будан, і твар яго зноў зрабіўся такі, які ён быў заўсёды, звернуты кудысьці яшчэ, а не да свету з'яў. Што ж гэта была за ўсмешка на гэтым заўсёды такім нерухомым твары ў адказ на сказаныя Дасам словы? Прыйдзецца яму пакруціць над гэтым галаву. Ці быў зычлівы або здзеклівы смех, які так жахліва прагучаў у момант роспачнага прызнання Дасы, яго мальбы, ці быў ён суцяшальны або асуджальны, боскі або дэманічны? Ці быў ён цынічнае хіхіканне старца, які ўжо нічога больш не здольны прымаць сур'ёзна, або смех мудраца з чужое дурасці? Ці азначаў ён адмаўленне, дараванне ці загад згінуць з вачэй? І можа, гэта была парада, прапанова

Дасу пераймаць і таксама смяяцца? Ніяк не мог ён зразумець гэтага смеху. І ўначы, доўга не могучы заснуць, ён усё думаў пра гэты смех, у які старцу ператварылася ўсё жыццё, усё шчасце і ўсё гора Дасы. Даса не пераставаў думаць пра гэты смех, як не перастаюць грызці стары і цвёрды корань, яго грызуць таму, што ён усё яшчэ нешта нагадвае, нечым пахне, і гэтаксама Даса чапляўся за слова, якое стары гукнуў на такой высокай ноце, так радасна і з такой неспасцігальнай прыемнасцю: «Майя, майя!» Што менавіта азначала яно, ён напалавіну ведаў, напалавіну здагадваўся, ды і тое, як стары выкрыкнуў яго, дазваляла здагадвацца пра сэнс гэтага слова. Майя — гэта было жыццё Дасы, маладосць Дасы, самае салодкае шчасце і горкая доля яго, майя — гэта была прыгажуня Праваці, майя — гэта каханне і яго радасці, майя — гэта ўсё жыццё. Гэта было жыццё Дасава і ўсіх людзей, якім яго бачыў ёг, і было ў ім для яго нешта дзіцячае, блазенскае, нейкі тэатр, гульня ўяўлення, Нішто ў стракатай абалонцы, мыльная бурбалка, нешта, з чаго можна ахвотна пасмяяцца, але да чаго разам з тым трэба ставіцца пагардліва і што ні ў якім разе нельга прымаць сур'ёзна.

Але калі кожнаму ёгу гэты смех і слоўца «майя» азначалі, што пра Дасава жыццё сказана ўсё, дык пра самога Дасу гэтага ніяк нельга было сказаць, і як ён ні хацеў ператварыцца ў смяшлівага ёга, як ні хацеў не бачыць у сваім жыцці нічога, акрамя майі, у ім, пачынаючы з тых трывожных дзён і начаў, зноў абудзілася ўсё, пра што ён, знураны ўцёкамі, знайшоўшы тут прыстанак, здавалася, даўно забыўся. Надзеі авалодаць майстэрствам ёгаў, а то і зраўняцца са старцам было ў яго больш чым замала. Але ж тады які сэнс заставацца ў гэтым лесе? Ён быў яму прыстанішчам, тут ён крыху аддыхаўся, набраўся сілы, крыху асвойтаўся з сабой, і гэта было каштоўна, гэта ўжо было нешта. А раптам тым часам там, у краіне, ніхто ўжо больш не цікуе князевага забойцу, і ён, Даса, нічога ўжо не баючыся, можа ісці сваёй дарогай далей? Так ён і пастанавіў зрабіць, на другі ж дзень выправіцца ў дарогу: свет вялікі, няма чаго яму тут хавацца, як у нары. Рашэнне гэта крыху яго супакоіла.

Даса мерыўся пайсці на золку, аднак, прачнуўшыся пасля доўгага сну, убачыў, што сонца паднялося ўжо высока і старац пачаў сваё самапаглыбленне, а не раз-

вітаўшыся, Даса не хацеў ісці, ды яшчэ і трэба было пра тое-сёе распытацца ў старца. Даса чакаў гадзіну, чакаў другую, пакуль старац не падняўся, не расправіў цела і не пачаў пахаджваць туды-сюды. Даса заступіў яму дарогу, пакланіўся і датуль не адступаўся, пакуль ёг не ўзвёў вочы і не паглядзеў на яго.

— Настаўнік! — рахмана звярнуўся да яго Даса. — Я пайду сваёй дарогай і не парушацьму больш твайго спакою. Але яшчэ адзін раз, шаноўны, дазволь мне папрасіцца ў цябе. Калі я расказаў табе пра сваё жыццё, ты засмяяўся і ўсклікнуў «майя!». Благаю, скажы мне што пра майю.

Стары павярнуў да будана, позіркам загадаўшы Дасу ісці следам. Там ён узяў высушаны гарбуз з вадой, падаў яго Дасу і сказаў яму вымыць рукі. Даса паслухмяна выканаў загад. Тады настаўнік выліў рэшту вады ў папаратнік, падаў парожні сасуд маладому чалавеку і загадаў прынесці свежай вады. Даса паслухмяна пайшоў па ваду. Па дарозе яму засумавалася: вось ён апошні раз спускаецца па вузкай сцяжыне да крыніцы, апошні раз падносіць лёгкі сасуд са сцёртымі ад рук беражкамі да невялікага люстэрка вады, у якім адбіваюцца і станожнік, і кароны дрэў, і нябесны блакіт у светлых бліках, а калі ён нахіліўся, дык убачыў і свой твар у рудаватым змроку. Павольна і задуменна Даса апусціў сасуд у ваду і адчуў няўпэўненасць, ён не мог зразумець, чаго ў яго так дзіўна на душы, чаму, калі ён ужо зноў сабраўся ў дарогу, яму так баліць ад таго, што ёг не папрасіў яго застацца, магчыма, застацца назаўсёды.

Ён прысеў на кукішкі каля крынічкі, зачарпнуў крыху вады, павольна, баючыся расплёскаць, падняўся з сасудам у руках і хацеў быў ісці да будана, калі раптам пачуў дзіўны гук, успрыняты ім з захапленнем і з жахам, — гэта быў голас, які ён няраз чуў у сне і які з такой горкай тугой марыў пачуць наяве. Які салодкі ён быў, як соладка, па-дзіцячы пяшчотна гучаў, як закахана заклікаў у лясным мораку, — Дасава сэрца замерла ад захаплення, страху і жаданняў. Гэта быў Правацін голас, жончын голас. «Даса», — вабіла яна. Усё яшчэ не верачы, ён азірнуўся з сасудам у руках, і раптам яна паявілася, выйшла з-за дрэў, статная, гнуткая, даўганогая Праваці, каханая, незабыўная, няверная. Ён адкінуў сасуд і кінуўся да яе. Усміхаючыся, крыху засаро-

меўшыся, яна стаяла перад ім, гледзячы на яго сваімі велізарнымі вачыма лані, і цяпер зблізку ён заўважыў, што на ёй былі сандаліі з чырвонай скуры і прыгожае, багатае ўбранне, на руцэ залаты бранзалет, а ў чорных валасах — каштоўныя камяні, ва ўсіх колерах. Даса адхінуўся. Няўжо яна ўсё яшчэ княская шлюха? Але хіба ён не забіў гэтага Налу? А яна ўсё яшчэ носіць яго падарункі. Ды як яна магла з гэтымі бранзалетамі і камянямі выйсці да яго і вымавіць яго імя!

Але яна была прыгажэйшая, чым калі-небудзь, і перш чым патрабаваць ад яе адказу, ён павінен быў абняць яе, занурыцца лбом у яе валасы, падняць яе твар, пацалаваць у губы, і пры гэтым ён адчуваў, як да яго вярнулася ўсё тое, што раней належала яму: шчасце, каханне, жаданне, захапленне, палкасць. І вось у думках сваіх ён ужо далёка ад гэтага месца і старога пустэльніка, лес, будан, самота, медытацыя, стары ёг — усё гэта адкінута, ператварылася ў нішто і забыта; нават пра сасуд, які ён павінен быў занесці старому, ён забыўся разам з вадой. Гарбуз так і застаўся ляжаць каля крыніцы, а Даса ўжо спяшаўся з Правацi да ўзлесся. Паспешліва, збіваючыся, яна расказвала яму, як яна сюды трапіла, што прывяло яе ў гэты лес.

Дзівосны быў яе аповяд, дзівосны, неспасцігальны і падобны на казку, і быццам у казку ўвайшоў Даса ў сваё новае жыццё. Не толькі Правацi была зноў з ім, не толькі ненавісны Нала быў мёртвы і шукаць забойцу даўно перасталі, але звыш таго — Дасу, княжыча, які вырас сярод пастухоў, абвясцілі ў сталіцы законным спадкаемцам і царом; стары пастух і стары брахман расказалі амаль усімі забытую гісторыю пра выгнанне Дасы, і цяпер таго самага чалавека, якога пэўны час усе шукалі як забойцу раджы Налы, каб закатаваць, пачалі шукаць яшчэ з большым запалам, каб абвясціць новым раджам і ўрачыста ўвесці ў горад і ў бацькоў палац. Усё гэта было як сон, і самае прыемнае Дасу было тое, што з безлічы ганцоў, якія шнырылі па ўсёй краіне, Правацi першая знайшла і прывітала яго.

На ўзлессі яны ўбачылі намёты, ад іх цягнула дымам і смажаным мясам. Слугі сустрэлі Правацi галасам, а калі яна сказала, што гэта — Даса, яе муж, адразу было выстраена вялікае свята. Сярод спадарожнікаў Правацi быў чалавек, які даўно калісьці з Дасам пасвіў свяшчэнныя каровы, ён і прывёў Правацi і ўсіх

астатніх сюды, у гэты край, дзе колісь цякло ранейшае жыццё Дасы. Пазнаўшы Дасу, пастух засмяяўся ад радасці, кінуўся быў да яго і хацеў паляпаць па плячы або абняць, але спахапіўся: яго таварыш цяпер раджа, і пастух так і застыў на месцы, потым павольна і пашанліва наблізіўся і прывітаў Дасу нізкім паклонам. Даса падняў яго, абняў, лагодна назваў імем і спытаўся, што яму падарыць. Пастух папрасіў сабе цялушку, і яму выдалі тры з найлепшай пароды. Новаму князю прадстаўлялі ўсё новых і новых людзей: чыноўнікаў, паляўнічых, прыдворных брахманаў, і ён прымаў іх вітанні, як нешта належнае; потым падалі стравы, загрымелі барабаны, пачуліся гукі цытраў і жалеек, але ўвесь гэты гвалт, уся гэтая раскоша цяпер Дасу як бы снілася, ён не мог паверыць у гэта, яваю была яму толькі адна Праваці, яго маладая жонка, якую ён не выпускаў з абдымкаў.

Невялікімі пераходамі шэсце падступалася да горада, наперад былі пасланы ганцы, якія і паведамілі радасную навіну, што знайшлі нарэшце маладога раджу і ён неўзабаве будзе ў горадзе, а калі Даса здалёк угледзеў гарадскія муры, адкуль чуліся гонгі, барабаны, насустрач урачыста выйшлі брахманы ў белых строях. На чале іх крочыў пераемца таго самага Васудэвы, які гадоў дваццаць таму назад паслаў Дасу да пастухоў і толькі нядаўна памёр. Яны віталі яго, спявалі гімны, а перад палацам, куды скіравалася шэсце, расклалі велізарныя ахвярныя вогнішчы. У палацы, дзе зараз меўся жыць Даса, яго сустрэлі новымі прывітаннямі, пачуліся хвалебныя песнапенні, бясконцыя здравіцы. Да позняй ночы гудзела свята.

Штодзень Дасу вучылі два брахманы, і ён вельмі хутка спасціг патрэбныя навукі, прысутнічаў пры ахвяраваннях, судзіў і авалодваў вайсковым і рыцарскім майстэрствам. Брахман Гопала ўвёў яго ў палітычныя дачыненні, расказаў, якія ў яго правы, правы ў ягонага роду і ў ягоных нашчадкаў, і якія ў яго ворагі. Гэта была перш за ўсё Налава маці, тая самая, якая калісьці забрала ў царэвіча Дасы ўсе правы і хацела забраць і жыццё, цяпер жа яна мусіла ненавідзець яго як сынавага забойцу. Яна ўцякла пад ахову суседняга князя Гавінды, жыла ў яго палацы, а сам Гавінда і яго род здавён часу, спрадвеку лічыліся небяспечнымі ворагамі, яны ваявалі яшчэ з Дасавымі продкамі, патрабавалі не-

каторых земляў з яго княства. Другі сусед, паўднёвы князь Гайпалі, сябраваўся з Дасавым бацькам і няраз непрыязніўся з Налам; а таму важным абавязкам лічылася пабываць у яго ў бліжэйшы час, паднесці яму дарункі і запрасіць на наступнае паляванне.

Пані Праваці борзда асвойталася з сваім высокім становішчам, і калі ў багатым убранні, увешаная каштоўнасцямі, ва ўсёй красе яна выступала поплеч са сваім высакародным мужам, дык здавалася зусім не ніжэйшага паходжання. Шчаслівае было ў іх каханне і доўжылася гадамі, і шчасце надавала ім нейкі бляск і ззянне, быццам яны былі божыя ўлюбёнцы, і народ паважаў і любіў іх. А калі пасля доўгага і марнага чакання Праваці нарадзіла нарэшце Дасу сына, названага ў гонар бацькі Раванам, шчасце яго стала поўнае, і з таго часу ўсё, чым ён валодаў — зямля, дамы, гаспадарчыя будынкі, двары і жывёла, — набыло ў яго вачах яшчэ большага значэння і важнасці, заззяла і павысілася ў цане: усе гэтыя валоданні радавалі яго, бо яны служылі Праваці, аздаблялі і ўпрыгожвалі яе, але цяпер яны зрабіліся яшчэ прыгажэйшыя, яшчэ радаснейшыя і важнейшыя, бо ішлі ў спадчыну сыну, Равану, на іх грунтавалася яго будучае шчасце.

Калі Праваці больш за ўсё радавалі святы, шэсці, раскоша і багацце вопраткі, укpac, шматлюднасць світы, дык Даса ўсе гэтыя радасці аддаваў за сад, дзе ён загадаў пасадзіць дарагія дрэвы і кветкі, завёў папугаяў і іншых стракатых птушак; карміць іх і гутарыць з імі стала штодзённай прывычкай. Радавалі яго і заняткі навукамі, удзячны брахманаў вучань, ён вывучыў многа гімнаў і казаняў, авалодаў майстэрствам чытаць і пісаць, завёў пры сабе пісца, які ўмеў вырабляць пальмавы ліст пад пісьмо, і спакваля пад яго рупліваю аслонаю была створана невялікая бібліятэка. У ёй сярод кніг, у невялікім раскошна абсталяваным пакоі з сценамі з высакароднай драўніны, упрыгожанымі разьбою пазалотаю з жыцця божышчаў, ён слухаў спрэчкі запрошаных брахманаў, самых лепшых вучоных і мысліцеляў-жрацоў пра свяшчэнныя дзеі, пра стварэнне свету і пра майю вялікага Вішну, пра святыя Веды, пра сілу ахвярнасці і пра яшчэ большую моц аскезы, дзякуючы якой смяротны чалавек робіцца здольны наганяць страх нават на багоў. Брахманаў, якія найбольш пераканаўча выступалі ў дыспутах, шчодра адорвалі, і сёй-той за

перамогу ў спрэчцы вёў з сабой добрую карову. Было нешта смешнае і кранальнае ў тым, як вучоныя мужы, якія толькі што цытавалі вершы з Ведаў і мудра развагалі пра іх, выдатна разбіраліся ў сузор'ях, морах і акіянах, ганарыстыя і пыхлівыя, разыходзіліся па дамах са сваімі ўзнагародамі, а то часам і ўскалочвалі свары паміж сабою.

Ды і наогул раджу Дасу, з яго шчасцем, багаццем, садам, кнігамі, усё звязанае з жыццём і чалавечай прыродай час ад часу ўяўлялася дзіўным, сумніцельным, адначасова і кранальным і смешным, як тыя мудрыя і славалюбівыя брахманы, адначасова светлым і цёмным, жаданым і вартым пагарды. Ці ён цешыўся кветкаю лотасу на сажалцы свайго саду, пералівамі фарбаў у пер'і паваў, фазанаў і ўдодаў, пазалочанай разьбою на сценах палаца — усё гэта часам уяўлялася яму боскім і як бы прасякнутым цяплом вечнага жыцця, а часам або нават адначасова ён адчуваў ва ўсім гэтым нешта несапраўднае, ненадзейнае, сумніўнае, нейкую прагу да тленнасці і знікнення, гатоўнасць да вяртання ў агіднае, у хаос. Бо і ён сам, князь Даса, быў царэвічам, а стаў пастухом, забойцам і бадзягам, а потым зноў узвысіўся ў князі, не разумеючы, якія сілы вялі яго па гэтай сцежцы, не ведаючы ні заўтрашняга, ні паслязаўтрашняга дня; так і ўся падманлівая гульня жыцця — гэта ўсюды адначасова ўзвышанае і нізкае, вечнае і тленнае, вялікае і смешнае. Нават яна, шматкаханая, нават цудоўная Праваці часам на некалькі імгненняў здавалася яму пазбаўленай усякай чароўнасці, смешнай: надта многа на руках было бранзалетаў, надта шмат пыхі і пераможнасці было ў паглядзе, дбання пра годнасць паходкі.

Але яшчэ больш за сад і кнігі Даса любіў Равану, сынка свайго, увасабленне кахання свайго, мэту жыцця, прынца крыві, з вачамі лані, як у маці, схільнага да задумлівасці і летуценнасці, як бацька. Часам, калі малое, седзячы на дыване і крыху прыўзняўшы бровы, глядзела ціхім, адсутным поглядам на каштоўны камень, разьбёную цацку або стракатае пёрка або, бегаючы па садзе, раптам застывала перад якім-небудзь незвычайным дрэвам, Дасу здавалася, што сын падобны на яго. А як моцна ён яго любіў, Даса зразумеў толькі, калі ўпершыню вымушаны быў разлучыцца з ім на няпэўны час.

У палац прыбыў ганец з тых мясцінаў, дзе княства Дасы межавала з княствам Гавінды, і паведаміў, што

людзі Гавінды напалі на Дасавы землі, пабралі быдла, некалькіх жыхароў захапілі ў палон і павялі з сабою. Даса адразу сабраўся, загадаў начальніку асабістай варты і некалькім дзесяткам верхаўцоў ехаць за ім і кінуўся даганяць рабаўнікоў; але ў той момант, калі перад ад'ездам ён узяў на рукі і пацалаваў сына, любоў у сэрцы ў яго разгарэлася палкім болем. І гэты палкі боль, які пранізаў і азадачыў яго з нечаканай сілай, быццам напамінак, які прыйшоў з невядомых глыбіняў, стаў чымсьці ўсвядомленым і зразумелым у той час, калі ён спяшаўся да граніц свайго княства. У дарозе яго займалі разважанні пра тое, з якой прычыны ён так спешна і рашуча скача на кані ў такую далеч, якая сіла прымусіла яго зрабіць менавіта так, а не іначай. Ён доўга думаў і нарэшце зразумеў, што ў глыбіні душы яму ўсё роўна і не можа зрабіць болю тое, ці пабраў хто на мяжы быдла і людзей, што рабунку гэтага і папірання княскіх правоў было недастаткова, каб успыхнуў яго гнеў і выклікаў пэўныя ўчынкі, і што яму было б куды натуральней прыняць вестку пра напад спагадлівай усмешкай. Але тады — і гэта ён добра разумеў — ён зрабіў бы вельмі несправядліва з ганцом, які давёў сябе да поўнага знясілення, каб перадаць гэтую вестку, і не меней несправядлівы ён быў бы да тых людзей, якіх абабралі, да тых, каго ўзялі ў палон, вырвалі з мірнага жыцця і пагналі ў рабства на чужыну. Ды і другіх сваіх падданых, якіх ніхто не крыўдзіў, ён пакрыўдзіў бы сваёй адмовай ад ваеннай помсты, яны былі б зняважаныя, яны ніколі не змаглі б зразумець, як гэта князь не абараніў іх краіну, і калі на яго самога нападуць, ён не зможа чакаць ад іх ні дапамогі, ні помсты. І ён зразумеў, што яго абавязак — імчацца ў тыя краі і помсціць. Але што такое абавязак? І колькі ў нас абавязкаў, якімі мы так часта і без ніякага шкадавання пагарджаем? І чаму ж гэты абавязак помсты не быў адным з тых, які ён мог адкінуць, і чаму ён цяпер выконвае яго не ад сілы, а рупліва і палка? Не паспеў ён задаць сабе гэта пытанне, як сэрца ўжо адказала на яго — яго зноў пранізаў той глыбокі боль, які ён адчуў пры расставанні з прынцам Раванам. І ён зразумеў: калі б ён, князь Даса, не супраціўляючыся, дазволіў рабаваць свае землі, забіраць быдла і людзей, дык разбой і гвалт пранікалі б усё глыбей у яго краіну і нарэшце дасталі б яго самога, спрычыніўшы самы горкі боль. Яны забралі б у яго

сына, забралі б Равану, спадчынніка, захапілі б і забілі, магчыма, нават катавалі б, што было б краем ягоных пакут і куды страшнейшым ударам, чым нават смерць Праваці. Вось чаму ён так спяшаўся, паганяў каня, вось чаму ён такі верны свайму княскаму абавязку. I зусім ён не быў такі таму, што нехта забраў быдла, забраў у яго палоску зямлі, і не таму, што ён так шкадаваў сваіх падданых, так даражыў гонарам бацькоўскага імя і княскай годнасцю, а таму толькі, што так да болю моцна, так шалёна любіў сына і што так моцна, шалёна баяўся болю, які мог бы стацца ад страты сына.

Вось да чаго Даса дадумаўся ў паходзе. Але тады яму так і не ўдалося дагнаць і пакараць людзей Гавінды — яны ўжо ўцяклі з нарабаваным дабром, і, каб даказаць сваю адвагу і непахісную волю, Дасу давялося самому перайсці граніцу, абабраць вёску суседа і забраць быдла і палонных. Шмат дзён яго не было ў сталіцы, і ўсё ж па дарозе назад, пасля перамогі, ён зноў аддаўся глыбокім развагам, быў ціхі і вярнуўся ў палац быццам нечым засмучаны, бо роздум яго прывёў да думкі пра тое, як моцна, трывала, без ніякай надзеі вырвацца, усёй сваёй істотай, усімі ўчынкамі заблытаўся ён у падступных сетках. I ў той час, як ягоная схільнасць да разваг, патрэба ў бесклапотным ціхім сузіранні, бяздзейным і бязвінным жыцці ўсё расла, з другога боку, з яго любові да Раваны і з страху за яго і клопатаў пра яго жыццё і будучыню, гэтаксама вырастала патрэба дзейнічаць, і ён заблытваўся яшчэ больш: з ласкі вырастала спрэчка, з кахання — вайна; вось ён ужо — хай нават дзеля справядлівай кары — пабраў статак, нагнаў смяротны страх на цэлую вёску, забраў у палон бедных, ні ў чым не вінаватых людзей, а гэта пацягне за сабою новыя набегі, помсту і гвалт, і так чым далей, тым больш, пакуль уся яго краіна не будзе ахоплена вайной і ўсё не патоне ў грукаце зброі. Менавіта гэта ўразуменне і прадбачанне і прымусіла яго так прыціхнуць і нават засмуціцца, вяртаючыся ў палац.

Дзёрзкі сусед і праўда не даваў спакою Дасу. Адзін разбойны набег ішоў за другім. Каб пакараць і абараніцца, Даса вымушаны быў зноў выступаць, і калі ворагу ўдавалася ўцячы за мяжу, ён дазваляў салдатам і паляўнічым гнаць суседа і рабіць яму ўсё новую шкоду. У сталіцы ўсё больш і больш паяўлялася ўзброеных вершаўцоў, у некаторых пагранічных вёсках Даса цяпер

увесь час трымаў атрады воінаў, дні сталі неспакойныя ад бясконцых ваенных нарад і падрыхтаванняў. Даса не мог зразумець, які сэнс, якая карысць ад гэтых бясконцых сутычак, ён шкадаваў усіх, хто цярпеў ад іх, шкадаваў забітых, свой сад і свае кнігі, якія цяпер занядбаў, шкадаваў страчаны спакой свайго жыцця і сваёй душы. Пра гэта ён часта гутарыў з брахманам Гопалам і некалькі разоў з жонкай Праваці. Трэба было б, сказаў ён, заклікаць у суддзі каго-небудзь з паважаных князёў з суседзяў, каб усталяваць мір, і ён сам, са свайго боку, ахвотна пайшоў бы на ўступкі, аддаў бы і пашы і дзве-тры вёскі, абы гэта дапамагло міру. Але ні жрэц, ні Праваці і слухаць пра гэта не хацелі, і Даса быў глыбока расчараваны і засмучаны.

З Праваці гутарка выйшла даволі бурная і прывяла да сварки. Настойліва, заклінаючы яе, ён прыводзіў свае довады, выказваў думкі, а яна кожнае слова прымала як накіраванае не супроць вайны і бяссэнсавай бойні, а супроць яе самой. Усё ж бо якраз у тым, павучала яна яго ў сваёй доўгай і палкай казані, што непрыяцель хоча перавярнуць Дасавыя дабрадушнасць і міралюбства, каб не сказаць яго страх перад вайной, сабе на карысць, ён прымусіць Дасу заключыць мір дзеля самога міру, і кожны раз трэба будзе плаціць за гэта ўступкамі, аддаваць землі і людзей, але гэта зусім не супакоіць супастата, наадварот, як толькі вораг такім чынам паслабіць Дасу, ён пяройдзе да больш адкрытай вайны і забярэ ў іх апошняе. Гаворка ж не пра статкі і вёскі, а пра само княства, быць яму ці не быць. І калі ён, Даса, сам не ведае, як ён запазычыўся свайму сыну, — што ж, яе абавязак навучыць яго. Вочы яе гарэлі, голас дрыжаў, даўно ўжо Даса не бачыў яе такой прыгожай, успалымнёнай, але яму было ад гэтага толькі маркотна.

Тым часам разбойніцкія набегі, парушэнні міру на граніцы не сціхалі і толькі на час вялікіх дажджоў крыху прыпыняліся. Усё Дасава атачэнне падзялілася цяпер на дзве партыі. Першая — партыя міру — была нешматлікая; апрача самога Дасы, да яе далучыліся толькі некалькі старых брахманаў — людзі вучоныя, цалкам адданыя медытацыі. На баку партыі вайны, партыі Праваці і Гопалы, была большасць жрацоў і военачальнікі. Краіна спешна ўзбройвалася, і ўсе ведалі, што варожа настроены сусед рабіў тое самае. Маленькага

Равану старэйшы лучнік вучыў страляць з лука, а маці вазіла яго на ўсе агляды войска.

У той час Даса ўспамінаў лес, дзе ён, няшчасны ўцякач, знайшоў сабе прыстанішча на некалькі тыдняў, і сівага старога, які жыў там дзеля самапаглыблення. Даса думаў пра яго і адчуваў, як у яго нараджаецца жаданне зноў пабачыцца з ім, паслухаць ягонае рады. Але ён не ведаў, ці жыве яшчэ стары, і ці захоча ён выслухаць яго, даць яму параду, і нават калі ён жывы і параіць яму нешта, дык усё роўна — усё пойдзе сваёй калейкаю і нічога не зменіцца. Самапаглыбленасць і мудрасць — гэта добрыя і высакародныя рэчы, але патрэбны яны, мабыць, толькі ў баку ад гульні, на краі жыцця, а калі ты плывеш у патоку жыцця, змагаешся з яго хвалямі, твае справы і мукі нічога агульнага не маюць з мудрасцю, яны прыходзяць самі па сабе — і робяцца лёсам, іх трэба здзейсніць і выпакутаваць. Нават багі не былі ў вечным міры і вечнай мудрасці, і яны ведалі, што такое небяспека і страх, ведалі барацьбу і бітвы. Даса чуў шмат расказаў пра гэта. І ён здаўся, перастаў спрачацца з Правацi, рабіў агляды войска, адчуваў, як насоўвалася вайна, перажываў усе яе жахі ў ліхаманкавых снах, і пакуль ён худнеў і твар яго цямнеў, ён бачыў, як бляклі і шчасце, і ўся радасць ягонага жыцця. Заставалася толькі любоў да сына, і яна расла разам з клопатам, расла разам з ваеннымі падрыхтаваннямі, яна чырвонай кветкай палымнела ў апусцелым садзе. Дасу дзіву даваўся, колькі пустаты здольны вынесці чалавек, колькі нярадасці, як ён прывыкае да клопатаў і непрыемнасці; як такое, амаль ужо беспачуццёвае сэрца, можа быць ахоплена такой гарачай і ўсеабдымнай, такой баязлівай і клапатлівай любоўю. Магчыма, жыццё яго і не мела ўжо сэнсу, але ў ім было яшчэ ядро, сарцавіна — усё яно цяпер абарачалася вакол любові да сына. Дзеля яго ён уставаў раніцай, дзеля яго працаваў цэлы дзень, дзеля яго аддаваў указанні, мэтай якіх была вайна і кожнае з якіх было яму непрыемнае. Дзеля яго ён трываў усе гэтыя бясконцыя нарады ваеннага савета, дзеля яго толькі супраціўляўся рашэнням большасці, каб прымусіць яго заняць хоць бы чакальную пазіцыю і не кінуцца на злом галавы ў авантуры.

Як і сама радасць жыцця, яго сад, яго кнігі паступова яму ачужэлі, здрадзілі яму, альбо ён ім, так пасту-

пова чужэла і зневяралася яму і тая, што доўгія гады была шчасцем і слодыччу ягонага жыцця. Усё пачалося з палітыкі, і тады, калі Праваці сказала перад ім сваю палымяную прамову, амаль адкрыта назваўшы ягонае нежаданне ўчыніць несправядлівасць, яго любоў да свету — баязлівасцю, і калі яна з расчырванелымі шчокамі кінула яму ў твар пякучыя словы пра княскі гонар, геройства і ганьбу, — менавіта тады яго ахапіла пачуццё, падобнае на кружэнне галавы, і ён раптам убачыў, наколькі аддалілася ад яго жонка ці ён ад яе. З таго часу прорва паміж імі ўсё шырэла і шырэла, і ні ён, ні яна нічога не рабілі, каб перакрыць яе. Правільней, самому Дасу трэба было нешта зрабіць, бо прорву гэтую бачыў ён адзін і гэта ў ягоным уяўленні яна пашыралася і нарэшце стала непраходнай безданню, прорвая паміж двума светамі, паміж светам мужчыны і светам жанчыны, паміж «але» і «не», паміж душой і целам. Азіраючыся назад, ён бачыў усё вельмі ясна і выразна: даўно калісьці Праваці, цудоўная Праваці, закахала яго ў сябе, гуляла ім, пакуль не дамаглася, што ён разлучыўся з сваімі таварышамі і сябрамі і ўсім ціхім, радасным пастухоўскім жыццём і дзеля яе пасяліўся на чужыне, пачаў служыць, стаў зяцем у доме ў нядобрых людзей, якія выкарысталі яго любоў і прымусілі цяжка працаваць. Потым паявіўся гэты Нала, і пачаліся ўсе няшчасці ў Дасы. Нала адабраў у яго жонку — ён жа быў раджа, яго святочныя строі, палаткі, слугі, коні спакусілі бедную, не прывыклую да раскошы жанчыну, і наўрад ці гэта яму абышлося вялікай турботай. Аднак ці мог бы ён спакусіць яе так хутка і лёгка, калі б яна ў глыбіні душы была цнатлівая і верная? Ну што ж, раджа спакусіў яе або проста авалодаў ёю і прычыніў Дасу самы горкі боль, які Даса датуль ведаў. Але ён, Даса, адпомсціў, забіўшы таго, хто адабраў у яго шчасце, і гэта была вялікая перамога. Яму адразу давялося ўцякаць. Многія дні, тыдні, месяцы ён хаваўся ў зарасніках і ў трыснягу, не давяраючы нікому, пастаўлены па-за законам. Але што рабіла ўвесь гэты час Праваці? Ніколі яна не расказвала яму пра гэта. Як бы тое там ні было, яна не пабегла за ім, і пачала шукаць Дасу толькі тады, калі яго як першароднага абвясцілі князем і ён ёй спатрэбіўся, каб узысці на прастол і пасяліцца ў палацы. Вось тады яна і знайшла яго ў лесе і вывела, адарвала ад шаноўнага пустэль-

ніка. Дасу ўвабралі ў багатае адзенне, абвясцілі раджай, але ўсё гэта быў толькі пусты бляск, толькі блізір шчасця, а на самай справе, ад чаго ён уцёк тады і на што прамяняў сваё жыццё ў лесе? Прамяняў на бліскучае княжанне, на абавязкі князя, якія спачатку здаліся яму лёгкімі, але паступова рабіліся ўсё цяжэйшымі і цяжэйшымі, прамяняў на сваю прыгажуню-жонку, на салодкія гадзіны кахання з ёю і на сына, на любоў да яго, але і на трывогу за яго жыццё, за яго шчасце, — вайна ж стаяла ля парога! Вось што прынесла з сабой Праваці пасля таго, як убачыла яго каля крыніцы ў лесе. Але чаго ён пазбыўся, што пакінуў? А пазбыўся ён лясной заміранасці, пабожнай самоты, суседства і прыкладу святога старца, надзеі на вучнёўства і права зрабіцца пераемнікам, надзеі на забыццё глыбокага, яркага, непахіснага душэўнага спакою мудраца, надзеі вызваліцца ад барацьбы і бедаў, якія заўсёды спадарожнічаюць жыццю. Спакушаны прыгажосцю Праваці, зачараваны жанчынай, ён заразіўся яе славалюбствам і пакінуў тую адзіную дарогу, якая толькі і можа прывесці да вызвалення і спакою. Вось якім цяпер уяўлялася яму яго жыццё, ды і праўда, яго лёгка было растлумачыць менавіта такім чынам, варта было яго толькі крыху прыхарошыць і сёе-тое прапусціць. А прапусціў ён, між іншым, тое, што яшчэ зусім не быў вучнем пустэльніка, а наадварот, збіраўся пакінуць яго. Як лёгка ўсё ссоўваецца з месца, калі азіраешся назад!

Праваці глядзела на ўсё гэта, зразумела, зусім інакш, хоць яна куды меней думала пра гэта, чым яе муж. Пра Налу яна ўвогуле не думала. Калі ўспаміны не заводзілі яе, яна і склала адна Дасава шчасце, яна дамаглася гэтага шчасця і заснавала яго, гэта яна зрабіла яго зноў раджам, падарыла яму сына, аддала яму сваё каханне, ашчаслівіла яго і нарэшце вымушана была прызнацца сабе: ён не варты яе велічы, яе гордых задум. Бо ж яна была перакананая, што будучая вайна прывядзе толькі да паражэння Гавінды, а тым самым да падваення яе магутнасці, яе багацця. Але замест таго каб радавацца гэтаму і самому руплiва працаваць над дасягненнем гэтай мэты, Даса нягодным для раджы чынам супраціўляўся вайне, быццам нічога так палка не жадаў, як састарыцца ў спакоі сярод сваіх кветак, дрэў, папугаяў і кніг. Хіба можна паставіць яго побач з начальнікам конніцы Вішвамітрам, разам з ёю Вішва-

мітра самы зацяты прыхільнік вайны і хуткай перамогі. Колькі яна ні параўноўвала яго з Дасу, перамагаў заўсёды гэты адважны воін.

Сам Даса выдатна бачыў, што жонка ягоная зблізілася з Вішвамітрам, бачыў, як яна захаплялася ім і дазваляла захапляцца сабой гэтаму вясёламу, дзёрзкаму, магчыма, не вельмі разумнаму і крыху павярхоўнаму военачальніку, які заўсёды так гучна смяяўся, у якога былі выдатныя моцныя зубы і дагледжаная барада. З горыччу глядзеў на гэта Даса, але разам з тым і з пагардай, з той пакеплівай абыякавасцю, якую ён сам на сябе напускаў. Ён не дасочваў іх, ды і не хацеў ведаць, ці пераступіла дружба гэтых дваіх межы дазволенага, межы прыстойнасці. На гэтую закаханасць Правацi і прыгожага палкаводца, на тое, што аддала яму перавагу над занадта негераічным мужам, Даса глядзеў з тым самым нібыта абыякавым спакоем, аднак з унутраным ажарсцвеннем і горыччу, з якімі ён прывучыў сябе глядзець на ўсё, што адбывалася навокал. Ці збіралася яна здрадзіць яму, ці гэта было толькі выяўленнем яе пагарды да ладу думак Дасы — было не так ужо і важна, але нешта расло і развівалася, насоўваючыся на яго, як насоўвалася вайна, як сам лёс, і не было нічога, што магло спыніць гэта, не было іншага выбару, як прыняць гэта і пакорліва пераносіць сваю долю, бо ў гэтым і быў гераізм і мужнасць Дасы, а зусім не ў ваяўнічых набегах і не ў жаданні захапіць чужыя землі.

Ці заставалася захапленне Правацi палкаводцам або яго ёю ў межах дазволенага, у межах прыстойнасці ці не, у кожным разе — і ён разумеў гэта — Правацi даводзілася тут вінаваціць менш, чым яго самога. Ён, Даса, мысліцель, якога мучыла паняверка, быў схільны прыпісваць жанчыне віну за сваё расталае шчасце альбо хоць лічыць яе адказнаю за тое, што сам заблытаўся ва ўсім: у каханні і славалюбстве, у імкненні адпомсціць і ў разбойных набегах на суседавы землі; так яно, у думках ён лічыў жанчыну, каханне, сладастраснасць вінаватымі за ўсё на зямлі, за ўсе гэтыя дзікія скокі, ліхаманку страсцяў і жаданняў, за пералюбства, смерць, забойствы і вайну. Але пры гэтым ён добра ўсведамляў, што Правацi зусім не вінаватая і не прычына ўсяго гэтага, яна сама ахвяра, ні яе прыгажосць, ні яго каханне да яе не зрабілі яе тым, чым яна была, яна толькі пылінка ў сонечным промні, кропля ў патоку,

і гэта быў яго абавязак ухіліцца ад сустрэчы з гэтай жанчынай, ад кахання да яе, ад прагі шчасця, ад славалюбных думак і альбо застацца пастухом, задаволеным сваім лёсам, альбо пайсці таемнымі шляхамі ёгаў і пераадолець у сабе недасканалае. Ён упусціў гэтую магчымасць, ён пацярпеў паражэнне, на вялікае ён не быў заклікаты альбо ж сам здрадзіў свайму прызванню, і жонка яго не такая ўжо і няслушная, калі называе яго баязліўцам. Але затое ў яго ёсць сын ад яе, прыгожы, пяшчотны хлопчык, за якога ён так баіцца і само існаванне якога ўсё яшчэ надае ягонаму жыццю сэнс і цану, параджае адчуванне вялікага шчасця. Праўда, такое шчасце прыносіць боль, усяляе страх, але ўсё-такі гэта шчасце, яго шчасце. І за гэтае шчасце ён расплачваецца пакутамі і горыччу ў сэрцы, гатоўнасцю ісці на вайну, на смерць, усведамляючы, што ідзе насустрач лёсу. Там, па той бок граніцы, сядзелі раджа Гавінда і маці забітага Налы, гэтага нядобрай памяці спакусніка, яна бясконца падбухторвала Гавінду на новыя і новыя набегі, і той усё больш і больш нахабіўся; толькі саюз з магутным раджам Гайпалі дадаў бы Дасу дастатковa моцы, каб прымусіць злога суседа трымацца міру. Але Гайпалі, хоць і быў прыхільны да Дасы, быў сваяк Гавінды і самым ветлівым чынам ухіліўся ад усіх спроб заключыць такі саюз. Не, няма куды Дасу падзецца, няма чаго яму спадзявацца і на розум і чалавечнасць, лёс насоўваўся, і трэба было яго выпакутаваць. Даса сам ужо амаль хацеў вайны, хацеў, каб зрынулася нарэшце гэта скопішча маланак, каб паскорыліся падзеі, якіх усё адно не пазбегнуць. Ён яшчэ раз пабываў у князя Гайпалі, без ніякага поспеху абмяняўся з ім знакамі ветлівасці, прапаноўваў у савеце выявіць цярплівасць і асцярожнасць, але рабіў гэта ўжо без асаблівай надзеі і — узбройваўся. У савеце думкі цяпер разыходзіліся толькі ў адным: ці адказаць на чарговы набег суседа паходам у ягоную краіну, ці дачакацца, калі вораг сам пачне вайну, каб той паўстаў перад народам і ўсім светам у ролі агрэсара і парушальніка міру.

Аднак вораг не рабіў сабе згрызотаў такімі пытаннямі, і настаў дзень, калі ён паклаў канец усім гэтым разважанням, нарадам і ваганням, напаўшы на княства Дасы. Спачатку ён інсцэніраваў вялікі набег на пагранічныя землі, які прымусіў Дасу і начальніка конніцы з лепшымі воінамі паспяшацца да рубяжоў краіны, і

калі Даса быў яшчэ ў дарозе, непрыяцель увёў у бой галоўныя сілы, падышоў да сталіцы, уварваўся ў браму і аблажыў палац. Даведаўшыся пра гэта, Даса адразу павярнуў і паскакаў назад, і сэрца ў яго сціскалася ад пякучага болю, калі ён думаў, што сын яго і жонка ўвязнены ў абложаным палацы, што над імі навісла смяротная небяспека і на вуліцах ідзе крывавы бой. Цяпер ужо яго нельга было назваць міралюбным, абачлівым военачальнікам — ён ашалеў ад болю і лютасці і ў дзікім бегу панёсся з сваімі людзьмі да сталіцы, застаў на ўсіх вуліцах гарачы бой, прабіўся да палаца, уступіў у рукапашную схватку з ворагам і біўся як апантаны, пакуль нарэшце ў канцы гэтага крывавага дня не змогся і ўвесь паранены не ўпаў на зямлю.

Калі памяць вярнулася да яго, ён ужо быў палонны, бітва прайграная, а горад і палац заняты ворагам. Звязанага Дасу падвялі да Гавінды, і той насмешліва прывітаў яго і загадаў адвесці ў пакоі, тыя самыя, што былі з разьбёнымі сценамі і пазалотай і дзе захоўваліся шматлікія світкі. На дыване, выпрастаная, з акамянелым тварам, сядзела яго жонка Праваці, за ёю стаяла варта, а на каленях у яе ляжаў яго сын Равана. Зламанаю кветкай панікла яго нежывое цела, твар пашарэлы, адзежа ў крыві. Жонка не абярнулася, калі ўвялі Дасу, яна і не глянула на яго, без ніякага выразу, не адрываючыся, яна глядзела на нежывога сына. Дасу яна здалася дзіўна непадобнай на сябе, і толькі праз нейкі час ён заўважыў, што ў валасах у яе, некалькі дзён таму яшчэ сінявата-чорных, прабівалася сівізна. Мусіць, яна ўжо даўно так сядзела, застылая, з тварам-маскай, а мёртвы хлопчык ляжаў у яе на каленях.

— Равана! — закрычаў Даса. — Равана, сынку мой, кветачка мая! — Ён упаў на калені, прынік тварам да галавы хлопчыка; як на малітве, стаяў ён на каленях перад замоўклай жонкай і сынам, аплакваючы абаіх, пакланяючыся абаім. Ён адчуваў пах крыві і тлену, змяшаны з пахам ружовага алею, якім былі намашчаныя валасы дзіцяці. Ледзяным позіркам глядзела Праваці на абодвух.

Нехта крануў Дасу за плячо — гэта быў адзін ■ военачальнікаў Гавінды, ён загадаў яму ўстаць і вывеў з пакоя. Ні слова не сказаў Даса Праваці, ні адзінага яна яму.

Яго звязанага кінулі на падводу і завезлі ў сталіцу

княства Гавінды, дзе кінулі ў вязніцу; тут з яго знялі частку кайданоў, салдат прынёс збанок з вадою, паставіў яго на каменную падлогу і выйшаў, зачыніўшы дзверы на завалу. Адна рана на плячы паліла агнём. Даса вобмацкам знайшоў збанок, абліў рукі і твар. Яго даймала смага, але ён не напіўся — так ён хутчэй памрэ, вырашыў ён. Калі ж гэта ўсё скончыцца, калі? Ён прагнуў смерці, як яго перасохлае горла вады. Толькі смерць збавіць яго сэрца ад пакуты, толькі смерць назаўсёды сатрэ ў ягонай душы вобраз маці з мёртвым сынам на каленях. Але сярод гэтай пакуты слабасць і поўная знямога як бы прыйшлі да яго з дапамогай, ён апусціўся на зямлю і задрамаў.

Прачнуўшыся, ён, усё яшчэ нічога не ўсведамляючы, хацеў быў працерці вочы, але не змог, рукі былі занятыя, яны нешта трымалі. Тады ён канчаткова прачнуўся, расплюшчыў вочы і не ўбачыў ніякіх сцен — усюды было разліта яркае, пераможнае святло: на дрэвах, на лістоце, на траве. Даса доўга маргаў, святло ўдарыла яго бясшумна, але з вялікай сілай, і страшныя дрыжыкі прабеглі па ўсім целе ад галавы да пят, ён маргаў і маргаў, твар яго перакрывіўся, як ад плачу, і нарэшце ён зусім разамкнуў вочы. Ён стаяў у лесе і трымаў у руках сасуд з вадою, каля ног пералівалася крыніца то зялёным, то рудым колерам, а за папаратнікавымі зарасцямі, ён ведаў, стаіць будан і там яго чакае ёг, які паслаў па ваду, які так дзіўна смяяўся, калі Даса прасіў яго расказаць яму пра майю. Дык значыцца, ён не прайграў бітвы, не страціў сына, не быў князем, не быў бацькам, і ўсё ж ёг выканаў яго жаданне і паказаў яму, што такое майя: палац і сад, кнігі і птушкі, княскія клопаты і бацькоўская любоў, вайна і рэўнасць, каханне да Праваці і пакутлівы недавер да яе — усё гэта было Нішто. Не, не Нішто, усё гэта было майя! Даса стаяў ашаломлены, слёзы беглі па твары, у руках дрыжаў сасуд, якім ён толькі што зачарпнуў вады пустэльніку, вада плёскалася цераз край і бегла па нагах.

Яму здалося, быццам ад яго нешта адрэзалі, нешта выбралі з галавы, і ўтварылася пустата: так раптам ён страціў такія доўгія пражытыя гады, скарбы, зведаныя радасці, перанесены боль, пражыты страх і роспач, якія выпалі яму на самым парозе смерці, — усё гэта ў яго забрана, згінула, сцёрта, ператварылася ў Нішто і ўсё ж не ў Нішто! Засталіся ўспаміны, цэлыя карціны

адбіліся ў мазгу; ён усё яшчэ бачыў: вось сядзіць Праваці, вялікая і застылая, з пасівелымі ўмомант валасамі, а на каленях у яе ляжыць сын, і здаецца, быццам яна сама задушыла яго, быццам гэта яе здабыча, а рукі і ногі ў дзіцяці, як завялыя сцяблінкі, звісаюць з яе каленяў. О, як хутка, як пачварна хутка і страшна, як грунтоўна яму паказалі, што такое майя! Усё кудысьці адсунулася, доўгія гады, поўныя такіх значных падзей, сціснуліся ў імгненні, і ўсё, што ўяўлялася яму такой поўнай рэальнасцю, усё гэта ён бачыў толькі ў сне. А што, калі і ўсё астатняе, што было да гэтага, уся гісторыя пра княскага сына Дасу, яго пастухоўскае жыццё, яго жаніцьбу, яго помсту, яго ўцёкі да пустэльніка — раптам усё гэта былі толькі карціны, якія можна ўбачыць на разьбёных сценах палаца, дзе сярод лісця паказаны кветкі і зоркі, птушкі, малпы і багі! А тое, што ён прачнуўшыся перажываў і бачыў толькі што, пасля страты княства, пасля бітвы і палону, тое, што ён стаіць цяпер каля крыніцы з сасудам у руках, з якога вось зноў выплюхнулася крыху вады, усе ягоныя думкі — ці не з таго яны самага матэрыялу, ці не сон усё гэта, ці не майя? А ўсё, што яшчэ наперадзе, што перажыве, пабачыць вачыма, памацае рукамі, пакуль не прыйдзе смерць, — хіба *гэта* будзе з іншага матэрыялу, хіба *гэта* будзе нешта іншае? Не, уся гэта прыгожая і жорсткая, чароўная і безнадзейная гульня жыцця, з яе пякучымі асалодамі і пякучым болем, — толькі гульня і падман, толькі бачнасць, толькі майя.

Даса стаяў ашаломлены. Сасуд у яго ў руках зноў уздрыгнуў, выплеснулася вада і пабегла па нагах на зямлю. Што ж яму рабіць? Зноў напоўніць сасуд, занесці ёгу, каб ён пасмяяўся з яго, з усяго таго, што Даса перажыў у сне? Гэта не дужа цешыла. Ён апусціў сасуд, выліў ваду і адкінуў яго ў мох. Сеў і задумаўся. Хопіць яму сноў, гэтага дэманічнага перапляцення падзей, радасцяў і пакут, што рвалі сэрца і студзілі кроў, а потым раптам аказваліся майя і дурылі цябе, годзе яму ўсяго гэтага, не трэба яму ні жонкі, ні дзяцей, ні трона, ні перамог, ні помсты, ні шчасця, ні розуму, ні ўлады, ні дабрачыннасці. Нічога яму не трэба, акрамя спакою, ён прагне канца, хоча спыніць раскручанае кола, гэтую бясконцую змену праяў, ён прагне сцерці іх. Ды і сябе ён прагне спыніць і сцерці, як ён гэтага прагнуў, калі ў тым апошнім баі накінуўся на ворагаў, сек

і крышыў, калі секлі і крышылі яго самога, і ён наносіў раны і атрымліваў іх, пакуль не зваліўся на зямлю. А што было потым? Потым настаў правал няпамяці, ці дрымоты, ці смерці. І тут зноў абуджэнне, і ў сэрца зноў урываецца хваля жыцця, плынь пачварных, прыгожых і страшных відзежаў, бясконцая, няўхільная, і ты не ўвінешся ад яе да наступнай няпамяці, да наступнай смерці. Ды і яна, магчыма, будзе толькі кароткім перапынкам, нядоўгім адпачынкам, каб перавесці дух і зноў стаць адной з тысячаў фігур у гэтым дзікім, абмарачальным і безнадзейным танцы жыцця. Не, гэта згладзіць нельга, гэтаму няма канца!

Нейкі неспакой прымусіў яго ўскочыць. Калі ўжо ў гэтым клятым танцы няма спакою, калі яго адзінае запаветнае жаданне нельга выканаць, тады нішто яму не замінае зноў зачэрпнуць вады і занесці старому, як той яму загадаў, хоць ніякага права не меў загадваць. Гэта была паслуга, якой ад яго патрабавалі, даручэнне, і яго можна было паслухмяна выканаць, гэта лепей, чым сядзець тут і прыдумляць розныя спосабы самазабойства, наогул паслушэнства і служэнне намнога лягчэйшае і лепшае, намнога больш нявіннае і карыснае, чым улада і адказнасць — гэта ён ведаў добра. Так што, Даса, бяры сасуд, зачарпні вады і занясі яе свайму гаспадару!

Калі ён падышоў да будана, настаўнік сустрэў яго нейкім дзіўным позіркам, і былі ў гэтым позірку і пытанне, і спагада, і вясёлае разуменне: гэта быў позірк, якім юнак сустракае падлетка пасля таго, як той перажыў цяжкую і разам з тым крыху ганебную прыгоду, якое-небудзь выпрабаванне на мужнасць. Гэты царэвіч-пастух, гэты прыблуда-гаротнік хоць і бегаў толькі што да крыніцы, ды і адсутнічаў, можа, з чвэрць гадзіны, але за гэты час паспеў пабыць у вязніцы, страціць жонку, сына, цэлае княства, закончыць цэлае чалавечае жыццё, убачыць вечнае Кола ў руху. Хутчэй за ўсё гэты хлопец і раней абуджаўся адзін або некалькі разоў і ўдыхаў глыток праўды, інакш бы ён не прыйшоў сюды і не заставаўся б тут так доўга; але цяпер ён прачнуўся па-сапраўднаму, цяпер ён выспеў на доўгі шлях. Патрэбен будзе не адзін год, каб толькі паставіць яму дыханне, навучыць яго правільна сядзець.

І гэтым адным позіркам, у якім быў толькі намёк на спагаду, на повязі паміж імі, повязі настаўніка і

вучня, — толькі гэтым адным позіркам ёг учыніў абрад прыёму Дасы ў навуку. Гэты позірк выганяў непатрэбныя думкі з галавы вучня і заклікаў яго да пакоры і служэння.

Больш нам няма чаго сказаць пра жыццё Дасы, усё астатняе адбылося па той бок вобразаў і дзеянняў. Лесу ён больш не пакідаў.

ЗМЕСТ

## ГУЛЬНЯ ШКЛЯНЫХ ПЕРЛАЎ



## ЖЫЦЦЕПІС ЁЗЭФА КНЭХТА, МАГІСТРА ГУЛЬНІ



## ТВОРЧАЯ СПАДЧЫНА ЁЗЭФА КНЭХТА

### *Вершы школяра і студэнта*



### *Тры жыцці*

Гесэ Г.

Г43 Гульня шкляных перлаў: Спроба жыццёпісу Магістра Гульні Ёзэфа Кнэхта з дадаткам яго ных твораў: Раман /Пер. з ням. В. Сёмуха / Іл. У. Бойкі. — Мн.: Маст. літ., 1991.— 476 с.: іл.

ISBN 5-340-00754-5 (беларус.).

Гессэ Г. Игра в бисер: Роман.

Лаўрэат Нобелеўскай прэміі Герман Гесэ (1877—1962) у рамане «Гульня шкляных перлаў» спрабуе вырашыць праблему, якая заўсёды яго хвалявала, — як спалучыць існаванне мастацтва з існаваннем бесчалавечнай цывілізацыі, як вратаваць ад згубнага ўплыву так званай масавай культуры высокі свет мастацкай творчасці.

Г $\frac{4703010100—070}{М 302(03)—92}$ 163—91 ББК 84.4 Ге

Литературно-художественное издание

*ГЕССЕ ГЕРМАН*

*Игра в бисер*

Роман

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»

На белорусском языке

Літаратурна-мастацкае выданне

*ГЕСЭ ГЕРМАН*

*Гульня шкляных перлаў*

Раман

Рэдактар Л. І. Каўрус. Мастак У. А. Бойка.
Мастацкі рэдактар В. А. Губараў. Тэхнічны рэдактар М. Ц. Панкова.
Карэктар К. У. Дзмітрыенка.

ІБ № 3547

Здадзена ў набор 11.10.90. Падп. да друку 21.02.92. Фармат $84 \times 108^1/_{32}$. Папера пісчая. Гарнітура літаратурная. Ум. друк. арк. 25,20. Ум. фарб.-адб. 25,62. Ул.-выд. арк. 26,33. Тыраж 2 800 экз. Зак. 1551.
Цана 3 р. 80 к.

Выдавецтва «Мастацкая літартура» Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Друкарня «Перамога», 222310, г. Маладзечна, вул. Таўлая, 11.

**ВЫДАВЕЦТВА**
**«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»**

---

*Чытайце творы з серыі*
*«Скарбы сусветнай літаратуры»*

---

**ТОМАС МАН**

*Доктар Фаўстус*

Раман

**УІЛЬЯМ ШЭКСПІР**

*Трагедыі. Санеты*

**ЭРНЭСТ ХЕМІНГУЭЙ**

*Па кім звоніць звон*

Раман

**ЛОНГ. АПУЛЕЙ**

*Пастушыная гісторыя пра Дафніса і Хлою*
*Метамарфоза, ці Залаты асёл*

Раманы

***ВЫДАВЕЦТВА «МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»***

---

*У серыі «Скарбы сусветнай літаратуры» неўзабаве выйдуць*

---

**ШОЛАМ-АЛЕЙХЕМ**

*Тэўе-малочнік*

Аповесці, апавяданні

**Дж. СТЭЙНБЕК**

*Гронкі гневу*

Раман

**І.БУНІН. А. КУПРЫН**

*Выбраная проза*

Аповесці, апавяданні